АЛЬФРЭД АМЕНДА
Апасіяната
З жыцця Людвіга ван Бетховена
РАМАН
Пераклалі з нямецкай УЛАДЗІМІР І ГУНДУЛА ЧАПЕГІ
Пераклад зроблены з выдання: Verlag der Nation Berlin. 1979 608 c.

ЧАСТКА ПЕРШАЯ
СПАНІЁЛЬ

Дзень быў хмуры і маркотны. Цямнець пачынала рана, а ў гэты снежаньскі надвячорак 1770 года мяцеліца апроч таго бадай што зусім заляпіла акенца мансарды. Полымя свечкі, што стаяла на стале ва ўбогім пакойчыку, неспакойна хісталася, і тук, як слёзы, капаў уніз. Маці ўсё яшчэ дыхала цяжка і перарывіста. Акушэрка, фраў Сікс, хуценька захінула малое ў прасціну ад холаду, і цень яе, як прывід, кідаўся па голых пабеленых сценах. За дзвярыма на лесвіцы нешта грукнула, і жанчына на ложку здрыганулася.

- Матка боска! Прыслухалася і фраў Сікс.

- Не, фраў ван Бетховен, гэта не ваш. . . гэта фраў Баўм, удава пісара з прыдворнага віннага склепа. А ў Кетэ з рук, мабыць, упала на падлогу паленца дроў.

Нечы голас, у якім, аднак, не было чутно нездаволенасці, сказаў у калідоры:

- Трэба ж глядзець сабе пад ногі, Кетэ! Потым дзверы адчыніліся.

- Ну, як вы тут? Доўга яшчэ? Фраў Сікс засмяялася.

- Хлопчык ужо прыйшоў на свет, фраў Баўм.

У пакой увайшла ўдава пісара прыдворнага віннага склепа.

- Ад усяго сэрца зычу шчасця дзіцятку і мацеры. Скажыце, фраў Сікс. . . а ён нарадзіўся здаровы?

Пытанне гэтае было сказана нездарма, бо першае дзіця Бетховенаў - Людвіг Марыя - памерла на шосты дзень. Фраў Сікс узрадавана махнула рукою.

- Мяркуючы па хлапчуковым голасе, то ўсё добра, яго і галоўка цвёрдая, і грудка як у льва.

Фраў Баўм сабралася ўжо сесці на ломанае крэсла побач з ложкам фраў Магдалены, але ўспомніла, што спачатку ёй трэба сёе-тое яшчэ зрабіць. Яна прынесла з сабою свечкі і, запаліўшы некалькі штук, пашукала вачыма Кетэ, трынаццацігадовую дзяўчынку, якую фраў Магдалене ўсё ж такі прыйшлося ўзяць на падмогу, хоць пры невялікіх грошах на хатнія патрэбы гэта было раскошаю.

Знайшоўшы Кетэ, фраў Баўм загадала:

- Падкінь яшчэ некалькі паленцаў. Тут страшэнна холадна і цягне, як у птушынай клетцы. Фраў Сікс нават не можа памыць малога. Чаго. ж вы раней пра гэта мне не сказалі, фраў ван Бетховен? Гэта ж калі б я не апынулася тут зусім выпадкова. . .

Вялізныя цёмныя вочы парадзіхі напоўніліся слязамі.

- Сорамна ж. . .

- Каму? Вам і вашаму дзіцяці? Кетэ, зараз жа абяжы ўсе вінныя скляпы. Пачні з прыдворнага лёкая Хойзера і з Дунга на рынку. Перадай ад мяне прывітанне пану прыдворнаму музыканту і растлумач яму, што ў нас такое.

Калі за дзяўчынкаю зачыніліся дзверы, фраў Баўм падышла да ложка Магдалены.

- Няўжо яго няма з самай раніцы, з імшы, хоць ён і ведае, што вам пара радзіць?

- Ён збіраўся вярнуцца адразу ж, але магчыма. . .

- Што тут магчыма? Тут усё ясна. Па дарозе дадому яму стрэлася шклянка гарэлкі. Ну проста бяда!

Магдалена лёгенька дакранулася да яе рукі.

- Усё ж вялікі вам дзякуй, фраў Баўм, і фраў Сікс таксама. . .

- А мне за што? - запратэставала фраў Баўм. - За тыя некалькі паленцаў дроў? За тыя ношаныя палатняныя рэчы, што пайшлі на пялёнкі? Ага, ледзь не забыла яшчэ - за свечкі? За іх

некалі мне будзе дазволена на небе сядзець у залатым крэсле. Не вярзіце лухты, Магдалена! Цяпер галоўнае - як вы назавяце свайго хлопчыка?

- Мне ўсё роўна, як яго назваць, толькі - не дай божа - каб зноў не Людвігам. . .

Фраў Баўм спагадліва кіўнула галавою.

- Разумею. Ведаю, што прычына не толькі ў смерці першага Людвіга і не ў тым, што гэта нядобры знак. Якія ж вы, Бетховены, усё-такі цяжкія людзі! Няўжо ў вас тут ніколі няма месца радасці? А хто ж будзе за хросных заўтра ў царкве святога Рэмігія? Ну добра, за хросную матку буду я. Я ж і хрэсьбіны спраўлю. - Пакорліва ўздыхнуўшы, яна гаварыла далей: - Іначай тут, мабыць, нічога і не зробіш. . .

А маленькі, што цяпер ляжыць на стале, пазней мне за ўсё аддзякуе. Усё гэта сабе на памяць я запішу вялікімі літарамі ў сябе на коміне. Але хто ж будзе за хроснага бацьку? Давайце адразу ж і пагаворым, каб потым не гневацца, бо з хаўруснікам вашага мужа па выпіўках за хросную матку я не пайду.

Фраў Баўм паднялася з месца, і яе арэхавага колеру вочы раптам загарэліся.

- Пайду пашукаю хроснага і хуценька вярнуся.

Ісці было недалёка. Гер Людвіг ван Бетховен, прыдворны капельмайстар курфюрста, пакланіўся ў знак прывітання.

- Маё шанаванне, фраў Баўм. Сёння на вуліцы вельмі непамысна. І таму сардэчна прашу вас прысесці вось у гэтае крэсла каля грубкі. . .

Фраў Баўм крыху цырымонна прысела на краёчак крэсла, паправіла сівыя валасы.

- Я заскочыла сюды толькі на хвіліначку, бо хачу папрасіць вашай ласкі, каб разам са мною вы заўтра сталі хросным бацькам дзіцяці.

Стары гер па-рыцарску пакланіўся яшчэ раз.

- З ахвотаю. Дазвольце спытацца - чыйго дзіцяці? Голас фраў Баўм гучаў лагодна.

- Бетховенаў, у якіх толькі што нарадзіўся маленькі хлопчык.

- Чыйго?

- Вы не памыліліся, гер прыдворны капельмайстар. Яго шэра-блакітныя вочы злосна заблішчалі. Ён захадзіў туды-сюды, і дрыжаць пачалі не толькі ягоныя рукі.

- Які мне да гэтага клопат. . .

- Што вы сказалі? - У голасе яе выразна пачулася небяспечная ветлівасць.

- Які мне клопат да кеверыхскай пароды? Няхай самі расхлёбваюць, што заварылі. Мне ж, прынамсі, не хочацца выконваць ролю камердынера пры фраў нявестцы.

- Фэ, гер прыдворны капельмайстар.

- Чаго ж гэта фэ? Я папярэджваў Ёгана, упрошваў яго не браць жонкі, ніжэйшай за яго па паходжанні. Дачкі нейкага кухара і ўдавы камердынера. . .

- якога юная дзяўчына. . .

- сама па паходжанні камерыстка. . .

- зноў страціла праз тры гады.

- Быць хросным? Ніколі. Хопіць, што ўжо адзін раз мяне вымусілі стаць хросным Людвіга Марыі, каб калі-небудзь дарвацца да ўсяго, што ў мяне ёсцека; да мае спадчыны! - І ён абвёў рукою вакол сябе, паказваючы на сваю багата абсталяваную кватэру заможнага нешляхетнага чалавека.

Нейкі час фраў Баўм глядзела на невысокага каржакаватага мужчыну, а потым спыталася:

- Значыцца, вы лічыце, што ў фраў Магдалены была падобная думка?. .

- Адкуль я ведаю, што ў яе было? Адным словам, у гэтым пункце. . .

Вонкава фраў Баўм засталася спакойнаю, але ад кожнага яе слова несла холадам перавагі.

- Гер прыдворны капельмайстар, я не прывыкла, каб мяне перабівалі, і не таму, што я ўдава пісара з прыдворнага віннага склепа - бо, зрэшты, і ён быў па-свойму камердынерам, хоць і працаваў галавою і пяром, - а таму, што тут, у Боне, у мяне ёсць яшчэ і другое імя, пачуўшы якое, кожны здымае капялюш: мяне завуць яшчэ багацейкаю Баўм. Перш за ўсё прашу вас не чапаць мае сяброўкі Магдалены ван Бетховен. Спадзяюся, што мне ўдалося стаць сяброўкаю гэтай так жа беднай, як і прыстойнай жанчыны.

- Сяброўкаю?

Фраў Баўм жэстам прымусіла яго змоўкнуць.

- Я яшчэ не скончыла, гер прыдворны капельмайстар. Скажу вам цяпер у вочы праўду, дый то толькі таму, што паважаю вас і вы мне падабаецеся. Камердынер! А хто вы сам такі, гер прыдворны капельмайстар? Як лёкаі збіраюць стол, а кухары гатуюць ежу, так, здаецца, і музыканты падаюць сваю музыку - менавіта тую музычную страву, якую патрабуюць ад іх у гэты час. Для мансеньёра вы не больш як чысцільшчык абутку, хіба толькі з нотамі і інструментамі. На вашым месцы, будучы чэсным, праўдзівым чалавекам, як гавораць пра вас, я б не гера прыдворнага тэнара Ёгана ван Бетховена перасцерагла не жаніцца з Магдаленаю, а я б перасцерагла Магдалену: не выходзь замуж за чалавека самага нізкага, самага агіднага саслоўя, саслоўя п’яніц, за чалавека, у якога за п’янку ўжо і маці прыйшлося адправіць у кляштар. Але мне не хочацца абражаць вас, гер ван Бетховен.

Яна заклапочана паківала галавою і павяла гаворку далей.

- Што гэта з вамі? Звычайна вы такі добры чалавек. Але я скажу, што зрабіла вас такім несправядлівым і непрыязным - менавіта да Магдалены, а яна ні ў чым не вінаватая. Такім зрабіў вас горкі лёс вашага сына, вашай жонкі, вашых небажатак - дзетак. Вы - вельмі адзінокі чалавек.

Вочы капельмайстра расшырыліся і застылі.

- Ваша праўда - я адзінокі.

- А гэта робіць чалавека злосным.

- Можа, яно і так.

- Вы былі жабраком, а цяпер разбагацелі, сталі яшчэ багацейшы за мяне, бо цяпер у вас ёсць унук. Цяпер вам не трэба больш адзіноты і зласлівасці. Давайце ж пойдзем - да вашага ўнучка.

- Да майго?. . - Раптам ён нейк дзіўна, з булькатам засмяяўся.

- Ваша сэрца ўжо ў дарозе. Яно ўжо нават там, гер ван Бетховен. Пакіньце ж прыкідвацца перада мною. Вы яшчэ працівіцеся толькі. . , каб не страціць свае мужчынскае годнасці ці таго, што вы ёю лічыце. Вы - разумны чалавек і вялікі музыкант, але тут вы сапраўдны дурань.

Ён перавёў дыханне.

- Вы лічыце, што мне папраўдзе трэба. . .

- Дзе ваша паліто?

- Сапраўды, дзе маё паліто? - Шчасце быццам аглушыла яго. Цяпер яму не трэба было больш жыць у адзіноце.

- Ваша паліто вісіць, напэўна, дзесьці ў калідоры.

Ён вярнуўся з паліто, і фраў Баўм з удаваным жахам пляснула ў далоні.

- У гэтых старых абносках вы збіраецеся нанесці першы афіцыйны візіт свайму ўнуку?

Прыдворны капельмайстар дакрануўся рукою да лба.

- Я крышку разгубіўся.

Ён зноў выбег за дзверы і вярнуўся на гэты раз са сваёй чырвонай парадной палярынай, з капелюшом з загнутымі ўверх палямі і бамбукавай палкай з залатою булавешкаю.

- Вось цяпер і можна. Не, пачакайце!

- А цяпер чаго яшчэ не хапае?

- Напудранага парыка! Новага каўнерыка і свежых манжэт. Ці ж можна ісці ў гэтых чаравіках без сярэбраных спражак?. . Вы не памыліліся? Не маніце? Хлопчык?

Фраў Баўм не ўтрымалася ад смеху.

- Мне здаецца, што фраў Сікс у гэтым трошкі разбіраецца. А сярэбраным спражкам і напудранаму парыку маленькі пакуль што не будзе надаваць значэння. Заўтра вам, гер прыдворны капельмайстар, вядома, трэба быць у поўным парадзе, каб побач са мною рабіць добрае ўражанне.

- Ну, а што мне цяпер узяць яму ў падарунак? Чым можна парадаваць такое немаўля?

Фраў Баўм ціхенька заўважыла:

- Падарыце яму сваё сэрца. Палюбіце яго.

Спачатку да іх даляцеў шум з мансарды, а потым яны ўбачылі яркае святло, што прабівалася вонкі каля парога і праз шчыліны ў дзвярах, як бы ў пакоі быў пажар. Фраў Баўм штурханула ў дзверы. На стале, на камодзе, на падаконніку - усюды стаялі свечкі, якія яна прынесла раней. Па падлозе расцякалася вада; цэбар з вадою, у якім мылі дзіця, быў перавернуты. У кутку пры печы стаяла фраў Сікс, злякана прыціскаючы кулачок да губ. Твар

фраў Магдалены быў белы, як прасціна. На старым крэсле, аплеценым трыснягом, рассеўся тоўсты прыдворны гандляр рыбаю Кляйн, ляпаючы ад смеху далонямі па калене. Па сценах віхаўся агромісты расплывісты цень чалавека, што размахваў вакол сябе шпагаю. Касая сцяна мансарды рабіла яго яшчэ больш вычварным.

- Божа літасцівы, што тут робіцца? - жахнулася фраў Баўм.

Сілуэт на сцяне і зграбны чалавек са шпагаю ў руцэ пакланіліся, пакланіліся занадта нізка, бо п’яны не змог як след утрымаць раўнавагу. Ён лепятаў:

- А! Удава пісара з прыдворнага віннага с-склепа! Ваш пакорны с-слуга.

I тут раптам страх пакінуў фраў Баўм, можа, і таму, што яна магла разлічваць на падтрымку таго, хто стаяў за яе спінаю.

- Гер ван Бетховен, можаш сказаць, што ўсё гэта значыць?

- А з-значыць гэта, што на ўшанаванне спаніёля я зрабіў і-ілюмінацыю.

- Якога спаніёля?

- Вунь таго. . . - Ёган ван Бетховен трагічным жэстам з агідаю паказаў на ложак. - Яна, відаць, вывудзіла яго з Рэйна ад якогась спаніёля. А цяпер - уся гэта спаніёльская парода няхай вымятаецца з хаты!

Мужчына ў ярка-чырвоным убранні, што дагэтуль моўчкі назіраў за відовішчам з калідора, нарэшце ўвайшоў у пакой, павольна, быццам дакладна вымяраючы і абдумваючы кожную цалю свайго кроку. З-пад чырвонай палярыны высунулася крыху вялая рука, не спяшаючыся, пераклала стэк з залатою булавешкаю з правай рукі ў левую і кароткім рухам загадала чалавеку ў аплеценым трыснягом крэсле:

- Вон адсюль, Кляйн!

Рыбнік сутаргава ўхапіўся за більцы крэсла.

- Гер прыдворны капельмайстар, я. . .

- Ты свіння і сабутэльнік майго сына. Зараз жа вон адсюль, Кляйн. Раю зрабіць гэта табе на карысць, бо мне думаецца, што ў нашага курфюрста я ўсё яшчэ маю большы аўтарытэт, чым ты.

Таўстун, хістаючыся, пакінуў пакой.

- Ну, а цяпер давай пагаворым пра цябе, Ёган. Той тым часам намагаўся, каб раўней стаяць.

- Паслухай, бацька. . .

- Мне вельмі не па сабе, што ты завеш мяне бацькам і што я сапраўды твой бацька. Аддай мне шпагу!

- Аддаць шпагу? Шпагу прыдворнага музыканта курфюрста? Я ж збіраўся дабрацца з ёю да гэтага камердынерска-камерысцкага кодла. . . Бацька, калісьці ты сапраўды меў рацыю, раячы мне не жаніцца з асобаю ніжэйшага саслоўя.

Прыдворны капельмайстар паволі павярнуў галаву да свае спадарожніцы.

- Фраў Баўм! Калі я бачу свайго сына вось такім, то мне адразу ж успамінаюцца вашыя справядлівыя, вельмі справядлівыя словы: няма ніжэй саслоўя, чым саслоўе п’яніц. Зараз жа аддай мне шпагу!

Стары Бетховен, быццам узважваючы, патрымаў яе ў руцэ.

- Ёган, ты ўжо выйшаў з тых гадоў, калі я мог ёю адлупцаваць цябе. А зламаць яе мне не хочацца. Скажу табе толькі, што ў цябе няма ніякага ўяўлення пра чалавечы гонар. Ведаю, што чалавек ты нядрэнны, але варта табе выпіць, як ты робішся нягоднікам. Марш спаць у сваю каморку. Паспі і працверазей.

П’яны запярэчыў:

- Н І ў якім разе. Спачатку я. . .

- Спачатку ты пойдзеш у сваю каморку, Ёган, бо інакш. . . - голас прыдворнага капельмайстра небяспечна пацішэў, - інакш я заўтра буду гаварыць не з табою, а з мансеньёрам. І даб’юся, каб цябе прагналі з музыкантаў.

Пасля таго як Ёган, няцвёрда трымаючыся на нагах, пакінуў памяшканне, стары Бетховен павярнуўся да ложка.

- А што гэта тут гаварылася пра спаніёля?

Пачуццё страху зноў напала на фраў Магдалену. Перад ёю стаяў непрымірымы прыдворны капельмайстар. У яе задрыжалі губы.

- Гер. . . - яна не адважылася адразу дагаварыць да канца. - Татачка, я ж невінаватая, што ў маленькага. . . такі руды, цёмны твар.

Яна адагнула краёчак скрутка, які быў у яе ў руках.

- Злітуйцеся! Не адбірайце ў мяне майго дзіцяткі. Падышла бліжэй і фраў Сікс.

- Усе, як толькі родзяцца, бываюць амаль такія ж чырвоныя, і магчыма, пазней у яго пераменіцца колер твару.

Стары Бетховен рэзка павярнуўся ў яе бок.

- У гэтага дзіцяці? Не раю яму! Бо і я тварам такі ж, амаль такі ж цёмны. Значыцца, гэта ў яго ад мяне, ягонага дзеда. Фраў Сікс, а колер вачэй у яго не зменіцца?

Фраў Сікс ухілілася ад пэўнага адказу.

- Гэтага пакуль што нельга сцвярджаць дакладна.

- Абавязкова трэба, каб яны ў яго засталіся такія ж! Гэтыя шэра-сінія вочы! Бо яны таксама ад мяне, ягонага дзядулі. У нас прыгожыя вочы, дый колер твару такі, што не ў кожнага бывае. Ці не так яно, мой маленькі? Ён увогуле вельмі прыгожанькі, Магдалена. Ты ўжо выбрала імя?

Магдалена не ведала, што сказаць.

- Яшчэ не выбрала, татачка.

- Тады ён, як і я, канечне ж павінен звацца Людвігам! Стары стукнуў сябе ў грудзі:

- Людвіг ван Бетховен! Вы мяне зразумелі? Магдалена, нібы просячы літасці, узняла ўгору складзеныя рукі.

- Татачка!. .

Прыдворны капельмайстар пяшчотна ўсунуў свой сагнуты ўказальны палец у маленькі кулачок.

- Паглядзіце ж, які малюсенькі пальчык! Людвіг ван Бетховен, што будзе з ім і з табою праз гады? На піяніна ён наўрад ці здолее іграць гэтымі смешнымі малюсенькімі пальчыкамі. А на арганах? А што ўжо казаць пра дырыжыраванне?

Фраў Сікс засмяялася:

- Цяпер ён можа толькі спяваць, дый то нават не басам, як калі-нікалі яшчэ і цяпер робіць гэта гер прыдворны капельмайстар.

Адхінуўшы з ілба ў нявесткі цёмную пасму валасоў, стары здзіўлена заўважыў:

- Але ў яго твае валасы, Магдалена, калі можна так назваць гэты мышыны пушок.

- Татачка, любы, - парадзіха ўхапілася за ягоную руку і хацела яе пацалаваць.

Прыдворны капельмайстар сумеўся:

- Няўжо ты яшчэ хочаш пацалаваць мне руку, мне, хто паводзіў сябе з табою, як апошні дурань? - Ён пацалаваў ёй руку . - Прабач. Я ўдзячны табе, што ты прынесла мне такое вялікае шчасце. - Раптам вочы яго расшырыліся ад здзіўлення . - Глядзіце, што гэта з Людвігам ван Бетховенам? - Ён услухоўваўся і ўсё ніяк не мог наслухацца гучання гэтага імя. Яно яго проста зачароўвала. - Ён кідаецца то туды то сюды. Часам ці не хворы ён? Фраў Сікс хіхікнула:

- Ён чагосьці шукае. Бо ён галодны. Грудзей шукае, але яму яшчэ нельга. . .

Прыдворны капельмайстар аж узьеўся на яе:

- Што ты ведаеш?! Крышачку можна, Леначка, чуеш? Нельга ж марыць голадам Людвіга ван Бетховена!

З суседняй каморкі пачулася дзікае гарланне. Стары Бетховен зажмурыў вочы.

- Цяпер ён узяўся развучваць арыю Дарында, якую кепска праспяваў апошні раз. Фраў Баўм, зрабіце ласку і скажыце яму, хай перастане! Мне не хочацца, каб перашкаджалі майму ўнуку. - Ён паглядзеў на Магдалену. - Ага, вось яно што. Разумею. Ты баішся яго, бо, відаць, здараецца і так, што ён буяніць усю ноч. Але сёння ён буяніць не будзе. Фраў Сікс, твая дапамога фраў ван Бетховен сёння больш не спатрэбіцца?

- Не, гер прыдворны капельмайстар, толькі заўтра раніцаю.

- Тады можаш ісці дадому. Я патушу ўсе свечкі, акрамя адной, і буду вартаваць усю ноч сам.

Фраў Магдалена войкнула:

- Татачка, але ж у нас вам няма дзе спаць.

- Хопіць з мяне, дачушка, і старога крэсла. Падцягну яго бліжэй да вас. Бачыш, вось так. Але спачатку падкіну яшчэ трошкі дроў.

- У нас засталося толькі некалькі паленцаў, каб згатаваць назаўтра яды, татачка.

- Тады спалім іх. Заўтра загадаю прывезці новых. - Ён узяў з крэсла коўдру. - Я накрыю ёю калені. . . Не разумею, як ты ўвогуле можаш жыць з гэтым чалавекам, Магдалена!

- Я ж кахаю яго.

- І ў мяне ён адзін сын, якога я таксама. . . мы разумеем адзін аднаго, Магдалена. Табе не будзе холадна?

Стары зноў устаў.

- Вось, вазьмі маю палярыну. Яна з падкладкаю. Накрыю ёю вас - вось так!

- Татачка, гэта ж ваша параднае адзенне!

- Не пярэч мне! Ты, зрэшты, маці Людвіга ван Бетховена, але - паглядзі ж на гэтага малога шалапута! Гэй ты, гэта ж палярына прыдворнага капельмайстра! Леначка, на яго гэта не робіць аніякага ўражання, - Спакойнай ночы, Магдалена. Спакойнай ночы і табе, Людвіг ван Бетховен, - тваёй першай ночы, пад парадным адзеннем.

Пачало адлічваць час новае чалавечае жыццё, што так борздзенька з’явілася на свет.

- Паслухай, Магдалена. З часам усё будзе належаць Людвігу; а калі раптам здарыцца. . . - стары гаварыў зусім спакойна, - то тады табе прыйдзецца пільнаваць, каб Ёган. . . ты разумееш, Магдалена, што я хацеў сказаць?. .

Яна ўздыхнула:

- Сумна і непрыемна ўжо тое, што мы вось гэтак вымушаны гаварыць пра яго.

Прыдворны капельмайстар кіўнуў, згаджаючыся.

- Бо ён жа сам па сабе, шчыра кажучы, нядрэнны чалавек.  І спявак неблагі, цудоўны тэнар, але. . . - Ён пацiснуў плячыма. - Ад п’янкі ў яго пачынае прападаць голас. Магдалена жахнулася. - Так, так, сапраўды гора з гэтым неблагім чалавекам, у якога і голас неблагі. Тут, відаць, дае знаць сябе цяжкая спадчына, што перайшла Ёгану ад яго маці. Але што такое спадчына? Гэта не апраўдвае яго, як не апраўдвае яно і мае жонкі. Піць яна пачала з гора, пасля таго як у нас паўміралі ўсе дзеці, апроч Ёгана. Ёй хацелася заглушыць смутак, хацелася. . . - Яго думкі сягалі ў кляштар. . . Жахлівыя рэчы вытварала ў Боне, напіўшыся, яго жонка, пакуль нарэшце ад самога курфюрста не прыйшла парада - якую можна было палічыць і загадам - змясціць фраў ван Бетховен у кляштар. Ён думаў услых:

- Чалавек не павінен сам рабіць вырак, я і не раблю гэтага, Магдалена, толькі мне здаецца, што гора і смутак ніколі не павінны служыць апраўданнем чагосьці дрэннага. А што за гора  І смутак у Ёгана?

Ёй карцела яшчэ раз вярнуцца да гэтай толькі што пачутай навіны.

-  І таму, . . . што ў яго пачаў прападаць голас, мансеньёр плаціць яму гэтак мала грошай?

- Не, дачушка. Недахопы ў яго голасе чуюць пакуль што толькі мае музычныя вушы, якія ў адносінах да Ёгана, магчыма, асабліва чуйныя. Не, мансеньёр хоча толькі прыструніць гэтага легкадумнага чалавека, якога ён таксама любіць. Толькі, на жаль, яго прыструнка закранае і цябе, і таму цяпер я заўсёды што-небудзь буду падкідваць табе тайком.

- Вы вельмі добры, татачка.

Ён адмахнуўся.

- Навошта ж мне мамона? Дай жа мне нарэшце маленькага. Я хачу паказаць яму яго спадчыну.

- Татачка, але ж Людвігу яшчэ няма і трох тыдняў, а ў гэтакім веку дзеці нават і бачыць нічога добра не могуць.

Прыдворны капельмайстар абурыўся:

- Людвіг? Павер мне, ён бачыць, як рысь!  І разумее кожнае слова! Глядзі, ён смяецца з цябе! Бачыш, і смяяцца ён ужо ўмее. Не, сказаць гэтак пра Людвіга! - Ён зірнуў на Магдалену. - Чаму ты, зрэшты, ніколі не смяешся? - Ён прыгледзеўся да стройнай, прыгожай жанчыны з крышку кручкаватым носам. - Я ніколі не бачыў, каб ты смяялася ад душы, і ўсе на гэтым музычным завулку гавораць тое ж самае. Не трэба, я ўсё разумею, дачушка. Можа, і я ў маім жыцці ніколі-ніколі больш не смяяўся б, але з таго часу, як паявіўся малы, я зноў, я зноў смяюся. І ты, Леначка, у нашым саюзе павінна смяяцца трэцяя.

Сумныя вочы ў Магдалены напоўніліся слязьмі.

- Паверце, я буду смяяцца зноў. . .

- Забудзь, што гэты п’яніца ўчора зноў абазваў цябе нявернаю жонкаю, а Людвіга -

спаніёлем. Што, Людвіг, нас жа абодвух гэта зусім не трывожыць, га? Асабліва цяпер, калі ў нас ёсць больш важная справа. - З унукам на руках ён пачаў хадзіць па пакоі.

- Спаніёль, вось тут, напрыклад, знаходзіцца вельмі дарагая рэч, за якою табе трэба добра прыглядваць. Гэта габелен, цудоўная работа фламандскіх майстроў. На ім выткана святая Цэцылія, наша заступніца. Яна займаецца музыкаю. А я ж усё-такі не трачу надзеі, што аднойчы і ты, масьё Людвіг ван Бетховен, станеш музыкантам. Гэты габелен я загадаў прыслаць мне на ўспамін аб маёй старой радзіме і маім бацькоўскім доме - уласна кажучы, не столькі аб маім бацькоўскім доме - што там успамінаць! Вось чаму мне вельмі хочацца забяспечыць табе дзяцінства больш прыемнае, чым яно было ў мяне. У шкляной шафцы - фарфор, у тым ліку і каштоўны мейсенскі, а вунь там, у куфрах, ляжыць тонкае палатно. Кожны скрутак можна прасунуць у пярсцёнак. І крэслы з дзіўнымі ножкамі - галовамі дэльфінаў! - каштавалі немалых, але чэсна зробленых грошай. А паглядзі толькі на гэты стол, на якім інкруставаны і львы, і сланы, і алені, і паляўнічыя, і дрэвы. А хто гэта там на карціне? - Стары горда ўсміхнуўся. - Гэта таксама спаніёль, спаніёль! Гэта твой дзед, у якога таксама рудаваты твар. Ты яшчэ крышку цямнейшы, але гэта ад тваёй маці, якая дадала да нашага рудога свой матавы колер.

Ён не пераставаў думаць услых:

- Калі б ты ўжо ўмеў чытаць, я паказаў бы табе свае бухгалтарскія кнігі, каб ты пабачыў, што акрамя ўсяго я яшчэ маю нядрэнны заробак, гандлюючы вінам, і што мне людзі вінны і павінны аддаць шмат грошай. - Магдалена, будзь ласкавая, пастаў на стол скрыначку з эбенавага дрэва.

Магдалена пагнулася і, крэкчучы, падняла з падлогі скрыначку.

- Якая ж яна цяжкая.

- Папраўдзе? Ёсць свае прычыны, што яна такая цяжкая. Бо чым жа, скажы, можа быць запоўнена гэтая скрыначка, спаніёль? - Ён адчыніў яе. - Аднымі дукатамі і талерамі Тваімі і маімі грашыма! Можа, табе трэба некалькі талераў ці дукатаў, спаніёль? Думаю, ты не будзеш пярэчыць, калі мы іх аддадзім тваёй мацеры? Няхай яна толькі паабяцае нічога не гаварыць пра іх бацьку. Вазьмі, Леначка, наш Людвіг дазваляе.

Магдалена спалохана прыціснула рукі да сэрца.

- Татачка! Тут жа цэлых дзесяць дукатаў!

- Ціха, не перашкаджай нам. Людвіг, ану паглядзі на гэтае абітае срэбрам страшыдла. Ім можна забіць да смерці быка, але гэта ўсяго толькі дырыжорская палачка, ганаровая дырыжорская палачка. Мне падарылі яе ў дзень, калі я быў прыняты ў лік Hommes de chambre honora Ires (Людзі вышэйшага свету (франц. )). Значыцца, мой дарагі Людвіг ван Бетховен, табе прыйдзецца натужыцца, каб выйсці на ўзровень твайго дзеда Людвіга ван Бетховена. - Стары раптам нахмурыў шэрыя бровы і нядобра паглядзеў на фраў Магдалену. - Што, дзіця, відаць, нарадзілася нямое? Яно ж увогуле не сказала яшчэ ніводнага слова.

Фраў Магдалена не стрымалася і моцна зарагатала.

- Прыйдзе час - загаворыць, але вам, татка, трэба пачакаць яшчэ гадкі два. Не, падумаць толькі, - дзіця павінна гаварыць, калі яму няма яшчэ і трох тыдняў. . . - І яна зноў зарагатала.

Прыдворны капельмайстар задуменна зірнуў на ўнука.

- Як ты думаеш - нам, мусіць, трэба яшчэ крыху дабавіць грошай тваёй маці? Мы хоць і абхітравалі яе, але цяпер яна смяецца так, што усмешка гэтая варта не меней пятнаццаці дукатаў!

- Людвіг! Вось дык круцёлка! Стой жа ціха! Ёган!. .

Стройны мужчына з выразным тварам, які не ў аднае жанчыны прымушаў мацней біцца сэрца, калі на сцэне прыдворнага тэатра, выконваючы ролю напышлівага героя, ён спяваў сваю ролю, ціхенька засмяяўся.

- Што, тата?

- Ты ўяўляеш сабе, што значыць апрануць такога вось маленькага наравістага чалавечка, які круціцца, як уюн?

- Зараз вернецца Кетэ. Яна толькі пасвеціць на ўсходцах, каб мужчыны не кульнуліся дзе-небудзь са сваім цяжкім інструментам. Леначка, вядома, даўно ўжо пачула грукат, але яна малайчына. Разумее, што цяпер яе абавязак прыкінуцца, быццам нічога не чуе.

Людвіг заўпарціўся і не захацеў, каб ім занялася Кетэ. Стары ўздыхнуў.

- Ну што ты зробіш з гэтым свавольнікам? Можаш ісці, Кетэ. Мы і самі ўжо бадай што справіліся, праўда, Людвіг? Давай цяпер апранем яшчэ вось гэты чырвоны палітончык. Ты ж іграеш сваю першую ролю і павінен быць апрануты, як канцлер граф Бельдэрбуш. А ўсё астатняе гатова, Ёган?

- Усё. Балдахін паставілі, і толькі што падышоў апошні музыкант, ван дэн Эдэн.

Адчыніліся дзверы, і ў пакой заглянула сівая галава ван дэн Эдэна.

- Рэмігій якраз б’е дзесяць. Мой спявак гатовы? Прыдворны капельмайстар падняў унука са стала, дзе выконвалася працэдура апранання, заціснуў гэты жывы скрутак пад пахаю і панёс яго ў другі пакой, заліты трапяткім святлом свечак, пастаўленых на пюпітры. Музыканты сядзелі кружком і, як толькі паявіўся прыдворны капельмайстар, хацелі падняцца, але ён жэстам паказаў, што не трэба.

- Ціха! Ціха! Ван дэн Эдэн, схавайце маленькага шалапута пад раялем, каб потым ён вылез, як карлік з пірага. . .

Людвіг закрактаў ад прыемнасці. Ван дэн Эдэн запхнуў яго пад раяль.

Прыдворны капельмайстар прыдзірліва агледзеў музыкантаў - Рыза, Рыдэля, Хавека і Філіпа Заламона, які сёння іграў на другой скрыпцы.

- Тусі, Бельзяроўскі, Вальтэр - вы таксама гатовы? - звярнуўся ён да альтыстаў і віяланчэліста.

- А цяпер, Ёган, ціхенька адчыні дзверы ў Магдаленіну каморку. Увага! - Прыдворны капельмайстар, як чараўнік, падняў рукі. - Пачалі! - Смыкі альтоў і скрыпак тарганул іся ўніз, а віяланчэліст загойдаўся.

Праз нейкі час са свае каморкі выйшла фраў Магдалена. Яна была ў святочных строях і жмурылася ў святле свечак. Ёган ван Бетховен правёў яе да ганаровага месца пад балдахінам.

- Заўтра дзень святой Магдалены, і гер бацька захацеў адзначыць твой дзень анёла асабліва святочна - ігрою на інструментах і спевамі. Бо потым, Магдалена, будуць яшчэ і спевы. Цяпер табе іграюць музыку Стаміца.

Прыдворны капельмайстар павярнуўся да музыкантаў і, не перастаючы дырыжыраваць, сказаў:

- Лепш было б, ведама, мець свайго дамашняга кампазітара, але, на жаль, усе мы, Бетховены, у кампазіцыі нулі. Гэта бяссрэчны недахоп, але паправіць, на жаль, нічога нельга.

Фраў Магдалена слухала ў глыбокім задуменні, пакуль не прагучаў апошні гук сюіты. Потым яна пакланілася музыкантам:

- Вялікі вам дзякуй.

Музыканты схіліліся ў маўклівым паклоне, забралі ноты і падціснулі пульты так, што яны, з пастаўленымі на іх свечкамі, ссунуліся ў вузкае кола, вольнае толькі перад фраў Магдаленаю. У сярэдзіне яго прыдворны капельмайстар паставіў маленькі ўслончык. Абедзве дамы Заламон - прыдворныя спявачкі - усміхнуліся. Стары ўзяў слова.

- Ну, а зараз, Магдалена, ты пачуеш - гер прыдворны арганіст ван дэн Эдэн будзе акампаніраваць на новым малаточкавым раялі. . .

- Які бацька падарыў Людвігу. . .

Прыдворны капельмайстар рэзка перабіў сына:

- Ёган, навошта ўвогуле цяпер гаварыць пра гэта? Як бы там ні было, зараз ты, Магдалена, пачуеш гера Людвіга ван Бетховена, але не мяне, баса, а гера Людвіга ван Бетховена, сапрана. Ну, ідзі ж, карлік! Вылазь хутчэй са свайго пірага!

Маленькі Людвіг выпаўз з-пад раяля. Дзед паставіў яго на ўслончык. У матчыных вачах застыла здзіўленне.

- Ты, Людвіг?

Ван дэн Эдэн, які стаяў каля раяля, гукнуў:

- Увага! - І ўжо паплылі першыя акорды прэлюда. - Цяпер твая чарга, Людвіг!

Маленькі хлопчык у чырвоным палітончыку, які ледзь-ледзь трымаўся на нагах, склаў разам дзіцячыя ручкі. Яго чорныя валасы зблыталіся, як бы хтосьці знарок разварушыў іх рукамі. Ён усміхнуўся мацеры, а потым яго вочкі на чырвоным тварыку пацямнелі, быццам ахопленыя нейкім загадкавым, але натхнёным смуткам. І вось ён тоненькім галаском, якому яшчэ цяжка даваліся словы, пачаў выводзіць мелодыю:

Інсбрук, цябе пакідаю.

Далячынь кліча, і я адʼязджаю
Кудысьці ў чужую старонку. . .

Нейкі момант пасля таго як Людвіг скончыў, панавала цішыня. Потым прыдворны капельмайстар, смеючыся, ахрыплым ад хвалявання голасам сказаў:

- Відаць, што задаткаў, каб стаць канарэйкаю, у яго няма. Яго голас гучыць хутчэй як у пеўніка, вельмі яшчэ нясмелага. Але тым не менш ён спяваў нядрэнна, Магдалена, га? Я заўважыў гэта чатырнаццаць дзён таму назад. Маю любімую песеньку ён чуў ад мяне ўсяго толькі некалькі разоў. Тон жа ён бярэ правільна, як ты лічыш, ван дэн Эдэн?

- Абсалютна правільна.

Дзядуля перанёс унука ў матчын прыпол.

- Вось твой нясмелы певунок. Ну як, удаўся сюрпрыз? Магдалена прыціснула малога да грудзей.

- Людвіг! Як прыгожа ты нам спяваў, Людвіг! Праўда, Ёган?

Той пагладзіў жончыны валасы.

- Праўда, і. . . - нахіліўшыся да яе вуха, ён шэптам дадаў: - і я таксама хачу зрабіць табе сюрпрыз. Да твайго, вось гэтага, года жыцця мне хочацца - і гавару я гэта зусім сурʼёзна - прэзентаваць табе новага мужа.

- Ёган, калі ты гэта. . .

Людвіг затанцаваў у матчыным прыполе.

- Дода, Дода!

Прыдворнаму капельмайстру ўспомнілася, як аднаго разу ён са сваім унукам на руках пайшоў да Рэйна, каб пераехаць на другі бок. Калі паром адʼехаў ад берага, Людвіг, прыціснуўшыся тварыкам да дзедавага твару, напружваючы ўсё сваё маленькае цельца, выдыхнуў слова «Дода». Здзіўлены дзед не мог адвесці ад яго вачэй. «Гэта ж ён пра мяне! Калі ласка, скажы яшчэ раз, га? Мілае маё дзіцятка - першае сказанае табою слова - пра дзеда! Дода! Гэта ж маё найлепшае ганаровае званне, вышэйшае, чым homme de chambre honora Ire I прыдворны капельмайстар. Дода - можаш заўсёды зваць мяне гэтак, мой маленькі Людвіг».

- Дода, раскажы, калі ласка, гісторыю пра карліка. ‘

- Ах ты, мучыцель! Але нічога не зробіш, я ж абяцаў яму. А што сказаў, то й святое. Калі ён прыгожа паспявае маю любімую песеньку, я абяцаў замест узнагароды расказаць упадабаную ім гісторыю пра пірог і карліка. Ну дык слухай. - Аднаго разу наш гер курфюрст загадаў прынесці на стол вялізны пірог, і ўсе паны і пані павінны былі адгадаць, што ў сярэдзіне таго пірага. Адзін пан сказаў, што там маленькая казуля. Адна пані гаварыла адно, другая - другое, але раптам пірог падскочыў - гоп!

- Гоп! - Малы пачаў падскокваць у матчыным прыполе.

- І з пірага выскачыў карлік, ветліва пакланіўся ўсім - і дамам і кавалерам, - вось так. . . - гер прыдворны капельмайстар паказаў, як яно было.

- Гоп і во-ось так! - Маленькі Людвіг таксама пакланіўся ўсім прысутным жанчынам і мужчынам.

Дзядуля пагразіў яму.

- Людвіг, мне здаецца, што і ты гэтакі ж самы прайдзісвет, як той карлік, што можа нечакана выскачыць з пірага. Прынамсі, твае сённяшнія спевы сведчаць, што ты пачынаеш нядрэнна. Праўда, Магдалена? Але цяпер ты павінна твайго маленькага прайдзісвета і спевака пакласці спаць. Спі спакойна, гер карлік і сапрана і нясмелы певунок Людвіг ван Бетховен!

Маленькі Людвіг пільна ўглядаўся ўніз. Вада Рэйна - а значыцца, і яго існаванне - то ззяла і цякла спакойна, то бурліла вірамі, здавалася, сплеценымі з нейкіх брудных, агідных жылак. Паром хадзіў цераз рэчку, туды і назад, і дзядуля, седзячы з Людвігам на судне, паказваў яму стракатыя дамы на забрукаваных вуліцах, паказваў палац і цэрквы Бона, якія Людвіг ужо ўсе ведаў. Напрыклад, на Рэмер-плац стаяла царква святога Рэмігія, галоўная парафіяльная царква, дзе яго хрысцілі, вунь там сабор, прыдворная царква, царква святога Марціна, царква святога Гангольфа і - ці ўпомніш іх усе? Часам дзядуля расказваў яму гісторыю пра скалу дракона, слухаць якую ён мог па некалькі разоў.

А потым маці зноў плакала ці, што яшчэ горш, на яе твар зноў клалася нейкая акамянеласць. Тады ўвесь час яна толькі ўслухоўвалася, увесь час трывожылася і ўсё чакала бацьку.

Ужо і хлапчукі на вуліцы дражнілі яго цяпер «спаніёлем», і слова гэтае яны, як думала маці, пачулі ад прыдворнага гандляра рыбаю Кляйна. І ўсё, відаць, з-за яго рудавата-чырвонага твару. Спаніёлямі звалі нашчадкаў яўрэяў, прагнаных калісьці з Іспаніі, і само па сабе гэта зусім не гучала абразліва.

Калі-нікалі маці заходзілася сухім вострым кашлем, і тады яна жалілася: «Людвіг, ты, мабыць, хочаш застацца карлікам, і ўсё ж ты ўжо вырас са сваіх штонікаў і куртачкі. Клопату з табою не абярэшся!» Але клопат гэты быў, відаць, своеасаблівы, бо цёмныя вочы яе тады ззялі, чаго не было, калі яна пералічвала грошы, якіх заўсёды не хапала, спрабуючы як мага лепш размеркаваць іх на хатнія патрэбы. Людвіг неяк расказаў пра гэтыя падлікі дзядулю, і той ляпнуў даланёю па лбе. «Добра, што ты нагадаў мне пра гэта!» Пасля яны прыдумалі сабе цудоўную гульню. Звалася яна «шуканне талераў».

Дзядуля прыходзіў у госці, як заўжды, але, як толькі маці выбягала на кухню, яны хавалі талеры, і Людвігу трэба было потым усе іх знайсці і падарыць мацеры.

І вось цяпер ён зноў, як звычайна, выбраўся ў дарогу да Доды. Дабіраўся туды ён ужо адзін. У мацеры і ў Кетэ работы многа, бо сёння ж куцця. Гэта значыць, што і іх з дзядулем наперадзе чакаў нялёгкі дзень. У першай палове дня - рэпетыцыя, а ноччу ў прыдворнай царкве - усяночная. Дзед паабяцаў яму перад гэтым: «Калі ты пасля абеду добранька выспішся, то можаш пайсці са мною на ўсяночную».

- А калі я прасплю?

- Пастараюся разбудзіць цябе.

Дзядулю можна паверыць смела. Маці спрабавала пярэчыць, але калі дзед збіраўся нешта рабіць, то адгаварыць яго было ўжо нельга. Тады не памагаў нават і гер Лукезі, хоць ён і карыстаўся аўтарытэтам у мансеньёра, бо ўмеў пісаць музыку. А, уласна кажучы, што тут такога - пісаць музыку? На гэта трэба толькі ўмець ставіць на паперы маленькія кляксы. З імі ён неяк і з’явіўся да свайго дзеда.

- Дода, паглядзі, я тут напісаў музыку.

- Няўжо? А што гэта такое?

- Сімфонія. - Вымаўляць слова ўсё-такі цяжка, хоць і чуў ён яго кожны дзень.

- Гэта ж лепш, чым усё, што напісаў Стаміц. Бач ты, сімфонія Людвіга ван Бетховена. - Значыцца, усё аказалася ў вышэйшай ступені простаю справаю, і ў якасці ўзнагароды дзядуля зноў паехаў з ім катацца на пароме.

Ішоў снег, і было страшэнна холадна, але маці добра ўхутала яго. Незадоўга перад гэтым ён ужо адзначыў свой трэці дзень нараджэння.

Некалькі хлопчыкаў пачалі дражніцца: «Спаніёль! Спаніёль!» Вочы ў Людвіга загарэліся гневам. Хлопчыкі былі большыя за яго, і ўсё ж, нягледзячы на гэта, ён палез бы біцца. Толькі яму нельга запазніцца, бо яны ж ідуць на рэпетыцыю. Дзядуля не любіў недакладнасці. І ён зацята пашыбаваў далей, кінуўшы на іх пагардлівы позірк. А вось і дзядулеў дом. Па ўсходках, прыступка за прыступкаю, ён карабкаўся наверх, і давалася яму гэта нялёгка, бо прыступкі былі высокія. Па сігналу - тап! тап! - наверсе яму заўсёды адчыняў дзверы дзядуля. Сёння гэтага не здарылася. Ён пацягнуўся да клямкі, якая некалькі разоў выскоквала з рук, пакуль нарэшце дзверы ўсё ж адчыніліся. Дзед сядзеў у крэсле пры акне.

- Прабач, што сёння не выйшаў цябе сустрэць, але я. . . неяк вельмі натаміўся.

Абодвума локцямі Людвіг абапёрся на дзедава калена, падпёр маленькі чырвоны тварык і зірнуў на дзеда знізу ўверх.

- Хіба нам не трэба ісці на рэпетыцыю?

- Яе перанеслі на пазней. У нас ёсць яшчэ час.

- Тады паспі крышку, Дода, калі ты стаміўся. Я разбуджу цябе. Калі мне зрабіць гэта?

- Калі вунь там на карнізе праб’е гадзіннік. - Стары глыбока ўздыхнуў. - Але. . . мне не хочацца спаць.

- Чаму? - Людвіг горача запэўніў яго. - Ты сапраўды можаш паверыцца на мяне.

Прыдворны камельмайстар нацягнуў Людвігу глыбей на галаву «шапку-піражок» і вялаю рукою пагладзіў чорныя непакорныя валасы, якія выбіліся з-пад шапкі. «Не хоча больш маё сэрца працаваць як трэба, але і засынаць мне яшчэ рана, я ўжо ўчора сказаў пра гэта доктару, мікстуры якога мне зусім не памагаюць. Не хочацца засынаць праз цябе, мой маленькі Людвіг. Хацелася б, каб у цябе было хоць крышку шчаслівага дзяцінства. Прабач ужо мне, калі, можа, і

не ўдасца мне прычакаць гэтага».

Сёння дзядуля гаварыў неяк дзіўна. І быў вельмі неспакойны. Раптам ён хуценька прыўзняўся і дадаў: «Мне так хочацца яшчэ пакатацца з табою на пароме. Многа, многа разоў, калі зноў прыйдзе вясна. . . »

Дзядуля заплюшчыў вочы і апусціў галаву. Нарэшце ён усё-такі заснуў. Ціхенька, стараючыся не разбудзіць яго, Людвіг прынёс услончык, абіты аксамітам, і сеў на яго побач з дзядулем. Цяпер заставалася толькі глядзець за гадзіннікам, які хоць і цікаў хутка, але стрэлкі яго паўзлі вельмі марудна. На вуліцы няспынна падалі сняжынкі, гэта было так прыгожа. Але вясною можна будзе катацца на пароме. Гадзіннік пачаў нешта шаптаць, увесь час адно і тое ж, адно і тое ж. Што гэта было? Мяккі. але праніклівы бой гадзінніка ці голас дзядзечкі Франца Раванціні, які нагадваў снежную бабу, што схілілася ў глыбокім паклоне?

- Прыйшлося заскочыць да вас, каб узяць ноты. . . Людвіг вінавата ўскочыў на ногі.

- Дзядзечка Франц! Я таксама заснуў па-сапраўднаму, але цяпер нам трэба. . .

- Гер прыдворны капельмайстар. . .

Раванціні ўзяў старога за руку, а калі адпусціў яе, яна зноў упала ўніз. Ён закашляўся так рэзка і востра, як часам маці, на якую тады дзядзечка Франц кідаў сумныя позіркі, гаворачы пры гэтым: «Мы абое, Магдалена, атрымалі ў спадчыну гэтую бяду нашай сям’і». Што ён хацеў сказаць гэтым? Але цяпер ён схіліўся да Людвіга.

- Пойдзем. . .

Людвіг запярэчыў:

- Мне ж трэба ісці з Додам на рэпетыцыю. Дзядзечка Франц пакруціў галавою.

- Не, Людвіг. Ён заснуў. Назаўсёды. Ён памёр.

- Памёр? Што гэта такое? Ён жа збіраўся. . . - Вочы Людвігавы пачалі - чаму толькі? - напаўняцца слязамі. - Вясною катацца са мною на пароме. Мы ж згаварыліся з ім аб гэтым.

- Ён ужо. . . паехаў на сваім пароме. - Дзядзечка Франц гаварыў таксама неяк дзіўна, павольна і ціха. - Паехаў на пароме, на якім заўсёды едуць па адным. Здараецца так, што едуць на ім і маладыя людзі, як, мабыць, паеду я, едуць і. . . Хадзем, маленькі Людвіг. Памёр твой мілы дзядуля.

- Дода! - Людвіг гукнуў яго на ўвесь голас, але з дзядулем, здаецца, сапраўды здарылася нешта вельмі страшнае, бо і яму ён нічога не адказаў.

Раванціні, малады скрыпач, які іграў у прыдворным аркестры кандыдатам толькі таму, што спадзяваўся з цягам часу атрымаць у ім штатнае месца, узяў дзіцяў на рукі.

- Яшчэ раз паглядзі на яго, Людвіг, і развітайся. Будзь заўсёды такі добры, як твой дзядуля. Бо цяпер ты адзіны і апошні Людвіг ван Бетховен.

На Святым Рэмігіі прабіла спачатку чатыры, а потым і шэсць разоў. Шэсць гадзін раніцы. Малітва званоў, як заўсёды ўзімку, пачалася ў гэтыя яшчэ маркотна-цёмныя часы, але сёння яна гучала неяк інакш. У хоры металічных галасоў чуваць былі і самыя цяжкія і вялікія званы, якія звычайна маўчалі, а сёння будзілі сваім громам горад, разносячы вестку пра нараджэнне Хрыста.

Фраў Магдалена лічыла гадзіны ночы і мінуты гадзін. Расплюшчыла запаленыя вочы.

Не, гэта не Ёган. Як быццам хтосьці поркаўся каля аконнага кручка. Хуценька запаліўшы святло, яна спехам надзела халат і кінулася ў суседні пакой.

- Людвіг!

- Слухаю, мамачка. - Ён залез на крэсла і адчыніў акно. - Дода хацеў зайсці па мяне. каб узяць з сабою на ўсяночную. - Губы яго задрыжалі. - Калі ж яна прыйдзе, гэтая ўсяночная?

- Яна ўжо даўно прайшла. - Сэрца яе шчымела. Хлопчыкавыя думкі кружылі толькі ў гэтым жудасным коле. Яна ўхутала Людвіга коўдраю.

- Пачакай, дзядуля перадаў табе нешта праз маленькага Хрыста. Ты здзівішся, калі я зараз прынясу табе гэта. - Яна выбегла з пакоя і вярнулася з нейкім пакункам. Зашамацела папера. - Паглядзі, Людвіг, вось пінжачок з аксаміту. Такія носяць прыдворныя. Камізэлька і штонікі і - паглядзі, якія цудоўныя чаравічкі, а на штоніках і чаравічках сапраўдныя сярэбраныя спражкі! Дарагі наш дзядуля лічыў, што раз ты быў яго верным спадарожнікам на ўсіх рэпетыцыях у даксале (Памяшканне ў царкве, дзе збіраліся пеўчыя) прыдворнай царквы, то і ў сваёй адзежы ты павінен быць падобны на яго. На homme de chambre honoraire, калі я правільна вымаўляю гэтыя словы. На ганаровага камергера, як ён, прыдворны капельмайстар.

Ад радасці на шырокія хлопчыкавы губы легла ўсмешка. Ён яшчэ раз разарваў паперу.

- Чаго ты там шукаеш, Людвіг?

- А дзе ж шпага? Калі ўжо быць прыдворным капельмайстрам, то толькі са шпагаю, з залатою шпагаю.

- Ну што ты, Людвіг! Доўга табе яшчэ чакаць, пакуль спатрэбіцца шпага.

- Не, нядоўга! Калі прыйдзе Дода? Ён жа абяцаў мне шпагу. . .

- Добра, ну добра - пачакай! - Фраў Магдалена выбегла з пакоя, крыху пакорпалася ў спальні і вярнулася. - Вось і шпага. Яна, вядома, яшчэ велікаватая табе. Мне трэба было аддаць яе табе куды пазней, толькі ў той дзень, калі. . .

Людвіга падрабязнасці не цікавілі.

- Мамачка, бачыш? Залатая шпага, якраз такая, як і ў дзядулі.

- Ён ужо даўно распарадзіўся зрабіць такую, як і ў яго. Але цяпер табе зноў трэба легчы спаць, Людвіг. Хадзем да мяне. - Яна ўзяла Людвіга на рукі. Ад холаду ў пакоях яе пачаў душыць сухі кашаль.

- Бедная мамачка.

- Праўда, Людвіг, мы цяпер абое бедныя, вельмі бедныя.

Ён здзівіўся:

- Мы бедныя? У мяне ж цяпер залатая шпага, і калі я не магу быць прыдворным капельмайстрам тут, бо ім з’яўляецца Дода, то паеду ў далёкае падарожжа. - Балбочучы гэта, ён аднак спахмурнеў. - Магчыма, маё падарожжа будзе вельмі далёкае, мамачка. - Але раптам засмяяўся. - Але калі я вярнуся, мамачка, то насыплю табе поўны прыпол талераў. А можа, лепш дукатаў? Шмат дукатаў, і ўсе такія ж залатыя, як мая шпага.

Пачало ўжо днець, бралася на калядную раніцу, а Ёган усё яшчэ не вярнуўся дадому. У той час, калі фраў Баўм і Магдалена абмывалі нябожчыка і складвалі яму на грудзях рукі, Ёган знайшоў скрыначку з грашыма.

Магдалена зайшлася ў новым прыпадку кашлю і ледзьве асіліла яго. Пачыналася раніца, яшчэ адна шэрая, бязрадасная, поўная бясконцага клопату раніца. А за ёю настане ўжо цяпер разбіты дзень, што няўмольна, як злы лёс, упаўзаў у іхнюю каморку. . .

Яны пераехалі з Бонгасэ на так званы Трохкутнік. Але жылі там нядоўга, бо кватэра была куды горшая за ранейшую, і тут хутка таксама пачаліся сутычкі і сваркі з гаспадарамі.  І вось яны зноў знайшлі сабе новае прыстанішча. Ёган падышоў да акна.

- Паглядзі толькі на Людвіга, ён усё спрабуе ляснуць вялізным бізуном.

Яна прытулілася да яго рукі.

- А цяпер фурман нават даў яму патрымаць у руках лейцы.

Ёган пацалаваў яе.

- Ну, мілая, няхай жа будзе ў нас новае жыццё!

- Людвіг! - Магдалена затуліла вушы. Ёган засмяяўся.

- Яго вабіць акустыка, як гэта цяпер завецца. Якое цудоўнае гучанне ў пустых пакоях, дзе яшчэ не ляжаць дываны і не вісяць шторы на вокнах! Паглядзі на гэтую анфіладу.

-  І на сонца. - Яна ад захаплення заплюшчыла вочы. Ён клапатліва падцягнуў бліжэй крэсла.

- Сядай, калі ласка. Адсюль ты адразу можаш агледзець усё сваё будучае каралеўства, Магдалена. - Падумаўшы крыху, дадаў: - Лепш за ўсё ўваб’ю колькі там кручкоў для партрэтаў і тым самым дабаўлю некалькі тактаў да канцэрта, які дае тут наш пан сын. Куды павесім партрэт бацькі?

- На ганаровае месца, над раялем; і, калі мы пачнём музіцыраваць, ён заўсёды будзе разам з намі.

Ён асцярожна ўзяў са штабеля партрэтаў вялізную карціну.

- Выйдзе нядрэннае памяшканне для заняткаў музыкаю, ды і ўвогуле мы зможам зрабіць тут нешта накшталт утульнага дома і даваць невялікія акадэміі і хатнія канцэрты. На ранейшых кватэрах, у цесных, убогіх катухах, з нашаю мэбляю было гэта наўрад ці магчыма. - Партрэт ён аднёс у суседні пакой. - Аслабані месца, гер віртуоз. - Людвіг, здаецца, нават і не заўважыў, што бацька адсунуў яго ўбок, каб прайсці каля яго з лескамі і партрэтам. Ён дзіка варочаў вачыма, як

апантаны біў па клавішах пальцамі, а часам і ўсім сваім маленькім кулачком. Ёган падняўся па лесках і прыставіў партрэт да сцяны. - Ну як, Магдалена?

- Трэба крышку ніжэй. Ён засмяяўся.

- Бетховены якраз заўсёды хочуць забрацца высока. Але зробім так, як загадвае мадам. Ну, а так? - Ён убіў кручок у сцяну, павесіў партрэт і зноў падышоў да Магдалены.

- Месца вельмі добрае, Ёган. Паглядзі толькі, як бацька глядзіць на Людвіга.

Хлопчык барабаніў па клавіятуры і ў захапленні ўскрыкваў:

- Сі-бемоль, до, фа-дыез!

Ёган ван Бетховен паморшчыўся.

- Відаць, з яго не выйдзе Моцарта, музычнага вундэркінда. З гэтым прыйдзецца, на жаль, прымірыцца.

Хлопчыкавы вочы, здавалася, ператварыліся ў чорныя дыяменты. Паглядаючы ўверх на дзядулеў партрэт, ён не пераставаў біць па раялі.

- Фа-дыез мажор, так, Дода? Фраў Магдалена не вытрывала.

- Людвіг! Перастань!

Хлопчык як бы і не чуў, і тады да яго падышоў бацька.

- Фа-дыез мажор? Ах ты, маленькая немузычная малпачка, што ты з сябе строіш? Нахапаўся назваў некалькіх тонаў і паўтонаў і думаеш, што калі дасі з усяе сілы і скажаш до мажор ці фа-дыез мажор, то гэтак яно і выйдзе. Не, малады чалавек, з музыкаю не ўсё так проста, як здаецца. - Ён падсунуў да сябе крэсла і, сеўшы ў яго, падняў Людвіга да сябе на калені. - Я паспрабую даць табе нешта падобнае на ўрок. Пачнём адразу з фокуса. Калі праваю рукою я зраблю вось так, а леваю - вось так - пакладзі ж твае рукі на мае! - скажы, што ты тады чуеш?

Маленькі чырванавата-руды твар, здавалася, гарэў полымем.

- Мамачка, а я ўжо вывучыў песеньку пра Інсбрук! Ёган ван Бетховен павярнуўся, бо ззаду пачуліся крокі.

- Гэта Цэцылія, дачушка нашых гаспадароў! Прыгожанькая дзяўчынка, гадоў дванаццаці, прысела ў рэверансе.

- Мае бацькі, якія самі прыйдуць пазней, вітаюць вас ‘ з нагоды вашага прыезду асмельваюцца падаць вам хлеб соль.

Фраў Магдалена, ветліва ўсміхнуўшыся, узяла падарунак.

- Хлеб, спечаны тваім бацькам, яшчэ цёплы!

- Яго толькі што вынялі з печы. - Цэцылія нясмела паглядзела на раяль. - Толькі што. . . няўжо гэта. . . іграў маленькі хлопчык?

Ёган ван Бетховен апусціў Людвіга на падлогу і падняўся з месца.

- Зразумела, ён. Бо наш Людвіг - сапраўдны музычны геній, і калі-небудзь вам яшчэ прыйдзецца павесіць на доме мемарыяльную дошку, што ён тут жыў. Перадай, Цэцылія, і ад нас тваім бацькам маё шанаванне. А зараз мне трэба паставіць ложкі.

Дзяўчынка прысела ў рэверансе.

- І мяне таксама чакаюць у булачнай.

Калі бацька пайшоў у спальню, Людвіг схапіў маці за руку.

- Мамачка, хадзем да раяля. Найграем. І ты што-небудзь сыграеш!

- Але ж я зусім не ўмею іграць.

- Ты. . . не ўмееш. . . іграць на раялі? - Ён сустрэўся з першаю не зразумелаю яму загадкаю свайго існавання.

Маці пакудлаціла яго растрэпаны чорны віхор, якога не браў ніякі грабеньчык. «Я ўвогуле шмат чаго не умею, Людвіг».

Усміхалася яна, як яму падалося, неяк сумна. І адразу ж яе зноў пачаў душыць кашаль. Трэба суцешыць яе, праўда. І ён пацягнуўся ўверх, каб пацалаваць яе; але яна адвярнулася. Ён здзівіўся яшчэ раз.

- Няўжо я паводзіў сябе дрэнна, мамачка? Ці я табе зусім не падабаюся?

Вочы яе ззялі неяк дзіўна.

- Якраз таму, што ты мне так падабаешся. . .

Закрычала дзіця, і з музычнага пакоя, дзверы якога былі шырока расчынены, зноў пачуліся гукі раяля, на гэты раз энергічна-раззлаваныя.

- До! До! Гром і маланка!

- Людвіг!

Той, апошнім часам з ім гэта здаралася вельмі часта, якраз гутарыў з дзедавым партрэтам.

- Ты ж сам чуеш, Дода. Тут нічога не зробіш. До ёсць до!

- Людвіг, перастань, калі ласка, крыўляцца! Хлопчык падышоў да матчынага ложка. Яго шырокія тоўстыя губы выцягнуліся, паказваючы, што ён пакрыўджаны.

- Крыўляцца? Я ж правяраў Карлаў голас, менавіта так, як рабіў гэта Дода з спевакамі і спявачкамі ў даксале. - Пагардлівы жэст рукою сведчыў аб выніках гэтай праверкі. - І Карл праваліўся. У прыдворнай капэле яму не знойдзецца месца.

- Бач ты, які разумнік! - Фраў Магдалена выглядала неяк рассеяна і неспакойна. Было ўжо позна, дый Ёган даўно ўжо павінен быў вярнуцца з хрысцін. . . - Людвіг, табе трэба класціся спаць. Пазаві Крысціну.

І вось нарэшце - крокі на лесвіцы! Не, крокі хуткія і ўпэўненыя, гэта Ёган. На ім - прыдворнае парадне адзенне, зеленаваты фрак і зялёныя па калені штаны з сярэбранымі спражкамі. Белую шаўковую камізэльку ўпрыгожваў залаты шнурок, а яго парык з бездакорна ўкладзенымі локанамі і віхром велічна абрамляў востра акрэслены твар. Рука яго, што трымала капялюш, апісала кола, і пры гэтым ён галантна пакланіўся.

- Прашу прабачэння! Можа, мадам зробіць ласку і заўважыць нешта такое, што гаворыць на карысць курфюрставага прыдворнага музыканта і першага тэнара Ёгана ван Бетховена?

Магдалена шчаслiва ўсміхнулася.

- Ты не піў!

Яго позірк, поўны самаадрачэння, узняўся да столі.

- Не піў! Гэта бедная, недасведчаная асоба гаворыць «не піў»! К чорту, ліха на яго!

- Ёган, прашу цябе. Бо Людвіг, гэты папугай, і так ужо дастаткова набраўся ад цябе непрыстойных слоў!

- Гаворыш, ад мяне набраўся? Мяне гэта радуе. «Не піў!» Я ж нават чаркі не браў, і гэта на хрысцінах роднага сына! Нягледзячы на тое, што хроснымі былі гер міністр і канцлер граф Бельдэрбуш і абатыса кляштара ў Біліху Караліна фон Зацэнхофен і што яны пілі за здароўе сям’і Бетховенаў. Граф Бельдэрбуш сказаў яшчэ, што ён спадзяецца, што тым часам адзін з нашых хлопчыкаў стане добрым музыкантам, хутчэй за ўсё габаістам. Магчыма, ён меў пры гэтым на ўвазе свой квінтэт, з якога якраз звальняецца добры габой; а абатыса падарыла нам вялікі мяшэчак цукерак.

Людвіг куляй вылецеў з вугла пакоя.

- А дзе ж мяшэчак?

Ёган ван Бетховен пляснуў далонню па лбе.

- Трэба ж, я, здаецца, забыў яго ў замку. - Схапіўшы Людвіга на рукі, ён падкінуў яго ўгору. - Ах ты, ненаедны абжора! Ах ты, музычны нуль! Вядома ж, я не забыўся ўзяць з сабою мяшочак, я яго толькі паклаў у калідоры, каб падражніць цябе. Бяжы па яго, пакуль гэтай штуковіны не з’ела кошка. - Ён апусціў хлопчыка на падлогу і, зірнуўшы на рукі, сказаў: - Зноў ён выпацкаўся ў муцэ, бо ўвесь час сядзіць у пякарні ў майстра Фішэра. Можа, калі-небудзь ён стане прыдворным пекарам?

- Добра. Але толькі не заві яго «музычным нулём», Ёган. Людвіг праверыў Карлаў голас і прызнаў Карла «непрыдатным для прыдворнай капэлы». Людвіг бачыў, як рабіў гэта нябожчык дзядуля, і цяпер пераймае ўсё - і яго напышлівыя выразы і тваю. . . лаянку.

- Людвіг прызнаў, што Карл «непрыдатны» для прыдворнай капэлы? Выдатна! У ціхім балоце. . . але які сёння цудоўны дзень, Магдалена! Канцлер - гм, гм - граф Каспар Антон Бельдэрбуш і абатыса Караліна фон Зацэнхофен - хросныя нашага хлопчыка! Ці ты ацаніла гэта як след? Між іншым, як адчувае сябе хросніца Караліна ван Бетховен, якую нам, аднак, прыходзіцца зваць Карлам, бо гэта ж хлопчык?! Калі абое трымалі яго ў царкве, Ёган ван Бетховен адчуваў сябе на вяршыні шчасця і славы! Не, яшчэ не на самай высокай вяршыні. У нашага наступнага хлопчыка хросным павінен быць сам мансеньёр.

Скрытая прычына хрышчэння! Тлумачылася яно зусім не яго аўтарытэтам спевака і прыдворнага, а тым, што Ёган, дзякуючы гратэскавай выпадковасці, застаў мансеньёра, як кажуць, на месцы злачынства з абатысаю Біліхскага кляштара, якая ў той час лічылася

фаварыткаю сярод каханак архібіскупа, і хрысціны былі нечым накшталт платы за маўчанне. Граф Бельдэрбуш, вядома, здагадваўся, але не мог жа ён не падначаліцца загаду свайго гаспадара.

Вядома, Магдалене цяпер не хацелася разбураць яркай вясёлкі славы і поспеху, у якую верыў і сам Ёган, і таму яна толькі падтакнула:

- Чаму ж не можа быць у нас хросным мансеньёр, калі ты застанешся. . . вось такім, як цяпер? Калі не будзеш піць і. . . - Яна ласкава зірнула на яго. - Не, гэтага я табе не скажу. Гэта зробіць цябе занадта самаўпэўненым.

- І тым не менш я чытаю гэта ў тваіх вачах. - Ён прысеў на краёчак ложка і шырока раскінуў рукі. Шпага замінала яму, і ён зняў яе з сярэбранага ланцужка і безуважна кінуў на канапу. - Ведаеш, мне хочацца мець ад цябе яшчэ аднаго хлопчыка, каб і курфюрст мог стаць хросным і не адчуваў зайздрасці. А потым не шкодзіла б мець і парачку дзяўчынак з тваімі вачыма. - Раптам ён ссунуў бровы. - Спадзяюся, што мне ўдасца атрымаць месца бацькі, хоць гэты Лукезі, гэты італьянскі падліза, усялякімі спосабамі падлашчваецца да мансеньёра. На жаль. . . ён можа ствараць музыку.

Паром! Ну, пэўна ж, паром! Як ён толькі не падумаў пра гэта! Дода тайком, адзін паехаў на пароме, а мёртвыя, калі яны хочуць вярнуцца ў жыццё, вяртаюцца, напэўна, таксама на пароме.  І вось на другі дзень Людвіг апынуўся каля Рэйна, да якога ісці было недалёка. Ён быў страшэнна рады, што хоць раз удалося збегчы ад Крысціны.

Вулічныя хлапчукі з галёканнем бегалі па лужах, пырскалі на малога і ўсё дражніліся:

- Спаніёль! Спаніёль ван Бетховен!

Міма ішоў мужчына, ён злосна закрычаў на дурасліўцаў:

- Зараз жа марш адсюль! Нехта спалохана зашаптаў:

- Гер гофрат фон Бройнінг - і ўсе мігам разляцеліся, як вераб’і.

Мужчына прыветна схіліўся да Людвіга.

- Значыцца, ты. . . ? - Ён узяў яго на рукі. - Я занясу цябе дамоў. Дзе вы жывяце?

- На Рэйнгасэ, дзядзечка, я пакажу табе наш дом.

- Добра. Цябе, здаецца, завуць. . . Людвігам, як дзеда?

- Але, Людвігам ван Бетховенам. -  І ён даверліва балбатаў тое, што чуў ад бацькі ўчора ўвечары.

-  І сям’я ў нас - прыстойная. Бацька больш не п’е. - Яго чырвона-рудаваты тварык праясніўся. - Больш за ўсіх, дзядзечка, я люблю маму, але цяпер яна хварэе і ляжыць у ложку. Яна ніколі не п’е.

- Твая маці хворая?

- Ага. А яшчэ ў нас брацік, зусім маленькае дзіця. Мужчына прыбавіў хады.

- Пэўна ж. Я ведаю.

- Ціха, ён спіць. Можа, пазваць доктара? Ветлівая круглатварая фраў Фішэр на дыбачках падышла бліжэй.

- Дайце паглядзець, што ў яго высыпала.

Магдалена асцярожна падняла коўдру.

- Што ў яго? шкарлятына ці адзёр? Ён жа ўвесь рыць!

Фраў Фішэр, не задумваючыся, прызнала:

- У яго нейкая высыпка, але гэта нічога не значыць.

Магдалена асцярожна, каб не разбудзіць Людвіга, правяла рукою па яго валасах.

- Небарака, усе гэтыя дні мне не было калі дагледзець яго. Хто ведае, колькі ўжо часу сядзіць у ім тая хвароба!

- Кіньце вы думаць пра гэта! Крыху павышаная тэмпература? Дык жа ў дзяцей, як дождж у красавіку - тут ёсць, а тут і няма яе. Але калі вы баіцеся, што можа заразіцца Карл, то даглядаць хворага ахвотна возьмецца Цэцылія. Толькі пасля яна вам яго не аддасць.

- Якія вы ўсе мілыя!

Назаўтра ўвечары, зачыніўшы булачную, фраў Фішэр зноў прыйшла да ван Бетховенаў.

- Як тут наш пацыент?

- Ён проста прытвараецца! Прыкінуўся хворым, каб маці песціла яго.

Людвіг толькі добра ўсміхнуўся.

- Высыпка ў Людвіга прайшла, фраў Фішэр. Засталася толькі млявасць ды няма апетыту. Нягледзячы на гэта заўтра наш маленькі ашуканец будзе бязлітасна выгнаны з ложка.

Фраў Фішэр азірнулася.

- І ты тут, Цэцылія? - Яна засмяялася. - Паглядзіце на яе твар, фраў ван Бетховен. Прыемная навіна зусім не кожнаму прыемная. Цэцылія, ведама ж, радая, што Людвіг акрыяў, але цяпер яна - я гэта вам ужо прарочыла - не захоча саступіць малога. Сёння яна цэлы дзень цягала яго на сабе, бегала за кожным праменьчыкам сонца, каб злавіць яго хлопчыку.

У Цэцыліі ад нечаканасці ў горле засеў камяк.

- Аддаць яго цяпер? Я ж увечары збіралася яшчэ схадзіць з ім на Рэйн. . .

Людвіг прыўстаў на ложку.

- Я найду з табою.

Маці гвалтам прымусіла яго зноў легчы.

- Глядзіце на яго! Не, сёння яшчэ нельга. Будзь жа разумны.

Людвіг, сціснуўшы рукамі скроні, пачаў хістацца на ложку.

- Але ж мяне ля парома чакае Дода! Ён заве мяне, махае рукою, каб я садзіўся на паром!

Твар у Магдалены спалатнеў.

- Што ж гэта такое? Цяпер ён зноў трызніць!

Гадзіннік на карнізе азваўся дробненькім і тонкім галаском. Раней гэта быў гадзіннік прыдворнага капельмайстра, і Людвіг паказваў на яго.

- Там! Нам трэба разбудзіць Доду, каб ён паспеў на ўсяночную.

- Фраў Фішэр, ён жа трызніць! І паглядзіце, няўжо яго зноў абсыпала?

Фраў Фішэр схілілася над хворым. Вочы яе сталі вялікімі і знерухомелі. Выпрастаўшыся, яна скоранька падхапіла сукенку і хустку.

- Фраў ван Бетховен, выклічце доктара. Беднага хлопчыка трэба ў бальніцу!

- У бальніцу? Нізашто, фраў Фішэр!

- Не трацьце розуму і не рабіце глупства. Нічога не зробіш. Па-першае, там будзе сапраўдны догляд, а па-другое - ён жа небяспечны ўсяму дому.

Губы ў Магдалены толькі механічна паварушыліся.

- Што з Людвігам? Фраў Фішэр уздыхнула.

- Цяпер я пазнаю хваробу. Паглядзіце на яго рукі. На іх ужо добра пазначыліся плямы. І на лбе таксама. Яны хутка пакрыюць усё цела. Потым плямы паробяцца папулам І. У яго воспа, чорная воспа.

Магдалена не магла крыкнуць. Нейкая дзікая ўпартасць авалодала ёю.

- Я адна астануся тут з ім. Калі можна, то я буду выстаўляць міску за дзверы. А вы час ад часу кладзіце ў яе крыху яды, добра? Міску вам не трэба нават чапаць рукамі. І вы нікому нічога не скажаце, добра? Ніводнаму доктару?

- Добра, гэта астанецца паміж намі, мы жанчыны.

- Вялікі дзякуй. Я гэтага век не забуду.

Фраў Фішэр адрэзала:

- Што вы там кажаце? Зрэшты, я сама маці! Пра што нам трэба яшчэ дамовіцца? З Крысцінай я ўладжу ўсё сама. Што яшчэ? Можаце заўсёды зваць мяне, калі вам што-небудзь спатрэбіцца.

Фраў Магдалена зразумела, што ёй трэба зачыніць за фраў Фішэр дзверы, бо тая не хацела дакранацца да клямкі. Потым яна прысела да Людвіга на ложак.

- Не плач. Цяпер з табою буду я, доўга, доўга, толькі з табою. Зробім усё, каб гэты час не праходзіў марна. - Яна дакранулася рукою да яго лба. - Плямы нядобрыя, але мы ужо як-небудзь выведзем. Табе хоць крышку халадней ад яе рукі, Людвіг?

Хлопчык, скінуўшы яе руку, затармасіўся.

- Дода заве. Я тут, я ўжо іду. - Ён хацеў вылезці з ложка, але раптам у яго разгарачаных вачах мільгануў страх, ён ніяк не мог адвесці позірку ад нейкага месца ў пакоі.

Здрыгануўшыся, павярнула сваю галаву і Магдалена.

Тоўстыя хлопчыкавы губы шэптам, быццам не хочучы выдаваць таямніцу, выдыхнулі:

- Дода!

- Не, не! - Яна кінулася да яго.

- А вось цяпер ён зноў пакідае мяне. - Упаўшы на ложак, ён заплакаў.

Яна ласкава ўзяла яго на рукі.

- Добры дзядуля прыходзіў сюды, каб сказаць, што і ён цябе вельмі любіць і цяпер будзе глядзець цябе.

Людвіг прыціснуўся сваёй галоўкай да матчынай галавы.

- Праўда, добры Дода вельмі любіць мяне, і на ім было параднае адзенне, як у даксале, калі ён, прыдворны капельмайстар, камандаваў усімі, шпагаю. Ён мне кіўнуў, і ён быў такі сур'ёзны. Ён мяне вельмі любіць, гэтак жа, як і ты.

Шарэла на раніцу, і птушкі пачалі ўжо сонна, летуценна буркаваць, калі фраў Магдалена прахапілася. Здалося ёй, што яе зваў Людвіг? Ці жывы ён? Слабасць і стома авалодалі ёю. Святло свечкі нарэшце ўпала на Людвігавы павекі, і яны зварухнуліся. Яго дужая, як на дзіця, грудная клетка сапла, свісьцела, як кавальскі мех. Святло, гэтая сумесь світанку і бяссільнага мігацення свечкі, дазволіла ёй убачыць, што рудыя плямы пакрылі тым часам увесь твар, падбародак, рот, шыю і нават крыху цела.

Расла і другая трывога.

Павярнуўшы галаву ўбок, яна аж здранцвела. Значыцца, вось што гняло яе душу. Можа, яна нават і не чула гэтых вядомых ёй крокаў, можа, яны патрывожылі яе сваім набліжэннем дзесьці яшчэ здалёк, калі ступілі на ціхую вуліцу. Нейкі момант яна яшчэ спадзявалася, што памылілася, што тая апошняя хвіліна, якой яна са страхам чакала некалькі тыдняў, не настане.

Але змяніць цяпер нічога ўжо нельга, бо шум і грукат чуліся на ўсходках. Цяжкае цела, чапляючыся за парэнчы, падымалася ўверх.

Магдалена рэзка расчыніла дзверы.

- Ёган, табе сюды цяпер нельга заходзіць! Ён вылупіў на яе вочы.

- А чаму, зрэшты, нельга, га, кухарчына дачка? Хочаш забараніць мне ўвайсці ў свой дом?

- У Людвіга цяжкая заразная хвароба.

- Няўжо? - Хістаючыся, густа дыхаючы гарэлачным перагарам, ён уваліўся ў пакой. Хоць гэта і не мела сэнсу, але яна паспрабавала ўгаварыць яго.

- Ёган, табе ж трэба думаць і пра службу.

- Пра службу? Што ты, колішняя камерыстка і ўдава камердынера, разумееш у маёй службе? - Зрабіўшы велічны жэст, ён гаварыў далей: - Я ўвогуле больш не пайду на службу да гэтага распуснага архібіскупа і курфюрста і да яго падхаліма Лукезі. . . - ён здзекліва пакланіўся, - новага гера прыдворнага капельмайстра.

Значыцца, вось якая прычына.

- Калі ласка, не крычы так, Ёган. Ты ж разбудзіш дзіця.

- А зрэшты, што здарыцца, калі я і разбуджу спаніёля? Выспацца яму потым будзе калі, цэлы дзень наперадзе, а мне зноў ісці на службу. - Ён паказаў на ложак. - Што, ён спруцянее?

- Ёган!

Але ён ужо ўпаў у крэсла.

- Па мне дык спаніёль можа і. . . - Ён дзьмухнуў на рукі. - Мяне гэта мала хвалюе. Я ўвогуле плюю на ўсё - на курфюрста і на ўсё гэтае кодла розных там Кеверыхаў, што выбіліся ў паны.

Людвіг заварушыўся. Ён павярнуўся на другі бок і заплакаў. Фраў Магдалена хуценька падбегла да ложка.

- Паспі яшчэ, Людвіг, сон мацуе здароў'е.

Але хлопчык пачаў трызніць:

- А! Мы ж сям'я прыстойная!

Ёган ван Бетховен паблажліва махнуў рукою.

- Чуеш, што кажа нявіннае дзіця? Правільна, Людвіг, мы сапраўды сям'я прыстойная, не якія там кухары і камердынеры. Я прыдворны тэнар курфюрста, хоць і не прыдворны капельмайстар, як гэты смурод, Лукезі! І хоць бабуля твая добра піла, але яна таксама паходзіла з багатай і прыстойнай сям'і, правільна! А твой дзед, прыдворны капельмайстар, што, ніколі не піў? Такі быў брудны скнара - а што яму далі яго грошы?

Дода зноў вярнуўся, але чаму ён спыніўся ў дзвярах? - Хлопчык круціўся на ложку і цяжка дыхаў: - Дода!

Ёган ван Бетховен, ледзь варочаючы языком, мармытаў:

- Няўжо ён бачыць дух старога бруднага жмінды? Правільна, мы сям'я прыстойная!

Абсалютна правільна, сынок. Чуеш ты, кухарчына дачка і колішняя камерыстка? - Галава п’янага апала на грудзі. Ён заснуў у крэсле і захроп.

Праходзілі дні і ночы. Людвіга калаціла ліхаманка, ён бушаваў, трызніў, некуды спяшаўся і заціхаў толькі ў хвіліны поўнай фізічнай знямогі. Бушаваў і Ёган, і тады п’яны, раз’ятраны мужчына і хворае дзіця былі тымі жорнамі, паміж якімі малолася Магдаленіна цярплівасць.

І гэтак бясконцыя ночы і дні. Толькі збярэцца яна памагчы ўстаць Ёгану, як ужо завуць у другі пакой. Фраў Магдалена бяжыць туды.

- Я ж цябе не бачу, мамачка. Яна ўсцешвае яго:

- Хутка ты зноў будзеш бачыць усё. У цябе толькі трошкі прыпухлі павекі.

Наўрад ці было гэта пад сілу чалавеку, нават калі гэтым чалавекам была маці. На павеках таксама высыпалі пухіркі, і з іх, заклейваючы вейкі, цёк гной.

Хлопчык жаліўся:

- Мамачка, піць хачу. - І яна прыстаўляла да яго губ шклянку. Але яму нельга было глытаць. І раптам плямісты твар яго праясняўся: - Паглядзі туды, Дода цяпер смяецца. Ён рады.

- Добра, добра, Людвіг. Дарагому дзядулю ты павінен даваць толькі радасць.

Сэрца яе дрыжала, калі, трызнячы, Людвіг размаўляў з нябожчыкам, быццам бачачы яго побач з сабою. Дзядуля ўвесь час мяняўся, і таму Людвіг то як бы баяўся яго, то зноў усміхаўся яму.

Яна і сама гаварыла з нежывым прыдворным капельмайстрам і, калі хлопчык баяўся яго, брала на рукі, як бы баронячы яго.

- Прашу вас, татачка, не чапайце Людвіга! Прашу вас, улічыце, што ў яго ваша імя! - Яна ведала, што гэта дзівацтва - спрабаваць такім вось чынам перахітрыць смерць, але чаму ж не выкарыстаць кожную магчымасць?

Плямы пачалі знікаць вельмі неахвотна, як бы запаўзаючы ў гнайнічкі-пухіркі. Яны нарэшце зацягнуліся і адваліліся, але назаўсёды пакінулі ўспамін па сабе: як бы злоснымі зубамі пакусаны твар і ўсё цела.

Аднае раніцы Людвіг прахапіўся і слабым голасам паклікаў:

- Мамачка! - Яна тут жа падскочыла да яго. Ён ляжаў з расплюшчанымі вачыма. - Дода. . .

Божа мой, няўжо ўсё пачынаецца спачатку? Але Людвіг задуменна гаварыў далей:

- Што такое магло з ім здарыцца? Ужо даўно ён не прыходзіць да мяне. - Здзіўлена ён зірнуў на маці. - Што з табою? Чаму ты і плачаш і смяешся, мамачка?

І зноў прыйшлі каляды. Раніца.

Босыя Людвігавы ножкі пратэпалі па падлозе.

- Тата!

Маці гатавала снедаць, і ад пярэстай кафэльнай грубкі расплывалася ласкавае цяпло.

- Які няўседлівы. Няхай тата яшчэ паспіць. Ён жа вельмі позна вярнуўся з усяночнай.

- Але ён абяцаўся мне. . .

Ёган павярнуўся на ложку.

- Чорт вазьмі! - Ён засмяяўся. - Праўда, гэта не надта каляднае павітанне, а таму - са святам вас! А чаго хоча пан Людвіг?

Хлопчык, яшчэ ў начной кашульцы, працягнуў яму скрыпку і смык, падарунак, атрыманы на куццю.

- Тата, пакажы мне, як трэба правільна іграць на скрыпцы.

Магдалена паціснула плячыма.

- Ёган, я тут ні пры чым. Ён сеў на ложку.

- Не ведаю, ці іграў хто-небудзь, як стаў свет, на скрыпцы ў ложку! Не хапае толькі, каб у час гэтага музіцыравання я збіўся з такта. Наўрад ці можна атрымаць ад гэтага якую-небудзь мастацкую асалоду, хоць я, як сведчаць самыя высокія інстанцыі, не такі ўжо і дрэнны скрыпач.

Настроіўшы скрыпку, ён пачаў іграць. Людвіг уважліва слухаў гэтую ігру і, калі бацька скончыў, заплюшчыў вочы.

- І гэта ўсё, тата? Пальцамі левай рукі трэба рабіць крыху вось так, а праваю рукою. . . - Ён задаволена кіўнуў галавою. - Дзякую, цяпер я і сам сыграю.

Бацькава рука міжволі пацягнулася, каб пагладзіць валасы.

- Сілы нябесныя! Наш сын! Гэтага ж, мабыць, не было і ў самога вундэркінда Моцарта! -

Ён ускочыў з ложка. - Але ў мяне сапраўдны - велічынёю з прыдворную царкву - калядны голад на калядны пірог!

Магдалена паказала на стол.

- Калі ласка, усё чакае не дачакаецца вас, гультаёў.

Ёган кінуў позірк на акно.

- Якая сёння дзівосная пагода! Белізна проста б'е ў вочы, літаральна крычыць, што будзе холад. Ужо сёння ноччу ў прыдворнай царкве было вельмі холадна, калі Лукезі. . .

Магдалена, рэжучы пірог, паволі павярнулася да яго.

- Ёган, што ты абяцаў мне сёння ўночы?

- Сапраўды. Перапрашаю! - Ён пакланіўся. - Гэтае імя, я ўжо і не памятаю яго цяпер дакладна, на час святаў будзе ў нас выкраслена з ужытку.

Людвігу хацелася іграць на скрыпцы. Але маці спыніла яго.

- Дарагі мой хлопчык, пакладзі скрыпку, пакладзі смык. Спачатку нам трэба ўмыцца і апрануцца, гер музыкант.

- І ўмыцца, мамачка? - Людвіг аж абурыўся. - Толькі ўчора мяне купалі. - Маці ўжо трымала ў руках губку.

- І ты думаеш, гэтага хопіць да другіх каляд?

Заверашчаў, напомніў пра сябе Карл. Яна ўздыхнула.

- З вамі, трыма мужыкамі, клопату не абярэшся. Сядзі ціха, Людвіг!

Ёган, выгнуўшы спіну, як кот, падышоў, ставячы ногі па буслінаму ціха і асцярожна.

- Бачыш, Людвіг? Сёння каляды, і нашу добрую маму лепш не чапай. - Ён пачаў паласкаць рот, мармычучы нейкую арыю.

Пасля снядання Людвіг адразу ж захацеў выбегчы з-за стала.

- Сядзі! Ты нават малака не выпіў.

Хлопчык выцер рот.

- Я не галодны, дый часу ў мяне няма, мамачка.

Магдалена паківала галавою.

- Ён і спаць лёг са скрыпкаю.

Потым да Ёгана данеслася Людвігава пілíканне на скрыпцы.

«- Зусім як гер Лукезі. Можа, ён калі-небудзь папраўдзе стане прыдворным капельмайстрам?

Людвіг узлаваўся.

- Тата, можаш занесці скрыпку назад. У мяне яна не іграе.

- Во, няздара! Калі б гэта ты сказаў пасля дзесяці гадоў старанных практыкаванняў! Праўда, кажуць, што Моцарт зайграў на скрыпцы з першага ж разу.

Фраў Магдалена падумала, што ёй трэба заступіцца за сына.

- Ведаеш, Ёган, я лічу, што ўсё гэта глупства. Бо вучыцца трэба нават цыраваць шкарпэткі ці пячы калядны пірог. Хіба ў музыцы бывае іначай?

Людвіг нечакана запытаўся:

- А скажыце, хто такі Моцарт? Ёган засмяяўся.

- Моцарт? Велічыня ў музычным свеце. Піяніст-віртуоз, яму каля дваццаці гадоў, прыдворны арганіст зальцбургскага архібіскупа. Яго слава была на піку недзе ў твае гады і, мабыць, прайшла, але ён іграў на піяніна гэтак выдатна, што яго цалавалі імператрыцы і каралевы. Увогуле, пара і табе пачаць іграць на піяніна. Моцарт быў геніем.

Людвіг зморшчыў лоб.

- А што такое геній? Калі гэта нешта добрае, то і мне хочацца стаць геніем і Моцартам.

Маці пагладзіла яго па непакорнай грыве.

- Ах ты, мая малпачка. - І пачала тлумачыць: - Стаць геніем і Моцартам нельга. З гэтым трэба ўжо нарадзіцца. Ты ж нарадзіўся не Моцартам, а Людвігам ван Бетховенам.

Хлопчык забегаў вачыма.

- А гэта горш? - Ён абышоў вакол стала і паклаў рукі на бацькавы калені. - Тата, а калі мы пачнём вучыцца іграць на піяніна?

Ёган ван Бетховен усміхнуўся і ўстаў.

- Калі хочаш, пачнём зараз. Першы ўрок я магу даць табе цяпер, пакажу, як можна адразу ступіць да генія. - Ён павёў яго да раяля і пасадзіў на калені. - Гэтым разам абыдземся без

фокусаў. Не кладзі сваіх рук на мае. Не трэба. Вытні абедзвюма рукамі па клавішы до, злева мезенцам, справа вялікім пальцам. Вось тут і тут. Так, усё гэта завецца актаваю. Хутчэй, зараз мне трэба будзе ісці ў даксал, дзе чакае гер Лукезі. Ты гатовы? Цяпер прайграй усе тоны наверх, вось тут да другога до. Нельга адным пальцам. Я пакажу табе, як трэба. Вось тут, і вось так памяняцца, бачыш? Называецца гэта «перастаноўкаю». Цяпер паспрабуй ты. Яшчэ раз абодва тоны і клавішы до і до, а як завецца прамежак паміж імі? Што? Ужо забыў? Які ты няўважлівы!

Фраў Магдалена ласкавым голасам паспрабавала ўмяшацца:

- А можа, ты крыху больш як трэба нецярплівы, Ёган? Уявіўшы сабе, што неўзабаве яму прыйдзецца спяваць у даксале, на кафедры прыдворнай царквы пад кіраўніцтвам Лукезі, Ёган аж закіпеў ад злосці.

- Я занадта нецярплівы? Ён, зрэшты, не першы мой вучань. Людвіг усяго толькі някемлівы няздара, і больш нічога.

- Ты ж гэтага яшчэ зусім не можаш ведаць, Ёган.

- Я гэта ведаю і ведаю цвёрда. - Ён ускочыў з месца. - Але варта сказаць тут хоць слова супраць гэтага дурасліўца ці супраць гера Лукезі, як. . . мабыць, будзе лепш, калі я найду з хаты, да твайго любімага гера прыдворнага капельмайстра Лукезі.

- Табе не здаецца, што паводзіш ты сябе крыху смешна, Ёган? - Яна ведала яго, ведала прычыну яго гневу і гарачнасці, стрымаць якой ён больш не мог.

У дзвярах ён яшчэ раз павярнуўся. Трэба было адказаць ёй ударам, але самым моцным. Ён выкінуў наперад руку.

- Я хоць і не Моцарт і на твой бабскі розум нават не Лукезі, таму што я не пішу гэтых бязглуздых банальных опер - мяне ўжо і гэтым ты дакарала!

- Я дакарала цябе?

- І тым не менш я скажу табе, што ўсё ж я не такая тугавухая нікчэмнасць, як твой брыдкі Людвіг!

Цяпер яна была ўвасабленнем спакою.

- Ты яшчэ куды больш брыдкі, калі ганіш такімі агіднымі словамі сваю плоць і кроў.

Ён зароў:

- Сваю плоць і кроў!

- Ты вар'ят, Ёган, я гэта даўно ведаю. І гэта твая падзяка за маё каханне.

Дамы ў старым горадзе, асабліва каля Рэйна, цесна туліліся адзін да аднаго. З гадамі іх прыходзілася раскідаць або паднаўляць і расшыраць. А гарадскія валы не давалі свабоднага росту ўшыркі, таму ўзнікалі сапраўдныя лабірынты. І з Гіргасэ, дзе жылі знатныя сем'і, а не толькі прыдворныя музыканты і іншая другарадная прыдворная чэлядзь, да дома пекара Фішэра на Рэйнгасэ таксама вёў ход. Аднаго разу там у густым цяні стаялі два хлопчыкі. Было ім гадоў па дванаццаць, але яны паглядалі на тое, што адбывалася ў малюсенькім садочку Фішэраў, са спачувальнай перавагай вопытных людзей, якім жыццё даўно ўжо раскрыла апошнія таямніцы.

- Смеху варта! - гаварыў рыжы Бенедыкт Бахем. Яго школьны таварыш Франц Вегелер паціснуў плячыма. - Што ты хочаш, дзяўчынкі! Бо каб дастаць нагамі да даху куратніка, дастаткова гушкануцца разы тры-чатыры.

Яны б ахвотна паказалі гэтым істотам з косамі і у фартушках сваё майстэрства, але пайсці на гэта ім перашкаджаў гонар. Ці ж можна ім мець нешта агульнае з дзятвой, частка якой нават гуляла яшчэ ў лялькі? Маленькі хлопчык, якому такія думкі, відаць, і ў галаву не прыходзілі, спакойна гуляў сабе з дзяўчынкамі і гучна лічыў:333

- Дзевятнаццаць, дваццаць! Усё! Хопіць, Цэцылія! Цяпер мая чарга, злазь! - Ён ускараскаўся на дошку арэляў, якая гойдалася над зямлёю занадта высока для яго, і закрычаў: - Сцеражыцеся!

Франц Вегелер засмяяўся:

- У гэтага брыдкага карліка, канечне ж, нічога не выйдзе.

Бенедыкт Бахем, зморшчыўшы дабрадушны, абсыпаны вяснушкамі твар, не згадзіўся:

- Пабачым, Вегелер.

- Але ж яму самае большае чатыры гады.

- Чатыры? Ды ён ужо даўно ходзіць у школу да гера Руперта на Нойгасэ. - Словы гэтыя гаварылі яшчэ і аб нечым іншым. Франц Вегелер кіўнуў, быццам хацеў сказаць: так, Нойгасэ, гор Руперт, значыцца, бедныя простыя людзі. Бенедыкт Бахем дадаў: - Бацька - прыдворны

музыкант, тэнар. Але жыццё ў іх магло быць лепшае, калі б ён не ўсё прапіваў.

Франц Вегелер здзівіўся:

- Няўжо гэта п’яніца Бетховен?

- Але, а той, што сядзіць вунь там на арэлях, і ёсць яго старэйшы сын.

Людвіг лічыў:

- Адзінаццаць, дванаццаць, трынаццаць! - Уцягнуўшы галаву ў плечы, ён стаў падобны на гарбуна, з зацятаю энергіяй згінаючы і выпрамляючы сваё цела. Чорныя валасы яго развяваліся, а ён усё лічыў і лічыў.

- Семнаццаць! - Штурхнуўшы нагою аб край даху куратніка, ён даў арэлям спыніцца. Потым саскочыў на зямлю, адкінуў іх дзяўчынцы ў чарзе. - Другі раз я ўжо на пятнаццатым ці шаснаццатым падлёце. . .

- Людвіг!

Голас, што пазваў яго, гучаў неяк занадта лагодна. Хлопчык застыў на месцы. Паволі павярнуў галаву, паглядзеў наверх, на вокны другога паверха.

- Ты ўжо займаўся музыкаю, Людвіг?

Той не адказаў. Яго чырвоны твар пашарэў, а губы пачалі дрыжаць.

- Гэта яго бацька, - шапнуў Бенедыкт Бахем. Адзваніў на званіцы звон, і ў цішыні, што аддавалася глухім рэхам, пачуліся на лесвіцы крокі хлопчыка, які спяшаўся дадому.

- Ну, пайшлі, Франц! - Бенедыкт Бахем паспрабаваў пацягнуць за сабою Франца Вегелера.

- Куды нам спяшацца? - Франц Вегелер, які ўпершыню наведваў свайго сябра, запыніўся. Што гэта там такое?

Пераcталі гушкацца і дзяўчынкі, спалохана паглядаючы на адчыненыя вокны.

Заплакала малое.

- Гэта Франц, іх малодшы. У іх трое дзяцей.

Усе гукі выразна чуліся на двары.

- Вазьмі ўслончык, Людвіг!

- Услончык? - перапытаў Франц Вегелер.

- Зараз ён з’явіцца ля акна, дзе стаіць раяль. Яму заўсёды прыходзіцца станавіцца на ўслончык, бо калі ён сядзіць, то не можа яшчэ дастаць да клавішаў. Бачыш, а вось і ён.

У аконнай раме паказаліся чорны віхор і плечы хлапчука. Ён яшчэ раз зірнуў уніз на ўслончык, магчыма, каб пераканацца, ці надзейна стаіць ён на сваім месцы.

- Якую гаму іграць?

У вачах Франца Вегелера з’явілася здзіўленне.

- А ён увогуле можа іграць?

Бенедыкт не адказаў. Зверху пачуўся голас Ёгана ван Бетховена:

- Спачатку до мажор праз дзве актавы, а потым у квінтавым крузе, пакуль я не скажу «стой».

Прагучала гама.

- Стой! Леваю рукою не зусім чыста. Яшчэ раз. Цяпер наступную. Соль мажор. Што гэта такое?

Віхор крыху зварухнуўся ўбок.

- Што тата маюць на ўвазе?

- Я пытаюся, што ты там іграеш?

- Гаму соль мажор.

- Ага. - Бацькаў голас гучаў вельмі ціха. - Колькі часу ты сёння паўтараў гамы?

Хлопчык моўчкі апусціў галаву.

- Ну, вядома, табе ж часу не хапіла, бо трэба было гушкацца. Бацькава слова табе нічога ўжо не значыць.

У руках у Ёгана ван Бетховена паявілася стусінка, якою ён пачаў лупцаваць хлопчыка. Удары сыпаліся градам, і гамы паліліся зноў.

Бенедыкт Бахем шапнуў:

- Вунь ідзе яго маці!

Франц Вегелер сціснуў рукі ў кулакі.

- Гэта добра! Гэта добра!

Бенедыкт уздыхнуў:

- Але яна зноў нічога не даб’ецца.

Фраў Магдалена пачала прасіць:

- Ёган!

- Напомні лепш свайму сыну, каб ён слухаўся мяне. А цяпер сыграй санату Руста.

Нарэшце бацька задаволена кіўнуў.

- Вось бачыш, Людвіг. Калі захочаш, то ўсё ў цябе выходзіць. Слухай свой урок на заўтра: адну гадзіну пайграеш гамы і яшчэ, - ён пакорпаўся ў нотах, - вывучыш новую сенату.

Хутка хлопчыкі пачулі, што Ёган ван Бетховен выйшаў на вуліцу. Бенедыкт Бахем запытаўся:

- Ну што, умее ён іграць? Франц Вегелер паматаў галавою:

- Я на гэта не кінуў увагі. Увесь час я бачыў толькі маленькага небараку, бачыў, як ён - ён жа нават ні разу не крыкнуў, калі яго білі! - як ён стаяў там, спачатку крыху згорблены, а потым - выпрастаўся, калі яго білі, і пачаў іграць. - Франц Вегелер цяжка дыхаў: - Як жа можна іграць, калі цябе б’юць? Я гэтага ніколі не забуду.

Нейкі час Людвіг брынкаў штосьці далей, а потым у пакой увайшла маці.

- Божачка, у цябе ж з рота цячэ кроў!

- Кроў? - Выцершы рукою рот, ён паглядзеў на далонь. - Я моцна сціснуў зубы. Ах, як я ненавіджу піяніна, Моцарта, музыку. . .

Хлопчык стаў цяжкім дзіцём. Вядома, ён мог быць паслухмяным і ласкавым, але апошнім часам стаў нейкі дзікаваты і свавольны, надзіва не па ўзросту сталы. Магчыма, вінаватыя былі артысты, якія наведвалі іхні дом, а потым з’явілася ў ім яшчэ нешта - чужое, і ўсё яно разам рабіла яго трывожна незразумелым. Яго маленькі рост таксама ўводзіў у зман. Быў ён шыракаплечы, можна сказаць, грубавата-здаровы і мускулісты, але на свае гады - карлік. Як вырас у параўнанні з ім Карл, які галёкаў у суседнім пакоі і цягаў па падлозе цацачны рэйнскі караблік.

Сярод сваіх школьных таварышаў Людвіг быў самы маленькі і, каб прымусіць лічыцца з сабою, часта ўсчынаў бойкі. Яго лічылі задзірам. Музычная дрэсіроўка, калі бацька мог быць і спагадлівы, але значна часцей быў грубы, у залежнасці ад настрою і выпітага алкаголю, зрабіла яго да таго ж і ўпартым. Гер ван дэн Эдэн, сябар нябожчыка прыдворнага капельмайстра, зразумела, зычыў яму дабра. Аднойчы ён, поўны гордасці, заявіўся да Ёгана з Людвігам, якога вывучыў іграць на клавесіне некалькі рэчаў, і вось цяпер Ёган спрабаваў лупцоўкаю зрабіць з Людвіга другога Моцарта. Каб жа Ёган ці той жа ван дэн Эдэн знайшлі ў хлопчыка нейкія там асаблівыя музычныя здольнасці!

Моцарты, Русты і Стаміцы, усе гэтыя вялікія людзі чые імёны і ёй, Магдалене, жонцы музыканта, даводзілася ўжо чуць, нараджаліся таксама не кожны дзень. Ці ж гэта не вар’яцтва!

- Хадзі сюды, Людвіг. - Фраў Магдалена прысела ў крэсле.

Неахвотна ён падышоў бліжэй, але яна, абняўшы яго пагладзіла сінякі на рабым ілбе. Ён застагнаў:

- Баліць, мама!

- А калі я ціхенька, вось так?

- Тады баліць яшчэ болей. . .

- Людвіг, ты не павінен ненавідзець бацьку.

Ён рэзка адкінуў назад галаву.

- Чаму не павінен?

- Бо гэта брыдка.

Яго вочы злосна заблішчалі.

- Я і сам брыдкі.

- Людвіг, хто ненавідзіць, той не дае радасці, не забывайся пра гэта ніколі. Не забывай і таго, што няма нічога лепшага, чуеш, Людвіг, чым даваць радасць другім, нягледзячы ні на што.

Ён не зварухнуўся. Ён чакаў, толькі чаго? Можа, нейкага суцяшэння? Голас мацеры гучаў цвёрда і ў той жа час неяк абыякава. Парада больш нагадвала загад, не было ў ёй аніякай спагады. Ён жа яшчэ нічога не ведаў пра тое калецтва, якое ў душы пакідае воспіны пакут,

знявечыўшы да непазнавальнасці яе аблічча.

У класны пакой увайшоў гер Руперт.

- Добрай і радаснай вам раніцы, дзеці!

Яны ведалі, што адказваць.

- Вялікі дзякуй. Добрай і радаснай раніцы і вам, гер настаўнік.

Гера Руперта адказ сёння не задаволіў.

- Дрэнна выйшла. - Стукнуўшы стусінкаю па пульце сказаў: - Яшчэ Раз! Добрай радаснай вам раніцы, дзеці!

Дзеці ўголас:

- Вялікі дзякуй. Добрай і радаснай раніцы і вам, гер настаўнік!

- Гэта ўжо лепш. - Гер Руперт, нібы дырыжорскую палачку, узняў сваю стусінку. - А цяпер з пакораю і глыбокаю пашанаю спяём нашу ранішнюю песеньку. - Ён пачаў спяваць першы, і Людвіг зноў быў пад уладаю дзіва, як спяваў гер Руперт. Як яму толькі ўдавалася заўсёды спяваць мелодыю правільна? Да таго ж у гера Руперта быў добра змазаны голас, быццам перад гэтым ён еў слівы ці праглынуў сырое яечка. Так, калі яму трэба было спяваць, часам рабіў і бацька, лічачы, што гэта найлепшы сродак. Так-то яно так, але ў яго самога нічагусенькі не выходзіла. Аднаго разу ў куратніку ў Фішэраў ён выпіў запар тры яшчэ цёплыя яечкі і паспрабаваў потым зацягнуць адну з бацькавых арый. Але ягоныя спевы падобны былі на хрыпоты.

- Сядайце! Складзіце рукі! Вывучаем далей біблейскія гісторыі. Сёння я раскажу вам, - тут гер Руперт запыніўся, і Людвіг, седзячы наперадзе, сачыў за ім, скасіўшы вочы. Настаўнік нагадваў яму пеўня ў Фішэраў, хоць хада ў гера Руперта была больш украдлівая, а замест бліскучага чырвонага грабеньчыка яго аздаблялі рэдкія бялявыя валасы.

- Значыцца, так, дзеці. Сёння я раскажу вам пра Каіна і Авеля. У Адама і Евы былі два сыны; старэйшага звалі Каінам, а малодшага - Авелем. Авель быў пастухом, а Каін - земляробам. Аднаго разу яны прыносілі на полі ахвяру, і дым ад Авелевай ахвяры падняўся высока ў неба. Значыцца, бог прыняў ахвяру. Дым жа ад Каінавай ахвяры слаўся нізка, і было гэта знакам, што бог не захацеў прыняць ахвяры. Тут Каін узлаваўся на свайго брата Авеля і забіў яго. А каб бог не бачыў мёртвага цела, Каін закапаў свайго брата ў зямлю.

Людвіг ведаў гэтую гісторыю ад мацеры, і ўсё ж ён зноў заплюшчыў вочы, ахоплены страхам. Як жа гэта нехта мог забіць свайго брата?

- Але бог, які ўсё бачыць, убачыў і гэта, і таму пазваў з воблакаў: «Каін! Каін! Дзе твой брат Авель?» І тут Каін зманіў: «Адкуль я ведаю? Што, мне вартаваць свайго брата?» Бог тут узлаваўся і пачаў крычаць на яго: «Што ты нарабіў? Я цябе праклінаю, і нідзе на зямлі ты не знойдзеш сабе спакою!» А каб усе людзі бачылі, што Каін пракляты, бог паставіў яму на лоб кляймо, каінава кляймо. Людвіг, як завецца гэтае кляймо?

Людвіг ускочыў з месца. Яго твар збялеў, як у мерцвяка, бо позіркі ўсяго класа з нейкім дзіўным выразам былі скіраваны на яго. Ён не ведаў, білі яго ці не. Ён ведаў толькі, што значылі гэтыя вочы, якія глядзелі на яго чырвоны твар, на воспіны, тоўстыя губы, а можа, і яшчэ на што іншае, што ў душы ён адчуваў толькі як нейкую няпэўнасць.

Калі ён ішоў дадому, зверху бязлітасна пякло сонца. Жарам дыхала лава бруку, быццам збіралася пацячы па вуліцы. Вільгаць ад дажджу, што прайшоў раніцаю, удушлівымі выпарэннямі падымалася ўгору. Трохі перакусіўшы, Людвіг пайшоў у музычны пакой. Адыграўшы сваё заданне, ён сеў ва школьныя ўрокі. Маці з Карлам і Ёганам пайшла гуляць. Нарэшце ён згарнуў кніжкі і сшыткі і паклаў іх у ранец. Няўжо ён сапраўды Каін? Чаму? Няўжо ён адзначаны каінавым кляймом? Ён доўга і ўважліва разглядаў сябе ў люстэрку. Які ён усё-такі брыдкі! Вось ён кіўнуў самому сабе, і чырвоны з воспінамі твар у люстэрку кіўнуў у адказ. А вось Людвіг паварушыў тоўстымі губамі: «Нідзе на зямлі ты не знойдзеш сабе спакою!»

Раптам прыйшла нечаканая думка. Ён сам паспрабуе запытацца ў бога, Каін ён ці не. Дазнацца пра гэта паможа ахвяраванне. Трэба толькі дапільнаваць, прынята яно ці не, падымецца дым у неба ці, чадзячы, пачне слацца па зямлі. Але. . . што ён можа прынесці ў ахвяру? Ён не пастух і не земляроб. Ён толькі музыкант, прынамсі, павінен стаць ім, бо так хацеў бацька, і таму, напэўна, можа ахвяраваць толькі нешта музычнае. Але ж гэта смешна як мала. І ўсё ж у душы расла нейкая ўпэўненасць.

Ён паставіў услончык каля раяля. Што яму сыграць? Маленькія пальчыкі прайшлі па

клавіятуры, і пры гэтым яго позірк запыніўся на партрэце дзядулі. Партрэт увачавідкі змяніўся, здаецца, ажыў, і цяпер дзядуля глядзеў на яго так, быццам ганарыўся ім. Гэта дало яму бадзёрасці; адначасна з ім чынілася нешта таямнічае, чаго раней ніколі не было. Пачалося яно з дзіўнага неспакою, што нагадваў ласкавы подых ветрыку і рабіў шчаслівым і лёгкім яго дыханне. Яшчэ нагадвала яно вялікую, што аж свяцілася ў вачах, радасць, і ён таксама не ведаў, адкуль яна ўзялася. Потым подых перарос у шапаценне, стаў падобны на слабы агеньчык, і, быццам вабячы, пачаў танцаваць перад вачыма.

Людвіг іграў, браў акорды, хрыплым голасам заводзіў песню. І хоць спяваў ён тыя страшэнныя словы пракляцця, але спяваў іх у дзікім экстазе: «Нідзе на зямлі ты не знойдзеш сабе спакою!»

Штосьці набліжалася, равучы, але гэта быў вецер на вуліцы, які звычайна ўсчынаўся перад навальніцаю, гайдаючы дрэвы, а потым з такою сілаю навальваўся на хаты, што аж падымала чарапіцу.

Людвіг павярнуўся. Чорнае воблака на небе ўсплыло яшчэ вышэй, а пераможанае сонца высоўвала з-пад яго яшчэ толькі некалькі нясмелых агністых мячоў. Бліснула яркая маланка, і падобна была яна на жудаснае каінава кляймо, што лягло на лоб свету. За маланкаю грымнуў гром. Нешта вяло Людвігаву руку, прымушала яе нешта рабіць, і тады ён узяў акорд, які задзірліва зазвінеў на ўсю моц, якраз тады, калі ўдарыў чарговы гром.

- До мінор. - Ён адкрыў таямніцу вялікага грому. - Значыцца, гэта до мінор! - Маланка, гром, дом дрыжыць, і ўсё гэта до мінор!

Раптам у пакой убегла маці.

- Божухны! - Яна перахрысцілася. Хлопчык паглядзеў на яе, нічога не разумеючы.

- Гэта ж толькі до мінор.

- Людвіг, што гэта з табою сёння?

Усё вакол яго - нясцерпна будзённа і шэра. Дзядуля нерухома і безуважна глядзеў на яго з партрэта, а за акном шумелі, пляскаліся па лужынах і разбіваліся на вялізныя бурбалкі халодныя бліскучыя вадзяныя ніці. Над Рэйнам, нібы коннікі са сцягам безнадзейнасці, паўзлі воблакі, і яму нічога больш не заставалася, як толькі закрыць раяль. Няўлоўнае прапала, што наведала яго ўпершыню, што адкрылася яму ў сваім утрапёным і жахлівым бляску, дакрануўшыся і адзначыўшы яго, няхай на першы раз усяго толькі нейкаю лёгенькаю ўсмешкаю.

Цяпер да Рэйна стала зноў далей, бо яны пераехалі жыць на Нойгасэ, дзе жылося далёка не так добра, як у Фішэраў. На новым месцы не было ні пякарні, ні крамкі, у якой Людвігу дазвалялася ўжо сёе-тое прадаваць. Ды і ўсё іншае было дакладна абгаворана паміж імі вечна ўсмешлівым пекарам Фішэрам. Ён вывучыцца на кандытара, а потым складзецца грашыма з майстрам Фішэрам. Вядома, дзеля гэтага яму, магчыма, прыйдзецца ажаніцца з Цэцыліяй, хоць тая, праўда, завялікая для яго і старэйшая на дзесяць гадоў. Але ў астатнім план меў відавочныя перавагі. Па-першае, ён дазваляў яму адысці ад музыкі, па-другое, можна будзе, надзеўшы белую шапачку, стаяць у краме, рэзаць торт і есці колькі ўлезе. Бо ён жа будзе тады адным з гаспадароў, якія самі вырашаюць такія справы. Ну, а цяпер што? Яны пераехалі, і вось цяпер яму прыходзіцца займацца не толькі на раялі, але яшчэ і на скрыпцы. А за ёю на чарзе і альт з віяланчэллю. І без гэтага з-за музыкі ўжо цяпер увесь ягоны занятак на працягу дня - адна шалёная беганіна, бо «на ўсякі выпадак» яму стала патрэбна яшчэ вучыцца ў гера ван дэн Эдэна іграць на генерал-басе.

На вуліцы нехта свіснуў, і Людвіг адразу ж кінуўся да адчыненага акна, махнуў рукою.

- Падымайся наверх! - Потым павярнуўся назад і сказаў: - Мамачка, гэта Штумпф.

Фраў Магдалена адарвалася ад шліва і дакорліва паглядзела на яго.

- З усімі людзьмі ты паводзіш сябе неяк палахліва, бывае, што і грубавата, і толькі вось з гэтым прыдуркаватым увесь час сядзіш разам.

Людвіг паспрабаваў падлашчыцца да яе.

- Ці ж табе не шкада яго? Яна ўздыхнула.

- Вядома, шкада. Ён жа з такой паважанай сям'і, дзе ўсе - прыдворныя музыканты, ды і сам ён - скрыпач. І трэба ж яму злегчы з гэтай загадкавай хваробай і падняцца не ў сваім розуме.

Хлопчык пацісnуў плячыма.

- А можа, яму гэта не так ужо й дрэнна? Бо цяпер яму больш не трэба пакутаваць, што ў

яго няма сапраўднай аплікатуры, за што яго раней увесь час дакаралі. Праўда, ён скрозь гаворыць аб гэтым, але, як мне здаецца, ён балбоча проста так, сам сабе.

- А зрэшты, што такое «аплікатура»? - Людвіг засмяяўся. - Гэта ўсяго толькі расстаноўка пальцаў.

Пачуліся чыесьці крокі, і фраў Магадалена аж скрывілася.

- Штумпф такі брудны.

- Гэта толькі таму, што ноччу яму прыходзіцца спаць у хляве. Дай яму, калі ласка, кавалак хлеба. Ён заўсёды галодны.

Магдалена ўстала.

- У мяне засталася яшчэ талерка супу.

Пастукалі ў дзверы, і Людвіг крыкнуў:

- Заходзьце смела, Штумпф.

У пакоі з’явіўся дурны. Было яму гадоў дваццаць пяць, але зблытаная рудая барада рабіла яго старэйшым. На ім было падранае паліто, залапленае дзе толькі можна латкамі самых розных колераў. У правай руцэ ён трымаў трысцінку, якою цяпер дакрануўся да краю капелюша, каб прывітацца з фрау Магдаленаю. Па яго твары блукала добрая, але трошкі паблажлівая ўсмешка. Потым позірк яго ўпаў на Людвіга. і ён расхінуў паліто, з-пад якога паказаўся паношаны абарваны мундзір прыдворнага музыканта, з кішэні тырчаў памяты скрутак з нотамі, па якіх ён на вуліцах Бона дырыжыраваў мелодыі, што гарлапаніў сам. Нізка пакланіўшыся, ён зняў зашмальцаваны капялюш.

- Бач, Людвіга ты вітаеш, як бы ён - мансеньёр.

- Людвіга? - Штумпф, здавалася, намагаўся ўдумацца ў сэнс яе слоў. Зморшчыўшы лоб, ён закаціў вочы і дурнавата засмяяўся. Людвіг узяў яго за руку.

- Вельмі добра, што ты якраз праходзіў міма і заскочыў да мяне. Я тут практыкуюся на скрыпцы, і адно месца ў мяне ніяк не выходзіць. Можа, ты яшчэ не зусім забыў скрыпку і сыграеш мне цяпер гэтае месца? Толькі мая скрыпка табе замалая. Вазьмі скрыпку майго бацькі.

Штумпф зайшоўся ў экстазе:

- Скрыпку!

Калі крышку пазней фраў Магдалена прынесла суп і хлеб, Людвіг спытаўся ў яе:

- Ты чула? Ён іграў вельмі прыгожа, хоць усяго толькі некалькі тактаў.

Маці паставіла талерку на стол. Дурань пачаў сёрбаць, а ў гэты час Людвіг прыціснуў скрыпку падбародкам.

- А можа, ён іграў лепш за іх усіх толькі якраз той аплікатурай, якой у іх не было. . .

Маці зноў пайшла на кухню. Людвіг запілікаў на скрыпцы, і Штумпф адразу скрывіўся:

- нікудышная аплікатура!

Хлопчык гучна засмяяўся.

- Я і сам гэта ведаю, Штумпф.

- Перастань жа! Лепш сыграй мне што-небудзь на раялі.

- Добра, сыграю табе санату Філіпа Эмануэля Баха. - Іграць пачаў у хуткім тэмпе, але Штумпф зноў зморшчыўся. - А што ж табе тады сыграць? - Ён, брынкаючы, паспрабаваў нешта - і яго аж скаланула. Вось так яно нечакана прыйшло на гэты раз, зноў вярнулася да яго, цягнула за сабою, злёгку патрэсквала, разрасталася. . .

- Добра, Людвіг, толькі хутчэй! - Штумпф малаціў лыжкаю па стале, а потым ускочыў, штурхануў крэсла, аж яно перакулілася, і пачаў дырыжыраваць лыжкаю, падскокваючы і нешта гарлапанячы. Паліто на дурню развявалася, і ён аж роў ад захаплення.

Фраў Магдалена ўляцела ў пакой.

- Божачкі, што тут здарылася?

Супакойся, мамачка, Штумпф - адзіны чалавек, які лічыць, што я і мая музыка чагосьці вартыя. І хоць музыка, пад якую ён танцуе, сумная, але яна ўсё-такі падабаецца.

- Пажар! Пажар! - У дзверы дома моцна загрукалі. Важкія крокі, прыглушаныя пярынаю глыбокага снегу, патупалі далей, і стук паўтарыўся побач. - Пажар! Пажар! - Людвігу здалося, што ён сніць анёла, і той ідзе ад адных дзвярэй да другіх, каб на кожных намаляваць крывавы крыж. Нечы выразны голас сказаў потым каля вокан: - Гарыць замак; - нехта другі ўдакладніў: - Гарыць «мыш», пачалося з-пад даху. - Потым даляцела яшчэ: - . . . агонь пачаў пералятаць з пакоя ў пакой, і ўсё. . .

Усё вакол гуло. Няўжо гарыць «мыш», тая частка замка, дзе жыў курфюрст? Другая частка, адведзеная канцлеру графу Бельдэрбунгу, звалася «кошкаю». Жаданне паздзекавацца знайшло сваё адлюстраванне ў назвах, і абываценлі разумелі іх так, што кошка павінна была глядзець, каб мыш не выкідвала столькі грошай на раскошнае жыццё двара, як гэта рабіў нябожчык курфюрст і архібіскуп.

Бацькі ўжо ўсталі. Бацька буркнуў:

- Гэтага нам яшчэ не хапала! Яшчэ і вецер усхадзіўся! Мне зараз жа трэба бегчы туды.

Пачалі званіць званы, а потым забілі барабаны.

- Уставай, Людвіг, і апранайся. Гертраўд, - паклікала маці служанку. А тая ўжо прыбегла ў пакой, яшчэ ў сарочцы, з заспаным тварам.

Раптам маці пахіснулася. Дом здрыгануўся і затрашчаў, як развальваючыся. З трэскам зліўся крык спалоханай Гертраўд. Заплакалі і перапуджаныя брацікі. Маці, аднак, не разгубілася.

- Гертраўд, перастань крычаць. Узарваўся парахавы склеп, і больш нічога. Накінь на сябе што-небудзь і апранай маленькага Ёгана. Добра, Карл, зараз я падыду да цябе. Не бойцеся. - Яна зірнула на Людвіга. - Прынамсі, на цябе магу спадзявацца? - Адным махам ён саскочыў з ложка падбег да акна.

Цэлы віхор іскраў падняўся высока ў неба. Вецер гнаў яго ўбок, і ён, як нейкі казачны дождж, сыпаўся ўніз. Замак гарэў як свечка, з усіх вакон, здавалася, ківалі трапяткія чырвоныя рукі, пальцы якіх пераходзілі ў дым. Вулічкі былі асветлены жудасным ненатуральным святлом. Бегалі людзі са скуранымі вёдрамі, ехалі пажарныя помпы.

- Людвіг, апранайся і заставайся каля акна. Калі агонь падыдзе бліжэй, пазаві мяне. Але без крыку, ведаеш, бо. . .

- Разумею. - Цяпер і ён спрабаваў паводзіць сябе гэтак жа спакойна, як маці.

- Я з Карлам і Ёганам пайду на кухню, каб згатаваць чаго-небудзь цёпленькага. Можа, ты складзеш сёе-тое з рэчаў, каб узяць з сабою, калі. . .

Ён кіўнуў, хуценька апрануўся і азірнуўся. Што ўзяць? Школьны ранец з сшыткамі і кніжкамі, які ўжо ляжаў напагатове? Ён занёс яго на падаконнік, каб агонь спаліў яго ў першую чаргу. Што ж тут самае каштоўнае? Наконт гэтага ніякага сумнення не было. У музычным пакоі ён яшчэ раз зірнуў на дзядулеў партрэт.

- Ты, вядома, пойдзеш з намі, Дода. - На раялі ляжала скрыпка. Ён усміхнуўся: - А вы абое застанецеся тут.

Што ж там магло здарыцца? У прыдворнай царкве зазванілі ў званы, загучала уверцюра «Дэзерціра» Мансіны. Няўжо хтосьці з глузду з’ехаў і пачаў званіць, а можа, званы самі зазванілі ад гарачыні?

Ён зняў дзядулеў партрэт. З рэзанансных адтулін званіцы, быццам нейкія слупы-круцёлкі, падымаліся ўгору языкі полымя. Весела пераззвоньваліся званы. Але што гэта там такое раптам сталася з самою званіцаю? Цяпер яна чамусьці складалася з дзвюх частак! Верхняя скрывілася і нейкі момант нерухома вісела ў паветры, потым пачала падаць, асядаць, усё хутчэй і хутчэй, пакуль не грымнулася ўніз.

Ён пабег на кухню.

- Упала званіца прыдворнай царквы! Скончыліся, нарэшце, пакуты пана Мансіны і яго «Дэзерціра»!

На золку Людвіг павёў па вуліцах чараду, даручаную яго нагляду. Сам ён трымаў за руку Карла, а Гертраўд несла Ёгана. Языкі полымя не былі ўжо такія прыгожыя. Яны цяпер нагадвалі жоўтыя выгінастыя хусцінкі з бруднымі закуранымі краямі. Вецер, здаецца, яшчэ памацнеў і ўсё ж ніяк не мог чысценька падмесці неба.

На вуліцах панавала поўная неразбярыха, і твары людзей выглядалі нейкімі скрыўленымі. Прабягаючы міма, яны штосьці крычалі адзін аднаму, і гэтыя крыкі падобны былі на шматкі дыму, што разносіліся ветрам.

- Абваліліся мармуровыя ўсходы!

- Вады! Вады!

- Цяпер яны спрабуюць падысці з боку Бішофсгасэ. . .

- Ведаеце, хто ў Боне святы Георгій? - Гофрат Бройнінг! Без яго ад горада ўжо даўно б засталася адна куча попелу!

- У калодзежах больш няма вады!

- Гофрат Бройнінг загадаў падаваць ваду!

Рыпелі ручкі помпаў, саплі ад натугі мужчыны. Але з помпаў цяклі толькі тоненькія струменьчыкі, і праходзіла нямала часу, пакуль напаўнялася вядро і яго можна было выліць у цабры, пастаўленыя на палазы. Коней даводзілася весці, бо яны ў любы час са страху маглі шарахнуцца ўбок, многія мужчыны цягнулі палазы на вяроўках.

На вулічках бліжэй да дома Фішэраў пацішэла, і званок у краме прагучаў неяк лагодна. На званок адразу выйшаў майстар Фішэр. Ад здзіўлення ён падняў вочы да столі.

- Сілы нябесныя, вось ваша кара за грахі мае! Няшчасце рэдка ходзіць адно. Гэта ж Людвіг!

Людвігаў твар расплыўся ў шырокай усмешцы, і з выглядам сталага чалавека ён адказаў:

- Але ён прывёў да вас нешта добрае - частку сям’і Бетховенаў.

- Ну і шэльма! Як жа вам жывецца на новай кватэры?

- Чакаем вось, калі згарым разам з ёю.

- Так вам і трэба. Чаго было з’язджаць ад нас!

- Бацька хацеў жыць бліжэй да даксала, ну а цяпер прыдворная царква разам з даксалам згарэла і абвалілася.

Падышлі фраў Фішэр і Цэцылія. Пачуўшы, што госці хочуць жыць у іх, дзяўчынка закрычала ад радасці і кудысьці знікла разам з Карлам і Ёганам. Людвіг дастаў з каша салодкі крэндзель і, перш чым адкусіць, прыдзірліва агледзеў яго.

- Ён надта бледны, трэба было больш трымаць яго ў верхнім агні. - А нашай кватэры, між іншым, яшчэ ніхто не заняў, майстар Фішэр?

- Учора я мог бы здаць яе, але кватаранты мне не спадабаліся.

- Тады хацеў бы заняць яе я. Ды і вашай краме шкоды не будзе, калі я ў ёй зноў пачну трохі памагаць. Я гавару па даручэнні бацькоў. Толькі што бацька на хвілінку заскочыў дадому. І асабліва сардэчна вітае вас маці. Яна з прыемнасцю вернецца сюды.

Прытворнае незадавальненне адлюстравалася на твары майстра Фішэра. Ён запытальна зірнуў на жонку.

- Браць іх ці не?

Жонка, падлашчваючыся пад мужа, адказала:

- Што ж нам застаецца тут рабіць?

- Ну добра. Людвіг! Які ты ўжо крэндзель праглынуў тым часам?

- Цяпер пачаў пяты. Нам жа трэба яшчэ параіцца, дзе хутчэй можна знайсці фурмана.

Фішэр скоранька адперазаў фартух.

- Ён пусціць мяне жабраком па свеце, спакойна зруйнуе краму! Хадзем! Я ведаю аднаго чалавека!

Пярэбары, нарэшце, засталіся ззаду, і Людвіг адчуваў сябе задаволеным. Ён аказаўся карысным у гэтыя гадзіны і цяпер спяшаецца да бацькі, каб расказаць яму пра ўсё. Тым часам пачало ўжо цямнець. Дзе ж яму шукаць бацьку? Ён успомніў, што той нешта гаварыў пра партал каля Францысканергасэ. Адтуль, казаў ён, трэба прыбраць руіны, каб гофрат фон Бройнінг мог дабрацца да склепа з архівам. Але Францысканергасэ была ачэплена. Салдат прыдворнай варты груба адмовіўся прапусціць яго. Усё ж яму пашанцавала. Кардону прыйшлося расступіцца, каб даць дарогу пажарнай помпе, а ў гэты час на полымя як бы апусціўся нейкі цень, і яму ўдалося прашмыгнуць так, што ніхто не заўважыў. Калі ж агонь разгарэўся зноў, ён паспеў ужо схавацца за руінамі.

Карціна, што адкрылася яму, была жахлівая і ў той жа час велічна прыгожая. Ад замка, за пустымі вокнамі якога бушаваў і патрэскваў чырвоны, ахутаны дымам, агонь, засталіся адны толькі голыя сцены. Партал жа, каля якога на хвілінку спынілася пажарная помпа, быў падобны на цёмную пашчу нейкага таямнічага звера, які ў любы момант мог ашчэрыць зубы з чырвонаю здзекліваю ўхмылкаю.

Нейкі чалавек, на галаву вышэйшы за ўсіх, штосьці гаварыў мужчынам, а тыя пачціва яго слухалі. Напэўна, гэта і быў гофрат фон Бройнінг, да Людвіга ён стаяў спінаю. Гэты голас, здалося яму, аднаго разу ён ужо чуў. Сярод мужчын, між іншым, быў і бацька, і якраз да яго звяртаўся цяпер высокі чалавек.

- Значыцца, застанешся тут з групаю. Трымайцеся напагатове. Усе астатнія падрыхтаваліся? Тады запаліце паходні! Я пайду першы. Як толькі дойдзем да дворыка каля

прыдворнай кашыцы, помпа няхай адразу ж добра пройдзецца вадою па скляпеннях. Усё ясна?

Гофрат падняў паходню і пайшоў паперадзе. Чырвонае святло ўжо кідала водбліскі на бакі партала. Мужчыны нахіліліся да помпы, пачалі з крыкам налягаць на качалы. Помпа заскрыпела, і адразу ж узніклі дымныя факелы, у святле якіх галовы і рукі здаваліся нейкімі прывідамі. Потым усё знікла, і толькі языкі полымя варушыліся яшчэ дзесьці за сценамі.

Быццам здранцвелы, услухоўваўся Людвіг у ціхае, бясконца злоснае патрэскванне пражорлівага агню. Што гэта там за ціхі, бездапаможна слабы гук, які, здавалася, ішоў аднекуль здалёку і тым не менш так кранаў за сэрца, што з вачэй міжволі каціліся слёзы? Ён усё нарастаў, і ўжо сярод трэску і піску, гупання выразна вылучаўся, не знікаў ні на хвіліну нейкі настойлівы такт. - Што гэта? Дзікі выкрык мноства людзей ці прыглушаны стогн?  І раптам сцяна разламалася на дзве часткі - так, як гэта ўжо сталася раніцаю са званіцаю. Верхняя частка нахілілася, нейкі час яшчэ, быццам у нерашучасці, трымалася ў паветры, у гэтым чырванню гаручым нічым, а потым з шумам, усё мацнейшым і мацнейшым, паляцела ўніз і грымнулася долу. Пырснулі іскры, узняўся пыл і дым, а потым настала мёртвая цішыня. . .

Мужчыны, што стаялі каля ўваходу ў партал, прыслухаліся, і адзін з іх - голас дзядзькі Зімрока - задзірліва, нібы на сваёй валторне ў тэатры, ускрыкнуў:

- Давайце сюды паходні! Здаецца, цяпер наша чарга! Бацька тым часам ужо кінуўся ў цёмную пашчу і праз хвіліну, як здань, вылез назад.

- Сцяна звалілася на столь залы! Іх пахавала пад ёю! Трэба адкапаць і вызваліць іх!

Потым месца, дзе ён толькі што стаяў, апусцела і адразу ж пасля гэтага пачуўся гук, нібы недзе ляскала раззлаваная сталёвая дзюба. Людвіг задрыжаў ад шчасця, што і яго бацька такі мужны. Ён ірвануўся з месца, кінуўся стрымгалоў у змрочны небяспечны праход, каб памагчы таму, хто аднойчы памог яму самому.

Хлопчыка заўважыў Нікалаўс Зімрок, валтарніст і захавальнік нот прыдворнай капэлы.

- Што табе тут трэба, чарцяня?

- Мне трэба нешта сказаць бацьку.

-  І дзеля гэтага ты залез ільву ў пашчу. Хоць можна сказаць, што зубоў у пачвары ўжо няма, што яна насыцілася. Пачакай крышку. Твой бацька дзесьці там. . . - Ён махнуў рукой на цені, якія ў святле паходняў варушыліся на кучах руін.

- Стань збоку, вунь там.

Нехта, відаць, штосьці знайшоў, і Зімрок палез туды.

- Падыміце гэты кавалак сцяны! Усе разам!

Закракталі ад напружання, і нехта шапнуў:

- Гофрат!

Яго панеслі. Каціліся з грукатам цагліны пад нагамі, скрыпела вапна.

- Доктара! Хутчэй!

Гофрат апрытомнеў, і яго павекі задрыжалі. Твар закарэў ад вапны і крыві. Голас гучаў быццам аднекуль здалёку, але нават і цяпер яшчэ ён не дапускаў ніякага пярэчання.

- Другіх вы ўжо знайшлі?

- Не. Гера гофрата знайшлі першага.

- Тады няхай ніхто не бяжыць па доктара. Цяпер спатрэбіцца кожная рука. Прыхіліце мяне вось тут да сцяны, крышку вышэй, каб я мог усё бачыць. А цяпер давайце назад. Шукаць трэба злева. Яны павінны быць там пад руінамі.

Калі знік апошні мужчына, ён застагнаў і, абвяўшы, зноў страціў прытомнасць. Пазней ён апрытомнеў, можа, таму, што нейкі хлопчык спалохана торгаў яго за рукаў, і тут жа баязліва адсунуўся, калі ўбачыў, што гофрат глядзіць на яго.

Гер фон Бройнінг спытаўся:

- Баішся мяне? Чаму ты баішся? Падыдзі бліжэй.

Людвіг зняў шапку і паслухмяна, хоць і не вельмі рашуча, падышоў крыху бліжэй.

- Ну, глядзі ты! Мы ж даўнія знаёмыя, га? Апошні раз ты зусім спакойна сядзеў на маёй руцэ. Цябе завуць Людвігам ван Бетховенам?

Ён нізка пакланіўся.

- Вам да паслуг, гер гофрат.

- Навошта гэтыя фармальнасці паміж знаёмымі? Зайдзі калі-небудзь да нас пагуляць з маімі дзецьмі.

У хлапчуковых вачах бліснуў недавер.

- Я?

- Ты, а чаму ж і не?

- Многія дзеці не хочуць гуляць са мною, бо я такі брыдкі.

Гофрат Бройнінг зморшчыў лоб, перамазаны закарэлаю крывёю, і паспрабаваў усміхнуцца, але гэта ў яго не выйшла.

- Не хвалюйся, мае дзеці будуць ахвотна гуляць з табою, дурніла ты малы! Але прабач, што заву цябе «дурнілам» - ты ж ужо, як я чуў, вялікі майстар-піяніст. Ты, мабыць, ведаеш, дзе мы жывём?

- У доме з каменным папоўскім капелюшом над дзвярыма.

- Правільна, там ты якраз і можаш наведаць мяне, а з гэтай нагоды і маіх дзяцей. Людвіг, - галава гофрата зноў апусцілася ўніз, - можа, ты мне. . .

Ці не прасіў ён прынесці яму глыток вады? Але адкуль? Нейкія цені ўпалі на яго, і чыйсьці надтрэснуты голас закрычаў:

- Што ты тут робіш? Бельдэрбуш, неадкладна пашліце па майго асабістага доктара! Што ты тут робіш? Чаго маўчыш, хлопчык? Гэты плебейскі зброд усюды сноўдаецца і крадзе, што толькі можа!

Людвіга апанаваў дзікі страх. Ён ірвануўся з месца і памчаўся куляю прэч. Яго палітончык развяваўся, робячы яго падобным на кажана, што ўцякаў у цемру з пажарышча.

Пахаванне было раскошнае, пакінула незабыўнае ўражанне. Могілкі чарнелі людзьмі, званілі званы, чулася манатоннае мармытанне малітваў. Хто прыйшоў сюды, быў апрануты ў прыдворнае адзенне. Дамы насілі параднае адзенне чорнага колеру смерці. На збруі ў коней экіпажа віселі жалобныя стужкі. Спявалі прыдворныя спевакі. Гаварыліся бясконцыя прамовы, такія ж шэрыя, як і неба, і змёрзлыя камякі зямлі са стукам падалі на трынаццаць трун. Сцяна, падаючы, забіла дванаццаць чалавек, а трынаццаты, гофрат фон Бройнінг, памёр гэтае ночы.

Нарэшце чалавечы натоўп заварушыўся, і мансеньёр зноў патупаў да свайго экіпажа. Фурман на козлах урачыста застыў з пугаю, а лёкай побач з ім склаў накрыж рукі. Другія служкі, якія потым ускочаць на экіпаж ззаду, адчынілі дзверцы, упрыгожаныя гербам.

Людвіг ледзьве не скочыў з магільнай пліты, куды ён залез, каб лепш усё бачыць. Позірк нізкага старога мужчыны з княжацкаю зоркаю на грудзях на момант спыніўся на ім, але потым абыякава павандраваў далей. Людвіг не адрываў вачэй ад прыгожай жанчыны, якая ішла паміж курфюрстам і графам Бельдэрбушам. Твар яе нагадваў маску, слёз не было, а Людвіг ведаў ад мацеры, што найбольшая пакута бывае, калі нельга заплакаць у самым глыбокім горы. Прыгожая засмучаная дама вяла за руку маленькую дзяўчынку, якая прыстойна тупала побач. Гэта, напэўна, Элеанора, а потым у іх быў яшчэ хлопчык, якому гэтулькі ж гадоў, як брацiку Карлу. Людвіг падрабязна распытаў пра іх сваю маці, бо ён збіраўся гуляць з гэтымі дзецьмі. Ало цяпер гэтага, відаць, ужо нельга зрабіць. Ён паклыпаў дадому.

З-за пахавання не прыйшлося ісці ў школу, але затое ён вымушаны быў практыкавацца на піяніна некалькі гадзін болей. А навошта? Бацька ж яшчэ ўчора сказаў яму, што яго здольнасцей наўрад ці хопіць, каб стаць кульгавым аслом ці паршываю кошкаю сярод брэменскіх музыкантаў. Ён пратромкаў санату Руста. Маці таксама сядзела ў музычным пакоі, а цяпер наверх па ўсходах узляцеў і бацька і, расчыніўшы дзверы, выгукнуў:

- Ну як, практыкаваўся, Людвіг?

Адказала Магдалена:

- І нават вельмі старанна, Ёган.

У бацькавых вачах свяцілася радасць:

- Практыкуйся далей, шчаслівы! Заўтра будзеш іграць за сталом у мансеньёра! Як гэта выйшла, я і сам не ведаю. Гавораць нешта пра гофрата Бройнінга, але я ніяк не магу паверыць. Ва ўсякім разе заўтра ты выступіш у ролі Давіда, які пачаў іграць перад каралём Савулам на арфе, каб прагнаць яго сум і перавесці думкі на другое. - Ён зірнуў на Людвіга, і на яго твар легла непрыемнае здзіўленне, бо той абыякава іграў ужо другую частку санаты. - Магдалена, я на месцы хлопчыка паводзіў бы сябе інакш. Я ад радасці скакаў бы. - Раптоўны гнеў пачырваніў яго твар. - Перш за ўсё я пацалаваў бы бацьку рукі! Бо, зрэшты, толькі дзякуючы маім бясконцым намаганням і цярплівасці. . .

Магдалене таксама падумалася: «Людвіг сапраўды паводзіць сябе дзіўна, і калі зараз жа

чаго-небудзь не зрабіць. . . » Яна ўскрыкнула:

- Людвіг! Ідзі і пакажы бацьку, што ты рады і ўдзячны яму. Пацалуй яму руку!

Ён схіліўся над бацькаваю рукою і, цалуючы яе, прыдушаным голасам выціснуў з сябе:

- Я рады, тата, і я вельмі ўдзячны.

- Так, так, значыцца, гэта і ёсць той самы хлопчык. - Голас мансеньёра не выдаваў ніякага ўзрушэння, той нават не зірнуў на Людвіга.

Бацька выслугоўваўся як мог. Раптам ён стаў неспадзявана гнуткі, як. . . палатняная лялька ў маленькага Ёгана. І неяк дзіўна і паспешна ўцягваў у сябе паветра.

- Ласкава прашу, да паслуг мансеньёру. Мой сын Людвіг. Яму пяць гадоў.

Людвіг здзівіўся. Няўжо яму толькі пяць гадоў?

Маладой даме з ганарлівым лялечным тварам было холадна. З таго, што Людвіг даведаўся дома, выходзіла, што гэта магла быць толькі фраў фон Таксіс, траюрадная пляменніца мансеньёра.

- Не хапала, каб я замерзла ў гэтай халоднай, як лёд, галерэі.

Мансеньёр адчыніў дзверы да залы, у якой быў сабраны стол. Прапусціўшы ўперад даму, ён пайшоў следам з даўганогім палкоўнікам з палацавай варты. Дзверы зноў зачыніліся, і перад імі застаўся стаяць лёкай з камердынерам. У зале зайграла музыка, загучаў адзін з цудоўных квартэтаў Гайдна, якога ніхто, аднак, не слухаў. Бо маладая дама штосьці гучна балбатала, і чутно было, як звіняць фарфор, лыжкі, відэльцы і шклянкі.

Бацька, відаць, усхваляваны ад шчасця і гонару гэтай часіны, звярнуўся да слугі.

- Мансеньёр, шчыра кажучы, загадалі, каб мой сын іграў ім за сталом. . .

Лёкай не захацеў нават выслухаць яго да канца.

- Мансеньёр толькі што загадалі другое. Прыйдзецца чакаць.

- Вельмі добра!

Бацька зноў стаў палатнянаю лялькаю, цяпер нават перад камердынерам. Колькі разоў ён з пагардаю гаварыў пра тых людзей, і таму Людвіг моцна шкадаваў мацеру, бо яна была менавіта з гэтай нікчэмнай пароды. Якія ж дзіўныя словы сказаў перад гэтым бацька? Ага, успомніў: «Ласкава прашу!» Можа, гэта і ёсць мова. . . «плебейскага зброду»?

Санаты вывучаны як трэба. Ён нічога не сапсуе, не шкодзіла б толькі пацерці рукі. Пальцы траха не адубелі, а яны ж, зрэшты, яго інструмент.

Прайшло яшчэ бясконца шмат часу, пакуль ім дазволілі ўвайсці ў залу. Якая тут мэбля, карціны, якія дываны на сценах, падобныя на сапраўдныя вялізныя карціны, куды большыя, чым дзядулева святая Цэцылія, якую бацька даўно ўжо прадаў і прапіў! Што ж гэта там робяць, адыходзячы, музыканты? Сярод іх і дзядзька Рыс, які заўсёды гаварыў такія высокія словы пра свае мастацкія якасці скрыпача. Тут жа ён, як і іншыя музыканты, складаўся з адных паклонаў амаль да самай падлогі, вельмі хараша ўпрыгожанай інкрустацыямі. А бацька проста не ведаў, куды паставіць свае ногі ў туфлях са спражкамі! Прыдворнае расшарkванне! Учора вечарам прыйшлося яшчэ развучваць яго з бацькам. Цяпер усё здалося яму недарэчным. Каля раяля, між іншым, таксама стаяў услончык. Прымерыўшыся, ён узабраўся наверх. Як яму здаецца, дык можна ўжо і пачынаць. Але што гэта там з бацькам?

На другім баку залы мансеньёр і маладая дама з ганарлівым лялечным тварам селі за круглы столік. Палкоўнік палацавай гвардыі стаў ззаду, і курфюрст пачаў раскладваць на дошцы шашкі, каб гуляць у трык-трак, чым, як кажуць, вельмі захапляўся мансеньёр. Ну, вядома ж, бацька паслужліва чакаў, калі яму дадуць знак. Нарэшце палкоўнік палацавай гвардыі кіўнуў галавою, і бацька адразу зашыпеў хлопчыку:

- Давай!

Людвіг узяў першы акорд, які ў яго выйшаў занадта рэзка, але ён не пашкадаваў; наступныя акорды прагучалі яшчэ больш рэзка. Зрэшты, павінен жа ён заглушыць стук гульцоўскіх касцей у шклянцы, якую якраз перавярнула дама.

- Дзесяць!

І тады невысокі стары пан з княжацкаю зоркаю на грудзях узяў шклянку і, страсянуўшы яе, высыпаў косці.

- Дванаццаць!

Курфюрст засмяяўся, і смех гэты быў нейкі надтрэснуты. Хто паверыць, што ў яго цяжка на сэрцы, а ён, Людвіг, як Давід, павінен развесяліць караля Савула? Глупства, але курфюрст выкінуў дванаццаць, і яму цяпер, каб быць пачутым, трэба выкінуць ігрою на раялі ніяк не менш трынаццаці ачкоў. Ён змяніў тэмп. У ім бушавала злосць, і саната таксама пачала злавацца. Але нягледзячы на ўсё, яе ўзровень такі нізкі, што пры ўсім жаданні нічога добрага больш з яе выціснуць нельга. На гэта трэба было ўжо мець якую-небудзь іншую музыку - а мо і што другое? Цяпер ён іграў трэцюю частку, аберуч адбарабаніў тэрцыямі пасаж прэста, які нават і пры простых тонах быў вельмі каверзны для выканання, і адбіў нарэшце заключны акорд. Бітва тым не менш была прайграна.

Бегалі ўзад і ўперад лёкаі, а за гульцоўскім сталом не спынялася гульня ў трык-трак. Можа, пайсці і яму? На сэрцы стала лягчэй, што хоць бацька быў справядлівы; бо ён паклаў яму на плечы руку і шапнуў:

- Выдатна, спаніёль! А цяпер сыграй высокім панам яшчэ што-небудзь дадаткова.

- Якую-небудзь халтуру, тата?

- Іграй, іграй!

Твар Людвіга скрывіўся ў грымасе злосці. Яго пальцы да таго ж амаль што здранцвелі. Ну добра, затромкаем, як гадзіннік на вежы - блім-блім, блям-блям. Нечакана для высокіх паноў загучала менавіта ўверцюра да «Дэзерціра» Мансіны, якую не магла больш тромкаць абваленая вежа прыдворнай царквы. Але што гэта такое? Мансеньёр хоць і пераставіў яшчэ раз шашку, але ў тым, як ён гэта зрабіў, больш не было, як кажуць, пераканальнай сілы. Лёкаі перасталі бегаць, і вось нарэшце курфюрст зірнуў-такі на раяль і на піяніста, якога ён толькі цяпер адзначыў у сваёй памяці. Дама з ганарлівым лялечным тварам таксама ўважліва прыслухалася, а палкоўнік палацавай гвардыі застыў у такой позе, як бы раптам яму ў сэрца папала куля.

Пасля таго як Людвіг пратромкаў апошнія акорды, курфюрст сказаў:

- Слаўна, слаўна! Хлопчык - сапраўдны чараўнік! Дайце яму вялікі мяшэчак цукерак, а ты, - тут ён павярнуўся да палкоўніка, - выдай загад, каб яго бацьку з маіх асабістых сродкаў выплацілі дзесяць талераў.

Бацька шапнуў Людвігу:

- Цяпер табе трэба нізка пакланіцца, бо гэта - вялікая ласка.

Людвіг, як і бацька, задам падаўся з пакоя, зноў і зноў рабіў паклоны, не ведаючы, чаму яму было так цяжка на сэрцы, так пустэльна, як у згарэлым флігелі замка.

Людвіг спяваў узнёсла, але з яго хрыплым голасам было гэта адно скрыпучае выццё. Праваю рукою ён адбіваў акорды, а левая ў гэты час суправаджала іх трыёлямі. Можа, лепш стаката? Не, легата лепей. У дзвярах раптам з’явіўся Ёган ван Бетховен.

- Скажы, як можна ўсё гэта вытрываць? Асабліва ў доме, дзе кожная цаля паверхні прасякнута і асвечана сапраўднаю музыкаю!

Людвіг аж уздрыгнуў ад нечаканасці. Ён не пачуў, што нехта ўвайшоў у пакой. Загадкавая цемната ў яго вачах знікла, і таму ён, ацэньваючы, дзелавіта зірнуў на бацьку, які моргаў вачыма ў святле сонца. Куточкі яго губ звыкла апушчаны ўніз. Але ж яго настрой?. . Не, гэта не акцызная гарэлка; ён, мабыць, выпіў шампанскага.

Весялосць аж ірвалася з Ёгана ван Бетховена.

- Я ўлятаю сюды, каб здзівіць сына вось гэтым скруткам добрых навін, - ён пастукаў скруткам па Людвігавай галаве, - а нягоднік, замест падзякі, сваёю музыкаю, гэтым бычыным ровам, няйначай, хоча забіць мяне. Хто, уласна кажучы, яе аўтар?

Людвігаў твар расплыўся ў сарамлівай ухмылцы.

- Я, тата.

Ёган ван Бетховен склаў рукі над скруткам.

- Божа праведны! Людвіг, я табе ўжо шмат разоў казаў: кінь гэтае глупства. Я не хачу злавацца. Чалавек павінен ведаць свае межы. Нічога не выйдзе. Ці ж не сумна гэта, гер кампазітар? Але ў мяне ёсць два пластыры на твае раны. Па-першае, я размаўляў з Рупертам і сказаў яму, што ты больш не будзеш хадзіць у яго школу. Значыцца, ты адразу, ужо з заўтрашняга дня, можаш брацца за практыкаванні, а яны, як ты лічыш, навошта? - Можаш прачытаць потым у вольную часіну, і ты ўбачыш, што я пра цябе ўсё-такі няблага думаю. Інакш

я не паставіў бы пад гэтым свайго імя. Калісьці ты даволі ніштавата іграў перад мансеньёрам, што дало нам дзесяць талераў, а цяпер мы іх, магчыма, зможам ператварыць у дукаты.

Напяваючы нейкую арыю, ён пабег уніз па ўсходах, не перастаючы спяваць і тады, калі ішоў ужо цераз двор. Потым у пакой уварвалася задыханая Цэцылія Фішэр.

- Людвіг, праўда, што ты будзеш іграць у вялікім канцэрце і нават паедзеш у Кёльн? Паглядзі вунь там, на раялі.

- Што? Сапраўды, бацька. . .

Ён адабраў у прыгожай маладой дзяўчыны, якою тым часам стала Цэцылія, скрутак. Разгарнуўшы яго, ён убачыў, што гэта пачак вялікіх афішаў-аб’яў, і, узлезшы на крэсла, пачаў чытаць па складах:

- «A-vert Isse-ment».

Цэцылія засмяялася.

- Гэта па-французску, Людвіг, і азначае «паведамленне».

Хлопчык чытаў, водзячы пальцам па надрукаваным тэксце.

- «Сёння, дваццаць шостага сакавіка 1778 пункт года. » - Чаму ты зноў смяешся?

- Кропка пастаўлена там няправільна.

- Няўжо? - у музычнай акадэмічнай зале на вуліцы Штэрненгасэ тэнарыст двара кёльнскага курфюрста Бетховен. . . »

- Ах! - Цэцылія прыкрыла рот далонню. - Якімі вялікімі літарамі надрукавана прозвішча твайго бацькі. Дай бог, каб і ты, Людвіг, калі-небудзь стаў такім вядомым чалавекам.

- Я?. . - Ён па складах чытаў далей: - «будзе мець гонар паказаць двух сваіх вучняў, менавіта: прыдворную альтыстку мадмуазель Авердонк і свайго шасцігадовага сына. Першая будзе мець гонар выступаць з рознымі прыгожымі арыямі, другі - з рознымі фартэпіяннымі канцэртамі і трыо.

Ён спадзяецца прынесці высокаму панству поўнае задавальненне, тым больш што артысты ўжо мелі ласку быць выслуханымі на вялікую прыемнасць ўсяго двара. » - Ён узлаваўся. - Ласка гэтая мае дачыненне толькі да мансеньёра.

- А мо яна датычыць і твайго бацькі, якому не шкодзіла б трошкі даўжэй наведваць школу.

Людвіг задумаўся.

- Бацька наогул мае думку, што музыкантам і артыстам зусім не патрэбна тое, чаму вучаць у школе. Таму мне і не трэба больш наведваць гера Руперта. У мяне ніколі не было ахвоты хадзіць да гера Руперта, але. . . ведаеш. . .

- Людвіг, ты ж яшчэ нават і пісаць як след не ўмееш! - Яна хацела адцягнуць яго ўвагу на іншыя думкі. - Шчыра кажучы, з якіх часоў гэтая Авердонк з яе пісклявым голасам - я ж яе чула ў вас - прыдворная альтыстка?

Ён засмяяўся.

- А няўжо мне ўсяго толькі шэсць гадоў? Усё гэта, мабыць, таму, што я карлік ростам, а Моцарт ужо ў свае пяць. . . - Ён сеў за раяль, і на яго нібы напала нейкая ўтрапёнасць, нейкая сутарга.

- Людвіг! Што ты тут іграеш?

- Новую частку мае санаты для фартэпіяна - супраць Моцарта!

Празвінелі першыя ранішнія званкі, і некалькі гадзін ужо ішла работа ў пякарні ў Фішэраў. Нарэшце прачнулася і астатняе жыццё на Рэйнгасэ са сваімі галасамі, якія, адпачыўшы за ноч, гучалі цяпер, поўныя новых спадзяванняў і энергіі.

Пасля прыпадку кашлю Магдалена разглядала насоўку, якую перад гэтым прыціснула да вуснаў. На ёй зноў паказаліся крывавыя плямы, і яна ў душы была незадаволена як сабою, так і сваёю схільнасцю да хваробы. Ды нарэшце ў яе ёсць абавязкі гаспадыні і маці.

Куды ж усё-такі прапаў Ёган з Людвігам? Яе, праўда, супакойвала, што разам з імі ў Кёльне была фройляйн Авердонк, але, нягледзячы на гэта, перад ёю паўставалі малюнкі, адзін жахлівейшы за другі.

Але што яна чуе там на ўсходках? Гэта ж, здаецца, Людвігавы крокі, хоць яны нейкія цяжкія, не такія, як звычайна.

Нарэшце ў пакой уваходзіць і ён сам.
- Добрай раніцы.
Яна адразу ўбачыла, што сталася нешта незвычайнае.
- Адкуль ты?
- Адкуль жа я магу прыйсці? З Кёльна.
- А бацька дзе?
- Ён, мабыць, яшчэ ў Кёльне. Ды напэўна ў Кёльне. Бо па дарозе ён нас не пераганяў.
- Вас?. .
- Гелену і мяне.
- А як жа вы абое?. .
- Пешкам.
Цяпер ужо вырысоўваліся і маштабы катастрофы.
- Усю дарогу пешкі?
- Сёння ноччу з Кёльна ў Бон не было ніводнага экіпажа, на якім мы маглі б пад’ехаць.
Яна ўрэшце не вытрывала і запыталася:
- Ну, а з канцэртам як?
Ён скрывіўператомлены твар.
- Хто там ведае нейкую Гелену Авердонк? Ды і я, мабыць, не Моцарт. Акадэмічная зала на Штэрненгасэ была амаль пустая. Калі выступала Гелена, то яшчэ трошкі апладзіравалі, а калі выходзіў я. . . Пляскалі ў далоні дзве маладзенькія дамы, якім, відаць, шкада стала, што ніхто больш наогул не апладзіраваў.  І ніводная з дам не збіралася цалаваць мяне, як Моцарта, хоць іграў я нядрэнна. Але калі хто вось такі брыдкі. . .
- Перастань, нарэшце, увесь час пераконваць сябе ў гэтым!
Ён гаварыў далей нараспеў:
- Пераконваць сябе? Гер бацька сказаў мне ў Кёльне, што канцэрт сапсаваў не хто іншы, як я. . . сваім брыдкім выглядам. Ну і добра, на гэтым маю кар’еру піяніста-віртуоза можна лічыць скончанай. Цяпер на чарзе арганы, бо ў гэтым выпадку сядзець я буду высока наверсе, на самых высокіх хорах, дзе мяне ніхто не ўбачыць. А калі хто і ўбачыць, сказаў гер бацька, то адзін толькі пан бог. У сваёй царкве ён увесь час павінен паглядаць на мяне - як дакор самому сабе, што стварыў вось такога агіднага гнома. Што там я хацеў яшчэ сказаць? Ага, пра царкву! Мы чакалі бацьку - я ўжо казаў пра гэта - і зайшлі тым часам у сабор. А сабор гэты - вельмі прыгожы, вялізны і ўрачысты. Дзеля яго і музыку трэба пісаць нейкую асаблівую, святочную.  І тут я зноў шкадую, што не Моцарт, і не Руст, і не Стаміц, бо тады я напісаў бы месу, якая грымела б на ўвесь сабор, перапаўняючы радасцю ўсе тыя шматлікія бакавыя каплічкі.
Ён расхадзіўся не на жарт. Ці мо ў яго тэмпература?
- Я нават спытаўся ў Гелены, як назваць гэтую месу па-лацінску. Да якой назвы мы там прыйшлі? Ага, успомніў. «Missa solemn Is», Урачыстая меса. А бацька не захацеў ехаць, і тады мы пайшлі адны.
- А дзе ж мадмуазель Авердонк?
- Я правёў яе дамоў. Ён паківаў галавою.
- Гелена такая дарослая дзяўчына, а па дарозе баялася прывідаў. Прыйшлося весці яе за руку, але ўсё ж мы пасябравалі так, што я мог гаварыць з ёю пра ўсё. Цяпер вырашана - я буду пекарам. - Стомленасць брала сваё. - Замкні, калі ласка, дзверы і выцягні ключы. Калі вернецца бацька. . .
Яна правяла далонню па чорных кучаравых валасах.
- Можаш спаць спакойна, маленькі пекар.
Тым не менш яна спалохана прыслухоўвалася да кожнага гуку.

- Бельдэрбуш. . .
Канцлер адарваўся ад будаўнічых планаў, якія ён гартаў, седзячы каля падаконніка.
- Слухаю, мансеньёр.
У надтрэснутым голасе курфюрста гучала незадавальненне, але граф Бельдэрбуш ведаў, што гнеў быў толькі штучным феерверкам.
- Бельдэрбуш, калі глядзець на новабудоўлю, ствараецца ўражанне, што яна сапраўды

нагадвае замак. Там можна будзе паставіць мэблю?

- Калі мансеньёр хочуць, каб я пайшоў у адстаўку?. . Макс Фрыдрых узарваўся.

- Згодзен, ідзі! Толькі перад гэтым скажы мне яшчэ, на каго злавацца, калі не будзе больш ні цябе, ні твайго аднамысніка, гера дзяржаўнага міністра Фюрстэнберга ў Мюнстэры? Варта мне толькі расплюшчыць раніцаю вочы, як я ўжо пачынаю праклінаць вас, бо вы не раз пералічыце кожны шцюбер (Дробная манета ў прырэйнскіх княствах. ), перш чым аддаць яго вашаму курфюрсту, і адно гэта як рукой знімае сон.

Бельдэрбуш падышоў да званка.

- Можа, мансеньёр дазволяць мне пазваніць?

- Навошта?

- Каб з карэтнага двара ўзялі і запрэглі парадную карэту нябожчыка папярэдніка мансеньёра. На ёй мансеньёр, як і курфюрст Клеменс Аўгуст Баварскі, можа паехаць на базар ганчарных вырабаў, каб спачатку пабіць посуд у гандлярак, а потым раскідаць дукаты сярод раз’юшаных жанчын. А можа, мне загадаць спячы на заўтрашні абед пірог, з якога выскачыць карлік? - Голас канцлера стаў сур’ёзны. Мансеньёр, у князя была і ёсць цяпер добрая сотня магчымасцей зруйнаваць дзяржаўны скарб. Занадта шыкоўнымі і нават - прабачце, мансеньёр, калі я асмельваюся гаварыць такое пра асобу каранаванага памазаніка, - бессаромнымі захапленнямі, такімі, як у Францыі аленевыя гадавальнікі, дзе, каб задаволіць юр уладара і ягоных кавалераў, трымаюць дванаццаці-чатырнаццацігадовых дзяўчынак. І, наадварот, значна цяжэй напоўніць дзяржаўны скарб, нават выкарыстоўваючы такія метады, якія, - ён запыніўся на хвілінку, - звычайна лічацца яшчэ больш альбо менш памяркоўнымі. Я маю на ўвазе ўскосны падатак, рэйнскія мытныя пошліны. Толькі што праведзена і латарэя. Вунь яна стаіць. - Ён паказаў на новабудоўлю замка. - Канечне, можна яшчэ дадаткова, па выпрабаванаму спосабу вылавіць па суседству некалькі тысяч сялянскіх сыноў і прадаць іх у салдаты за мяжу. Толькі ці ж будзе пры гэтым шчаслівы князь, калі ў яго яшчэ асталося сумленне? Народ, напэўна, не будзе.

Курфюрст буркнуў:

- Табе добра казаць. Заўсёды ўсё толькі дзеля народа. Гучыць прыгожа і высакародна, але выслоўе Людовіка Чатырнаццатага «L’Etat c’est mo I!» (Дзяржава - гэта я (франц. )) прыносіць суверэну больш прыбытку.

- Безумоўна, мансеньёр, і перш за ўсё яно прыносіць выбуховае рэчыва, як гэта можна бачыць, калі ты не сляпы, на прыкладзе Францыі. Там калі-небудзь, раней ці пазней, дойдзе, павінна дайсці да выбуху, бо шалі, якія мусяць падтрымліваць нешта накшталт раўнавагі, стаяць занадта няроўна. Народ зазнае занадта цяжкі прыгнёт ад ганарыстасці і ўціску князёў.

- Гер граф, ты сам нейкі ненатуральны дваранін, адвакат misera plebs, беднага народа, сам бунтар, народны сябар.

Граф Бельдэрбуш, усміхнуўшыся, схіліўся ў паклоне.

- Мансеньёр, для мяне імя «народны сябар» не з’яўляецца непрыстойным. Бо што такое народ? Толькі безаблічны натоўп? Я бачу твары, мансеньёр. Людзей і побач з імі другіх людзей.

Курфюрст адкінуўся назад.

- Ты памыліўся ў выбары прафесіі, Бельдэрбуш; табе трэба было зрабіцца не дзяржаўным дзеячам, а прапаведнікам. А можа, ты лепш падышоў бы двару Фрыдрыха Прускага, гэтага таемнага куміра і для цябе і для Фюрстэнберга? Ну ж, прызнавайся.

- Такое прызнанне не адпавядала б ні стану спраў, ні маёй любові да праўды, на што мансеньёр яшчэ ніколі не меў падставы скардзіцца. Прускі кароль гаварыў прыгожыя словы, я нагадаю толькі некалькі з іх. Што князь павінен быць першым слугою свае дзяржавы. А што такое дзяржава, калі не народ? Няўжо Фрыдрых пабудаваў сваю імітацыю Версаля, свой Сансусі, толькі каб стаць першым слугою свайму народу? Няўжо дзеля гэтага ён вёў войны і прымушаў мацярок, жанок і сірот праліваць слёзы над магіламі салдат, сыноў народа? Ваяўнічы князь - самы дрэнны слуга, які можа быць у народа. Канечне, яго перамогі папоўнілі дзяржаўны скарб на семдзесят мільёнаў талераў, і па іх можна падлічыць, колькі талераў каштаваў яму кожны забіты і знявечаны ва ўсіх бітвах, у так званых перамогах. . .

Сума ашаламіла курфюрста.

- Семдзесят мільёнаў талераў! Якія ж мы бедныя ў параўнанні з ім, як царкоўныя мышы! А варта яшчэ ўспомніць гэтую спадчыну, наш. . . дзяржаўны скарб з адных даўгоў!

Канцлер паглядзеў на свайго гаспадара спагадлівым позіркам.

- Але пост прынёс нам нядрэнныя вынікі. Шаля з прыбыткам пацяжэла ў нас без войнаў і высылак, без салдацкіх магіл і слёз.

Макс Фрыдрых заўважыў бляск у звычайна заўсёды спакойных шэрых вачах канцлера, з якім ён разам прапрацаваў амаль увесь свой век. Бельдэрбуш хацеў парадаваць яго гэтым паведамленнем, і гэта расчуліла яго. Тым не менш ён насмешліва прабурчаў:

- Значыцца, мне ўсё ж такі, мабыць, будзе дазволена купіць у новую галерэю карціны Вато?

Бельдэрбуш не хаваў свайго здзіўлення:

- Няўжо мансеньёру даспадобы прайграныя карціны? Смех курфюрста нагадваў вадаспад добрага настрою.

- Бельдэрбуш, вось цяпер я падлавіў цябе! Тваім запэўненням наконт Фрыдрыха Прускага я не даю веры. А ці ведаеш ты, хто, як мяркуюць, купіць. . . прайграныя карціны Вато, калі іх не куплю я? Ваш кумір з Сансусі!

Канцлер згадзіўся прыняць удзел у гульні.

- Ну добра, прызнаюся, што вы разгадалі мяне. Але ў адным мансеньёр маглі б зрабіць больш значную справу, чым яе калі-небудзь у сваім жыцці зрабіў мой «кумір з Сансусі».

Курфюрст насцярожана падаўся наперад.

- Цікава.

Бельдэрбуш паклаў перад ім будаўнічыя чарцяжы.

- Вось гэта танцавальная зала. Пад ёю - зала гледачоў і сцэна новага прыдворнага тэатра. Прыдворны дарадчык Рот нямала папрацаваў, каб здзейсніць праект, і ўсё ж глядзельная зала выйшла даволі цесная і нізкая. Думаць жа цяпер пра перабудову больш не прыходзіцца, і вінаватыя ў гэтым толькі Фюрстэнберг і я. Што значыцца вінаватыя? Фюрстэнберг толькі нядаўна пабачыўся з масьё Гросманам.

- Хто такі Гросман?

- Нямецкі тэатральны дырэктар.

- А якое дачыненне мае гэта да Фрыдрыха Прускага?

- Самае непасрэднае, мансеньёр. Мой кумір забыў сваю родную мову, да якой ён ставіцца з пагардаю; вакол сябе ён дазваляе размаўляць толькі па-французску і паважае толькі французскую філасофію і мастацтва. Гросман спадзяваўся папасці ў Потсдам і Сансусі, але з гэтага па названых вышэй прычынах нічога не выйшла. - Ён - сябар нейкага Готхальда Эфраіма Лесінга. . .

- Зноў новае імя. Хто гэта такі Лесінг?

- Чалавек, мансеньёр. Адзін з таго безаблічнага натоўпу, які завецца народам і складаецца з твараў, з людзей. Адзін з таго новага бюргерства, абрысы якога становяцца ўсё больш выразнымі. Мансеньёр, было б дзяржаўна-палітычным глупствам адмаўляць гэта. Значыць, Лесінг - новы. . . грамадзянін, грамадзянін сусвету, грамадзянін свету, які немінуча надыдзе і будзе, магчыма, лепшы, і яшчэ больш: ён - пісьменнік, нямецкі пісьменнік, які хоча вызваліць тэатр ад засілля замежных узораў і моды. Па яго шляху пайшлі ўжо ў Гамбургу, а таксама ў Мангейме і Гоце. Але на што здатны герцаг Гоцкі і курфюрст у Мангейме, тое цяпер і нам па сіле. Мансеньёр, мара гэтая проста п’яніць сваёй грандыёзнасцю.

Курфюрсту гэта яшчэ нічога не гаварыла.

- Мара. . . пра што? Бельдэрбуш урачыста адказаў:

- Пра нацыянальны нямецкі тэатр, якому, зразумела, нельга быць абмежаваным, але ў якім побач з нямецкімі операмі і п’есамі трэба ставіць толькі вартасныя творы замежных аўтараў і кампазітараў.

- Бельдэрбуш, паміж святлом і цемраю ў нас выдараюцца і неблагія часіны. Я ведаю цябе, а ты ведаеш мяне. У мяне ёсць і свая музыка, і свой тэатр, гэтак жа, як у мяне ёсць свая палацавая гвардыя, свая стайня, свае кухары і свая гайня сабак. Ёсць яно ў мяне, вядома, і таму, што я князь, які абавязаны гэта мець. Але ў мяне няма такога разумення мастацтва, якое ёсць у цябе.

- Але ў мансеньёра ёсць часам добрае сэрца.

- Ты несумленны чалавек, Бельдэрбуш. Часам! Але што можа зрабіць тут самае лепшае сэрца, калі б яно ў мяне нават і было?

- Памагчы здзейсніць мары такому пісьменніку як Лесінг, грамадзяніну новага, лепшага свету. На гэта патрэбен князь, бо гэта княжацкія мары, мары, якія не патрабуюць ні войнаў, ні крыві. - Канцлер ступіў крок бліжэй. - Значыцца, мансеньёр згодзен?

Макс Фрыдрых уздыхнуў.

- Мне, як архібіскупу, трэба ўстрымлівацца ад лаянкі, але - к чорту і яшчэ раз к чорту! - я згодзен, калі гэтак лічыш ты.

Канцлер схіліўся над рукою курфюрста і пацалаваў яе.

- Бельдэрбуш! Звычайна ты вельмі скупы на цалаванне рукі! І таму мяне гэта цяпер здзіўляе. Напэўна, ты зараз чакаеш доказаў маёй прыхільнасці. Я не памыліўся? І ўсё ж гэтыя доказы ты атрымаеш. Я адмаўляюся ад «прайграных» карцін Вато на карысць твайго тэатра, бо карціны толькі наганялі б на мяне смутак. - Саркастычная пакорнасць ценем легла на твар курфюрсту. - Набліжаецца старасць, Бельдэрбуш. Раней Вэнэра Каліпіга і Анадыямена (**Афрадыта** (Понтыя, Лімэнія, Анадыямена, Кіпрыда; рым. - Вэнэра) - першапачаткова багіня ўрадлівасьці, затым багіня кахання) падабаліся мне ў натуры і зварыяцыямі. Цяпер жа асалоду ад іх я атрымаў бы, мабыць, толькі на палатне, намаляваным алеем.

Прайшло некалькі месяцаў. Аднаго разу Людвіг стаяў за прылаўкам у булачнай Фішэраў. Фішэрава жонка і Цэцылія дапамагалі наверсе мацеры, а сам майстар якраз набываў нейкі тавар. Было нудна, бо не заходзіў ніводзін пакупнік. Людвіг пералічыў выручку - тры шцюберы за булачкі і два за дрожджы. Гатоўка неважнецкая. Вядома, у тым, што няма пакупнікоў, вінавата надвор’е. У святле свечак, што гарэлі ў краме, па шкле ўсё яшчэ зверху ўніз цягнуліся блішчастыя ніткі дажджавых кропляў. Хутка пара зачыняць лаўку; а потым наверсе пачнецца жахлівы вечар, на які збярэцца мноства людзей - дырэктар тэатра Гросман з жонкаю, мадмуазель Флітнер і іншыя, каго там яшчэ запрасілі ў госці і хто, як казаў бацька, «рабіў гонар» Бетховенам.

Адчыніліся дзверы, і зазвінеў званок. Увайшоў незнаёмы чалавек у дарожным паліце, з нізка насунутым на твар капелюшом. З футаралам для скрыпкі пад пахаю. Людвіг тым не менш схіліўся з надзеяй у паклоне.

- Калі ласка!

У адказ пачуўся смех.

- Значыцца, мой стрыечны брат служыць у булачнай. Ты мяне яшчэ помніш, Людвіг?

- Дзядзька Франц!

- Нядрэнна! Не забыў мяне, хоць прайшло ўжо нямала гадоў, як мы бачыліся апошні раз. - Раванціні страс з капелюша дажджавыя кроплі.

- Я, між іншым, табе не дзядзька, а стрыечны брат.

- Але ў параўнанні са мною ты такі вялікі, што я проста не асмельваюся зваць цябе Францам.

Раванціні надаў твару змрочна-задуменны выгляд.

- Калі ўважаць на гэта, то, шчыра кажучы, ты павінен зваць мяне стрыечным прапрадзедам. Няўжо твой рост ніяк не скранецца з месца? Скажы, ты яшчэ калі нікалі ўспамінаеш свайго дзядулю?

- А чаму ж мне не ўспамінаць яго?

Значыцца, яшчэ захаваўся гэты масток, ды і наогул - няўжо з таго часу сапраўды прайшлі гады? Мяркуючы па іхніх старых, сардэчных і таксама вясёлых сяброўскіх адносінах, прайшлі, здавалася, усяго толькі хвіліны.

- Слухай, як цябе, пекар ці кандытар, у вас пераначаваць можна будзе?

- Ну пэўна ж. Хоць сёння да нас і прыйдуць госці і ўсё будзе перастаўлена, але ты можаш спаць разам са мною.

- Па мне дык няхай нават пад тваім ложкам на голай падлозе! У гэтай праклятай паштовай карэце мае косці растаўкліся, як у ступе. - Ён акінуў позіркам краму. - І галодны я, як воўк! Вунь той торт есці можна?

- Гэта ж торт, які купляе курфюрст! Табе адзін кавалак ці два?

- Не менш трох, але не такіх маленькіх, як адразаеш мне іх ты, стары круцель.

Людвіг занёс торт на столік, які стаяў збоку.

- З цябе шэсць грошаў.

- Колькі? Ці не да разбойнікаў я трапіў? Глядзі ты, ён адразу ж цягне руку па грошы! Можа, у другой трымаеш пісталет?

Людвіг зарагатаў.

- Дзядзька Франц, дазволь табе растлумачыць усё. Я замяшчаю майстра Фішэра, і не хапала яшчэ, каб я зганьбіў сябе выручкаю. Таму я вымушаны крыху абабраць цябе. Можа, ты купіш у мяне яшчэ і булку хлеба?

- Хлеба? Ведаеш, хлеб мы ядзім кожны дзень. Давай лепш возьмем з сабою нанач рэшту торта. А брацікам можаш паслаць два мяшэчкі цукерак, каб усё, скажам, каштавала адзін талер. Ну як, нядрэнны я пакупнік? Шкада, што з вамі больш няма твайго дзядулі. Той бы накупляў усяго на цэлы дукат. У вас яшчэ збярогся яго партрэт?

- А як жа. Заўсёды, калі я займаюся музыкаю, дзядуля пазірае на мяне.

- Значыцца, ты ўсё-такі не расстаўся з музыкаю. Твая маці пісала мне аднойчы, што ты збіраешся кінуць.

Людвіг задумаўся.

- Мне не дадуць расстацца з ёю, ды і сам я як след не ведаю, ці хачу гэтага. . . Маім апошнім настаўнікам быў гер Пфайфер.

- Які ўмее пераймаць галасы жывёл? Вясёлы хлопец.

- Ён, здаецца, чагосьці натварыў, бо знік неяк нечакана і таемна. Цяпер я вучуся яшчэ іграць і на арганах - у манаха-францысканца Вілібальда Коха. Францысканская ж царква стала цяпер, пасля пажару замка, палацаваю царквою.

- Дастаеш да педаляў?

- Калі выцягнуся як след. Бацька наогул лічыць, што мне лепш стаць арганістам, але з мае ігры на арганах. . . Ведаеш, патэр Вілібальд - . . . мне не хацелася б быць няўдзячным, але я хацеў бы па-сапраўднаму навучыцца іграць на арганах.

- У гэтай справе я табе, мабыць, змагу памагчы. У трупе Гросмана капельмайстар адначасова і выдатны арганіст, завуць яго Крысціян Готліб Нефе, я ведаю яго яшчэ з Дрэздэна. Гэта да шаленства ўлюбёны ў музыку чалавек! Вучыўся ён у Лейпцыгу. Думаеш, ён вывучаў музыку? Зусім не, гэты гарбаты дэман і няўрымста вывучаў ва ўніверсітэце юрыспрудэнцыю і ў гэтым свяшчэнным месцы паспрабаваў у сваёй дысертацыі адказаць на пытанне: «Ці мае права бацька пазбавіць свайго сына спадчыны, калі той прысвеціць сябе сцэне?» Ён даказваў, што не мае, і ў прафесараў ад страху з галавы траха не пазвальваліся парыкі. Ад гаршка паўвяршка, як і ты, - добра, няхай будзе вяршок, - але ў ігры на арганах ён волат, яшчэ больш вялізны - на даўжыні! - чым яго жонка, якая трымае яго як абцугамі. Таму энергія ў яго ідзе толькі на ігру на арганах. Але мне здаецца, што сюды ён прыедзе не раней як праз два, тры месяцы.

- Дзядзька Франц, а ты. . . прабудзеш тут гэтулькі часу?

- Мяне ж прынялі скрыпачом у нацыянальны тэатр. Чырвоны Людвігаў твар аж пацямнеў ад радасці. Раванціні закашляўся.

- Гэтае брыдкае надвор’е!

- У цябе яшчэ не прайшоў кашаль?

- Не, кашаль усё яшчэ душыць. . . сядзіць ува мне і адчувае сябе яшчэ больш упэўнена. А як пачуваецца твая матка?

- Дрэнна.

- Так, так, застарэлы фамільны кашаль Кеверыхаў. Можа, ты потым пойдзеш са мною да прыпынку паштовай карэты і паможаш прынесці ад Цамбоны мае рэчы? А табе, між іншым, яшчэ доўга трэба пільнавацца крамы, чакаючы грошай?

- Пакуль не вернецца майстар Фішэр. Мне ж трэба аддаць яму выручку, якая цяпер, з улікам твайго талера. . .

Раванціні ўстаў і пацягнуўся.

- Маё беднае змучанае цела. Слухай, Людвіг, а ці не паспрабаваць нам залучыць яшчэ таго-сяго з пакупнікоў? - Ён адчыніў насцеж дзверы крамы. - Дождж перастаў, і людзі пачынаюць выходзіць са сваіх дамоў. Можа, зрабіцца хамельнскім пацукаловам?

(Паводле падання адзін пацукалоў у г. Хамельн, іграючы на дудачцы, здолеў завесці за сабою ў рэчку ўсіх гарадскіх мышэй і пацукоў. Калі жыхары Хамельна адмовіліся заплаціць яму за гэта, ён дудачкаю прывабіў усіх гарадскіх дзяцей і завёў іх у гару, адкуль не было выхаду. ) - Ён з асалодаю ўздыхнуў. - Панове, усё ж такі прыемна зноў апынуцца ў Боне і сярод вас. -

Потым ён дастаў з футарала скрыпку. - Я закіну выдатную музычную вудачку.

Людвіг радасна паціраў рукі.

- Дзядзька Франц, ты ўсё яшчэ такі, як і раней, здатны да ўсякага жарту.

Раванціні падкруціў калок струны «соль» і нахіліў убок галаву.

- Бо мы не ведаем, колькі часу нам яшчэ дадзена лёсам на жарты. Ну, а цяпер пачнём!

Ён зайграў. Людвіг ашаломлена слухаў.

- Як хораша ты іграеш!

- Таму-сяму за гэтыя гады можна было і навучыцца.

- А што ты іграў, дзядзька Франц?

- Няўжо ты не ведаеш, варвар? Гэта канцэрт ля мажор Моцарта.

Людвіг аж задрыжаў. Раптам ён адчуў нейкую варожасць нават да Раванціні. Але трэба было быць справядлівым, таксама і. . . да гэтай музыкі.

Зайшла нейкая жанчына, узяла хлеб, мабыць, толькі за ігру на скрыпцы, а за ёю ўжо ішла другая. Людвіг прадаваў хлеб і булачкі, а дзядзька Франц іграў, іграў музыку, якая быццам лілася з неба. Потым нейкі момант у краме не было нікога.

- Дзядзька Франц. . . мне. . . здаецца, што мы няправільна робім, іграючы гэтую музыку дзеля продажу хлеба і булачак. . . - Ён хацеў зрабіць выгляд, што незадаволены, але нічога з гэтага не выходзіла. - Ды дзеля шцюбераў і грошай. . .

Раванціні абарваў ігру.

- Маеш рацыю, Людвіг, і цяпер ты можаш назваць мяне варварам. Вядома, гэта неабдумана, а вось зайграеш першыя акорды і забываешся пра ўсё. - Ён здрыгануўся. - Зноў у мяне гарачка. Кожны вечар тут як тут. - Ён так секануў смычком па паветры, што аж свіснула. - Але мне хацелася б прывабіць да твае гары булачак яшчэ некалькіх тлустых пацукоў і мышэй. Ты бачыў, як яны ішлі? Ведаеш, Людвіг, мне зараз прыйшло ў галаву, што дзеля нашай забавы можна сыграць другое. Можна яго іграць, бо гэта - мой уласны твор, які я нават паспрабую суправаджаць спевамі. - Новы, больш моцны прыступ кашлю пачаў душыць яго, і калі ён нарэшце прайшоў, на лобе ў яго блішчалі кропелькі поту, а твар быў вельмі стомлены. Ён цяжка выдыхнуў: - Тэкст напісаў Хёлці, паэт, які рана памёр. . . ад сухотаў. Ён напісаў гэты верш у дзень, калі доктар адкрыў яму, што. . . больш не засталося ніякай надзеі. Гэта бадзёрая песенька, і Хёлці, ведама, таксама спяваў бы яе ў краме. Таму ён, я ўпэўнены, зусім не будзе крыўдаваць на нас. Увага, Людвіг! Трымай напагатове сваю мізэрную рэшту хлеба і булачак.

Вочы скрыпача зухавата заблішчалі. Ён рэзкім рухам прыціснуў падбароддзем скрыпку і зайграў, падпяваючы самому сабе:

- Ружамі ўсцілайце шлях.

- Прэч тых, хто смуткуе.

- Бо кароткі час у вяках нам жыццё дарує.

- Сёння ў танцы веснавым скача хлопчык пільны.

Раванціні пры гэтым нават падмацаваў:

- Заўтра ўжо вянок над ім звяне надмагільны.

Ён засмяяўся.

- Людвіг, а вынік які! Валам валяць! - І адразу ж пачаў наступную страфу.

Рыхтаваўся званы вечар, якога кватэра Бетховенаў не бачыла нават пры жыцці прыдворнага капельмайстра. Той неадабральна пазіраў на ўсё зверху са сваёй карціны. Так, прынамсі, здавалася фраў Магдалене, калі яна, выматаная гатоўляю, якая пры яе хваравітасці асабліва стамляла, прысела адпачыць у крэсле. Няўжо партрэт і яе становішча ўспрымаў з відавочнаю непрыязнасцю? У разумных вачах партрэта, якія бачылі ўсё, была як бы нейкая жудасць, і позірк іх, як бы не ўхваляючы вечара, якога так дамагаўся Ёган, спыняўся і на пустым месцы на сцяне, дзе раней вісеў дарагі габелен з святою Цэцыліяй. Нягледзячы на ўвесь сённяшні бляск апякунка музыкі ўсё ж, здаецца, назаўжды пакінула гэтую старую музычную кватэру. Людвіг, праўда, запэўніваў, што калі-небудзь ён усё-такі забярэ ў старызніка святую Цэцылію, але гэта толькі дзіцячыя словы. Між іншым, куды гэта прапаў Людвіг? Лаўка Фішэраў даўно ўжо зачынена. Вось-вось пачнуць сыходзіцца госці, і тады чакай непрыемнасцей ад Ёгана, калі раптам з'явіцца Людвіг - у муцэ і нядбайна апрануты. Карл, як маленькі паўлін, даўно ўжо тупаў па пакоях, а Ёган апрануў сваё парадное прыдворнае адзенне.

Фраў Фішэр зноў выцерла келіхі.

- Пасядзіце яшчэ трошкі, фраў ван Бетховен, і не спрабуйце пярэчыць!

Магдалена ўдзячна ўсміхнулася і кіўнула галавою, калі жанчына паказала на рог стала.

- Ведаю. Трэба яшчэ чым-небудзь накрыць зверху. - Бо на гэтым месцы абрус быў да таго пацёрты, што не магло больш памагчы ніякае цыраванне. Каштоўнае палатно, якое, гаворачы словамі нябожчыка бацькі, было такое тонкае, што скрутак можна было працягнуць праз пярсцёнак, кавалак за кавалкам павандравала да старызніка, часта так, што яна нічога і не заўважала.

Звонку на ўсходках загарлаў нехта, і, мяркуючы па голасе, гэта сапраўды ішоў Людвіг.

- Гэй! Но, конік, давай цягні!

А нехта другі буркнуў у адказ:

- Не так хутка, карлік ты няшчасны са слановай сілай!

Магдалена выбегла на калідор.

- Франц! Якая нечаканасць!

Раванціні застагнаў.

- Але і сын у цябе, Магдалена, сапраўднае страшыдла. Людвіг прымасціўся на прынесеную рэч, якую яны ўзвалаклі наверх, і працягнуў руку:

- Каштуе адзін гульдэн, сеньёр.

Раванціні закрычаў на яго:

- Што, што ты там каркаеш, разбойнік?!

Вочы ў Магдалены заблішчалі:

- Вы ўжо так моцна пасябравалі?

- Мы заўсёды былі сябрамі, а сёння ён будзе спаць у мяне!

- Калі вы не супраць?

- Ну што ты, Франц.

Ён дзіўна пасур’ёзнеў.

- Ведаеце, я рады бачыць вас зноў і яшчэ раз.

Магдалена зразумела.

- Пра што ты гаворыш, Франц! У цябе такі цудоўны выгляд, ды і сам ты - не зазнавайся толькі! - такі прыгожы, як. . .

Раванціні пакланіўся.

- Як Апалон, мая харошая. Толькі гэты Апалон унутры. . . - Ён насмешліва кашлянуў.

Адчыніліся дзверы, і пружыністаю хадою ўвайшоў Ёган ван Бетховен.

- Ужо і госцейкі?

- Добры вечар, Ёган.

Усмешка на твары ў Ёгана ван Бетховена, поўная чакання, адразу застыла. Раванціні ж адзін з Кеверыхскага кодла. Да таго ж у яго з ім звязаны і ішныя ўспаміны.

Калісьці гэтаму маладому блазнюку - яму і цяпер было ад сілы трыццаць гадоў - пратэжыраваў нябожчык бацька, ставячы яго ў прыклад сыну. «Ёган, - казаў ён, - ва ўсім - як чалавек і як мастак - імкніся быць падобным на Франца Раванціні!» Гэтыя павучанні і цяпер яшчэ выклікалі ў яго непрыемнае пачуццё.

Унізе, здаецца, спынілася карэта. З грукатам зачыніліся дзверы.

Гнеў Ёгана ван Бетховена абрушыўся на Людвіга.

- На каго ты падобны? Зараз жа вымятайся ў сваю каморку. Каб я цябе тут сёння наогул не бачыў!

Людвіг, уцягнуўшы галаву ў плечы, цяжка патупаў з пакоя.

- Можа, ты спачатку распранешся, а потым зойдзеш туды, Франц? - Ёган паказаў на шчыліну ў дзвярах, праз якую прабівалася святло. - Прабач, але зараз мне прыйдзецца пакінуць цябе. - Ён спусціўся ўніз па ўсходках, насустрач гасцям, і Раванціні правёў яго вачыма.

- Шчасце, відаць, усё яшчэ ніяк не хоча знайсці да вас дарогі: а што да вашага свята, Магдалена, то я стаміўся з дарогі і, калі ты нічога не маеш супраць, пайду лепш да сасланага Людвіга. Ён мяне, пэўна, чакае не дачакаецца.

Магдалена паціснула яму руку. Потым ёй кожнаму з гасцей трэба было падрыхтаваць усмешку, якая, як і яе валасы, была б добра прычасаная, напудраная і нават падсаладжаная.

Агню не запальвалі. Дажджавыя воблакі папаўзлі далей, і з акна адкрываўся цудоўны, усыпаны зоркамі, купал яснае ночы.

- Чаму ты раптам зноў такі засмучаны, дзядзька Франц?

- Але - чаму? Паглядзі, Людвіг, як узыходзіць месяц, як радасна плыве ён у нівошта! І. . . не бачыць усяго гэтага!. .

Дзядзька Франц, а ці не закахаўся ты, выпадкам, безнадзейна?

- Што ўжо ведаеш ты такія гісторыі?

- Я? Меркавалася, што я ажанюся з Цэцыліяй Фішэр, але ў мяне наогул ніколі не будзе сям'і, ды і ніводная жанчына не пакахае мяне, бо вельмі я непрыгожы.

Раванціні тайком разглядваў хлопчыка. Маленькі сябар, які раскрыў яму сваю душу, з усіх бакоў быў ахутаны нейкаю павуцінаю, арэолам адзіноты. І тут у самім сабе Раванціні адчуў нейкі дзіўны неспакой, быццам вось-вось адбудзецца падзея, якая для яго будзе мець рашаючае значэнне. - Не, гэта яшчэ не смерць. Аднекуль з суседняга пакоя далятала гамонка гасцей, чуўся сярэбраны дзявочы смех. Ці не гэта настройвала яго на такі летуценны лад, прымушала гаварыць пра рэчы, якія, магчыма, адпавядалі яго ўласнаму жаданню, але якія наўрад ці мог зразумець такі хлапчук, як Людвіг?

- Людвіг, жанчыны могуць кахаць нас, мужчын, незалежна ад таго, прыгожыя мы ці не. У сваю чаргу і мы не зможам дасягнуць чагосьці значнага, калі за гэтым няма кахання да жанчыны.

Яны чулі, як Ёган ван Бетховен зваў:

- Карл! Хадзі сюды, пакажы нашым госцейкам сваё сціплае майстэрства.

Людвіг, не стрымаўшыся, прабурчаў:

- Сціплае майстэрства! Што ні кажы, самае лепшае, чым ён можа пахваліцца - гэта Карл.

- А ты?

- Не. Мяне да гасцей больш не пускаюць.

А вось зайграў Карл, зайграў лёгкую санаціну, і Раванціні крыху прачыніў дзверы. У пакой прайшло трошкі святла ад свечкі.

- Хацелася б паслухаць яго. - Потым ён пачаў хадзіць па пакоі ўзад і ўперад, і яго хада ад хвалявання ўсё часцела і часцела. - Гэта сапраўднае злачынства! Ці ж можна дрэсіраваць дзяцей!

Калі ігра скончылася, запляскалі ў далоні, і грубаваты жаночы голас неяк манерна абвясціў:

- Ён жа другі Моцарт.

Раванціні злосна зарагатаў.

- Гэтак можа сказаць толькі невук! Моцарт быў дзіва!

- Чаму быў?

- Безумоўна, быў. Яго час дзіва-дзіцяці, вундэркінда, даўно прайшоў. Час гэты быў тады, калі ён са сваёю сястрою яшчэ рабіў падарожжы, каб выступаць з канцэртамі ў Вене, Бруселі, Парыжы, Лондане, у Швейцарыі і ў Італіі. Сёння ён усяго толькі прыдворны арганіст графа Іероніма Каларэда, архібіскупа Зальцбургскага, і нічога больш. На абедзе ён сядзіць у чалядні.

Людвігу ў гэтым было нешта прыемнае, але адчуванне такое адразу ж знікла.

- Той самы Моцарт, што напісаў музыку, якую ты іграў?

- Той самы. Між іншым, у мяне з сабою ёсць яго клавір. Ля мажор, канцэрт для скрыпкі з аркестрам. - Раванціні пакорпаўся ў сваіх рэчах. - Вось ён. Паглядзі, ці здолееш ты яго сыграць? Так, а зараз мне хочацца есці. Дрэнная музыка заўсёды наганяе на мяне воўчы апетыт, пасля добрай музыкі мне і ў рот нічога не лезе. Мой жывот, такім чынам, - самы лепшы крытык.

Людвіг паклаў ноты на падаконнік, каб пачытаць іх у святле месяца. Яго ўскудлачаны чорны віхор звісаў над старонкамі. Людвіг нават адбіў пальцамі па падаконніку першыя акорды, падпяваючы сабе ў такт, калі толькі гэтыя гукі можна назваць спевамі. У той час, калі яго левая рука адбівала адну шаснаццатую акампанемента, пальцы правай бралі адну восьмую стаката.

- Людвіг, а ў Пфайфера ты добра навучыўся пераймаць галасы жывёл.

Той нічога не чуў. Ён прытупваў нагою.

- Прымушаць яго есці разам з чэляддзю!!

Праз нейкі момант Людвіг паціраў ужо рукі.

- Дзядзька Франц, як гэта цудоўна: і маё сённяшняе выгнанне сюды, і тое, што ты разам са мною. Нам не трэба прымушаць сябе грымаснічаць у кампаніі, і тым не менш мы таксама там.

Раванціні падняў руку.

- Ціха, дай мне паслухаць гэта!

Густы мужчынскі голас сказаў:

- Значыцца, у нас будзе багаты выбар опер і драматычных твораў, і таму ні артыстам, ні музыкантам трывожыцца не будзе чаго. Пачнём даваць канцэрты як царкоўнай, так і свецкай музыкі.

- Гэта дырэктар тэатра Гросман, - шапнуў Раванціні.

- А што да новых артыстычных талентаў. . .

Ёган ван Бетховен перабіў яго.

- Гер дырэктар, пасля ўсяго, што я чуў, найкаштоўнейшай жамчужынай тутэйшага ансамбля будзе, бясспрэчна, мадмуазель Фрыдэрыка Флітнер.

- Я?. . - Чысты галасок, як сярэбраны званочак, засмяяўся-зазвінеў.

- Ты, дзіцятка. . . - зноў азваўся гер Гросман, - хоць ты і мая падчарка, але гер ван Бетховен сапраўды мае рацыю. Толькі, глядзі, добра сачы за сваім высокім званнем нашай маладой каралевы, бо інакш яго ў цябе можа адабраць адзін прынц. Завуць яго Франц Раванціні. Гэта вельмі таленавіты скрыпач, які таксама прыйдзе да нас.

- Гэта ж пра цябе гавораць, дзядзька Франц, га?

- Зачыні дзверы, Людвіг!

- І не падумаю.

Цяпер зноў пачуўся голас Ёгана ван Бетховена:

- Раванціні? Некалькі гадоў таму назад ён ужо быў тут, у прыдворным тэатры ўсяго толькі пазаштатным музыкантам аркестра, і тады, між іншым, пра яго ігру на скрыпцы. . .

Адказ Гросмана, здавалася, папярэджваў ад блюзнерства:

- Гер ван Бетховен, цяпер Раванціні пазаштатны музыкант самага вышэйшага ўзроўню! Яшчэ зусім нядаўна я слухаў яго ў Дрэздэне на «акадэміі». Яго завуць другім Тарціні!

Зноў зазвінеў званочак з чыстага серабра.

- Тарціні! Гэта ж той брыдкі чалавек - я аднойчы бачыла яго партрэт - з тоўстым носам і лупатымі вачыма. Калі б я сустрэлася з ім, я б спужалася.

- Дзіцятка, што ты там гаворыш?! Але вы самі хутка пераканаецеся, гер ван Бетховен. Раванціні ж днямі прыязджае сюды.

Раванціні патрос кулаком.

- Ну, цяпер твая маці наўрад ці стрымаецца ад смеху, хоць смяецца яна так рэдка. І, зразумела, тут яна не можа не смяяцца, бо. . .

Магдалена сказала:

- Ён ужо тут.

- Ужо ў Боне? - здзівіўся Гросман.

- Не, яшчэ бліжэй. Ён тут у нашай кватэры, праз два пакоі ад нас. Ён мой стрыечны брат.

Гросман усхвалявана перапытаў:

- Ён тут, тут у кватэры? Сілы нябесныя, перапрашаю! Дзынкнула шкло, разбіўся келіх, і маленькі сярэбраны званочак зазвінеў, здаецца, неяк надтрэснута.

- Што з табою, тата? Ды яшчэ чырвонае віно! Магдалена, як гаспадыня, пачала супакойваць:

- Такую шкоду лёгка паправіць, а посуд, кажуць, б’ецца на шчасце. Вядома, мадмуазель Флітнер, хоць і сцвярджаюць, што разлітае чырвонае віно - на слёзы, але калі гэта ад радаснай неспадзяванкі. . .

Зноў гарэзліва зазваніў сярэбраны званочак.

- Правільна, а цяпер няхай гэты гер Раванціні-Тарціні з’явіцца перад намі, ужо як кара. Зрэшты, ён сам і стаў прычынаю ўсяго.

Магдалена ласкава адказала:

- Можа, вам ён не адмовіць, мадмуазель Флітнер!

- Прашу вас, мадам ван Бетховен, завіце ж мяне таксама Фрыц ці Фрыцэ. Я сама сабе здаюся нейкаю чужою, калі мае мілыя знаёмыя, калі людзі, якім я хачу стаць добраю знаёмаю, звяртаюцца да мяне афіцыйна.

Гэта нейкая дзівачка, падумалася Раванціні. У адказе Магдалены гучаць нават ноткі сардэчнасці, хоць яна, як і ўсе Кеверыхі, звычайна трымае сябе стрымана, як і я сам. Фрыцэ?

Фрыц? Нейкае незвычайнае імя.

- Значыцца, калі пойдзеце вы, - ён, зразумела, паслухаецца вас, Фрыцэ. Я вас туды завяду. Але вазьміце з сабою падсвечнік. Яны з нашым старэйшым хлопчыкам сядзяць у цемры. - Магдалена засмяялася. - Там сышліся два дзівакі, але вам іх усё ж не трэба палохацца, як вы палохаліся носа ці лупатых вачэй гера Тарціні.

Набліжалася святло, а з ім - крокі, адзін - крыху цяжэйшы, а другі. . .

Раванціні зашыпеў:

- Людвіг! Баязлівы пацук палез хавацца! І рабіць яму гэта лёгка, бо ён жа такі малы! Раз-два, і ўжо знік за скрыняю. А куды ж дзецца мне?

Дзверы адчыніліся. Раванціні стаяў перад Фрыдэрыкай, як малады прыгожы бог, толькі яго вочы таілі ў сабе нейкі смутак, які кранаў да глыбіні душы. Але вось у гэтых вачах з’явіўся бляск, падобны на захапленне. Няўжо гэты цуд мае дачыненне да яе? Падсвечнік лёгенька задрыжаў у яе маленькай руцэ.

Ён таксама любаваўся цудам. Ён ведаў дакладна, што ніколі яшчэ не сустракаўся з ёю, але гэтак жа выразна адчуваў, што даўно ўжо бачыў і ведаў яе. Невысокая ростам, ад сілы васемнаццаці гадоў, выглядала яна ўжо расцвілаю, толькі бясконца пяшчотнаю кветкаю, цёмныя вочы і цёмныя валасы якой быццам абрамляліся серабром - дзякуючы серабрыстаму плаццю, што колерам нагадвала яе смех.

Яго з трыумфам павялі ў музычны пакой, але потым ён вярнуўся па сваю скрыпку. З святла ён нічога не бачыў і мог шукаць яе толькі вобмацкам.

- Людвіг, сын цемры, дзе ты? Хадзем са мною.

- Не!!

- Ах ты труцень! Святла, значыцца, баішся! Што параіш мне сыграць?

Людвіг прахрыпеў:

- Дзеля Фрыцэ? Я прапанаваў бы канцэрт Моцарта.

- Думка добрая.

Раванціні ўзяў ноты і зноў вярнуўся назад.

Павольна ўзняўшыся са свайго месца, Людвіг падышоў да акна. Далонямі падпёр галаву, павярнуў яе крыху ўбок - была гэта ўлюбёная яго пастава, калі ён паглыбляўся ў думкі.

Чуваць было, як настройвалі скрыпку; але што гэта сёння з дзядзькам Францам? Ён не мог як след узяць квінты. М І гўчала занадта высока, ды і калок струны соль трэба было яшчэ крыху падцягнуць. Цяпер дзядзька Франц расцягвае струну, дакранаючыся да яе. Што там кажа бацька, які робіць цяпер выгляд, быццам дзядзьку Франца адкрыў ён і ніхто іншы?

- Іграць разам з табою было б мне вялікім гонарам, але я не магу разабраць тваіх нотаў.

А потым ужо гаварыў гер Гросман:

- Тады паспрабуй ты, Фрыцэ.

Людвіг аж зморшчыўся, бо Фрыцэ аднеквалася такім спалоханым голасам.

- Мне суправаджаць такога музыканта, як гер Раванціні? Ды ў мяне толькі пальцы дрыжаць будуць.

Не, пальцам, вядома, нельга дрыжаць, нават калі гэта пальцы Фрыцэ. Нельга яшчэ больш крыўдзіць Моцарта, які і без таго ўжо сядзеў за сталом з чэляддзю.

І вось нечакана ў пакоі апынуўся маленькі брыдкі дэман, вось ён ужо сядзіць за раялем.

- Я буду суправаджаць цябе.

- Ты? Pr Ima v Ista? Адразу з ліста?

Людвіг нецярпліва кіўнуў галавою.

- Ты гатовы? Значыцца - allegro aperto, або «адкрытая радасць», так?

Ён сыграў першы акорд, выклікаючы гукі лёгкім дотыкам пальцаў.

Раванціні схіліўся да яго і шапнуў:

- Людвіг, як ты прытвараешся? А ці вытрымаеш ты ўвесь час такі тэмп?

Хлопчык апусціў павекі.

- Я ўжо вытрымаю, але ці вытрымаеш пазней ты сам?

Attacca! Разам з Раванціні яны адсвяткавалі кароткую павольную частку ўступу, і раптам ён выгукнуў:

- Allegro aperto! Але цяпер таксама І для скрыпкі!

Бліскучыя вясёлыя зорачкі быццам узбіраліся наверх па ўсходках, а лесвіцы падымаліся ўсё вышэй і вышэй, і цяпер ужо ў дарозе на неба быў і сам дзядзька Франц са сваёю скрыпкаю. А як жа ён іграў! Далёка да яго нязграбнаму раялю, гэтай бездапаможнай скрыпкі, на якой трэба ўмець дасягнуць гучання цэлага аркестра, іграючы санаты, дуэты і трыо. Толькі як? Пра гэта ён падумае пазней. Цяпер няма калі. Франц іграў для Фрыцэ, а ён, калі казаць праўду, іграў для Моцарта. Вось тут не шкодзіла б сёе-тое паправіць, ды і наогул яму трэба добра пастарацца, каб не сапсаваць твора і не прынесці новага гора таму, хто і так сядзіць за сталом разам з чэляддзю.

А вось і кадэнцыя! Ён даў прагучаць апошняму акорду і адарваў рукі ад раяля, але пакінуў іх над клавішамі, каб з апошнімі гукамі кадэнцыі адразу ж зайграць зноў.

Ён павярнуў галаву. Няўжо іграе адна толькі скрыпка? Такога двухгалосся і такіх двайных флажалетаў ён яшчэ ніколі не чуў! Быццам спяваў салавей, клікаў да сябе, глуха, з тугою. Нарэшце дзядзька Франц крышку расплюшчыў вочы, хоць позірк іх быў дзесьці далёка-далёка адгэтуль. Людвіг супакоіў яго кіўком галавы: не трывожся, я здолею падхапіць апошні гук кадэнцыі. Цяпер пара! Потым засталося яшчэ прагнаць на раялі невялічкую частку. Адбарабаніўшы пасажы, ён закончыў іх нейкім выклікам, быццам сігналам на ражку.

Потым далі праліцца зорнаму дажджу адажыо, а вось і апошняя частка. Як жа смяяўся Моцарт! Нельга было не смяяцца самому, калі думалася, што за сталом ён сядзеў разам з чэляддзю. Можа, гер архібіскуп памыліўся?. .

Гэтая думка дакучліва лезла ў галаву. Гер архібіскуп, ведама ж, памыліўся, ён толькі не заўважыў гэтага. На самай жа справе за бедным сталом сядзеў ён сам, а Моцарт сядзеў наверсе за багатым сталом і якраз крэмзаў ноты, якіх ужо нецярпліва чакалі салаўі. Нотныя галоўкі блішчалі яшчэ нявысахлымі чарніламі, але салаўі ўжо пырхалі з імі па небе, аж шалелі там ад жартаў, насміхаючыся з гера архібіскупа.

Калі госці разышліся, Раванціні з Людвігам распрануліся, патушылі святло. На каморку адразу ж навалілася густая цемра. Людвіг, паглыблены ў роздум, прыкінуўся, што спіць, але на дзядзьку Франца напаў кашаль, і калі ён прайшоў, дзядзька застагнаў.

Людвіг тым не менш ваяўніча прыўзняўся на локці.

- Дзядзька Франц, чаму ты перад гэтым так няласкава абышоўся з Фрыцэ? Яна ж такая мілая, га?  І ты ёй таксама падабаешся.

- Як жа я ёй магу. . .

- Канечне, ты ёй падабаешся, а яна табе. Падмануць мяне вам не ўдасца. А з вас выйшла б цудоўная пара. Пасля першага прычасця я хачу пайсці ў царкоўныя служкі, і на вашым вяселлі я вось мог бы. . .

Раванціні неяк дзіўна засмяяўся.

- Магчыма, табе і ўдасца неўзабаве стаць у мяне служкаю, але не на вяселлі ў царкве.

Ён ціхенька заспяваў:

- Ружамі ўсцілайце шлях. Прэч тых, хто смуткуе. . .

Людвіг узлаваўся.

- Дзядзька Франц, не чапай ты, нарэшце, гэтай песенькі. Прыйдзецца табе ўжо прабачыць мне, калі я паспрабую адкрыта пагаварыць з табою. Мы ж сябры. Ты непрыстойна абышоўся з Фрыцэ, нават зрабіў выгляд, што не заўважыў яе рукі, працягнутай табе на развітанне. Так гэта ці не так? Што ты можаш сказаць на сваё апраўданне? Заўтра раніцаю мне трэба будзе збегаць да яе, каб уладзіць усё.

- Людвіг. . . - Смутак і адчай гучалі ў гэтым слове. - Людвіг, у мяне непапраўныя сухоты. Варта мне толькі дакрануцца да аднаго з яе пальчыкаў - і гэта можа прынесці ёй смерць. Мяне чакае. . . века труны.

Людвіг саскочыў з ложка, выкрасаў агонь, паднёс полымя да свечкі.

- Каб. . . века труны не бачыла цябе.

Ён зноў шмыгнуў на ложак, цвёрда ўпэўнены, што ўсё будзе добра, бо ў галаву яму прыйшла адна думка. Трэба пагаварыць з Фрыцэ, і яна. . .

На другі дзень абед прайшоў моўчкі, бо Ёгана ван Бетховена за сталом не было - ён увогуле не вярнуўся дадому. Ды і Людвіг яшчэ раз кудысьці знік, але вось па ўсходках чуваць яго энергічныя крокі. З шумам уляцеў ён у музычны пакой, у якім ад учарашняга святкавання і следу не засталося.

- Што ты там іграеш, дзядзька Франц?

- Чакону Баха, пасаж з яго сюіты для сола на скрыпцы. Там ёсць некалькі старых танцавальных мелодый.

Раванціні паклаў скрыпку і ўзяў бутэлечку з лекамі. Адліваючы кроплі ў шклянку з вадою, ён голасна лічыў:

- Адна, дзве. . . шэсць, сем. Па кроплі на кожную зорку планетнай сістэмы. Якое глупства! Цэлы дукат усадзіў у гэты смярдзючы церыяк, ад якога вылечваецца толькі сухотная кішэнь дактароў. Шарлатаны яны, і нічога больш!

Людвіг кіўнуў галавою.

- Прафесія далакопа, прынамсі, больш сумленная, і таму я вырашыў стаць далакопам.

- Кім?

- Дзве просьбы ў мяне ўжо ёсць, а калі магілы будуць выкапаны, то я змагу сыграць яшчэ і пахавальную музыку.

- Дзве просьбы? Што ты хочаш гэтым сказаць?

- Ну, адна просьба твая, дзядзька Франц, а потым памерці хоча таксама і Фрыцэ.

- Фрыцэ?

- Тройчы я заходзіў да яе, і кожны раз яна ўсё яшчэ была на рэпетыцыі і вось нарэшце дала мне гэтую запіску. Пісьмо табе.

Раванціні чытаў: «Людвіг расказаў мне пра ўсё. Я да смерці засмучана і ў той жа час непамерна шчаслівая. Фрыдэрыка».

Ён спытаўся:

- Пра што ты ёй расказаў?

- Пра тое, што там напісана: пра ўсё - і вось яна хоча памерці з табою. А зрэшты, колькі ты заплаціш мне за дзве магілы і пахавальную музыку?

Раванціні аж узвіўся:

- Бач, які прагны дэман-далакоп знайшоўся, ад мяне ты і шцюбера не атрымаеш! Бо цяпер я хачу і - буду жыць, бо гэта, гэта, - ён стукнуў па пісьме, - мацней за смерць!

Схапіўшы бутэльку з лекамі, ён расчыніў акно і шпурнуў яе на двор. Шкло разляцелася на друзачкі, закудахталі перапалоханыя куры.

- Людвіг, у мяне такое адчуванне, быццам я здаровы! Не, што можа зрабіць з чалавекам дзяўчына, якая падабаецца табе яшчэ больш, чым ты, Амур ты мой з прэтэнзіямі на далакопа, пачвара ты мая салодкая. . . - Ён узлахмаціў Людвігавы валасы. - Значыцца, хоць ты здатны да ігры на скрыпцы нават менш за кацяня, я ўсё ж пачну даваць табе, майму маленькаму і найлепшаму сябру, урокі. Але мне перш трэба папрактыкавацца, і дзеля Фрыдэрыкі таксама, разумееш? У мяне не за гарамі акадэмія, тут у Боне, і ў Кёльне, і вось я ўспомніў пра чакону і пра санату соль мінор Тарціні, з яе чортавай перабіранкаю.

- З чым, кажаш?

- Няўжо ты не ведаеш санаты з чортавай перабіранкаю і яе перадгісторыі? Ну дык слухай тады. Аднойчы ноччу ў сне Тарціні пачуў нейкую дзіўную музыку, бачыць - і чорт тут як тут, пад падбароддзем - скрыпка, і шыбуе да яго ложка. Вочы блішчаць; і кажа яму: «Гэта мая музыка; вось зараз я сыграю такую трэль, што ты нізавошта не паўторыш!» Прахапіўся Тарціні і хуценька запісаў некалькі нотаў санаты і трэлі. - Давай! Акампануй мне.

Ён пачаў настройваць скрыпку, а Людвіг тым часам праглядаў ноты для раяля.

- Ларгета афетуоза (П’еса ў павольным тэмпе, выразна (італ. )), Людвіг, але граве (Сур’ёзна і вельмі павольна (італ. ))!

Яны пачалі іграць. Музыка гучала сур’ёзна, незвычайна і неяк стрымана.

- Чуеш, Людвіг? Вось яна, чортава музыка, а цяпер будзь вельмі ўважлівы! Зараз скрыпка пачне песціць двухгалоссем, загучыць сумна і соладка. Зразумела, і птушкі ў лесе таксама хочуць пачуць прыгожую песню, і, бач, яны ўжо садзяцца на галінкі, але гэта не галінкі, а гліняныя дроцікі. Тэмпа джуста (Правільны тэмп (італ. ))! Зараз кароткае ларга (Павольна (італ. )). Людвіг, калі будзеш іграць алегра асаі (Вельмі хутка (італ. )), з раяля трэба выбіць зялёныя іскры з серы і фосфару! Вось так, а цяпер чорт выводзіць сваю трэль, вабіць сваёю перабіранкаю!!!

Нарэшце прагучаў фінальны акорд, і Раванціні апусціў скрыпку. Напружанне адабрала ў яго ўсе сілы. Твар стаў шэры, лоб блішчаў ад поту, а з правага куточка рота выбівалася

кропелька крыві і паволі сцякала ўніз.

- Ці хораша сыграў я, Людвіг? Не, сапраўды, чаго толькі не зробіць з мужчынам, з яго здольнасцямі і сілаю, такая вось маленькая жанчынка!

Людвіг не мог больш вытрываць. З гэтаю д’ябальскаю хваробаю, што ні кажы, адно каханне ўсё-такі не справіцца. Каб не маўчаць, ён папытаўся:

- Дзядзька Франц, а хто табе будзе акампанаваць на канцэрце?

Раванціні аж пляснуў сабе па лбе.

- Нефе - ён жа сёння раніцаю прыехаў на паштовай карэце і адразу ж памчаўся апрабоўваць арганы. Цяпер ён, мабыць, у саборы. Калі не там, то табе прыйдзецца пашукаць яго.

- Мне пашукаць яго?

- Я сказаў яму, што ты хочаш браць у яго ўрокі, але спачатку ён хоча паглядзець на цябе.

Людвіг адразу ж насцярожыўся:

- Хоча спачатку паглядзець на мяне?

- Ідзі ўжо, дурненькі. У яго свае, зусім адмысловыя метады. Ідзі, ідзі, Амур касматы, толькі не бадзяйся вельмі доўга! А потым занясеш пісьмо да Фрыдэрыкі. Дзе тут у вашай запушчанай гаспадарцы чарніла і гусіныя пёры?

Яшчэ здалёку Людвіг пачуў гукі, якія нібы прабіваліся і струменіліся ўніз праз высокія вокны царквы. Калі ён адчыніў цяжкія дзверы, яго як ветрам шыбанула назад. І пальцы, якія ён апусціў у чашу з святою вадою, дробненька задрыжалі. Механічна ён перахрысціўся, дакрануўшыся пальцамі да лба і грудзей, і ўкленчыў перад дарахавальніцаю. Закратаваныя жалезныя дзверцы перад вітымі ўсходамі, што вялі на хоры, былі зачынены, і Людвіг з палёгкаю ўздыхнуў, бо гэта перасцерагала, такім чынам, ад рашучага кроку. Але ў той жа час яму стала сорамна, і гэта выразна аддалося на твары. Ці ж апраўдвала яго тая акалічнасць, што такога страху, як цяпер, ён не чуў яшчэ ніколі, нават перад стусінкаю свайго бацькі? Перад ім, сцяўшы зубы, ён панура ўцягваў галаву ў плечы.

Ён і цяпер зрабіў гэтую паставу, з якой прывык сустракаць усе нягоды. Ды і што з таго - у лепшым выпадку, гэта толькі адцягвала час. Хлопчык пацягнуўся рукою праз краты, адсунуў засаўку, і дзверы адчыніліся так ахвоча, нібы хацелі паздзекавацца з яго. Ён выразна адчуў, што нават жалеза вібрыравала ад магутных гукаў.

Ногі яго, здаецца, наліліся свінцом, але нягледзячы на магутныя гукі, ён чуў, як ступае па каменных ступеньках. Хоць ён ніколі не скардзіўся на лёгкія, цяпер задыхаўся, пакуль узабраўся на хоры да арганаў. Там ён убачыў маленькага гарбатага чалавечка з маршчыністым, але не старым яшчэ тварам. Чалавечак сядзеў на ўслончыку, гойдаючыся над клавішамі, і ў яго позірку жыло захапленне.

Раптам ігра абарвалася, і было гэта падобна на ўдар грому. Толькі ціхенька яшчэ сіпелі мяхі, і нечы голас, злуючыся на перашкоду, папытаўся:

- Што табе тут трэба?

- Мяне. . . мяне паслаў гер прыдворны музыкант Франц Раванціні.

Голас загучаў яшчэ больш злосна.

- Мне няважна, хто цябе пасылае - прыдворны музыкант ці больш высокі чын. Я і сам прыдворны музыкант і прыдворны арганіст, ну і што з таго? Нічога! - Ён стукнуў рукою па драўлянай дошчачцы побач з ручною клавіятураю. - Галоўнае тут - у арганах і ў музыцы! Як цябе завуць?

Хлопчык ледзьве асмеліўся назваць сваё імя.

- Людвіг ван Бетховен.

- Ага. Значыцца, хочаш навучыцца іграць на арганах? А рукі ў цябе наогул здатныя на гэта?

У горле перасеў даўкі камяк.

- Не. . .

Ад хвалявання Людвіг ламаў пальцы.

- Адкуль ты гэта ведаеш?

- Усе кажуць - яны нават не могуць іграць на раялі.

- Перастань ламаць пальцы! Ану пакажы свае рукі.

Гарбун узяўся за яго рукі. А як мякка ён мог дакранацца да Іх! Да ціхага сіпення мяхоў

далучыўся яго свіст.

- Глядзі ты на яго! Адно магу сказаць: пры выпадку не шкодзіла б памыць табе добранька лапы! А ў астатнім - быццам абсечаныя, кароткія, квадратныя пальцы. Хто ж гэта сказаў, што твае рукі не здатныя да ігры?

Людвіг мог толькі выціснуць:

- Усе!

Нефе аж падскочыў.

- Тады і я ім усім скажу, што яны дурні! Дапраўды, хлопча. - Ён паматаў галавою. - Я наогул ніколі яшчэ не бачыў такіх квадратных і брудных лап. Значыцца, ты ўжо іграў на арганах?

- У францысканскай царкве.

- На тых піскլявых арганах, значыцца. - Позірк шэрых вачэй пранізваў хлопчыка. - А ты ўжо - толькі не брашы! - не спрабаваў пісаць чаго-небудзь для арганаў?

Губы ў Людвіга задрыжалі.

- Усяго. . . толькі адну невялічкую рэч.

- Невялічкую ці вялікую - усё роўна. Значыцца, ты асмеліўся напісаць музыку для вось гэтага агромністага інструмента?!

Нефе заварушыўся, саскочыў з месца.

- Давай іграй!

Людвіг ускарабкаўся на ўслончык. Сёння ён, мабыць, і не дастане яшчэ нагамі да педаляў.

Побач з ім стаяў гарбун, з заплюшчанымі вачыма, як бы хочучы, каб лепш было чуваць. Нарэшце ён расплюшчыў вочы.

- Злазь з услончыка! Дрэнь! Цяпер я табе штосьці сыграю, каб праверыць, як ты разумеет музыку. - Ён зайграў. - Ну, як табе падабаецца?

- Хораша. . .

Гарбун уважліва паглядзеў на яго.

- Што хораша? І гэта, кажу табе, дрэнь. Бо музыку ж напісаў я! А вось зараз ты пачуеш нешта вартае - я сыграю табе фантазію і фугу соль мінор Ёгана Себасцьяна Баха.

Значыцца, вось калі ён пачуе той твор, пра які не раз гаварыў дзядуля! У яго памяці твор гэты даўно ўжо быццам завалены камянямі, але цяпер камяні адкінуты ўбок, і дзядулевы словы жахліва-прыгожым прывідам узніклі ў памяці. Пра гэтую кампазіцыю дзядуля заўсёды гаварыў з глыбокаю пашанаю. З яго слоў паўставала карціна мора, на якім бязлітасная бура ўзняла высокія хвалі, пагнала іх перад сабою, а потым зрабіла з іх шкляныя скалы, праз якія прасвечвала сонца. У ззянні сонца шкляныя скалы то лезлі ўверх, то апускаліся ўніз і. . . скакалі! Ён добра помніў, як спытаўся калісьці ў дзядулі, што такое мора. «Кажаш, вада? Няўжо яшчэ больш, чым у Рэйне? - Дзядуля засмяяўся. - У параўнанні з морам Рэйн усяго толькі маленькая ручаінка!» І вось цяпер Людвіг адчувае, што побач з ім стаіць дзядуля і зноў на яго твары усмешка. «Зараз ты пачуеш і пабачыш столькі, што ў цябе закружыцца галава!»

Гарбун так нізка схіліўся над клавіятураю, што, здавалася, ляжаў на ёй. Быццам развітваючыся з жыццём, ён зірнуў напаследак на маленькае люстэрка над арганамі, і там адлюстраваўся перакрыўлены да непазнанасці твар. . . - перакрыўлены ад гвалтоўнага напружання і рашучасці гнаць перад сабою таямнічае мора, прымусіць скакаць яго шкляныя хвалі, у якіх скрозь прасвечвала сонца. І тут загучалі арганы. . .

Людвіг апрытомнеў ад таго, што хтосьці гукаў яго:

- Гэй!

Ён ледзьве адарваўся ад парэнчаў, да якіх быццам прырос. На губах у Нефе гуляла нейкая д’ябальская ўсмешка.

- Вось гэта я лічу сапраўднай кампазіцыяй для арганаў. Ці, можа, ты думаеш іначай?

Хлопчык маўчаў, і гарбун ціхенька засмяяўся.

- Што, не можаш ніяк ачомацца? Гэта добрая ацэнка, але ўсё ж ветлівасць патрабуе, каб ты сказаў мне дзякуй, бо іграў я табе.

Людвіг нязграбна пакланіўся.

- З глыбокаю пашанаю дзякую.

Яго руды, пасечаны воспаю твар пашарэў. Сціснуўшы зубы, ён з усяе сілы стрымліваў

плач. Бясконца цяжка было на сэрцы, бо гэтая гадзіна азначала канец яго мараў. Ён павярнуўся і памкнуўся пайсці.

- Куды ты?

- Вялікі дзякуй, але мне расхацелася. . .

- Што? Не хочаш больш вучыцца іграць на арганах?

- Не.

- Вось гэта дык надумаў! А хто ж будзе пісаць музыку? Губы ў хлопчыка задрыжалі.

- Я ніколі не буду больш пісаць музыкі.

- Проста дзіва! - Нефе зляцеў з услончыка. - Ану давай сюды наверх! Ты што, не зразумеў мяне? Залазь на ўслончык! Праз чатыры, мо праз пяць гадоў і ты здолееш, павінен сыграць гэтую фантазію з фугаю! Павер, я навучу цябе гэтаму, ды і пра тое, як пісаць музыку, мы таксама пагаворым. . . можа, крыху пазней. Убі, калі ласка, у свой чарапок: пачынаючы з сённяшняга дня, кожныя чацвер і пятніцу, ты будзеш прыходзіць вучыцца іграць на арганах, дакладна мінута ў мінуту, гэта ўжо я папрашу цябе. І, вядома, з чыста вымытымі лапамі! Практыкавацца будзеш кожны дзень пасля імшы. Ну, а раз ты ўжо сёння прыйшоў сюды, то я зараз жа і пакарыстаюся гэтым, - ён схапіў Людвіга за каршэнь, - і дам табе першы урок.

Хлопчык варушыўся, як у сне. Неяк ускарабкаўся на ўслончык, гарбун узяў яго за падбародак.

- З чаго ж нам пачаць? Пачынаць заўсёды не так проста. Бо баюся я за цябе, хлопчык. У мяне такое адчуванне, бедны мой, што ў цябе ёсць нешта ад сапраўднага музыканта. А гэта жыццё нялёгкае, але - што ж зробіш - чалавек павінен ісці сваёю дарогаю. Як цябе там завуць?

- Людвіг ван Бетховен.

- Правільна. Будзем, значыцца, спадзявацца, што з цягам часу, пачуўшы гэтае імя, чырванець за яго не прыйдзецца. Калі табе трэба будзе што памагчы, то я заўсёды гатовы. Ты ж, як і Франц Раванціні, мабыць, каталік? То гавару табе адразу, што я кальвініст, значыцца, па вашаму - адступнік. Але - хопіць пра гэта, не будзем больш даходзіць праўды, а лепш як-небудзь пачнём займацца музыкаю.

Калі праз дзве гадзіны Людвіг вярнуўся дадому, Раванціні накінуўся на яго:

- Дзе ты так доўга бадзяўся, валацуга?!

Людвіг зрабіў самы нявінны твар.

- Што я магу зрабіць, калі ўсё так доўга цягнулася.

- Што так доўга цягнулася?

- Урок, які мне даваў гер Нефе. З сённяшняга дня мне двойчы на тыдзень трэба хадзіць на ўрок, і. . .

Раванціні перабіў яго.

- Што ты там кажаш? Крысціян Готліб Нефе, што кожнага кусае, як паганы сабака, з першага разу даў табе урок?

Людвіг кіўнуў:

- Здорава. А які ж ён цудоўны музыкант!

Раванціні, узяўшыся ў бокі, моцна зарагатаў.

- Можна смела пабажыцца, што гэта так, але адкуль ты гэта, зрэшты, ведаеш?

Дзядзька Франц усё яшчэ не верыць? Тады можна абвясціць і самы вялікі свой трыумф.

- Ён сыграў мне фантазію і фугу соль мінор Ёгана Себасцьяна Баха.

- Сыграў табе, Людвіг?

- Ну але. А ў астатнім ён такі ж вар’ят, як і я, і такі ж добры, як ты, дзядзька Франц!

Усё было, як і заўсёды перад днём нараджэння мансеньера, толькі на гэты раз заадно мелася быць і ўрачыстае адкрыццё нацыянальнага тэатра з паказам святочнага спектакля «Позірк у будучыню», «прысвечанага вышэйшаму святу дня нараджэння Яго Міласцівай Вялікасці Курфюрста Кёльнскага». Тэкст напісаў барон І. А. фом Хаген на музыку гера Гельмута. Пасля гэтага перад валадаром дзяржавы меліся паказаць сваё майстэрства шмат артыстаў.

Усе дамы ў Боне былі ілюмінаваны. За шыбамі ў вокнах залатымі радочкамі стаялі запаленыя свечкі, і некаторыя крамы былі аздоблены так, што збіралі каля сябе натоўпы разявак, якіх заўсёды поўна на вуліцы. Кандытары павыштукоўвалі свае торты як хто мог: часамі выкрунтасы з цукровай глазуры нагадвалі біскупаў кій. На крэндзелях, таксама з аздобы,

перапляталіся літары M і Ф, ініцыялы курфюрста і архібіскупа.

- Дзядзька Франц, зірні вунь на той бюст са шмальцу ў ятку!

- Падлізацца хочуць. Хадзем, бо ўжо пад’язджаюць брычкі, а ты паўзеш паволі, як чарапаха!

У святле вулічных ліхтароў да замка, да нацыянальнага тэатра з ляскатам падкоў падляталі экіпажы. З іх выходзілі кавалеры, здымалі з парыкоў капелюшы з загнутымі ўверх палямі, кланяліся, з пены брыжаў на рукавах падавалі рукі дамам, што сваімі маленькімі ножкамі ў парчовых туфельках асцярожна саступалі на падножку. Сёння ў госці было запрошана дваранства не толькі па нараджэнні, але і па грошах. Шамацеў шоўк, да неашчадна буйнага водару язміну прымешваўся пах парфумы. Туды-сюды махаліся вееры, стаяў бесклапотны смех, паблісквалі брыльянты.

Прыдворнае адзенне лёгка дало Раванціні дарогу праз дзверы каля сцэны. Лёкай хацеў быў затрымаць Людвіга, але дзядзька Франц - не бацька з яго «ласкава прашу да паслуг».

- З дарогі! Хлопчык нясе маю скрыпку.

Якраз у гэты час гледачы падняліся з месцаў, бо ў сваю ложу ўвайшоў мансеньёр, маленькі несамавіты чалавечак, але з агністаю княжацкаю зоркаю на грудзях. Міласціва кіўнуўшы, ён сеў на сваё месца, рухам рукі дазволіў зрабіць тое ж самае гасцям і чэлядзі. Ганарыстага выразу на яго твары як і не было. Мансеньёр у ложы сядзеў адзін, толькі за яго крэслам стаяў граф Бельдэрбуш.

На сцэне цяпер гарэлі адны ніжнія агні, асвятляючы пярэстую, з таямнічым хістаннем, заслону. Пачаўся святочны спектакль на ўшанаванне дня нараджэння мансеньёра. Заслона рассунулася ў бакі, і на сцэне ўзнікла сельская мясціна ў нейкай казачнай краіне. На лаўцы, плетучы вянкі, сядзела Разалія, дачка старога Ліндара. Бацька прынёс ёй флейту, якую калісьці падарылі музы, і сёння трэба было вярнуць яе ім як ахвяру. Падрыхтоўкай ахвярапрынашэння тым часам займаўся Эраст, якога Ліндар заручыў са сваёю дачкою. Натоўп спяваў. З’явілася багіня Мінерва і абвясціла: «Не вечна будуць цягнуцца гэтыя шчаслівыя часы. Разладзяцца справы нават і ў саміх муз, і тады яны, занядбаныя, усімі забытыя, не знаходзячы сабе спакою, пойдуць вандраваць па ўсім свеце. Вы здзіўлены і дрыжыце? - Мадам Гросман, з якой выйшла залішне тоўстая Мінерва, падняла свой голас да трэмала. - Слухайце, што я скажу далей! Але валадары краіны прыйдуць да прыгнечаных муз; і валадары Германіі, якім надакучылі вандроўныя паследкі Лютэцыі, таксама перастануць саромецца мастацтваў, што закрынічылі па айчыннай зямлі. Слухайце, людзі: там, дзе паміж гор цячэ Рэйн, знайшоўся князь, хутчэй бацька, чым уладар, які заступіцца за айчыннае мастацтва і літасціва прыме ў сябе артыстаў, дасць ім прытулак у сваім замку! І заўтра настане дзень, які падорыць яго ўсяму свету і яго народу!»

Людвіг, хіхікнуўшы, шапнуў:

- Але ж ён ужо цяпер сядзіць у ложы, а звычайна гуляе ў трык-трак.

Раванціні даў яму штурхяля.

- Ты, паследак Лютэцыі! Гэта ж прадказанне, зробленае тысячы гадоў назад. Успомні пра бюст са шмальцу ў ятку. А барону фом Хагену вельмі ўжо хочацца выбіцца ў тайныя прыдворныя дарадчыкі.

З вясковай дубровы, пасярэдзіне якой стаяў маленькі алтар, зрабіўся пышны храм. Наверсе храм звужаўся да піраміды, абмаляванай алегарычнымі фігурамі ўсіх княжацкіх дабрачыннасцей. А мадам Гросман усё трэмаліравала: «Вы дзівіцеся? У гэтым храме вам і далей прыйдзецца прыносіць ахвяру як знак свае глыбокае павагі, а цяпер паслухайце, што яшчэ хочуць абвясціць вам багі. Я ж тым часам вярнуся на нябёсы».

Яна вярнулася на нябёсы, проста пайшоўшы са сцэны, і тады муза Яўтэрпа сказала, паказваючы на вяршыню піраміды: «Паглядзіце, вунь ён, пасланец багоў! Гэта геній будучыні. Геній будучыні, аб’явіся!»

Людвіг аж сагнуўся, бо Раванціні моцна ўчапіўся за яго плячо. Над вяршыняй піраміды з’явіўся геній будучыні - Фрыдэрыка Флітнер, усміхаючыся, тонкая, адзетая хлопчыкам, як птушка, што лунае, не ведаючы зямнога прыцягнення. У левай руцэ яна трымала лаўровы вянок, а кончыкамі пальцаў правай лёгенька дакранулася да піраміды. Быў гэта ўсяго толькі слабы дотык, але ён вызваліў страшэнныя сілы. Загрымелі літаўры, загучалі фанфары, перад храмам раскрылася зямля, і адтуль паказаўся бюст курфюрста. Увесь народ і нават музы кінуліся на

калені, а тым часам геній будучыні зусім апусціўся на зямлю і адным кароткім рухам маленькай ручкі, быццам жартуючы, спыніў і гром літаўраў і шум фанфараў.

У поўным маўчанні як людзей на сцэне, так і гледачоў, зачараваных анёльскаю асобаю, пасланец багоў паклаў лаўровы вянок на лоб бюста, гаворачы пры гэтым словы, якія нагадвалі шчабятанне птушкі, хоць пасланец, паглыблены ў свае мары, сам углядаўся ў цемень глядзельнай залы:

- Благаславёны князь усіх князёў, якога сапраўды любяць багі! Бачыць цябе - шчасце І радасць, і таму - табе трэба І ты будзеш яшчэ доўга жыць сярод нас, бо інакш мы. . . асірацеем. . .

- Дзядзька Франц, ці не табе яна гэта кажа?

Раванціні прасіпеў:

- Ціха! Пара і нам ісці. Спектакль зараз скончыцца, а потым і мая чарга выходзіць на сцэну. Паспрабую адказаць майму генію будучыні скрыпкаю. . .

На сцэне Ліндар яшчэ гаварыў словы:

- Шчасце нам, хто бачыў столькі цудоўных дзён!

- Няхай жыве наш князь! Няхай жыве Фрыдрых Максіміліян! -

а хор цягнуў яшчэ заключную песню, як за кулісамі Нефе ўжо аддаваў свае загады:

- Храм і ўсё астатняе застаюцца на месцы! Падсуньце толькі клавесін да бюста! Зімрок, вы гатовы абвясціць пра выхад Раванціні? Добра, і не забудзьце дадаць, што гэта адзін з самых цяжкіх скрыпічных твораў. К чорту, а дзе ж гэты чалавек, што збіраецца прымусіць чорта свістаць?

Раванціні якраз з’явіўся на суседняй сцэне.

- Ну і Людвіг, вядома, таксама тут! Дзе вы там зноў бадзяліся?

Выбухнулі апладысменты. Гарбун, кінуўшы крыху з’едлівы позірк праз плячо, сказаў:

- Калі не памыляюся, гер фом Хаген, вам, відаць, прыйдзецца цяпер ісці кланяцца як . . . аўтару. - І, узяўшы за закаўрашы фрака аднаго з музыкантаў, дадаў: - Гер Гельмут, хоць ваша музыка крышачку й лепшая, але прабачце! Не, клавесін бяруць толькі два чалавекі! Вось так, Франц, не, падвядзі мяне, бо ўсё-такі табе акампанаваць будзе сам Крысціян Готліб Нефе. Марш на сцэну! Я ж, як менш значны партнёр, буду ісці за табою за сем крокаў. - Раптам ён застыў на месцы. - А я ж праз усю гэтую сённяшнюю беганіну забыў у царкве ноты!

Тым часам на сцэне Раванціні, ужо адкланяўшыся курфюрставай ложы, клаў скрыпку на клавесін, зняў шпагу і аддаў яе за кулісы.

Нефе аж застагнаў:

- Што ж нам цяпер рабіць?

Чырвоны Людвігаў твар яшчэ больш пацямнеў.

- Тады мне, мабыць, зноў прыйдзецца акампанаваць. Каб настроіць скрыпку, Раванціні папрасіў даць яму яшчэ раз гук ля. Ён азірнуўся і гукнуў:

- Людвіг!

Тоўстыя хлопчыкавы губы запытальна выцягнуліся.

- Што? Гер Нефе забыў у царкве ноты, а мы ўжо аднаго разу ігралі гэтую санату.

- І ты ўпэўнены, што сыграеш санату Тарціні на памяць?

Ён не ведаў, што сказаць. На твары застыла нейкая ўпартая абыякавасць, а ўскудлачаныя чорныя непаслухмяныя валасы, здавалася, аж патрэсквалі ад страху і захаплення. Нешта заўзята-ўпартае ў ім са смехам адказала:

- Тарціні! Хто такі Тарціні?

Фрыдэрыка! Бледная як смерць, яна стаяла, прыхінуўшыся да кулісы. Людвіг некалькі разоў паварушыў рукою, сціскаючы пальцы ў кулак і расціскаючы іх. Здавалася, ён хацеў прыдаць сваім пальцам патрэбную гнуткасць, але папраўдзе, дык было гэта толькі здзеклівай уцехай, якую ён мог бы перадаць дзяўчыне: не бойся, нічога з намі не здарыцца, але калі табе так хочацца, то бойся, няхай крыху падрыжыць тваё сэрца!

Раванціні яшчэ раз шапнуў:

- Людвіг, ты сур’ёзна збіраешся?. .

У ціхім хлопчыкавым голасе гучала цяпер ужо злосная нецярплівасць.

- Можа, лепш пачнём? Увага! Пачалі!

І ён узяў першы акорд.

Курфюрст, падышоўшы да бар’ера свае ложы, асабіста падаў знак для апладысментаў.

- Бліскуча! Бліскуча, Раванціні! Схіляю галаву перад такім талентам!

Потым канцлер раптам пакінуў ложу, і крышку пазней сталася нешта такое, што адразу ж абарвала апладысменты. На сцэне паявілася Фрыдэрыка Флітнер, геній будучыні, а Раванціні ўсё яшчэ вымушаны быў кланяцца каля рампы. Паводзіла яна сябе неяк нерашуча, быццам асепленая святлом, але потым пашыбавала да бюста курфюрста і зняла з яго лба залаты лаўровы вянок. А далей зноў тая ж самая нерашучасць. Відаць, яна атрымала ад графа Бельдэрбуша даручэнне сыграць нейкую ролю, зымправізаваць яе і вось цяпер абдумвала, як гэта зрабіць. Зацікавіўся нават сам канцлер, ён выйшаў з-за куліс і ўсміхаўся, чакаючы, што будзе далей.

Нарэшце яна сабралася і пачала іграць ролю пажа. Як добра выхаваны чалавек, па старому прыдворнаму звычаю паж збіраўся ўручыць узнагароду пераможцу. Яна апусцілася на калені перад Раванціні.

- Ад імя нашага літасцівага князя. . .

Потым слоў яе нельга было разабраць. Апусціўшы галаву, яна працягнула яму вянок, як бы адчуваючы сябе часткаю гэтай узнагароды.

Скрыпач схіліўся да вянка. Але было тут яшчэ штосьці, што бянтэжыла яго. Парушаўся заведзены парадак на зямлі і на небе, закон, па якім адно павінна быць вышэй за другое. Фрыдэрыка, яго геній будучыні, стаяла на каленях перад ім, хоць, зрэшты, стаяць на каленях павінен быў ён перад ёю! Яна вярнула яго да жыцця, дзякуючы ёй ён стаў сапраўды вялікім музыкантам, гэта было ясна, бо скрыпка ў яго руках рабіла цяпер цуды. Значыцца, ён быў яе тварэннем!

Раванціні хацеў толькі пакорна ўзяць з яе рук вянок, але разам з вянком ухапіў і рукі Фрыдэрыкі. Страцілася адчуванне рэальнасці. Ён не ведаў, што робіць, як гэта выйшла, а ўжо трымаў яе ў абдымках, цалуючы свайго пажа, якому быў гатовы служыць сам.

Курфюрст засмяяўся.

- Ну вось, разам з залатым вянком ён цяпер забірае ў мяне і генія будучыні! Бельдэрбуш!

Канцлер падышоў да рампы.

- Слухаю, мансеньёр.

- Дзе ж твая спрытнасць? Апусціце заслону для закаханых.

Аксаміт сплыў уніз, і Раванціні на руках вынес свайго генія будучыні, які з заплюшчанымі вачыма ціхенька ляжаў у яго абдымках. Следам ішоў Людвіг.

- Вось тут яшчэ залаты вянок. . .

Раванціні азірнуўся:

- Вазьмі яго сабе, Людвіг, бо ты так бліскуча акампанаваў мне. Што такое зрабілася з табою?

Той зняважліва кінуў:

- Са мною? Анічога асаблівага, толькі нешта крыху намйло на мяне. Ты ж такое ведаеш.

Раптам ён адчуў сябе зусім знясіленым, яго твар стаў шэры.

Прайшоў год. Настала восень. Людзі прарочылі, што зіма будзе суровая. Сонца на захадзе прамянела агнём, і Раванціні, лежачы ў ложку, не мог адарваць вачэй ад сонечнага пажару. Вузкія губы, быццам разрэзаныя нажом, паварушыліся.

- Ці ж будзе. . . гэтае заўтра?. .

Людвіг паклаў скрыпку.

- Што ты кажаш, дзядзечка Франц?

У пакой увайшла фраў Магдалена. Яна старалася не паказваць свае заклапочанасці.

- Франц, табе што-небудзь трэба? - Яна здагадвалася, што ў яго на сэрцы. - Трэба ж курфюрсту з тэатрам паехаць у Мюнстэр! Можа, ён адпусціць Фрыдэрыку?

- Чаму? Я шчаслівы, што такім чынам. . . яна не ўсё будзе бачыць. Усё роўна ж яна нічога не паможа. - Дыхаў ён хутка і перарывіста. - Калісьці я думаў, што блізкасць жанчыны, якую кахаеш і якая кахае цябе, мацней за паветра і сонца Італіі і нават за. . .

Яго позірк спыніўся на Людвігу. Перад ім не хацелася вымаўляць гэтае слова.

- Іграй жа далей, Людвіг. Магдалена падсела да Раванціні.

- Франц, што ты тут гаворыш. Падумай пра Фрыдэрыку.

Вочы яго заблішчалі, хоць сонечнае святло знікла з пакоя і забрала з сабою падманлівую афарбоўку яго знясіленага твару і худых рук.

- Я ўвесь час думаю пра яе. Але якраз нам і не трэба падманваць адно аднаго, Магдалена.

Жанчына паднялася з месца.

- Людвіг, калі Францу што-небудзь спатрэбіцца, пазавеш мяне.

Каля дзвярэй яна яшчэ раз павярнулася.

- Яго ігра табе не перашкаджае?

Раванціні ўсміхнуўся.

- Не. Яго пiлiканне страшэнна вяселiць мяне.

Калі маці пакінула пакой, Людвігу падумалася: «Няўжо яны, папраўдзе, лічаць, што я ўсё яшчэ такі маленькі хлопчык, якога можна ашукаць, падаючы адно аднаму знакі? Я ж ведаю, што з дзядзькам Францам». Ён прыкінуўся, што раззлаваны.

- Ты не вельмі высокай думкі аб маёй ігры на скрыпцы дзядзечка Франц. Няўжо ты, папраўдзе, лічыш, што я ніколі не асілю гэтай чортавай трэлі?

Уявіўшы сабе, што Людвігавы амбіцыі могуць зайсці вельмі далёка, Раванціні не стрымаўся.

- Вядома, я перакананы ў гэтым, бо на скрыпцы ты іграеш, як варона спявае. - Раптам ён зрабіў велічны жэст. - Але ўсё гэта няважна. Важна, што ты цяпер папаў у рукі да Крысціяна Нефе. Гэта добрыя рукі, чыстыя рукі сапраўднага майстра.

Словы паволі перайшлі ў мармытанне, у нейкае бездапаможнае мармытанне. Што ж яно нагадвае яму? - успамінаў Людвіг. - Дзядулю! Яго гаворку, перад тым як дзядуля заспяшаўся. . . на паром, на якім заўсёды едзеш адзін, каб ніколі не вярнуцца. Значыцца гэта - смерць! Калісьці знаёмст-ва з ёю ўразіла Людвіга на ўсё жыццё. Ён ведаў, як яна выглядае, як ступае, ведаў яе ўрачыстыя жэсты, якімі надзяляла яна сваіх выбраннікаў. І тым не менш Людвігу трэба было прыкідвацца. І ён з выклікам папытаўся:

- Лічыш, што твае рукі нічога не варты?

Раванціні выпрастаўся яшчэ больш, і нейкая страшэнная хапатлівасць найшла на яго.

- Прабач, Людвіг, я дрэнны настаўнік. Будзем далей вучыць урок. Давай яшчэ раз паўторым санату Гендэля!

Людвіг пачаў іграць на скрыпцы.

- Перастань, Людвіг! Скрыпка зусім расстроілася. Адны размовы нічагусенькі не дадуць, трэба працаваць і працаваць.

Не, яшчэ нічога не было відаць, але Людвіг ведаў - у пакоі яны больш не адны. І цяпер важна, каб дзядзька Франц не заўважыў, калі да яго ложка падыдзе смерць. Ён ліхаманкава хапаўся то за адзін, то за другі калок скрыпкі.

- Дай сюды, Людвіг! Навошта ты так здзекуешся са скрыпкі! А ці ведаеш ты, між іншым, што я назваў яе «Фрыдэрыкай»? Скрыпцы гэта вялікі гонар, хоць і сама скрыпка мае неблагое імя. Бо зрабіў яе Страдзівары, кароль стваральнікаў скрыпак.

Раванціні зноў пакруціў калок, які яго, аднак, не вельмі ўжо слухаўся. Ён вярнуў скрыпку Людвігу, і той правёў смыкам па струнах.

- Чуеш, Людвіг? Цяпер яна настроена як трэба. Гэта чыстыя квінты, і калі, іграючы, будзеш як след весці смык, то скрыпка загучыць. Не можа не загучаць. Яна задрыжыць, варта табе толькі дакрануцца да пустых струн - бо яна настроена абсалютна чыста, - і ў ёй ёсць штосьці ад вялікага парадку і гармоніі. Гэта і ёсць таямніца скрыпкі! - Ён неспакойна паварушыў галавою. - Гэта ж так проста, хоць мала хто добра разумее яе. Адсутнасць чысціні гняце і душыць, чысціня ж вызваляе ад усяго, робіць вольным - лёгкім, як птушку, як Фрыдэрыку, якая цяпер, у гэты момант, мабыць, у Мюнстэры. . .

Людвіг усё яшчэ ліхаманкава вадзіў смыком па пустых струнах, калі ўвайшла маці.

- Ну, што новага, Франц?

- Ён. . . ужо мёртвы і не заўважыў нават, як памёр, бо я. . . - Ён паклаў інструмент на коўдру і, стаўшы на калені, упаў галавою на скрыпку і расплакаўся. - Ён жа быў мой сябар. . .

Людвіг сядзеў за арганамі і, націскаючы на розныя рэгістравыя рычагі, апрабоўваў асобныя клавішы. Потым прыслухоўваўся да шуму Vo Ix celeste (Рэгістр званковы (франц. )) І гудзення контрафагота. Перад вачыма паўставалі тоўстыя і тонкія, моцныя і дрыготкія слупы,

яны рваліся ўгору або імкліва і важка, або, прасвечваючыся, круціліся наўкол. Слупы дыму?. . Ахвяры пажару?. . Каін?. .

Што ён Каін, прыйшлося спазнаць яшчэ раз. Пасля смерці Раванціні ў сваім горы і трывозе ён пайшоў да патэра Ганцмана з просьбаю прыняць яго да сябе служкаю. У туманнай блытаніне адчаю яму здавалася пры гэтым, што пры алтары ён, магчыма, знойдзе нешта накшталт заспакаення. У вушах у яго заўсёды стаяў рогат папа. «Чаго ты хочаш? Стаць служкаю? Мне цяжка ўявіць цябе з палярынаю і ў рызе, ды і, акрамя таго, служак у нас хапае».

Вядома, патэр адмовіўся ад яго паслуг, бо ў яго такі брыдкі выгляд.

- І вось гэта ты завеш заняткамі музыкаю?

Каля арганаў стаяў Нефе. Людвіг, задумаўшыся, не заўважыў нават, калі той падышоў.

- Ах ты, гультай і хітрун! Мабыць, убіў сабе ў галаву, што калі ўсе паехалі ў Мюнстэр, то можна здзекавацца з арганаў, дзынкаючы абы-што. І я вось часамі зазіраю нечакана, каб паглядзець, што тут робіцца. А як адчувае сябе фантазія соль мінор? Відаць, і не браўся за яе?

Людвіг унурыў галаву.

- Практыкаваўся я шмат, у. . . гэтыя апошнія тыдні і дні. . .

Нефе зразумеў.

- Калі вы далі памерці добраму Францу Раванціні. А што ж далей? Людвіг, не трэба браць так блізка да сэрца гэтую гісторыю з патэрам Ганцманам! Мне ўсё расказала твая маці, з якою я толькі што размаўляў. Але цяпер давай паслухаем фантазію і фугу.

Ён падцягнуў да сябе складное крэсла, і Людвіг пачаў іграць.

Часам хлопчыку здавалася, што на твары ў бязлітаснага настаўніка паяўлялася ўхвала, а часамі відно было, што па ім прабягала незадаволенасць. Потым гер Нефе. . . проста задрамаў. Можа, ён стаміўся ад доўгай язды ў паштовай карэце? Нарэшце крэсла пад ім рыпнула, ён прахапіўся.

- Чакаю.

- Я не ведаю, чаго?

Гарбун шчыра здзівіўся.

- Фантазіі і фугі соль мінор Ёгана Себасцьяна Баха.

- Я ж яе толькі што. . . іграў.

- Што? І ты асмельваешся зваць тое, што іграў, фантазіяй і фугай Баха? Гэтую нездар, слухаючы якую я вымушаны быў спаць і храпці? Я чакаю музыкі, менавіта Ёгана Себасцьяна Баха! А што такое сапраўдная музыка? Гэта не бясконцая бязладная прамова, не нейкі там парашок на сон, а жывы агонь, што вечна бунтуе, кіпіць і рвецца ў нябёсы.

Губы ў Людвіга задрыжалі.

- Я толькі не асмельваўся. . .

- Тады асмелься! Ці, можа, ты думаеш, што асілкі пісалі музыку і выкрасалі агонь, каб людзі пры гэтым драмалі? Давай яшчэ раз!

Людвіг пачаў зноў, і нарэшце. . . вось цяпер і пад яго пальцамі сапраўды ўсхадзіліся шкляныя хвалі, пра якія гаварыў Дзядуля. Высокія хвалі хадзілі па нечай волі, нікога другога не слухаючы, і расплываліся наўкруга палымнеючым агнём.

- Мацней, Людвіг! Яшчэ мацней! А цяпер, - гарбун нахіліўся, і рукі яго сталі падобны да кіпцюроў, што схапілі здабычу, - лаві, лаві агонь і трымай яго моцна! Гэтак, вось гэтак. . .

Але і цяпер, калі Людвіг перастаў іграць, Нефе не пахваліў яго. Ён толькі нахмурыў бровы.

- Твой бацька нядрэнна трымаецца ў Мюнстэры, а вы з маці збіраецеся ехаць у Галандыю?

- Збіраемся. Да нас прыехала цётка, сястра дзядзькі Франца. Яна суправаджае сваю гаспадыню, «Міфраў». Цётцы захацелася наведаць братаву магілу, і вось і мы, у сваю чаргу, таксама паедзем у Галандыю.

Нефе кіўнуў галавою.

- Шчаслівага падарожжа! Праз два-тры дні я зноў буду ў Мюнстэры. Вярнуўшыся дадому, ты мог бы зрабіць мне паслугу, Людвіг. Царкоўным служкаю ты ўсё роўна не станеш, гэта ўжо ясна, праўда ж? Вельмі добра. - Нефе выцягнуў губы, быццам збіраўся іграць на флейце. - Бо ў такім выпадку мне нельга было б прасіць цябе іграць замест сябе, калі будуць служыць імшу. Майго цяперашняга памочніка арганіста я толькі што прагнаў к чорту. Вось так.

А цяпер і другое: што будзем рабіць на каляды? На ўсяночную патрэбна вялікая музыка, а курфюрст з прыдворнаю капэлаю на каляды застанецца ў Мюнстэры. - Ён паскроб падбароддзе. - А ўсяночную ж збіраюцца служыць не ў францысканскай царкве з яе дзіцячымі арганамі, а ў гэтым саборы. Ну вось, а што ў нас ёсць з вялікай музыкі? Можа, проста ўзяць. . . разумееш, куды я гну? Не? Якая ў цябе дубовая галава, Людвіг! Я лічу, што сыграць фантазію і фугу мог бы ты.

- Я? - Людвігаў твар аж збялеў. Нефе падміргнуў яму.

- Толькі гэта ўжо, само сабою ясна, каб не горш, як сыграў ты цяпер. Глядзі мне.

- Пане Нефе, мне прыйдзецца. . .

- Табе прыйдзецца, і ты будзеш іграць, усё ўжо намыслена. Мансеньёр даручыў мне зрабіць адпаведны загад.

На караблі было холадна, люта дзьмуў вецер, і «Міфраў», якую яны панямецку звалі проста Мі фраў, спусцілася з маленькаю дачкою Коге і яе гувернанткаю, «цёткаю» Ганнай Марыяй Магдаленай Раванціні па маці таксама названай Магдаленай - у адзіную каюту грузавога карабля.

Фраў Магдалена і Людвіг прымасціліся на палубе за драўляным фальшбортам, і хлопчык праз адтуліну для швартовага кнехта ўглядаўся ў шэрую пеністую рачную ваду. Тут Рэйн цёк вельмі імкліва, а моцны вецер яшчэ пабольшваў рух. Яго парывы наляталі раз за разам, наскокамі, і, як стрэлы, бахалі па парусах.

І вось яны ўжо ў Галандыі. Бон застаўся ззаду за незлічонай колькасцю мытніцаў, што сваімі кратаванымі варотцамі адчыняліся і зачыняліся следам за імі.

Маці мерзла. Яна сядзела, захутаўшыся ў коўдры, але ўсё ж калела на холадзе, а М І фраў і Коге ў цёплай каюце і не думалі пра тое, што мацеры, пры яе нездароўі, трэба было берагчыся. У М І фраў вельмі ласкавыя вочы, і твар яе мог быць вельмі ласкавы. Гэтак жа, як і ў маленькай Коге, распешчанай манерніцы, таксама.

- Людвіг. . .

Вецер ірваў словы з губ, з-пад матчынай хусткі вырваў пасмачку валасоў, і Людвіг раптам на вялікае дзіва заўважыў, што маці вось-вось пасівее.

- Людвіг, табе не холадна?

Маці не паверыла яго спакойнаму «не», прынамсі, сваю трывогу яна прыкрыла строгім клопатам:

- Трэба, каб ты мог іграць у Ротэрдаме і зарабіць грошай на дарогу назад.

Хлопчык ускочыў з месца і затупаў па дошках палубы.

- У мяне толькі трошачкі мерзнуць ногі.

Яна адразу ж стала сур’ёзнаю:

- Сядай зноў на скрынку і давай сюды свае ногі. Сюды, на мае калені! Я табе іх натру.

Карабель кідала з боку на бок. Ён плыў уніз, як дрэвы, што сплаўляюцца па веснавой раззлаванай рацэ. Але яму не было страшна, і было ўжо надзіва цёпла, бо маці захутала яго ў сваю хустку і абняла рукою - «Паспрабуй толькі піснуць, Людвіг!»

Можа, у Ротэрдаме ён папраўдзе заробіць шмат грошай? Расказвала ж М І фраў пра вялікія музычныя акадэміі, якія яна збіраецца даваць у сваім доме. А калі потым ён заробіць грошай, то скажа мацеры: «У дарогу назад я ўзяў табе гэтую каюту, і паспрабуй толькі піснуць, мамачка. . . »

Людвіг падышоў да акна ў доме М І фраў. Ён толькі што вярнуўся з прагулкі. Горад збянтэжыў яго, і прычына была нават і не ў чужой мове людзей, і не ў магутных караблях, пра якія цётка Раванціні расказала, што адпраўляюцца яны ў Амерыку, Афрыку і нават у Індыю. Яны, аздобленыя цудоўнымі фігурнымі ўпрыгожаннямі, прыходзілі і адыходзілі ўвесь час. Цётка Раванціні з урачыстым выглядам паказала яму на лугі каля Рэйна:

- Паглядзі, Людвіг, вось гэта і ёсць краіна тваіх бацькоў, а там, на поўдні, праўда, хоць і далекавата, знаходзіцца Антверпен, адкуль паходзяць і твой дзядуля і большасць тваіх продкаў.

Што яна кажа? Значыцца, продкі ёсць і не ў дваран?

- Цётка Ганна, а кім жа былі мае продкі?

- Яны прадавалі віно, а найбольш яны былі краўцы.

Вось як, краўцы, як бацька ў пана Нефе. Той з гэтага ніколі не рабіў сакрэту, але ніколі не гаварыў пра сваіх продкаў. У продкаў, як на партрэтах у палацавай галерэі, павінны быць

парчовыя ордэнскія стужкі на грудзях. А ён жа ніколі не бачыў карціны, якая паказвала б краўца за сталом, з яго сагнутаю спінаю. Ён, уласна, і не шкадаваў, што ў яго не было сапраўдных продкаў, у ім толькі расла і расла злосць на цяперашняе яго асяроддзе.

Раптам у пакой зайшла маленькая Коге і штосьці пачала гаварыць яму на сваёй незразумелай мове.  І ўсё ж Людвіг здагадаўся. Ён, як сваяк яе гувернанткі цёткі Ганны, павінен цяпер быць слугою яе лялек. Ён гэтага не захацеў, і яна замахнулася, каб выцяць яго.

Людвіг засмяяўся і пайшоў у музычны пакой. З таго, што ён бачыў, жывучы ў Боне, ён зразумеў, што фанабэрыстымі і капрызнымі могуць быць не толькі дваране, а і багацеі.  І вось тут, у гэтым доме М І фраў, жылі багацеі! У музычнай зале віселі карціны старых галандскіх майстроў, побач з імі тыгравыя і львіныя шкуры, дзівосныя маскі і шчыты, лукі, булавы, коп’і і кінжалы. Нябожчык муж М І фраў, суднаўладальнік, прывёз гэтыя рэдкія рэчы з далёкіх краін. На яго караблях прывезены і вялізныя вазы, на якіх блішчастымі яркімі фарбамі намаляваны дзівосныя рыбы. Сёння ўвечары тут адбудзецца першы хатні канцэрт. У каміне патрэскваў агонь, а пасярэдзіне пакоя, каб загадзя прагрэцца, стаяў адкрыты клавесін - клавесін з залаціста-карычневага дрэва, дайсці да якога можна было па тоўстых дыванах, што рабілі нячутным крок. Дакрануўся да клавішаў. Падумалася: хоць бы хутчэй прыйшоў настройшчык! Націснуў пальцам на клавішу. Варонінае пёрка - няўжо гэта прымхі, што ў клавесіне выкарыстоўваюцца толькі вароніныя пёркі? - шчыпнула струну, і тая абазвалася хоць і прыгожым, але слабым гукам. У сябе дома на раялі можна гаварыць зусім па-іншаму! Вароніныя пёркі - сёння вечарам гэтыя «вароны» павінны стаць арламі. Ці ўдасца яму гэта? За арламі, мусіць, прыйдзецца лезці на неба, каб яму, нашчадку краўцоў, перамагчы ў гэтай бітве - глядзі, якія ваяўнічыя, агрэсіўныя ў яго думкі! - хоць бітва гэтая ўсяго толькі невялікая бойка!

Невялікая бойка! Зрэшты ж, гаворка ідзе пра каюту, у якой па дарозе назад павінна быць цёпла мацеры!  І нават пра нешта большае! Ён пачаў іграць. . . Вунь там за адным з вокан, у далечыні, быў порт, і пад гмахамі навакольных дамоў уздымаліся мачты караблёў. А можа, на заробак ад ігры яму ўдасца зафрахтаваць цэлы вялікі карабель? Глядзі, як ён добра ведае тэрміны! Зрэшты, можа, удасца нават зафрахтаваць і карабель у Ост-Індыю, з дзіўнаю аздобаю на носе - з русалкаю? Яму аж заняло дух. На караблі ёсць і бронзавыя гарматы. Як гэта здорава! Такога вялізнага карабля Бон яшчэ ніколі не бачыў, і ён, пад’язджаючы, загадае страляць з гармат! Вось толькі невядома, ці здолее карабель, які ходзіць у Ост-Індыю, падняцца ўверх да Бона? Плыць пад ветразямі прыйдзецца супраць цячэння, і таму - рэчаіснасць усё больш і больш блыталася з мараю - і таму хвалі ўзляталі пырскамі ўверх па штэўні, і паток падкідваў струмень за струменем да загадкава маўклівага твару на носе карабля. Вядома, прыходзілася ісці супраць цячэння, але вось - яго вочы зноў сталі падобныя на начное мора, асветленае ззяннем зорак - вось цяпер прыляцелі арлы яго натхнення! Яны кідаюцца ўніз з неба, запрагліся ў мачты, у аздобу на носе, цягнуць карабель уперад. Але як жа ім прыходзіцца пры гэтым веславаць сваімі крыламі, шум якіх нагадвае і шум буры і патрэскванне агню! Як хораша! Я еду са сваімі арламі! Насуперак вось гэтаму багаццю! Я, у каго продкі ўсяго толькі краўцы і каго мансеньёр аблаяў, назваўшы «плебейскім збродам». Я не буду згінацца «ласкава», як бацька, бо арлы – мае. А цяпер чарга за гарматамі! Хрыплым голасам ён у экстазе крычаў: «Пе-ра-мо-га!»

Пачало змяркацца, і святло ад агню ў каміне ўсё больш адлюстроўвалася на паліроўцы клавесіна. Увайшла цётка Ганна з нейкім азызлым, на цэлую галаву вышэйшым за Людвіга хлапчуком, якому можна было даць гадоў пятнаццаць.

- Людвіг, гэта Пітэр Хоогстраат, ён таксама іграе на фартэпіяна.

- Ён хоча стаць музыкантам? - пацікавіўся Людвіг. Ганне Раванціні прыйшлося перакладаць пытанне, і Людвіг паглядзеў на яе.

- Што ён сказаў?

- Ён кажа, - яна памарудзіла з адказам, - што яму гэта не патрэбна. Ён стане гандляром, уладальнікам суднаў. У яго бацькі безліч караблёў.

Ён і без перакладу ўжо прачытаў гэта ў вадзяністых вачах галандскага хлапчука: ганарыстая пыха, грошы, якія да ўсяго, што не завецца грашыма, ставяцца з пагардаю.

- Пітэру хочацца паслухаць цябе.

- Калі будзе сядзець ціха, няхай слухае.

- Людвіг, - цётчыны вочы папярэджвалі яго, - мы тут не дома.

Ён узяў першы акорд. На ўсякі выпадак яму яшчэ раз хацелася паўтарыць фантазію

Моцарта. Ціхенька грукнулі дзверы, і дзесьці залямантавала Коге. Сапраўды, цётка Ганна тут не дома, і маці, што дапамагала на кухні, таксама. Шчыра кажучы, тут толькі ён нешта значыў, I M I фраў узяла яго з сабою, каб нахваліцца ім перад сваімі багатымі знаёмымі. У музыцы яна зусім не разбіралася, але ліхаманкавая лёгкасць, з якою хадзілі яго пальцы, уразіла яе бязмежна.

Сын суднаўладальніка, падышоўшы да калекцыі зброі, узяў адтуль малайскі крыс - кінжал, лязо якога можна было назваць гадзюкаю з жалеза. Цётка Ганна перад гэтым паказала Людвігу гэты кінжал і папярэдзіла, што нельга дакранацца да яго, бо ён вельмі востры.

Потым хлапчук з гэтаю агіднаю зброяю ў руках падышоў да вузкай часткі клавесіна і сунуў яе ў струны, якія аж забрынчалі.

- Перастань, калі ласка!

Галандскі хлапчук не разумеў па-нямецку, хоць можна было адразу здагадацца, што азначалі гэтыя словы. Ён утаропіўся ў Людвіга вачыма і знарок яшчэ глыбей засунуў кінжал, каб мацней застагналі струны.

- Перастань, кажу табе!

Хлапчук і не думаў слухацца. Ён сачыў за Людвігам, і ў яго вадзяністых вачах бліснула цікавасць. Ён, мабыць, хацеў высветліць, што можа вытрываць чалавек, які з’яўляецца сваяком служанкі.

Людвіг не забыўся, пра што папярэджвала цётка Ганна. Тым не менш ён не мог, каб гэта асталося не пакараным. Ён зняў з клавішаў рукі і падняўся з месца. Спакойна абышоў раяль. Азызлы здаравец памыляўся ў ім, зараз ён пачуе яго сілу. Ён ужо выцягнуў руку, але ў гэты момант хлапчук вырваў кінжал з струнаў і пры гэтым зачапіў Людвігаву правую руку.

Спачатку ён не чуў ніякага болю, бо лязо было вострае, як брытва, і таму здзіўлена зірнуў на сваю далонь, з якой палілася кроў.

Аднекуль набліжалася хісткае святло. Трымаючы ў руках падсвечнік з трыма свечкамі, увайшла цётка Ганна.

- Людвіг, прыйшоў настройшчык.

Паўз яе хуценька прабег Пітэр Хоогстраат, кінуўшы ёй па дарозе некалькі слоў, у якіх выразна чуваць была з’едлівая насмешка. Ганна Раванціні здзівілася:

- Што я чую, Людвіг? Ты сёння ўвечары не будзеш іграць?

Толькі цяпер у Людвіга ад болю скрывіўся твар.

- Не буду - ён мне знарок. . . вось тут!. , парэзаў руку.

Плылі яны да Бона на караблі, не вельмі падобным на тыя, што ходзяць у Ост-Індыю, але ў мацеры ўсё ж была цёплая каюта дзякуючы грошам, якія заплаціў за іх маўчанне бацька галандскага хлапчука. Людзі гэтыя ўсе свае справы куплялі грашыма, толькі імі, на жаль, нельга было збавіцца ад болю.

Рана гнаілася. Рука напухла, і вены, як блакітныя пісягі, цягнуліся да самай падпахі. Рука зрабілася цяжкаю, як свінец, і яе пры кожным удары пульса быццам калолі вострым нажом. Да ўсяго далучылася яшчэ і ліхаманка.

І тут доктар палічыў, што пара сказаць яму хоць слова суцяшэння.

- А ці ведаеш ты імя Ёган Вольфганг фон Гётэ? Не? Ну, тады слухай. Ён напісаў цудоўную п’есу для тэатра. Называецца яна «Гёц фон Берліхінген» і апавядае пра рыцара, які ў бітве страціў руку. Пасля прыйшлося зрабіць яму жалезную руку, і яна вельмі праславіла яго. Разумееш?

Людвіг, нягледзячы на ліхаманку і пранізлівы боль, сёе-тое яшчэ разумеў.

- А гэтаю жалезнаю рукою ён мог іграць на фартэпіяна і на арганах?

- Хлопчык, ты шмат чаго захацеў.

Праз пару дзён у музычны пакой зайшла маці. Ён сустрэў яе трывожнымі пытаннямі:

- Скажы, што мне рабіць? Сёння - усяночная, і калі гэтаю праклятаю рукою, - ён стукнуў павязкаю па клавішах, - мне ўжо нельга іграць набажэнства на арганах, то тут нічога не зробіш. Але ж пан Нефе чакае, што на ўсяночную я сыграю фантазію і фугу соль мінор Баха.

Маці падала яму пісьмо.

- Вось табе ліст, ад пана Нефе.

- Няўжо? Што ён піша?

Фраў Магдалена сарвала пячатку і прачытала:

«Дарагі Людвіг!

Пішу табе гэтыя радкі спяшаючыся, бо мне ты ўжо і так, як горкі палын. Падумаць толькі: варта навучыць яго самастойна іграць на арганах некалькі ніштаватых рэчаў, як ён дазваляе нейкаму неразумнаму хлапчуку параніць лапу, ды яшчэ ржавым ці атручаным кінжалам так, што рука не хоча гаіцца, і наогул яшчэ невядома, што можа стацца з рукою».

Людвіг перабіў яе:

- Пра ўсё гэта ты напісала яму?

- Мне здаецца, Людвіг, што мы нічога не можам таіць ад яго. - Яна чытала далей:

«Вядома, гэта глупства - іграць фантазію леваю рукою. Прашу цябе, мой малады дружа, шануй неўмiручых! Бах занадта вялікі кампазітар, каб звесці яго музыку да нейкага там тромкання пальцамі. Гэта ты будзеш рабіць пазней са сваімі ўласнымі так званымі творамі, калі табе наогул удасца напісаць музыку. Галоўнае цяпер - зберагчы руку і пальцы. Зразумеў, галава ты саламяная?! Мне трэба памочнік, які хоць трошкі разгрузіў бы мяне! Карацей, зарубі на сваім саплівым носе: музыку, без якой нельга на ўсяночнай абысціся, сыграе памочнік арганіста з Бейеля. А што да вялікай музыкі, то наўрад ці можаш ты прымаць яе да сэрца так блізка, як прымаю я ўсё тое, што датычыць цябе. На вялікую музыку ў цябе знойдзецца намеснік.

Пара канчаць. Справа з намеснікам патрабуе адпаведнай перастаноўкі. Перадавай прывітанне маці. А майго табе прывітання няма! І папраўляйся, Людвіг, глядзі мне. Твой - ты мяне ведаеш - заўсёды строгі настаўнік

Крысціян Готліб Нефе».

Людвіг зморшчыў лоб.

- Няўжо ён узлаваўся?

Маці ўсміхнулася.

- Калі дабрата і любоў могуць быць злыя, тады ён вельмі злы.

Людвігавы думкі беспярэстанку пыталіся толькі пра адно: «Намеснік? Хто такі ён? Тут жа няма нікога, хто мог бы сыграць фантазію соль мінор. . . »

Ён паварушыў руку ў павязцы.

- А можа, я ўсё-такі мог бы сыграць?

- Хіба толькі дзеля таго, каб зноў пачалося запаленне?

Адна думка не давала яму спакою: «Намеснік? Калі б я толькі ведаў, хто ж ён такі - намеснік?»

Людвіг ціхенька краўся ўніз па ўсходках. Толькі што пачуўся першы ўдар званоў, і яны адразу ж загучалі хорам, што насталі каляды. Каб толькі яны не разбудзілі мацеры.

На вуліцы кружыўся снежны пыл, было вельмі светла, вельмі бела. Значыцца, недзе за снежнымі хмарамі хаваўся месяц, можа, нават поўня. Нарэшце ў віхуры сняжынак замігацела чырванаватае святло. Ён падышоў да дзвярэй у царкву, дзе людзі абхарошваліся ад снегу. У глыбіні ўрачыста калыхалася святло свечак - яно дрыготка клалася і на людзей і на залатыя ўборы фігур святых.

Каб папасці на ўсходы, што вялі на хоры з арганамі, ён абышоў збоку рады лавак, як бы ад каго ўцякаючы, як бы баючыся, каб не дакрануцца да каго параненаю рукою. Памочніка арганіста з Бейеля ён ведаў. Быў ім ветлівы малады хлапец, што сядзеў ужо на ўслончыку каля арганаў. Жэстам пазваўшы Людвіга да сябе, ён спытаўся шэптам:

- Ну, як з рукою?

- Хто ж потым будзе іграць замест мяне?

- Гэтага я табе не магу сказаць, але хоць бы ён хутчэй прыйшоў.

Памочнік арганіста паказаў на паліто і капялюш, якія ляжалі збоку.

- Я сяджу, як на гарачым вуголлі. Сыграю апошні акорд, і адразу трэба бегчы. Мяне чакаюць яшчэ ў адной царкве.

Людвіг падцягнуў да арганаў складны зэдаль. Заглядаць у неф яму не хацелася, і гэта мела свой добры бок, бо ніхто яго не бачыў. Перажытае ў Ротэрдаме зрабіла яго яшчэ больш баязлівым.

Як жа добра зноў сядзець вось гэтак блізка каля арганаў. Гэта нават сцішала боль у руцэ. Ён адчуваў сябе стомленым, мусіць, ад бяссонных начэй, калі яго калаціла ліхаманка. Некалькі разоў ён зірнуў на вітыя ўсходы, але там ніхто не паяўляўся. . .

Памочнік арганіста дакрануўся да яго пляча.

- Людвіг, стары грэшнік, ты ж праспаў усю ўсяночную. Прашу прабачэння, але ты ляжыш на маім паліто, а мне трэба. . .

Людвіг падскочыў з месца.

- А хто ж будзе іграць?

- Няма нікога, а людзі чакаюць! Мне трэба сказаць яго прападобнасці, што. . . - Памочнік арганіста хуценька нацягнуў паліто, схапіў ноты, надзеў капялюш і пайшоў.

Людвіг застаўся адзін. Можа, патушыць агні? Не, гэта зробіць стары Каспар, які ўсё яшчэ націскаў нагамі на педалі, напампоўваючы паветрам трубы. Захацелася зірнуць на пярэднюю частку арганаў, і міжволі прыйшлося кінуць позірк у неф. Там унізе ён убачыў Элеанору фон Бройнінг, да якой калісьці запрашаў яго ў госці яе бацька.

Людзі ў царкве зашавяліліся, становячыся на калені, каб паслухаць Glor Ia  In excels Is (Слава ўсявышняму на небе - частка каталіцкага набажэнства. ). Але музыкі ўсё не было, чуваць толькі шыненне ў трубах, а ён не можа іграць! Яго заўсёды ненавідзелі - і лёс і людзі. Штосьці гарачае і разам з тым сцюдзёнае скаланула яго. Няўжо гэта ліхаманка? Можа й, так, але. . . ліхаманка іншая, яна ў золаце, нейкая бліскучая, як убранства святых. Шум у галаве мацнеў, быццам насоўвалася бура, і тут наляцелі арлы! Як яны веславалі, білі крыламі! Людвіг засмяяўся, і. . . пачало патрэскваць полымя. . . Куды ж яно, скачучы паперадзе, вяло яго? На ўслончык каля арганаў? З. . . павязкаю?!

Ён садраў яе, паварушыў рукою. У люстэрку, якое бокам вісела над арганамі, убачыў перакрыўлены ад болю твар. Але віхура не сціхала, патрабавала свайго, і прыйшлося пакарыцца. Стогнучы, ён падцягнуў некалькі рэгістравых рычагоў і адразу ж пачаў іграць. На клавішы закапалі кроплі крыві і гною, і рука вось-вось гатова была перастаць слухацца яго.

Людвіг не заўважыў, як у царкву ўвайшлі два чалавекі, абсыпаныя снегам, адзін - гарбун, а побач з ім - высокі салідны пан. Гарбун - гэта быў Нефе - шапнуў:

- Мы ўсё-такі спазніліся.

Высокі пан з сівымі валасамі аж адскочыў, калі раптам моцна загудзеў арган.

- Хто гэта там іграе?

На твары ў Нефе з’явілася нешта накшталт спагады, бо пытанне здалося яму недарэчным.

- Так іграць можа толькі мой вучань і памочнік Людвіг ван Бетховен! Вось дурніца! -  І да высокага пана: - Ідзі хутчэй за мною наверх!

У сваёй заклапочанасці і нецярплівасці Крысціян Готліб Нефе звярнуўся да спадарожніка на «ты», хоць шмат хто з веруючых, і кленчачы, яшчэ кланяліся лейб-медыку мансеньёра, гофрату фон Керыху.

Людвіг давёў да канца заключны акорд і зняў з клавішаў пальцы. Тут толькі ён заўважыў і Нефе, і лейб-медыка курфюрста.  І міжволі паглядзеў на клавішы.

- Я іх. . . крыху запэцкаў. . . Нефе сярдзіта кіўнуў галавою.

- Няма ніякага дзіва: у пана Людвіга заўсёды брудныя лапы. Але сыграў ты нядрэнна, хлопча, хоць і. . . - нават і цяпер Нефе не хацеў пахваліць яго без ушчування, - здаецца мне, што ў заключным акордзе зусім бы не шкодзіла дадаць крышку басовых таноў.

Людвіг прачнуўся ад таго, што хтосьці іграў на фартэпіяна. Наўрад ці гэта брат Карл. Яго вочы павалі расплюшчыліся і ўбачылі сонечнае ззянне, што разлілося па ўсім пакоі. Дахі дамоў за вокнамі таксама па-святочнаму ззялі ад бялюткага снегу. А наогул ці не свята сёння?

- Ты праспаў цэлыя суткі, Людвіг.

- Няўжо? Якая ж цяпер гадзіна?

- Даўно поўдзень. Ты галодны?

- Гэта ўжо і голадам назваць нельга. Я б цяпер воўкам пабег па бонскіх ятках.

- Але на каляды яткі, на жаль, зачынены і для ваўкоў.

Праўда, сёння ж каляды.

- Ну, а як твая рука, Людвіг?

- Я яе больш не чую. Што - яе адрэзалі?

Маці паматала галавою.

- Не, яна яшчэ на месцы. А чаго табе хочацца з’есці?

- Усё буду есці, але. . . хто гэта там іграе?

- Гер Нефе. Ён сёння начаваў у нас.

Памяць пачала вяртацца ўвачавідкі. Значыцца, гер Нефе ў царкве пахваліў яго за ігру! Потым санкі з ім хутка ляцелі па вуліцы. . .

Ігра абарвалася, і ў пакоі з’явіўся Нефе.

- Значыцца, мой слых не падмануў мяне. Паніч сапраўды меў ласку слухаць музыку, якую я іграў яму на развітанне са сном. Ну і спіш ты! Каб ты вось гэтак мог іграць ці хоць пісаць музыку!. . - Яму вельмі хацелася пагаварыць. - А як спрытна ты нас ашукаў! З Мюнстэра мы стрымгалоў імчаліся сюды, двойчы перакуліліся, ад санак засталіся адны дровы! Геру гофрату ўвесь час хацелася зрабіць кругавы разрэз, бо ён збіраўся адчыкрыжыць табе руку. Мадам ван Бетховен, няўжо вы не бачылі, як засмуціўся гер гофрат, калі ўпэўніўся, што рукі не трэба ампутаваць?

- Не, гер Нефе. Ён абрадаваўся.

У прытворным адчаі гарбун падняў уверх рукі.

- Абрадаваўся! Гэта ж заўзяты касталом, яму трэба абавязкова толькі рэзаць. - І з прытворнаю злосцю ён зноў накінуўся на Людвіга: - Бо паніч не захацеў сумленна чакаць аперацыі, а ўзяў дый вылечыўся сам ігрою! На арганах! А скула ўзяла ды сама і прарвалася. - Не перастаючы папікаць, ён ласкава схіліўся над ложкам. - Ці ж не паўтараў я табе ўвесь час, што музыка памагае супраць усяго?

Пачуўся стук у дзверы, і фраў Магдалена выйшла сустрэць гасцей.

- Мы не перашкаджаем, мадам ван Бетховен?

- Ну што вы! Які гонар!

- Сёння мы былі на ўсяночнай. Як здароўе вашага Людвіга?

- Дзякую - пакуль што так сабе.

Твар Нефе праясніўся.

- Quel honneur (Які гонар (франц. ))- гэта ж фраў фон Бройнінг, і з ёю мая маленькая сяброўка Элеанора.

Дзяўчынка прысела ў рэверансе.

- Жадаю на свята радасці і здароўя, гер прыдворны арганіст.

Нефе засмяяўся і сказаў, паказваючы вялікім пальцам на Людвіга:

- Дзетка, ёсць на свята і радасць, і здароўе.

Прыгожая добрая жанчына, якая калісьці на могілках пастаралася не плакаць, падышла да хлопчыкавага ложка.

- Мы прыйшлі падзякаваць табе, Людвіг. Ты сёння ноччу іграў вельмі добра. - Фраў фон Бройнінг паклала руку на даччыно плячо. - Элеанора, падзякуй і ты за ігру.

Тонкая дзяўчынка ў футэрцы з капюшонам у сонечным святле была яшчэ больш пекная. Яна зноў ветліва пакланілася.

- Дзякуй, Людвіг.

Фраў фон Бройнінг дадала яшчэ:

- І аддай Людвігу пакуначак, які ты яму прынесла. Элеанора Паклала пакунак на ложак.

- Vo Ila, a votre serv Ice (Вось, гэта табе (франц. )).

Фраў фон Бройнінг захацела растлумачыць, у чым тут што:

- Можа, ты будзеш расчараваны, Людвіг. Там толькі некалькі пернікаў і сёе-тое з ласункаў. Але гэтыя ласункі Элеанора атрымала на каляды і хоча цяпер - гэта яе ідэя - падараваць табе за тваю ігру на арганах. Скажу больш, Людвіг: калі ты іграў, ты, відаць. . . прабач, Людвіг, пра гэта я зусім забыла. - На яе карых вачах раптам навярнуліся слёзы. - Мне чамусьці здалося, што тваю ігру слухаў яшчэ адзін чалавек - мой. . . нябожчык муж, якога ты ж ведаў. Бо ён мне калісьці сказаў: «Табе трэба запрасіць у госці маленькага Людвіга». Як толькі паправішся, прыйдзі да нас. А што ты хутка паправішся, мяне запэўніў тата. Мабыць, ты ведаеш, што тата мой - лейб-медык мансеньёра? - Фраў фон Бройнінг непрыкметна, але ўважліва разглядала хлопчыка. Ён, прыўзняўшыся, сядзеў на ложку, не гаворачы ні слова, і толькі часам кідаў баязлівы позірк на Элеанору. - А Крыстаф, мой старэйшы хлопчык - яму амаль столькі ж гадкоў, як і табе, Людвіг, - таксама будзе рады. Ну, і ты ж таксама, Элеанора, праўда?

- Ou I, chere maman (Праўда, дарагая мамачка (франц. )).

Гэта ж. . . анёл з нетутэйшага свету! Ён. . . усміхнуўся ёй у адказ. Але, можа, гэта ў яе проста ветлівасць?

- А дзеля нашага Стэфана можаш прывесці свайго брацiка Карла. Бачыш, я ўжо ведаю і імёны тваіх братоў. А Ёгана возьмеш з сабою, каб ён гуляў з нашым Ленцам. Мадам ван Бетховен, а дзе ж, скажыце, вашы хлопчыкі?

- Я паслала іх пагуляць са служанкаю на сонцы.

Фраў фон Бройнінг паднялася з месца.

- Мы таксама не хочам прапусціць прыдатнага моманту. У першы дзень каляд у нас заўсёды вялікае катанне на санках, і дома хлопчыкі ўжо не дачакаюцца нас з санкамі.

Праз некалькі тыдняў фраў Магдалена спытала ў яго:

- Людвіг, а ты што - ужо і думаць перастаў пра запрашэнне сям’і гофрата?

- Перастаў! - Ён сказаў даволі рэзка. Ён забыўся ўжо пра гэтае запрашэнне, і было смешна падкрэсліваць яго вось гэтак старанна. Ён хацеў быць добрым да людзей, але яны прынеслі яму яшчэ адно расчараванне. Бо пасля таго пра гэтае запрашэнне ніхто больш ні разу і не ўспомніў.

Ён паспрабаваў развучыць некалькі трэляў, але малаточкі ў раялі не вельмі яго слухаліся.

А калі б у мяне і быў час? Дык жа - калі? Можа, ты замест мяне будзеш канцэртмайстрам у тэатры? Ці, можа, раніцаю сыграеш за мяне месу? Ведаеш, як мяне ганяе гер Нефе?! З клавесіна на арганы, потым вось сюды да раяля, а ў прамежках трэба яшчэ пілікаць на скрыпцы, іграць на альце і на віяланчэлі. Дамашнія заданні для T Iroc In Ium - лацінскай школы, якую я апошнім часам зрэдку наведваю - таксама самі не робяцца. Вечарам ёсць чым заняцца дома, бо трэба паспець схаваць брытву, каб бацька, вярнуўшыся з карчмы, чаго-небудзь не натварыў з сабою. . .

Дзень быў найлепшы, але хлопчык толькі марнаваў свой час гэтымі трэлямі. Яму не хацелася перажываць расчаравання, пытацца ў Бройнінгаў пра Элеанору.

Увайшла Кларыса, буркліваая, як заўсёды. Толькі што яна памыла посуд і яшчэ трымала ў чырвоных руках ручнік.

- Там нехта прыйшоў да Людвіга. Нейкая дзяўчынка.

На парозе ўжо кланяліся, і ў музычны пакой увайшло нешта зграбнае, апранутае ў палітончык з пярэстага шоўку.

- Вялікае прывітанне ад мае мамы, мадам ван Бетховен. Я прыйшла па Людвіга. Ён жа павінен быў прыйсці да нас у госці, але яго ўсё няма і няма.

Фраў Магдалена ўзяла Элеанору за руку.

- Вельмі міла з твайго боку і з боку фраў прыдворнай саветніцы.

Фраў прыдворнай саветніцы!. . Людвігаў лоб ужо гатовы быў зморшчыцца, але дзяўчынка даверліва набліжалася да яго.

- У цябе ёсць вольны час, Людвіг? Я была вельмі захварэла і ўвесь час чакала цябе, але ты ўсё не ішоў.  І сёння я ўпершыню выйшла на вуліцу. Ёсць у цябе крышачку вольнага часу? Якая-небудзь гадзіна?

- Больш, куды больш! - Упартасць не адразу пакідала яго, і, павярнуўшыся, ён ударыў па клавішы.

- Людвіг! - абарвала яго маці. - Што ты там усё брынкаеш на раялі! Гэта непрыстойна, дый, апрача таго, ты нават не ведаеш, патрэбны ты там так доўга ці не?

Элеанора зноў прысела ў рэверансе.

- Вядома патрэбны, мы будзем вельмі рады, s’ Il vous pla It (Калі ласка (франц. )).

Вось яно! Знайшоў, нарэшце!  І да непрыстойнасці гэта наогул не мае ніякага дачынення. Ён толькі вызначаў танальнасць голасу ў Элеаноры, і танальнасць гэтая - до мажор! З сённяшняга дня до мажор будзе танальнасцю яго радасці.

Фраў Магдалена здзівілася.

- Глядзі ты, у Людвіга раптам ёсць вольны час. Ты проста чараўніца, Элеанора. Бо толькі што ён аж кіпеў, гаворачы, што ў яго не застаецца нават і вольнай хвілінкі.

Навошта маці ўспомніла пра гэта? Яму стала прыкра, і ён агледзеў сябе з галавы да ног.

- Я ж не магу так ісці ў госці.

- Вядома, не можаш. У спальным пакоі я збяру табе ўсё, каб ты мог пераадзецца. Але мне трэба адпрасаваць табе свежыя брыжы на рукавы, і гэта зойме крыху часу. - Яна запынілася каля

дзвярэй. - Чым бы цябе ўчаставаць, Элеанора? Госцю, які прыносіць у дом столькі радасці, трэба ж. . .

Калі маці выйшла з пакоя, Людвіг спытаўся:

- Можа, я чым-небудзь магу ўслугаваць табе? - Ён выйшаў з пакоя і адразу ж вярнуўся з пакункам. Элеанора разгублена зірнула на яго.

- Гэта ж мой падарунак! Ты яшчэ нічога не браў адтуль?

Ён збянтэжыўся, але паправіць ужо нельга было нічога.

- Я збярог яго як успамін пра цябе.

Дзяўчынка разглядала свой даўні падарунак.

- Як жа зацвярдзеў пернік. - Яна адкусіла кавалачак і засмяялася, калі ён рассыпаўся паміж яе бліскучымі зубам І. - А ты нічога не хочаш з’есці? Ці табе ён не падабаецца?

- Чаму ж не? Падабаецца, але. . . яшчэ больш падабаецца, калі ясі ты.

Яна аж папярхнулася ад здзіўлення.

- Калі ем я? А ты што тады маеш ад гэтага, Людвіг? Не разумею.

Ён і сам гэтага не разумеў.

- Ведаеш што, Элеанора. . .

Яна нахмурыла бровы.

- Не вымаўляй ты кожны раз вось гэтак святочна - Э-ле-а-но-ра! І маму і ўсіх сваіх сяброў я прывучыла, каб яны звалі мяне толькі Лянорай. Па-мойму, гэта гучыць значна лепш.

Ён паўтарыў яе імя:

- Лянора. Ну, ведама, што гэта гучыць прыгажэй. . . Лянора, я з прыемнасцю напішу табе што-небудзь, - ён на момант змоўк і тут жа дадаў, - як толькі я навучуся пісаць музыку, але гер Нефе навучыць мяне гэтаму. Што ты хочаш, каб я напісаў табе? Квартэт? Сімфонію? Выбірай.

Яна зморшчыла носік.

- Сімфоніі мне зусім не падабаюцца. Лепш за ўсё імпануюць мне уверцюры.

- Але да уверцюры патрэбна опера.

І яна адразу прызнала яго аўтарытэт у гэтай галіне, аднак за словам у кішэню не палезла.

- Так-то яно так, але навошта нам опера, мы і без яе абыдземся.

І тут яна неяк задуменна зірнула на яго, і позірк гэты таксама несвядома прываблівāў.

- А ці прысвеціш ты яе мне, як прысвячаюць паэты і кампазітары мансеньёру?

- А як жа! Толькі табе адной.

І тут узнікла новае пытанне.

- А імя маё таксама будзе на уверцюры?

Ён незадаволена зморшчыў пукаты лоб.

- А як ты лічыш? Яна павінна і будзе называцца, скажем, так: «Уверцюра Леаноры».

Вочы яе заззялі, у горле перахапіла дыханне.

- Ну, а калі ты аднойчы станеш такім славутым, як гер Мансіны? Як я буду ганарыцца!

Яму не падабаўся Мансіны, і з гэтым імем яна ўсё-такі хапіла занадта высока. Гэта зменшыла Людвігаў запал.

- Ну, адразу ўжо і гер Мансіны?!

Ёй стала шкада яго, і яна паспрабавала знайсці словы суцяшэння:

- Ну, калі ты нават і не станеш такім славутым, я буду рада і ўсцешана, што уверцюра напісана хай сабе Людвігам ван Бетховенам.

У яе голасе чуваць была шчырая прыязнасць, і вочы яго зноў заблішчалі як чорныя-чорныя дыяменты.

У дамах на Рэйнгасэ найбольш туліліся адны музыканты. Калі ты не радавіты, то месца табе жыць у доме з булачнаю. а калі багаты ды знатны - хоць у палацы, перад якім заўсёды стаіць лёкай і не пускае няпрошаных гасцей. Гэты ж дом меў нават штосьці накшталт сапраўднага вартаўніка - свяшчэнніцкі капялюш, высечаны з каменя над уваходам.

Увайшоўшы ў дом, Лянора прылажыла палец да губ.

- Тсс, Людвіг. Цяпер будзем красціся наверх, як каты. Бо там, - яна паказала на дзверы, і яе ўказальны пальчык задрыжаў, - жыве дзядзька Аўрам, матчын брат, гер канонік! - Перад дзвярыма яна з глыбокаю павагаю схілілася ў паклоне. - А цяпер яшчэ цішэй, Людвіг. Тут жыве дзядзька Лоранц, брат майго нябожчыка таткі, ён таксама канонік. Ён наш апякун і выхавальнік -

але выхоўваю яго я! - а абодва геры канонікі заўсёды пляскаюць у ладкі, калі я патрабую гэтага, - Лянора тут жа паказала, як яны гэта робяць. - Яны вучацца дзень і ноч, але не раз ужо я заставала дзядзьку Лоранца неспадзеўкі за вывучэннем смажанага кураняці ці бургундскага віна, хоць і сталуецца ён з намі.

Нарэшце яны дабраліся наверх, і тут Лянора сказала:

- Ну, а цяпер можна і падурэць. - І адразу ж заскакала і заспявала: - Вось мы і прыйшлі! І я прывяла з сабою Людвіга!

Фраў фон Бройнінг адарвалася ад свайго вышывання, а хлопчык, у якога на фетравым капелюшы тырчала пеўневае пяро і падпяразаны які быў шырокім ярка-чырвоным шалем, зароў:

- La bourse ou la v Ie! (Кашалёк або жыццё (франц. )).

Фраў фон Бройнінг уздыхнула.

- Што толькі падумае Людвіг! Людвіг, чаму ты не наведаў нас раней? Вось гэта - Крыстаф, ён хоча стаць разбойнікам. Спадзяюся, што гэта ў яго скора мінецца, а наогул чалавек ён неблагі. Ён, безумоўна, стане тваім добрым сябрам, Людвіг.

Крыстаф адразу падышоў да Людвіга і адвёў яго ўбок.

- Я зараз жа прыму цябе ў сваю банду. Мы ўсе - высакародныя разбойнікі.

Фраў фон Бройнінг, смеючыся, адмахнулася ад яго.

- Пазаві лепш Франца, няхай ён прынясе шакаладу.

- Ну але, шакаладу, - нясмела ўсміхнуўся яшчэ адзін хлопчык.

Фраў фон Бройнінг, паказваючы на яго, сказала:

- Завуць яго Стэфанам, Людвіг, а маленькага чалавечка вунь там у кутку - Лоранцам, або карацей, Ленцам. - Калі яны прыселі, фраў фон Бройнінг кінула позірк цераз стол. - Людвіг, хачу, каб ты адразу ведаў усе нашы звычаі і прывычкі: у нас нікога не прымушаюць. Усё робіцца ад шчырага сэрца, і калі ты чаго-небудзь хочаш, то павінен памятаць гэтае правіла. Між іншым, як твая рука?

Людвіг паварушыў пальцамі, быццам іграючы на фартэпіяна, і спалохаўся, зразумеўшы, чаго ён натварыў.

- Рука. . . у парадку.

Фраў фон Бройнінг зрабіла выгляд, быццам нічога не заўважыла.

- Я вельмі рада і - паслухайце сюды, дзеці. Я не ведаю, сыграе вам Людвіг што-небудзь ці не, але калі ён згодзіцца, то ўсім вам разам трэба згарэць ад сораму і браць з яго прыклад.

Яна паглядзела на Людвіга.

- Толькі зразумей мяне правільна. Не падумай, што мы запрасілі цябе да нас толькі дзеля ігры на фартэпіяна.

Цёмны Людвігаў твар яшчэ больш пацямнеў. Ён адчуваў сябе глыбока прысаромленым, бо гэтая прыгожая, добрая жанчына чытала яго думкі. І што ўсё гэта наогул значыць? Лянора, што сядзела злева ад яго, палажыла яму на талерку кавалак пірага, а «разбойнік» нанізаў другі кавалак драўляным кінжалам, каб пляснуць яго яму на талерку справа. Стэфан абняў яго рукою за шыю, і, гледзячы на Людвігаў твар, над якім насміхаліся на вуліцах дзеці, ён, здавалася, аж ззяў.

Потым праз шырока адчыненыя дзверы Людвіг зірнуў на раяль у суседнім пакоі і ўстаў.

- Што загадаеце сыграць? - Перад гэтым маці настойліва навучала яго быць вельмі ветлівым; гэта давалася яму нялёгка, але разам з тым было дзіўна, што ўсё ідзе як бы само сабою. Можа, прычына была ў дабраце гэтай жанчыны і ў тым, што ўсе ставіліся да яго як да свайго сябра?

Фраў фон Бройнінг засмяялася.

- Калі ты хочаш наогул парадаваць нас ігрою - мы ж не можам загадваць табе, якую іграць нам рэч.

Лянора падскочыла на месцы.

- Але я хачу папрасіць. Я якраз развучваю страшэнна цяжкую санату, яна ў мяне ніяк не выходзіць. Сыграй мне яе хоць раз. - І яна пабегла да раяля.

Людвіг паглядзеў на ноты.

- Саната Руста. Яе я не ведаю; зрэшты, нельга ведаць усе санаты. Слухай, Лянора, гэта ж вельмі лёгкая п’еса. - Што ён за лухту вярзе тут зноў ды яшчэ ганарыцца гэтым? Яму прыйшло ў галаву, што тут пойдзе аб выпрабаванні, якое будзе, можа, не менш цяжкім і сур’ёзным, як

тады перад герам Нефе. Трэба рызыкнуць, як калісьці. Першая частка была прэста, і ён прайшоўся па клавішах у шалёным тэмпе.

Элеанора не ўтрымалася і ўсклікнула:

- Людвіг! Няўжо гэта іграюць так хутка? І ты гаворыш, што нічога цяжкага тут няма?!

У пакой заглянула фраў фон Бройнінг.

- Лянора, не перашкаджай яму. Людвіг засмяяўся.

- Паненка мне зусім не перашкаджае. Глядзі, Лянора, нічога складанага тут няма: націскаеш спачатку на адну белую клавішу, потым на другую, а калі-нікалі і на чорную. Скочыш цераз некалькі клавішаў далей. Што ж тут такога?

Ён зайграў адажыо. Элеанора, узлакаціўшыся на раяль, глядзела на яго і слухала. Раптам яна шмыгнула да маці на крэсла і шапнула ёй:

- Мамачка, дарагая мамачка - цяпер у яго ў вачах зноў тое, пра што я казала табе тады на санках: гэты дзіўны бляск, які находзіць на іх часам.

Фраў фон Бройнінг прыцягнула яе да сябе.

- Няўжо ты не заўважаеш, як гэта сумна? І прычын вельмі многа, і. . . таму нам трэба развесяліць яго вочы, ажывіць іх бляск.

Як толькі Людвіг скончыў іграць санату, Элеанора села да яго на ўслончык.

- Ах, як хораша ты іграеш! Як яно табе так удаецца?

Людвіг зморшчыўся.

- Трэба практыкавацца, практыкавацца і яшчэ раз практыкавацца.

Да раяля падышла і фраў фон Бройнінг.

- Чуеш, Лянора?

Лянора паказала на адно месца ў нотах.

- Вось гэта чортава месца!

- Чаму чортава? Хочаш, я сыграю яго табе.

Фраў фон Бройнінг перабіла:

- Людвіг, дазволь задаць табе пытанне. У Ляноры цяпер няма сапраўднага настаўніка музыкі. Можа, у цябе ёсць жаданне даваць ёй урокі?

- Я. . . Ляноры?

- За ўрокі я табе. . . - яна хацела сказаць: буду плаціць гэтулькі ж, колькі плаціла настаўніку, але перасмыкнуты Людвігаў твар своечасова папярэдзіў яе, і таму яна сказала інакш: - буду заўсёды вельмі ўдзячна. Платы за ўрокі ты не захочаш браць, але ад нашага сяброўства і ўдзячнасці, спадзяюся, ты не адмовішся.

Ён моўчкі кіўнуў. Гаварыць ён не мог, бо на яго найшло нейкае нязнанае гарачае пачуццё.

Людвіг узляцеў па ўсходках наверх. У яго жыцці гэта быў самы значны і самы цудоўны дзень!

Маці яшчэ не спала, але браты ўжо заснулі.

- Франц, стары слуга фон Бройнінгаў, узяў ліхтар і правёў мяне дадому - і яны перадаюць табе прывітанне, - а я буду даваць Ляноры ўрокі музыкі - і першы ўрок паслязаўтра.

Маці слухала яго, але яе позірк быў пакутлівы, а ён ужо добра навучыўся разумець гэтыя знакі.

- Бацькі яшчэ няма?. .

Маўчанне было выразней за словы. Ён кіўнуў з выглядам чалавека, які ведае ўсё.

- Тады пачнём сваю службу і схаваем спачатку брытву, а потым зоймем сваё месца і будзем чакаць. . .

Наступныя тыдні праходзілі як суцэльнае свята. Ах, гэтыя ўрокі музыкі Ляноры і гульні ў садзе! Лянора і яе сяброўкі клапаціліся аб «хатняй гаспадарцы» і даглядалі дзяцей - лялек, а «змораныя працаю гаспадары» займаліся сваёю цяжкаю работаю. Шчыра кажучы, ім пад кіраўніцтвам атамана разбойнікаў Крыстафа трэба было займацца рабункам, але яны не ведалі, дзе, як і з чаго пачаць, і таму прыйшлі ў захапленне, калі адзін з гераў «канонікаў» змайстраваў ім мішэнь, у якую яны стараліся цяпер пападаць стрэламі.

І раз за разам Людвіг бегаў у дом да раяля, садзіўся іграць, хоць ніхто не патрабаваў ад яго гэтага, іграў проста таму, што хацелася выказаць радасць, якая і яму самому была нейкаю навіною. А потым у другой палове дня да фраў фон Бройнінг сяды-тады прыходзілі ў госці знаёмыя пані. Ім падавалі чай, калі было добрае надвор’е - у садзе, калі дрэннае - дома, але не

гэта было, зрэшты, мэтаю сустрэч. Як толькі прыбіралі са стала, фраў фон Бройнінг прыносіла кнігі, і іх чыталі ўголас. Ён пачуў імёны Клопштака, Лесінга, Гётэ, Шылера і Мацісана. А аднойчы і імя Гамера.

Фраў фон Бройнінг чытала: «Раскажы мне, о муза, пра подзвігі гэтага выдатнага падарожніка, якому пасля разбурэння святой Троі прыйшлося гэтулькі паблукаць па свеце. . . »

І пазней Людвіг не ведаў, чаму яго вочы тады напаўняліся слязамі радасці. Няўжо іх спараджаў твор, які яны называлі «Адысеяй»? А можа, таму, што яму дазвалялі бываць усюды, нібы ён быў адзін з дзяцей іх сям’і, і ніхто не абзываў яго «спаніёлем» і не праганяў з пакоя?

Бліжэй да зімы вольнага часу стала яшчэ менш. Гер Нефе пасадзіў яго канцэртмайстрам за клавесін, прыходзілася доўга практыкавацца са спевакамі і спявачкамі, вядома, пад наглядам самога Нефе. Але як жа цудоўна было потым сядзець у Бройнінгаў, абмяркоўваць, наблізіўшы галовы адно к аднаму, п’есы, драмы ці оперы, на якія можна будзе пайсці, калі дазволіць маці. І які багаты быў выбар! Людвіг ужо ведаў, што меліся ставіць на працягу ўсяго бліжэйшага сезона.

У Крыстафа ад хвалявання аж дыханне заняло.

- Людвіг, ведаеш, што такое «Разбойнікі» Шылера? Я хацеў бы пайсці на іх!

- А я на «Караля Ліра». Лянора перабіла:

- Мама казала яшчэ пра «Міну фон Барнгельм» гера Лесінга і называла імёны двух пісьменнікаў - Мальера і Гальдоні. Ну, а якія ставяцца оперы, Людвіг?

Ён велічна ўсміхнуўся.

- Выбар у вас вялікі. Вось тут на паперцы я занатаваў сёе-тое, і далёка не ўсё. «Свята руж» - музыку напісаў Вольф. «Азалія» - музыка напісана герам Кюхлерам, фагатыстам бонскай прыдворнай капэлы. «Нявольніца» Шчыні. «Земір і Азор» Грэтры. «Дзяўчына ў дубовай даліне». Мне здаецца, што музыка гэтай оперы ваенная, бо напісаў яе капітан, які служыць у курфюрста кёльнскага. «Шаўковыя чаравічкі» Фрызера. Між іншым, гэта якраз тое, што можа спадабацца табе, Лянора. «Вянок з каласоў» Гілера. «Алімпійскія гульні», «Падман ад кахання». . .

Лянора пакруціла галавою.

- Мама, вядома, не дасць дазволу пайсці на яе, гэта для дарослых.

- «Фелікс, або падкідыш» твайго. . . любімага гера Мансіні, Лянора. Ну, а што ты скажаш пра Глюка? Пра «Пілігрымаў у Меку»? На думку гера Нефе Глюк добры кампазітар.

Крыстаф абняў Людвіга за шыю.

- Усё-такі добра, што ты цяпер заўсёды з намі. Праўда, Лянора?

Свяціўся радасцю і твар у Стэфана, калі ён, на згоду, ласкава ківаў галавою.

Ластаўкі аж падалі да самага бруку. Яны лёталі гэтак нізка на дождж, але пакуль што гарачы жнівеньскі дзень быў цудоўны. Людвіг адчыніў царкоўнае акно на хорах на ўзроўні з арганамі, і паветра прыемна асвяжыла яго. Але яму ўсё ж ніяк не ўдавалася пазбавіцца ад саладкаватага і разам з тым горкага паху, які незадоўга да пахавання яго брацiка Франца Георга напаўняў музычны пакой. Калі памерла яго маленькая сястрычка Францыска, ён узяў яе маленькую ручку ў сваю руку, і адчуванне было такое, быццам дакрануўся да нейкага страшэнна ліпкага каменя. Ён бы хацеў уцячы адсюль, бо якраз была пара ісці да гера Нефе на ўрок тэорыі музыкі. Туды ён павінен быў захапіць з сабою і «Добра тэмпераваны клавір» Баха, каштоўную копію, якая належала Нефе. Дзіўна, што гэтых нотаў яшчэ не надрукавалі!

Ён пачаў складаць кніжкі. Чаго тут толькі не было: «Вучэнне аб змене інтэрвалаў акордаў» Рамо, «Уступ да музычнай кампазіцыі» Зорге, «Сапраўдныя асновы абыходжання з гармоніяй» Кірнбергера, а куды ж прапаў «Gradus ad Parnassum» (Дапаможнік па музыцы (лац. )) Ё. Ё. Фукса? Навошта толькі напісана такое мноства кніжак пра рэчы, якія, зрэшты, вядомы і так, хоць ты іх і не вывучаў асобна?

Куды цікавей чуць ад гера Нефе, «чалавека, які шмат чаго пабачыў» і часта бурчаў у сваёй грубаватай манеры пра даволі бязладную школьную адукацыю Людвіга, сёе-тое з гісторыі народаў і пра палітычныя абставіны часу.

Калі ўвайшоў Людвіг, Нефе стаяў пры пісьмовым стале ў сваім рабочым пакоі ў тэатры. Зірнуўшы на цыферблат высокага гадзінніка, на якім пры кожным удары маятніка туды-сюды скакаў парусны караблік, ён сказаў:

- Добра, што ты прыйшоў, пакуль яшчэ няма нікога. Мне трэба сёе-тое абмеркаваць з

табою. Па-першае, прыйдзецца нам спыніць урокі на арганах, ды і другіх урокаў я табе больш даваць таксама не змагу. Можа, пазней знойдзецца магчымасць. Лукезі надоўга ідзе ў адпачынак. І вось мне да ўсяго іншага падсунулі яшчэ і яго абавязкі, і таму ты павінен памагчы мне, Людвіг. Ну што, хочаш памагаць мне?

Хлопчык зрабіў такі рух, быццам хацеў абедзвюма рукамі працягнуць яму сваё сэрца.

- Добра. Значыцца, з гэтага моманту на операх і на канцэртах - у залежнасці ад таго, што будзе ісці - ты будзеш іграць на клавесіне, бо я не магу адначасова і дырыжыраваць і іграць. - Ён фыркнуў: - Паскакаць ад радасці, што будзеш іграць на клавесіне, можаш потым на вуліцы! Павінен сказаць табе, што абавязак, які я ўскладаю на цябе, у аркестры самы адказны. Але калі прыходзіць бяда, то і чорт есць мух, і я чакаю, што да сваіх абавязкаў ты паставішся як належыць і ніякіх выбрыкаў не зробіш. У сваім клавесінісце я павінен быць упэўнены, бо ён вядзе за сабою ўвесь аркестр. Арганы застаюцца за табою, а што да кампазіцыі, то пазней, магчыма, мы таксама нешта прыдумаем. Дарэчы, пра кампазіцыю! - Яго позірк пранізваў як кінжал. - На нашых уроках кампазіцыі ты зладзіў тры санаты, найлепшая з іх бадай што фа мінор, але і тут хросных, якія прыклалі рукі, хоць адбаўляй: і Фільц, і Эйхнер, і Эдэльман, і Шоберт, і ваш пакорны слуга. І нават такія велічыні як Руст і Стаміц. У цябе незвычайная памяць на творы розных людзей, Людвіг ван Бетховен, надзіва доўгія пальцы, хоць папраўдзе яны ў цябе кароткія, і вось ты спакойна крадзеш то там то тут. Ну, пазней табе, можа, прыйдзе што-небудзь і сваё ў галаву, ды і ў гэтых так званых санатах табе сёе-тое ўжо прыйшло ў галаву. Хоць гэтага ганебна мала, але мансеньёр жа нічагуткі не разумее. Людвіг спалохаўся.

- Няўжо мансеньёр даведаўся?. .

- Не, яшчэ не, але даведаецца! Бо зараз ты чысценька перапішаш дома гэтыя тры няшчасныя «творы», якія, прынамсі, па прыкладу Філіпа Эмануэля Баха маюць тры часткі, а потым ты прысвеціш іх мансеньёру. Прысвячэнне замест цябе я ўжо напісаў. Праўда, яно гучыць не так, як яго стаў бы пісаць хлопчык тваіх гадоў, але мансеньёр ужо праглыне гэтую салодкую лісліваць. А цяпер марш адсюль і каб заўтра ў мяне было ўсё і без ніякіх крамзоляў. - Голас Нефе загучаў раптам рэзка. - Я, мабыць, усё-такі павінен сказаць табе праўду. Яна ў гэтым выпадку жорсткая, але ўсё ж застанецца тым не менш найлепшым выйсцем. Ты ведаеш ці, можа, здагадваешся, што твой бацька робіць усё, каб заліць гарэлкаю рэшткі свайго голасу. Не будзем цяпер наракаць на гэта. Відаць, нядоўга ўжо чакаць часу, калі бацьку твайго адправяць на пенсію. І тады табе прыйдзецца ўзяць на сябе ўвесь клопат пра матку і братоў.

- Мне? Што ж магу я?. .

- Калі прыйдзе час, ты гэта ўбачыш, а цяпер хопіць! Перадай прывітанне мацеры, але не кажы ёй пакуль што нічога, чуеш? І ўсяго табе добрага, хлопчык. Што? Ты ўсё яшчэ тут? Марш адсюль!

Прысвячэнне Людвіг пачаў чытаць ужо на вуліцы:

«Высокашаноўнейшы!

На чацвёртым годзе жыцця музыка стала маім асноўным юнацкім заняткам. Так рана пазнаёміўшыся з высакароднай музай, якая настроіла маю душу на чысты лад, - Людвіг выразна чуў, як муза свішча па ім сваёй стусінкай, - я ўпадабаў яе, і яна мяне, як мне няраз здавалася, таксама. Мне тым часам ужо мінула адзінаццаць гадоў, - а ці не старэйшы ён крыху, тым часам? - і муза часта шаптала, завітваючы да мяне: Паспрабуй жа і запішы калі-небудзь душы свае лад! Мне адзінаццаць гадоў, думаў я, а ці ж выпадае мне быць аўтарам? А людзі мастацтва што скажуць? І я ледзь не спалохаўся. Але музе маёй патрэбна было выйсце - і я паслухаўся яе і запісаў вось гэта.

Святлейшы! Дазволь жа мне цяпер набрацца смеласці і палажыць на прыступкі твайго трона спробы мае юначае працы! Ці магу я спадзявацца, што ты кінеш на іх зычлівы бацькоўскі позірк і яны знойдуць у тваім сэрцы ўхвальны водгук? Павінны знайсці! Бо ўжо здаўна навука і мастацтва мелі ў тваёй асобе свайго мудрага абаронцу, велікадушнага заступніка, а малады талент квітнеў, абагрэты тваім светлым бацькоўскім клопатам. Прасякнуты светлай упэўненасцю, асмельваюся я наблізіцца да цябе з гэтымі юнацкімі спробамі. Прымі іх як чыстую ахвяру дзіцячай пашаны і ўдастой, о Высокашаноўны!

літасціва позірку і іх маладога аўтара

Людвіга ван Бетховена».

Папраўдзе, ці ж не смешна ўсё гэта? Якой жа мэты хоча дабіцца гер Нефе? Бацьку

збіраюцца адправіць на пенсію, а яго, наадварот, пасадзяць у аркестры за клавесін, на месца, на якім сядзелі гер Нефе і нават вялікі Сальеры і за якое біліся на дуэлі Гендэль і Мацісан! Гэтыя гісторыі з жыцця музыкантаў ён ведаў яшчэ ад дзядзькі Раванціні. Нават той, скрыпач, павінен быў прызнаваць першае слова за клавесінам. Маці, мабыць, пакуль што нічога не трэба казаць пра бацьку, - напомніў яму гер Нефе. Але гэты напамінак быў лішні.

Ён пачаў падлічваць свой заработак: некалькі гульдэнаў давала ігра на арганах у час імшы. Фраў фон Бройнінг тайком усё ж плаціла маці за яго ўрокі Ляноры, і вось цяпер ён, апрача таго, будзе іграць яшчэ і на клавесіне ў аркестры! А як ён будзе старацца іграць! Яго прысадзістая фігура аж напружылася ад рашучасці.

Прайшло некалькі месяцаў. Мансеньёр чакаў высокіх гасцей і з гэтай нагоды падумаў даць ім у нацыянальным тэатры святочны паказ оперы. Усю першую палову дня ішла рэпетыцыя, але гера Нефе нічога як след не задавальняла. Прымадонна мадам Заламон, накрычаўшыся, не магла больш вымавіць і гуку і збегла са сцэны; нават па шчаках Фрыдэрыкі Флітнер ручайкамі цяклі слёзы. Адзін толькі ўдар літаўраў ён загадваў паўтараць трыццаць ці сорак разоў, але тым не менш перад самым канцом, раззлаваўшыся, спыніў рэпетыцыю і прызначыў за тры гадзіны да пачатку паказу новую. За гэты час яго настрой не палепшаў, і ў артыстаў зуб на зуб не пападаў ад холаду. Дзеянне оперы адбывалася на поўдні ў сонечным садзе, і касцюмы былі адпаведныя, але на вуліцы стаяў люты мароз, і на сцэне было неймаверна холадна.

Людвіг радаваўся, што яго не было відаць за клавесінам. Ён яшчэ не меў ніводнай заўвагі, і таму ўвесь гэты свет музыкі, штукавання і бляску здаваўся яму вясёлым і дзівосным. Прынамсі, на некалькі гадзін знікаў пакутлівы паўзмрок, што панаваў дома, хоць ён і там - можа, з-за санат, прысвечаных мансеньёру - марыў пра нейкі цуд.

Вочы яго чыталі ноты, а пальцы перакладалі іх у акорды і пасажы. Ён усё іграў і іграў.

У аркестры з’явіўся палкоўнік - гофмайстар граф Зальм Райфершайд.

- Гер Нефе, вам прыйдзецца спыніць рэпетыцыю. Публіка чакае дазволу ўвайсці ў залу, ды і высокія асобы таксама вось-вось падымуцца з-за стала. - Ён узмахнуў нейкаю паперкаю.

І Нефе запытаўся:

- Ну як?

Граф Зальм кіўнуў:

- Зрабілі ласку! - што на мясцовай канцылярскай мове азначала: мансеньёр ухваліў і падпісаў.

А Людвіг усё іграў і іграў. Яно так - клавесін, бясспрэчна, душа аркестра, але ці ж не лепш, калі б ён быў намнога большы і на ім можна было б іграць сапраўдную вялікую сімфонію? Ён чуў, як загрымелі літаўры, а потым залашчыліся габоі і фаготы, запрашальна загучалі валторны. Чорт яго ведае, што там здарылася са скрыпкамі? Цяпер зноў чуваць літаўры, але ціха-ціха, і зноў - фартысіма! Ах, як хараша, але ці ж можа клавесін, сам па сабе нядрэнны інструмент, замяніць усіх?

На твары Нефе застыла безнадзейная пакорлівасць.

- Граф Зальм, я даўно спыніў бы рэпетыцыю. Я ўжо чатыры разы даваў знак. На жаль, масьё Людвіг ван Бетховен на гэта не звяртае ніякай увагі. Ван Бетховен, можа, ты нарэшце будзеш мець ласку заўважыць, што я даў знак скончыць іграць?

Людвіг адарваў рукі ад клавішаў. Ніхто больш не іграў, іграў толькі ён адзін, і гнеў гера Нефе абрушыўся ўрэшце і на яго:

- Устань!

Людвіг нясмела падняўся з месца. Крысціян Готліб Нефе прыжмурыў вочы.

- І наогул - які ў цябе выгляд? Табе што, невядома, што сёння ўсе прыдворныя музыканты павінны быць у парадным адзенні? А ты як асмеліўся паказацца тут? Дзе твой зялёны фрак і шпага? У цябе ж дома ёсць нават пазалочаная шпага.

Людвіг не разумеў ніводнага слова.

- Граф Зальм, дазвольце ўзяць у вас дакумент? - Гарбун згарнуў паперу ў скрутак і сцебануў ім хлопчыка па вушах з аднаго і з другога боку. - Ведаеш, што гэта такое? - Людвіг задрыжаў. - Гэта тваё пасвячэнне ў рыцары, Людвіг ван Бетховен. Ты ўсё яшчэ не разумееш? І вось на такую даўбешку я марна патраціў гэтулькі часу! А нарэшце і да яго пачынае даходзіць.

Сёння, адразу пасля гэтага, ты ж будзеш выконваць сваю партыю на клавесіне ўжо як прыдворны музыкант. Тут тваё прызначэнне на пасаду. Ты цяпер прыдворны музыкант, памочнік арганіста. Падзякуй графу Зальму, у якога з-за нейкіх там санат ад пісання нават пальцы карацей сталі! Граф Зальм! Ну вось, яго ўжо няма, шукай сабе ветру ў полі. Бачыш, ніхто не хоча з табою знацца, галава ты садовая.

- Гер Нефе - колькі яшчэ часу засталося да пачатку?

- Дваццаць мінут. Ты што хочаш?. .

- Я хуценька збегаю.

- Добра, але калі ты спознішся, гер прыдворны музыкант, я без усякіх акалічнасцей зноў праганю цябе з работы!

Людвіг аж ляцеў па цёмных вуліцах. Што там яшчэ гаварыла фраў Фішэр сёння раніцаю мацеры? «Вам патрэбны якія-небудзь лекі на ўмацоўванне». Ці ж гэта не лекі на ўмацоўванне, што ён - яшчэ хлопчык, а ўжо прыдворны музыкант!

Гэтаю вясною ўсё іскрылася, як залаты тронак шпагі, з якою Людвіг пахаджваў пад дзядулевым партрэтам. Ён глядзеў на партрэт, і той так жвава змяніўся, што брала расчараванне. На дзядулевым твары не відаць ні радасці, ні гордасці - на ім хутчэй застыла нейкая халодная абыякавасць. Можа, дзядулю не падабалася, што ён, як самы малады прыдворны музыкант, пакуль што не меў платы? Што парадную форму яму за свае грошы пашыў гер Нефе? Людвіг паглядзеў на сябе ў люстэрка. Выгляд у яго, вядома, нікуды неварты, і гэтага не маглі перайначыць ні зялёны фрак, ні камізэлька з белага шоўку. Такі ўжо нізкаросы і няўклюдны ён урадзіўся. Брат Карл, маладзейшы на чатыры гады, вось-вось перагоніць яго ў росце. Людвіг успамінаў Франца Вегелера, які апошнім часам таксама наведваў Бройнінгаў. Дык той хоць старэйшы, але ж на цэлую галаву і вышэйшы. Зграбны, гнуткі, нейкі прамяністы. У Лянорыных вачах заўсёды паяўляўся бляск, як толькі яна бачыла яго. Але затое ён цяпер прыдворны музыкант!

Увайшла маці з братамі.

- Людвіг!

Ён паволі павярнуўся, нібы чакаючы чагось асаблівага. Звярнуўшыся да Карла і Ёгана, яна спытала:

- Ну, як ён вам падабаецца?

Карл зняважліва паціснуў плячыма.

- Такім я магу стаць у любы момант.

Фраў Магдалена пакруціла галавою.

- О не. Так проста гэта не даецца, праўда, Людвіг?

Той шчасліва засмяяўся.

- Часам я думаю, што кожнае шво на гэтым парадным адзенні зроблена стусінкаю. Але яно гэтак, мабыць, і павінна быць, І гэта я магу сказаць нават тату.

- Тады скажы яму, Людвіг. Ён абрадуецца.

- Тата. . . са мною больш не гаворыць.

Гэта была праўда. Як толькі Людвіга прызначылі прыдворным музыкантам, Ёган адкрыта знелюбіў яго. А Карл стаяў на сваім:

- Апроч таго, мне зусім не хочацца быць гарылаю ў зялёным фраку і з пазалочанаю шпагаю.

На жаль, у прыдворнай форме нельга было паказвацца на вуліцы кожны дзень, а чакаць, пакуль зноў надарыцца выпадак, было цяжка. Такая магчымасць магла настаць толькі на вялікдзень. Але і гэтае свята прынесла адно расчараванне. Захварэў мансеньёр, і святочнае адзенне насіць забаранілі. Цяпер трэба чакаць дня нараджэння мансеньёра. Нарэшце, нарэшце запаліліся агеньчыкі свечак, і маці магла рыхтаваць яму парадную форму.

На наступны дзень, калі ён зайшоў да гера Нефе, той якраз гутарыў з герам Зімрокам.

- Вы сапраўды так лічыце, гер Нефе?

- Зразумела. Вы заўсёды займаліся нотамі і рабілі гэта з вялікай ахвотаю. Існуюць выдавецтвы Артарыя, Брэйткопф і Гэртэль і некалькі другіх. А чаму ж нельга, каб існавала побач з імі і музычнае выдавецтва Зімрока? Я лічу, што гэта ідэя выдатная.

- Што ж, я вельмі рады. Праўда, ёсць некаторыя дэталі. . .

- Прадугледзець іх цяпер мы не можам. Падумаем над імі ў свой час.

Зімрок, нешта мармычучы, зачыніў за сабою дзверы. Толькі цяпер Нефе заўважыў Людвіга. Ён шаркнуў нагою.

- Глядзі ты, гер прыдворны музыкант уласнаю персонаю. Прыходзіць сюды пад маркаю, што хоча выказаць мне сваю павагу, а напраўду, дык гэтаму пеўніку карціць адно: паказацца ў прыдворным адзенні. Ці гер прыдворны музыкант хоць вымылі свае лапы? Пакажы! - Ён з’едліва засмяяўся. - Геру прыдворнаму музыканту-пеўніку не шанцуе, бо яснае сонца сёння бязлітасна выкрывае ўсё. Таму, гер прыдворны музыкант, патурбуйся неадкладна пайсці вунь туды да ўмывальніка і як след памыйся вадою з мылам.

Загад Людвігу быў зусім незразумелы, бо рукі ён перад гэтым чыста памыў нават шчоткаю. Але прыйшлося пакорна пайсці да ўмывальніка. Нефе зноў завуркатаў:

- Што я бачу, калі гляджу на гера прыдворнага музыканта ззаду? У гера пеўніка няма шпораў! Значыцца, яму патрэбны шпоры. Ну, а цяпер няхай гер прыдворны музыкант будзе мець ласку вярнуцца да майго пісьмовага стала і асцярожна ўзяць ноты, вунь тыя - самыя верхнія ў тым стосіку.

Хлопчык пацінуў плячыма і падпарадкаваўся.

- Французскай мовы я яшчэ. . .

- Не надта ведаеш. Я табе прачытаю і перакладу. Слухай: ((Var Iat Ions pour le Clavec In sur une Marche de Mons Ieur Dress Ier, composees et ded Iees к son Excellence Madame la Comtesse de Wolfmettern Ich, nee Baronne d’Assebourg, par un jeune amateur Lou Is van Beethoven, age de d Ix ans». А вось пераклад: «Варыяцыі для фартэпіяна на тэму марша Э. Х. Дрэслера, створаны і прысвечаны Яе правасхадзіцельству графіні Вольфметэрніх, уроджанай баранесе фон Асебург, адным маладым паклоннікам, узрост якога дзесяць гадоў».

Людвіг запытаўся:

- Хто такая графіня Вольфметэрніх?

- Шляхетная старая качарыжка. Муж яе памёр, і жыве яна цяпер разам з трыма катамі. І вось я падкінуў ёй у яе звярынец і пеўніка, un jeune amateur (Маладога паклонніка (франц. )) якому дзесяць гадоў, і яна, расчуліўшыся, пасылае пеўніку ў год па гульдэну. А я разлічваў у год, прынамсі, на дукат і лічу, што яна жмінда. Можа, ты хоць парадуешся, што надрукаваны твой першы твор? Бо гэта не копія, ты, даўбешка, а надрукаванае, разумееш - надрукаванае! Усё гэта - экземпляры твайго «твора»!

- Ага. . . - Для Людвіга ўсё гэта гучала як нерэальнасць.

Нефе здаволена паціраў рукі.

- Значыцца, гэта і ёсць твой опус нумар адзін, Людвіг ван Бетховен. Праўда, нумара я не паставіў, бо ўсё-такі разлічваю, што пазней твой нумар адзін стане куды лепшы. - У яго словах чуліся кпіны, за якімі ён спрабаваў схаваць прыхільнасць да свайго вучня. - Бо надзеі нельга траціць ніколі, нават, калі рэч ідзе пра цябе, Людвіг ван Бетховен.

Ён перагарнуў нотны ліст.

- З тваіх старых варыяцый я выбраў лепшыя, аднак і тыя нікуды не вартыя. Але я падумаў сабе: пеўніку патрэбны шпоры, і вось тут, - Нефе палажыў руку на ноты, - шпоры, якія ты набываеш сабе сам. Мы, зразумела, не будзем цяпер спачываць на лаўрах, малады дружа, бо ў гэтых лаўрах няма ні моцы, ні якасці, каб заскварыць імі хоць бы звычайны крупнік. Куляй ляці да арганаў! Пара брацца за святочную музыку для імянінніка мансеньёра!

Фраў фон Бройнінг і абодва канонікі былі запрошаны - ці як тады казалі: ім было загадана быць - да стала курфюрста, і таму дзеці засталіся адны. Яны ўжо паелі, і Людвігу прыйшлося садзіцца за стол пасля ўсіх.

Крыстаф, апрануты сёння не разбойнікам, а па-святочнаму, як і належыць сыну знатнага паходжання, быў асабліва зачараваны пазалочанаю шпагаю. Стэфан і Ленц глядзелі на Людвіга ў нямым захапленні. Белыя зубы Ляноры блішчалі, а яе маленькі язычок, выслізгваючы з чырвоных губ, нагадваў яшчарку, рухавую, як маланка.

- Людвіг, можа, пакланіцца табе? Здаецца, без гэтага не абысціся.

Яна прысела ў рэверансе, хоць і без насмешкі, але Людвігу ўсё ж нешта не спадабалася. Ён толькі не мог сказаць што. Няўжо яна гэтак зрабіла б і перад вялікім хлопцам, Францам Вегелерам? Не, з ім яна паводзіла сябе нясмела. Толькі нясмела? Гэта яшчэ не ўсё. Прынамсі, да

гэтага Франца Вегелера Людвіг адчуваў зацятую нянавісць, а ён жа ведаў, што такое нянавісць!

Але гэтая нянавісць была не такая.

- Крыстаф, мне трэба чарніла, пяро і пясок, каб пасыпаць напісанае; пастаў усё гэта, калі ласка, на раяль. - Сам Людвіг пайшоў і прынёс нешта, што перад гэтым ён пакінуў у калідоры.

- Што гэта там у цябе? - спытаўся Крыстаф.

- Ноты, адны ноты.

На раялі ён разгладзіў ноты, макнуў гусіным пяром у чарніліцу і пачаў пісаць. З-за яго пляча Крыстаф чытаў: «Маёй. . . сяброўцы. . . Элеаноры фон Бройнінг. . . Людвіг ван Бетховен», потым Людвігаў позірк спыніўся на напісаным. Яму не спадабаўся почырк, бо быў ён нейкі падзіцячы нязграбны. Павярнуўшыся рыўком, ён перадаў ліст дзяўчынцы. Вочы Ляноры расшырыліся ад здзіўлення.

- Людвіг, няўжо гэта мне? А што гэта за ноты? Ты мне іх даў развучыць да ўрокаў?

- Не, гэтыя ноты развучваць не трэба. Гэта толькі. . . мой першы надрукаваны твор. - Пагардліва махнуўшы рукою, ён сказаў далей: - Тут толькі некалькі невялічкіх варыяцый на тэму марша гера Дрэслера. Раней ён быў оперным спеваком у Каселі, цяпер яго няма жывога. Марш я знайшоў пад нотамі ў гера Нефе. Варыяцыі далі мне радасць, а геру Нефе спадабаліся больш, чым сам марш.

Элеанора пачала разглядаць ноты.

- Тут сапраўды напісана: аўтар Людвіг ван Бетховен. - Яна аж задыхнулася. - Людвіг, вялікі дзякуй! Клянуся табе, што гэтымі нотамі, - яна прыціснула іх да грудзей, як бы не хочучы, каб хто-небудзь на іх зірнуў, - гэтымі нотамі я заўсёды буду даражыць, заўсёды, Людвіг, гэта ж твой першы надрукаваны твор. Ты не сыграеш мне яго цяпер?

Ён абыякава кіўнуў галавою, сеў на ўслончык каля раяля, пагартаў ноты і раптам кінуў іх на раяль.

- Можа, паспрабаваць звар’іраваць марш пановаму? Ён пачаў іграць, і ўсе згрудзіліся вакол яго. Ля выгіна раяля стаяла Элеанора; палажыўшы перад сабою нотны ліст, яна хацела сачыць па ім за ігрою. Побач з ёю - ну, пэўна ж, зноў-такі каля яе! - стаяў Франц Вегелер.

Людвіг засмяяўся. Смех яго гучаў злосна, з выклікам.

- Не турбуйся, Лянора! Ты не знойдзеш мясцін, якія я буду іграць, бо я імправізую. Вось, скажам. . . - Яго левая рука выводзіла акорды маршавай мелодыі, а правая ў гэты час адбівала актавы шалёнага стаката. Раптам ён зразумеў, што трэба змагацца, не ведаў ён толькі - за што і навошта. Хрыплым голасам ён выціснуў: - Вар’яцтва, га? Можна яшчэ і. . . - І шалёны чароўны танец саступіў месца скарзе, нейкай просьбе, клічу смутку і тугі. Яго шырокія тоўстыя губы падаліся наперад, як бы ён рабіў заклён пальцам, заклён клавішам.

Што гэта там такое? Позірк раптам стаў ясны і жорсткі. Хоць ён і быў паглыблены ў ігру, але заўважыў нешта, што прыцягнула ўсю яго ўвагу: вялікі хлапчына, Франц Вегелер, пераможаны, знішчаны. Пакруціўшы галавою, ён толькі і змог выціснуць:

- Людвіг, у параўнанні з табою мы - нішто.

Элеанора кінула на яго здзіўлены позірк, як бы хочучы суцешыць яго словам, але слова гэтае ніяк не вымаўлялася. Яна толькі яшчэ ніжэй схілілася над нотамі, нібы яны маглі абараніць яе. Але ж яе вочы!. .

Крыху пазней вярнулася фраў фон Бройнінг.

- Што гэта з Людвігам? Праляцеў міма мяне з перакрыўленым тварам. Што тут здарылася?

Адказваць за ўсіх узяўся Крыстаф.

- Нічога, chere maman. Людвіг прынёс і падарыў Ляноры сваю першую надрукаваную кампазіцыю. Яна ляжыць вунь там на раялі. Лянора папрасіла, каб ён сыграў гэтую рэч, але дзесьці на сярэдзіне ён грукнуў векам раяля, ускочыў з месца і. . .

Фраў фон Бройнінг не адступала.

- А можа, хто-небудзь з вас пакрыўдзіў яго неабдуманым словам?

- Наадварот, мамачка. Франц нават пахваліў яго.

Пацвердзіла гэта і Элеанора:

- Праўда, так яно і было.

- А. . . ты, Лянора?

- Я наогул нічога не гаварыла, мамачка. Я, як і мы ўсе, ні ў чым не вінаватая.

Прайшлі лета і восень, і дні сталі шэрыя, як тыя вераб’і, што прыляталі на падаконнік і патрабавалі крошак. Праца ў царкве каля арганаў, праца ў тэатры каля клавесіна, праца дома каля раяля, а ў прамежках яшчэ заняткі на скрыпцы, віёле і віяланчэлі. Да Элеанорыных урокаў дабавіліся па рэкамендацыі фраў фон Бройнінг новыя ў другіх дамах, і нічога нельга прапускаць, бо мацеры патрэбны грошы, кожны шцюбер. Млын, няспынна грукочучы, патрабаваў аднаго: працуй, хлопча, працуй.

У апошні час бацька пачаў красці ў мацеры ўсё, што пападала яму ў рукі. Ён і раней часам краў сёе-тое, але цяпер гэта ўвайшло ў прывычку. Украдзенае ён цягнуў на рынак, каб дастаць гарэлкі. Здавалася, яму самому хацелася хутчэй апусціцца на дно.

Неяк Нефе сказаў:

- Людвіг, учора, калі ты іграў на «Люсілі» Грэтры, мне здалося, што ты сваёй партыі на клавесіне, мусіць, не браў дадому, каб прагледзець яе.

Людвіг вінавата ўцягнуў галаву ў плечы.

- Я ведаю, што ў некаторых мясцінах рабіў памылкі.

- Не тое. Мне хочацца ведаць праўду. Ты да гэтага хоць раз прагледзеў сваю партыю на клавесіне?

Хлопчык пачаў апраўдвацца.

- Мне ж трэба было ляцець з урока на ўрок. . .

- Значыцца, калі быў паказ оперы, ты набраўся нахабства сыграць гэтую складаную партыю pr Ima v Ista? Бо на рэпетыцыях жа за клавесінам сядзеў я.

- А што ж я павінен быў рабіць?

- Божа літасцівы! Адбарабаніць з ліста «Люсіль»! Гэта што-небудзь ды значыць.

- Вельмі проста, гер Нефе: уся справа ў тым, што я добра напрактыкаваўся. Напачатку. . .

- Не гавары глупства. Я нават асмельваюся ўзяць пад сумненне, ці мог бы зрабіць гэта ўчора сам Моцарт. Ага, разумею: стусінка раней табе заўсёды ўдзёўбвала, што ў параўнанні з Моцартам ты пустое месца. Але ў гэтым - а Моцарта я ўжо ведаю - ты яго перасягнуў. Аднак у другім Моцарт вышэй за цябе яшчэ на дзве галавы. Скажы мне, каму патрэбны тыя вымудры, якія ты «напісаў» нядаўна?! Можа, ты хочаш узбагаціць імі літаратуру пра ігру на фартэпіяна і аб спевах? Адзін толькі бязглузды тэкст чаго варты! Хто яго аўтар?

- Не ведаю.

- Лепш было б, каб і пра тваю кампазіцыю ніхто не ведаў! Часам у мяне яшчэ ўзнікала слабая надзея, што з нейкага Людвіга ван Бетховена выйдзе штосьці падобнае на кампазітара, але гэты опус пахаваў яе.

Нефе заспяваў, парадзіруючы:

- Сябра мой, хочаш, каб пра Элізу
- я табе расказаў?
- Трэба было, каб Уц мне свой розум
- на гэта ахвяраваў.

Гарбун з’едліва ўхмыльнуўся.

- Расказаў - ахвяраваў! І яшчэ трым-трам-трам-трым суправаджэння на фартэпіяна! Апроч таго, правільна будзе «трэба», а не «трэба было». - І з пафасам заспяваў далей:

- Прыгажосць яе вачэй
- адзін Эзер здолее маляваць.
- Так толькі ўзімку ночкаю
- могуць зоркі ззяць

(Падрадкоўны пераклад перакладчыкаў. )

???
124?
125?
126?
127?

усяе сілы націскаючы імі на струны. Трэба ж было неяк перасіліць смех, піск і шорганне

ног.

Прайшла поўнач. Да стала мансеньёра падышоў лёкай. Гэта за вечар паўтаралася не раз, але цяпер было відно, што, нягледзячы на свой натрэніраваны паказны спакой, слуга прынёс трывожную навіну. Музыка і танцы спыніліся.

Голас курфюрста загучаў больш надтрэснута, чым звычайна:

- Чаго табе трэба?

- Мансеньёр, Рэйн. . . выйшаў з берагоў! - Што ён там кажа далей? Рэйнгасэ?. . Зразумець было немагчыма, бо гаворка вялася шэптам.

Малады палкоўнік фон Клейст нізка схіліўся перад мансеньёрам, а потым гучна звярнуўся да залы:

- Усім герам афіцэрам на свае месцы! Палку аховы - трывога!

На палацавым двары затрашчалі барабаны, да іх неўзабаве далучыліся і званы. Успыхнулі паходні. Гарэлі яны чадзячы і потым паплылі ў бок Рэйна.

Людвіг перагнаў Нефе, які бег наперадзе. Да Рэйнгасэ было яшчэ далёка, а ён ужо стаяў перад вадою, што падбіралася да яго ног. Вада была чорная, як смала, хоць у ёй і адлюстроўваўся ўбогі месячык, сярпок якога, як змяя, выгінаўся на хвалях. З завулка лінуўся шалёны паток, на грэбені якога скакала мноства розных хатніх рэчаў: ложкаў, крэслаў, шафаў. А вунь там што такое: няўжо гэта рука, якая ўзмахвае так, быццам хоча ўхапіцца за нешта, і якая потым схавалася ў вадзе?. .

Нейкі мужчына не стрымаўся ад смеху, заўважыўшы на Людвігу прыдворнае адзенне.

- Куды вам трэба?

- На Рэйнгасэ.

Нейкая жанчына спрабавала растлумачыць:

- Рэйнгасэ адразу ж апынулася пад вадою, заліло па другі наверх, людзі не паспелі нават прачнуцца. З Рэйнгасэ не выйшла ніводная кошка.

Мужчына зноў засмяяўся:

- Няўжо так і ніводная кошка? Нават і па дахах?

Людвіг рашуча ступіў у сцюдзёную ваду, але плыць нельга было і думаць. Ён павярнуў назад і раптам знік за рогам вуліцы, адкуль якраз чуўся барабанны грукат.

Праз нейкі момант ён ужо быў у доме Фішэраў. Хуценька збег з паддашкавага пакоя па ўсходках. З музычнага пакоя праз замочную шчыліну выбівалася святло, і ён пайшоў туды. Яго маленькія недаверлівыя вочкі заклапочана агледзелі ўвесь пакой, і тоўсты рот расплыўся ў давольнай усмешцы.

- Добры вечар, ці, мабыць, лепш будзе сказаць, добрай раніцы. А дзе ж тата?

Маці ледзь прыкметна паціснула плячыма. Потым спыталася ў яго:

- А ты сам адкуль узяўся?

Людвіг выцер з рук некалькі кропель крыві. Наверсе на свірне, каб пралезці ўсярэдзіну, ён вымушаны быў сарваць драцяныя краты, прыбітыя ад галубоў і вераб'ёў. Значыцца, анёлам-захавальнікам бацькі сёння была гарэлка, бо шынкі знаходзіліся ў цэнтральнай частцы горада.

- Я, як кошка, пралез сюды па дахах, - весела паведаміў Людвіг.

У пакой увайшоў майстар Фішэр, які ў калідоры сачыў за ўзроўнем вады.

- Зараз вада будзе тут наверсе, а што будзем рабіць далей, мадам ван Бетховен?

Фраў Магдалена пазвала Людвіга ў суседні пакой.

- Што нам рабіць, калі вада. . . ты мяне разумееш?

Гэта было нешта зусім новае. Калі гарэў палац, маці дала яму некалькі даручэнняў, а цяпер пыталася яго парады і ўсю адказнасць ускладала на яго.

- Тады нам прыйдзецца, відаць, лезці на свіран, а там нічога не застанецца рабіць, як выбраць дарогу, якою я толькі што прыйшоў сюды. Паскачам, як каты, па дахах.

- Не! - Яна задрыжала пры адным толькі ўяўленні аб гэтым.

Людвіг не здаваўся:

- І тым не менш нам прыйдзецца. . . Яны вярнуліся ў музычны пакой.

- Цяпер беражы нас бог! Гэта месяцавы прыліў! Паглядзіце!. . Вунь там!. .

Гер Фішэр паказаў на дзверы, пад якімі ўжо і тут, наверсе, цераз парог пералівалася вада.

Людвігу такі прыйшлося кіраваць.

- Усе на свіран! Наперад, Цэцылія! Гер Фішэр, памажыце сваёй жонцы! Пайшлі, Ёган.

Мамачка, ты бярэш Карла і вазьмі з сабою падсвечнік.

Сам ён ухапіў другі падсвечнік і кінуў апошні позірк на дзядулеў партрэт. Па лесвіцы яны пабеглі наверх. Людвіг выглянуў з дахавага акна, потым адсунуўся крышку ўбок, каб Фішэр мог таксама паглядзець.

- Два дамы падмыла, і яны абваліліся, - прамармытаў той ашаломлена. - Божачка літасцівы, а калі і ў нас тое самае здарыцца?

Фраў Магдалена рашуча сказала:

- Нічога не застаецца, як ісці па дахах.

Фраў Фішэр спалохана ўскрыкнула. Магдалена мякка папракнула яе:

- А калі гэта адзінае выйсце? Ды і Людвіг кажа тое ж самае. Што будзем рабіць, Людвіг? Ты можаш несці Ёгана? Карла вазьму на рукі я.

- Табе прыйдзецца перабірацца па вільчаках, паўзці, і табе спатрэбяцца абедзве рукі. Паглядзі толькі, які вецер! Але ён нам паможа, таму што дзьме ў спіну. Я прывяжу табе Карла за спіну.

Людвігава сэрца трымцела. З галавы не выходзіла думка: «Каб жа толькі мама не ўпала ўніз разам з ім». Але для мацеры галоўным клопатам былі Карл, Ёган і ён сам. Толькі таму яна смела выправілася ў гэтую, для яе зусім неверагодную дарогу.

Але ўзабрацца на вільчак і перасоўвацца па ім было не так і цяжка. Людвіг з Ёганам на спіне пераканаўся, што маці рушыць следам за ім, а Карл таксама паводзіць сябе спакойна. Ды па дарозе трэба было абысці комін. Ён, як гарыла, зрабіў гэта спрытна: асцярожна выпрастаўся на нагах, учапіўся за край цаглін і падцягнуўся ўверх. Калі заставалася толькі перанесці ногі, ім авалодаў страх: маці магла тут упасці.

Але нарэшце яны дабраліся да пляскатага даху.

- Мамачка, глядзі, і Фішэры ўжо тут. Хутка ўсё скончыцца. Бачыш, нас ужо заўважылі! Махаюць нам паходнямі! Мы выратаваны. Я ўжо магу адвязаць Карла.

Потым ён апусціў на дах і Ёгана са сваёй спіны, пачаў супакойваць маці:

- Усё добра, небяспекі больш няма. Я вазьму Карла і Ёгана за рукі і павяду іх далей.

Тым часам выратавальная каманда прыставіла да дома драбіну. Значыцца, нічога больш здарыцца не магло. Але ён памыляўся.

Фізічны цяжар з мацеры быў зняты, гэтым самым быў зняты і душэўны цяжар, які прымушаў яе не зважаць ні на якую небяспеку, напружваць апошнія сілы, гнаў яе наперад. Раптоўная слабасць авалодала ёю, і яна, захістаўшыся, упала. Людвіг штурхнуў сваіх братоў наперад.

- Бяжыце, вунь туды да драбіны, да паходні!

А сам ён кінуўся да мацеры, падняў яе з вады, якая апаліла яго холадам, як агнём.  І такі ледзяны холад для мацерыных лёгкіх! Іх акружылі мужчыны, Людвіг пачуў знаёмы голас гера Філіпарта, прыдворнага музыканта, разам з якім ён ці то вечнасць, ці з гадзіну таму назад іграў у Рэдутнай зале танцавальную музыку.

- Хутчэй да мяне, Людвіг. Я жыву адсюль недалёка.

Паходні асвяцілі нерухомы матчын твар. Яна была страціла прытомнасць і толькі цяпер расплюшчыла вочы. Маргаючы ў святле паходняў, шукала кагосьці вакол сябе. «Людвіг. . . Карл. . . Ёган. . . » Яна бяссільна абвяла, але раптам, як бы чаго жахнуўшыся, зноў выпрасталася.

- Людвіг, ты ж захварэеш! Зараз жа здымі мокрую адзежу!

Нефе быў на хорах з арганамі; прысланіўшыся да парэнчаў, ён пазіраў уніз, у неф. Паволі павярнуўся, пачуўшы, што ідзе Людвіг, уцягнуў галаву ў горб і ўхмыльнуўся ўсім сваім доўгім тварам.

- На ўсякі выпадак, мне загадалі прыйсці сюды, бо я папаўся ім на вочы. Ну, а ў вас як справы? Я чуў, што вы размясціліся ў Філіпартаў. Здаецца, яны вельмі бедныя, га?

- Вельмі бедныя. У іх два лыжкі, стол, некалькі крэслаў, шафа. . .

-  І два сэрцы, поўныя дукатаў, якія яны гатовы дарыць усім. Нічога не скажаш, ноч была незвычайная. Рэйнская вада крыху размачыла папяровыя маскі, і з-пад іх сталі відны чалавечыя твары. - Ён зноў пачаў сачыць за тым, што рабілася ў нефе, і кпіў з нейкім захапленнем. - Для ранішняй імшы наведнікаў нямала, нават зашмат. Бачыш, над некаторымі польтамі гарнітуры аж блішчаць? Гэта яшчэ маскарадныя.

Дзячок бегаў з аднаго месца на другое і запальваў свечкі.

- Падзея, ведама, даволі сур’ёзная, Людвіг. Але імша, якой належыць прыпыніць месяцавую паводку, павінна мець нейкае іншае абрамленне, бо інакш будзе страчана вера. - Пачуўся грукат, і Людвіг уздрыгнуў. - Нервы, Людвіг? Гэта звычайныя гарматныя стрэлы, не што іншае, як абавязковы атрыбут, напісаны ў дзесяці запаведзях, прыдворны цырыманіял, вызначаны яшчэ Хрыстом каля крыжа. Мансеньёр сам будзе правіць імшу. З-за гэтага танцавальнага вечара ноч для яго ўсё роўна пачалася даўно.

Людвіг памкнуўся да арганаў, але нерашуча спыніўся.

- У гэтым выпадку напэўна вы ўжо захо. . .

- Я? Адрабляй свае грошы сам. Я мог сказаць табе сёння ўночы, але вымушаны быў выконваць ролю блазна перад прыдворнай капэлай, а потым ты кудысьці хуценька знік. Мне пра гэта сказаў граф Зальм. З сённяшняга дня ты будзеш атрымліваць у месяц сто пяцьдзесят гульдэнаў. Між іншым і твой бацька з «пакорнейшага даклада аб палепшанні прыдворнай капэлы» мае выгоду. Яму будуць плаціць трыста гульдэнаў. А я цяпер буду толькі сядзець побач з табою каля арганаў, бо папаў у няміласць. Мне пасля гэтага «пакорнейшага мемарандума» паменшылі плату на сто пяцьдзесят гульдэнаў. Калі дзе-небудзь штосьці велікадушна дадаюць, то гэтак жа велікадушна трэба яго недзе і ўрэзаць. - Гарбун абняў хлопчыка за плечы. - Тым не менш мы застанемся добрымі сябрамі. Я без зайздрасці рады, што ў цябе і ў тваёй мацеры будуць гэтыя сто пяцьдзесят гульдэнаў. Ну, а цяпер хуценька за рэгістры! Людзі ўжо становяцца на калені. Гэта зварушліва і. . . танна. Каштуе ўсяго некалькі сігнальных стрэлаў з гарматы, крышку воску, ладану, і нІкому не прыйдзе ў галаву патрабаваць ад мансеньёра чаго-небудзь большага ці перашкаджаць яму гуляць у трык-трак. - Ён глядзеў на хлопчыка ў люстэрку над арганамі. - Ты здзіўлены тым, што я кажу? Не забывай, калі ласка, што я. . . чужы, што я - ерэтык. Увага! Мансеньёр увайшоў у царкву. Карнавал рушыць далей. Чуеш, як яшчэ віруе і смяецца Рэйн?. . Пачалі!

Пасля імшы Людвігу захацелася пабыць у ролі «вандроўнага ноеўскага голуба». З царкоўнай званіцы яму адкрыўся від на бясконцую свінцова-шэрую вадзяную паверхню, якая білася аб незвычайныя астравы і рыфы, аб дамы і вуліцы. Пустэльнае мора незадаволена ззяла ў святле халоднага сонца. Людвіг яшчэ раз выправіўся ў вандроўку па дахах. Новых пашкоджанняў не відаць.

Няўжо вада яшчэ не супакоілася, а працягвала сваю знішчальную працу? Па драбіне ён спусціўся ў свіран. Не, гэта трашчалі не бэлькі, а стукалі, аднекуль падаючы, кроплі. Вада пайшла на спад. Толькі масніцы ў калідоры і ў пакоях паблісквалі яшчэ ад вільгаці. Вады не было і на двух-трох усходках, што вялі ўніз да Фішэраў. Дзядуля спакойна глядзеў на ўнука, які падмаргнуў яму: а вось і я, другія хутка таксама вернуцца. Не, вада ў пакоях бяды не нарабіла. Яна нават не паднялася да шафаў, ды і з раялем нічога не здарылася.

Людвіг пераапрануўся і спакаваў маці сёе-тое з рэчаў. «Ноеваму голубу» нельга было вяртацца, не ўзяўшы з сабою аліўкавай галінкі.

Яны зноў пачалі жыць на Рэйнгасэ. Аднаго разу красавіцкаю ноччу ў францысканскай царкве застагнаў малы звон. Відаць-такі, не рана прыйшлі вечарам святыя айцы прычашчаць мансеньёра. Яго душа, казалі, знаходзілася цяпер перад божым судом, і той зараз павінен быў узважыць на шалях мансеньёраву гульню ў трык-трак, яго танцавальныя вечары, заляцанні і месы.

У Бетховенаў вокны расчынены насцеж. Калі маленькі, падобны на бляшаны, хапатлівы язычок звона скончыў сваё апавяшчэнне, наступіўшая начная цішыня здалася нават яшчэ больш глыбокаю. У ёй неўзабаве пачуўся стук капытоў, і дзіўна, што гэты стук разносіўся так далёка, што, здавалася, напаўняў увесь горад. Жалеза біла аб камень, але і стук капытоў адгучаў гэтак жа хутка, як выбіваліся і гаслі пад імі іскры.

Ёган ван Бетховен, прыслухаўшыся, сказаў:

- Гэта ў Вену памчаўся кур’ер.

Твар яго быў азызлы, голас гучаў ціха, а рукі няспынна дрыжалі.

Магдалена ўздыхнула.

- Што ж цяпер будзе?

Маці ў такіх выпадках заўсёды трывожылася. Яна магла быць мужнай, але ў той жа час

магла смела пацягацца з любым песімістам.

Людвіг адказаў:

- Нацыянальны тэатр будзе распушчаны, а больш нічога не будзе. Сам граф Зальм сказаў мне пра гэта. Указ даўно падпісаны ўжо. У прыдворнай капэле ніякіх змен не прадбачыцца, а калі што і будзе, дык. . . у лепшы бок. Новаму курфюрсту, кажуць, вельмі даспадобы раскоша. Як і яго сястры, французскай каралеве Марыі Антуанеце, ды яшчэ. . .

Бацька недаверліва спытаўся:

- Людвіг, ты сапраўды нічога не чуў пра змены ў складзе прыдворнай капэлы?

- Нічога, тата.

Ёган ван Бетховен прайшоўся па пакоі.

- Можа, яно і так. Але спачатку нам, мабыць, прыйдзецца добра пакупацца ў моры музыкі на паніхідах, на тым, каб узвесці на прастол новага архібіскупа і на ўсім тым, што там яшчэ мае быць. А потым прыйдзе новы гаспадар, і да ўсяго таго, што было дагэтуль, ніхто не вернецца.

Нейкі час у замку было ціха, толькі ў пустых залах гуляла сонца. Але ў канцы мая павесілі новыя дываны, патынкавалі і падфарбавалі дамы бонскіх жыхароў. Цераз вуліцы працягнулі гірлянды, у горад навезлі вазы зялёных галінак. Развяваліся сцягі. Па дарогах імчалі кур’еры з дэпешамі, і, нарэшце, у горад галопам уляцеў коннік.

- Па пятах за мною едзе мансеньёр!

І вось ужо з грукам прымчала адкрытая брычка, з якой радаснаму натоўпу ва ўсе бакі прывітальна махаў рукою тоўсты пан. Значыцца, гэта і ёсць новы курфюрст, сын імператрыцы Марыі Тэрэзіі Аўстрыйскай. Хадзілі чуткі, што яму ўсяго дваццаць восем гадоў.

Святам і пасяджэнням не было канца. Беспярэстанку засядаў Кёльнскі саборны капітул, апрабоўвалі цырыманіял узводзін на прастол, адзін за адным ішлі банкеты, і на іх мансеньёр набіваў ядою шчокі, як той абжора Гарганцюа, пра якога Людвіг, што іграў цяпер за абедамі на клавесіне, толькі што прачытаў у кнізе Рабле, якую яму даў пачытаць Нефе. Наладжваліся шумныя гулянні, і новы архібіскуп скакаў на іх, заляцаючыся да маладой прыгожай жонкі англійскага міністра-рэзідэнта ў Боне фраў Хіткоўт, якую старыя насмешнікі звалі няйначай як «архібіскупіхай». Такое званне да гэтага насіла ігумення Біліхская Караліна фон Зацэнхофен, якой Карл абавязаны быў сваім імем.

Ёган ван Бетховен ужо каторы раз кідаў піць і ніколі яшчэ так доўга не трымаўся.

Упершыню фраў Магдалена адчувала сябе папраўдзе шчасліваю. Адносіны паміж бацькам і Людвігам таксама перамяніліся. Абодва разам пачалі хадзіць на службу, разам варочацца дадому, калі толькі абавязкі не вымушалі Людвіга прыходзіць або раней, або затрымлівацца на рабоце. Часамі ён мог затрымацца да раніцы, але трывожыцца за яго не было падставы. Ён працаваў з герам Нефе, праглядваючы аркестравыя часткі або транспаніруючы галасы.

Але аднаго разу ўвечары на яе напаў нейкі дзіўны неспакой. Можа, у яе тэмпература? Як яна гарэла, як стукала ў яе скронях! Дзе ж Ёган? Дзе ён. . .

На досвітку Людвіг правёў доктара ўніз да дзвярэй.

- Скажыце, хвароба цяжкая?

Стары доктар Рэрых, вядомы сваёю грубасцю, буркнуў:

- Кома! Глыбокая непрытомнасць! Пры такіх лёгкіх, як у твае мацеры, гэта даволі небяспечна. І ўсё сапраўды так, як расказваў твой бацька?

- Сапраўды так. Мы разам прыйшлі дадому, і маці ляжала ў музычным пакоі непрытомная.

- Дзіва. . . Загадка. . . І яна не скардзілася на які-небудзь боль?

- Маці наогул ніколі не скардзілася.

- Ах ты маё мілае дурненькае хлапчо! Пардон, я сказаў гэта жартам; уласна, мне трэба зваць цябе «герам прыдворным музыкантам». Вядома, маці ніколі не скардзілася. Пра гэта, калі ты хочаш ведаць, у Боне гавораць усе. Гэта адна з прычын, чаму кожны лічыць за гонар зняць перад ёю капялюш. Але скажы мне - можа, твая маці што-небудзь перажыла такое, што магло стаць прычынаю раптоўнай, незразумелай хваробы?

Людвіг задумаўся.

- Калі разліўся Рэйн, яна ўпала ў сцюдзёную ваду.

- Гэта было вельмі даўно, Людвіг, а што яшчэ?

- Не ведаю, гер доктар, слова гонару.

- Можа, у яе быў які цяжкі клопат?

- Не, гер доктар, паверце мне, у яе даўно не было ніякага клопату, найбольш толькі радасць. Нават учора яшчэ. . .

- Што ўчора?

- Мой заработак пабольшылі да двухсот гульдэнаў у месяц.

- І гэта не прычына, а між тым усё трымаецца на вастрыі нажа, не ведаю, што і думаць. Добрай ночы, Людвіг.

Хлопчык паглядзеў услед доктару. Раптам ён здагадаўся, у чым прычына хваробы. У тых двухстах гульдэнах. На першы погляд ніякай логікі тут няма, але аднойчы ўжо быў падобны выпадак - пасля той жахлівай вандроўкі па дахах. Як толькі маці даведалася, што ён, Карл і Ёган у бяспецы, яна звалілася з ног. Цяпер было тое ж самае. Яна ведала, што дзвесце гульдэнаў зноў прынясуць бяспеку і зробяць і яго, і Карла, і Ёгана незалежнымі ад бацькі. Ці не магло яно быць так? Пасля таго, як яна ўпала ў халодную ваду, у яе проста не было ні часу, ні магчымасці хварэць, толькі цяпер яна магла. . . дазволіць сабе гэтакую раскошу. А. . . бацька? Без ніякіх задніх думак доктар, гаворачы пра «вастрыё», нагадаў і яго лёс. Бацька ж усё яшчэ балансаваў на вастрыі. . . нажа.

Ён прыняў сваё рашэнне. І таму што на гэты раз асабліва доўга стрымліваўся ад гарэлкі, варочаўся да старога асабліва цяжка. Ён паляцеў уніз не адразу, а як бы падаў са ступенькі на ступеньку і біўся галавою. Ён рабіў слабыя намаганні ўтрымацца, быў ахоплены добрымі намерамі, за якія сутаргава хапаўся, але гарэлка туманіла яго ўсё больш і больш, і нарэшце ён рынуў на дно. А з маці як? Маці тым часам калаціла незразумелая ліхаманка, яна наставала кожны вечар з няўхільнаю дакладнасцю. Доктар назваў хваробу «morbus d Iabol Icus», д'ябальскаю хваробаю, маці марнела ўсё больш і больш. А бацька заходзіў цяпер у пакой хворай усяго толькі на некалькі хвілін у дзень.

Людвіг спаў каля мацеры, каб быць скрозь напагатове. Вярнуўшыся дадому, ён абавязкова павінен быў расказваць ёй пра тое, што рабілася днём, і прапускаць што-небудзь было нельга. Вось гэтак аднаго разу ўночы ён сядзеў на краёчку яе ложка і расказваў:

- У Вене граф Вальдштэйн вельмі хутка аддасць загад запрэгчы сваю брычку.

Праз нейкую кароткую вечнасць маці спыталася:

- Хто такі граф Вальдштэйн?

- Я табе ўжо расказваў пра яго. Гэта малады каад'ютар курфюрста, якому прыйдзецца тут сачыць за парадкам. Мансеньёр вельмі ўжо далёка заходзіць у адносінах з фраў Хіткоўт - ды і ў іншых рэчах таксама. Ён жа, зрэшты, архібіскуп, і граф Вальдштэйн павінен тут наглядаць за ім. Ён ужо загадаў сабраць яму сакрэтную інфармацыю аб прыдворных музыкантах. І, як ты думаеш, хто яму яе даў? Пра гэта ты, ведама, нікому ні гу-гу: далі яе нашы сябры - фраў фон Бройнінг і паны канонікі, сябры графа Вальдштэйна. І гер Нефе нарэшце сапраўды будзе атрымліваць у месяц тысячу гульдэнаў - а я трыста!

Маці прыслухалася да чагосьці.

- Чаго гэта ў бацькі. . . сёння так доўга. . . служба? Людвіг раздумваў толькі адно імгненне.

- Сёння спевакі займаюцца ўсёю капэлаю. І гэта можа яшчэ доўга цягнуцца.

У апошнія сакавіцкія дні 1785 года, калі Людвіг падвечар на хвілінку зазірнуў дадому пасля дадзенага ім урока, ён пачуў у пакоі гнеўны голас доктара Рэрыха.

- Ты ж да таго п'яны, што ледзьве стаіш на нагах. І гэта пасля таго, што я сказаў табе ўчора. Вон адсюль!

Бацька засмяяўся, ікаючы.

- Я і без. . . без таго ўжо. . . даўно збіраўся зрабіць гэта. Але мне хочацца. . . яшчэ дазволіць. . . сабе выпіць чарку. . . за з-здароўе мае жонкі.

Бацька, хістаючыся, пайшоў уніз па ўсходах. Людвіг увайшоў у пакой. Доктар нервова хадзіў узад і ўперад.

- Што з мамаю, гер доктар?

Доктар зірнуў на Людвіга, але, мабыць, яго не бачыў, хоць і глядзеў у яго бок. Раптам ён па-бацькоўску абняў хлопчыка за плечы. Той адразу сцяміў - чаму, і рудая чырвань яго твару перайшла ў брудна-шэрую бледнасць, на якой воспіны выглядалі цёмнымі кропкамі і

плямінкамі.

- Я быў бы дрэнны доктар, калі б ужо цяпер перастаў змагацца, але. . . справы твае маці не вельмі добрыя. Аднак, хлопча, я Магу памыляцца, разглядаючы ўсё занадта змрочна.  І толькі на ўсякі выпадак. . .

Хлопчык падняў галаву.

- Што. . . схадзіць па каноніка?

- Схадзі, Людвіг. Трэба прычасціць яе.

- Гера каноніка няма дома, - сказалі Людвігу. - Але ён хутка вернецца. Што здарылася, паніч Людвіг?

- Трэба прычасціць маю маму. Гер канонік ведае, дзе мы жывём, на Рэйнгасэ, у доме Фішэраў. Толькі не трывожце, калі ласка, фраў фон Бройнінг.

Хлопчык пайшоў. Ногі ён перастаўляў механічна, было такое адчуванне, што ішоў ён не сам, а побач з ім ступаў нейкі - і нейкі даволі чужы - назіральнік. У галаве бясконца паўтаралася: трэба прычасціць маю маму Магдалену ван Бетховен. - Ён не спяшаўся. Ён не бег, як тады, калі Нефе сказаў, што яго ўзялі ў прыдворныя музыканты і тым самым такім маладым ён ужо дамогся гэтага высокага звання. Сёння яго ногі як налітыя свінцом. Бо што ён мог прынесці дадому? - Нічога. Што яго чакае? - Нічога. . . ці толькі поўная адзінота, бо маці больш не пазнае яго.

Куды ж. . . ён трапіў, блукаючы? Гэта ж базар, крама, выстаўленыя тавары. . . Што ён бачыць? Гэта ж матчыны строі! Яе прыгожы новы халат, яе святочная сукенка!

Хлопчык боязна адышоў ад крамы. Гэта не маглі, не павінны былі быць матчыны строі! Іх тут бессаромна адкрыта паказвалі на продаж старызнікам! Ён зноў вярнуўся назад.  І ўсё ж гэта матчыны строі. Іх у яе не так ужо і шмат, каб ён мог памыліцца. Прадаецца яе святочная сукенка, якую яна заўсёды так берагла, і халат, які ёй купіў бацька. . . Бацька!. . Вядома, хто ж, як не бацька!. . Што ён, аднак, пачуў ад доктара? « І гэта пасля таго, што я сказаў табе ўчора!» Можна было б і самому здагадацца, хоць у галаве ў цябе зараз адзін толькі затхлы ўдушлівы пах корпіі. Бацька пра ўсё ведаў яшчэ ўчора і гэтым пакарыстаўся. Сунуў руку ў шафу і. . .

Людвіг абмацаў шоўк халата. Бацька думаў, што маці больш ужо ніколі не надзене яго і сукенкі таксама; халат, якому яна тады так была радая, і яе адзіная святочная сукенка.

З крамы выйшаў старызнік, тоўсты, перапэцканы мужчына.

- Прыгожы халат, малады чалавек.

Людвіг скрывіў рот.

- Бачу, сам бачу. . .

- Ну што, добры будзе падарунак мацеры?

- Канечне, і сукенка таксама.

- Ах, якая сукенка! - Гандляр пацалаваў кончыкі пальцаў. Яго пазногці і рукі чарнелі ад бруду, мабыць, ён перад гэтым перабіраў рыззё. Зразумела, ніякага дачынення да таго, што яго пальцы былі брудныя, гэта не мела, але ўсё-такі яно здавалася неяк страшэнна значным. - Паніч, рэдка здараецца, што на базары знаходзіш такія добрыя рэчы. Набыць не хочаце?

Людвіг кіўнуў галавою.

- Колькі каштуюць гэтыя дзве рэчы?

- Дваццаць гульдэнаў.

- Дзесяць.

На рынку трэба было таргавацца, нават за матчына адзенне. Брудны гандаль - неад’емная частка брудных пальцаў і. . . рыззя. Цяпер крамнік зробіць спалоханы выгляд.

- Паніч, я сам заплаціў васемнаццаць. . .

- Даю пятнаццаць!  І гэта маё апошняе слова. Зразумела? Добра, запакуй усё і пашлі мне. - Людвігу прыйшлося падлічваць: гадзіна і яшчэ гадзіна, хоць прычашчэнне, напэўна, і не зацягнецца так доўга. . . але могуць быць усякія затрымкі. - Праз дзве гадзіны ў дом пекара Фішэра на Рэйнгасэ.

- Паніч дасць які-небудзь задатак?

Людвіг пакапаўся ў кішэнях, кінуў на скрутак рыззя некалькі дробных манетак:

- Два шцюберы і маё імя: Людвіг ван Бетховен.

Вочы старызніка расшырыліся.

- Сын?. .

- Таго, хто прадаў гэтыя рэчы.

Людвіг пайшоў далей, а з галавы не выходзіла: пятнаццаць гульдэнаў. Значыцца, бацька атрымаў самае большае пяць гульдэнаў. Але ён жа лічыць не гульдэнамі, а бутэлькамі гарэлкі. А як паглядзеў на мяне старызнік, нават з пашанаю, быццам я нейкая славутасць, нейкае марское дзіва! А што ж, я і папраўдзе дзіва - сын бацькі, што. . . Як глыбока можа апусціцца чалавек, каб прадаць жончына адзенне. Нават не дачакаўшыся, пакуль яна памрэ. . . З-за гарэлкі ўсё. . .  I гэты чалавек быў яго бацькам, і яму, сыну гэтага бацькі, трэба слухаць вось такое.

«Праз дзве гадзіны ў дом пекара Фішэра на Рэйнгасэ!» Дзе ён ужо раз называў гэты адрас? Успомніў: у доме, у якім жыла Элеанора, дзе ён правёў гэтулькі прыемных гадзін. А вось ён і каля замка. Тут стаяла францысканская царква з арганамі, на якія ён заўсёды злаваўся, бо яны былі нікуды не вартыя. А вось і замак. Нацыянальны тэатр як нацыянальны тэатр больш не існаваў, а наверсе - танцавальная зала. Ці, можа, за гэты час, за апошнія суткі, што-небудзь змянілася? Не, і ўсё ж. . . штосьці, здаецца, змянілася. Ну, вядома: засталіся браты, пра якіх прыйдзецца клапаціцца, толькі. . . усё-такі браты не маці.

Цяпер у яго бясконца шмат часу, пакуль адчыняцца дзверы для каноніка і служкі. Пустога часу, і ён мог разглядаць усё не спяшаючыся. Вось гарматы, вакол якіх завіхаліся артылерысты. Няўжо цяпер ідуць вучэнні, у такі незвычайны час? Што б гэта значыла?

Ён мог спакойна чакаць канца. Маці ж больш не пазнае яго. А. . . яе апошняе дыханне, якога ён больш ніколі не пачуе?

Ён пабег, але яго раптам кінула назад. З круглых пашчаў гармат вырваліся маланкі. Ад грымотнага выбуху ў замку і ў вокнах бліжэйшых дамоў зазвінелі шыбы. Здалося, аж захісталася зямля. Гэтым выбухам адказалі гарматы і на валах. Салют? Але ў чый гонар гэты салют? Мансеньёр жа не пайшоў у царкву, ніякага дня нараджэння ні ў кога сёння не было. Калі б быў, то ён, Людвіг, пра гэта ведаў бы, бо ўсюды іграла б музыка. Гарматы раўлі і раўлі, ім адказвалі гарматы з валоў. Да смерці мацеры гэта наўрад ці мела б якое дачыненне, ніхто не даваў бы жалобнага салюта на смерць мацеры нейкага Людвіга ван Бетховена. Дый стрэлаў было тут больш, чым на іх мог бы прэтэндаваць нават сам архібіскуп-курфюрст. Гэта быў каралеўскі салют! Але адкуль жа тут у Боне мог раптам з’явіцца кароль? Ды ён ведаў бы і гэта, бо кароль ніяк не мог бы абысціся без музыкі.

Вунь там ідзе вар’ят Штумпф, якога ніколі нішто не дзівіць. Адбіваючы кіёчкам такт, ён мармыча нейкую мелодыю.

Нарэшце прагучаў апошні стрэл, і ў раптоўнай цішыні нечы голас, вельмі слабы пасля грымотаў салюта, сказаў:

- . . . Прыехаў кур’ер з Версаля. Мансеньёрава сястра, каралева Марыя Антуанета, нарадзіла сына. Салют давалі ў гонар дафіна Францыі.

Штумпф, які сёння меў асабліва занядбаны выгляд, махнуў рукою.

- Дрэнная аплікатура! Надта ўжо мала гармат! Надта ўжо мала стрэлаў!

Хтосьці насмешліва сказаў:

- Ты дрэнна падлічваў, Штумпф. Салют далі такі, які і належыць даваць у гонар дафіна. Сапраўды каралеўскі.

Штумпф скрывіўся ў грымасе.

- Чортведама якая кепская аплікатура! - Тут ён зняў брудны капялюш і з глыбокаю ўрачыстасцю пакланіўся Людвігу. - Каралеўскі салют трэба даваць яму, Людвігу.

Навокал зарагаталі. Чырвоны, непрыгожы, пабіты воспінамі хлопчыкаў твар перасмыкнуўся, хоць Штумпфавы словы нельга было прымаць сур’ёзна. Штумпф яго сябра, але не ў сваім розуме. Ён хацеў зрабіць яму прыемнае, а выставіў на смех. А яму цяпер не да смеху. Людвіг адцягнуў яго ўбок.

- Штумпф, перастань крыўляцца. Хадзем са мною. Дома памірае мая маці.

Вар’ят раптам паказаў кудысьці сваім кіёчкам.

- Дрэнная аплікатура! Дрэнная аплікатура!

Людвіг застагнаў. Памірала маці, - канонік, можа, якраз цяпер надзяваў малітоўнае адзенне, а бацька прадаў на гарэлку лепшыя матчыны строі, і вунь там. . . паліцэйскі арыштоўвае ўжо п’янага да непрытомнасці бацьку!

У матчынай спальні Людвіг стаяў каля акна, гладзячы рукою па пукатым ілбе. На ім ружавелі падбоі і сінелі гузы, яны гарэлі агнём. Ён пабіўся з паліцэйскім, і яму ўсё-такі ўдалося

ўберагчы бацьку ад арышту. Цяпер бацька хроп на кушэтцы ў музычным пакоі.

Людвігу было холадна. Да чаго ж ён адзінокі! Якая карысць ад усіх яго намаганняў? Ад таго, што бацька стусінкаю ўбіваў музыку? Нават ад усіх яго заняткаў з герам Нефе, ад яго ігры на раялі і арганах? Ад таго, што ў такія маладыя гады ён стаў прыдворным музыкантам і нават памочнікам прыдворнага арганіста? Якая карысць ад пазалочанай шпагі? Усё бязрадасна і марна. І ён, Людвіг ван Бетховен, нічога не можа паправіць ці перайначыць, бо ён сын п’яніцы, Каін, у якога сляды адрынутасці ляжаць і на постаці і на твары.

Што гэта, няўжо яго нехта заве? Але ў спальным пакоі нікога няма, чуецца толькі ціхенькае дыханне маці. Ды вось зноў чуцён таямнічы покліч, хоць і бясконца слабы, але надзіва такі патрабавальны, што ў яго ад вусцішнасці і асалоды дыбам становяцца валасы. Штосьці невядомае падышло да яго, стала за спінаю, і здаецца, што яно і бязлітаснае і ласкавае адначасова. Яно і трывожнае, як вечаровы ветрык, як мацерынае дыханне: «Усё мае свой сэнс: і тое, што ты сын п’яніцы, і гора, якое ўжо цяпер ты хочаш зваць горам - звярні ўвагу на гора! - і твой чырвоны з воспінамі твар, і каінава кляймо! Нідзе на зямлі табе не будзе спакою! Цябе паслалі. . . !»

Вечаровы ветрык падзьмуў мацней, і вось гэта ўжо не ветрык, а полымя, якое вырывалася з гарачага сонца; і вось ужо яно - шалёная бура, з шквaламі якой, махаючы крыламі, наляцелі арлы! І шалёная бура і іскрыстае полымя пачалі гучаць - няўжо гэта. . . музыка? Вядома, музыка, і такая сумная, што сціскаецца сэрца, і разам з тым настае нейкае душэўнае суцяшэнне. Толькі гучыць яна як бы дзесьці вельмі далёка, за трыдзевяць зямель. Але ён, здаецца, і бачыць і чуе - нешта, нагадваючае прывід - цёмную, залатую нітку, якая раскручваецца недзе па-за межамі адчувальнай яму рэчаіснасці і там жа недзе губляецца. Але ён не мог ні дакрануцца да яе, ні ўзяць, ні ўтрымаць яе рукамі.

Музыка! І вось ужо глуха грымяць літаўры, нагадваючы стук у веснічкі, за якімі жыве таямніца саміх і жыцця і смерці. Ці ж не адчыняцца хоць крышку веснічкі? Загучалі кларнеты і фаготы, азваліся валторны, і вось нарэшце смутна, велічна і смутна заспявала скрыпка. . .

Ён затуліў рукамі твар, бо гучнае ззянне зусім асляпіла яго.

- Людвіг. . .

Голас таксама ішоў з нейкай нерэальнай далечыні, быў ледзьве чуцён, і тым не менш яго рэальнасць не выклікала ніякага сумнення. Ён бачыў сябе ўкленчаным каля ложка.

- Мама! Пазнаеш ты мяне?. .

Яна здзіўлена глядзіць на яго.

- Чаму. . . я не павінна пазнаць цябе?

Ён усё не даваў веры, хоць сэрца гатова было выскачыць з грудзей.

Яна паволі, але з выразным неадабрэннем ссунула бровы.

- Што азначае гэтае пытанне, дурнічка ты мой? Ты ж мой Людвіг.

Непрыкметна ў пакой увайшоў доктар Рэрых, ён надоўга схіліўся над фраў Магдаленай. І калі нарэшце выпраміўся, ён адвёў Людвіга ўбок, і ў позірку яго свяцілася пытанне: «Людвіг, ты ўжо быў?. . »

Той адразу ўсё скеміў.

- Бяжы хутчэй, скажы, што не трэба! Маці яшчэ застанецца з вамі. . . дай божа, каб надоўга.

## ЧАСТКА ДРУГАЯ

## ГЕРАІЧНАЯ СІМФОНІЯ

З падкрэсленай нядбайнасцю ён сядзеў у куточку канапы, палажыўшы нагу на нагу і гойдаючы наском. Кароткія, як абрубленыя, пальцы правай рукі, сумуючы, выбівалі нейкі матыў на дэльфінавай галаве спінкі канапы. Ён то разглядаў тынкоўку на стале, то чалавека, што іграў на раялі, то паглыбляўся ў назіранне таго, што прапанавала яму люстэрка насупраць.

Тоўстыя губы і чырвоны ў воспінах твар. Кучаравыя чорныя валасы і пукаты лоб. Маленькія калючыя сталёвага колеру вочы, яго невялікі рост - і калі б спатрэбілася дапоўніць карціну непрыгожасці, то хапіла б крывых зубоў. У салонах да яго ставіліся, як да нейкага

драпежнага звера. У салонах!

Музычныя акадэміі, вялікія вечары ў князя Ліхноўскага. Да́мы ў дарагіх вячэрніх сукенках абмахваліся веерамі, бо ад свечак, той задушлівасці звонку, ішла нясцерпная гарачыня.

Паны, кавалеры пацелі ў сваіх парыках і нягнуткіх вячэрніх гарнітурах.

Ён з асалодаю пацягнуўся. На ім быў яго стары паношаны, але затое зручны сурдут. Вядома, у Боне ён увапхнуў у дарожную торбу і парык, але чаму яму не паказаць сваіх валасоў? Толькі шаўковыя панчохі да каленяў ён прыдбаў ужо ў Вене, калі наведваў курсы танцаў. Вар’яцкая ідэя - яго клыгі зусім не здатныя на гэта.

А гер абат Гелінек усё іграў і іграў. Калі ў пасажах гучалі басовыя ноты, ён, здавалася, аж млеў ад замілавання. Ён згінаўся і трос пры гэтым галавою. Калі ж гучаў дыскант, то гер Гелінек выпростваўся ў экстазе. Усё мана, як гэтая так званая саната гера абата, які не толькі выдаваў сябе за лепшага венскага піяніста, але і гарнуўся да славы, сцвярджаючы, што ён сябар Моцарта і прадаўжальнік яго духоўнай спадчыны ў ігры на фартэпіяна!

Глупства! Моцарт іграў іначай, тонка, прыгожа і выразна, а гэты Гелінек спрабуе толькі другіх паўтараць. Моцарт! Павучыцца да яго Людвіга адпусціў у Вену курфюрст - як здагадваўся Людвіг, дзякуючы намаганням Нефе. Але тая паездка цягнулася ўсяго некалькі дзён. Прыйшлося спяшацца дадому да труны мацеры, а калі бацька зусім пусціўся ў п’янства, узяць на сябе клопат пра братоў. Толькі пасля гэтага ён змог зноў выправіцца ў бліскучую Вену, са стыпендыяй, дзякуючы графу Фердынанду Вальдштэйну, які параіў яго ў вучні Ёзефу Гайдну. Якія прыгожыя і разам з тым перасцерагальныя словы, запісаныя ў альбом, далі яму на развітанне яго бонскія сябры? «Руплівая стараннасць дазволіць вам атрымаць дух Моцарта з рук Гайдна».

Між іншым, вунь там у крэсле сядзіць гэты славуты чалавек, ростам не вельмі ўдалы. Адзінае ў ім, што, акрамя носа, прыцягвала ўвагу, - колер таксамаваспаватага твару: нездарма пры першай сустрэчы князь Эстэргазі палічыў яго за маўра. Валасы маўра пад белым парыком даўным-даўно пасівелі, а твар неяк палагаднеў. Побач з ім - гер Альбрэхтсбергер. Калі ў якім-небудзь музычным творы з кантрапунктам усё ў парадку, то ніякіх заўваг у гэтага славутага тэарэтыка, капельмайстра сабора святога Стэфана, не ўзнікала. А гер прыдворны капельмайстар Сальеры? Італьянскае бельканта значыла для яго ўсё, але ж, акрамя гэтага, ці не магло быць у музыцы яшчэ чагосьці новага? Пан Антон Эберль! Яго музычныя творы такія ж бязглуздыя, як і ён сам, але затое ён карыстаўся ўсё новым і новым поспехам. А Ванхаль? Адных толькі яго сімфоній у Брэйткопфа і Гертэля выдадзена пяцьдзесят штук.  І наогул, гледзячы на гэтых волатаў музыкі вось тут зблізку. . .

Штосьці прымусіла яго павярнуць галаву ўбок. Маладая, чароўна прыгожая княгіня Ліхноўская, не зводзячы з яго вачэй, усміхнулася яму. У яе ўсмешцы быў папрок, і ён адразу зразумеў яго сэнс: «У вас зноў ератычныя думкі!»

Каюся, адказаў ён позіркам, і яго тоўстыя губы надзьмуліся.

Нарэшце! Выбухнулі воплескі, і абат устаў.

- V Ivant sequentes! (Няхай жывуць прадаўжальнікі! (лац. )). Гер Эберль, можа, цяпер паспрабуеце вы?. .

Той спалохана падняў рукі:

- Пасля такога майстра!

- Ну, а вы, гер ван Бетховен?

Поза Бетховена ў куточку канапы падкрэслівала незалежнасць.

- Дзякую.

Абат згарнуў насоўку.

- Вы, Бетховен, чалавек малады, і я мог бы зрабіць вам скідку або даць фору.

- Вельмі міла. Тым не менш. . .

Гелінек трыумфаваў. Малады чалавек, якога ён няраз выклікаў на спаборніцтва, - Ліхноўскія, што жылі з ім тут у Альзерфорштаце ў доме кнігадрукара Штрауса, лічылі яго выдатным піяністам, - гэты малады чалавек, Бетховен, прызнаў сябе пераможаным.  І тое, што сталася гэта на вачах у такіх людзей, назаўжды нішчыла яго рэпутацыю.

Побач з Людвігам пачуўся шэпт:

- Навошта ж вы так?

- Сапернічаць з гэтаю. . . малпаю на піяніна? - Ён паглядзеў на княгіню Марыю Крысціну.

- Ці, можа, вы хочаце, каб я іграў?

Веер паварушыўся.

- Я была б вельмі радая, калі б вы, як мой рыцар. . .

Людвіг ускочыў з месца, і вось ён з прытворна сціплым выразам на твары ўжо стаіць каля раяля.

- Гер абат, будзьце ласкавы даць мне тэму для імправізацыі!

Гелінек павярнуўся да яго.

- Усё-такі згадзіліся? Ну што ж, я вельмі рады. Неяк, малады чалавек, трэба ж набрацца мужнасці, каб скочыць у глыбокую ваду, калі хочаш навучыцца плаваць. Якую хочаце тэму, лёгкую ці цяжкую?

У маленькіх калючых Людвігавых вачах нешта бліснула.

- Мне. . . мабыць, лепш прыйшлася б лёгкая.

Абат усім сваім лісьлівым выглядам паказваў, што разумее яго.

- Добра, возьмем тады пачатак гамы до мажор, першыя тоны.

Ён сыграў іх.

Вядомы ў Вене фанфарны голас князя Ліхноўскага затрубіў, пратэстуючы:

- Гелінек, і вы гэта лічыце лёгкім?!

Людвіг ужо сядзеў каля раяля, і яго магутная грудная клетка напружылася. Тут вакол былі фігуры, асобы, твары: Гайдн, празваны вучнямі за добрасць «татам»; Альбрэхтсбергер, быццам спісяжаны нотнымі лініямі; Сальеры, нагадваючы генеральную паузу. На гэтага злараднага Эберля яму напляваць, аднак дама, рыцарам якой. . . Тым часам ён пачаў ужо іграць. Правая рука выбівала адным пальцам просценькую мелодыю тэмы, і ёй гэтак жа адказвала левая. Лютая злосць ахапіла яго. Гэтая грубасць і фанабэрыстасць у паводзінах лісьлівага абата і майстра ігры на фартэпіяна! Тэхніка! Ён выхваляўся сваёю тэхнікай ігры. Зразумела, тэхніку трэба мець, але ж ці ў ёй адной уся сутнасць? Вось цяпер ён, скажам, пасылае гэтыя тэрцыі адну насустрач другой, адну за другой, і можа, калі трэба, яшчэ і ўскладніць іх акордамі і храматычнымі пасажамі, рознымі там мудрагелістымі дзівацтвамі, v Ivant sequentes - «няхай жывуць прадаўжальнікі!» - і ўсё вакол гэтай куртатай тэмы! Вось гэта тэхніка, так, так, гер абат! Але ў сапраўднасці гэта толькі пустая салома, якую прымушаюць шамацець. . .

Чаго насупіў бровы князь Ліхноўскі, які ж, безумоўна, таксама зычыць яму ў гэтым турніры перамогі? Смеху варта, але ён, відаць, баіцца за свой новы, неблагі зільберманаўскі раяль. З ім можна-такі сяго-таго дамагчыся, але ж нельга, зрэшты, занадта ўжо і дрыжаць за яго. Бо іграе не хто другі, як ён, Людвіг ван Бетховен, а гэта не трам-трам гера Гелінека, хоць, праўда, Людвіг ван Бетховен з яго магчымасцямі пакуль што таксама трамтрамкае. Ах, гер абат у шаўковай сутане! Няўжо Хрыстос перад знатнымі людзьмі таксама хадзіў у шоўку? Трам-трам і трам-трам. Між іншым, варта толькі захацець пасмяяцца з яго, і з гэтай прымітыўнай тэмы няцяжка сканструяваць і тое, што іграў гер Гелінек, яго так званую вялікую санату. Нават выйдзе забаўна, і можна будзе паказаць усю яе надзьмутую пустату. Можна прыдумаць і што другое. Гелінек іграе «тонка», як бы па Моцарту, а ён іграе інакш, і ўсе думаюць, што лепш ён іграць не можа. Усюды не перастаюць паўтараць, што яго ігру на фартэпіяна сапсавалі арганы. Гэтыя дурні не могуць зразумець, што ён шукаў для фартэпіяна чагосьці новага. Прынамсі, зараз ён хоць раз прадэманструе ім «тонкую» ігру, куды больш тонкую і прыгожую, чым гер Гелінек. Нешта накшталт шалясцення яго шаўковай сутаны. Будзе іграць і выразным дыскантам і громападобным легата баса - няхай усяго спачатку будзе болей, як у Людвіга ван Бетховена. Потым ён будзе іграць як сапраўдны Людвіг ван Бетховен, як рыцар свае дамы. Ужо з першага дня іх знаёмства ён проста маліўся на княгіню Марыю Крысціну і ў сваім сэрцы насіў яе фарбы, яе прыгажосць, яе чароўнасць і яе смутак, што ў замужжы яна такая няшчасная. . . Няшчасная з-за князя Карла, хоць той цяпер. . . бездакорная нейтральнасць і тым не менш чалавек, які, безумоўна, зычыць Людвігу перамогі, які ва ўсіх адносінах хоча дапамагчы яму, які не адзін раз ужо даказваў гэта.

Гэта збівала з панталыку і нібы туманам засланяла вочы Людвігу, гатоваму пайсці на ўсё дзеля Марыі Крысціны. Што яму зараз. . . гэты піяніст-віртуоз, якога дзеля яе і перад ёю ён збіраўся растаптаць, каб пакласці трафеі да яе ног!. . Ён пашкадаваў, што распачаў усю гэтую гульню. Прыйшлося літаральна прымушаць сябе сыграць апошнія, шалёныя бліскучыя пасажы.

Канец быў яркі і гучаў дысанансам, які ён адчуваў у самім сабе.

Веер загайдаўся.

- Абат ціхенька вышмыгнуў з дому. - Марыя Крысціна ўсміхалася неяк няпэўна. - Ён сказаў, што з вамі ніхто не можа сапернічаць, бо ў вас сядзіць д’ябал.

Праз нейкі час маўчанне парушыў Гайдн:

- Людвіг, сёння мне ўсё-такі хочацца яшчэ пачуць ад вас. . . музыку. - Вясёла-хітраватая затрымка перад словам «музыку» была ўсёй яго крытыкай спаборніцтва, якая тым не менш папала ў самую кропку, як і кожная заўвага, што ішла з-за гэтай крыху абвіслай ніжняй губы. Гучала гэта заўсёды як высокая мудрасць і канчатковы прысуд, і тым не менш ён ніколі не хацеў нікога крыўдзіць. Усё ў ім заслугоўвала пашаны, нават каса ў парыку, прывязаная чорнаю шаўковаю стужкаю якраз пасярэдзіне над высокім каўняром фрака.  І гэтыя тры зграбныя завіткі на парыку каля скроняў з левага і з правага бакоў, жабо, якое заўсёды пахла свежасцю - усё было вядомым і звычайным абрамленнем лагоднага цёмнага твару. - Ну, дык як, вялікі магол?

Такую мянушку даў яму Гайдн, тонка перайначыўшы выраз «вялікі хвалько», але ў Гайдна ўжываўся ён з дабратою і сяброўскім пачуццём.

- Інакш я зусім не прыйшоў бы сюды, вялікі магол. У Лондане ад мяне чакаюць шэсць сімфоній, а я дайшоў толькі да трэцяй. Я з ахвотаю ўзяў бы ў Лондан і вас. Як думаеце: ваш опус хоць крыху можа спадабацца англічанам? Што гэта наогул такое? Вы робіце з яго такую вялікую таямніцу.

- Гэта тры фартэпіянныя трыо, маэстра.

- Фартэпіянныя трыо? Вунь што! А дзе ж музыканты на смыковыя інструменты?

- Яны ўжо чакаюць, і калі б ім дазволілі, то мае парадныя коні заржалі б ад нецярплівасці. Яны ж яшчэ школьнікі.

Князь Карл Ліхноўскі таксама ледзьве стрымліваў нецярплівасць, бо, зрэшты, Людвіг быў яго пратэжэ. Але Людвіг, здавалася, вагаўся.

Дзесьці ўнутры ён адчуваў нешта накшталт перасцярогі. Перад чым? Ён жа быў упэўнены ў сваіх трыо, нават у першых двух, якія накідаў яшчэ ў Боне. Яны нічога, але. . . там ёсць яшчэ і трэцяе трыо!

- Заходзьце, Ігнац і Ніклас.

Шаснаццацігадовы Ігнац, сын прафесара Венскай рэальнай школы Шупанцыга, у якога Людвіг хацеў яшчэ крыху дапоўніць сваю школьную адукацыю, быў вялікі таўстун, але здольны скрыпач. Маленькаму і худому Нікласу - Нікалаўсу Крафту - мінула толькі чатырнаццаць гадоў, і смешна было бачыць, як ён цягнуў за сабою віяланчэль. Князь Карл рукою папраўляў нотныя пульты і насаджваў галасы, у той час як Людвіг апрабоўваў трохгучнасць.

- Што гэта сёння з табою, мой Фальстаф? Звычайна ж цябе ніяк не вывесці з раўнавагі. Ну, а з табою што, Ніклас? Я буду іграць па памяці, каб ноты не збівалі мяне, калі ў вас раптам што-небудзь. . .

Ігнац Шупанцыг ужо справіўся з хваляваннем.

- Не трывожся, Людвіг. Са мною нічога не здарыцца.

Ніклас, як рэха, паўтарыў:

- Са мною таксама.

Трубны голас князя загрымеў:

- Пані і панове! Мы на парозе гістарычнага часу. - Зычлівая насмешка гучала ў яго словах. - Мы сабраліся тут у горадзе, які ведаў Моцарта і схіляецца ў пашане перад маэстрам Гайднам, - ён пакланіўся Гайдну, і той ветліва кіўнуў у адказ, - над якім ззяюць зоркі і другіх славутасцей, што знаходзяцца тут, прысутнічаючы пры хрышчэнні новага, маладога кампазітара, які толькі што паказаў сябе з найлепшага боку як піяніст, - ён паказаў на раяль, - Людвіга ван Бетховена. Вы паслухаеце опус, які малады кампазітар назваў опусам нумар адзін - бо ён не пажадаў нумараваць тое, што напісаў дагэтуль. Ім ён прэтэндуе на права належаць да кампазітараў і хоча пайсці па шляху славы: «Tro Is Tr Ios pour le P Iano-Forte, V Iolon et V Ioloncelle par Lou Is van Beethoven» (Тры трыо для фартэпіяна, скрыпкі і віяланчэлі Людвіга ван Бетховена (франц. )).

Людвіг зморшчыў лоб, бо гэтае апавяшчэнне не надта падабалася яму. Вядома, трыо скажуць сваё. Ён кінуў яшчэ адзін запытальны позірк на Ігнаца і Нікласа. Тыя ўжо трымалі смыкі над інструментамі, упіваліся вачыма ў ноты. Ім нельга рабіць ніводнай памылкі, бо іграюць жа яны дзеля Людвіга, якога горача любілі і абагаўлялі. . .

Вось гэта майстар дык майстар! Як ён можа іграць фігуры і пасажы - а сярод іх ёсць і новыя фігуры і пасажы, - але Ігнацу і Ніккласу такое не ўпершыню і збянтэжыць іх не магло. Уласна, Людвіг кожны раз наогул іграў па-новаму - а як ён рабіў гэта! Ды і тэмп яшчэ здаецца Людвігу недастатковым, і вось ён яшчэ больш паскарае ігру. Я і так заўсёды на паўтона апераджаю самога сябе, сказаў ён ім аднойчы. Ва ўсім вінавата Людвігава захопленасць ігрою, але ім адставаць цяпер нельга.  І тым не менш, калі іграеш з Людвігам, усё становіцца лёгка.

Якое шаленства ў ігры, канечне, утаймаванае шаленства! Цяпер можна ўжо калі-нікалі і адарваць позірк ад нотаў, якія, канечне, цвёрда сядзяць у галаве і ў пальцах, і паглядзець у бок Людвіга.

Што гэта з Людвігавымі вачыма? Нягледзячы на ўсё шаленства ігры яны заставаліся шэрымі, халоднымі і маленькімі. Няўжо трыо, уласныя творы, не захапілі яго настолькі, каб і вочы?. .

Так хутка сыграна першае трыо, а цяпер вось і другое?

Прыйшлося данастройваць смыковыя інструменты, і ў гэты перапынак Ёзеф Гайдн, ацэнкі якога пачціва чакалі ўсе, узрушаным голасам сказаў:

- Людвіг. . . Людвіг, не магу не ўспомніць тое, што на развітанне напісаў вам у Боне ў альбом граф Вальдштэйн. Яшчэ раз нагадаю тыя словы Вальдштэйна, пачуўшы толькі два першыя трыо: генію Моцарта не трэба больш смуткаваць, бо ў вас, вялікі магол, ён сапраўды знайшоў сваё прыстанішча.

Людвіг абарваў апладысменты рэзкім акордам. Калі вы ўжо, нарэшце, скончыце сваю праклятую настройку? Увага! Яго позірк нагадваў маланку: цяпер вам ні ў якім разе нельга марудзіць! Хопіць жартаваць! Пачалі!

Хлопчыкі дакладна ведалі, што рабілася ў Людвігавай галаве, як і тое, што гэтае трыо было не такое, як папярэднія. Аднойчы на рэпетыцыі ён сказаў ім: «Уласна, вось гэта і ёсць першы твор, які я напісаў сам».  І вось!. . Цяпер жа здарылася дзіва. Людвігавы вочы больш не былі ні халодныя, ні маленькія, ні шараватыя, яны пацямнелі і сталі вялікімі!

Ігнац так вёў смык, што ён часам аж ірваўся з яго рук, кідаючыся на струны. Тады змучаная скрыпка голасна ўскрыквала. Змучаная скрыпка?. . Людвіг меў рацыю, прымусіўшы гаварыць яе пановаму вось гэтымі крыкамі, ад якіх займала дух. А Ніклас? Ён цяжка дыхаў, яго твар, здавалася, гарэў агнём. Людвіг, падбадзёрваючы, усміхнуўся ім: нядрэнна, хлопчыкі. Ігнац, трэба яшчэ больш вымагаць са скрыпкі! Вось так, добра!. .

Потым ён забыў пра музыкантаў. . .

Трыо скончылася, запанавала цішыня. Чаму ж нічога не гаворыць гер Гайдн, прысуду якога ўсе так чакаюць? Скурчыўшыся, ён сядзіць у крэсле, тручы рукамі спінку крэсла. Нарэшце!

- Людвіг. . . вы. . . хочаце аддаць друкаваць гэтыя трыо?

Людвіг не зусім яшчэ вярнуўся да рэчаіснасці, ён быў ва ўладзе свайго твора, свае ігры.

- Вельмі хацелася б.

Гайдн паматаў галавою. Ён быў нязгодны, і гэтая нязгода з кожнаю хвілінаю маўчання ўсё большала. Гэта відно было па тым, як матлялася перавязаная стужкаю, як хвосцік, яго каса.

-  І. . . апошняе таксама?

Людвігавы вочы адразу ж звузіліся, пашарэлі, сталі халодныя.

- А апошняга не аддаваць?

- Трэцяга трыо друкаваць я не стаў бы.

- Але яго надрукуюць, гер Гайдн.

- Я, вядома, не хачу сілком даваць вам свае парады, гер ван Бетховен.

- Гэта было б дарэмна.

Недарэчлівая Людвігава гарачлівасць! Ніхто не мог бы сказаць, як пайшло б усё далей, але раптам нешта здарылася, нешта было знішчана і адрэзана. . .

Падышоў Антон Эберль, якому здалося, што цяпер ніякай небяспекі больш няма.

- Бетховен, вы толькі што перамаглі Гелінека. Але калі апошняе трыо - ваш новы, уласны стыль, то я хацеў бы выклікаць вас на сімфанічнае спаборніцтва - на гэты раз як кампазітара. - Эберль усміхаўся шырока і пераможна. - Прымайце мой выклік, Бетховен, калі вы збіраецеся. . . скончыць жыццё самагубствам.

У горадзе засталіся прывіды, прагнаныя святлом, якое дзе-нідзе яшчэ выбівалася з вокнаў. Гэтае святло было весткаю, але яна яго не датычылася, а толькі выводзіла з ліку тых, да каго яно мела дачыненне. Як баязліва, па-здрадніцку паводзілі сябе ўсе са сваім рыцарам, у тым ліку і княгіня. Перад палацам правасуддзя гарэлі паходні, і іх куравае дрыготкае святло выхоплівала з цемры перавязі, трывуголкі, ускінутыя на плечы шпагі паліцэйскіх і бясформенныя капелюшы франтаў, так званых « Incroyables», выхошгівала каптуры дамачак, якія, хіхікаючы, віселі на руках у кавалераў і сачылі за вострымі пікантнымі паказамі. За гэтымі паказамі - глупства! Бо няўжо такая ўжо вялікая ганьба, калі цябе вымушаюць стаяць каля ганебнага слупа, ды яшчэ ўначы, калі ў параўнанні з днём значна цішэй?

На драўляных рыштаваннях, збітых з негабляваных дошак, стаялі два якабінцы з дошчачкамі на грудзях, на якіх былі пералічаны іх злачынствы. Злачынствы? Тады, уласна, і яго месца каля ганебнага слупа. Абодва ўсё стаялі вунь там перад каменнай, глухой і сляпой Юстыцыяй, што ўзвышалася за імі ў нішы, трымаючы ў правай руцэ дарагімі каменнямі аздоблены меч, а ў левай - шалі вагі. Людвіг убачыў асуджаных толькі пасля абеду, але цяпер, у святле паходняў, якое то разгаралася, то затухала, будзённая карціна набывала нейкую фантастычнасць. Іх абодвух добра прамачыў дождж, мокрыя валасы звісалі на лоб. Часам іх цені вялізнымі пачварамі клаліся на будынак правасуддзя, на высокія вузкія вокны, а потым зноў заставаліся толькі маленькія закаваныя ў кайданы людзі, адзін малады, а другі - старэйшы. Маладзейшы аж хістаўся ад знясілення, старэйшы быў нерухомы больш, чым каменная Юстыцыя за імі. Ён пільна ўзіраўся ў цемру завулка, быццам прыслухоўваючыся да чагосьці, чагосьці чакаючы, і ягоны цень пачварна вырас. Можа, ён чакаў, што пакажуцца з-за ракі батальёны, што ветрык данясе ад біваччных агнёў мелодыю «Марсельезы»? Але не было тут ні шырокай імклівай ракі, ні залатых бліскавіц бівачнага агню ў яе чорнай, як ноч, вадзе.

Карціны, што ўсплывалі з дна памяці, нагадвалі сцяну зіхоткага туману, які набліжаўся і хутка ахутаў Людвіга. З грукатам праехала паштовая карэта, і Бон зноў адышоў у нябыт - са сваімі цэрквамі, дзе ён іграў на арганах, з магіламі, сярод якіх знайшлі сабе прыстанішча бацька і маці. Як жудасна распаўся бацькоўскі дом! Маці ўсё ж памерла ад сухотаў, бацька - ад непапраўнага п’янства, і курфюрст потым меланхалічна сказаў: «Ах, якая прыкрая страта гарэлачнаму акцызу!» Гадзіны, калі ён мог вольна ўздыхнуць і забыцца, хоць і не поўнасцю, пра нягоды, ён праводзіў, уласна, толькі ў Бройнінгаў. Бо там бываў і малады граф Вальдштэйн, каад’ютар курфюрста, вялікі аматар мастацтва і музыкі Сустрэча з Вальдштэйнам прынесла яму, Людвігу, толькі добрае. За братамі цяпер глядзеў гер Рыс, у якога ён узяў яшчэ некалькі ўрокаў ігры на скрыпцы. Праўда, потым, калі ён нейкі час пілікаў у адноўленым нацыянальным тэатры на альце, высветлілася, што карысці ад гэтага было мала.

Нацыянальны тэатр, зноў оперы і драмы. - І ўсё ж самае незвычайнае відовішча было ў Францыі. А тут - Яўлогій Шнейдэр, былы патэр-францысканец з Вюрцбурга, якога курфюрст запрасіў у толькі што адчынены Бонскі універсітэт на пасаду прафесара мастацкай літаратуры, хоць Яўлогій Шнейдэр і быў ненавісны вальнадумец! Вядома, у мансеньёра былі на гэта свае прычыны. Па прыкладу свайго даўно памерлага брата, імператара Ёзефа з Вены, невялічкім - але кантраляваным! - вальнадумствам ён збіраўся затрымаць гіганта, які сігаў цяжкім крокам з Францыі! Ён, Людвіг, вядома ж, запісаўся на лекцыі Шнейдэра, і не адзін раз здаралася так, што проста ад Крысціяна Готліба Нефе, свайго настаўніка музыкі, ён, як быў у прыдворным адзенні, улятаў у аўдыторыю да Яўлогія Шнейдэра, свайго настаўніка чалавекалюбства, бунтарства.

Тут ён пачуў і тую лекцыю. . . Нейкі Ружэ дэ Ліль напісаў для французскай Рэйнскай арміі, якая змагалася супраць княжацкіх наёмнікаў, палымяны марш. З гэтым маршам марсельскія добраахвотнікі, якіх горача вітаў народ, увайшлі ў Парыж, каб прыняць удзел у барацьбе за волю.  І тады прафесар праспяваў ім гэтую песню:

Allons, enfants de la patr Ie!

Le jour de glo Ire est arr Ive. . .

Мелодыя была прасякнута ўпартаю злосцю, рухам, патрэбаю неадкладна нешта рабіць. . . Потым Людвіг пачуў гэтую песню, але ўжо не з кафедры, а ў натуры, тае ночы, калі далёкія і ўсё ж такія блізкія агні бівакоў адсвечваліся чырванаватымі зоркамі ў Рэйне. . .

Асуджаны каля ганебнага слупа, відаць, меў рацыю чакаць. Марсельскія добраахвотнікі некалі прыйдуць і ў Вену. А цяпер скарыўся Тулон, легендарная крэпасць, збудаваная славутым Вабанам, якой не павінен быў узяць ніхто. Яе ўсё-такі захапіў малады французскі афіцэр.

Прозвішча яго не пераставала друкавацца ў газетах, звалі яго Напалеон Банапарт. Кажуць, што і ён невялікі ростам і яму ўсяго толькі дваццаць чатыры. Канвент, як меркавалі, напэўна, надасць яму годнасць генерала. Чаму ж ён, Людвіг, у такі час не салдат, а толькі музыкант?. . Толькі музыкант? А ці не павінен ён тады стаць, прынамсі, рэвалюцыйным генералам у музыцы? Такая думка ў духу вялікага магола, сказаў бы гер Гайдн, гэты. . . Вабан у музыцы, якую ён таксама лічыў непрыступнай з яе надзейнымі фартыфікацыямі сімфоній, квартэтаў, трыо і ўсяго іншага. Але, магчыма, памыляўся і ён. А ці ж не ўзяў апошнім трыо до мінор ён, Людвіг, свайго першага, хоць і вельмі невялічкага Тулона, ці не падняў ён свайго сцяга над бастыёнамі старых традыцый? Але ці ж магло. . . быць такое?

Час - птушка ў лёце! Некалькі хуткіх узмахаў яе крылаў, - і на небе прачэрчана імклівая паласа. Цяпер, пасля такой доўгай разлукі, можна было б і пагаварыць з сябрам, бо ён жа згаладаўся па навінах з радзімы, з Бона. Але нічога не паробіш: пракляты канцэрт патрабуе свайго!

Людвіг устаў, падышоў да раяля, узяў некалькі акордаў, перавёў іх у пасажы, спыніўся, прывёў усё ў парадак і вярнуўся да пісьмовага стала. Умакнуў у чарніла гусінае пяро.

- Франц, дай мне яшчэ адну пілюлю.

Вегелер, малады ўрач, які знаходзіўся ў Вене не больш гадзіны, скрывіў твар.

- Ясі ты іх, як цукеркі. Застаўся такі ж, як і быў, ні ў чым не ведаеш меры.

Людвіг кіўнуў.

- Якраз вы адчулі гэта на сваёй скуры.

Вегелер уздыхнуў.

- Давай лепш не будзем варочацца да старых гісторый. Я рады, што зноў бачу перад сабою шалёнага спаніёля.

Людвігаў рот расплыўся ва ўсмешцы.

- Элеанора рада майму падарунку з прысвячэннем? Прабач, што я называю тваю нявесту вось так непачціва па імені.

- Як выключэнне, прабачым табе, бо ў тваёй галаве даўно ўжо не хапае клёпкі. Між іншым, Лянора хоча ведаць, добра ты збыў свае варыяцыі ці не.

Людвіг памахаў гусіным пяром.

- Каго там цікавіць кампазіцыя нейкага гера Людвіга ван Бетховена? Ды яна ж нічога не варта, прынамсі, там, дзе рэч ідзе пра мой удзел у варыяцыях моцартаўскай «Se vuol ballare».

Ён правёў па нотнай паперы тоўстую лінію, і Вегелер запытаўся:

- Усё?

- З гэтым чортавым фартэпіянным канцэртам? Не. Тут хоць і падведзена рыса, але gад другім, і цяпер павінна пачацца нешта новае. У тым ліку і маё сяброўства з Элеанорай, калі вы сапраўды лічыце мяне вартым яго.

Вегелер падышоў да пісьмовага стала і моцна пастукаў костачкамі пальцаў па ім.

- Людвіг, як дрэнна, што калі французы ўвайшлі ў Бон, я больш не рэктар універсітэта. Іначай, я з’явіўся б да цябе як правасхадзіцельства з афіцыйным ланцужком і перадаў бы табе ўрачысты дакумент з пячаткаю, у якім было б нап Ісана, што ты самы вялікі дурань, якога я дагэтуль бачыў.

- Якія вы добрыя да мяне. І няхай з сённяшняга дня будзе так, як напісала мне ў альбом на развітанне ў Боне Элеанора тыя словы Гердэра: «Сяброўства з добрым расце, як цень вячэрні, пакуль не сядзе сонейка жыцця». Я, прынамсі, буду старацца.

Малады ўрач абняў сябра за плечы.

- Іначай, нам прыйшлося б пачакаць, пакуль зноў не пройдзе твая дурасць.

Людвіг сціснуў скроні далонямі рук.

- Сёння ў маім чэрапе бушуе агонь, але не той, які мне патрэбен, каб пісаць музыку. Не ведаю, чаму я пайшоў на гэтую гульню, але вось даеш згоду напісаць фартэпіянны канцэрт. . .

- . . . і пішаш яго толькі тады, калі ўжо надрукаваны афішы акадэміі. За два дні да яе! Тыповы Людвіг.

- Ці мог я падумаць, што з’явіцца гэты пракляты боль галавы - ну дай жа мне яшчэ адну пілюлю.

- Але яна сапраўды будзе апошняя. Ты і так ужо брыдзеш як у сне.

- Мая грудная клетка пераносіць такія дозы лякарства, якія звычайна звальваюць з ног каня. Акрамя таго, мастаку часам і не шкодзіць брысці як у сне. Адкуль толькі ўзяліся гэтыя болі галавы?

- Ад жахлівага веснавога надвор’я, мабыць.

Людвіг усміхнуўся:

- Ці, можа, ад насмарку, што быў у мяне некалькі тыдняў назад. Вось які ты доктар!

Ён праглынуў пілюлю. Цямнела. У гэты мокры сакавіцкі дзень у пакоі было холадна.

- Запаліць святло, Людвіг?

- Не!

Адказ прагучаў рэзка, і Вегелер не асмеліўся палажыць у камін, дзе дагараў апошні жар, яшчэ адно паленца. Людвіг сяды-тады ўставаў з месца, браў у зубы пяро, ішоў да раяля і прайграваў некалькі пасажаў. Ці ў змроку, што ўсё гусцеў і гусцеў, адбіваў пяром такт, ціхенька, як маленькі неспакойны чараўнік, напяваў свае формулы-заклінанні, браў штосьці з паветра, клаў яго на нотную паперу, што ледзь прыкметна шарэла на канторцы. Нарэшце адкінуў убок гусінае пяро.

- F Ine, канец, але гэты канцэрт сі-бемоль мажор ніколі не будзе належаць да маіх славутых твораў.

Вегелер ускочыў з месца.

- Дазваляеш служцы ўзяцца за сваю справу? - Апошні ліст ён занёс у суседні пакой, з якога, калі адчыніліся дзверы, выбіўся яркі пучок святла, зноў прапаўшы, як толькі Вегелер вярнуўся назад. - Яны працуюць, аж пер’і скрыпяць. Адразу чатыры перапісчыкі. Сапраўдная фабрыка.

Людвіг зноў ідзе да раяля, садзіцца каля яго, але не іграе.

- Няхай так і астанецца. Пазней я яго перапішу. - Ён павярнуўся, апусціў рукі між каленьмі. - Ты лічыш, што я бесталковы, га? Тут вінаваты не боль галавы. Ведаеш, што прывяло мяне ў такі настрой? Што прыехаў ты, Франц. Прыехаў з Бона, з радзімы. - Ён пачаў паспешна пытацца: - Значыцца, у твае дваццаць дзевяць гадоў - табе ж толькі дваццаць дзевяць, праўда? - ты ўжо быў рэктарам Бонскага ўніверсітэта? Якія ў мяне паважаныя сябры!

Вегелер прамармытаў:

- Раней былі паважаныя. Бо ўсё хараство здзьмухнута мелодыямі «Ça ira» і «Марсельезы», і мяне пры гэтым адно толькі радуе: што славутая рэвалюцыя жарэ і сваіх дзяцей. Пра тое, што яны паслалі на гільяціну і Яўлогія Шнейдэра, табе, напэўна, вядома?

- Вядома. - Людвіг саркастычна кіўнуў галавою. - Вешаюць і тут, у сталіцы набожнай Свяшчэннай Рымскай імперыі.

- Ты непапраўны.

Людвіг змяніў тэму гутаркі.

- Што робіць Зімрок?

- Ён цяпер выдае музычныя творы. Прыемнага ў гэтай справе мала. Ва ўсякім разе ён дзякуе табе за пісьмо.

- А. . . Нефе? Не, не расказвай, калі ласка, мне болей нічога пра Бон, прынамсі, сёння. Бо ў Боне ўсё-такі сёе-тое было родным кутам, а тут заўсёды чужына, хоць гэтым я нічога не хачу сказаць супраць Ліхноўскага.

- Як ты наогул натрапіў на іх?

- Выпадкова, хоць граф Вальдштэйн даў мне і іх адрас. Тут у доме кнігадрукара Штрауса здаваўся паддашкавы пакой. Я яго зняў, а потым, калі Ліхноўскія пачулі, як я іграю на раялі, - бо тут іх гарадская кватэра, а яны, як і ўсе, - аматары музыкі, і сам князь, між іншым, вельмі добры піяніст, вельмі добры для князя, значыцца, яны тады і ўзялі мяне да сябе на кватэру. . . Скажы. . . Франц, ты не быў тады з Вурцэрам у Годэсбергу? Памятаеш, у Марыенфорцкай царкве, дзе якраз вяліся будаўнічыя работы? Нехта з вас папрасіў мяне сыграць на арганах, і я згадзіўся, і тады. . . перасталі працаваць і муляры, і маляры, і цесляры, стоўпіліся каля арганаў, і вось з таго часу, як ты прыехаў да мяне з Бона, я бачу іх і вашы твары. Ведаеш, Франц, каго я маю на ўвазе? Тых слухачоў! А цяпер я паказваю сваё майстэрства, паслухай толькі, я паказваю сваё майстэрства ў салонах і палацах Кінскіх, Фрызаў, Лобкавіцаў, Вальдштэйнаў, Світэнаў ці куды яшчэ мяне як фартэпіяннага «генія» цягне да фракаў, парфумы і веераў Ліхноўскі, па-свойму зычачы мне дабра.

Адчыніліся дзверы, і пачуўся фанфарны голас князя Ліхноўскага:

- Падумаць толькі, наш кватарант, гэты некультурны чалавек, нават не палічыў патрэбным паклапаціцца пра асвятленне! Гер доктар, спадзяюся, што вы не павінавацiце ў гэтым бязвінных Ліхноўскіх?

Ён гукнуў у суседні пакой, і слуга прынёс падсвечнік.

- Бетховен, заўтра рэпетыцыя. Аркестр збярэцца тут. Ну, а з раялем што мы будзем рабіць? Мой настройшчык захварэў, і мне не хацелася б да такога каштоўнага інструмента падпускаць каго-небудзь другога.

- Тады я паспрабую транспанаваць і сыграю канцэрт на паўтона вышэй.

Князь толькі паматаў галавою.

- Чуеце, доктар? Ён паспрабуе транспанаваць увесь канцэрт, быццам усё так проста. Між іншым, Бетховен, з крытыкам я ўжо гаварыў і выказаў пажаданне, каб ён у сваёй рэцэнзіі не забыў славутага гера Людвіга ван Бетховена. Ну, а цяпер, гер доктар, мне трэба яшчэ хуценька паклапаціцца пра афішы, ды і вячэра вось-вось будзе.

І Ліхноўскі зноў знік з пакоя. Людвіг, узіраючыся на святло, замаргаў вачыма.

- «Славуты гер ван Бетховен!» Гэтай славай я жыў апошнія тры гады. Я - геній, які нават можа транспанаваць фартэпіянны канцэрт! Гер Нефе мяне, безумоўна, адлупцаваў бы як след, калі б у свае дванаццаць гадоў я не справіўся з такім урокам. Гэтая «слава» ўдыхалася, як парфума, і ад яе закружылася галава. Ад выдаўцоў адбою няма, і часам у мяне з'яўляецца думка: вось яно, шчасце! Але ў чымсьці іншым усё ж такі гэта не шчасце, шчасце несапраўднае. Я не ведаю, як гэта выказаць - ва ўсякім разе, Франц, добра, што ты прыехаў. - Вочы яго раптам сталі як не свае. - Франц, пасядзі цяпер крышку ціха, бо інакш ён зноў можа знікнуць, гэты напамінак з Бона.

На канторцы было яшчэ крыху паперы, і ён схіліўся над ёю. Абмакнуўшы гусінае пяро ў чарніла, ён пачаў усейваць паперу значкамі і штрыхамі. «Няўжо тое, што доўгі час каштавала мне гэтульки працы, такое лёгкае? Яно, вядома, павінна быць такое вось лёгкае і такое вось простае. А тут мы зробім паўзу, а тут яшчэ адну. Далей алегра мольта, вельмі проста, ні генія, ні славы, ні парфумы, бо яно ж, - як і мой бліскучы фартэпіянны канцэрт, які я нават збіраюся транспанаваць, - таксама паходзіць не з Вены! Ото ж, зусім проста: «аднойчы дзіва з дзіваў! На маёй магілцы буйна расквітнее. . . » - Толькі гэтак: «. . . кветка з попелу майго сэрца. . . »

Праз нейкі момант ён ірвануўся да раяля.

- Франц, зараз я праспяваю табе, што я напісаў. Ты ж ведаеш мой жахлівы голас. Паглядзі, ці хопіць у каміне агню спаліць, калі спатрэбіцца, гэты твор. - Сыграўшы прэлюдыю, ён яшчэ раз агледзеўся на бакі. - Франц, толькі не расчароўвайся: тут усяго невялічкая песенька на словы Мацісана. І назва ёй - «Адэлаіда».

Людвіг бегаў узад і ўперад за кулісамі Імператарска-каралеўскага прыдворнага тэатра. Уцягнуўшы галаву ў плечы, высунуўшы наперад грудную клетку, трымаючы рукі за спінаю. І вось гэтак ён, як таран, наляцеў на нейкага пана, але той тым не менш лагодна ўсміхнуўся.

- Хвалюецеся перад выхадам, гер ван Бетховен?

Да таго толькі праз хвіліну дайшло: гэта ж пан з праўлення музычнага таварыства, а што мне ён там сказаў? Хвалююся перад выхадам? Смеху варта!

Аркестр сядзеў на сцэне, і рампа з ніжнім асвятленнем была тою мяжою, за якою сотнямі белых твараў пачыналася невядомае: публіка, слухачы, што запаўнялі партэр і ярусы, ложы за падабранымі аксамітнымі парцьерамі з залатымі кутасамі што звісалі ўніз.

Загрымелі апладысменты, падобныя на тое, як падае турэцкі гарох, якога гер Картэльеры сваімі нізкімі паклонамі мог назбіраць цэлы мяшок. Якраз скончылася адна частка сімфоніі, няўдалай імітацыі Моцарта, але публіка тым не менш пляскала-сыпала турэцкі гарох. А потым і яму дазволяць у цяні гера Картэльеры сыграць свой фартэпіянны канцэрт. Афішы апавяшчалі, што ўсё менавіта будзе так. Вялікая сімфонія гера капельмайстра Картэльеры і першая частка вялікай араторыі «Гіёас, цар іудзейскі» гера капельмайстра Картэльеры. Паміж імі, як прыдатак, як каляровая кропелька, - нейкі там фартэпіянны канцэрт. І ўсё нібыта арганізавана для ўдоў і сірот музычнага таварыства, а калі напраўду, то падстроена герам Сальеры свайму любімаму вучню Картэльеры, дваццацітрохгадоваму цуду-малайцу, які не быў ніякім цудам. . .

А Людвіг за кулісамі ўсё бегаў узад і ўперад. Можа, прычынаю яго ўзрушанасці былі

рукі, што перад гэтым завязалі яму гальштук. У сваім нецярплівым няўмельстве ён усё камячыў яго, пакуль не падышла княгіня Марыя Крысціна. «Я бачу ўжо, што вам, гер ван Бетховен, патрэбна мая дапамога». Яна завязала гальштук, і ён пацалаваў яе ласкавыя рукі. Калі ён збіраўся абняць яе і пацалаваць у губы, вакол якіх блукала пакорная, нясмелая адданая ўсмешка, у пакой увайшоў князь Ліхноўскі. «Бетховен, сёння вас ужо, як толькі вы з'явіцеся, сустрэнуць цэлым залпам апладысментаў, і кананірамі гэтым разам будуць не толькі ваш сябра Вегелер, вашы хлапчукі-музыканты, але і я. Мною ўсё арганізавана. Мы вас проста ўзнясём на вяршыню славы!»

Гэтыя гучныя словы былі недарэчы, але яны ўсё-такі сведчылі пра сяброўскія пачуцці, доказы якіх Бетховен так часта меў ад Ліхноўскага.  І яму пры такім даверлівым сябры хіба можна марыць пра чары Марыі Крысціны, нават калі б шлюб Ліхноўскіх існаваў толькі для выгляду і дзеля людзей? Але ці заўсёды мужчыны змагаліся за жанчын усімі сродкамі сілы і хітрасці? А можа, жанчына больш вартая, чым сяброўства? Ці не надта ўжо доўга цягнуцца гэтыя пакутлівыя адносіны паміж ім і Марыяй Крысцінай?. .

- Між іншым, Бетховен, ледзь не забыўся: у ложы побач з намі будзе сядзець Магдалена Вільман.

Ад акна гукнула Марыя Крысціна:

- Пара ісці! А доктар Вегелер дзе? Пад'ехала карэта.

Можа, яе спалохала нявіннае заляцанне? Магдалена Вільман - кароткі эпізод яшчэ з бонскіх часоў. Двое маладых людзей у адным тэатры і ў адной царкве, яна - спявачка, а ён - памочнік прыдворнага арганіста, клавесініст і альтыст. Некалькі гадзін кахання, расставанне без болю, а потым - сустрэча ў Вене, куды Магдалену запрасілі ўжо як прымадонну. Ён тут зрабіў ёй нешта накшталт прапановы рукі, але яна рэзка адмовіла яму:

- Мой мілы Людвіг, у Боне я дала б згоду, але за гэты час, на жаль, мае погляды перамяніліся. Для мяне ты цяпер занадта непрыкметны. Ды і шалёны.

Вар'яцтвам была ўжо сама прапанова рукі, і прыйсці ў галаву яна магла толькі такому чалавеку, як ён. Ажаніцца ён хацеў з ценем успамінаў пра Бон няйначай як пад уплывам настрою.  І ўжо па ўсходах, калі вяртаўся дадому, усё здалося яму зусім недарэчным!  І добра, што Магдалена адмовіла яму.

Апошнія такты сімфоніі - і выбухнуў сапраўдны гром воплескаў! Аўдыторыя не стрымлівала свайго захаплення. Шкада толькі, што не ён там цяпер - хоць яго нікчэмны фартэпіянны канцэрт усё ж куды лепшы, чым тое, што сфабрыкаваў гер Картэльеры.

З'явіўся нехта з праўлення.

- Гер ван Бетховен. . .

На рэдкія апладысменты, якімі сустрэлі яго, ён адказаў крыху насмешлівым кіўком галавы. А потым сядзеў каля раяля і, каб даць аркестру магчымасць яшчэ раз настроіць інструменты, сыграў трохгучча. Ён здзіўлена зірнуў на свае пальцы, потым на клавіятуру. З'явілася такое адчуванне, што да гэтага ён ніколі не дакранаўся да фартэпіяна. Няўжо гэта папраўдзе тое хваляванне перад людзьмі, якія чакалі ўнізе? Глупства. А можа, прычына ў прыгажуні княгіні, стаўцы, на якую ён іграў? Закаханая жанчына, бывае, траціць развагу, яна глухая і сляпая. Учора на рэпетыцыі ад фартэпіяннага канцэрта ў яе на вачах паказаліся слёзы. . .

Капельмайстар Картэльеры кіўнуў:

- Можам пачынаць.

Не! Людвіг яшчэ раз устаў з свайго месца.

- Картэльеры. . . - Той ужо падняў дырыжорскую палачку. - Ты можаш строга падтрымліваць такт? - Звярнуцца на «ты» цяпер абсалютна неабходна. Бо хто такі ў гэтым выключным выпадку, да якога ён так імкнуўся, гер Картэльеры? - Тады паклапаціся, каб аркестр не выходзіў з голасавядзення на пультах. На мяне не звяртай увагі, і калі я штосьці пачну іграць іначай, не тузай аркестра. Ясна? Не? Ну дык зразумей, нарэшце, што табе трэба проста дырыжыраваць аркестрам па нотах, і нічога болей. А я тым часам - і з вялікаю дакладнасцю! - паспрабую імправізаваць.

Ён пайшоў да раяля; Картэльеры пашаптаўся з музыкантамі і. . . здаўся. Усе ўжо прывыклі, што ад гэтага гера Людвіга ван Бетховена можна чакаць чаго хочаш. Ад гэтага дурня, які цяпер толькі круціў рукамі і невядома чаму ўважліва разглядаў іх. Не, яго пальцы больш не дрыжаць. Яны згодны слухацца, усё будзе слухацца яго, - і тое загадкавае, што выклікаў ён сам.

Ён зайграў і адразу ж зразумеў, што іграе з асаблівай элегантнасцю і бляскам. Было адчуванне амаль неверагоднай упэўненасці, і яно ўсё мацнела. Раяль, яго рукі і нават яго інтуіцыя былі яму проста як інструменты, з якімі ён мог абыходзіцца як хацеў.

Недзе ў глыбіні яго душы штосьці варушылася, хочучы перасцерагчы ад залішняй веры ў сябе і самаўпэўненасці. Яно было падобна на перакрыўленую грымасай маску. Але што яна хацела сказаць тая маска? Яго ясная логіка як бы нарэшце знайшла адказ - супраць яго жадання, незалежна ад яго і як бы з намерам нагадаць пра адзін факт: нічога загадкавага тут няма. Ён іграў толькі галавою, сваёй акрабатычнай тэхнікай, а гэта, ён ведаў, толькі падман. Тыя, што там унізе, вядома, не заўважаюць нічога, але з таго часу, як ён сам зрабіў гэтае адкрыццё. . . Ён здрыгануўся, і галава матнулася ўніз, пранізаная нейкім распаленым кінжалам. Зноў з’явіліся нясцерпныя болі, яны мучылі яго ўжо некалькі дзён таму назад, і яму стала ясна, што звязана гэта з вушамі. Распаленае жалеза яшчэ раз прайшло праз чэрап. А гэта - што яшчэ такое?. .

Што за вар’яцкая думка прыйшла ў галаву Картэльеры? І наогул?. . Картэльеры дырыжыраваў, а музыканты, трымаючы свае драўляныя духавыя інструменты каля рота, спрытна націскалі на клапаны. Выглядала ўсё так, быццам яны ігралі, але напраўду дык ігры не было. Скрыпачы цягнулі смыкі, прыкладвалі іх да струн, але і гэта была толькі ілюзія. А што з раялем? Ён аж тросся ад вывяржэння акордаў у храматычных павышэннях тонаў. Простым вокам відно было, як дрыжалі струны, але маўчаў і раяль.

Толькі паступова Людвіг пачаў разумець: гэта ж вушы! Адбылося самае жудаснае, што калі-небудзь магло мець месца ў жыцці, - ён раптам нічога не чуў! Усё было сцёрта. Заставаліся адны толькі вочы, якімі ён у роспачным здзіўленні глядзеў на бакі.

Недарэчна іграць далей. Трэба спыніцца. Трэба кінуцца прэч са сцэны, збегчы туды, дзе. . . нясцерпнае ніколі не зможа дабрацца да яго.

Але раптам ён зноў стаў нешта чуць. Няўжо музыку?. . Ну але, хоць музыку і не аркестра і не раяля. Пачалося з нейкага надзіва вабнага патрэсквання, прынесенага жвавым свавольнікам-ветрыкам. Ды ветрык адразу ж перарос у буру, і ўсё перад ёю скарылася. З гэтай бурай прыляцелі і яго арлы, іх крылы білі сёння страшэнна моцна і разам з тым ласкава, як бы арлам трэба было перадаць якуюсьці непрыемную і ў той жа час суцяшальную вестку. Вестку?. . Ён не паспеў разабрацца, што гэта такое, бо на гэта яму не засталося часу. Бушавала бура, зноў заіграў аркестр, і гер Картэльеры, недасведчаны дурніца, не ўтрываў, каб не падаць яму нешта накшталт знаку на пачатак ігры. . .

Князь Ліхноўскі, напоўніўшы бакалы вінам, сказаў:

- Паслухайце, што цяпер абвесціць мой голас, празваны

«Венскаю іерыхонскаю трубою»: Бетховен, сёння сваёю ігрою вы заслужылі карону!

Людвіг стаяў каля каміна. Яго не пакідала думка, чаму тое, што адбылося перад гэтым, ён палічыў за вестку. . . нейкай ліхой хваробы? Вядома, розныя бываюць болі, і некаторыя з іх адразу прыносяць з сабою адчуванне, што ў цябе пад скураю не што іншае, як пухліна. Рукі ён трымаў за спінаю, бліжэй да агню, і раптам ускінуў іх рэзка да скроняў. Зноў ударыў распалены кінжал, хоць лёгка і коратка, але з бязлітасным каварствам.

Князь засмяяўся.

- Я, вядома, гаварыў не пра цярновы вянок! Канечне, нямала было і такіх, хто толькі адмоўна матаў галавою і косамі, калі рэч ішла пра вас. І ўсё ж я падымаю келіх за вашу будучую славу, за ваша шчасце!

Вегелер запытаўся:

- Людвіг, табе баліць галава?

І ў позірку Марыі Крысціны таілася спачуванне.

- Што-небудзь з вушамі, гер ван Бетховен?

Ён спалохаўся. І раптам ад нахлынутай злосці стаў яшчэ больш цёмным яго і без таго чырвоны твар. Ён адразу ўзненавідзеў гэтую закаханую кошачку, што ў сваёй нялюдскай спагаднасці наткнулася на яго таямніцу і галасна сказала аб ёй. Холадна і варожа ён акінуў позіркам Марыю Крысціну.

- Чаму вы так думаеце?

- Мне ўжо на канцэрце ў адным месцы здалося, што. . . Ён рэзка перабіў яе:

- У адным месцы здалося, што?. .

- Пра якое месца ты гаворыш, Марыя Крысціна? - зацікавіўся князь, удаючы цяпер

крышку таўставатага, дабрадушнага і наіўнага арандатара. - Я нічога не заўважыў. А вы, гер доктар?

Вегелер таксама нічога не заўважыў. Людвіг чакаў, з няўмольным выклікам самому сабе і маладой, прыгожай жанчыне, твар якой імгненна збялеў і губы задрыжалі.

- Я, відаць, памылілася.

- Так яно і ёсць, ваша светласць.

Адзін гэты здзекліва-фармальны зварот, якім ён звычайна ніколі не карыстаўся, павінен быў зрабіць ёй балюча. Зноў аднавіліся ў яго кінжальныя ўдары, раз за разам ірвучы і разбураючы кожную ясную думку і ўсё разумнае.  І яму таксама хацелася разбураць і мучыць.

Лёкай пачаў сервіраваць стол да невялічкай інтымнай вячэры, якою павінен быў завяршыцца гэты незвычайны вечар. Сервіраваў ён у такой паслядоўнасці, як гэта рабілася ўжо сотні разоў. Спачатку падаў суп княгіні, гаспадыні дома, потым гаспадару, трэцюю талерку паставіў перад Бетховенам. Але Бетховен, чамусьці ўзлаваўшыся, нечакана ўскочыў з месца і выбег з пакоя.

Ліхноўскі спытаўся ў Вегелера:

- Доктар, можа, ён пакутуе ад колікаў у жываце?

Вегелер паматаў галавою.

- Майго старога сябра Людвіга я ведаю больш, чым ваша светласць. Ён тут увесь час ужо аж калаціўся ад злосці. Мая цешча, фраў фон Бройнінг, шмат гадоў таму назад назвала гэты яго стан прыступам шаленства, супраць якога ёсць толькі адзін сродак: быць да яго спагадлівым. Людвіг апамятаецца і непазбежна вернецца сюды з раскаяннем і шчыраю просьбаю прабачыць яму.  І тады не знойдзецца ніводнага чалавека, які адмовіў бы ў гэтым нашаму ўзрушанаму блытаніку.

На губах у Марыі Крысціны блукала слабая ўсмешка, горыч якой не мог утаіць нават свецкі глянец.

- Але такі прыступ шаленства можа цягнуцца і даволі доўга?

Вегелер, з усведамленнем свайго бяссілля, кіўнуў на знак згоды.

- На жаль, так, ваша светласць.

І выйшла, што цягнуўся ён на гэты раз доўга. . .

На другі дзень Людвіг з’явіўся са сваім лёкаем, які меў загад за сталом абслугоўваць яго адначасова з князем. За абедам у гера ван Бетховена быў выдатны апетыт. Ішла даволі вялая і аднабокая гутарка. Ён нешта плёў пра фартэпіянны канцэрт Моцарта, які яму давядзецца іграць праз некалькі дзён у бенефісным канцэрце на карысць удавы Моцарта. А потым яшчэ доўга, вобразна і павучальна гаварыў пра сваю ўлюбёную тэму: пра фартэпіянную тэхніку Моцарта.

Толькі пасля таго, як пайшлі слугі, Ліхноўскі зарагатаў.

- Бетховен, геніяльная штука з уласным лёкаем абышлася вам не меней, як у тры гульдэны.  І калі гэта разлічана надоўга, то вы астанецеся без грошай у кішэні, а я не магу з гэтым пагадзіцца. Учора вас пакрыўдзілі рангі? Калі так, то я павінен сказаць, што першым, безумоўна, павінны быць вы.

Князь гаварыў без насмешкі, нават з цеплынёю ў голасе.

- Я толькі завуся князь, а вы - вялікі мастак. Я дам загад, каб слуга больш так не рабіў. Ну, задаволены вы цяпер?

Нарэшце пачаў з сябе смяяцца і сам Людвіг. Усё як бы станавілася на месца. Ён яшчэ сыграў ім канцэрт Моцарта, расквечваючы пры гэтым мноствам радасных воклічаў туцці. Але ўсяго праз некалькі гадзін, - Ліхноўскага і доктара Вегелера не было, яны пайшлі ў горад, - ён пакланіўся Марыі Крысціне і сказаў:

- Да пабачэння, ваша светласць, і вялікі вам дзякуй за гасціннасць, якая была аказана мне ў гэтым доме.

- Была аказана?. .

- Я паразджаю. Лёкай якраз складвае мае рэчы.

- Людвіг! Вы ад чагосьці ўцякаеце?

Ён ускіпеў.

- Ад чаго ж мне ўцякаць?

Можа, ёй хацелася яснасці? Ці гэта была неакрэсленая спроба ўтрымаць яго?

- Але ж, мабыць, не ад мяне?

- Ад вас? Марыя Крысціна!

Ліхаманкава замітусіліся думкі, галава апусцілася на грудзі.

- Ну але, гэта праўда. Уцякаю і ад самога сябе. Прабачце, калі ласка.

І за ім ужо зачыніліся дзверы. Яму, ведама, не хацелася крыўдзіць яе, яна, як жанчына, адчувала яго стан беспамылкова. Ён заўсёды няўклюдна паводзіў сябе, бо сваё выхаванне атрымаў не ў салонах, але, прынамсі, скончылася нешта, што як след яшчэ і не пачалося. І, мабыць, так будзе лепш. Таямніца, што тут напаткалася, стрымала іх абаіх ад бяздоння. То быў не звычайны прыступ шаленства, як меў ласку назваць яго доктар Вегелер, а нешта значна больш складанае, і спатрэбіцца, мабыць, не адзін год, каб высветліць потым сапраўдныя прычыны.

Тэрэза і Жазефіна хіхікалі як школьніцы, і графіня Ганна Барбара Брунсвік кінула на дачок дакорлівы пакутніцкі позірк. Люстра на другой сцяне паказвала шыньён, прычоску, якую графіня зрабіла сабе нядаўна. Яна была самай апошняй моды, але не пасавала ёй да твару. А можа, і тут, у гэтым маўклівым дакоры, вінавата. . . мігрэнь душы? Лічбы! Лічбы! Цяпер заставалася ўсяго васемнаццаць дзён, гэтая спешка, гэтае падарожжа ў Вену было проста спаборніцтвам з лічбамі, якія не давалі забыцца на тэрміны выканання абавязацельстваў па вэксалях. . .

- Жазефіна!  І нават ты, Тэрэза!

Тэрэза прыняла паставу, якой ад яе чакалі. Зрэшты, яна не толькі старэйшая сярод сясцёр, яна і больш сур'ёзная, спакойная, заўсёды ходзіць у вэлюме, нават цяпер, калі на ёй, як і на Жазефіне, паркалёвая сукенка. Вэлюм, прымацаваны да цёмных валасоў, не закрываў Тэрэзінага твару, а спадаў па плячах да вялікай стужкі на клубах. Толькі яна, Тэрэза, вымушана была жыць увесь час баючыся, што людзі здагадваюцца пра яе ганьбу. У яе быў скрыўлены хрыбетнік, хоць гэта і не вельмі было відно.

Жазефіна не прапусціла міма ўвагі таго, што яе назвалі афіцыйна Жазефіна, а не Пепі, ці нават Піпс. Але цяпер, гэтай майскай раніцай, што прыйшла на вуліцу перад вокнамі гасцініцы «Залаты грыф», яе перапаўняла найкая нястрымная весялосць. У ёй бушавала гарэзлівасць, што яшчэ больш вылучала яе незвычайную прыгажосць. Цёмныя вочы выпраменьвалі феерверк іскарак усіх колераў вясёлкі, а пасярэдзіне лба спадала капрызная пасмачка валасоў. Ускочыўшы з месца, яна з прыдворнай важнасцю схілілася ў паклоне перад мацераю, прыціснуўшы пры гэтым руку да сэрца.

- Я, ваша правасхадзіцельства, пайду, бо справы клічуць мяне ў мой мастацкі кабінет.

Яна перадражнівала гера прыдворнага статуарыя Мюлера. Учора, каб не прапаў і дзень прыезду, яны наведалі венскую сенсацыю - толькі што адкрытую галерэю каля Чырвонай вежы, гаспадаром якой быў Мюлер. Іх правялі да старэнькага, на выгляд вельмі ўрачыстага пана, які адрэкамендаваўся ім як прыдворны статуарый Мюлер, уладальнік мастацкага кабінета, стваральнік прыгожых васковых фігур, выстаўленых у вітрынах. Ён даў тлумачэнне паасобных копій шэдэўраў антычнага свету. Нарэшце ён прапанаваў сябе дамам на ролю чычэроне не толькі па сваёй калекцыі, але і па ўсёй Вене.

Адальберт Росты запляскаў у далоні. Калісьці з Францам Брунсвікам ён разам хадзіў у школу ў Офене, быў з ім аднаго веку, гэта значыць, меў цяпер дваццаць два гады, няраз прыязджаў на вакацыі ў венгерскі замак Брунсвікаў - Мартанвашар і ў сям'і лічыўся сваім чалавекам.

- Цудоўна! Табе, Пепі, адразу можна на сцэну.

Паважнаю і разам з тым дзіўнаю хадою яна пайшла да дзвярэй, імітуючы хаду Мюлера, а Росты тым часам выказваў усё большае захапленне.

- Брава! Бачыш гэта і ў сваіх касцях літаральна адчуваеш падагру! Так! Так! Быццам пляцецца закаханы даўганогі бусел!

Жазефіна рэзка павярнулася.

- Росты, лепш не скажаш. Мюлер, стары каняка-бусел, відаць, закахаўся, а дзе ж яго мілая каханка?. .

Смех яе нагадваў маленькі сярэбраны каскад.

-  І ўжо з аднае цікаўнасці мне хацелася б калі-небудзь пазнаёміцца з ёю.

Росты замаргаў.

- Тады табе варта толькі паглядзецца ў люстэрка.

Жазефіна дакранулася да лба, да «пасмачкі-коскі».

- Тады ў яго тут, карыстаючыся музычным тэрмінам, туцці.

- Жазефіна! Росты! - Пасыпаўся цэлы шквал французскіх слоў. - Мы знаходзімся ў даступнай усім, самай фешэнебельнай гасцініцы Вены! І нават калі ў гэты час, акрамя нас, у зале снеданняў няма нікога, то сюды заходзяць лёкаі, Янаш, напрыклад, і ўжываць такія выразы ў прысутнасці хай сабе толькі лёкая. . .

Дзяўчына села за стол і з робленым раскаяннем пачала размешваць свой шакалад.

- Мама, я ведаю, якое я няўдалае стварэнне, і Росты таксама. Ці не праўда, Росты? І мы просім прабачэння. - У яе позірку былі шчырасць і спагада. - І нам не трэба праз гэта засмучацца. Магчыма. . .

Графіня Брунсвік уздыхнула.

- Ты маеш рацыю, Піпс. Ну добра, афіцыйныя размовы пачнуцца толькі заўтра. Дык што вы збіраецеся рабіць сёння?

- Мамачка, міленькая! Тэрэза, Росты, няўжо ў вас няма ніякай прапановы? Няўжо? А ў мяне ад нашага падарожжа, ад нашага першага выезду ў свет проста закружылася галава! Вена, гэты вялізны горад, дзвесце тысяч жыхароў! А ў ім сабор святога Стэфана, Пратэр, Гофбург, Шонбрун і. . . - Яна ўскочыла з месца. - Я нешта прыдумала! Помніш, мамачка, мы хацелі пазваць да сябе гэтага Бетховена?

Росты папярхнуўся.

- Што вы хацелі?

Жазефіна паўтарыла:

- Ну. . . пазваць сюды Бетховена.

- Усё ясна, нявіннае ты стварэнне, але. . . - ён засмяяўся, - адна толькі думка «пазваць» Бетховена дух займае.

Графіні захацелася дазнацца, чаму ён смяецца.

- Тэрэза і Пепі хочуць прыдбаць у Вене сёе-тое і з музыкі, узяўшы некалькі фартэпіянных урокаў. А Бетховен, кажуць, адзін з лепшых венскіх настаўнікаў ігры на фартэпіяна.

- Самы лепшы, ваша правасхадзіцельства.

- Цудоўна. Да таго ж ён, мабыць, нядрэнны кампазітар, што таксама спатрэбіцца на ўроках тэорыі музыкі.

Жазефіна паблажліва ўсміхнулася.

- Ён болей, чым нядрэнны кампазітар, мама.

Нават спакойная Тэрэза не стрымалася ад гарачага адабрэння.

Яе правасхадзіцельства пакруціла галавою.

- У вас адно ў галаве: Бетховен! І ў нябожчыка бацькі, і ў Франца таксама, і ўва ўсіх вас - хіба толькі не ў Караліны. Няўжо ён гэтага варты, Росты?

- Не мне меркаваць пра гэта, ваша правасхадзіцельства. Але вы кажаце «пазваць яго». Можа, лепш вам самой пайсці з Тэрэзай і Пепі і звярнуцца да яго з добрым словам? Толькі я хацеў бы перасцерагчы вас, ваша правасхадзіцельства: не прапануйце яму прыходзіць на ўрокі сюды ў гасцініцу, і хай яна завецца «Залаты грыф». Ён, наколькі я яго ведаю, ніколі на гэта не пойдзе.

- Ты яго ведаеш, Росты?!

- Пепі, я цябе баюся! Кідаешся на мяне, як коршак. Я ведаю яго толькі з выгляду, ды яшчэ па тым, што пра яго гавораць.

- Ён прыгожы?

- На жаль, выключна непрыгожы.

- Шкада, але, можа, якраз і добра. Прыгожыя мужчыны пыхлівыя і закаханыя толькі ў саміх сябе.

- Глядзі ты, які мудрэц у васемнаццаць гадоў!

- Памыляешся, Росты, мне ўжо дзевятнаццаць, а яму колькі гадоў?

- Здаецца, пад трыццаць.

- Добры век. Якраз ён пачынае станавіцца сапраўдным мужчынам.

Дваццацідвухгадовы Росты пакланіўся.

- Дзякуй!

- Прабач, Росты. А што табе яшчэ вядома?

- Кажуць, што яго ахутвае нейкая трагічная таямніца, але пра гэта я не магу сказаць нічога пэўнага. Ён - мізантроп.

- Ах, як спакусліва і цікава! Ён цяпер падабаецца мне яшчэ больш, чым раней.

Яе правасхадзіцельства зноў пачала з удаваным гневам выгаворваць ёй.

- Пепі! Што ты тут плявузгаеш!

Росты засмяяўся.

- Тады, Пепі, табе прыйдзецца разлічваць на вострую канкурэнцыю, бо ад яго дэманічнай ігры трацяць галаву і самыя прыгожыя жанчыны.

- Нічога. - Жазефіна зірнула на сябе ў люстэрка. - Мы яшчэ ніколі не баяліся канкурэнцыі.

Тэрэза, круцячы галавою, сказала:

- Чаго табе толькі не лезе ў галаву. . .

- А што тут такога? Мілая сястрычка, ты забываеш, што мяне завуць «сонечнай іскаркай, геніем графскага сямейства Брунсвікаў». Мамачка, ты не згодзішся пайсці з намі?

- Мабыць, прыйдзецца, дзеткі, калі вам гэтак хочацца. Ці ў цябе асталіся яшчэ нейкія сумненні, Тэрэза?

- Не, мамачка, толькі ён жа абавязкова захоча пабачыць, на што мы здатныя, а што я яму сыграю? Якую-небудзь яго санату? У мяне, калі я толькі падумаю пра гэта, ужо цяпер дрыжаць рукі.

- А ў мяне не. - Углядаючыся ў люстэрка, Жазефіна надала сваёй пасмачцы валасоў асабліва смелы выгін. - Я сыграю яму мой любімы твор, які ў мяне выходзіць няблага. Фартэпіянную партыю з яго фартэпіяннага трыо до мінор. Ён зробіць вялікія вочы, пачуўшы, што я выштукую з яго кампазіцыі.

- Добра, а другія партыі? Скрыпкі і віяланчэлі?

- Баязліўка ты, Тэрэза! Я іх проста буду напяваць - ляля-ля. Янаш!

З’явіўся лёкай.

- Слухаю, графіня?

- Бяжы па святочную ліўрэю! - Яна закружыла яго вакол сябе. - Вось так, цяпер ты яе апрануў і выглядаеш паважна. Ведаеш, ёсць і добры бок, калі ў цябе, як і ў мяне, усяго толькі адна ліўрэя. Янаш, табе прыйдзецца несці мае ноты, і ў гэтым выпадку я не буду пярэчыць, калі з намі пойдзе і Бранка і вы абое будзеце тупаць следам за намі на адлегласці роўна шасці крокаў. І вельмі прашу вас: вашы твары павінны быць быццам высечаныя са старога дубу, бо вы ж будзеце світаю царыцы Саўскай. Хто царыца Саўская? Вядома, я, і мне хочацца зрабіць уражанне. Кінжал у цябе ёсць з сабою? Бо наш візіт прызначаны чалавеканенавісніку. Не выключана, што ён яшчэ і людаед. Янаш, ты, калі прыйдзецца, будзеш абараняць мяне?

Вочы старога венгра загарэліся агнём.

- Графіня, калі спатрэбіцца, то і жыццё аддам!

Жазефіна ўсміхнулася, паказаўшы бліскучыя зубкі.

- Да гэтага зараз яшчэ не дойдзе. Пойдзеш з намі, Росты?

- У мяне, на жаль, лекцыя.

- Выдатнае супадзенне. Бо я якраз збіраюся ісці паляваць на мужчын, і хлопчыкам глядзець на гэта забараняецца. Вучыся добра, Росты!

Дом каля плошчы святога Пятра выглядаў неахайна, тынк мясцінамі быў у плямах або абваліўся, дзверы, з іх затаптаным парогам, нагадвалі скрыўленую, звераватую зяпу.

Са святла вачам трэба было спачатку прызвычаіцца да темнаты ў калідоры. Потым, дыхаючы затхлым паветрам, яны пачалі ўзбірацца па вузкіх нязручных вітых усходках на чацвёрты паверх.

Абодва лёкаі ступалі наперадзе, за імі ішла графіня Брунсвік.

- Гэта ж лесвіца на неба! Беднае маё сэрца! Пепі, твая выдумка сапраўдная авантура.

Тая раптам спыпілася ў нерашучасці.

- Тэрэза, у мяне такое адчуванне, быццам я іду да зубнога доктара. Я аж дрыжу ад страху.

Калідор наверсе з мноствам дзвярэй быў даволі цёмны. Панавала цішыня. Жазефіна прашаптала:

- Магчыма, яго і дома няма. Дай бог, каб не было. . .

- Баязліўка ты, а яшчэ мяне абазвала баязліўкаю.

За аднымі дзвярыма хтосьці злосна ўзяў некалькі акордаў. Потым зноў запанавала мёртвая цішыня.

- Пастукай, - загадала графіня Брунсвік. Тэрэза ўдарыла, але ў пакоі ніхто не абазваўся.

Жазефіна пакруціла галавою.

- Яго там і быць не можа, бо ён ніколі не будзе іграць на такім расстроеным раялі. . .

Тэрэза не згадзілася.

- Ён тут.

Падазваўшы сястру, яна паказала на шыльдачку, прымацаваную да пафарбаваных у карычневы колер дзвярэй, якія павінны былі выклікаць у наведнікаў уяўленне аб драўніне больш каштоўнай пароды. На дыбачках Пепі падышла бліжэй і прачытала словы, нядбайна напісаныя чыёйсь рукою: «Людвіг ван Бетховен».

Раптам дзверы рэзка адчыніліся, і ўжо тое, як гэта было зроблена, сведчыла аб намерах гаспадара. Несумненна, ён хацеў злавіць чалавека, які падслухоўваў яго. З вялікага, залітага сонцам пакоя ў калідор над галавою дзяўчыны, якая, нібы заварожаная, крыху падалася наперад, упала святло, і наведнікі ўбачылі сілуэт мужчыны, за спіною якога на фоне акна цень валасоў стварыў нейкую хаатычную карціну.

Графіня Брунсвік ветліва спыталася:

- Вы гер ван Бетховен?. .

Хаатычны сілуэт не зварухнуўся. Потым голас, у якім не было ніякай прыязнасці, запытаўся:

- Хто вам патрэбен?

Голас нагадваў грукат жалеза. Падазроныя неспакойныя маленькія вочкі агледзелі жанчын і лёкаяў. Позірк быў яўна варожы, пакуль раптам ён. . . Паводзіны яго імгненна змяніліся, госці не ведалі, чаму. Цяпер ён спяшаўся быць ветлівым.

- Мяне завуць Бетховен. Дамы прыйшлі да мяне? Чым магу быць карысны? Прашу ў пакой.

Ён памчаўся паперадзе, каб хуценька прыбраць сёе-тое, што валялася на крэслах, - ручнікі, табакерку, камізэльку, гальштукі.

- Можа, дамы сядуць? Прашу прабачыць, што ў мяне такі непарадак, але слуга да мяне прыходзіць прыбіраць толькі праз два-тры дні, на некалькі гадзін, калі яму можна. Дый сам я не вельмі сачу за парадкам.

Ён засмяяўся, як хлопчык, што нечакана прыдумаў нейкую здатнасць, пасля чаго адразу ж рушыў да раяля, каб хоць крыху навесці парадак у стосах нот.

Графіня Брунсвік насоўкаю выцерла рот.

- Прасіць прабачэння павінны хутчэй мы, што ўварваліся да вас. А потым мы яшчэ хочам патрывожыць вас дзеля адной справы.

Тут яна ўспомніла пра параду Росты. Позірк Бетховена зноў стаў недаверлівы, і голас загучаў пранізліва.

- Мне прыйдзецца рашуча не пагадзіцца з вамі. Дамы мне ні ў якім разе не перашкаджаюць. Я толькі спрабую знайсці вось тут, - ён паказаў на клавіятуру, - нешта, што ў мяне ніяк не выходзіць. Яно павінна быць маёй першай сімфоніяй.

Тэрэза заўважыла адчужанасць на матчыным твары.

- Мамачка, можна сказаць мне? Я ж у гэтых рэчах разбіраюся лепш. - Яна смела павярнулася да Бетховена. - Мне, мабыць, трэба адрэкамендавацца, і, калі вы дазволіце, то я адразу, можна сказаць, спынюся на частцы генеалогіі нашай сям'і. Толькі вы павінны зразумець мяне правільна. Мы з Венгрыі. Мой бацька быў там чыноўнікам высокага рангу, яго правасхадзіцельства граф Брунсвік, і мая мама - таксама правасхадзіцельства. Мы ж, Брунсвікавы дзеці, наадварот, - асабліва ў адносінах да вас, - ніякія не правасхадзіцельствы.

- Ласкава разумею, графіня.

- Бацька мой памёр, іначай ён таксама быў бы тут, бо. . . - яна кінула позірк на карціны і гравюры на сцяне. - Ён, уласна, высока ставіў толькі чатырох кампазітараў, якіх ён ставіў найвышэй. Трох я бачу вунь там: Гендэля, Баха, Моцарта і толькі чацвёртага, якога ён любіў бадай што больш за ўсіх, там няма. Завуць яго. . . Людвіг ван Бетховен.

- Я? - Цёмнае полымя апаліла яго чырвоны твар аж да залысін на лбе.

- Праўда, і ён навучыў нас, Брунсвікавых дзяцей, - маю сястру Жазефіну, вунь там яна, а мяне завуць Тэрэзай, - іграць усе вашы творы. Таксама і майго брата Франца, які даволі добра іграе на віяланчэлі.

Графіня Ганна Барбара захацела ўставіць камплімент.

- У нас Бетховен стаў сапраўднай маніяй, гер ван Бетховен.

- Што хочуць сказаць гэтым ваша правасхадзіцельства?

Замест яе адказала Тэрэза:

- Мама хацела сказаць вось што: калі б вы таемна ад нас прыехалі ў Мартанвашар, то з раніцы да вечара вы слухалі б музыку і песні аднаго Бетховена. Праўда, і песні таксама, бо я крыху спяваю. І вось, калі маме па справах прыйшлося ехаць у Вену, то ў першае наша вялікае падарожжа пусціліся і мы з Жазефінаю; ну, і тут у Вене, нам, ведама, захацелася пазнаёміцца з. . . нашым Бетховенам.

- І цяпер вы расчараваны?

- Ну, што вы! Мы баімся, бо нам нарэшце трэба выказаць сваю просьбу. Вашу музыку мы іграем, вядома, па-дылетанцку, а значыцца, і дрэнна. . .

Ён перабіў яе:

- Гэта не абавязкова павінна быць так. Справа не ў прафесіі, а ў прызванні, не ў пальцах, а ў сэрцы. . . І калі сэрца не мае патрэбы аддаваць загадаў пальцам, як гэта бывае ў большасці прафесійных «маэстра-піяністаў». . .

Тэрэза згодна кіўнула галавою.

- Яно гэтак, толькі. . . пальцы павінны быць навучаны, як выконваць тыя загады сэрца.

Смех яго гучаў весела.

- Гэта перадумова.

- Менавіта. А ў нас з Жазефінаю якія пальцы, га? Мая сястра і я. . . просім вас. . . даць нам некалькі ўрокаў.

Жазефіна падумала: «Цяпер мне трэба соладка выцягнуць губы і аказаць згоду, але я гэтага не зраблю. Пакуль што мая добрая Тэрэза цалкам выключыла мяне з гульні. Як яна наогул паводзіць сябе? Крычыць, як гандлярка на рынку, каб не прайшлі міма яе будкі з гароднінаю. Пры гэтым з яе губ цячэ мёд, і ён не адводзіць ад іх вачэй!»

- Значыцца, графіням падабаюцца мае санаты?

Вядома, і на гэты раз зноў адказала Тэрэза, бо інакш замест адказу ўсталявалася б цішыня.

- Ну, але. Не, дакладней будзе сказаць іначай: санаты больш іграю я. - Падумаўшы, дадала:- Мабыць, мне трэба сказаць не гэтак: санаты іграе і Жазефіна, але яе любімы твор - ваша трыо до мінор для фартэпіяна.

Бетховен рэзка павярнуўся да Жазефіны.

- Менавіта трыо до мінор, якое не падабаецца нават майму настаўніку геру Гайдну?

Не, яна не дазволіць, каб ён вось гэтак паводзіў сябе. Тут яна, графіня Жазефіна фон Брунсвік, пакажа ўвесь свой гонар.

- Тое, што кажа нават гер Гайдн, мне не самае галоўнае. Ужо з некаторага часу я прывыкла мець уласныя перакананні.

Пачуццё трыумфу авалодала ёю. Як жа змяніліся яго вочы! Яны ад нечаканасці аж пацямнелі, сталі вялікія-вялікія, і ён не мог адвесці ад яе позірку, быццам было перад ім невядомае дзіва. Вось так, гер ван Бетховен, і невядомае дзіва - я, графіня Жазефіна фон Брунсвік.

І зноў Тэрэза! Тэрэза яшчэ раз заспяшалася напомніць аб сабе. Прысеўшы на крэсла, яна ўздыхнула.

- Вам усё ж такі, відаць, захочацца праверыць нас. . .

- Навошта ж правяраць? Але дзеля знаёмства не пашкодзіла б, мусіць, пачуць некалькі тактаў. . .

Зразумела, Тэрэза пачала іграць свой лепшы нумар, з санаты опус 10 нумар 1, «Малой патэтычнай», - алегра мольта э кон брыо. І яна наўрад ці абыдзецца некалькімі тактамі. Гэтая ціхоня Тэрэза! Як чырванеюць яе шчокі, як дзелавіта бегаюць пальцы! А ёй, Жазефіне, вось гэтак спяшацца няма ніякай патрэбы. Яна не будзе браць урокі ў Тэрэзінага куміра. У Вене ёсць

і другія піяністы-віртуозы, напрыклад, гер Вёльфль, Моцартаў вучань. . .

- Дзякую, графіня, хопіць. Бяру вас вучаніцай.

Тэрэза паднялася.

- Ну, цяпер давай ты, Пепі.

- Прашу прабачыць, але ў мяне, на жаль, мігрэнь.

Сястра не стрымалася ад смеху.

- У цябе, Пепі? Ды ты ж заўсёды казала, што нават не ведаеш, што такое мігрэнь!

Вядома, гэта толькі адгаворка, але няхай Тэрэза падумае, што не ўсё так легка робіцца.

- Скажу вам, гер ван Бетховен, што мая сястра Жазефіна іграе значна лепш за мяне.

«Бачыш, гэтая манюка пачынае як бы каяцца!» Жазефіна соладка ўсміхнулася.

- А можа, вы, гер ван Бетховен, нам сыграеце што-небудзь невялічкае?

Ён адразу ж падаўся да раяля.

- Хіба што першую санату, якая толькі-толькі з’явілася ў друку? Яе назвалі «Патэтычнаю». Толькі - не, нічога не выйдзе. Інструмент вельмі моцна расстроены.

Гэтая адгаворка яшчэ больш недарэчная. Яму ж і раней было вядома, моцна ці не моцна расстроены раяль. Тым часам ён зноў павярнуўся да Тэрэзы.

- І ўсё ж, вам, графіня, мусіць, будзе прыемна, калі я зараз падарую вам гэтую санату. Бо ў музычных крамах яе яшчэ няма.

Расчулілася нават мама.

- Дачушка, якая радасць для цябе! Бетховен усміхнуўся.

- Не варта і думаць пра гэта. А цяпер самае галоўнае пытанне: дзе пані жывуць?

Адказала Тэрэза:

- Дзе? У «Залатым грыфе».

- Вам будзе зручна, калі заўтра я прыйду на ўрок у адзінаццаць?

Потым яны абмяняліся яшчэ некалькімі нязначнымі фразамі, і на гэтым не вельмі радасны для Жазефіны візіт скончыўся. Не вельмі радасны? Чаму? Які да ўсяго гэтага ёй клопат?

- Мне здалося, што ты яшчэ не спіш, Тэрэза, і таму я, як крывавая лэдзі Макбет, прыйшла да цябе, у такім жа, як і яна, адзенні - у начной кашулі і з мігатліваю свечкаю. Хачу пажадаць табе добрай ночы і тым самым з табою памірыцца.

- Скажы, Пепі, што гэта на цябе раптам найшло? Можа, прысядзеш на хвіліну да мяне?

Жазефіна прыткнулася на краёчку ложка.

- Мы хіба калі-небудзь доўга гневаліся адна на адну? Аж дванаццаць гадзін! Я штосьці не прыпамінаю. Між іншым, урокі я буду браць у гера Вёльфля. Ты ведаеш, што я не зайздросніца і не эгаістка, але мне было балюча.

- Балюча?

- Мілая, я не прыйшла сюды, каб папракаць цябе, ды я і забыла ўжо ўсё.

Прыўзняўшыся, сястра села на ложку.

- Не, Пепі, так нельга. Ды і велікадушнічаць табе няма ніякай падставы, наадварот.

- Наадварот? - Цёмныя Жазефініны вочы зноў заблішчалі. - Не вымушай мяне сказаць, як паводзіла ты сябе сёння раніцаю.

- А я настойваю на гэтым.

- Калі ласка: як гандлярка на рынку, на ўвесь голас расхвальваючы свой тавар, каб пакупнік - барані божа! - не пайшоў да суседняга століка. І ты дамаглася, што ён нават не зірнуў на мяне, бо ты ж яму і на гэта не пакінула часу. Мяне, прызнацца, не цікавяць ні гер ван Бетховен, ні тое, што ён падараваў табе санату, мяне толькі горка засмучае сястрына здрада. Ах, каб гэта была яшчэ Караліна! Але ад цябе, Тэрэза, я чакала другога, бо ты заўсёды была мне больш чым сястра - быццам родная маці.

Тэрэза неяк дзіўна ўсміхнулася.

- Ты скончыла, Пепі?

- Перастань прыкідвацца, Тэрэза. Я ж, урэшце, не сляпая.

Тэрэза паволі кіўнула галавою.

- А хто ж ты? Ты сляпая, і нават сляпая на два вокі. А ён - не сляпы і таму адразу ўбачыў, што я. . . што я калека.

Жазефіна горача абняла сястру.

- Ты не павінна так гаварыць пра сябе, мне баліць.

- Пепі, але ж ты вымушаеш мяне гаварыць пра гэта. Праўда. А я, скажу табе, шмат чаго ведаю пра калекаў і такіх вось людзей - бо я паставіла перад сабою мэту памагаць ім, маім яшчэ больш няшчасным братам і сёстрам, - і таму я ведаю, што тугія на вушы ўгадваюць словы па губах. Гэта ім моцна памагае, і можна пайсці ім яшчэ далей насустрач, калі гаварыць, - вядома, непрыкметна, яны нічога не павінны заўважыць, - вельмі гучна, калі крычаць. . . як гандлярка на рынку! - На яе прыгожым твары з высакародным класічным профілем адлюстроўваліся цяпер выразней, чым звычайна, рэзкія рысы самаахвярнасці, хоць разам з тым праблiснула ледзь прыкметная вясёлая ўсмешка. - І я спадзяюся, што мой нявінны падман удаўся. Бо нават разумніца сястра, якая, як васіліск, бачыць усё, была ўведзена ў зман.

Жазефіна закрыла твар рукамі.

- Тэрэза, я сапраўды была сляпая і нават яшчэ раззлавалася на цябе! Прабач, што я гэтак нядобра падумала і пра яго і пра цябе.

- Калі ты сапраўды так дрэнна падумала пра яго, то гэта кепская падзяка, бо - як табе гэта сказаць лепш? Хоць ён увесь час і глядзеў на мяне, бо не мог абысціся без дапамогі маіх губ, але ў астатнім для яго існавала толькі адна ты. Як яно, мабыць, і павінна быць. І нічога асаблівага тут няма. - Падумаўшы, дадала:- Табе, сапраўды, было б лепей браць урокі ў гера Вёльфля.

Жазефіна здзівілася:

- А чаму?

- Без злога намеру ты можаш зрабіць яго яшчэ больш няшчасным, чым ён ёсць і так.

Сястра зморшчыла лоб, і маршчыны палезлі аж да завітка потым яна засмяялася.

- Тэрэза, ты проста Касандра і піфія Брунсвікавай сям'і; я хоць ужо і прывыкла да сягогата з тваіх аракульскіх прароцтваў, але гэтае мне зусім нсзразумела. Чаму я павінна зрабіць яго яшчэ больш няшчасным, чым ён ёсць і так? - Раптам новая думка прыйшла ёй у галаву, і яна прымусіла яе скоранька падняць галаву. - Тэрэза, няўжо праўда, што ён, музыкант, не чуе?

- Праўда, і вось гэта і ёсць, мабыць, тая таямніца, пра якую гаварыў Росты. Напэўна, так - і тады асабліва трагічна і жорстка, што гер Бетховен сам бярэ яе за таямніцу, з усяе сілы спрабуючы не паказаць яе. Гэтак як і я з дапамогаю шалікаў і вэлюмаў спрабую не паказаць свае, у параўнанні з ягонай усяго толькі смяхотнай таямніцы. Але цяпер ужо яго таямніцу мы ведаем абедзве.

Жазефініна ўтрапенне як рукой зняло.

- Бедны, бедны чалавек! І яна моцна расплакалася.

Назаўтра раніцаю Тэрэза ў сваю чаргу наведала сястру ў яе пакоі. Было яшчэ вельмі рана. На вуліцах, на дахах толькі-толькі зачырыкалі першыя всраб'і. . . Тэрэза, хуценька адчыніўшы дзверы да Жазефінінага пакоя, спынілася на парозе.

- Што ты там шамаціш, як мышка, Пепі?

- Няўжо толькі як мышка? Прыйдзецца, мілая, паправіць цябе, як бедная царкоўная мышка. Я нядаўна прачытала глыбакадумныя словы. Толькі дзе, дзе? - Жазефіна ўздыхнула. - Цяжка запомніць пры ўсёй той безлічы, што мне прыйшлося праглынуць для паноў дамашніх настаўнікаў, ды яшчэ на самых розных мовах! Ага, успомніла! Змешчаны яны ў «Max Imes et reflex Ions sur d Ifferent sujets de morale et de la pol It Ique» (Выказванні і разважанні аб розных рэчах маралі і палітыкі (франц. )) герцага Гастона дэ Леві. Вось гэтыя словы: «Noblesse obl Ige». Паходжанне абавязвае! І таму я цяпер сяджу і цырую дзірку на рукаве. - Яна зубамі пачала адкусваць нітку. - Другой магчымасці няма. Бо я ўжо параілася з усімі філосафамі і мудрацамі, якія выпадкова ўсплылі ў памяці: Арыстоцелем, Архімедам, Платонам, Сакратам і Гамерам. Я сказала: «Панове, што мне рабіць, калі хто-небудзь абалье шакаладам або малінавым соусам маю паркалёвую сукенку?» Філосафы з ціхім песімізмам пакруцілі галовамі, і толькі адзін Салон асмеліўся штосьці параіць. Ён жа ведае, як рабіць мудрыя законы. «У такім выпадку ўсеміласцівейшай графіні давядзецца тры дні праляжаць у ложку, пакуль сукенкі не памыюць, не высушаць і зноў не адпрасуюць». Я запыталася: «Пан Салон, а калі пляма не сыдзе?» Ён паглядзеў на неба. «На гэтае пытанне могуць адказаць толькі астролагі».

Тэрэза засмяялася:

- Чаго толькі не лезе ў тваю галаву!

- Лезе многае, Тэрэза. Праўда, мне хочацца мець новую сукенку, і не толькі з паркалю, з гэтага ўбогага баваўнянага матэрыялу, а мне хочацца яшчэ і быць у ёй прыгожай.

- Ты і так досыць прыгожая, Пепі, вельмі прыгожая.

- Вельмі прыгожай не можа быць ніводная дзяўчына. Ну, а яшчэ мне хочацца ведаць, што сабе думае мама. Яе правасхадзіцельства займаецца ж нейкімі афёрамі. Мы прыехалі ў Вену ў карэце, запрэжанай чацверыком, у суправаджэнні двух узброеных да зубоў кавасаў (Кавас (арабск. ) - раней: турэцкі паліцэйскі). Прыслугоўваць за сталом нам павінны ўласныя лёкаі, бо нельга нават і думкі дапусціць, каб яе правасхадзіцельства і высокіх графінь абслугоўвалі звычайныя афіцыянты. Пры гэтым большая частка нашага багажу - вэксалі, па якіх хутка трэба плаціць.  І таму высакародная графіня Жазефіна фон Брунсвік павінна сама цыраваць гэтую дзірку на рукаве сваёй адзінай у Вене простай сукенкі.

Тэрэза паціснула плячыма.

- Можа, маміны меркаванні і не такія ўжо неабгрунтаваныя? Гэта яе апошнія і, мусіць, роспачныя пошукі выйсця, і цырымонія з лёкаямі, экіпажам і кватэраю ў «Залатым грыфе», магчыма, ахутвае яе ў час перагавораў з крэдыторамі і банкамі нейкім арэолам. . .

- А калі гэты арэол з сусальнага золата перастане ўздзейнічаць? Ты можаш уявіць сабе, сівіла, што тады будзе? Можа, мне сказаць, што будзе? А будзе тое, што, каб разлічыцца з даўгамі вось тут у «Залатым грыфе», нам прыйдзецца прадаць коней і карэту, а з імі і Янаша і Бранка і, мабыць, пешшу вяртацца ў Мартанвашар, замак нашых продкаў, які, відаць, будзе прададзены з малатка яшчэ да таго, як мы вернемся. Гэта значыць. . . - Яна задумалася, - што вяртанне абыдзецца вам тайней, калі я не пайду з вамі і астануся тут. Але з пункту гледжання мэтазгоднасці і замуж выходзіць мне не варта. Я невысокай думкі аб шлюбе па выгодзе. Дзеля гэтага прыйшлося б яшчэ сёе-тое высветліць- Учора ты, мая мілая Тэрэза, дадумалася і нават асмелілася сцвярджаць, што я закахалася.  І мне так здаецца, але тым не менш гэта абсурд. Ён, сказала мама, такі непрыгожы, як чорная ноч. Але - ці ноч непрыгожая? Паэты і закаханыя кажуць другое. Тым самым адпадае і гэтая прычына. Па-другое: ён належыць да саслоўя, якое не ў вялікай пашане, - да музыкантаў. Ну, хай бы ён быў хоць якім-небудзь малюсенькім нязначным гофрацікам.

Тэрэза ўхвальна кіўнула галавою.

- Гэта так, толькі - толькі ці мог бы ён тады пісаць музыку?

Сястра жаласліва ўздыхнула.

- У цябе бязлітасная логіка. Значыцца, трэба адмовіцца і ад гэтае думкі. Па-трэцяе, - аднак трэцяе пытанне дадаткова выклікае новае пытанне: ты папраўдзе ўпэўнена, што ён закаханы ў мяне?

- Баюся, што праўда, Пепі.

- Ну і сястра ж у мяне! Цудоўна, значыцца, ты сур’ёзна лічыш, што ён закаханы ў мяне, а мне здаецца, што і я сур’ёзна закахалася ў яго. Але ж гэта проста немагчыма! Мы і гадзіны не пабылі разам, дый то ў якіх абставінах!

- Пепі, з якою летуценнасцю і захапленнем ты іграла яго рэчы!

- Ну, я магла гэта рабіць і неўсвядомлена. . .

- А ён, Пепі? Ён не быў бы таленавіты мастак, калі б не ўспрыняў сустрэчу з такою істотаю, як ты, як удар маланкі.  І, наогул, калі сустракаюцца дзве выдатныя асобы. . .

Жазефіна слаба ўскрыкнула:

- Тэрэза, ты вымушаеш мяне чырванець. Выдатная асоба! Калі б ты толькі магла ўявіць сабе, якою безнадзейна нязначнаю здаюся я сабе ў яго прысутнасці. - Яна адарвала нітку. -  І ўсё-такі. Нейкі ж вопыт у мяне ёсць. Каханне выглядае іначай.

- Ну і дурненькая ты! - Тэрэза, заўважыўшы ў сестрыных вачах іскаркі, засмяялася.

Раптам Жазефіна ўскочыла з месца і адным махам захінула штору.

- Ах ты, стары юрлівы вар’ят! Няўжо ён бачыў мяне тут вось такою. . . напалову адзетаю?

Тэрэза асцярожна падышла да другога акна і - адскочыла назад.

- Гэта ж гер прыдворны статуарый Мюлер.

- Росты папраўдзе меў рацыю. - Жазефіна аж дрыжала ад абурэння. - Яшчэ і шасці гадзін раніцы няма, а гэты пераспелы трубадур ужо гуляе пад вокнамі. Яго ліслівае прывітанне, яго позірк, кінуты на мяне, недвухсэнсавыя. Яны абражаюць ужо таму, што такія безгустоўныя і брыдкія. -Яна прыслухалася. - Ужо і царкоўны служка на нагах - так, мамачка, гэты служка

таксама з бедных царкоўных мышэй. Ды і «Залаты грыф» пачынае пастукваць сваёю фарфоравaю дзюбаю. Збіраюць на снеданне сталы. Зрэшты, колькі ў мяне астаецца яшчэ часу? - Яна пачала лічыць па пальцах:- Сем, восем, дзевяць, дзесяць, адзінаццаць. Пяць гадзін. Ці спраўлюся я за гэты час? Дай мне цяпер санату, якую падарыў ён табе.

Як віхор, яна закружылася па пакоі.

- Цяпер мне няма калі больш балбатаць, Тэрэза. Трэба хутчэй садзіцца за раяль і - практыкавацца, практыкавацца і практыкавацца. Гэта крыху падобна на манію велічы; і, дай божа, каб потым мяне не пакінула мужнасць. Бо я хачу здзівіць яго, сыграўшы «Патэтычную санату».

Лёкаі ўжо чакалі, каб суправаджаць яе правасхадзіцельства на пагулянку па Вене, і графіня толькі на хвіліну заглянула ў маленькую музычную залу, з якой насустрач ёй адна за другой несліся гамы.

- Пепі. . .

- Ліха на яго! Самая цяжкая гама - до мажор, зладзюка!

- Жазефіна, ці ж можна так гаварыць.

- Мамачка, ведаю, што нельга, але цяпер мне трэба добра напрактыкаваць пальцы, і найлепшы сродак для гэтага - гамы.

- Дзе Тэрэза?

- Кудысьці пайшла. . .

- Калі прыйдзе настаўнік музыкі, я не здолею быць разам з вамі, і вам прыйдзецца сустрэць яго. Разам. Ты разумееш, што я маю на ўвазе?

- Вядома, мамачка. Можаце не хвалявацца. Я пагляджу за Тэрэзаю.

Неўзабаве вярнулася і Тэрэза.

- Слухай, Тэрэза, мамачцы я дакляравала, што пагляджу, каб ты, часам, тайком не абвянчалася з герам ван Бетховенам. Табе ж можна вянчацца, бо ты ўжо дарослая. Але хачу цябе перасцерагчы: у гэтым выпадку я вырву табе ўсе валасы.

Тэрэза прыслухалася.

- Адзінаццаць. Якраз б’е на святым Стэфане. У голасе ў Жазефіны прагучала фанабэрыя:

- Цікава ведаць: ён пунктуальны ці не? Бо ў мяне шансы на поспех маюць толькі тыя мужчыны, на дакладнасць якіх можна спадзявацца, як на дакладнасць гадзінніка.

У калідоры скрыпучы голас абвясціў:

- Да графінь Брунсвік.

- Пепі! - Але тае і след прастыў: праз адчыненыя дзверы яна схавалася ў невялічкім пакойчыку побач з музычнаю залаю.

Увайшоў Бетховен, пакланіўся.

- Добрай раніцы, графіня. - Тэрэза выразна бачыла расчараванне на яго твары. - Мяркуеце браць урокі адна?

- Не, не, і мая сястра таксама хоча. Яна, здаецца мне, хутка падыдзе.

Ён ажыў і паспрабаваў гаварыць разважна і грунтоўна.

- Сумесныя ўрокі дадуць больш карысці графіням. Я вельмі раіў бы займацца толькі гэтак. Бо інакшай сёе-тое прыйшлося б паўтараць.  І час мы будзем зберагаць. - Ён зняў капялюш, палажыў стэк і правёў рукою па кучаравых валасах. - Прашу прабачыць мой неахайны выгляд. Усяго з паўгадзіны таму назад я падняўся з-за раяля, за які сеў учора апоўдні адразу, калі пайшлі яе правасхадзіцельства і графіні.

У яго «неахайны» выгляд? Апрануты ён па апошняй модзе, у цёмна-рыжы сурдут з тонкага сукна, пашыты крыху вышэй каленяў, і яго панталоны нацягваліся каля штрыпкаў пры кожным хуткім кроку. Вядома, хустачка вакол шыі завязана нядбайна, яе канцы неаднакія па даўжыні.

- Пані прынеслі мне ўдачу. Апошнія дні я хварэў на. . . страшэнную нераўнавагу душы. Мой добры сябар Карл Аменда паехаў у Курляндыю. У мяне работа валілася зрук.

Як дзівосна маглі мяняцца яго вочы! То ў іх адлюстроўвалася страшэнная адзінота, то праз хвіліну яны па-юначы загараліся радасным бляскам.

- Перад гэтым я спісаў цэлыя стосы добрай нотнай паперы, каб потым выкінуць на сметнік.  І вось. . . раптам учора апоўдні гукі наляцелі на мяне, як пчаліны рой.

Толькі цяпер Тэрэза ўбачыла, што яго павекі бледныя ад бяссоннай ночы.

- Вы яшчэ нават не клаліся спаць?

- Не. - Яго чырвоны, пабіты воспаю, твар ззяў ад радасці. - Але затое гатова першая частка мае першае сімфоніі. Між іншым, што такое гатова? Ніколі што-небудзь не бывае гатова зусім, да таго ж я гавару пра маю першую сімфонію так, быццам у мяне цэлы тузін новых сімфоній. Ці хутка прыйдзе. . . другая графіня?

- Мая сястра Жазефіна? Хутка. - Тэрэза нахмурылася і, павярнуўшыся да алькова, сказала:- А калі яна хутка не прыйдзе, я схаджу па яе. Можа, вы сядзеце ў крэсла, гер ван Бетховен?

- Дзякуй, а мо лепш вось сюды за раяль? Вы не будзеце сумаваць, калі я сыграю вам першую частку мае сімфоніі?

- Гер ван Бетховен, гэта ж мне як узнагарода. Ён паківаў лахматаю галавою.

- Вы ўпэўнены ў гэтым, графіня? Ну, зараз вы пачуеце ўсё самі.

Ён зайграў, але хутка перабіў сябе:

- Не. З дапамогаю піянафортэ нельга выявіць усёй аркестроўкі. Лепш я. . . я, акрамя таго, спрабаваў пісаць і новую фартэпіянную санату. Аднак выйшла ў мяне ўсяго толькі некалькі накідаў яшчэ невыразнай і даволі шалёнай рэчы, якая трызніцца ў маёй галаве, - «Санаты Апасіянаты». - Ён зноў зайграў, і праз нейкі момант у алькове нешта заварушылася. Гэтае нешта з расшыранымі вачыма з’явілася ў дзвярах і нарэшце падышло бліжэй.

Жазефініна хада, звычайна і так лёгкая, стала цяпер зусім нячутная. Як прамень святла, яна ўвайшла ў гэтую музыку адрачэння, упартасці, безнадзейнага смутку, просьбы пачуць і злітавацца. Незразумела, якім пачуццём ён заўважыў Жазефініна набліжэнне. Ён адарваў рукі ад клавішаў і ўскочыў з месца.

- А вось і графіня. Можна пачынаць.

Жазефіна папрасіла:

- Можа, вы пайграеце яшчэ? Ён не адказаў.

- Хто з графінь хоча першай узяць урок? Прашу вас не палохацца спачатку, калі той ці іншы тон выйдзе не так, як трэба. Такое бывае і ў мяне і было нават у Моцарта. Памылак не робяць хіба толькі «маэстра-піяністы», але затое яны толькі машыны, якія грукочуць на клавішах.

Жазефіна рукою тайком паказала сястры на раяль.

- Калі ласка, графіня. Спыніцеся! Вы іграеце па старой школе пальцамі, якія выпрастана ляжаць на клавішах. А іх трэба сагнуць. Яшчэ болей. - Ён сагнуў Тэрэзіны пальцы.

- Але такое становішча цяжка вытрываць.

- Толькі таму, што яно новае і нязвычнае. Каб не ўскладняць яго вам яшчэ больш, паспрабуйце іграць толькі правай рукою. А я леваю буду іграць на басах.

Праз нейкі момант Тэрэза засмяялася.

- Не, так нічога не выйдзе, гер ван Бетховен. Мне трэба сачыць за праваю рукою, а я ўвесь час не магу адарваць вачэй ад вашай левай, якой вы, суправаджаючы мяне, даеце цэлы канцэрт. Ну і тэхніка ж у вас!

Ён азадачана паглядзеў на сваю руку.

- Я? Прабачце, я не хацеў гэтага. Гэта ўжо прывычка, калі ўвесь час маеш справу з клавішамі. - Ён не мог стрымацца і засмяяўся сам. Урок працягваўся, і нарэшце Бетховен запытаўся:

- Вы не стаміліся, графіня?

Тэрэза паглядзела на гадзіннік з маятнікам, што стаяў на гзымсе грубкі, і спалохана ўскрыкнула:

- Божухна, прайшло ўжо болей за дзве гадзіны! Прабачце, гер ван Бетховен, але было гэта так прыгожа і цікава, што я забыла пра ўсё. Можа, вы зробіце ласку і дасцё ўрок і маёй сястры Жазефіне?

- Я ж дзеля гэтага і прыйшоў сюды.

Калі за раяль села Жазефіна, паводзіны Бетховена адразу змяніліся. Нават і следу не асталося ад той блізкасці, якая існавала паміж ім і Тэрэзай. Ён стаў дзелавіты, стрымана-халодны і свецка-афіцыйны.

- Можа, графіня захочуць, каб я даваў урок па фартэпіяннай партыі трыо до мінор?

Прагучала гэта рэзка, і Жазефіна вырашыла прыняць выклік, які ёй пачуўся ў яго пытанні. Вочы яе заблішчалі, у той час як губы ветліва і ласкава ўсміхаліся.

- Не. Дазвольце папрасіць вас аб другім. Мая сястра дала мне пазнаёміцца з вашай санатай «Патэтычнай». Можа, вы згодзіцеся даваць урок па ёй?. .

Ён пакланіўся ў знак згоды і зірнуў на Тэрэзу.

- Вядома. Тым самым я ўпершыню буду мець прыемнасць чуць сваю санату ў выкананні другога чалавека.

Стала яшчэ горш, і Жазефіне падумалася: «Я наогул вар'ятка. У якасці вучэбнага матэрыялу трэба было выбраць якую-небудзь нейтральную рэч, скажам, санату Філіпа Эмануэля Баха, як гэта зрабіла Тэрэза. Вядома, я хачу кінуць яму выклік, але ці ж абавязкова гэта рабіць вось так? Я ўжо і так прайграла. Мне трэба было карыстацца зброяй, якая ў мяне ёсць ад прыроды, маёй прыгажосцю. А так застаецца толькі ўпартасць і нейкая спакуса. Але ці заўважыць ён, што я хачу парадаваць яго, ці падумае пра тое, што санату Тэрэзе ён даў толькі ўчора? Калі ў мяне наогул што-небудзь выйдзе, гэта і так нядрэнны вынік, але яго маштабы тут, безумоўна ж, страшэнна высокія! Ці ж я папраўдзе асмелюся іграць?»

Раптам з глыбіні ўспамінаў да Жазефіны дайшоў шум шалёных вадзяных патокаў, узнікла пакутлівая карціна. Тады ўсё скончылася п'янкім пачуццём трыумфу. Яна выразна чуе сёння, як гукаў яе Янаш: «Графіня! Графіня!» Яна бачыць, як Янаш узад і ўперад бегае па беразе, ламае рукі, а яна плыве цераз вір, што сіліцца ўцягнуць у бездань галаву яе каня, і ёй увесь час прыходзіцца выбаўляць яе наверх. Сёння ў яе такое адчуванне, быццам яна ў яшчэ больш небяспечным становішчы. І зноў чуваць: «Графіня! Графіня!»

Ці будзе шчаслівы канец у гэтага падарожжа? Мабыць, будзе, таму што музыка давалася ёй лёгка, у яе выходзіла літаральна ўсё, і тым не менш. . . Ну, цяпер усё роўна.

Паправіўшы ноты, яна адгарнула першую старонку, раўнюсенька прыгладзіла згін. Потым, нібы прыняўшы нялёгкае рашэнне, згарнула лісты, паклала іх на раяль і пачала іграць граве. З жахам пераканалася, што забыла ўсе ноты. Забыла, як іграць далей і якія фігуры. Але, дзіўная рэч, усё зноў стала нязначным. Зноў яна бачыць вір, падводныя камяні, як тады, калі яна ледзь не ўтапілася. Не, гэта штосьці новае, і гэтае новае засмучана яго адзінотаю, яно гераічна-патэтычнае, як выклік на бойку супраць яго хваробы - глухаты. Цяпер яно зноў гучыць засмучана, ласкава, а над усім увесь час шалее ягоная сіла. . .

Калі яна скончыла іграць, ён не сказаў ніводнага слова. Твар яго ўкрыўся шэрымі плямамі, ён цяжка дыхаў, і гэта было падобна на тое, як калісьці стагнаў Янаш, калі пераканаўся, што яго графіня выратавана.

Потым ён яшчэ гаварыў і пра сёе і пра тое, даваў тэхнічныя парады. Але да яе рук і пальцаў не дакрануўся. . .

Раптам у музычнай зале з'явіўся худы лёкай Бранка. Жазефіна запыталася ў яго:

- Што табе тут трэба?

- Мяне паслалі яе правасхадзіцельства. Яе правасхадзіцельства вернуцца крыху пазней, і таму літасцівыя графіні могуць абедаць адны.

- Абедаць? Тэрэза, цяпер ужо тры гадзіны. Тэрэза! Тая ўскочыла з месца.

- А я, гер ван Бетховен, ужо некалькі гадзін таму назад. калі вы расказвалі нам пра сваю бяссонную ноч, хацела папытацца, ці знайшоўся ў вас наогул хоць час паснедаць.

Рука яго міжволі дакранулася да лба.

- Паснедаць? Здаецца, не. - Ён, відаць, нават не разумеў, што яму гавораць, і зноў павярнуўся да раяля. - Грааля, давайце, калі ласка, паўторым вось гэтае месца. . .

- Н І ў якім разе. - Жазефіна зачыніла века раяля. - Не хапала яшчэ, каб вы замарылі нас голадам! І яшчэ гаспадыняй завешся, Тэрэза! Але цяпер я сама вазьмуся за гэтую работу. Бранка, галопам! Тры прыборы, і лепш за ўсё будзе, мабыць, сабраць стол у садзе.

Перад абедам абедзве дзяўчыны пабеглі яшчэ наверх у свае пакоі, каб прывесці сябе ў парадак. Жазефіна праз адчыненыя дзверы гукнула сястры:

- Ведаеш, Тэрэза, пра каго я цяпер думаю? Пра Казіміра.

- Пра таго хлапчука-садоўніка, які быў у нас раней?

- Ага, бо ён першая мужчынская асоба, якая прызналася мне ў каханні. Мне тады было гадоў дзесяць-адзінаццаць, а Казіміру, мабыць, трынаццаць. І вось аднаго разу ён прыходзіць да мяне, твар злосны, кідае на стол букет ружаў і імгненна знікае. Мне здаецца, што і гер ван

Бетховен такі ж грубаваты; і калі я, няшчасная, сапраўды закахаюся ў яго, то мне з ім будзе нялёгка. Прасіць рукі, напрыклад, прыйдзецца мне.

- Калі б толькі адно гэта, Пепі.

- Ты так думаеш? Вядома, з’явіцца яшчэ бог ведае колькі рознай непрадбачанасці, і таму ўсё трэба ўзважыць спакойна.

Жазефіна, пудрачы пухоўкаю носік, спыталася ў люстэрка:

- Тэрэза, па-твойму, я легкадумная?

- Не, я нават баюся, што ў жыцці ў цябе будзе толькі адно каханне.

- Я ж толькі гэтага і хачу. А я ўпартая, ад свайго не адступлюся ніколі.

- Ты яшчэ і высакародная.

- Сумняваюся. Хутчэй за ўсё я даволі бессаромная драпежніца. Што ты скажаш пра мяне, што я адважылася іграць «Патэтычную»? У мяне дрыжалі рукі, але, праўда, толькі пасля ігры. А можа, ёсць нейкая асаблівая прычына, што ён так рэзка адмовіўся іграць у маёй прысутнасці?

- Прынамсі, накід санаты прызначаны табе.

- Праўда? - Жазефіна надзьмула губы. -  І ты, разумніца, лічыш, што я б гэтага не заўважыла? Ад мяне нічога не схаваеш.

Тэрэза падумала сабе: «Ад цябе нічога не схаваеш? Ах ты прастадушная, мілая драпежніца!  І ўсё ж нешта ад цябе схавана». Праходзячы міма люстэрка ў сестрыным пакоі, яна кіўнула самой сабе і яшчэ раз хуценька паправіла шалік і вэлюм.

Графіня Брунсвік з’явілася толькі падвечар у суправаджэнні невысокай тоўсценькай жвавай пані, а за абедзвюма, падкрэслена ўважліва, рухалася ўжо крыху згорбленая, урачыстая фігура гера прыдворнага статуарыя Мюлера. Сёстры ўскочылі з месца.

- Цётка Фінта!

Маленькая тоўсценькая пані састроіла міну, якая павінна была выказваць пагарду і агіду.

- Цяпер вы прыкідваецеся, што вельмі любіце мяне, але два дні ўжо, як вы тут, а і не ўспомнілі нават, што ў Вене жыве бедная адзінокая цётка Фінта! - Яна пацалавала Тэрэзу. - Вельмі рада бачыць цябе. - Прыжмурыўшы вочы дадала:- А гэта хто тут? Таксама наша родзічка? Калі я апошні раз - з таго часу прайшло ўжо сем ці восем гадоў - была ў Мартанвашары, у вас апроч Франца і Караліны была яшчэ адна непрыкметная бледненькая дзяўчынка, якую звалі «Пепі». Яна ўвесь час грызла зубамі косы і корпалася ў рыдыкюлі, шукаючы там шакаладу свайму трусіку.

Жазефіна зрабіла выгляд, што скардзіцца:

-  І гэта кажа пра мяне любая цётухна, гер ван Бетховен!

Графіня Элізабет фон Фінта, уроджаная фон Брунсвік, падышла да яго.

- Калі тут умешваюцца рукі гера ван Бетховена, - а я гавару гэта не ў пераносным сэнсе, - то цётка Фінта, вядома, нічога зрабіць не можа. - Яна як блізкага знаёмага ўзяла яго пад руку. - Усё-такі добра, што я нарвалася на вас, малады чалавек. Бо нам зараз жа трэба тайна дамовіцца аб тым, як надаць маім абедзвюм пляменніцам, вось гэтым нявінным авечкам з правінцыі, крыху свецкага лоску. Спачатку я параю з’ездзіць на прыроду, потым патанцаваць вечарам у мяне дома. Ухваляеце?

- Цалкам, фраў графіня. - Бетховен усміхнуўся, яму падабаўся адкрыты і вясёла-саркастычны характар графіні фон Фінта. Яны ўжо няраз, сустракаючыся ў графа Фрыза ці ў барона фон Світэна, абменьваліся нявіннымі з’едлівымі жартамі аб прысутных.

- Дзяўчаткі, а вы, зрэшты, ведаеце самы новы танец, галоп?

Жазефіна адразу ж загарэлася.

- Што гэта такое, цётухна Фінта?

Тая ў адказ толькі закаціла ўгору вочы.

- Вы самі бачыце, гер ван Бетховен, чаго з выхавання не хапае гэтым абодвум стварэнням з венгерскіх пушчаў. А як жа інакш: не ведаць галопа, гэта ж тое самае, што не мець выхавання. І гэта вам, гер ван Бетховен, прыйдзецца ліквідаваць з дапамогаю раяля.

- Але я і сам яшчэ не ведаю гэтага галопа.

- Гер ван Бетховен!  І вы кажаце гэта нявінным дзецям, якія ў сваёй наіўнасці лічаць нас, сталічных жыхароў, вышэйшымі істотамі? Не слухайце яго, дзяўчаткі; потым вы адразу ж збегаеце да Артарыі на Капусным рынку ці да Гаслінгера і Штэйнера ў Пфафенгесхен. Мне

здаецца, што ў іх галоп ёсць. Навошта ўвесь час толькі санаты і фартэпіянныя канцэрты? Я кажу гэта таму, што нядаўна мне яшчэ раз прыйшлося слухаць вашы фартэпіянныя трыо, прысвечаныя князю Ліхноўскаму. Зразумела, самае лепшае з іх - до мінор. Гэта нешта зусім новае, і я разумею, што вы ставіцеся да яго з пачуццём гордасці і не вельмі схільны цяпер да гера Гайдна, які яго не адабрае. Чаго ты так здзіўляешся, Пепі? Табе не пашкодзіла б калі-небудзь паслухаць гэтае трыо.

Бетховен паспешна перабіў яе:

- Аб нотах я паклапачуся сам, графіня.

- Цудоўна, і тады адразу можаце заскочыць па князя Ліхноўскага, каб у нас быў яшчэ хто-небудзь, хто падмяніў бы вас, калі спатрэбіцца, за раялем. Бо я, здаецца мне, наўрад ці выберу пазней часіну зняць кухонны фартух, намазваючы для пікнікоў горы бутэрбродаў.

Жазефіна пацікавілася:

- А калі першы ўрок па галопу?

Графіня Фінта акінула яе пакутлівым позіркам.

- Табе адразу хочацца ўсяго, эгаістка ты гэтакая. Пра свайго дзядзьку Фінта і чатырох стрыечных сясцёр, маіх дарагіх дачок, якія сваімі ідэямі і вымудрамі ператвараюць мне жыццё ў пекла, ты наогул не пытаешся. Хіба сёння вечарам? Раней, мабыць, нічога не выйдзе. Вядома, калі мама не будзе супраць. Бо, можа, набегаўшыся, ты вельмі ператамілася, Ганна Барбара?

Графіня Брунсвік адкінулася назад у плеценым крэсле, і перад ёю адразу ж апынуўся гер Мюлер.

- Дазвольце ўслугаваць вашаму правасхадзіцельству вось гэтую падушачку?. .

Яна дазволіла палажыць яе сабе за спіну.

- Вы сапраўды вельмі ўважлівы, гер прыдворны статуарый. . . Не, Элізабет, я не такая ўжо змораная, як, шчыра кажучы, павінна быць. Перад герам прыдворным статуарыем, як перад магам з чарадзейным коранем, адчыняліся ўсе дзверы: у яго нам назапашана безліч білетаў у тэатры і галерэі, мы агледзім цікавыя фабрыкі, але гэта. . . яшчэ не самае галоўнае. Я лічу, што маю права сказаць гэта, гер прыдворны статуарый. Мы ўсе вельмі дзякуем вам. Гер Мюлер запратэставаў:

- Напамінак вашага правасхадзіцельства пра мае сціплыя паслугі наогул не варты гэтага! За доўгі час, які жывеш вось тут у Вене, можна наладзіць сякія-такія сувязі. Значыцца, магу я разлічваць, што пані сёння вечарам на хвіліну зірнуць у маю мастацкую галерэю? Мне хацелася б толькі паказаць вам адну рэч.

Графіня Фінта пацікавілася:

- Мо люстру з прыдуманымі вамі пацеркамі? Дзеці, гэта напраўда даволі прыгожая рэч.

Бетховен прыслухаўся да цяжкіх удараў святога Стэфана, што адбівалі гадзіны.

- Зачыняюцца нотныя крамы! І, апроч таго, я забыў пра вучня, які павінен быў прыйсці да мяне. Да пабачэння!

Жазефіна ўзмахнула рукою.

- Да пабачэння! Стойце! Цётухна Фінта, калі? У дзевяць? Значыцца, сёння ў дзевяць, калі вы і гэтага не забудзеце.

Бетховен засмяяўся.

- Спадзяюся, што не.

І з хуткасцю гарматнага ядра ён вылецеў з саду. Графіня Брунсвік пашкадавала:

- І вы таксама хочаце пакінуць нас, гер прыдворны статуарый?

- Мне хочацца падрыхтаваць усё як належыць, ваша правасхадзіцельства! - Ён пакланіўся і пайшоў, несучы свой капялюш і стэк як знакі нейкае годнасці і адказнасці. Графіня Ганна Барбара паглядзела яму ўслед.

- Вельмі мілы чалавек. Табе, Элізабет, трэба было запрасіць і яго.

- Навошта, Ганна Барбара? Ён жа больш не скача, дый апроч таго яго не выносіць Ёзеф. І я таксама. Гер прыдворны статуарый! Што гэта наогул такое? Гэты тытул? Гэтая малюсенькая копія нядобрай памяці пана Каліостра, гэты ліслівы цень! Вядома, яго васковыя фігуры, за якія ён, праўда, лапатаю грабе грошы, неблагія, але гэтага мала, каб я да яго адчула сімпатыю. А Ёзеф, стары гвардзейскі афіцэр, якога я так і не адвучыла ад моцных выразаў, увесь час заве яго гулякам або шулерам, не ў сэнсе гульні ў карты, а ў сэнсе адносін да жыцця.

Графіня Брунсвік запярэчыла:

- Пакуль што ён ахвяраваў нам свой час у вышэйшай ступені бескарысліва.

- Ганна Барбара, асмелюся ўзяць пад сумненне, ці так яно напраўду. У цябе звычайна такая ясная і цвярозая галава, але перад ім ты цяпер аж млела. Гэтак можна прыйсці да абсурднай думкі пра. . .

- Элізабет! - Графіня Ганна Барбара рэзка паднялася з месца і пайшла ў дом. З тэрасы яна гукнула яшчэ раз: - Тэрэза, памажы распакаваць пакупкі.

Графіня Фінта ціхенька засмяялася ўслед сваёй братавай.

- І ўсё-такі мы не збіраемся псаваць сабе настрою, Пепі. Але добрая мамачка. . .

Жазефіна прытворна заклапочана ўздыхнула.

- І, апроч таго, было б страшэннай трагедыяй, калі б мамачка ўсім сэрцам прывязалася да гера прыдворнага статуарыя, бо ён жа закаханы ў мяне. Праўда, я яго выбранніца. Сёння раніцаю, яшчэ не было шасці гадзін, як ён узнагародзіў мяне пагулянкаю пад вокнамі.

- Ты звар’яцела, Пепі.

- Ніколечкі, цётухна Фінта.

- Тады звар’яцеў ён. Слухай, Пепі, калі я раскажу гэта дзядзьку Ёзефу, ён тры дні будзе рагатаць або так зазлуе на старога юрлівага ліса, які толькі лупіць вочы на тое, што яму не належыць, што разаб’е мне дарагую нядаўна набытую мною сеўрскую вазу. Мужчынам тут аніяк нельга верыць. Між іншым: не верце і гэтаму прайдоху Бетховену. Перш за ўсё ніколі не дазваляйце яму штосьці іграць для вас, якую-небудзь фантазію. Жанчыны, як матылькі, цягнуцца да яго магічнага святла, і я таксама пацягнулася б туды, калі была б маладзейшая, і вечна закаханае страшыдла даўно ўжо зжэрла б мяне.

- А я, цётухна Фінта, прасіла яго сыграць мне, але ён нават і не падумаў зрабіць гэтага.

- Што? Ты мне павінна прабачыць, Пепі, але ўсё-такі ты не такая ўжо непрыгожая і лядашчая, як графіня Тун, цешча князя Ліхноўскага, якая аднойчы проста кленчыла перад ім і дарэмна ўмольвала яго сыграць хоць некалькі тактаў. Ці. . . можа, ён сур’ёзна закахаўся ў цябе? Гэта мяне парадавала б: хай цяпер сам хоць раз адчуе, што гэта такое. Толькі дай яму зразумець усё як след, Пепі, але не разбі яму адразу сэрца. Бачыш, у яго з вушамі гэтая гісторыя. - Графіня Фінта прыклала пальцы да губ. - Ён дрэнна чуе, але яму ні ў якім разе нельга гаварыць пра гэта, ён не здагадваецца, што мы ўсе ведаем. Ну, і. . . ён зусім не ідэал мужчынскай прыгажосці, ды і скура ў яго занадта ўжо шурпатая. Але што да ўсяго іншага, то чалавек ён добры і мілы. Не разважаючы, я аддала б за яго любую з маіх дачок, якой аднак спачатку прыйшлося б добра ўзяць яго ў работу.

- Ужо хоць бы з-за другіх жанчын. Але чаму ён не хоча іграць пры мне?

Цётка Фінта паціснула плячыма.

- Дапусцім, што мая здагадка, быццам ён закаханы ў цябе, недалёкая да праўды. Аднак каханне тады павінна быць куды мацнейшае, і ў мужчын - прынамсі, спачатку - пры гэтым нельга не заўважыць слядоў высакароднасці. Я тут схільная думаць, што ён табе нічога дрэннага зрабіць не хоча, - каб зберагчы цябе, фройляйн Земеле, - і нават яшчэ бескарысліва - не даць табе згарэць і ператварыцца пад уздзеяннем яго боскага бляску ў попел.

- Ты сапраўды лічыш, што ён. . . ведае пра сілу свайго «боскага бляску»?

- Бетховен? Мілая Пепі, усе мужчыны перакананы ў моцы іх боскага бляску, нават і тады, калі яго ў іх няма!

Ён яшчэ крыху прайшоўся па горадзе. Стомленасць пасля мінулай бяссоннай ночы нарэшце ўсё ж такі ўзяла верх, а яму праз некалькі гадзін зноў трэба ісці на вечар. Але дзеля сну шкада губляць нават крышку гэтага дарагога часу, ды і пакоі ў кватэры пасля нялёгкага падымання па вітых усходах здаліся б яму цяпер клеткамі. Усё ў доме, каля якога ён праходзіў, ужо супакоілася, і толькі вартавы хадзіў узад і ўперад. Магчыма, з Францыі ці ад Банапарта прыйшлі тэрміновыя данясенні, якія даводзілася цяпер апрацоўваць маладому пасланніку Жану Батысту Бернадоту.

Банапарт, Арколе і Рыволі! У Арколе Банапарт, ужо галоўнакамандуючы французскай арміяй, пад градам куляў бег са сцягам цераз мост наперадзе салдатаў, а ў Камін Форміо ён пасля Рыволі прадыктаваў мір Аўстрыі. Яго пасланнік, сам рэвалюцыйны генерал, мог бы прэтэндаваць на рэзідэнцыю ў Гофбургу, але здаволіўся домікам на Вольцайле. Ён усё яшчэ аставаўся сціплым сынам беднага адваката.

Ён, Бетховен, аднойчы сказаў: «Генерал, ваша форма ззяе пазалотаю, але вы вельмі рэдка апранаеце яе». Яму ніколі не забыць Бернадотавай усмешкі: «Гэта праўда, для мяне на першым месцы - ідэя».

Вядома, і ў Аўстрыі было нешта накшталт «ідэі». Добраахвотнікі спяшаліся пад сцягі, і Ёзеф Гайдн, як патрыёт. у часіну страшэннай небяспекі напісаў гімн: «Божа, зберажы імператара Франца!», знарок уставіўшы яго ў сярэднюю частку «Імператарскага квартэта», што набыў такую гучную вядомасць. Нават ён, Бетховен, адгукнуўся дзвюма кампазіцыямі.

Ці мо ўсё яшчэ не спіць і рэпеціруе Рудольф Крэйцэр? Адзіная Бернадотава раскоша - прафесар парыжскай кансерваторыі і выдатны скрыпач Рудольф Крэйцэр, якога Бернадот узяў з сабою ў Вену. Таксама ціхі і сціплы чалавек.

- Qu I v Ive?!( Хто ідзе?! (франц. ))

Вокрык вартавога прагучаў, як стрэл. Вартавы, заўважыўшы, што незнаёмы да нечага прыслухоўваецца, западозрыў нядобрае і цераз вуліцу падышоў бліжэй. Бетховену, на якога хваляю найшоў радасны настрой, захацелася праверыць моц свайго новага дакумента. Дастаўшы з бумажніка невялічкі белы лісток, ён у святле ліхтара працягнуў яго вартавому. І спалохаўся ад нечаканасці: раптам забразгала, застукала; салдат, рэзка кінуўшы ружжо ўверх, узяў на «каравул», утаропіўся ў цывіліста, якому па строгаму загаду дакумента павінен быў аддаць такую ж пашану, як і самому генералу! Бетховен усміхнуўся. Бравы хлопец будзе ламаць сабе галаву і ўсё ж ніколі не знойдзе правільнага адказу, не зразумее, што гэты ружэйны прыём прызначаўся ўладзе па імені музыка.

З дня Кампа Форміо палітычная карта значна змянілася, на сметнік паляцелі многія кароны - але не карона яе вялікасці музыкі і не ў гэтым музычным доме, дзе бывала нямала венскай знаці. Ніхто больш не меў такога дакумента. Тут, у Вене, звычайна ніколі не залічвалі да знаці музыкантаў і нават карыфеяў музыкі. Ён гэта заўважыў даўно, хоць прыём у знатных дамах спачатку асляпіў яго. Рэдкія выключэнні толькі пацвярджалі правіла, і таму. . . на яго глядзелі як на цікавага музыканта, паслугамі якога карысталіся. Але варта было прагучаць апошняму гуку раяля, як ён зноў апускаўся ў той грамадскі пласт, да якога павінен быў належаць як прадстаўнік плебейскага зброду, як чалавек, вымушаны працаваць, даючы ўрокі і ствараючы музыку і гэтым зарабляючы сабе грошы. У лепшым выпадку на яго глядзелі як на модную навінку, якою ён у пэўнай ступені, зрэшты, і быў: першым музыкантам, які спрабаваў зарабляць на жыццё як вольны мастак, вольны асабіста як чалавек, які не хацеў адставаць ад тых, хто нарадзіўся дваранінам, быў прывілеяваны і жыў плёнам працы сваіх падначаленых. І тым не менш рабілася ўсё выразней, што фанабэрыстыя прывілеяваныя ніколі не выпусцяць яго з гэтага пагарджанага саслоўя, і таму ён, у сваю чаргу, адказваў ім пагардаю, якую часта з задзірлівым сарказмам дэманстраваў у салонах перад m Isera plebs, нікчэмнай чэрню, перад тымі, хто на яго думку быў ёю.

А Жазефіна? Гэтую дзяўчыну, здавалася, ён ведаў як другую, лепшую частку ўласнага «я» ўжо мільёны гадоў! Чаму толькі яна дваранка? У яго жыцці яна першае вялікае сапраўднае каханне, але з самага пачатку над ім вісіць знак адрачэння. . .

Ён усё-такі пайшоў дадому. Калі ў пакоі запаліў свечку, яе святло адбілася на залатой табакерцы на камодзе. Перад гэтым ён корпаўся ў шуфлядзе і, мабыць, міжволі выбавіў яе наверх. Табакерка - падарунак прынца Луі Фердынанда Прускага і ўспамін пра паездку з фартэпіяннымі канцэртамі ў Прагу, Берлін, Дрэздэн, Лейпцыг і Нюрнберг. У Берліне перад ім іграў сам прынц, і Бетховен па-свойму пахваліў яго: «Іграеце вы зусім не па-каралеўску і не як прынц, а як сапраўдны кваліфікаваны піяніст». Ах, колькі было жаху і перашэптаў прыдворных лісліўцаў! Даволі забаўная прыгода, але ўсё асталося дзесьці ў мінулым, у даўно зніклым свеце. Цяпер існавалі толькі вочы дзяўчыны. . .

Праходзіў дзень за днём, і іх нельга было параўнаць ні з якім днём дагэтуль, можа, хіба толькі з тымі хвілінамі, калі дзеля яго зноў шумеў лагодны ветрык, паступова набіраючы моц буры, калі трашчаў агеньчык, танцуючы наперадзе і паказваючы яму дарогу. Куды? Праўда, куды? Гэтая дзяўчына таксама была, як той спакуслівы агеньчык, і ўсё ж куды завядзе яго? Цаной, якую ён ужо прывык плаціць, заўсёды была адна няўцешная адзінота. Не думаць пра гэта! Дзесяць, дванаццаць, цяпер чатырнаццаць дзён - заплюшчыць вочы!

Кожнае раніцы ў пяць гадзін ад «Залатога грыфа» ад’язджалі экіпажы ў Аўгартэн, Дорнбах ці к Пратэру. Усюды снедалі і ўвесь час смяяліся. У адзінаццаць гадзін зноў вярталіся ў

Вену, бо ўрокаў прапускаць было нельга. І пастаяльцы «Залатога грыфа» нарэшце не вытрывалі і ўзбунтаваліся. З'ехала парадкам гасцей, бо графіні практыкаваліся і ноччу. Спачатку ўрокі цягнуліся дзве гадзіны, потым чатыры, потым пяць і нарэшце шэсць. І «Залаты грыф» зноў распушыў сваё грыфавае пер'е. Бо графіням хацелася есці, а агні даўным-даўно былі патушаны. Калі не танцавалі ў Фінтаў, наведвалі тэатры, і кожны вечар канчаўся ў кандытарскай на вуліцы Грабен.

Аднойчы перад абедам на перапыпку, які яны зрабілі паміж урокамі, Тэрэза сказала:

- Гер ван Бетховен, у мяне да вас ёсць яшчэ адзін клопат, адно пытанне.

Ён схіліўся ў паклоне, і яго жэст, праз які праглядвала чаканне, загадзя сведчыў пра адабрэнне.

- Слухаю вас, графіня.

- Наш нябожчык тата, якому мы абавязаны гэтай сустрэчай, і. . . незабыўныя дні, якія нам пашчаслівіла правесці разам. . .

Ён адразу здагадаўся, што гэта паведамленне аб расставанні.

- Значыцца, неяк мой бацька пазваў нас, мяне, старэйшую дачку і брата Франца. Ён сыграў нам вашу санату і сказаў: «Дзеці, у гэтай музыцы ёсць нешта асаблівае, не толькі ў музычных адносінах, але і ў чалавечых, і калі вам аднойчы пашанцуе сустрэць гера ван Бетховена, - бацька ўжо тады быў цяжка хворы, - папрасіце яго далучыцца да нашай «суполкі-рэспублікі».

Яна ўсміхнулася і паправілася:

- Словы «суполка-рэспубліка» ён, вядома, не гаварыў. Іх упершыню ўжыла Пепі.

Жазефіна стаяла каля акна і забаўлялася кутасамі шторы.

- Радуйцеся, што я знайшла вам гэтую назву. Яна, я лічу, куды лепшая, чым чуллівае французскае «Soc Iete humaine». І куды больш па-бунтарску перадае рэвалюцыйную ідэю: галоўнае не ў рангах і саслоўным становішчы, а ў самім чалавеку.

Тэрэза ўхвальна кіўнула галавою:

- Бясспрэчна, у чалавеку, якога тата, як Дыяген са сваім ліхтаром, шукаў усё жыццё. Ну дык што вы скажаце на гэта, гер ван Бетховен? Тым самым здзейснілася б жаданне нашага нябожчыка таты, а нам гэта быў бы вялікі гонар. Аднак прыняць вас канчаткова можа толькі мой брат Франц як старэйшы ў сям'і, а дзеля гэтага вам прыйдзецца прыехаць у Мартанвашар, дзе адбудзецца цырымонія, звязаная з пэўнымі ўрачыстасцямі. Вы, я думаю, прыедзеце ў Мартанвашар? Там прыгожа, мы цэлы дзень маглі б займацца музыкаю. Вядома, у наша «Soc Iete huma Ine» вы ўступіце не як піяніст і не як кампазітар, а толькі як чалавек, як вы ёсць. Вы дазволіце паведаміць майму брату добрую вестку?

Бетховен узрушана пацалаваў ёй руку.

- Калі вы лічыце, што я варты быць членам вашага таварыства. А калі ад'язджаюць графіні?

Тэрэза зірнула на сястру.

- У нядзелю, гэтак, здаецца? Мама ж гаварыла пра нядзелю.

У голасе ў Жазефіны спакойна загучаў званочак.

- Правільна, у нядзелю на досвітку. Значыцца, у Вене мы будзем яшчэ тры дні, і праз тры дні неба для нас або абрушыцца, або і раскрыецца. Можа, мы прадоўжым урок, гер ван Бетховен? Цяпер мая чарга.

- Гер ван Бетховен, тым не менш я ўжо цяпер хачу вітаць вас у нашай «суполцы-рэспубліцы» і думаю, што магу зрабіць гэта і ад імя майго брата. Пепі, ты таксама павінна зрабіць гэта.

Жазефіна здзіўлена і неяк пакрыўджана зморшчыла лоб.

- Я ж нават не член гэтай суполкі. Вы забылі ці, можа, не надавалі значэння таму, каб прыняць мяне ў сапраўдныя члены. Ды і, апроч таго, - яе губы пагардліва сціснуліся, - я не згодна з вашым дэвізам «сяброўства».

Усе ўспаміны пра балючыя падзеі, якія яму прыйшлося стрываць у жыцці, збляклі: і пакуты з воспаю, і пакуты дзяцінства. . . Ён сказаў самому сабе наступныя словы, запісаў іх нават у дзённік: «Не, бедны Бетховен, няма табе ў жыцці шчасця!» Але ўсё гэта глупства, жарты, не больш як грымаса, як грымасаю было, што ён у гэтую, можа, апошнюю паездку з графінямі

расказваў як гратэскавы эпізод гісторыю з канём.

Якою жаданаю сядзела насупраць яго Жазефіна і як гарэзліва блішчалі яе цёмныя вочы!

- Ну, не марудзьце, гер ван Бетховен, вам усё роўна гэта нічога не паможа. Учора князь Ліхноўскі намякнуў мне, а раз я сама заўзятая наезніца, то яшчэ больш хочацца ведаць: вы таксама захапляецеся верхавою яздою?

Ён засмяяўся.

- У мяне дагэтуль справы так і не пайшлі далей за бяскрыўдныя ўрокі.

- Ага, значыцца, вы бралі ўрокі верхавой язды. Але ж, мабыць, дзеля таго, каб пакрасавацца на кані перад якою-небудзь красуняю?

- Усё ў тым, што граф Броўн за некалькі прысвечаных яму твораў падараваў мне каня.  І тады д'ябал падбіў мяне вучыцца верхавой яздзе, але канец. . .

Жазефіна спачувальна падміргнула яму.

- Што ж зробіш, бывае, і вольт цераз галаву, бывае, і конь імчыцца занадта хутка, і прыходзіцца з'ехаць на зямлю па конскім крыжы?

- Я нават не скончыў яшчэ ўрокаў верхавой язды і ўсяго толькі два ці тры разы праехаўся па Вене.

Гэта выклікала ў Жазефіны новую думку.

- Янаш! Падрыхтуй назаўтра сёдлы на «Аспера» і «Драганта». Мы паедзем разам, гер ван Бетховен. У Дорнбах ці, можа, вам больш падабаецца Гейлігенштат?

- Богам прашу, графіня!

- Цяпер і мне хочацца хоць раз пабачыць вас верхам на кані. Ды ў гэтым ёсць і свая шляхетнасць. За ўрокі музыкі я магла б аддзякаваць вам урокамі верхавой язды, якіх вы яшчэ не дабралі. Вы нас добра паганялі на фартэпіяна - тут я згодна, што не магу ўгнацца за вамі, але ў верхавой яздзе вы наўрад ці ўгоніцеся за мною, і тады я ўволю паганяю вас, гер ван Бетховен. Мы прайшлі б усю вышэйшую школу верхавой язды. Думаеце, вам удасца зрабіць добрую ляваду ці пясаду (Лявада, пясада, пасада - фігуры ў верхавой яздзе. )? Апошнюю, між іншым, нельга блытаць з пасадаю.

Твар яго балюча перасмыкнуўся.

- З чым?

Жазефіна паківала галавою.

- Я ўжо бачу, што вы не валодаеце нават асноўнымі паняццямі. Так, так, гэта не так проста, як іграць на фартэпіяна, але я буду трымаць вас на кордзе. Янаш! Прыйдзецца набыць нам корду.  І калі я лясну бізуном і скамандую: «Гоп!» - ну дык які працяг у вашай гісторыі?

Сёння ў карэце іх было ўсяго трое: абедзве графіні Брунсвік і Бетховен. Графіня Ганна Барбара пайшла ў горад з непазбежным спадарожнікам, прыдворным статуарыем Мюлерам, а сямейства Фінта, па словах Жазефіны, «палягло ўжо на полі гонару». Усе яны разам мужна змагаліся з танцамі і тэатрам, з аглядам горада і наведваннямі кандытарскай на вуліцы Грабен, але вось цяпер «у іх, у гэтых слабых гарадскіх, аж пазелянеў кончык носа, і цётцы Фінта прыйшлося адправіць стрыечных сясцёр у ложак і частаваць рамонкавым настоем».

Бетховен расказваў далей:

- Значыцца, выехаў я пару разоў, а потым заказалі мне напісаць некалькі кампазіцый. За работаю некалькі тыдняў, а можа, і некалькі месяцаў я не ўспамінаў пра свайго каня, пакуль не прыйшлося плаціць за корм, і гэта з'ела ўвесь мой ганарар за кампазіцыі. Прыйшлося яшчэ растраціцца на добры стэк і напісаць ім рахунак майму слузе. Бо гэты круцель, мой слуга, на ўвесь час аддаў каня камусьці напракат, не заплаціўшы ні за аднюткае зярнятка аўса, а грошы за пракат ён, вядома, палажыў сабе ў кішэню.

Яны так рагаталі, што не пачулі нават шуму з Пратэра, куды ехалі наведаць найноўшы венскі атракцыён - зоркавы балаган. Карэта спынілася.

- Тэрэза, мы ўжо прыехалі. Пара выходзіць!

Тэрэза аднак і не думала падымацца з месца.

- Вы не будзеце злаваць на мяне, калі я паеду дадому? Карэту я вам адразу ж прышлю назад. - Яна ўсміхнулася. - Пепі, у мяне нічога не баліць, і вы, гер ван Бетховен, не цешце сябе ілюзіямі - урок прапушчаны не будзе.

Жазефіна паглядзела ўслед сястры.

- Што гэта з ёю раптам? Тэрэза, мусіць, яшчэ адна ахвяра святаў. З усёй кампаніі толькі

мы і асталіся. Наперад! Не, ад гэтага натоўпу і ад гэтай балаганнай карціны мяне аж трасе.

Ён здрыгануўся. На твары адбіліся разам і здзіўленне і жах. Ён ухапіўся за вушы, пачаў іх церці. Яна здагадалася, не, ёй раптам стала ўсё ясна, яна хутчэй вывела яго з балагана, каб можна было гаварыць гучней, так, як калісьці Тэрэза, і потым, усміхаючыся, павярнулася да яго тварам.

- Мне даўно ўжо карцела пабываць на такім гулянні, без мамы, без цётак і іншай начальніцкай аховы.

Ён пачціва пакланіўся.

- Пэўна ж, графіня. Мы можам вярнуцца ў горад і засесці за ўрок.

Значыцца, ён усётакі не разумеў, што гаварылі яе губы, і ёй прыйдзецца спачатку навучыцца гэтаму. І як нечакана навалілася на яго. . . Але яно, здаецца, праходзіць? Ну, пэўна ж, праходзіць, бо на яго твары зноў з’явілася чырвань.

Яе пытанне было нейкае дурное.

- Вы бачыце вунь тыя каруселі? Можа, мы ўжо сёння паспрабуем паездзіць на іх коніках?

Ад шчасця, што усё прайшло, яна сціснула яго руку, адчула пяшчотную блізкасць да яго. Потым, радая, пабегла наперад, каб ён не бачыў слёз, што вось-вось па-здрадніцку гатовы былі заблішчаць на яе вачах. Аднаго разу яна бачыла птушку, якая рознымі, здаецца, нават вясёлымі падманнымі манеўрамі адводзіла ад свайго гнязда ўбок драпежнага звера. Гэтая роля выпала цяпер ёй. Ён, відаць, усё яшчэ баяўся, што вернецца зноў тое жахлівае, і таму ёй трэба цяпер прагнаць гэтыя думкі.

- Не, драўляныя карусельныя жарэбчыкі, здаецца, яшчэ мала аб’езджаныя, а на беднага жывога небараку каня, што круціць увесь гэты механізм, ажно шкода глядзець.

- Можа, наведаем паноптыкум, графіня?

- Гер ван Бетховен! І вы асмельваецеся раіць мне гэтакую забаву? Тлумачэнні будзе даваць пэўна не хто другі, як стваральнік васковых фігур, прыдворны статуарый Мюлер? Лепш падаруйце мне пернікавае сэрца. Вунь крама. - І яна пабегла далей. - А там я бачу балаган для гульні ў косці. Хачу паспрабаваць шчасця, а можа, і ў вас ёсць такое жаданне? Бо выйграе, кажуць, той, хто менш шчаслівы ў каханні. Ён будзе шчаслівейшы ў гульні.

Ён адразу ж узяўся за кубак з гулецкімі касцямі:

- Каб усё залежала толькі ад гэтага. . .

- Асцярожна, гер ван Бетховен! А што, калі вы раскрыеце сваю таямніцу?

Але ён ужо трос кубак.

- Колькі разоў дазваляецца выкідваць косці?

Уладальнік балагана адказаў:

- За адзін гульдэн тры разы ўсімі трыма касцямі. Улічваецца кідок, які будзе мець найбольш ачкоў.

Бетховен выкінуў косці, і ўладальнік балагана, каб прыцягнуць увагу публікі, гучна абвясціў:

- Двойчы па васемнаццаць! Шчаслівы дублет! Выбірайце любы з выйгрышаў!

Бетховен павярнуўся да Жазефіны.

- Што б вы выбралі, графіня?

- Вунь той пярсцёнак. Ён хоць і з бронзы, але гэта няважна. Даволі прыгожая рэч. У змейцы ёсць нешта містычнае. Быццам гэта. . . жуковіна, якая вызначае чалавечы лёс. Падарыце яго мне. Але тады. . . надзеньце яго, калі ласка, мне на палец.

- Ці ж не ганьба гэта? - сказала Жазефіна. Яны вярталіся ў «Залаты грыф» і праходзілі міма сабора святога Стэфана. - За беганінаю забылі наведаць славуты сабор святога Стэфана.

Бетховен дастаў гадзіннік.

- Часу ў нас яшчэ хопіць. Можа, цяпер заглянеце на хвілінку? Сабор я ведаю добра, але больш з вышыні хораў, дзе арганы. Раней я тут сяды-тады іграў, практыкаваўся, імправізаваў. Арганы цудоўныя, толькі рукі, на жаль, да ўсяго не даходзяць. Хоць гер Альбрэхтсбергер, капельмайстар сабора, і даў мне ключы ад арганаў. І яны ўсё яшчэ ў мяне ёсць.

Ён падняўся па лесвіцы наверх і прапусціў Жазефіну да парэнчаў. Яна ўбачыла вялізны неф з урачыстым змрокам, каплічкамі і сотнямі фігур. Далёка ўверсе пад каменным

перапляценнем сеткавага купала перад галоўным алтаром, асветленым нейкім мяккім святлом, тлеў агеньчык нязгаснай лампады. Ён глядзеў на Жазефіну і ўсміхаўся.

- Я ведаў, што гэтая карціна ўразіць вас.  І тым не менш я не аматар мураваных дахаў, купалаў, арак, манументаў і ўсяго таго, што зроблена людзьмі. Больш глыбокім пачуццём мяне напаўняе прырода. У лес я заўсёды ўваходжу праз вароты, якія здаюцца мне больш велічнымі, чым вось гэты вялізны ўваход.  І ўсё ж я павінен сказаць, што гэтае месца. . .

- Вымушае паводзіць сябе пакорліва, а мне хочацца цяпер быць каралевай, глядзець у глыбокім роздуме перад сабою і. . . слухаць Людвіга ван Бетховена, які б іграў дзеля мяне.

Яго твар азмрочыўся.

- Але тут не знайсці нікога, хто б напампоўваў паветра ў трубы.

Яна зрабіла выгляд, быццам не бачыць яго наскрозь.

- Вось тут у маім рыдыкюлі ёсць яшчэ адзін дукат, за які мне хацелася б нешта купіць на добры ўспамін пра Вену, а найлепшым успамінам мне была б ваша ігра. Як вы думаеце, служка за дукат не возьмецца памагчы?. . Я пазаву яго.

Ён падняў руку.

- Не трэба, графіня!

- Усім вы іграеце. . . толькі не мне, нават калі я вас вельмі прашу.

Ён злёгку нахіліў галаву і падняў на яе вочы. Ён думаў. Некалькі неразумна хуткіх удараў сэрца яна вычакала са страхам. Яе спроба дамагчыся, каб ён іграў, таіла ў сабе небяспеку, але жанчына ў ёй не хацела здавацца.

- Вы ігралі Тэрэзе, вашай сяброўцы. Я ведаю яшчэ, што вы раней, - праўда, было гэта раней, - яна агаварылася, каб не раніць яго вельмі балюча, - цэлымі гадзінамі ігралі княгіні Ліхноўскай. Вядома, калі просіць такая нязначная асоба, як я. . .

- Графіня! - Якая яна мілая, даражэйшая за ўсіх гэтых святых і анёлаў у пазалоце, хоць на ёй толькі простая сукенка. А што, калі сыграць - каб не пакінуць уражання недалікатнасці і нават нявыхаванасці?. . - Ён прыняў рашэнне. - Вам, відаць, прыйдзецца прабачыць мне, графіня. . .

- Значыцца, адмаўляеце канчаткова?

- Канчаткова.

Вочы яе свяціліся мяккім ззяннем, але яна так энергічна заматала галавою, што заскакала нават пасмачка валасоў над ілбом.

-  І ўсё ж вы будзеце іграць! Часам жанчына мусіць-такі дамагчыся свайго. А мне хочацца паслухаць нешта накшталт імшы - імшы на маіх заручынах! Калі будзе вяселле я дакладна яшчэ не магу сказаць. Дасць мама дазвол, то адразу ж, а не - прыйдзецца крышку пачакаць. Як бы там ні было, а вянчацца я буду вунь там, доле, каля алтара. Магу я цяпер папрасіць вас, гер ван Бетховен, каб вы сыгралі дзеля свае. . . нявесты? - Ён не разумеў ніводнага слова, і яна ўздыхнула. - Вы ўсё толькі ўскладняеце, робіце яшчэ цяжэй, хоць мне і так ужо нялёгка. Бо згоды звычайна пытаюцца ў беднай, слабай, балеснай дзяўчыны, а мне прыходзіцца прасіць вашай рукі, не ведаючы нават, ці згодзіцеся вы на жыццёвы саюз. Вы гэтага наогул хочаце? А мяне вы хоць крышку кахаеце?

Што ён мог адказаць ёй? Ён толькі не зводзіў з яе вачэй. . .

- Гер ван Бетховен, толькі што, вось тут, у саборы святога Стэфана, магчыма, на месцы, не зусім прыдатным для гэтага, я прызналася вам у каханні. Але вам пажадана аставацца нямым, як рыба. На жаль, для мяне ўсё гэта сур’ёзна, гер ван Бетховен, і вам прыйдзецца сказаць, што вы думаеце аб маім. . . жаданні.

Ён зусім збянтэжыўся.

- Я ж толькі. . . ды яшчэ ж і непрыгожы.

- Вядома, вас нельга назваць красуном, але мне здаецца, што я даволі прыгожая, і гэтага, мабыць, хопіць на нас абаіх.

- А. . . - На яго твары адбілася вялікая пакута.

- Ваш слых? Ён палепшае, а калі і не палепшае. . . Тады я буду слухаць за дваіх. Вы можаце назваць яшчэ прычыны, якія з’яўляюцца перашкодаю? Бачыце, нягледзячы на ўсё, графіні Жазефіне фон Брунсвік убілася ў галаву думка: вунь там, доле, яна скажа вам, што згодна быць вашаю жонкаю. - Яна блізка-блізка падышла да яго і спыталася з такою пяшчотаю, якая зусім збянтэжыла яго:- Ну дык пацалуеце вы мяне нарэшце ці не - нас жа тут ніхто не

бачыць?

Яго здранцвенне саступіла месца нейкаму страшэннаму неспакою, але ён, відаць, усё яшчэ не адважваўся дакрануцца да яе. Як бы шукаючы дапамогі, ён павярнуўся да арганаў.

- Ці, можа, ты спачатку сыграеш?

- Добра, добра. - Ён быў рады гэтай маленькай затрымцы, якая дазволіла яму прывесці ў парадак пачуцці, перавернутыя недаступным яго розуму шчасцем. Уладарным жэстам ён падазваў да сябе служку, які ў нефе аб нечым коратка і шматзначна перашэптваўся з наведнікамі сабора і адразу ж, як на крылах, узляцеў на хоры.

- Будзеш напампоўваць мяхі!

- Слухаю, гер ван Бетховен.

Служка знік за арганамі, мяхі напоўніліся паветрам. Ён падцягнуў некалькі галовак рэгістравых клапанаў, памяняў тоны, выбраўшы новыя. Што яму цяпер іграць, суладнае яго настрою?

Не, гэта яшчэ не ігра, а толькі шыпенне ў мяхах. А мо гэта. . . ціхі покліч? Ля мажор? Састэнута, і чыстае трохгалоссе? Пачалі! Якія грымоты! Вядома, арганы і так інструмент для гігантаў, але цяпер усё ж было б нядрэнна ўвесці ў ігру яшчэ і аркестр. Дапоўніць ігру хорам мужчынскіх галасоў, істот, якія ўмольвалі б, гэтак як ён калісьці ўмольваў у сваёй адзіноце і ў горы. Дык жа клічце! Фортэ! Фартысіма! Арганы і інструменты, і ўсё і ўсё! Новыя рэгістры. Выканаўцы на драўляных інструментах, флейтысты! Чуеш, м Ілая, гэта падзяка простага чалавека, на якога раптам пасыпаліся ўсе шчадроты! Вядучы септакорд! Толькі бачнасць дысанансу! Бо цяпер. . . крэда, крэда і - глорыя! Святы. . .

Арганы змоўклі. Але. . . штосьці ўсё ж было яшчэ чуваць. Няўжо гэта плач, шчаслівы плач? Жазефіна кленчыла перад арганамі каля ўслончыка, і ён спалохана падняў яе.

- Мілая!

- Гэтак яшчэ не ўшаноўвалі ніводнай каралевы, скажы. . . што ты іграў?

Ён пацёр лоб.

- Калі б я сам ведаў. . . Я проста ўзяў і сыграў, і - калі ты цяпер аддасі мне нават апошні дукат, яно не вернецца, як ветрык. . .

Калі пазней яны выходзілі з царквы, людзі, што выпадкова аказаліся тут, з пашанаю і неяк нясмела падаліся назад, і ім прыйшлося ісці праз іх рады. Сёй-той кланяўся, і Жазефіна адказвала ветлівым, але поўным годнасці кіўком. Ён пацікавіўся:

- Твае знаёмыя?

- Мае? Адкуль яны ў мяне? - Яна ўзяла яго руку і пяшчотна паціснула яе. - Ах ты мой разумненькі. . . дурнічка.

- Людвіг, можна пра ўсё расказаць Тэрэзе і майму брату Францу. Караліна, малодшая сястра, у нас крыху балбатлівая, але Франц будзе табе добрым сябрам. - Яна ўсміхнулася. - «Вашая суполка-рэспубліка!» Разумееш цяпер, чаму мяне не цікавіў ваш саюз з дэвізам «Сяброўства»? Тады ў цябе на твары быў такі выраз, быццам ты асу праглынуў. Ты мяне кахаеш? Ты гэтага мне так і не сказаў, як не сказаў, ці прыгожая я. А жанчыны такое любяць слухаць. Ім гэта - як кветкам вада. Ты мяне, наогул, слухаеш?

- Кожнае слова. Пытаешся, чаму я такі маўклівы? Я думаю. За што ты кахаеш мяне?

- Ну але, за што? Я сама не ведаю і нават шкадую аб гэтым. Магчыма, прычына тут у практычных меркаваннях, што пазней я дармова буду браць урокі на фартэпіяна? Тым самым будзе сэканомлена безліч грошай.

- Ты проста цуд.

- Я ўпэўнена ў гэтым.  І ўсё ж табе пакуль што нічога не трэба гаварыць маме. - Яна затрымала яго перад вітрынаю. - Ты што-небудзь бачыш у люстэрку? Толькі мяне? Мусіць, так яно і ёсць, але на гэты раз я маю на ўвазе штосьці другое. Ты не заўважаеш, які ты бліскучы і прыгожы? Значыцца так, мой добры Людвіг: калі ты станеш непрыгожы, я буду ведаць, што каханне тваё да мяне прапала, а, па-другое, у цябе ёсць у вышэйшай ступені просты сродак быць прыгожым.

- Мілая, каб жа мне можна было пацалаваць твой лоб і тваю пасмачку валасоў, за якою ўзнікаюць такія думкі.

- Толькі пасмачку?

- І губы таксама.

Яна ўздыхнула.

- Даўно ўжо пара, і спадзяюся, што «Залатога грыфа» ты будзеш баяцца менш, чым залатых святых у саборы святога Стэфана.

Калі Жазефіна асцярожна адчыніла дзверы ў музычны пакой, каб апынуцца там нечакана для сястры, Тэрэза сядзела каля раяля і, угнуўшы галаву, таропілася ў клавішы.

- Тэрэза, ты не злуешся на нас, што мы крыху запазніліся? Спачатку мы пагулялі на кірмашы, а потым на хвілінку зайшлі ў сабор святога Стэфана. - Жазефіна заўважыла нешта незвычайнае ў паводзінах Тэрэзы. - Што з табою? Што-небудзь здарылася? А мама дзе?

Тэрэза неяк сумна паціснула плячыма.

- Наверсе. Прыйшоўшы з горада, яна зачынілася ў сваім пакоі. Потым загадала пазваць мяне. У яе дрэнныя навіны. Мне, мабыць, можна. . .

Тэрэзіны разумныя вочы спыніліся на Жазефіне і Людвігу, і Жазефіна зразумела тое, што не сказана.

- Вядома, цяпер ты можаш гаварыць пры ім. А ўсё пачыналася так добра, як любіла паўтараць мама. Прыйдзецца прадаваць Мартанвашар? Мой дарагі Мартанвашар?

- Каб жа толькі Ім адным абышлося. . .

- І дом у Офене таксама? Ці хопіць хоць заплаціць даўгі?

- Пакуль што мне і самой гэта не зразумела, Пепі.

- Але адно ўжо бясспрэчна зразумела. Гер ван Бетховен, калі вы разлічвалі атрымаць за мною багаты пасаг, то мне прыйдзецца, на вялікі жаль, расчараваць вас. Я не казачная прынцэса з замкам. Можа, пры такіх акалічнасцях вы захочаце ўзяць сваё слова назад?

Ён схіліўся ў паклоне.

- Графіня, можна мне ў прысутнасці вашай сястры, як сведкі, даць канчатковы адказ? Я шчаслівы, што вы бедная, і калі ты сапраўды хочаш выйсці за мяне замуж, я буду твой да смерці, неўміручая ты мая каханка.

Ён пацалаваў яе.

Жазефіна, нарэшце, засмяялася.

- Гэта, мусіць, варта Мартанвашара і нават дома ў Офене. А мо ў нас знойдзецца яшчэ сёе-тое з нерухомай маёмасці, і мы далучым яе да таго, што пойдзе на аўкцыён? Тэрэза, ты нават і ўявіць сабе не можаш, як цяжка прымусіць гэтага чалавека цалавацца! Можа, мне падняцца да мамы?

Тэрэза толькі адмахнулася.

- Не. Цяпер у яе прыдворны статуарый Мюлер.

- Маг з васковым чарадзейным коранем, які, аднак, нічога не памог. . . Людвіг, нам трэба нешта зрабіць! Можа, пойдзем іграць па дварах? Што б там ні было, цяпер нам пара ўзяцца за ўрок. Калі ў цябе няма настрою, Тэрэза, пусці мяне за раяль. Я буду іграць цудоўна. Бо ў дзень сваіх заручын у чалавека заўсёды выдатны настрой, дый апроч таго. . .

За яе пасмачкаю зноў замітусілася адна з нечаканых і вясёлых задум.

- Дый, апроч таго, у мяне з галавы не выходзіць герцагіня N. Аднаго разу, калі яна надзявала строі, рыхтуючыся да балю, ёй перадалі сумную навіну. А яна сказала: «Я глыбока ўражана, але плакаць, на жаль, буду толькі заўтра». - Яна села за раяль і сыграла пасаж. - Калі прычына ўсё-такі знойдзецца, - мне прыйдзецца, як ні шкада, свой плач таксама адкласці на заўтра.

Але праз гадзіну заняткі прыйшлося спыніць, бо ўсе падставы былі меркаваць, што графіня Ганна Барбара захварэла сур’ёзна. Спачатку наверх да яе пазвалі Тэрэзу, а потым і Жазефіну. Жазефіна хутка вярнулася ўніз.

- Не ведаю, што з мамаю. На ўсякі выпадак я загадала пазваць доктара. Людвіг, мілы, зразумей мяне правільна. Маму цяпер проста нельга пакідаць адну.

Ён адразу ж падняўся з месца.

- Ну пэўна ж. Што з мамаю?

- Я сапраўды не хачу ад цябе нічога ўтойваць, мілы. Яна. . . У страшэннай трывозе.

На парозе з’явіўся Янаш.

- Яе правасхадзіцельства просіць графінь зараз жа падняцца наверх.

- Добра, Янаш. Ты ідзі ўжо, Тэрэза. - Яна пачакала, пакуль выйшла сястра. - І трэба ж,

каб гэта здарылася менавіта сёння, але, - Жазефіна знайшла ў сабе сілы ўсміхнуцца, - але пазней мы гэта нагонім. Да пабачэння, Людвіг. Я прышлю па цябе Янаша, калі. . . Між іншым, стваральнік васковых фігур і прыдворны статуарый штосьці гаварыў пра нейкую апошнюю магчымасць, якая быццам яшчэ існуе. Ва ўсякім разе я дам табе вестку, і. . . вялікі дзякуй. . . за ігру ў саборы святога Стэфана, за. . . пярсцёнак са змейкаю. Пярсцёнак, праўда, фальшывы, але, спадзяюся, не імя, якое ты мне даў? Яно цудоўнае, Людвіг, самая цудоўная музыка, якую мне дагэтуль даводзілася чуць.

Ён прыцягнуў яе да сябе.

- Мая неўміручая каханка!

Ён адчуў, як яе губы дакрануліся да яго губ. А потым і за ёю зачыніліся дзверы. . .

Прыйшло сямейства Фінта: граф Ёзеф фон Фінта, палкоўнік Арцырэйскага лейб-гвардзейскага палка яго імператарскай вялікасці, у парадным мундзіры, трымаючы пад рукою капялюш з плюмажом, і з ім графіня Элізабет Фінта. Яны ўсё хацелі даць параду, памагчы, але з гэтага нічога не выходзіла. Графіня Ганна Барбара то ляжала нерухома, то яе пачыналі калаціць прыступы нейкага шалёнага неспакою.

- Вы не можаце памагчы мне, Элізабет.

- Ганна Барбара, калі ты захочаш, то Ёзеф па вашай справе можа нават звярнуцца да яго вялікасці.

- Не мучце мяне, калі ласка.

Граф Фінта схіліўся да яе.

- Ганна Барбара, я ахвотна зраблю гэта і нават спадзяюся, што аўдыенцыя будзе паспяховая. Бо твой нябожчык муж за яго сумленнасць карыстаўся пры двары вялікім аўтарытэтам.

- Не! Не! Не! - Графіня Брунсвік закалацілася ў прыпадку. Тут жа да яе падскочыла Тэрэза і, прасунуўшы пад матчыну галаву руку, крыху прыўзняла яе.

- Калі ласка, супакойцеся, мама. - І паднесла да яе губ шклянку з вадою. Выпіўшы, графіня Ганна Барбара зноў вярнулася ў стан паўсоннай вяласці.

Граф Фінта зірнуў на жонку: бачыш, усё дарэмна, і тая згодна кіўнула: «Але, трэба ісці». У калідоры графіня Фінта шэптам сказала Жазефіне:

- Пепі. . . калі вам спатрэбіцца наша дапамога. . . вядома, гэта жахліва, калі б прыйшлося развітацца з Мартанвашарам - толькі, вы ж ведаеце, дзядзька Ёзеф - афіцэр і не адораны багаццем. Каб хоць крышку ведаць дакладней пра даўгі. . .

- І я сапраўды магу папрасіць аўдыенцыі ў яго вялікасці.

- Веру табе, дзядзька Фінта, толькі, - Жазефіна паматала галавою. - Не, адным Мартанвашарам наўрад ці абыдзецца.

- А чым яшчэ?

- Дакладна не ведаю, але баюся, - яе раптам закалаціла, - што ёсць тут нешта такое, чаго палохаюся і я. - Яна паспрабавала ўсміхнуцца, але ўсмешка выйшла нейкая слабая і нясмелая. - А вы ж ведаеце, што я яшчэ ніколі не баялася прывідаў.

Вярнуўшыся ў пакой, яна пачула, як маці казала Тэрэзе:

- Дзіцятка, падыдзі да акна і паглядзі на вуліцу, ці не ідзе там хто-небудзь. - Раптам яна яшчэ раз прыўзнялася на ложку. - Перадайце Янашу і Бранка: калі з’явіцца гер Мюлер - зараз жа скажаце пра яго мне, і ноччу таксама.

Пазней, калі Жазефіна вярнулася да маці, тая ўжо спала. Тэрэза, абняўшы сястру, шапнула ёй:

- Бедненькая мая, і трэба ж у такі дзень. . . Жазефіна задрыжала ўсім целам.

- Я раптам чамусьці баюся і за яго, яшчэ больш, чым за сябе.

Жазефіна спрасонку аглядалася на бакі.

- Каторы час?

- Дзевяць гадзін, соня. Але цяпер мне ўсё роўна прыйшлося б разбудзіць цябе. Цябе заве мама.

Жазефіна ўскочыла з ложка.

- Як мама?

- Намнога лепш. Здаецца, гер прыдворны статуарый Мюлер прынёс ёй добрую вестку. Ён яшчэ там. Табе, пэўна, прыйдзецца прыняць удзел у нарадзе.

- Я ва ўсіх гэтых фінансавых справах, як баран у аптэцы. Я магу ездзіць верхам, скакаць, смяяцца і даволі міла іграць на піяніна, як сказаў яшчэ ўчора Людвіг, гэты ўпарты чалавек, з якога кожны камплімент літаральна прыходзіцца вырываць сілаю. - Позірк яе стаў летуценны. - Я магу быць вернаю каханкаю, рабіць яшчэ сёе-тое - толькі скажы мне, Тэрэза, ці ўдасца нам зберагчы Мартанвашар? Тое, што я цяпер скажу, мабыць, несур’ёзна, але мне хацелася б абысці з Людвігам і дом, і парк, і хлявы, схадзіць да ветрака, паказаць яму ўсё. Ты што-небудзь ведаеш наконт Мартанвашара?

- Нічога, Пепі. Мама толькі сказала: «Цяпер пазаві Жазефіну. Наша шчасце ў яе руках».

- У маіх?. . Цікава, пабачым тады, што там такое!

Жазефіна вярнулася, калі прайшло многа, пакутліва многа часу. Тэрэза, зірнуўшы на яе, спалохана ўскрыкнула:

- Пепі! А божухна, што гэта з табою?!

Няўжо Жазефіна яе не чуе? Хістаючыся, яна падалася да акна, адчыніла і зараз жа зачыніла яго. Зарагатала істэрычна і сутаргава.

- Янаш! Няхай прыйдзе Янаш! - Кінуўшыся на Тэрэзін ложак, усхліпнула. - Наша мамачка! Графіня Ганна Барбара Брунсвік! Яе правасхадзіцельства! Так, так, noblesse obl Ige! Тэрэза, дзе ж Янаш?

Нарэшце каля яе ложка з’явіўся стары лёкай. Зірнуўшы на яе, ён збялеў, як крэйда, але голас яго гучаў спакойна.

- Што загадаеце, графіня?

Жазефіна прыўзнялася на ложку.

- Загадаеце? Нічога, мілы Янаш. У мяне толькі ёсць адна просьба. Ты ж мяне заўсёды любіў? - Раптам яна абняла яго за шыю. - Прашу, прашу цябе. . . абарані мяне, Янаш! Абдымі і абарані мяне.

- Графіня. . .

Яна паклала яго рукі на свае плечы.

- Вось так, мілы Янаш, а цяпер уяві сабе, што я маленькая дзяўчынка, якую табе трэба абараняць. - Яна скінула з сябе яго рукі. - Не! Не! Ты ж толькі лёкай і ў параўнанні са мною, высакароднаю графіняю, наогул не лічышся за чалавека; даруй мне, што не падумала пра гэта. Прабач, высакародная графіня запэцкала цябе! Маё дакрананне запэцкала цябе! Даруй мне. - Яна застагнала. - Вядома, я запэцкаю і яго, у мяне цяпер няма ніякага права абмяняцца з ім хоць адным словам. Але табе ўсё ж прыйдзецца схадзіць да яго.

- Да каго, графіня?

Яна не магла зразумець, што ён не ведаў гэтага.

- Да гера ван Бетховена! Да каго ж яшчэ? Ты скажаш яму - чакай, а што ж ты яму скажаш? - што сёння. . . значыцца, так, урока не будзе. Тут сёе-тое здарылася - не, пра гэта не кажы нічога. Толькі пра ўрок, разумееш? І сёння яму не трэба прыходзіць у «Залаты грыф», бо я сама. . . але калі? Тэрэза, памажы ж мне знайсці выйсце. Лепш за ўсё позна ўвечары, калі добра сцямнее. Час якраз прыдатны на гэта; у такі час выходзяць на дарогу і злачынцы. Значыцца, я прыйду да яго сёння ўвечары, калі ўсе заснуць. І няхай. . . ён будзе адзін, і да яго прыйдзе дама з вэлюмам. Янаш, ты нічога не пераблытаеш? - Яна тупнула нагою. - Ты ўсё яшчэ тут! Хутчэй ідзі да гэтага. . . нікчэмнага музыканта, у якога няма грошай! Але ж, глядзі, пакланіся яму! Як мне самой, не, яшчэ ніжэй, як мне і нават. . . яе правасхадзіцельству!

Калі збянтэжаны лёкай выйшаў з пакоя, Жазефіна скрывіла губы.

- Тэрэза, колькі я, па-твойму, каштую? З усім, што ў мяне ёсць? Усяго тысячу дукатаў? Павінна сказаць табе, што такая цана, а яе я чытаю ў тваіх вачах, мяне абражае! І вінавата, вядома, вось гэтае ўбогае паркалёвае плацце, разарваны рукаў якога мне прыйшлося цыраваць самой. Мяне прадалі за сорак тысяч дукатаў, і цяпер мы зажывём раскошна, я - з агідай да старога юрліўца, але мова тут пра. . . гонар яе правасхадзіцельства і ўсёй сям’і графаў Брунсвік, і. . . яшчэ вінаваты ў гэтым ён, вінаваты гэты Бетховен! Чаму ён усяго толькі таленавіты музыкант? Смех, дый годзе! Галоўнае ж - колькі ў цябе дукатаў. Калі б ён мог прапанаваць больш. . . - Тэрэза дала ёй выплакацца. Жазефіна прытуліла галаву да аконнай рамы. - Цяпер я

ведаю, чаму нам трэба было глядзець на вуліцу. Толькі я не маю права гаварыць пра гэта. Бо гэта таямніца гонару! Саслоўя! - Яе плечы затрэсліся ад плачу. - Мне на бібліі прыйшлося даць клятву яе правасхадзіцельству, мамачцы!

Паволі яна пачала супакойвацца, і тады Тэрэза асмелілася палажыць руку на сястрыныя плечы.

- Пепі, можа, ты раскажаш мне, што здарылася?

- А я табе яшчэ не расказала? Прабач. Не, усяго я не магу табе расказаць, бо я ж дала клятву. Значыцца, я зайшла ў пакой да маці, і там быў таксама гер прыдворны статуарый Мюлер, разадзеты, надушаны. Агідна! Прывітанне яго было занадта ліслівае, і мама сказала, зрабіўшы велічны жэст рукою: дазволь пазнаёміць цябе з графам Дэймам, камергерам яго вялікасці! Не разумееш? Я ўпэўнена, што і ў мяне таксама быў такі ж дурнаваты выгляд, як і ў цябе цяпер. Потым я пачула, што мама нешта кажа і стваральнік васковых фігур і прыдворны статуарый у знак згоды ўсміхаецца ёй. Аднойчы - здарылася гэта дзесяткі гадоў таму назад - геру графу Дэйму прыйшлося адмовіцца ад свайго графскага тытула і прыняць простае грамадзянскае імя «Мюлер». З-за нейкай там дуэльнай гісторыі, і ён доўга жыў за мяжою, у Галандыі і Італіі, потым вярнуўся ў Вену.  І вось учора ён быў на аўдыенцыі ў імператара, і яго вялікасць зацвердзіла графа Дэйма на пасадзе камергера, дазволіла яму зноў узяць старое імя.

- Гэта ж дрэнны жарт!

- Вадэвіль! Фокус, але на іх ён майстар! А калі граф Дэйм развітаўся, мама паведаміла мне, што ён папрасіў мае рукі. Я рагатала, бушавала, але тут было не да смеху і не да бушавання. Па прычыне такой жахлівай, што мне прыйшлося згадзіцца: нельга ж нам дазволіць, каб мама трапіла ў турму! Вось якія справы, вось і ўсё ці, можа, варта ўспомніць яшчэ пра адно. Мой будучы муж - вельмі нецярплівы, і ўжо праз чатыры тыдні я стану графіняй Дэйм.

Жазефіна пакорліва апусціла галаву, але раптам упала перад сястрою на калені.

- А я не магу, разумееш, дый ён. . . што скажа? Прашу цябе, ты заўсёды была да мяне такая добрая. Выходзь замест мяне замуж за графа Дэйма. Ну, скажы, што ты згодна!

Тэрэза прыцягнула да сябе галаву сястры.

- Пепі, ты ж ведаеш. што я цябе вельмі люблю, і я. . . хачу адкрыць табе адну таямніцу. Я таксама кахаю яго, як толькі жанчына можа кахаць мужчыну, яго, Людвіга. - Голас Тэрэзы задрыжаў ад хвалявання. - А таму што вы абое, каго я вельмі люблю, так моцна кахаеце адзін аднаго, я рада была б бачыць вас шчаслівымі. Цябе і яго. Павер мне, Пепі. Толькі. . .

Жазефіна цяжка ўздыхнула:

- Я ўсё, мая добрая разумніца, ведаю.  І ты, як заўсёды, маеш рацыю: Дэйм хоча мець за жонку менавіта мяне, а не цябе. . .

Усё было зусім не так, як тады. Тады перад абедам, першы раз, яна ледзьве цягнула ногі, паволі, ступенька за ступенькаю, падымаючыся наверх. Цяпер, хоць была ўжо ноч і ў слабым святле месяца, што ледзьве даходзіла сюды, можна было толькі здагадвацца, дзе знаходзіцца ступенька, яна пушынкаю ляцела наверх па вітой лесвіцы.  І тлумачылася гэта не толькі таямнічасцю гэтага другога візіту. Раптам яна зразумела прычыну: яна ж ішла дадому, і не хацелася, каб недзе па дарозе прападаў час.

У замочнай адтуліне залацілася святло. Яна хуценька пастукала і не стала чакаць адказу. Дома ж у такіх фармальнасцях няма патрэбы.  І вось яна ў пакоі.

- Добры вечар, Людвіг.

Ад таго, што голас яе не дрыжаў, яна адчула нешта падобнае на радасць. Усё будзе залежаць толькі ад яе. Яна бачыла, што ён глыбока ўражаны: нельга, каб на яго яшчэ ціснуў новы цяжар. Яна чамусьці была перакanана, што ўсміхалася весела, а гэта значыць, не засмучала яго.

- Ты мяне разачароўваеш, нават з месца не зварухнуўся. Скажу табе, што вітаеш ты мяне халаднавата, бо ў паводзінах паміж намі нічога ж не зменіцца. А можа, ты думаеш іначай? Не можа быць, такой думкі ў цябе няма. Бо тады б я ніколі не магла пакахаць цябе.

Яна зняла паліто і вэлюм, які пазычыла ёй Тэрэза, і, матнуўшы галавою, упарадкавала валасы.

- Усё-такі, мабыць, лепш, што я загадзя напісала табе пра ўсё.  І нам не прыйдзецца цяпер доўга гаварыць пра гэта і тым самым дарэмна траціць час. Я проста пабуду ў цябе ў гасцях, колькі ты захочаш. Тэрэза нікому нічога не скажа. Гэта значыць, - яна крышку падумала, - я магу

астацца ў цябе толькі да світання, Людвіг. У шэсць гадзін мы ад’язджаем.

- Ужо заўтра? - Былі гэта першыя словы, якія ён сказаў.

І тады яна забегала па пакоі, спрабуючы не паказаць свае разгубленасці.

- Не, Людвіг, які ў цябе беспарадак! Варта зірнуць толькі на твае ноты! Вядома, і Мікеланджэла, кажуць, таксама - прабач - быў страшэнна неахайны, але гэта не можа служыць табе апраўданнем. Ці ж гэтаму гусінаму пяру месца на клавішах? Не, калі ласка, можаш не трывожыцца, я табе нічога не пераблытаю! Я толькі хачу крыху прывесці ў парадак вось гэты стос нотаў. Бач, нават і кветкі тут ёсць! Прыгожыя ружы! Але нельга іх проста так без вады ставіць у вазу! Жоўтыя ружы! Якія я больш за ўсё люблю! - Толькі б не расплакацца, і таму ўвесь час трэба нешта прыдумляць, нешта гаварыць, хоць бы самае банальнае. А можа, цяпер якраз і трэба што-небудзь банальнае. - А што гэта за пінжак вось тут на крэсле? Калі ты яшчэ раз у ім выйдзеш на вуліцу, у цябе абавязкова адарвецца гузік. Зараз жа дай мне іголку і нітку! А можа, у тваёй запушчанай халасцяцкай гаспадарцы нават і гэтага няма?

Ён схадзіў па шкатулку, паставіў яе на стол. Тым часам яна села на дыван і паклала на калені пінжак. Пакорпалася ў шкатулцы.

- Я не знайду тут напарстка; няўжо ты цыруеш без напарстка, Людвіг? - Ёй нават удалося выціснуць з сябе штосьці накшталт радаснай усмешкі. Бо адна толькі думка, што гер Людвіг ван Бетховен шые без напарстка, што ён наогул робіць гэта, парушыла б увесь спакой. - Ідзі сюды, Людвіг, сядай да мяне і глядзі, як я буду рабіць гэта.

Яна пачала, і нарэшце гузік быў прышыты моцна. Яна зноў павесіла пінжак на крэсла.

- Вось бачыш, і ўсё зроблена. Але калі ты надзенеш яго заўтра. . .

Ён, не адрываючыся, глядзеў, як паволі дагараюць свечкі.

- Ну але, заўтра. А ты дзе будзеш заўтра?

- Дзе-небудзь. Усё адно дзе.

Яна зразумела яго.

- І ён таксама будзе?. .

- Не! Але гэта ўсё роўна не мела б аніякага значэння. Бо цяпер жа я з табою!

- Ты. . . яшчэ са мною. . .

Яна раптам у нейкім шаленстве роспачна заматала галавою.

- Я заўсёды буду з табою, Людвіг. Ты нават і не ўяўляеш сабе, якое ў мяне каханне! Я заўсёды буду кахаць цябе, і гэта не проста словы - гэта мой лёс.

Яна кінулася яму на грудзі і заплакала. Ён суцешваў яе як мог:

- Не сумуй, каханая, інакш. . . ты і на мяне нагоніш суму.

Ён быў упэўнены, што гэтае тлумачэнне паможа ёй. Пагладзіў рукою валасы, і была ў гэтым бясконцая пяшчота.

Тым часам яна ўзяла сябе ў рукі.

- Людвіг, час ідзе, а нам яшчэ трэба абгаварыць сёе-тое важнае. Прабач, што я пытаюся ў цябе, але. . . зразумей, што датычыцца гэта і мяне. . . Скажы, якія ў цябе планы наконт, - яна знарок выбрала гэтае крыху афіцыйнае слова, - наконт працы?

- Пачну пісаць другую сімфонію.

- Так, добра. Я рада, Людвіг.

Яна чагось недагаворвала, і ён адчуў гэта.

- Ты яшчэ нечага хочаш папытацца?

- Хачу, Людвіг. Ты мяне не палічыш недалікатнаю? Пытанне маё недалікатнае, але ў мяне такое адчуванне, мой мілы, што я магу папрасіць у цябе гэта. Не, праўда, ты прысвеціш мне якую-небудзь з тваіх кампазіцый? Толькі, як зрабіць, каб ніхто. . .

Ён асцярожна прыцягнуў яе да сябе.

- Я ўжо думаў пра гэта, і ўсё вельмі проста. Тваё імя - і хай гэта ненавіснае мне імя графіні Жазефіны Дэйм! - вядома, нельга ставіць на ніводнай з маіх кампазіцый. Тым не менш усе яны будуць прысвечаны табе. Значыцца, калі ты на маіх кампазіцыях знойдзеш другія імёны, то ты павінна правільна чытаць іх.

- А як, Людвіг? Я хачу чуць гэта! Не скупіся ўвесь час на пяшчоты!

Ён усміхнуўся.

- Тыж пэўна яшчэ не забыла, якое імя я табе даў. Няхай яно так і астанецца.

Яна дрыжала, бачачы паспешнасць, з якою дагаралі свечкі, і разам з тым амаль прагнула,

каб настала імгненне, калі скончацца пакуты іх расставання.

У вокнах пашарэла, і Жазефіна паднялася з месца.

- Пара. - Ён падаў ёй паліто і пацалаваў у лоб.

- Дзякуй.

- За што? За тое, што. . . я зрабіла цябе няшчасным?

- Не, за тое, што. . . я цяпер заўсёды магу кахаць цябе!

Нарэшце яна адарвалася ад яго губ і пайшла, потым яшчэ раз спынілася ў дзвярах і абвяла ўсё нейкім роспачным, амаль звар’яцелым позіркам. Пазней ён пачуў яе крокі на лесвіцы. Падумалася: «Цяпер можна было б і не чуць нічога, цяпер у гэтым няма ніякай патрэбы, але ж цяпер я чую ўсё. . . »

Неяк здранцвела ён сеў за раяль. Што ён там паабяцаў ёй? Пачаць пісаць другую сімфонію. А адразу ж парушаць сваё абяцанне нельга. Жыхар унізе, так рана разбуджаны ігрою на фартэпіяна, будзе незадаволены, але яму ўсё роўна. Сеўшы, ён паспрабаваў браць акорды, раз за разам. Не, наўрад ці што-небудзь выйдзе, а потым. . . Ужо набліжаўся час ад’езду. Трэба паспяшацца. . .

Надзеўшы капялюш, ён кінуўся на вуліцу і пазней, роспачна ўсміхаючыся, думаў сам сабе: «Усё-такі добра, што я не забыў капелюша!» Калі ён падыходзіў да іхняй вуліцы, коні якраз краналіся з месца. Яшчэ здалёку ён убачыў карэту, пачуў рыпат і грукат колаў, цоканне конскіх падкоў.  І ён мог, прынамсі, зняць капялюш і нізка, вельмі нізка, схіліцца перад карэтаю, хоць яго ніхто і не бачыў. . .

Ён не ведаў, дзе блукаў; і калі праз колькі часу ішоў па Вольцайле, вяртаючыся на сваю кватэру, якой ён цяпер баяўся, нехта гукнуў яго:

- Масьё ван Бетховен. - З акна махаў рукою французкі пасланнік генерал Бернадот. - Можа, у вас ёсць хвілінка вольнага часу? Я хацеў бы на развітанне паціснуць вам руку.

- Вы таксама ад’язджаеце?

- Таксама? Хто ж яшчэ паехаў? - Праўда, я ад’язджаю. Заходзьце. Я вам усё раскажу.

У доме Бетховен убачыў бязладна раскіданую мэблю, розныя прылады, а таксама ўпакоўшчыкаў, што забівалі скрынкі. Бернадот пацягнуў яго ў бібліятэку.

- Тут у мяне яшчэ нешта накшталт аазіса.  І стане ён пустыняю толькі тады, калі я пакіну гэты дом. Мне трэба на развітанне зрабіць яшчэ безліч візітаў, некаторыя з іх да людзей, з якімі я, проці маіх перакананняў, вымушаны паводзіць сябе ветліва. Гэта самае агіднае ў не вельмі чыстым рамястве, якое завецца дыпламатыяй. - Ён заклапочана зірнуў на Бетховена. - Што з вамі?

Адказ прагучаў рэзка, амаль варожа, з выклікам:

- Нічога! Дакладней, нічога, пра што я мог і хацеў бы гаварыць.

Хударлявы малады генерал кіўнуў галавою.

- Разумею. Але такіх часін, дарагі мой сябар, не можа пазбегнуць ніхто. Можна мне вас зваць так, Бетховен? Бо вы ж мне сябар, таму што нам собіла сустрэцца на мосце мастацтва, музыкі. Сядайце ж. - Ён усадзіў яго ў крэсла. -  І вам трэба што-небудзь выпіць. Гэта вам паможа. - Бернадот з графіна наліў у два крышталёвыя бакалы залаціста-рудой вадкасці. - Вазьміце, і я таксама вып’ю. За мастацтва! За нашу любую музыку, якая, зрэшты, і ў горы прыносіць суцяшэнне і мова якой мае куды большую сілу, чым мова гармат. Не здзіўляйцеся, я гавару гэта як вайсковец, як генерал, бо я ж яшчэ і ваенны чалавек; а свет быў бы больш дасканалы, калі б, спаборнічаючы адзін з адным, нам удалося ўзняць над ім нашы сцягі з сімфоніямі, санатамі і квартэтамі. Але вып’ем і за ваша здароўе таксама, Бетховен. Вось так, я ад’язджаю сёння ўвечары, перш у Парыж. Не ведаю, што мяне там чакае. Бо салдат - як лісцік на ветры. Рудольф Крэйцэр са сваімі скрыпкамі і шалёнымі кадэнцыямі паехаў, між іншым, ужо чатырнаццаць дзён таму назад. Ён ахвотна пабачыўся б з вамі на развітанне, але ўжо тры тыдні, як вы зніклі з паверхні нашай даволі неспакойнай планеты.

Бетховен задумаўся.

- Гэтак доўга?. .

- Але, і я чакаў вас, бо мне трэба пагаварыць з вамі. У мяне да вас просьба. Дакладней, хачу даць вам ідэю. У нас у Францыі цяпер няма кампазітара, якому гэта было б пад сілу. Мегюль? У яго пачуцця не хопіць; з усіх жывых кампазітараў яно, па-мойму, ёсць, мусіць, толькі ў вас, Бетховен.

Той з’едліва ўсміхнуўся.

- Я не ведаю, пра што пойдзе размова, але маё пачуццё цяпер. . .

Бернадот лёгенька прыхінуўся да пісьмовага стала.

- Вось іменна цяпер, дружа. Ведаеце гэты партрэт? Ён паказаў на сцяну. - Гэта копія, якую я загадаў прыслаць мне, і карціна робіць на мяне моцнае ўражанне.

Бетховен заплюшчыў вочы.

- Банапарт.

- Банапарт са сцягам рэвалюцыі на Аркольскім мосце каля Вероны. Мастак, праўда, крыху ідэалізуе, як кажуць. - Губы Бернадота насмешліва скрывіліся. - Ён ніколі не бачыў бітвы. Напрыклад, вось тут генеральскі шалік развейваецца не так, як патрабуюць прадпісанні акадэмічнай школы малявання, дый сцяг таксама выгінаецца не зусім натуральна. Вядома, мастак павінен пісаць, ствараць музыку, як ён гэта бачыць, і сюжэт для гэтай карціны, здаецца мне, варты такога бачання: пад градам куляў, у парахавым дыме, па ўжо напалову разбітых дошках герой спакойна нясе на другі бераг, і тым самым далей, сцяг новага, лепшага свету. Але колер і пэндзаль, здаецца мне, занадта жорсткія, каб адлюстраваць такі сюжэт. На маю думку, пад сілу гэта толькі музыцы.

- Магчыма. . .

- Вось бачыце! Няўжо вы не хочаце ўзяцца за гэта? Бетховен, я быў тут пасланнікам Францыі. З пачуцця такту я, па магчымасці, пазбягаў гаварыць са сваімі гасцямі на палітычныя тэмы. І таму яшчэ, што я не настолькі неразумны, каб паспрабаваць сытых абаронцаў старога феадальнага часу зрабіць сваімі прыхільнікамі. Паглядзіце на гэтых высокіх паноў, якія ліслівілі перада мною і па свайму характару і па сваіх перакананнях не павінны былі нават дакранацца да рэвалюцыі! У іх жа ўсяго толькі адзін характар і адно перакананне - мяшок з грашыма, дзеля якога яны, на ўсякі выпадак, разлічваюць мець ад «сяброўства» з намі нейкую карысць і нейкія гарантыі. Прынамсі, вы, Бетховен, не схіляецеся да такой дзіцячай думкі, што рэвалюцыі выдумляюць нейкія злыя істоты за зялёным сталом і што потым адразу на цэлыя народы нападае крыважэрнасць і вар’яцтва. Не, не, пакуль народ узбунтуецца, яго трэба доўга і невыносна мучыць. Аднойчы і ў вас прамільгнуў намёк на гэта, і наогул вы наш, і я вам цяпер гэта кажу смела.

- Ну, а калі яно і так?. .

- Тады вы павінны. . . напісаць, скажам, сімфонію пра гэтага сцяганосца. Я нават ужо падрыхтаваў нешта накшталт загалоўка. Яе можна назваць «S Infon Ia eroica» - Гераічная, і самым слаўным вынікам мае дзейнасці ў якасці пасла тут, у Вене, была б узятая з сабою ў дарогу надзея, што гэтая ідэя здзейсніцца.

Бетховен паморшчыўся.

- Гэты Банапарт, уласна, ужо заўсёды быў мне, як бяльмо на воку. Праўда, дзіўная рэч. Ваш Банапарт - адзіны чалавек, у дачыненні да якога я адчуваю нешта падобнае на зайздрасць. Для мяне ён - як вам сказаць? - занадта хутка сігаў наперад, ён прыкладна ў маім веку, і тым не менш апярэдзіў мяне на вечнасць.

- А вы адолейце гэтую вечнасць і станьце побач з ім! З дапамогаю гераічнай сімфоніі! Вас не захапляе такая ідэя!

Увайшоў камердынер.

- Генерал, пад’ехала карэта. Бернадот уздыхнуў:

- Гэтыя надакучлівыя абавязкі! Арман, дайце пазалочаны мундзір, капялюш з плюмажам і шаблю з сапфірамі, Арман! - Свет, мілы Бетховен, хоча яшчэ, каб яго ашуквалі ззяннем, але мы гэта пераменім, прымусім лічыцца толькі з чалавекам, а не з яго грашыма і адзежаю. Арман, калі ласка, падай мне цыдулку, дзе запісана да каго трэба паехаць. - Бернадот зірнуў у паперку. - Правільна, спачатку да графа Фрыза. Едзьма са мною, Бетховен, каб я не быў там такі адзінокі, ды і вы не будзеце адзін. Нам трэба спяшацца, бо прадстаўленне вось-вось пачнецца. Выступае Даніэль Штэйбельт.

- Даніэль Штэйбельт? Гэта ж. . .

- Ну але, ваш. . . калега, «таксама» піяніст-віртуоз і вядомы «кампазітар». Між іншым, я параўноўваю яго з Каліострам, які прымушаў паасобных людзей траціць розум; вось таму я, гаворачы аб выступленнях Штэйбельта, і ўжываю слова «прадстаўленне». Але Штэйбельт маніць іначай, і таму ён, на жаль, не можа, як той, скончыць у турме. Хадзем! Мне хочацца

прапусціць як мага менш з гэтага тэатра.

Даніэль Штэйбельт дамогся трыумфальнага поспеху ў Парыжы і яшчэ больш падняў яго пасля канцэртаў у Празе. Дзесьці ў дарозе ён патрапіў на вандроўную, як цыганы, англічанку, і вось цяпер мадам Штэйбельт - так яна пачала звацца - танцавала з тамбурынам, калі ён выконваў свае рэчы. Сам ён быў спрактыкаваны піяніст, прынамсі, валодаў усімі тэхнічнымі прыёмамі, якія толькі можна было вывучыць дагэтуль. Акрамя таго, гер Штэйбельт прадаваў «сапраўдныя цыганскія тамбурыны», па дукату за штуку, а «мадам» давала ўрокі, як танцаваць пад музыку санат і квартэтаў з тамбурынам. Знаёмства з гэтай містэрыяй каштавала дванаццаць дукатаў.

Парачка прыехала ў Вену некалькі дзён таму назад, і горад ужо ахапіла штэйбельтавая ліхаманка.

Прадстаўленне вось-вось мелася пачацца другою часткаю праграмы, і таму граф Фрыз паспеў толькі шапнуць:

- Ваша правасхадзіцельства, ваш візіт у перадад’ездны спешцы - вялікі гонар для мяне! Дазвольце звярнуцца да вашага правасхадзіцельства з просьбаю. Наперадзе ёсць некалькі ганаровых месц. Вы, Бетховен, ведаеце ж, што тут дзе.

Ён раптам сапраўды ведаў пра ўсё, ведаў неяк зусім па-новаму. Міжвольна замаргаў вачыма, быццам іх асляпіла моцнае святло. Гэтая недарэчная раскоша ў зале вакол новаспечанага графа Фрыза! Бацькі графа яшчэ гандлявалі з латкоў на венскіх вуліцах. Гэтыя кавалеры і дамы ў дарагіх вячэрніх строях! Усё - знаць і багацце або і тое і другое разам. За пэўную колькасць дукатаў можна купіць што-небудзь прыгожае, у другога з-пад носа, нават і тваю неўміручую каханку. Ці ж гэта не бесчалавечна? Але грошы цэняцца вышэй, чым чалавечнасць. Варта толькі выдаткаваць васемнаццаць тысяч гульдэнаў і можна асвятляць музычныя залы і днём, як вось тут у графа Фрыза, які аднойчы сам назваў гэтую неверагодную суму выдаткаў на свечкі ў год. А ён, Бетховен, за васемнаццаць гульдэнаў у год у лепшым выпадку мог паліць простыя свечкі з лою, дый тое толькі тады, калі трэба было пісаць музыку. Прыкладна за сто тысяч дукатаў можна пабудаваць такі вось палац, а калі ў цябе ёсць мільён, то і кроў стане блакітнаю, хоць яна яшчэ больш цёмнага паходжання, чым кроў чалавека, бацька якога быў п’яніца, узяты пад апеку музыкант, а маці - камерыстка. Non olet! Чамусьці ў галаву прыйшло славутае выказванне імператара Веспасіяна. Калі той аднаго разу меў патрэбу ў грошах, то абклаў падаткам грамадскія прыбіральні. Яго сын адварочваў нос, але Веспасіян быццам толькі засмяяўся: Non olet! Не пахне!

Сусед здзіўлена паглядзеў на яго. Чаму? Ага, ён жа ўсё варушыць губамі. Ну, вядома, ён гаварыў услых, але ж гэтак ён рабіў няраз, калі аставаўся адзін. Адзін? Болей таго: адзінокі.

І нічога тут незразумелага няма, але яму трэба перад самім сабою яшчэ раз прывесці ў парадак гэтыя рэчы. І таму ў думках ён гаварыў далей: «Фраў фон Бройнінг, вы таксама з высакародных, а я тым не менш даваў вам самае прыгожае імя, якое чалавек толькі можа даць жанчыне: мама! І Элеанора таксама з высакародных, і Стэфан, якога з вашых дзяцей я любіў больш за ўсіх. Вядома, жанчыне можна даць яшчэ прыгажэйшае імя: «неўміручая каханка», і яна таксама з высакародных, нават больш высакароднага паходжання, чым вы, фраў фон Бройнінг. Ды і граф Вальдштэйн і. . . Вядома, я ніколі не назаву вашых імёнаў побач з большасцю імёнаў. . . вось гэтай знаці і вось гэтага багацця».

Значыцца, вунь той звышэлегантны пан і ёсць Даніэль Штэйбельт. Нехта шапнуў таму штосьці на вуха, і ён падняў бровы, каб зірнуць на Бетховена. Кароткі агляд, здавалася, задаволіў яго. Быў тут і князь Ліхноўскі, але ў яго вачах стаяла заклапочанасць.

- Бетховен, няўжо вы хочаце выступіць супраць Штэйбельта? У яго зусім новая тэхніка, нейкае трэмуланда.

- Мяне гэта зусім не хвалюе, толькі я не магу. . . танцаваць з тамбурынам.

- Бетховен, сцеражыцеся! Не будзьце такім насмешнікам!

Пачалося прадстаўленне. Гер Даніэль Штэйбельт сеў за раяль і адкінуў крысы фрака. Пакланіўся на апладысменты. Воплескі яшчэ пабольшалі, калі з-за кампазіцыі кветак і пальмаў выйшла стройная жанчына ў скупым цыганскім адзенні, якое дазваляла бачыць шмат голага цела. Гэтулькі кветак - Жазефіне нельга было ўзяць з сабою букеціка жоўтых ружаў, і некаторыя з іх цяпер, мусіць, ужо завялі. - Між іншым, усё гэта даволі забаўна, нават вельмі пацешна. Экасэз з тамбурынам! Экасэз жа - шатландская мелодыя, і калі ўжо наогул браць што-небудзь,

дык дуду, а не тамбурын. Але - non olet! Гэтая музыка для надушанай публікі францiх і свецкіх ільвоў не пахла, як не пахла і фантазія, якую гер Штэйбельт сапраўды па-майстэрску адбарабаніў і адтрэмаліраваў і якую «мадам» яшчэ больш па-майстэрску адскакала з тамбурынам. Шкада, што ён да гэтага не чуў квартэта, але напэўна гэта быў фартэпіянны квартэт з тамбурынам. Віяланчэль усё яшчэ стаяла каля крэсла, і на пульце ляжалі ноты. Вось і канец. Бура воплескаў артыстам, якія, усміхаючыся, увесь час кланяліся.

Чаму ж гэта ён раптам глядзіць на ноты для віяланчэлі і ўжо трымае іх у руцэ? Цяпер нават сядзіць за раялем, паставіўшы ноты перад сабою! Знаёміцца з імі, і штосьці яму ў іх не падабаецца. Не, Жазефініны вочы цяпер нейкія надта ўжо сумныя, і яму іх трэба развесяліць. Можа, гэта ўдасца, калі паставіць ноты дагары нагамі і іграць іх вось гэтак?

У зале ўсталявалася мёртвая цішыня. Усё даходзіла да яго, як з другога свету. Валасы яго зблыталіся. Пэўна, з-за шалёнага адчаю, што завалодаў ім на вуліцы. Як на тое, разышоўся і вузел гальштука. Вядома, Бернадот не пасаромеўся ехаць з ім вось так па вуліцах, генерал і пасланнік у парадным мундзіры, але ж ён з тых французскіх рэвалюцыянераў, якія ў вачах гэтага выбранага кола страцілі ўсякае права на культуру і мараль. Нават калі тайком і шапталі, што Напалеон яму не вельмі сімпатызуе.  І глыбокі смутак на Жазефініным твары. . . Але не трэба хвалявацца, зараз стане весела, бо прыйшла ў галаву добрая думка! Зараз. . . я выбарабаню тэму з перевернутых нот, адным пальцам.  І трэмуланда гера Штэйбельта. Не, праўда, тэма, якую я толькі што адбарабаніў, гучыць жахліва? Ну, я яе крышку перайначу і крышку збетховеню. Стой! Нельга забываць і пра тамбурын! Дзын! Дзын!

Ён іграў і трэмуланда і дзын, дзын! Трэмуланда скуголіла дысанансам - гэтак знатныя магнаты скуголілі аб мяшку з грашыма перад Бернадотам, перад французскім рэвалюцыянерам, да якога ім, «характарам» нават нельга дакранацца шчыпцамі. Але што такое іх характар! Ён у іх не мяняецца, з яго чэрава можа даносіцца толькі звон грошай.

Дзын! Паслухаўшы, ён паўтарыў яшчэ раз. Выдатна! Французскі народ, пакутнік, узняўся, паслаў на гільяціну сваіх катаў і здраднікаў рэвалюцыі. Гільяціна - дзын! Трэмуланда - і вось родзічы нябожчыкаў галосяць па выніках, у якіх яны самі ж і вінаватыя.

Што гэта тут смярдзіць? Парфума? Але ж яна - спляценне вытанчаных пахаў Аравіі.  І тут нешта смярдзіць! Вядома, гэтай парфуме невыносна смярдзіць парфума, што завецца потам, потам ад працы. Усе гэтыя надушаныя рукі яшчэ ніколі не працавалі. Праца не павінна ганьбіць? Думаць так мог толькі «плебейскі зброд». Калі ён, плебей, даваў урокі, у тым ліку і няздольным вучаніцам і вучням, - гэта было пакутаю. Калі ён, як свабодны мастак, спрабаваў зарабляць грошы кампазіцыямі яшчэ і дзеля таго, каб набыць некалькі свечак з лою, калі ён, як ткач, што гарбеў за кроснамі, ткаў галавою, мазгамі, рукамі, - гэта была праца, для гэтых вось трутняў вытачала чумны пах. А хто зганьбаваны працаю, з таго можна драць тры шкуры. Дзын! Дзын! Шчыра кажучы, а ці ў ім адным цяпер справа? Не. Можа, справа ў. . . зале? Ва ўсім. . . свеце?

Гукі тамбурына, якія на раялі ён кожны раз імітаваў іначай, станавіліся ўсё больш жорсткія і рэзкія і нарэшце бліснулі маланкамі, выпраменьваючы перад ім усё новыя і новыя карціны. Звузіліся і заблішчалі вочы, але вось раптам яны расшырыліся, як бы прыйшлося ім дзівіцца на нейкі неверагодны цуд. Вядома. . . Жазефіна, але. . . усё-такі тут было яшчэ нешта, за чым можна і, мабыць, трэба пайсці, як і неўміручаю каханкаю! Уласна, гэтае параўнанне з Жазефінаю - дзіўная рэч, а як жа яна завалодала ім. На месца фліртаў з жанчынамі прыйшло амаль бязлітаснае, сапраўднае каханне, і цяпер вось тое ж самае. Ён таксама марыў аб гэтай высокай мэце, але разглядаў усё як нейкую гульню, не прымаў яе сур’ёзна, не маючы яснага ўяўлення, з кім яму тут прыйдзецца мець справу. Але цяпер юначыя мары сталі пазнаннямі мужчыны, якія не дазвалялі яму ні адысці назад, ці куды-небудзь збегчы. У ззянні маланак выступілі словы: гуманнасць! Чалавечнасць і справядлівасць! Тут нельга вагацца, аставалася адна дарога, адзін шлях, і па ім трэба несці наперад сцяг!

Што гэта за новая тэма ўлезла тут? Развітальная мелодыя? Трывога - кожнаму байцу на сваё месца! Гэтак, і яшчэ раз развітальную песню. . . старому берагу, які, як дзіцячыя сны, расплыўся ва ўспамінах сталых год. Наперад, наперад цераз мост да сцяганосца! Яшчэ раз песню рэвалюцыі, «Chant du départ», якую напісаў Мегюль на словы Ёзефа Шэнье. Бернадот меў рацыю. Пачуцця ў Мегюля на гэта не хапае, і таму ён дасць зараз сваё пачуццё.

La v Icto Ire en chantant nous ouvre la barr Iére,
la l Iberté gu Ide nos pas,

et du nord au m Id I la trompette guerr Iére
a sonné l’heure des combats!
Вам, там унізе,  I ўсім у альбом: «Перамога ў песні нішчыць усе перашкоды! Воля акрыляе нашы крокі!  I ад поўначы да поўдня баявая труба апавяшчае пра час змаганняў!» У песні - en chantant! Ён падумаў: «Я цяпер таксама апавяшчаю пра час змагання - сваёю трубою, сваёю музыкаю, рашуча, яшчэ больш рашуча! Маршавыя крокі! Маршавыя крокі! Вы чулі іх? Чуеце?. . »
Побач з ім апынуўся Бернадот.
- Бетховен, што. . . што гэта такое?
- Што?. . Нічога. Першы маленькі накід да гераічнай сімфоніі, якую я напішу. Можаце перадаць гэта геру Банапарту.

111Што зробіш з братамі! Яны прыехалі ў Вену ўслед за ім, кроў жа гусцейшая за ваду. Таму, мабыць, яго мілыя брацікі і надалей хацелі б бачыць у ім толькі залатога гуся якога можна скубці калі захочаш. А якія яны нахабна самаўпэўненыя! Ёган быў памочнікам аптэкара ў аптэцы «Святы дух», Карл працаваў практыкантам-зборшчыкам падаткаў.
- Людвіг, нам двум трэба сорак гульдэнаў. Калі я нарэшце стану касавым афіцэрам, то вярну табе гэтую драбязу.
- А дзе ўзяць?
Карл расчыніў шуфлядку пісьмовага стала.
- Сапраўды, Ёган, у яго нічога няма. А можа, сярод нот ёсць нешта такое, што можна ператварыць у серабро? А тут што такое? «Хрыстос на Аліўкавай гары!» Араторыя! Каму, скажы, патрэбна такая рэч? А сімфонія, за якую магчыма. . . магчыма, можна што-небудзь атрымаць, яшчэ не гатовая! Вядома, апошнія тыдні ты ж гэтак гуляў з прыгожымі графінямі. Людвіг, на тваім месцы я не дазволіў бы сабе такіх экстравагантных выхадак. Дзве санаты для скрыпкі! Санаты для фартэпіяна! Людвіг, між іншым, я хацеў папрасіць цябе знайсці мне вучня.
- Я ўжо столькі вучняў пасылаў да цябе.
- Але цяпер мяне цікавіць пэўны вучань. Праўда, што ў цябе хоча браць урокі прынц, эрцгерцаг Рудольф? Вось каго ты мог бы паслаць да мяне. Гэта дало б карысць маёй кар’еры на дзяржаўнай службе, ды з нас абодвух я, бясспрэчна, лепшы настаўнік музыкі.
Людвіг кіўнуў галавою.
- Зразумела. Але што, калі ён хоча браць урокі ў мяне?
Карлу асталося толькі сказаць:
- Гэты адказ якраз пад твой характар. Пайшлі, Ёган!
Бетховен часта мяняў кватэру, як бы пераняўшы прывычку ад свайго бацькі. Усюды новыя дзверы, але ні за якімі не было таго, чаго ён шукаў. А яшчэ ж ён павінен быў хаваць ад усіх жахлівы скарб, які мусіў аставацца яго таямніцаю, чаго б гэта ні каштавала. Толькі яна ў сваім каханні адгадала гэта, ніводны чалавек болей не ведаў. А можа?. . Жахлівы недавер! У Боне на вуліцы хлопчыкі дражнілі яго «спаніёлем». Ну і што з таго? Нічога! Але што, калі цяпер яму ўслед. . . будуць шаптаць: «Вунь ідзе глухі Бетховен! Глухі музыкант!»
Глухі? Не, спачатку была толькі боязь, калі нячысцік пачынаў капацца ў чэрапе. Там то калолі іголкі, то зноў дражніў нейкі стук. То ён чуў на лесвіцы лёгкія крокі, яе крокі. . . То зноў вушы нібы закладала. А на шпацырах што?. . Вось тут, і тут, і тут ён праязджаў з Жазефінаю. Вунь там ён сядзеў з ёю за сталом. А цяпер?. .
Ён запаліў святло і нахіліў галаву ўбок. «Тут ёсць нешта і для цябе, Жазефіна». Ён пачакаў, а потым зароў:
- Фраў графіня Дэйм!. . - У люстэрку ён жа бачыў, як варушыліся губы, ведаў, што ён крычыць. Нават адчуваў напружанне ў горле, але чуць нічога не чуў, ніводнага гуку! Абедзвюма рукамі стукнуў па клавішах раяля. Нічога, нічога. Вунь ляжыць здымнік абутку. Грукнуў ім па рэзанансаваму дрэву века раяля.
- Саната для скрыпкі нумар шэсць! Адажыо мольта эспрэсіва! Нічога, нічога!. .
Здалося яму, што калі ён біў па раялі, адчыніліся, а потым зноў зачыніліся дзверы? У свядомасць гэта ўвайшло няясна, і калі так, то гэта мог быць толькі гаспадар. Ён пачакаў. Д’ябальскі воск зноў, мабыць, растане ў вушах, і калі ён не перастане раставаць. . . яму прыйдзецца развітацца з гэтым домам і ўцякаць далей. Няўжо ён цяпер зноў чуе? Відаць, чуе.

Унізе пад’ехала карэта, і на лесвіцы пачуліся крокі.  І падымаюцца яны наверх. У дзверы пастукалі.

Увайшоў афіцэр у дарагой гусарскай венгерцы, аблямаванай футрам і акантаванай залатою пляцёнкаю, за ім ішла маладая дама. Афіцэр прывітаўся:

- Прашу прабачыць, што з’явіўся сюды ў такім непрадбачаным для гэтага выпадку парадным адзенні. У мяне былі справы пры двары, але цяпер я рады, што на мне парадная форма, бо ў ёй я магу выказаць вам, гер ван Бетховен, маю глыбокую павагу. - Ён пакланіўся. - Я - Франц Брунсвік. Мне даручылі перадаць вам прывітанне ад мае сястры Тэрэзы і таксама ад. . . - ці не завагаўся ён на нейкі момант? - Жазефіны, а вось тут, - ён паказаў за спіну, - я прывёў вам яшчэ адну вучаніцу. Нашу стрыечную сястру, графіню Джульету Гвічардзі.

Джульета ўсміхнулася.

- Магу я спадзявацца, гер ван Бетховен, што вы знойдзеце час даваць мне ўрокі? Чаму вы так глядзіце на мяне?

- Божа мой, якое падабенства з. . . , - ён ледзьве не сказаў Пепі, - з графіняй Дэйм!

Брунсвік прыгладзіў свае цёмныя кучаравыя валасы. У яго былі вельмі разумныя вочы, а сам ён выглядаў як чалавек, які можа трымаць сяго-таго на дыстанцыі. Толькі яго кірпаты, крыху пачырванелы нос - ад такайскага, ад сонца ці ад ветру? - сведчыў, што сярод роўных сабе ён, напэўна ж, мог быць добрым і вясёлым таварышам. Сваю венгерку ён проста кінуў на стос нотаў на раялі.

- Прабачце, гер ван Бетховен, але Тэрэза і Пепі не пераставалі паўтараць, каб я паводзіў сябе тут як дома. - Потым ён паказаў на крэсла. - Сядай, Джульета, Цырцэя нашага сямейства, дый вам бы я параіў прысесці хоць на хвілінку, бо вы ж, мабыць, не збіраецеся адразу пазбавіцца ад мяне. Вы не спалохаліся, гер ван Бетховен? Будзе яшчэ значна горш, калі вы станеце членам нашай «рэспублікі-суполкі», куды я вас ужо загадзя залічыў. Ну а цяпер Джульета, быць на пярэднім плане твая чарга. Яна ў нас, скажу вам, - вельмі феадальная графіня - праўда ці мо гэта няпраўда, дарагая? Ды, мабыць, гер ван Бетховен звяртае асаблівую ўвагу на вонкавы бок. Што ты сабе думаеш, - ён падміргнуў Бетховену, - яму ж вельмі падабаецца мая ўпрыгожаная вышыўкаю венгерка з кунічным каўняром.

Бетховен засмяяўся.

- Вядома, гер граф.

Брунсвік як бы спалохаўся.

- Але цяпер вы пераблыталі клавішы, гер ван Бетховен. Вы ўжо дэ-факта належыце да нашай суполкі і, вядома, не павінны цяпер тытулаваць мяне герам графам, а зваць проста Францам або звяртацца да мяне на «ты», - Брунсвік пакланіўся. - Зразумела, толькі тады, калі вы зробіце ласку згадзіцца з гэтым. Вы дазволіце - я ведаю, што гэта вельмі самаўпэўнена - і вас зваць Людвігам?

Гэта быў сапраўдны брат Тэрэзы і Жазефіны. Бетховен усхвалявана кіўнуў:

- Вядома, Франц.

- Ну, а цяпер нарэшце пра цябе, мая чароўная сястрычка. У цябе ёсць чым мераць, Людвіг? Каб вымераць тытул, які зараз пачуеш. Цётку Фінта ты ўжо ведаеш. Значыцца. другая сястра майго бацькі - прабач, мне спачатку трэба перавесці дух - выйшла замуж за графа Франца Ёзефа Гвічардзі, сапраўднага саветніка яго імператарскай і каралеўскай апостальскай вялікасці, губеранскага саветніка і дырэктара канцылярыі ў Трыесце. Цяпер дзядзька Гвічардзі і цётка Сузана з гэтаю вось прывабнаю семнаццацігадоваю дачушкаю Джульетаю прыехалі ў Вену, ад чаго, дзякуй богу, шмат спрасціўся яго тытул. Ён стаў сапраўдным прыдворным саветнікам, вось так. Ну а ў цябе які тытул, Людвіг? Ты, мабыць, можаш назваць толькі сімфонію, септэт, некалькі трыо, розныя санаты ды яшчэ сёе-тое.

Джульета засмяялася.

- Я тут нядаўна чула, як іграў гер Вёльфль.  І гэтага выдатнага віртуоза-піяніста вы перамаглі ў спаборніцтве, гер ван Бетховен?

Той не вельмі любіў гаварыць пра такія рэчы.

- Графіня, Вёльфля. . . перамагчы нельга. Бо ён самы лепшы, сапраўдны і вялікі вучань Моцарта.

- Але ж гаварылі. . .

- Гаварылі. Па тэхніцы ён з самага пачатку быў вышэй за мяне. У яго проста

неверагодныя пальцы, якія без напружання могуць узяць нават дэцыму. Але, зрэшты, ён спантанна, па-рыцарску, абняў мяне: «Ваша ўзяла».

Джульета недаверліва паківала галавою.

- А мне расказвалі інначай. Гер Вёльфль нібыта сказаў: «Бетховен, у вас гэтага больш, у мяне - менш. Яго толькі ў Моцарта было столькі, колькі ў вас, хоць і інначай. З нас абодвух лешны вы, Бетховен». Што ён хацеў гэтым сказаць?

Бетховен ухіліўся ад адказу, а Франц Брунсвік толькі буркнуў:

- Добраму Вёльфлю я мог бы наперад сказаць гэта. Джульета зірнула на стрыечнага брата.

- Вы гаворыце такімі загадкамі. Прынамсі, я ахвотна папрысутнічала б на тым спаборніцтве. Яно, напэўна, было вельмі цікавае.

Брунсвік кіўнуў галавою.

- Бясспрэчна. А каб яшчэ цябе. . . зрабіць прызам пераможцу?

Джульета засмяялася, паказаўшы ва ўсмешцы бліскучыя зубы.

- А што? Мне б гэта спадабалася і яшчэ б мацней прымусіла біцца сэрца.

Франц Брунсвік ускочыў з месца.

- Ага, а чуткі, мабыць, праўдзівыя ходзяць!

- Якія чуткі? - спытаўся Бетховен.

- Чуткі, паводле якіх ты ўсюды на дарагіх старых італьянскіх інструментах, падараваных табе князем Ліхноўскім наклеіў сваю пячатку і выразаў сваё «Б». І гэтая вось віяланчэль належыць да тых інструментаў? Можна мне крыху павадзіць смыком па струнах? - І ён тут жа ўзяўся яе настройваць, падняў смык. - Я ведаю, што ў мяне гэта не што іншае, як манія вялікасці, але гэта сямейны недахоп Брунсвікаў. Табе Пепі таксама іграла тваю «Патэтычную», чаму ж і мне не паспрабаваць такім чынам?

Бетховен, паслухаўшы нейкі час, сказаў: - Ты сапраўды мастак. - Як лёгка злятала з яго губ гэтае «ты» - бо ён жа звяртаўся да брата Жазефіны. - Звычайна я вельмі скупы на такія ацэнкі, але ты сапраўдны мастак. Франц, дазволь мне падыграць табе на фартэпіяна?

Скончыўшы іграць санату, Брунсвік папытаўся:

- Калі ты прыедзеш да нас у Мартанвашар? Вось дзе мы тады паіграем! Але цяпер твая чарга, Джульета. Пакажы на што ты здатная, каб маэстра мог вырашыць, браць цябе ў вучаніцы ці не.

Бетховен запратэставаў:

- Гэта лішняе. Каго раіць пэўная сям’я, таго я прыму заўсёды, і я даклярую вам, графіня, па два ўрокі на тыдзень, толькі. . . дзе?

- Ну, раз на тыдні тата дазволіць мне з’ездзіць у карэце ў Унтэрдоблінг.

- І гэтага ўжо хопіць, графіня. Бо адзін раз на тыдзень я здолею быць у Вене. І мы зможам праводзіць заняткі напераменку, і там і тут.

Брунсвік стукнуў сабе па лбе.

- Людвіг, у мяне ж да цябе ёсць яшчэ адно пытанне ад Пепі - я, праўда, не зусім зразумеў яго, але, мусіць, ты ведаеш, пра што яно. Мяне папрасілі пацікавіцца, ці гатова ўжо вялікая фартэпіянная саната? Саната, калі не памыляюся, з італьянскаю назваю. Гэтае даручэнне я атрымаў, калі коні ўжо кранаіся з месца.

Бетховен матнуў галавою.

- Не помню. Саната з італьянскаю назваю? - Можа, Жазефіна мела на ўвазе санату Апасіянату? - Я напісаў безліч фартэпіянных санат і зусім нядаўна санату до-дыез мінор, але тая ўжо атрымала назву, і не ад мяне! Яна таксама італьянская. - Ён узлаваўся. - Я дзесьці іграў яе, і нейкая там млявая кветачка сказала, што яе першая частка, адажыо, «падобна на Фірвальдштэцкае возера ў месячным святле». Безгустоўнае глупства распаўсюджваецца ж як эпідэмія. З таго часу мая бедная саната до-дыез мінор у салонах завецца «Месяцоваю санатаю», і я перакананы, што неўзабаве і які-небудзь рэцэнзент падхопіць гэтую сентыментальную назву. Калі разважаць так, то я ўжо напісаў і «Альтанкавую санату». Хоць я яшчэ ніколі не сядзеў у альтанцы пры месяцовым святле з ліманадам у руках. Франц, можа, мне сыграць яе, каб потым ты расказаў пра гэта дома? На жаль, у мяне няма ніводнай копіі, а ў друку яе яшчэ няма.

Адразу пасля заключнага акорда Бетховен папытаўся:

- Ну як, у першай частцы было месяцовае святло?

Джульета, крыху памаўчаўшы, замест адказу задала пытанне, якое на першы погляд гучала зусім нявінна;

- Гер ван Бетховен, каму, уласна, прысвечана гэтая саната?

Ён рэзка павярнуўся ў яе бок.

- Каму прысвечана? Вы маеце на ўвазе, графіня, для каго яна напісана? - Для. . . нікога!
- Яна толькі злёгку прыўзняла бровы.

- Няўжо?

Праз некалькі тыдняў на адным з урокаў музыкі, якія ён цяпер даваў ёй, Джульета сядзела за раялем, а ён хадзіў узад і ўперад.

- Адзін, два, тры, чатыры! Адзін, два, тры, чатыры! Гэта самы просты тактавы памер 4/4, але адзін раз вы яго бераце амаль alla breve (У такце 2/2 замест 4/4 (італ. ). ), а потым зноў. . .

- Іграючы вашу санату, мне хацелася б паспрабаваць дадаць туды крыху пачуцця, іграць яе па-мастацку.

- Графіня, пакорна прашу прабачыць, але я напісаў санату ў тактавым памеры 4/4, і калі на цяжкім месцы тэмп запавольваць, а на лёгкім - паскараць, то гэта не мае ніякага дачынення ні да пачуцця, ні да мастацтва.

- Я гэта бачу; а вы самі, прынамсі, у прынцыпе, не лічыце, што мастацкае выказванне. . .

Ён пакланіўся з насмешлівай ветлівасцю, трымаючы рукі за спінаю.

- Зразумела, графіня. Але ж мы яшчэ не дайшлі да мастацтва. Спачатку трэба авалодаць тактам і тэхнікаю. Прашу вас, яшчэ раз спачатку.

Ён не мог доўга весці ўрок. Якое бянтэжнае падабенства да Жазефіны! У яго заўсёды ўзнікала ўражанне, што вунь там за раялем сядзіць яна - але не, Жазефіна была не такая. Яна яго супакойвала, калі так можна сказаць, а гэтае семнаццацігадовае дзіця прымушала яго хвалявацца. Дзіця? Семнаццацігадовая італьянка, дачка венгеркі, ужо не дзіця! Яму ні за што нельга было згаджацца на гэтыя ўрокі, прынамсі, на сваёй кватэры. Як на тое, Джульеце спадабалася ездзіць у карэце ў Унтэрдоблінг, і таму ўрокі ў Вене больш не праводзіліся. Вядома, ён даў графіні, яе маці, слова, што на ўроках будзе прысутнічаць яго слуга. Але дзе ж ён, гэты слуга? Заўсёды ў Вене, куды ён пасылаў яго што-небудзь купіць. Або яна - «дзіця» - адсылала яго кудысьці.

- Стойце, графіня! Зноў пальцы. Ваша старая памылка.

Яна сагнула кончыкі пальцаў.

- Яшчэ больш!

Яе твар зноў набыў ганарлівы выраз, хоць няраз ужо яна спрабавала лашчыцца, як закаханая кошачка. Цяжка разгадаць яе. Можа, усё, што яна вытварае з ім, - гульня? Калі б яна не была стрыечнаю сястрою Брунсвіку. . . Ён не любіў шляхецкай ганарлівасці, і цяпер сваёй мужчынскай сілаю збіраўся паставіць на месца кіпцюрыкі гэтай графскай кошкі. Ён схапіў яе за рукі.

- Цяпер іграйце! Далей! Пад маімі рукамі!

Смех яе нагадваў буркаванне.

- Калі вы будзеце трымаць мяне і далей у цісках, то я сумняваюся, каб у мяне што-небудзь выйшла!

Ён адчуў, як паспрабавала паварушыцца яе маленькая рука. Непазбежна гэта ўспрымецца як спакуса, і ён страціць галаву. Таму ён хуценька прыбраў руку.

Загадкавыя вочы Жазефіны. . . і ўсё ж гэта не Жазефніны вочы глядзелі цяпер на яго. . . Можа, ён расчараваў яе? Устаўшы з месца, яна падышла да расчыненага акна.

- Гер ван Бетховен, паглядзіце толькі, як сніць мой кучар. - Яна ціхенька пазвала: - Гэй, Жан! - Не, яго ніщто не разбудзіць, ды, можа, і грэх адрываць яго ад салодкіх мараў. Аб чым жа можа марыць вось такі. . . але шчаслівы. . . чалавек, але. . .

Чамусьці ён адразу адчуў трывогу. Размова цяпер, відаць, набудзе зусім нечаканы кірунак.

- Слухаю вас?. .

- Вы ўсё яшчэ не адкрылі мне, якой мары ці якому ценю прысвяцілі сваю санату до-дыез мінор.

За словам «цень» нешта хавалася, дый ці варта цямніць.

- Жазефіна - не цень.
Яна на нейкі момант задумалася.
- Гэта зноў-такі праўда. Яна нават вельмі рэальная. . . і хутка стане маці.
- Гэта мана!
Яна зачыніла акно.
- Думаеце, што гэта мана? Калі ты замужам?
- Навошта. . . вы мне гаворыце гэта?
Яна паціснула плячыма і ўсміхнулася. Якая ў яе усмешка!
- Можа, проста, каб пагадзіць Жазефіне.
- А прычына, прычына якая?
Яна, як рэха, паўтарыла:
- А прычына. . . якая?
Ён працягнуў да яе рукі.
- Джульета!. .
Яна ўздыхнула:
- Хочаце, каб мне зноў балела?
- Яго твар перасмыкнуўся.
- Не табе, а Жазефіне! Хадзем, мая закаханая кошачка!
Вочы яе глядзелі спалохана, але разам з тым блішчала ў іх страшэнная цікаўнасць.
- Ты хочаш цяпер. . . адпомсціць?
Ён нёс яе ў спальны пакой, а яна на яго руках скардзілася-буркавала:
- Толькі не памыліся, Людвіг. Я таксама буду помсціць. Бо я. . . не цень.

Ён ледзь не парэзаўся. Потым яго разабраў смех. Якая рэакцыя праз столькі гадоў! Значыцца, глыбока яно ўелася! На вуліцы, перад адчыненымі вокнамі, нехта свістаў, даючы сігнал, якім яны карысталіся раней у Боне, калі хто-небудзь з іх забіраўся ў чужы сад па яблыкі і, седзячы на дрэве, набіваў імі кішэні, а другі ў гэты час стаяў на вуліцы і вартаваў. Зноў пачуўся свіст, дзёрзкі, з выклікам. Дзіўнае супадзенне, што вось тут у Вене. . . Унізе на вуліцы ён убачыў двух маладых людзей, адзін з якіх, старэйшы, свістаў, як дрозд.

Бетховен накінуўся на іх.

- Ах ты, басяк, такога страху нагнаў на мяне! Я па старой прывычцы, каб не папасціся ў кіпцюры паліцыі, траха не выскачыў з другога акна! Стэфан! І. . . Фердынанд Рыс! Адкуль вы?

Стэфан фон Бройнінг весела засмяяўся.

- Знайшоў пра што пытацца, Людвіг! Паспрабуй адгадаць сам! Ты, мусіць, і паверыць не захочаш: з Бона! Дазволь нам крышку пасядзець.

- На лаўцы?

- На лаўцы, гер ван Бетховен, бо мы стаміліся. Потым мы з уласцівай нам сціпласцю зноў пойдзем, бо да нас дайшло, што вы цяпер знаецеся толькі з графамі і князямі і што бедныя, хоць і руплівыя знаёмыя, не кажучы ўжо пра вандроўных вучняў, якія хочуць навучыцца іграць на фартэпіяна, больш вас не цікавяць.

Бетховен заплюшчыў вочы.

- Я, як вам вядома, музыкант. Лічу да трох у сярэднім тэмпе андантэ, і калі вы потым не завітаеце да мяне!. . Адзін. . . Два. . . - Пры трох ён трымаў у абдымках Бройнінга. - Стэфан!. . Што за глыбокая пашана на вашым твары, Фердынанд?

- Ён хоча ў цябе браць урокі ігры на фартэпіяна і баіцца, што ты яму адмовіш.

- Я адмоўлю. . . Рысу?! Нават калі вы будзеце іграць на фартэпіяна гэтак жа дрэнна, як я ў вашага бацькі пілікаў на скрыпцы, - я вазьму вас!

- Людвіг! Пакуль ты не задушыў мяне ў абдымках, я хацеў бы, прынамсі, перадаць табе прывітанне ад мае мацеры ад Элеаноры, майго зяця і ад усіх, усіх другіх.

Тут Бетховен зірнуў на свайго сябра юнацтва з роблена здзеклівым жалем.

- Стэфан, ты ж яшчэ малады чалавек, але па баках твой лоб ужо вельмі падазрона вырас у вышыню. Ад чаго гэта: ад вялікіх думак ці ад вясёлага жыцця?

- Ад думак пра тваё вясёлае жыццё, Людвіг! Да нас у Бон дайшлі чуткі, быццам цэлыя вуліцы ў Вене цяпер забрукаваны разбітымі табой сэрцамі прынцэс і графінь. Хто такая, між іншым, «чароўная дзяўчына», пра якую ты пісаў Францу Вегелеру? Пэўна ж, прынцэса.

- Не, графіня.

- Значыцца, твае справы ідуць горш. - Бройнінг кашлянуў. - Леанора прыслала табе камізэльку з заечай шэрсці. Яна з радасцю звязала б табе што-небудзь з залатога руна, але дзе ж яго ўзяць беднай жонцы ўрача?. . А маці просіць папытацца ў цябе, ці прыедзеш ты калі-небудзь у Бон і зноў ці сыграеш у нас? У тым ліку і варыяцыі на тэму марша Дрэслера; кожны раз, выціраючы з раяля пыл, яна думае пра іх.

Бетховен засмяяўся.

- Вы ведаеце гэтыя варыяцыі, Фердынанд?

- Я нават ведаю іх на памяць. - Рыс сыграў іх, і Бетховен пляснуў у далоні перад тварам.

Божа мой, няўжо гэта я калісьці напісаў такое? Мне сорамна. Пусціце мяне за раяль, Фердынанд. Мне трэба даказаць вам, што за гэты час я крышачку прайшоў наперад.

Ён сеў за інструмент, але потым яшчэ раз павярнуўся да іх.

- Гм, а якая, зрэшты, мэта вашага падарожжа сюды, Стэфан?

- Мне хочацца падыхаць вясёлым венскім паветрам і, апроч таго, стаць вялікім чалавекам.

- Венскім паветрам. Гэтак, гэтак, бывае і тут яно вясёлае, а. . . Моцарт быў такі вялікі чалавек, што яго закапалі ў агульнай магіле для бедных на Верынгерскіх могілках. Можа, і мяне таксама чакае такі лёс?

Даўно ўжо прыйшла зіма. Ён стаяў каля акна і не адводзіў вачэй ад завулка, на які сыпаўся снег. Джульета сядзела каля раяля і брынкала.

- Пра што ты думаеш, Людвіг?

- Пра цябе і пра мяне. Калі мы пажэнімся?

Джульета дыскантам вывела такі выкрунтас гукаў быццам нехта пачаў рагатаць.

- Маральная дэпрэсія, cher am I?

Яе словы - з вуснаў дзяўчыны, графіні, з выгляду нявіннай, як маладая мадонна – непрыемна ўразілі яго. Ён матнуў галавою.

- Тут іншае, Джульета.

- А што? Я прыходжу да цябе, таемна – а таямніцы ж даюць сябе знаць на нервах. . .

- Ты мяне цяпер, мабыць, за абывацеля прымаеш, га?

- Калі ўжо гаварыць шчыра. . .

- Ну добра! Шчыра дык шчыра. Тады адкажы мне шчыра на адно пытанне. Што ў цябе з графам Галенбергам? Апошні час ты дазваляеш гэтаму прылізанаму псеўдакампазітару заляцацца да цябе.

- Я? Хто такі граф Галенберг?

Яму не хацелася крыўдзіць яе, і таму словы яго прагучалі даволі спакойна.

- Цяпер ты маніш, Джульета.

І зноў буркаванне:

- Крыху. Прызнаюся, але часам слабыя жанчыны вымушаны ўжываць такую зброю і гаварыць гэтым жахлівым мужчынам няпраўду.

Узяўшы тон, яна паспрабавала на клавішах пальцы. - Правільна я раблю, Людвіг? Колькі я гэта ўжо паўтараю. - Яна прываблівала яго. - Вось так правільна? - Пальцы яе лёталі, як маланкі, тон рабіўся ўсё больш высокім і рэзкім. - Людвіг, цяпер ты, здаецца крыху раўнуеш, га?

Яго вочы сталі пустымі.

- У цябе ёсць сэрца, Джульета?

- Чаго толькі не лезе табе ў галаву! - Яна рукамі ўзлахмаціла яго валасы. - Ты, я думаю, не станеш раўнаваць калі я скажу табе, што. . . ну крыху закахалася ў графа Галенберга? - Ён паспрабаваў абхапіць яе рукамі і яна закрычала: - Людвіг. . . грубы ты Самсон, зусім з глузду з’ехаў. Ну а калі, скажам, я думаю. . . выйсці за графа Галенберга замуж?

- Ах, вось што! Калі ж ты выходзіш замуж?

- Хутка, так хоча Галенберг, бо ён моцна закахаўся ў мяне, дый бацькі мае таксама хочуць гэтага шлюбу. Прашу прабачыць, але яны кажуць, ну, што ты музыкант якога прызнаюць не ўсе, а Галенберг – граф і ўсе прадракаюць яму як кампазітару вялікую будучыню. У мяне, як у Жазефіны. . .

Голас яго гучаў па-ранейшаму спакойна.

- Не чапай Жазефіны. Нам яшчэ ёсць пра што гаварыць?

- Здаецца, няма.

Яна ўстала, надзела пальчаткі.

- А можа, і ёсць? Пра «Месяцовую санату», напрыклад? Ты не забудзеш прысвяціць яе мне, калі яна пойдзе ў друк?

- Сваё слова я стрымаю, графіня. А калі вам гэта прыемна, можаце нават шэптам расказваць у салонах, што нейкі нязначны, не ўсімі прызнаны, нешляхетны кампазітар па імю Бетховен кахаў вас - безнадзейна, вядома, - кахаў так, што напісаў санату і прысвяціў яе вам. Людзі ахвотна слухаюць вось такія сентыментальныя гісторыйкі, а ў санаце ад гэтага месяцовага бляску падвоіцца.

Ён адвярнуўся. Пакой быў пусты. . .

- Што ты тут робіш?

- Палю ў грубцы, гер.

Ён падазрона зірнуў на лёкая, які кленчыў перад грубкай і ачышчаў ад попелу рашотку.

- Цяпер, ноччу?

- А хіба цяпер ноч?

- Можаш ісці, сёння ты мне больш не спатрэбішся. Я заплачу за твае паслугі.

Бетховен нездаволена паглядаў услед лёкаю. Той меў рацыю. Таму што сапраўды ўжо настала раніца. Праз вокны прабівалася няяснае святло, і ў паўзмроку, куды ні кінь вокам, відаць страшэнны беспарадак. Крывыя кнаты гараць над агідна парасплыванымі кавалкамі лою! І ўсё ж - чаму некаторыя людзі не разумеюць, што табе часам хочацца астацца аднаму! І што яны завуць беспарадкам?. . Ну пэўна ж, ноты, пісьмы і кніжкі валяюцца на падлозе і на раялі. На стосе нотаў на фартэпіяна ляжаць наломаныя кавалкі каўбасы і сыру. Нож упаў на падлогу, а клавішы засыпапы табачным попелам. На адным крэсле побач з талеркаю з закарэлым соусам стаяць пустыя пляшкі. Хаос, бязсспрэчна, - але музычная думка даражэй за акуратнасць. Прынамсі, так павінна быць, калі ў цябе такая думка ёсць!

Цяпер ён сам распальваў агеньчык у грубцы. Добры агеньчык! Як ён паглынае няўдалыя накіды да «Гераічнай сімфоніі»! Яны - тварэнне аднаго розуму, і таму ім не хапае пачуцця, а пачуццё тут можа даць, мабыць, толькі жанчына. Жазефіна! Ён зноў пачаў блукаць, як ноччу, у гэтым хаатычным лабірынце, што не меў ні выйсця, ні разгадкі. . . Пара тушыць кнаты ў кавалках лою. Паплылі ўверх смярдзючыя ніткі дыму. Прыйшлося расчыніць вокны. Холадна? Не, яму не холадна. Ён не мёрз у гэтым даўгашэрсным пухкім пінжаку, але якое калюча яснае, чыстае паветра струменілася ў пакой; вось і. . . каханне павінна таксама быць чыстым. Інакш, пасля таго як дагарыць свечка такога кахання астаецца адзін чадны агідны дым.

Сшыткі на падлозе. . . што прымусіла яго шукаць старыя рэцэнзіі? Можа, яны мелі дачыненне да Банапарта, консула французскай рэспублікі, з якім ён захацеў зраўняцца, напісаўшы «Гераічную сімфонію»? Ну, толькі яму перш знялі галаву ў музычнай рэспубліцы - хоць гэта зрабіў і не масьё з Парыжа, Анры Сансон, а пераважна ананімныя паны з Лейпцыга, лейпцыгскія ёлупні з «Агульнай музычнай газеты», самага аўтарытэтнага музычнага выдання. Як там пісаў адзін з іх? «Тое, што гер ван Бетховен вельмі спрактыкаваны піяніст, ведаюць усе, але яшчэ пытанне, ці такі ўжо ён выдатны кампазітар». А што там рыкнуў другі ёлупень пра санаты для скрыпкі і фартэпіяна? «Нейкая натапыранасць, пошукі рэдкай мадуляцыі, гідлівасць у адносінах да звычайных сувязей, нагрувашчванне цяжкасцей, і нічога натуральнага, ніякай меладычнасці. Калі б толькі гер ван Бетховен пайшоў па слядах прыроды!» Самая станоўчая рэцэнзія яшчэ тая, дзе яго фартэпіянныя санаты параўноўваліся з санатамі гера Шадэка. Зірнуў у люстэрка. «Ты ведаеш, хто такі гер Шадэк? Я - не ведаю». Чалавек у люстэрку таксама матнуў галавою.

Як жа гэтыя ёлупні напрактыкаваліся ставіць усё дагары нагамі! Пустое, штучнае, па-іхняму, натуральна, а тое, што жорстка і бязлітасна адмаўляе кожную ноту, пазбаўленую прастаты, не прасякнутую пачуццём, тое яны лічаць цяжкім і ненатуральным.

- Што вы там паліце, гер ван Бетховен?

- Крумпхольц! Добрай раніцы! - Я толькі правяраю, ці хопіць у мае грубкі сілы з’есці ўсю гэтую дрэнь, і, як бачыце, яна спраўляецца. Вы прагледзелі партыю скрыпкі?

Доўгі хударлявы скрыпач вагаўся з адказам.

- Вашай «Вясенняй санаты»? Прагледзеў, але нічога з яе не выйдзе. Я сяджу толькі за трэцім пультам другіх скрыпак і таму пацікавіўся, што думае пра гэта Шупанцыг. І той

згадзіўся са мною. Іграць яе складана. Скрыпка. . .

- Разумею. Але няўжо вы сапраўды думаеце, што ў мяне галава забіта толькі вашымі ўбогімі скрыпкамі, калі. . . - Ён усміхнуўся. - Я, вядома, не хацеў пакрыўдзіць вас Крумпхольц: да мяне вы заўсёды ставіліся прыязна і я вам, бясспрэчна, аддаў бы месца за першым пультам. Надзейна зберагл і вы і нашу маленькую таямніцу аб уроках на скрыпцы, якія я бяру ў вас, дый усё іншае. . . - Яго голас пацішэў. - Вы мяне цяпер, мусіць, зусім не зразумееце. Вось вазьміце!. .

Ён падаў Крумпхольцу некалькі нотных лістоў.

- Ганарар за вашы ўрокі. Не тое кажу. Каб парадаваць вас, я ўзяў на сябе смеласць напісаць для вас, лепшага ў Вене майстра ігры на мандаліне, санату для мандаліны. Ён незадаволена павярнуўся да дзвярэй. - Заходзьце!

Увайшоў малады чалавек, яўрэй-купец з бледным тварам і меланхалічнымі вачамі. Пакланіўся.

- Прабачце, гер ван Бетховен, што я прыходжу да вас у такую рань - і ўсё ж мне сорамна, і я хацеў бы папрасіць у вас прабачэння. Гэтыя асобы з лейнцыгскай «Агульнай музычнай газеты» толькі выстаўляюць сябе на пасмешышча.

Бетховен буркнуў:

- Вы сябе таксама, Эпінгер, калі хоць словам успамінаеце пра гэта.

- Пра што, зрэшты, ідзе гаворка? - пацікавіўся Крумпхольц.

Бетховен засмяяўся.

- Пра адну рэцэнзію, з-за якой я сёння ноччу прагледзеў усе крытычныя артыкулы. Дык вось у адным з іх пішуць пра нас абодвух. Спачатку хваляць дзевяць варыяцый для двух скрыпак Шупанцыга, і я ад усяго сэрца рады за гэтага Фальстафа. Потым расхвальваюць нейкага гера Філіпа Фрэйнда і яго варыяцыі для фартэпіяна; там жа хваляць нашага добрага Генрыха Эпінгера і яго варыяцыі для скрыпкі і віяланчэлі. Прызнана каштоўнаю ва ўсім яе бляску і саната нейкага гера А. В. Прахта, і. . . яе раяць дамам. Ну а потым дабраліся і да мае скуры: «Не можам мы сказаць, што хоць крышку задаволены яго варыяцыямі. Яны нацягнутыя, штучныя, у іх пападаюцца такія жудасныя месцы, дзе жорсткія тырады, увесь час у паўтанах, сутыкаюцца з басамі і пакідаюць непрыемнае ўражанне».

Эпінгер задуменна заўважыў:

- Мабыць, можна і закон вывесці: «Тое, што да нябёс расхвальваюць рэцэнзенты, што, як папугай, паўтарае публіка ці большая частка публікі, тое павінна выклікаць недавер, і наадварот. . . » І ўсё ж мне непрыемна, гер ван Бетховен, бо я ж усяго толькі дылетант.

Бетховен накінуўся на яго.

- Вы нават дурань, Эпінгер! Бо існуюць прафесійныя музыканты, нават вялікія майстры ігры на фартэпіяна, і кампазітары, якіх я заву вечнымі ўбогімі дылетантамі, а ёсць дылетанты, якія з’яўляюцца сапраўднымі мастакамі. Да іх належыце і вы, Эпінгер. Добра, скажу вам шчыра: вы мастак не ў кампазіцыі, а ў ігры на скрыпцы.

Пастукалі зноў, і Бетховен уздыхнуў.

- Ранішні прыём беднага прафесійнага муэыканта. Мо пара пачынаць урок, Фердынанд? Вы яшчэ астанецеся тут?

Крумпхольц падняў указальны палец.

- Пакуль не забыў. Потым яшчэ прыйдзе Чэрны са сваім сынам.

- Гэтага яшчэ не хапала!

- А цяпер мне трэба ў тэатр на рэпетыцыю аркестра. Вялікі дзякуй, гер ван Бетховен.

- За што?

- А мне трэба вярнуцца да сваіх спраў, гер ван Бетховен.

Той палопаў Эпінгера па плячы.

- Да свае прафесіі, дылетант.

- Пра тое, што вы прыйдзеце, мне ўжо паведаміў Крумпхольц. Гэта і ёсць маленькі віртуоз? Як цябе завуць?

Хлопчык, бледны як смерць, выціснуў з сябе:

- Карл. . . Карл Чэрны.

- Колькі гадоў?

- Дзесяць.

- І ты ўжо выступаў у тэатры ў Леапольдштаце з канцэртам до мінор Моцарта?

- Выступаў. . . - Хлопчык, спалохана выдыхнуўшы слова, нервова мяў пальцы.

- Перастань ламаць пальцы, яны табе, магчыма, яшчэ спатрэбяцца.

Голас Бетховена гучаў рэзка. Але гэтая рэзкасць не мела дачынення да хлопчыка, а. . . да аднаго ўспаміну, а той быў такі моцны, што нават аддаўся на голасе. Толькі ролі цяпер памяняліся. Няўжо яго вочы таксама блішчаць цяпер вось гэтак па-д'ябальску, як блішчалі яны калісьці ў Крысціяна Готліба Нефе? Стаіць перад ім маленькі хлопчык, завуць яго Карл Чэрны, і хлопчык гэты - ён сам. Толькі час пракруціўся далей на палову чалавечага жыцця. Як жа дрыжыць у малога сэрца, чакаючы вялікага прысуду, і спадзяюся, што мне не прыйдзецца расчараваць яго. Хоць хлопчык і лічыцца вундэркіндам, але ён не выдае такім, хутчэй наадварот. Бетховен ніяк не мог перасіліць жадання запусціць рукі ў Карлавы валасы і таму хутчэй павёў хлопчыка да раяля.

- На месцах, дзе спатрэбіцца суправаджэнне, я падыграю табе леваю рукою. - І ён адразу пачаў іграць. - Што гэта такое? Я пачаў з невялічкага туці, ну, а цяпер твая чарга.

Нейкі штуршок працяў хлопчыкава цела. Ён зайграў і Бетховен ведаў, што ён іграе цяпер так, быццам на карту пастаўлена яго жыццё. Між іншым, ён не мог не здзівіцца. Маленькія пальчыкі - але, папраўдзе, у яго ўжо ёсць нешта накшталт уласнага пункту гледжання. Фердынанд Рыс, мусіць, ніколі не даможацца таго, што ўжо цяпер было ў гэтага хлопчыка, якія б выключныя метады на занятках з ім ён ні выкарыстоўваў. . . Ну і хлопчык! Сярод тысячы вучняў рэдка можна натрапіць на такія здольнасці. Таму для выгляду, даволі нядбайна Бетховен сыграў яшчэ некалькі акордаў, бо ўсё астатняе здавалася яму лішнім. Потым коратка адрэзаў:

- Дзякую.

Хлопчыкаў твар перасмыкнуўся, і яго пальцы забегалі яшчэ хутчэй.

- Дазвольце мне. . . сыграць вось гэтае месца. . .

- Дзякую, не трэба.

- Калі ласка, толькі гэтае месца. . .

Нарэшце Бетховен зразумеў. Яго «дзякую» прагучала занадта рэзка. Што яму заставалася рабіць? Ён павінен быў гаварыць, як Нефе, і, бач ты, як перадаюцца па спадчыне метады яго настаўніка! Ён паглядзеў на свой рабочы каляндар.

- Карл, ты можаш прыходзіць па аўторках і пятніцах? Тады дамовімся, што, пачынаючы з сённяшняга дня, кожныя аўторак і пятніцу ты будзеш прыходзіць да мяне на ўрок пасля абеду ў пяць гадзін. Ты ж ходзіш яшчэ і ў школу? Школу давай будзем наведваць заўсёды акуратна! Інакш табе яе потым не будзе хапаць у жыцці. Зразумеў?

Хлопчык збянтэжана павярнуўся да бацькі.

- Чуеш, Карл? Гэта якраз тое, чаго я не перастаю паўтараць табе. Хадзі ў школу! Табе ж, вядома, цэлы дзень хочацца сядзець за раялем. - Венцэль Чэрны быў глыбока ўзрушаны. - Але давай цяпер не будзем больш гаварыць пра школу. Спраўдзілася твая мара. Ты стаў вучнем славутага піяніста-віртуоза Людвіга ван Бетховена.

Бетховен падняў указальны палец.

- Мой мілы, не думай толькі, што кожны дзень мы будзем цешыцца толькі канцэртамі Моцарта. Не, не, мы чэсна і сціпла пачнём з падручніка ігры на фартэпіяна Філіпа Эмануэля Баха. Прыйдзецца вярнуцца назад, каб пайсці наперад. Падручнік у цябе ёсць? Не? Пачакай. - Пакорпаўшыся ў нагрувашчаных нотах, ён выцягнуў адтуль пашарпаную кніжачку. - Бачыш, вось ён. Можаш узяць яго сабе. Праўда, ён у мяне крыху завэдзганы, з тых часоў, калі я быў такім жа хлопчыкам, як ты. А што ты скажаш пра плямы? Гэта ж слёзы, якіх я ўволю папаліў, і мне здаецца, што і табе прыйдзецца яшчэ нямала паплакаць. Хлопчык прыціснуў падручнік да грудзей.

- Я не буду плакаць, маэстра!

З яго вачэй на старонкі кніжкі капалі слёзы радасці, удзячнасці і глыбокай пашаны.

Ён загадаў пакласці на воз толькі самыя неабходныя рэчы, без якіх нельга было абысціся.

- Едзьце ўжо нарэшце. Я пайду следам.

Горад ён пакідаў без шкадобы. Вандраваў усё далей, насустрач вясне, і яна вітала яго бляскам адданых вачэй і балбатлівымі радаснымі галасамі. Прынамсі, гэтага людзі не маглі адабраць у другіх людзей. Яго прывячала кожная сцяблінка, што згіналася пад светлымі сонечнымі вятрамі. Птушыныя песні. . . нястомныя патокі вады. . . Вось бы ўсё гэта перакласці

на музыку! Горы, вінаграднікі. . . воблакі, якіх ніколі не схопіш рукою. А вунь ужо чырванеюць дахі Гейлігенштата (Святы горад (ням. )). Ужо толькі адна назва дае супакаенне. Ён на поўныя грудзі ўдыхаў навакольны спакой. Дом, дзе ён наняў на лета кватэру, нагадваў крэпасць ці вартоўню крэпасці, і за гэта цябе ў крэпасці будуць яшчэ і ахоўваць. Будынак меў два крылы, пасярэдзіне ўзвышалася даволі змрочная арка варот, за якімі відзён быў утульны дворык. Распакоўвай сабе рэчы, уладкоўвайся і працуй.

Праз колькі тыдняў каля яго дзвярэй хтосьці старанна заспяваў:

- Ла-ла-ла-ла-а!

Мелодыя з Другой сімфоніі. Бетховен адчыніў дзверы, і яго твар стаў, як навальнічная хмара, адкуль вось-вось грымне гром.

- Ля мажор, а не мі-бемоль, абжор-мажор, ласы на кілбасы граф!  І трэба ж яшчэ такому чалавеку пісаць музыку і іграць на віяланчэлі! Вам бы лепш пісаць нашпігаваную спінку казулі ці іграць на віяланчэлі смажанага гуся!

Гер Цмескаль фон Даманавец, афіцыял каралеўскай венгерскай прыдворнай канцылярыі - так гучаў яго афіцыйны тытул, - лёгенька пагладжваючы сібарыцкі твар, міжволі зірнуў на прынесеную кашолку з ежаю.

- Я паспрабаваў зрабіць штосьці падобнае, і вось бачыце, - усё прыйшлося цягнуць у гэтае праклятае богам гняздо з падманнаю назваю Гейлігенштат. - Ён паставіў кашолку на падлогу. - Можа, ваша правасхадзіцельства дадуць мне квіток, што ўсё прынята, каб я мог стрэсці з ног пыл гэтага разбойніцкага прытону?

Бетховен зароў:

- А хто будзе вастрыць мне гусіныя пёры? Я ж нічога не магу пісаць, бо ў мяне няма ніводнага пяра!

111 І пацягнуў сябра, вітаючы якога, выкарыстаў такія незвычайныя манеры, да скрыначкі з пёрамі, падняў яе века. Цмескаль, зірнуўшы туды, уздыхнуў:

- Усемагутны, не пералічыць тваіх дзівосаў. Ты даеш такія абуральныя прыклады няўмеласці: Чалавек сам сабе не ўмее вастрыць нават пёраў. Як добра, што я выпадкова захапіў з сабою ножык! Між іншым, табе ўсе перадаюць прывітанне.

Бетховен адразу спытаўся:

- Хто ўсе?

Цмескаль, вострачы пёры, сказаў:

- Усе. Ну а як ідуць вашы справы, Бетховен?

- Добра. - Гучала гэта не зусім пераканаўча.

-  І ўсё-такі я лічу вашу ссылку дзівацтвам доктара Шміда.

- Цмескаль!

Той памахаў гусіным пяром.

- Выключаючы вашых нямногіх сяброў, якіх можна пералічыць па пальцах, больш ніхто не ведае ні пра доктара Шміда, ні пра вашу гісторыю з вушамі.

- Я баюся, што вам вельмі легка падмануць мяне!

- Вядома, але навошта? Ці, можа, апошнім часам у вас зноў было такое?

- Доўга не было, прынамсі, у такім выглядзе як раней. Хоць нядаўна мне таксама здалося, што. . .

- Вы проста іпахондрык, Бетховен, вам трэба выкінуць з галавы гэтае глупства.

Бетховен ускіпеў.

- Глупства!. . Я не хачу слухаць пра яго!

- Прабачце, Бетховен, гэта lapsus l Inguae. Але ўсё-такі - што мае на ўвазе доктар, кожны раз гаворачы пра гэтыя «глупствы»?

- Не ведаю, Цмескаль. Магчыма, ёсць штосьці. . . небяспечнае, бо ён заўсёды ўпарта вяртаецца да таго самага.  І пераканаы, што робіць гэта спрытна і непрыкметна, але т я ўсё бачу.  І цяпер, варта мне зайсці да яго, як ён зноў пачынае пытацца, ці добра я сплю ўночы, ці не трывожаць мяне сваім стракатаннем цвыркуны? Калі ж я пытаюся ў яго пра тых цвыркуноў, то чую намёкі, што нібы мяне чакае нешта асабліва дрэннае, калі я. . . перастану чуць. . . - Пачулася акурат стракатанне, і Бетховен павярнуўся, шукаючы, адкуль яно ідзе. - Я, мабыць, ужо хварэю на манію праследавання. а можа, тут у пакой і папраўдзе забраўся цвыркун?

На твары ў Цмескаля паявілася нешта падобнае на ўсмешку.

- Я вучыўся ў мае нябожчыцы цёткі, і калі зімою, бывала, яна чула пад акном цвыркуна, то ўсхоплівалася сярод ночы I бегла шукаць бедную істоту ў завалены снегам сад. А я тым часам спакойна браў з-пад яе падушкі ключы ад каморкі і ўволю ласаваўся варэннем з якога-небудзь слоіка.

- Вы жулік, Цмескаль, хоць і нязлосны.

- Думайце што хочаце, ваша правасхадзіцельства, але вы маглі б кожнае раніцы прыйсці да гэтага жуліка, каб паслухаць цвыркуноў. Цвыркуны б стракаталі па першаму вашаму знаку. Але ж нельга патрабаваць нават ад самага добрага цвыркуна, каб ён кожны дзень скакаў да вас на свой невялічкі канцэрт. - Пакорпаўшыся ў гусіных пёрах, ён узяў новае. - Цяпер, мусіць, хопіць на дзесяць сімфоній, і, між іншым, ці ж не абсурд гэта, калі доктар Шмід трымае вас далей ад людзей і пасылае да нейкіх там цвыркуноў. Бетховен, вы ж чалавек, якому нельга жыць без людзей.

Ён правёў Цмескаля і па краю гаёчка, на ўзгорку, лёг на траву. Цёплая, духмяная пара, якая ўзнімалася вакол яго з добра прагрэтай сонцам зямлі, дала супакаенне. Паміж явай і марай аячылі ў памяці гульні дзяцінства. Быццам ён зноў Гулівер і трапіў у Ліліпутыю, краіну карлікаў. З якою жартаўліваю паважнасцю ўздымаліся там угору гіганцкія ствалы, сцябліны травы, а пачвары, мурашкі і малюсенькія жучкі, змагаліся з зараснікам, які зваўся мохам. - Ці-ці-ці-та!. . Ці-ці-ці-та-а!. .

Над ім, на галінцы дрэва, залівалася аўсянка. Песня гучала мілагучна, мякка, і ўсё ж было ў ёй нешта рэзкае, нават пранізлівае. Нельга было зразумець, прысвяціла яна песню-серэнаду прамяністай вячэрняй навакольнай раскошы ЦІ тая наогул зусім не кранала яе. А песня ўсё лілася: «Ці-Ці-ці-та!. . Ці-ці-ці-та-а!. . » Бетховен асцярожна пацягнуўся Да запісной кніжкі. Трэба запісаць гэта нотамі. У яго зборы ўжо запісаны крык перапёлкі і тое, што калі-небудзь магло спатрэбіцца яму, а такой мелодыі яшчэ не было.

Пагартаў свае запісы. Вось месца, дзе музыкаю запісаны думкі аб цурчанні ручайка. Навошта? Ну, можа, калі-небудзь удасца скарыстаць у сімфоніі, хоць замысел яе пакуль што больш падобны на рэдкі хісткі туман, што ўзнімаецца з ранішніх халодных лагчын. Другая сімфонія закончана. Калі ён падумае пра сваю новую работу, то бачыць толькі хаатычна нагрувашчаныя каменныя глыбы. Іх самыя высокія выступы сягаюць аж у царства волатаў і гігантаў, прабіваючы воблакі, што плывуць над краінаю людзей і прамянеюць па краях агнём. Пакуль што ён саслізгваў уніз нават з самай невялікай глыбы. А яму ж трэба - і ён гэта зробіць! - асіліць, прывесці іх у парадак, у «Гераічную сімфонію»!

- Ці-ці-ці-та!. . Ці-ці-ці-та-а!. .

Добра, добра. Ён схаваў у надзейнае месца свой невялічкі сабраны ўраджай. Бо сёлета птушыныя галасы хутка змоўкнуць, і можа, можа, - яго твар азмрочыўся, - на той год ён іх наогул больш не пачуе.

Аўсянка пяяла до мажор, але які гэта трывожны цуд танальнасць! Калі перад вясёлым тонам до мажор паставіць знакі, што зробяць з яго до мінор, тады ўзнікае адчуванне, быццам у брамку пачынае стукаць лёс, якога не можа пазбегнуць ніхто.

Ён прыслухаўся; аўсянка ўсё пяяла, пяяла до. Відаць, яна хацела скончыць песню, дамагчыся-такі свайго. «А можа, яна і мела рацыю? Яна не адхілялася ад до мажора, па-ранейшаму цвыркала каратка, - вось гучаў вясёлы заўзяты шлейфер. А можа, папраўдзе, няма яшчэ ніякіх падстаў транспанаваць таны ў гераічна-безвыходнае до мінор? Тады, маленькі мой сябра, хай застанецца до мажор, я паспрабую. . .

Пачакай, а што паспрабую?. .

Гэты праклятый Цмескаль, мілы мой чалавеча! Дакрануўся пальцам да балючага месца, і тое, што ён сказаў, праўда. Ён, Бетховен, сапраўды чалавек, якому нельга без людзей. Нічога яму ад іх не трэба, хочацца толькі быць да іх добрым, але ж і яны павінны быць добрымі да яго. Ніколі, ніколі, ніколі не будзе пасаваць яму роля самотнага пустэльніка. Колькі пакут каштавала яму ўжо тое, што гісторыя са слыхам часова адлучыла яго ад людзей. . .

Вярнуцца ў Вену? Не. Гэта занадта рэзкі скачок, вялікая змена. Але ж можна наведаць сяброў, якія жывуць за горадам. Значыцца, заўтра!»

Толькі гэтае «заўтра» ніяк не хацела прыходзіць, бо знаходзілася заўсёды якая-небудзь затрымка па рабоце або нейкае непаразуменне. I вось аднаго разу ўвечары - а цямнець цяпер пачынала намнога раней - ён выйшаў на двор. Хацелася прайсціся, але нечакана ён застыў на

месцы, задумаўся. Можа, забыў штосьці на кватэры?

Пад скляпеннем у варотах, спалохана пазіраючы на яго, ціснуўся маленькі Франц Грыльпарцэр, сусед па калідоры.

- Ну, што ў нас новага, Франц? Можа, зноў пісаў вершы?

- Не, гер ван Бетховен.

- Не хвалюйся, Франц.  І ў мяне цяпер нічога з маіх выдумак не выходзіць.

Маленькі Грыльпарцэр прыслухаўся.

- Франц, ты да чаго прыслухоўваешся?

- Я? Дзесьці гаўкае нейкі дурны дварняк.

- Ну напэўна ж дурны.

- Вось ціха стала. - Хлопчыкаў твар крыху праясніўся. - А цяпер. . . спяваюць, толькі яшчэ. . . і як жа сёння яны моцна спяваюць. . . цвыркуны.

- Што?. . Ну пэўна ж. Цвыркуны. - Бетховен пагладзіў яго па галаве. - Спі спакойна, Франц. У мяне яшчэ доўгая дарога, я еду ў Вену.

Чаго гэта дрыжыць рука ў гера ван Бетховена?

- Гэтак позна ў Вену? На ноч гледзячы?

Апоўначы ён пазваніў на кватэру. Прыйшлося крыху пачакаць, і ён, як гарэзлівы студэнт, наканечнікам свайго стэка пачаў выбіваць з бруку іскры. Нарэшце дзверы адчыніліся і на парозе вырас доктар Шмід у шлафроку. Прыўзняўшы свечку, ён паспрабаваў пасвяціць, каб пазнаць, хто прыйшоў.

- Гэта вы, Бетховен. . .

Той круціў у руцэ стэк. Потым з падкрэсленаю павагаю зняў капялюш.

- Маё шанаванне вашым ведам, доктар. На гэты раз ваш дыягназ выдатны. Я тут уласнаю асобаю.

- Што-небудзь здарылася?

- Я прыйшоў да вас развітацца, бо адчуваю сябе здаровым. Але на душы ў мяне камень. Бо мне трэба разлічыцца з вамі. Мой начны візіт вы, вядома, можаце таксама ўключыць у рахунак.

Ён пасігаў паперадзе ў ардынатарскі пакой, а доктар Шмід, ківаючы галавою, ішоў следам.

- Вы сёння ў такім. . .

- Якім? Прыўзнятым настроі?

- Калі можна назваць гэта. . . З кім вы сустракаліся? З гэтым дзіваком баронам фон Цмескалем?

- Ну што вы. - Бетховен сеў у крэсла і з асалодаю выцягнуў ногі, стукаючы па іх стэкам. Цыліндр ён паставіў на пісьмовы стол. - Не, гэта быў малады паэт, які навёў мяне на геніяльную думку. Завуць яго Франц Грыльпарцэр.

Доктар паправіў акуляры.

- Не ведаю такога.

Бетховен махнуў рукою.

- Гэта нічога, але, мяркуючы па грандыёзнай ідэі, якую ён даў мне сёння, вы, пэўна, яшчэ пачуеце пра яго. Аднак мяне бярэ сумненне, ці хопіць у мяне здольнасцей перакласці ўсё гэта на музыку. Але давайце не будзем адхіляцца ад тэмы. Значыцца так, доктар: я часта гневаўся і праклінаў вас, і вось вы бачыце чалавека, які раскаяўся і вымушаны паведаміць вам: я здаровы. Якой абсурднай я ні лічыў вашу тэрапію, але выйшла, што яна правільная.

- Вось бачыце! Я ж вам заўсёды гаварыў і паўтараў гэта, але вы, упарты і самы цяжкі сярод усіх маіх пацыентаў, ніколі не хацелі мне верыць.

- Прызнаюся, што ў адносінах веры ў майстэрства медыкаў я быў непапраўны ератык.

- Ну, а цяпер вы пераканаліся? Гэтае прызнанне ўраўнаважвае мой парушаны начны спакой. Ды, зрэшты, як можна без дыягназу? Я, папраўдзе, часта і старанна аглядаў вашы вушы, прадпісаў закапваць міндальны алей, рабіць сядзячыя ванны - усё толькі для прафілактыкі і каб супакоіць вас.

- Між іншым, усё якраз у ваннах! Вось што, лічу я, галоўнае! Мне здаецца, што тут існуе непасрэдная сувязь паміж азадкам і органам слыху.

- Не здзекуйцеся, вы, невук у медыцыне! Толькі і чуеш ад вас пра гэтае «ліха», што

быццам гадамі даймае вас! Быццам вашы вушы бываюць, як залепленыя воскам. Або пра ўдары кінжалам у чэрапе. Скажу шчыра, што не ўсё тут прыдумана, але ж я вам адразу сказаў, што для сур'ёзнай заклапочанасці няма абсалютна ніякіх падстаў.

Бетховен засмяяўся.

- Людзі, бывае, дарэмна баяцца, дый фантазія ў мяне, як у мастака, асабліва раз'юшаная.

- Самагубная фантазія. Мне лягчэй вывесці цэлы мех скочак з вушэй, чым лячыць аднаго мастака!

- Ну, зараз вы, мілы Шмід, збавіцеся ад мяне. Я здаровы. Літаральна чую нават, як расце трава. Між іншым: вы ж увесь час хадзілі вакол чагосьці, не ведаючы, як да яго падступіцца. Я не павінен быў заўважаць гэтага, але ў мяне яшчэ зберагліся сякія-такія рэшткі розуму. Цяпер вы, доктар, можацс адкрыць мне, што было б, калі б я перастаў чудь. . . цвыркуноў?

- Перастаць чуць самыя высокія тоны? - Доктар Шмід спалохана ўзняў рукі. - Бетховен, не малюйце, хоць і па часе, д'ябла на сцяне! Для мяне гэта было б у вышэйшай ступені небяспечнай з'явай без ніякай магчымасці памагчы ці прынесці збавенне. Гэта першае, чаго я спалохаўся. Ваша маці - вы ж расказалі мне аб гэтым для гісторыі хваробы - памерла ад сухотаў, а вам яны маглі перайсці па спадчыне - як вам, неспецыялісту, растлумачыць? - у сухоты слыху, у мозг, пасля чаго нітка вашага жыцця цягнулася б не болей года.

- У вас, мілы I I Імід, бегемотавае сэрца.

- Я ўрач, Бетховен, і таму прадбачу смерць асобных пацыентаў, якія, на шчасце, самі ні аб чым не здагадваюцца.

- Значыцца. . . мне б тады асталося жыць яшчэ год?

- Пры вашым складзе цела, можа, і два. Не, усё-такі толькі год. Трэба радавацца, што гэтыя абстрактныя разважанні нам цяпер не патрэбны.

Бетховен устаў з месца і падышоў да каміна.

- Вось тут у вас вельмі прыгожы гадзіннік з маятнікам. І ім вы калісьці правяралі мой слых.

- Правільна! Бо тон яго ходу такі ж высокі, як і стракатанне цвыркуна.

- Гадзіннік нейкі дзіўны, бо ідзе ён. . . зусім бязгучна.

- Як? Што вы сказалі?

- . . . Праўду. І пра тую праўду я толькі што даведаўся ад вас, сыграўшы тут маленькую камедыю. Спакойнай ночы, доктар!

Ён спяшаўся, як бы ўцякаў ад кагосьці. Дванаццаць месяцаў, адзін год. Потым - цёмнае маўклівае небыццё. Раптам да яго дайшло, што ўсё ён бачыць апошні раз. Ніколі больш ён не зможа гэтаю парою гуляць тут уночы, бо яно. . . Ужо будзе па той бок мяжы. А цяпер ён гуляе, і хада яго нават энергічная.

Нарэшце, як ліса, што варочаецца ў нару пасля палявання, ён пракраўся ў сваю кватэру.

Зірнуў на сябе ў люстэрка. Ці дома гэта ён?. . Яго сталы Дом будзе праз год. . . Патушыў святло. Позірк перад гэтым спыніўся на перакладзе старажытнаегіпецкага надпісу, узятага ў рамку: «Я ёсць, што ёсць тут, што было і што будзе, Ніводзін смяротны яшчэ не знімаў майго вэлюма».

Праўда, усё падобна на вэлюм. А ён жа толькі-толькі пачаў жыць і марыў аб славе! Слава нічога не варта, плён працы варты больш, але чым ён можа пахваліцца? Параю нейкіх кампазіцый ды яшчэ тым. што так ладна ўмее брынкаць на фартэпіяна, што яго завуць віртуозам. Ці ж гэта многа? Не. Навошта тады ён пражыў гэты адрэзак жыцця, якое толькі цяпер павінна пачаць прыносіць плён? Стомленасць усё больш і больш брала над ім верх, давала знаць аб сабе вандраванне ў Вену і назад. Значыцца, цяпер ён будзе спаць, і. . . яго вочы расшырыліся, . . . і не ўбачыць, як заззяе сонцам гэтая раніца? Як сонца блукае над паплавамі, нівамі і ўзгоркамі! Потым яму гэта, магчыма, давядзецца бачыць не вельмі часта. Яго ахапіла паніка. . . Можа - працаваць?. . Распачата многае, і нічога не даведзена да канца. Добра, з чаго ж пачынаць? З «Гераічнай сімфоніі»! Толькі думаць цяпер пра гэта - вар'яцтва! Ён бегаў па пакоі ўзад і ўперад, хапаўся рукамі то за адно, то за другое. Сапраўдны галава сям'і абавязаны своечасова прывесці ў парадак сямейныя справы, напісаць завяшчанне. Завяшчанне - а якую спадчыну ён пакіне? Ну, скажам, дарагія струнныя інструменты, падарунак князя Ліхноўскага. Ён расчыніў футарал. Як гарыць лак на скрыпцы! Гэта першая скрыпка квартэта, якой у 1718 годзе Ёзеф Гварнеры надаў неўміручую моц голасу. Другая скрыпка, вельмі пукатая, салодкая па

гучанні, зробле-ная ў 1667 годзе Міколам Амаці, таксама шэдэўр.  І ён хацеў ствараць шэдэўры, шэдэўры ў кампазіцыі. А болей які скарб аставаўся ў спадчыну? Дагаворы з выдаўцамі прынясуць наследнікам невялікую здабычу. А хто. . . ягоныя наследнікі? Браты? У яго, уласна, няма падстаў на цёплае пачуццё да іх, але ўсё ж яны яго родныя браты. Карл? Паміж імі адносіны няўстойлівыя. Апошнім часам ніякіх асаблівых прычын на нелады ў іх не было. Але ж з Ёганам. . .

Ён узяў вялікі жоўты ліст канцылярскай паперы і пачаў пісаць:

«Маім братам Карлу і. . . Бетховенам».

Пакінуў вольнае месца. Ніяк не мог адолець супраціўлення пры імю «Ёган». Варта толькі ўявіць сабе брата з паднятым плячом і вечнай іранічнай усмешкаю, якая яшчэ некалькі дзён таму назад выводзіла яго з сябе. . .

І ўсё ж ён пісаў:

«О вы, людзі, якія лічаць ці завуць мяне непрыязным, упартым мізантропам, якія несправядлівыя вы да мяне; вы я; не ведаеце таемнай прычыны таго, што вам уяўляецца. Сэрца лае і розум з дзяцінства былі чулыя да пяшчотнага пачуцця дабраты, я нават заўсёды быў гатовы пайсці на подзвіг. Але падумайце толькі: ужо шэсць гадоў, як у мяне невылечная хвароба, яе толькі павялічваюць недасведчаныя дактары. З кожным годам трацячы надзею на выздараўленне, я вымушаны нарэшце зразумець, што хвароба мая бясконца доўгая (на яе лячэнне спатрэбяцца, мабыць, гады, а можа, гэта і зусім немагчыма). . . »

Надзеі, ён ведаў, у яго не было, і ўсё ж, можа, аставалася яшчэ нешта накшталт надзеі. . .

«. . . Ад нараджэння маючы гарачы жывы тэмперамент, схільны нават весела бавіць час дзе-небудзь у кампаніі, я вымушаны быў рана адасабляцца, весці самотнае жыццё. Калі ж часам хацелася забыць пра ўсё, о, як жорстка, з падвоенай сілай нагадваў мне пра бязрадасную рэчаіснасць мой слабы слых!  І ўсё ж я не мог сказаць людзям: гаварыце мацней, крычыце, бо я глухі. Ах, як жа я мог даць заўважыць людзям слабасць таго пачуцця, якое ў мяне павінна быць больш дасканалае, чым у другіх, пачуцця, вышэйшую ступень дасканаласці якога я калісьці меў, - як яго маюць ці мелі мала хто з прадстаўнікоў мае прафесіі. О, гэта немагчыма, і таму прабачце, калі я, на вашу думку, трымаюся ад вас убаку. Няшчасце маё для мяне пакутліва ўдвая, бо мне нельга дапусціць, каб яго заўважылі людзі. Я не магу спакойна быць сярод людзей, разумна пагаварыць з кім-небудзь, абмяняцца шчырымі думкамі. . . мне прыходзіцца жыць як выгнанніку. . . »

Ён пісаў і пісаў пра тое, на што ўсё яшчэ не траціў надзеі, што мучыла яго і што, нягледзячы на ўсе пакуты, якія яму прыйдзецца вытрываць, будзе неўзабаве скончана. Праз год! Не, такога абмежаванага чакання трываць нельга. Гэта самагубства! Ён усё пісаў і пісаў:

«. . . нялёгка, а мастаку цяжэй, чым каму-небудзь другому. . . О божа, ты з вышыні глядзіш на маё сэрца, ты ведаеш яго. . . а інструменты князя Л. . . прадайце іх. Які я шчаслівы, што і пасля свае смерці буду вам карысны. . . » Падпісаўся. Зрабіў у першым слове памылку: «Гейглнштат шостага кастрычніка 1802 года

Людвіг ван Бетховен».

Ён зноў пачаў жыць у Вене, на гэты раз на Петэрсплац, побач з каравульняй, і зноў у гняздзе на самым высокім паверсе. Свяціўся сонцам залаты дзень, і, між шшым, дзень гэты быў выбраны ім для «вымярэння вады», як звычайна ён называў гэта, калі быў не ў гуморы. Вымярэнне узроўню вады, футшток - словы былі яму добра вядомы па Рэйну„ Між іншым, ён сам зрабіў гэтую вынаходку і калісьці няраз забаўляў ёю Бройнінгавых дзяцей. Пад века шкатулкі - каб быў добры рэзананс - засоўвалі вязальны пруток. Ён, Людвіг, станавіўся ў куточак, павярнуўшыся да сцяны тварамг адзін з хлопчыкаў ставіў шкатулку на раяль, а Элеанора ўжо. нецярпліва чакала каля клавішаў. Стэфан адцягваў, а потым адпускаў пруток, і той пачынаў звінець. Спачатку тон быў высокі, потым ён паніжаўся па меры таго, як заміралі хістанні.

На адным месцы плывучай гамы Элеанора ўскрыквала:: «Вось тут!»  І ён, Людвіг, адказваў, заўсёды без затрымкіг скажам: «Мі».  І ніколі не памыляўся, хоць паўтарaць маглі яны гэта дзесяткі разоў. Але эксперымент можна было праводзіць толькі тады, калі быў добра настроены раяль. Яны заўсёды дзівіліся: «Як табе толькі ўдаецца гэты фокус, Людвіг?» Сваім абсалютным слыхам ён чуў нават такія нізкія і такія высокія таны дрыготкага прутка, якіх другія

нават блізка не чулі.

А цяпер усё наадварот. Цяпер у другіх хоць і няма абсалютнага слыху, але яны чуюць. . . Апаратура паступова ўдасканальвалася. Пруток нацягвалі да пэўнай мяжы, і калі яго адпускалі, трэба было толькі чакаць гуку, які пачуюць яго вушы. Ён бачыў, як дрыжыць пруток. Нарэшце: «Ля-бемоль». Правяраць не трэба. Ён адгортваў блакнот і звяраўся з ранейшым запісам. А запіс быў: «Ля, ля-бемоль». Значыцца, магчымасці яго слыху ўспрымаць гукі цяпер усё меншалі, меншалі паступова, але беспаваротна. Ля-бемоль! Цяпер ужо чыстае ля-бемоль! Але ці варта забіваць сабе галаву такімі рэчамі? Трэба працаваць далей! Працаваць удвая, каб да астатку выкарыстаць час.

Над «Гераічнай сімфоніяй»! Каб хоць ён сам не быў такі сумны герой! Колькі ён ужо паламаў галаву над гэтай сімфоніяй! У чым-чым, а ў пасіўнасці ён сябе папікнуць не мог. На раялі, дый на падлозе музычнага пакоя грувасціліся цэлыя горы кампазіцый. Частку іх Карл ужо збыў ці якраз з кім дамаўляўся.

Ён не вёў уліку сваіх твораў. Ды і навошта гэта ведаць? Хопіць і таго, што ён іх пісаў. Потым яны яго больш не цікавілі. За рамансам для скрыпкі з аркестрам соль мажор з’явіўся раманс фа мажор, а можа, было яно і наадварот. У яго дрэнная памяць на лічбы. Тоны запаміналіся лепш. Саната для фартэпіяна - соль і рэ, струнны квартэт - фа, а санаты для скрыпкі і фартэпіяна - до, соль і ля. Цяпер ён працаваў над фартэпіяннай санатай, копію якой пашле Жазефіне, і хай яна не баіцца, што яго слых за гэты час сапсаваўся яшчэ больш.

Значыцца, успрымальнасць яго вушэй паменшала да ля-бемоль! Да ля-бемоль мажор? Між іншым, гэта неблагая ідэя! Ён напіша скерца ля-бемоль, няхай будзе вакханалія, віхравы танец у самых разных адценнях стаката, каб яна добра бачыла, які ён. . . вясёлы! Пяро старанна выводзіла ноты, і ён апусціў яго ў чарніліцу амаль у той жа момант, як загрымелі званы. Быў ноўдзень, і святы Пётр азваўся на гэта голасам свайго звона. Не застаўся ў даўгу і святы Стэфан, адгукнуўся яшчэ мацней.

Ён устаў з месца і падышоў да акна. Якія малюсенькія людзі на Петэрсплац, калі глядзець на іх адсюль, з пятага паверха, і вось гэтыя, такія ж малюсенькія, як і неразумныя людзі, часам пыталіся ў яго, ківаючы галавою, чаму ён выбраў сабе такую кепскую кватэру побач са званамі, што звіняць раніцаю, калі ўсе спяць, і ў поўдзень, і вечарам. . . Званы былі яго ўцеха, яго ўпэўненасць і яшчэ больш. Іх металічныя галасы гучалі так моцна, што разбілі б любую сцяну, калі б яна ўзнікала паміж ім і светам. Ён глыбока ўздыхнуў, і ім авалодала шалёная радасць, што ён так хітра знайшоў сабе гэтых непераможна дужых саюзнікаў.

Бетховен падняў руку, папярэджваючы.

- Не трэба святла, Рыс! Няхай свеціць толькі наша ўласнае святло, калі яно ў нас ёсць. - Ён раз’юшана хадзіў узад і ўперад. - Я, зразумела, не шкадую, што сказаў гэтаму фарсуну, гвардзейскаму афіцэру і яго донне, якія асмеліліся балбатаць, калі я іграў у графа Броўна: «Перад свіннямі я не іграю!» Час ад часу сяму-таму з гэтых паноў варта нагадваць, што трэба мець яшчэ і другія заслугі, апроч адной толькі перавагі, што ты са знатнага вывадка. Але з-за гэтага быў грунтоўна сапсаваны вечар. Значыцца, вам хочацца пачуць мой вялікі твор?

- Калі вы, маэстра, лічыце, што я варты гэтага.

- Фердынанд, перад гэтым, калі выконваліся ў чатыры РУкі маршы, вы трымаліся малайцом. Добра, я сыграю вам накіды да новай санаты, якая пакуль што занатавана толькі ў маёй галаве. - Ён рэзка і сярдзіта засмяяўся. - Санаты для фартэпіяна, але ўсе гэтыя маэстра-піяністы, усе гэтыя фарысеі і законнікі, вядома, заявяць: гэта наогул не саната для фартэпіяна! Яна сапраўды не такая, як іх пісалі раней. Я і Сам, калі карыстацца старымі, утаймаванымі маштабамі, мушу сказаць, што яна монстр. Але як свет рухаецца наперад, так і мастацтва не можа бегаць сюды-туды ў здратаваным тупіку. Ці будзе толькі яна нам пад сілу? Там ёсць даволд вялізная прэлюдыя. Новая саната, між іншым, напісана для чалавека, якога вы ведаеце па Бону і які добра ставіўся да мяне. Прысвечана яна графу Вальдштэйну, і на ўшанаванве Вальдштэйна давайце прывыкнем называць яе «Вальдштэннавай санатай». Пачынаецца яна з алегра кон брыо - піянісіма, піянісіма, Фердынанд, - але алегра кон брыо, гэта значыцца, хутка, горача, але вельмі ціха.

Клавіятура раяля нагадвала невыразнае тленне, па якім паволі, як бы вагаючыся, сунулася нешта цьмянае, а потым выбухнула піянісіма, у хуткім тэмпе, лёгкім дотыкам і ўзлётам пальцаў. . . Некалькі разоў Бетховен хрыпла смяяўся, кідаў бязладныя словы:

- Кадэнцыя! Дамінанта, а ў паралелі – субдамінанта! Потым жа павінна ісці галоўная тэма!. . Калі ласка, паспрабуйце паўтарыць, панове маэстра-піяністы! А вось тут, тут, панове, у вас аж валасы дыбарам стануць! Першая тэма пачынаецца до мажор, а канчаецца сі! Ці не праўда, панове, па ўсіх канонах гэта немагчыма!

Ён усё іграў і іграў, у тым ліку і чароўнае андантэ, за якім адразу пачалося алегра, што больш нагадвала ронда.

Потым Бетховен стаў корпацца ў стосах нот на раялі, нечага шукаючы.

- Тут дзесьці павінна быць крэсіва. . .

Калі свечкі ў падсвечніку загарэліся, ён зноў заўважыў прысутнасць свайго вучня Рыса.

- Ужо дзевяць?

Раніцаю на гэты час быў прызначаны ўрок.

- Спакойнай ночы, маэстра.

Рыс няраз слухаў яго ігру, але такой не чуў яшчэ ніколі, нават на публічных музычных акадэміях, калі ён, зусім не звяртаючы ўвагі на высокапастаўленых прысутных, паказваў, што яму да іх няма ніякага клопату. Няўжо Бетховен іграў дзеля яго? Не, гэта толькі зачэпка, каб даць выйсце таямнічаму настрою. Таямнічаму? Гэтае слова задужа слабае, задужа аднабокае. . . Гэтая саната - нешта жахлівае; у параўнанні з ранейшымі санатамі ў яе зусім новае аблічча. А яшчэ больш жахліва тое, што ён перажыў у начным паўзмроку. У начным паўзмроку? Рыс паспрабаваў вылучыць паасобныя дэталі. Тэхніка. Толькі тэхніка, якой ён яшчэ ніколі не бачыў такою вызваленаю ад усякіх путаў. Не мае сэнс вучыцца ў чалавека - а ці ж чалавек гэта? - тэхнічнай віртуознасці якога ніколі, нават і аддалена, нельга дасягнуць. Дый што для маэстра тэхніка? Сапраўднае ў яго пачынаецца дзесьці далёка-далёка за гэтай. . . яго! тэхнікаю! Але што я; там пачынаецца?. .

Кватэра была ў новым будынку, які належаў геру Цытэрбарту. У купца Цытэрбарта было надта многа грошай і яшчэ больш захаплення тэатрам, у якім ён нічога не разумеў. Гэта скарыстаў дзелавы чалавек, гер Шыканедэр, лібрэтыст «Чарадзейнай флейты», і параіў геру Цытэрбарту ўкласці некалькі соцень тысяч талераў у новабудоўлю Венскага тэатра. І вось будынак гатовы, у ім яшчэ пахне вапнаю і фарбаю. Дамы і кватэры - як людзі, з якімі спачатку таксама патрэбна наладзіць сувязі.

Як жа абрадаваўся Бетховен, што ён можа пераехаць у тэатр не толькі таму, што яму даручылі нанісаць оперу, аб якой у яго спачатку было даволі цьмянае ўяўленне. Ажылі юначыя ўспаміны - ён, маленькі хлопчык, за клавесінам у аркестры - хістаюцца кулісы, таямнічае паветра, якім цягне са змроку сцэны. Але тут усё расчароўвала яго, можа, справа цяпер у ім самім? Гэты неспакой! Да канцэрта заставалася каля чатырох дзён. Яму, мабыць, усё ж прыйдзецца ўзяць санату для скрыпкі до мінор, і ён не схільны адступаць.

І вушы, у якіх сёння зноў па старой прывычцы нібы малатком усё стукае нячысцік, і гэтае страшыдла, новы слыхавы ражок, які ў другіх выклікаў толькі насмешку! Змрок пачаў напаўняць пакой, яго змрок, яго прыцемкі, у якіх прачыналіся баязлівыя совы. Ён усё чакаў, але тое, чаго чакаў, сёння прыходзіць не хацела. Часам здавалася, што яно прыйшло, але яго праганяла потым, мабыць, тое, што стукала ў чэрапе. Вось цяпер - здаецца, прыйшло зноў? І быццам гучыць. . . харал? Можа, так, а можа, і не, і ў якой танальнасці, а галоўнае - што? Ён прыслухаўся, твар скрывіўся ў грымасе. Бо пры такім прыслухоўванні навобмацак яму не мог памагчы і левіяфан - слыхавы ражок, нават калі б ён быў У дзесяць разоў даўжэйшы!

Ціха! Асцярожна, асцярожна, каб нічога не прапусціць міма. Цяпер і сам шайтан пакінуў яго ў спакоі. . . до мажор? Не, нешта накшталт харала, але няўжо ля мажор? Асцярожна, вельмі асцярожна - ён гэтага нават не пачуе, але справа не ў гэтым, досыць таго, каб ведаць, які ты бярэш акорд, дакранаючыся да клавішаў. Ну, а далей што? Адажыо сустэнута? Да чаго заўсёды жахліва цяжкія і няўпэўненыя першыя крокі! Паўтарыў акорд: ля, мі, до-дыез, ля! Ну, а потым далей піяна: фа-дыез - рэ, рэ - сі, сі - соль-дыез! Тоны з опуса Рудольфа Крэйцэра, якому ён хацеў прысвяціць свой опус? Гэты акорд і яшчэ невялічкую частачку можна, між іншым, сыграць сола на скрыпцы, як кажуць, раскусіць цвёрды арэшак адразу. Потым ён адкажа - таксама сола - на раялі. Цяпер яму спатрэбіцца святло, каб запісаць тое, што будзе высвечвацца з таямніча пякельнага агню.

Ну, на харал адказаў харал - калі можна так назваць гэта! - а далей што?. . Хіба нерашучае хістанне сюды-туды, і гэта па-свойму таксама абгрунтавана? Галоўнае цяпер: або

тое. . . другое, або шайтан, што пастукваў у чэрапе! Трэба проста добра з’ездзіць яму па мордзе! Прэста! Ралентанда! Яшчэ раз! І яшчэ раз ралентанда з. . . кадэнцыяй фартэпіяна, на якім ён - а як жа іначай! - будзе іграць на канцэрце. Ферматэ. . . Гэты злосны мучыцель-д’ябал, мабыць, думае сабе цяпер, што яму ўдалося паставіць кампазітару мат? Ён, вядома, памыляецца, як і раней! Бо д’ябал усё яшчэ ніяк не дагоніць яго. Сапраўднае ж толькі цяпер і пачынаецца! Прэста! І пайшло-паехала, як пошта, на чатырох конях, з бляскам, з фанфарамі і літаўрамі! Як жа тут стараюцца коні, фартэпіяна і скрыпка! Крэшчэнда! Сфарцата! Сфарцата!! Занадта паволі іграе фартэпіяна! А цяпер чарга скрыпкі! Сфарцата! Акорд і піцыката! Сфарцата!. .

Вось ужо і другая частка паблісквае перад ім. Калі толькі разблытаць клубок, усё звычайна пойдзе само сабою. Неблагія выйдуць варыяцыі. Ну а што рабіць з трэцяю часткаю?. . Ёсць нядрэнная ідэя. Яе ён возьме з шостай санаты для скрыпкі, дзе яму яна ўдалася надта недапушчальна хораша, нават калі і ўлічваць, што яна прысвечана рускаму імператару. Ах, гэтае прысвячэнне! Нічога з яго не выйшла. За санату яму не далі ніводнага крэйцэра.

Нарэшце Бетховен заўважыў, што на яго нападае нейкая млявасць. Пакуль што ўсё ў ім яшчэ дрыжыць, але хутка ён стане такім жа абыякава нежывым, як нікому не патрэбны кавалак дрэва. Ён стане звычайным чалавекам, паўглухім, змучаным рознымі хваробамі. А ўздым, што штурхаў яго красці агонь у багоў, пяройдзе ў рэзь у жываце, колікі ў кішках, якія апошнім часам таксама пачалі трывожыць яго.

Ну, а гэта што яшчэ такое? Свеціць сонца, і паднялося яно ўжо даволі высока. Ён падышоў да акна. Унізе па вуліцы тупаў маленькі Карл Чэрны. Ён, мабыць, ішоў да булачніка.

- Гэй, ты, валацуга, падыміся да мяне наверх! І вось хлопчык наверсе.

- Добрай раніцы, маэстра!

- Якой добрай раніцы? У мяне ўсё яшчэ ўчарашні вечар. Хадок ты добры?

- Куды збегаць, маэстра?

- А не спалохаешся чорнага чалавечка?

- Якога «чорнага чалавечка»?

- Скрыпача Брыджтаўэра, мулата. Бяжы ў «Залаты грыф» һ калі ён яшчэ спіць, выцягні яго за рудыя ногі з ложка. Потым учатся ў кучаравыя валасы і давай яго сюды, вось так, як раблю цяпер з тваімі кудламі я, разумееш? Ён павінен быць тут, бо мы будзем рэпеціраваць да нашага канцэрта новую санату для скрыпкі, і ты таксама можаш пайсці з намі.

- Каб сядзець і слухаць, маэстра?

- Ага, а ты што думаў? Чысціць смык геру Брыджтаўэру? Я нават чакаю ад цябе ацэнкі. Бо рэч ідзе аб санаце для скрыпкі, якую я напісаў сёння ноччу Рудольфу Крэйцэру, і нам гэта будзе справаю гонару, як ты лічыш? Ты ўсё яшчэ тут?- Ён убачыў шчаслівы бляск у хлопчыкавых вачах і крыкнуў яму ўслед: - Карл, не ляці так! А то паломіш на ўсходах ногі. А мне, вар’ят ты, патрэбен Брыджтаўэр!

- Бетховен, партыя для фартэпіяна, якую мне прыйдзецца перагортваць, зноў гэтак жа скрэмзана, як той раз. . .

Бетховен злосна зірнуў на свайго вернага сябра, нізенькага капельмайстра Зейфрыда, і, разгарнуўшы партыю, падаў яе яму.

- Калі ласка.

- Божа літасцівы! Адны іерогліфы!

- Мне хопіць і гэтага. Жыццё занадта кароткае, каб маляваць літары і ноты, дый і наўрад ці прыгожыя ноты выведуць мяне з гаротнікаў.

- Апроч таго, у вас і з нервамі не ў парадку.

- А навошта мне нервы? Каб вось тут дэманстраваць майстэрства перад некалькімі модніцамі і франтамі, перад некалькімі цюбікамі памады і флаконамі парфумы? Я, вядома, не ўсіх далучаю да іх ліку. - Ён падумаў пра Ліхноўскага і Цмескаля і перш за ўсё пра Франца Брунсвіка, які з сваёю сястрою Жазефінай якраз быў у Вене і таксама меўся прыйсці на канцэрт. - Не палохайцеся, Зейфрыд. Я загнуў ражкі, U калі дам вам знак галавою, смела перагортвайце старонкі. Мне здаецца, што цяпер нам трэба ісці на сцэну. Пара, містэр Брыджтаўэр.

Зала ў Аўгартэне была паўнюткая. Ранішнія акадэміі, якія пачыналіся ў восем гадзін, карысталіся вялікаю папулярнасцю. Зіхацеў сонечйым святлом майскі дзень, і ўсіх прываблівала імя маладога скрыпача-мулата Джорджа Брыджтаўэра, «Prem Ier V Iolon de S. A. R. le Pr Ince de

Walles» ( Першая скрыпка яго каралеўскай высокасці прынца Уэльскага (франц. )). Як яго ўрачыста празвалі газеты. Яго імя было ахутана мноствам чутак, такіх жа гарачых і таямнічых, як афрыканскія стэпы. Бацька Брыджтаўэра, казалі, быў сапраўдны негр, люты афрыканскі царок, а маці - белая жанчына-паланянка. Прынц Уэльскі даў свайму канцэртмайстару адпачынак, каб ён падлячыўся на водах у Тэпліцы і Карлсбадзе. З гэтай нагоды дзіва-мулат заехаў і ў Вену і вось цяпер стаяў на сцэне, сціплы чалавек сярэдняга росту з цёмна-рудым тварам і меланхалічнымі вачыма.

Ён усё яшчэ корпаўся ў скрыпцы, але нарэшце прыціснуў яе барадою. А Бетховен чамусьці марудзіў. Сёй-той з публікі ўнізе яшчэ варушыўся. Ну, цяпер пара! Правёў рукою па ўзлахмачаных валасах. Вочы чагосьці хуценька шукалі ў зале, на губах блукала ўсмешка. «Ты ж ведаеш, што мы іграем і дзеля цябе? Прынамсі. . . я буду іграць дзеля цябе!» Жазефіна апусціла галаву. «Я ведаю. . . »

Імгненна выраз вачэй Бетховена змяніўся, яны пацямнелі, сталі вялізнымі.  І тады ён падаў знак скрыпачу. Брыджтаўэр глыбока ўздыхнуў. Яго твар сутаргава сціснуўся ад напружання. Скрыпцы адразу ж адказала фартэпіяна. Не, адказала не нейкае там фартэпіяна, а вунь той чалавек, Людвіг ван Бетховен. Як гэты дэман іграе на фартэпіяна, як ён імчыцца наперад і тым не менш трымае сябе ў руках! Трэба больш выціснуць са скрыпкі, яшчэ больш! Бо гэты драпежнік за раялем, што валодаў усімі адценнямі рухаў свае лапы, гэты дэман цяпер не імітаваў ігру, як ён рабіў гэта на рэпетыцыях, а пачаў іграць пасапраўднаму!

Маленькі Карл Чэрны стаяў, прыхінуўшыся да сцяны залы, у ненасрэднай блізкасці ад крэсла, на якім сядзеў бацька. Ён шапнуў яму на вуха:

- Тата, гэта. . . мой настаўнік, ён мяне пахваліў учора.  І, паміж намі, мы завём гэты твор «Крэйцэравай санатай».

Яго вочы блішчалі, і ён ужо трымаў напагатове рукі, каб не запазніцца з апладысментамі. Але ён так і астаўся сядзець нерухома, у гэтай пастаecontrol, бо пад самы канец санаты выбухнулі такія моцныя крыкі, рогат і свіст, што яны адразу ж заглушылі воплескі нямногіх, хто асмеліўся апладзіраваць. Хтосьці насмешліва сказаў:

- Такога глупства мой сваяк Моцарт ніколі не напісаў бы.

Другі здзекліва пацвердзіў:

- Можа, гэта тлумачыцца тым, што ён глухі і таму не можа праверыць таноў! Давайце моцна свістаць і рагатаць, каб ён пачуў хоць гэта.

Князь Ліхноўскі збянтэжана паглядзеў на Цмескаля, але і той разгубіўся; адзін Франц Брунсвік даўмеўся, што рабіць. Тут у Вене ён зноў быў у сваёй дарагой гусарскай венгерцы, І яна аж развявалася, калі ён адным скачком апынуўся на сцэне, удзячна паляпаў Брыджтаўэра па плячы, а потым абняў яго. У раптоўна запанаванай цішыні прагучаў нечы стрыманы голас:

- Франц!

Брунсвік азірнуўся.

- Што такое, Жазефіна?. .

- Хачу толькі сказаць табе, Франц, што я ганаруся табою.

Карл ван Бетховен прыйшоў да адзінага магчымага вываду: Людвіг ва ўсіх справах астанецца вечным няўдачнікам, яго жыццё неабходна давесці да цвёрдага ладу, і вельмі добра, што цяпер гэта ў свае рукі возьме ён, Карл ван Бетховен, зорка сям'і, імператарска-каралеўскі касавы афіцэр! Праўда, ён нарэшце стаў ім, атрымаў адпаведнае пасведчанне з пячаткаю. Ёган жа не пайшоў далей аптэкара.

Ну і выгляд жа ў кватэры! Людвіг можа лічыць сябе шчаслівым, што ён, Карл, пераехаў да яго ў будынак тэатра. Між іншым: ідэя оперы таксама нічога не варта. Людвіг марыць аб чымсьці накшталт рэвалюцыйнай оперы ў сэнсе ідэалаў чалавецтва, чалавечнасці. Тут лепш пасавала б мара аб оперы, што дае збор. Людвіг - прапашчы геній, але калі тым не менш ёсць людзі, што заплюшчваюць ад захаплення вочы, калі той толькі пратромкае пару тонаў, то справу трэба ўзяць У свае рукі і прывесці яе ў адпаведны парадак.

Вось цяпер правалілася саната для скрыпкі ля мажор, прысвечаная геру Рудольфу Крэйцэру. Якая блытаная і напышлівая рэч! Гэтая неверагодная партыя скрыпкі! А фартэпіяпа, якое павінна было замяніць цэлы аркестр! Вось дзе яму, Карлу ван Бетховену, патрэбна сказаць усім сваім аўтарытэтам імператарска-каралеўскага касавага афіцэра: «Хопіць!»

Прагледзеўшы Крэйцэраву санату, ён уздыхнуў. Прыйдзецца яе перапісаць амаль нанава,

а гэта - значная дадатковая нагрузка пры яго і без таго нялёгкай дзяржаўнай службе. Але што тут зробіш? Што ні кажы, а Людвіг родны брат, і таму клопату аб ім не аддасі другому. Ну, а калі рашэнне аб перапрацоўцы канчатковае, то, мабыць, можна паталкаваць з выдаўцом Зімрокам у Боне. Што ж можна прапанаваць выдаўцу? Скажам, санату, якую ён перапрацуе, і. . . можа, яшчэ і наступную сімфонію?

Хоць Зімрок і ведаў дзяцей Бетховенаў з таго часу, калі яны, замурзаныя, бегалі па вуліцы, але цяпер яму, касаваму афіцэру, трэба трымаць дыстанцыю - лепш за ўсё ўжываючы зварот, якога чакаеш сам. І таму ён напісаў:

«Глыбокапаважаны пан!

Аранжыроўкі музыкі для фартэпіяна і інструментальных рэчаў майго брата Людвіга пераходзяць цяпер у рукі спрактыкаванага кампазітара. У нас ужо гатова некалькі інструментальных рэчаў, вельмі прыдатных для фартэпіяна з суправаджэннем і без. . . »

Нехта ззаду папытаўся:

- Гер ван Бетховен дома?

Карл паволі павярнуўся і падкрэслена, нібы незадаволены перашкодаю, пачаў забаўляцца з залатым ланцужкком для гадзінніка.

- Не, яго няма.

Ці ж не бессаромнасць гэта гера Стэфана фон Бройнінга рабіць выгляд, быццам існуе толькі адзін Бетховен?

Ігнац фон Глейхенштэйн, малады сябар і паклоннік Бетховена, з якім яму памог пазнаёміцца Бройнінг, кіўнуў галавою.

- А што я табе казаў, Стэфан? Ён проста забыўся. . . У нас была дамоўленасць, што гер ван Бетховен дасць згоду пазіраваць геру Мелеру для партрэта. Мы заглянем сюды яшчэ раз недзе перад абедам.

Малады мастак прыйшоў нагружаны мальбертам, палатном і скрыпачкай з фарбамі.

- Мне, мабыць, можна пакінуць тут гэтыя прылады? Карл ван Бетховен пацiснуў плячыма і абыякава кінуў:

- Перашкаджаць не стану, але наўрад ці ў бліжэйшы час у Людвіга знойдзецца магчымасць даць сеанс, бо нам з братам прыйдзецца вельмі сур’ёзна і напружана папрацаваць. Я разлічваю перарабіць з ім санату для скрыпкі ля мажор і яшчэ некалькі другіх яго кампазіцый.

Стэфан фон Бройнінг спачатку ад здзіўлення нічога не зразумеў, а потым зарагатаў.

- Не рабіце з сябе пасмешышча, гер касавы афіцэр! У вас на верхнім паверсе не хапае адной бэлькі ці іх больш як трэба. Або тое, або другое.

- Гер рэферэнт!

- Што, гер касавы афіцэр? Пакіньце свае рэчы, Мелер. Карл ван Бетховен праводзіў трох змрочным позіркам. Зрэшты тытул «касавы афіцэр» гучаў больш паважна, чым «рэферэнт», але рэферэнт - пасада пры прыдворным ваенным савеце, і таму гэтых паноў Бройнінга і Глейхенштэйна нельга паставіць на належнае месца, як яму б хацелася. Людвігаў партрэт! Што такога ў Людвігу, каб пісаць партрэт?

Трое, пераходзячы ўнізе вуліцу, ніяк не маглі супакоіцца. Глейхенштэйн, душачыся ад смеху, заўважыў.

- Значыцца, цяпер ён з Людвігам будзе праглядаць яго кампазіцыі і папраўляць іх!

Бройнінг пацiснуў плячыма.

- Гэта Людвігава бяда, што ў яго сапраўды няма чалавека які вёў бы яму справы дый перагаворы з выдавецтвамі таксама. Сам ён на гэта зусім нявдатны. Ён то як рахманае дзіця, гатовае аддаць, бадай, усё, што ў яго ёсць, то як раз, лютаваны бык, які бачыць чырвонае там, дзе яго няма. Між іншым, вы заўважылі прыгожы ланцужок для гадзінніка, якім любаваўся гер касавы афіцэр? Бясспрэчна, ён куплены за грошы, выручаныя за Людвігавы кампазіцыі. Але паспрабуй што-небудзь сказаць яму! Ён як адрэжа: «Гэта мой брат». І нічога тут не зробіш.

Карл дапісаў пісьмо і запячатаў яго аплаткамі. Потым зашпіліў сурдут, бо ліст трэба было аднесці на пошту. За дабро і тут, відаць, не дачакаешся дабра. . .

І потым усё, вядома, выйшла так, як ён і думаў. Праз дзве гадзіны ён атрымаў Людвігаў адказ на сваю высакародную прапанову. Пры гэтым ён, Карл, нават яшчэ ніводным словам не сказаў пра ліст да Зімрока, толькі ў вельмі тактычнай форме параіў разам прагледзець і праверыць кампазіцыі, каб звесці да нейкай дапушчальнай нормы экстравагантнасці, якія маглі

не спадабацца публіцы. Людвіг шпурнуў яму міскаю ў галаву, як нядаўна афіцыянту ў «Лебедзі». Тады ў афіцыянта «Лебедзя» ён, прынамсі, яшчэ папрасіў прабачэння. Але яго, свайго брата, касавага афіцэра, ён звыш таго і абразіў, параехаўшы жыць да Бройнінга! Да гэтага Бройнінга, які ў Дадатак яшчэ здзекліва пасмяяўся з абразы, сведкам якой стаў разам з такім жа як ён невыносным Глейхенштэйнам і Мастаком Мелерам! Людвіг аж роў: «Ты, хворы маніяй вялікасці судовы выканаўца!»

Адкуль у чалавека гэтулькі нахабства? Праўда, касавы афіцэр - судовы выканаўца, але старэйшы судовы выканаўца, а іх у Вене ўсяго трое, і таму гэта абражала мацней, чым тое, што ў яго шпурнулі глінянаю міскаю. Гэтая абраза не меншая за знявагу, што тоіцца ў. . . пачатку Крэйцэравай санаты, якой Людвіг не даў выратаваць «хвораму маніяй вялікасці судоваму выканаўцу». Выратаваць! Ніхто і ніколі не будзе выконваць санаты ў гэтай рэдакцыі, нават сам гер Крэйцэр, якому яна прысвечана. Прафесар парыжскай Кансерваторыі і канцэртмайстар Банапарта, як яму, Карлу, сказалі, «падзякаваў». Усяго гэтага магло б і не быць, калі б на сваім часе зрабіць адпаведныя папраўкі.

Няўжо ў Бройнінга Людвіг цяпер больш шчаслівы? Яны займаюць дзве кватэры на адным паверсе, і ім слугуе адна кухарка. Кажуць, што Людвіг цяпер хварэе. Ніхто з дактароў не можа разабраць, што ў яго за хвароба. Пацыента трасе нейкая таямнічая ліхаманка, якая раніцаю цішэе, а ўвечарц зноў пачынае неміласэрна калаціць. Але ўсё гэта толькі з чужых слоў.

Стэфан фон Бройнінг быў неспакойны. У час ранішняга візіту доктар Шмід гаварыў пра крызіс, пасля якога хвораму або палепшае, або стане куды горш. Людвіг у кватэры быў скрозь адзін. Ён нікому не дазваляў быць побач з сабою, не хацеў, каб яго бачылі хворым. У крайнім выпадку з ім бываў маленькі Карл Чэрны. Глейхенштэйн вымушаны быў кудысьці наехаць, Цмескаль, мабыць, быў таксама прыкаваны да службы, а яму, Бройнінгу, зноў і зноў загадвалі прысутнічаць на ўсё новых нарадах.

- Маэстра! Прашу вас, дарагі маэстраі Бетховен зазлаваў:

- Неразумны ты, Карл, хоць і падабаешся мне. Зразумей жа гэта нарэшце. Калі нябожчыкі не ідуць да мяне, то мне не астаецца нічога другога, як самому пайсці да нябожчыкаў.

Карл Чэрны задрыжаў ад страху. Якія жахлівыя словы. А потым. . . каб пайсці да нябожчыкаў, маэстра з паважнай годнасцю надзяваў свой шлафрок. Хоць бяжы з жаху па ўсходах уніз і ўцякай куды вочы глядзяць. Ліхаманка, вядома, пабольшала, і маэстра пачаў трызніць. Калі ж нарэшце прыйдуць гер фон Бройнінг ці гер фон Цмескаль. . .

- Карл. . . - Бетховенаў голас гучаў з нейкім выклікам. - Ты, вядома, упэўнены, што я трызню, і тут, мой хлопчык, я з табою згодзен. Тым не менш я добра бачу ўсё. Ты мяне баішся? Бачыш, Карл, з гэтага ўсё і пачынаецца. Нават будучы калекам у людзей ты выклікаеш спачуванне, вядома, калі ты мастак, сапраўдны мастак, а не шарлатан. Тут цябе ненавідзяць, узводзяць на цябе паклёп і пагарджаюць табою, другім ад цябе і клопатна і цяжка. - Ён уздыхнуў: - І самому сабе таксама! Можаш паверыць мне. - Ён сеў за раяль. - Няўжо тут многа клавішаў, Карл? Па-мойму, не вельмі, і тое, што трэба, павінна, здаецца, знаходзіцца легка, калі шукадь яго сярод нямногіх клавішаў і таноў. Па-мойму, дык можна абысціся і адною актаваю. Усё павінна быць у актаве. - Сыграўшы яе, дадаў: - Усё ёсць тут, а я вось не магу знайсці патрэбнага.

Хлопчык задаў новае пытанне, бо яно, здавалася яму, затрымлівала набліжэнне чагосьці жахлівага:

- Чаго вы шукаеце, маэстра?

- Чаго я магу шукаць? Ценю, які блукае ў царстве ценяў? Хто мояха мне сказаць гэта? Ты зноў спалохаўся, Карл, прызнайся! Бо я гавару пра царства ценяў. Мастаку трэба падтрымліваць сувязі і з нябожчыкамі, з жывым духам і з жывым шайтанам.

Ён іграў, хрыплым голасам падпяваючы «Chant du depart»: «La v Icto Ire en chantant nous ouvre la barriere!» Не, бар'ер астанецца! Гер адмірал, гер Гарацыо Нельсан, аддайце ж сваёй «V Ictory» загад адкрыць агонь і разбіць гэты бар'ер!- Ён зрабіў жэст рукою, быццам кожнае далейшае тлумачэнне лішне.

- Безумоўна, я ведаю, што вы загінулі. Гэта якраз і цікавіць мяне. Нам неяк трэба. . . сустрэцца на мосце паміж жыццём і смерцю!- І зноў ён паматаў галавою. - Я, вядома, памыляюся. Прызнаюся. «Chant du depart» мостам для вас быць не можа, бо вы ж былі на другім баку. Але што такое для нас трох той ці іншы бок? Вось тут Банапарт, вось тут вы, Гарацыо

Нельсан, а вось тут я, Людвіг ван Бетховен. Навошта нам, уласна, гэтыя бакі?

Ад страху Карл Чэрны прыціснуў кулачкі да губ.

- Карл, калі ласка. . . памажы мне і не бойся. Я буду паводзіць сябе спакойна. Я вельмі стаміўся. Памажы мне легчы ў ложак.

Ён застагнаў.

- Не, я гэтага больш не вытрываю!

На паверсе пад імі хтосьці пачаў іграць на фартэпіяна, і ў галасным доме рэзананс быў такі нязвычны, што павялічваў гукі, пасылаючы іх наверх. Ігралася бездапаможная халтура, апроч таго, Бетховен ненавідзеў піяністку, сярдзітую ханжу, старую шляхетную дзеўку. Аднойчы яна папыталася ў яго: «Гер ван Бетховен, кажуць, вы іграеце толькі свае ўласныя рэчы? Вы калі-небудзь спрабавалі іграць санаты такіх вялікіх майстроў, як Руст і Стаміц? Я толькі іх і іграю». Бетховен перарывіста дыхаў:

- Слухай, гэтая сава зноў заікліва тромкае. І яе вочы, мабыць, ад напышлівасці аж блішчаць. Чаму б ім не блішчаць: яна нават умее заікацца на раялі! Няхай яна зараз жа перастане!

На ўсходах пачуліся хуткія крокі, і ў дзвярах паказаўся Стэфан фон Бройнінг. У Карла дрыжала рука, ён паказаў на падлогу. Бройнінг зразумеў адразу, і праз момант гукі ўнізе абарваліся, як бы іх адсеклі сякераю.

Бетховен вяла зваліўся на край ложка, потым, стогнучы паволі падняўся на ногі і няпэўнаю хадою ступіў да раяля. Як лапамі драпежнага звера, з бясконцаю злосцю ён узяў першы акорд. Са свістам, як мяхі, хадзілі-ўздымаліся яго грудзі.

- Вось дзе рашэнне! Яго мне трэба толькі яшчэ раз праверыць!

Ён паўтарыў акорд, больш мякка, і яго дыханне паспакайнела.

- Вось дзе сапраўднае рашэнне. - Ён прыслухаўся. - Што гэта. . . відаць у тым баку? Здаецца, мост? Карл! Запалі святло! Хутчэй, хутчэй! І дай сюды нотную паперу! Чаго ў цябе гэтак дрыжыць рука, дурнічка ты малая? Баішся святла? Патрымай яго. Вышэй! Добра, Карл, і. . . гэта не зойме шмат часу. Тут толькі некалькі нотных знакаў.

Карл Чэрны нясмела папытаўся:

- Што гэта такое, маэстра?

- А я табе яшчэ не сказаў, Карл? Прабач, хлопча. Гэта пачатак жалобнага марша з мае «Гераічнае сімфоніі».

Калі Бройнінг зноў падняўся наверх, Бетховен ужо спаў.

Раніцаю агледзець хворага прыйшоў доктар Шмід.

- Бетховен, вы ведаеце, што робіце?

Са штучнаю пакорлівасцю ў голасе той адказаў:

- Відаць, ведаю. Бо інакш я не мог бы сядзець вось тут каля акна ды яшчэ на сонцы. - Ён сунуў у вуха слыхавы ражок і, павярнуўшыся да доктара, папытаўся: - Вы хоць, прынамсі, ведаеце, як па-лацінску завецца перанесеная мною хвароба?

- Каб вас д’ябал забраў, Бетховен!

Той уздыхнуў:

- Але ён мяне не бярэ, гер прафесар, нават з вашаю дапамогаю.

Калі доктар пайшоў, Бетховен узяўся за запісы, зробленыя ім для трэцяй сімфоніі. Сабралася даволі вялікая і бязладная куча. Сёе-тое, мабыць, можна будзе скарыстаць, большасць жа пойдзе толькі на распал у грубцы. Ён зірнуў на ўчарашнія запісы нотаў. Значыцца, вось тая праробленая да «Гераічнай сімфоніі» дарога. Далейшы шлях яму цяпер вядомы.

Дзіва, што ён не мог да гэтага дайсці галавою. Але ў мастацтве, як ён разумеў, галавою нічога не даможашся. Усё прыдуманае ў музыцы прыпцыпова мала чаго варта, яно ха, шае, бо займае толькі мозг, а сапраўднае мастацтва павінна ісці ад сэрца і кранаць сэрца. І дзіўна, што ноты запісаны гэтак выразна. быццам іх надрукавалі, хоць ён тады трызніў. дцу нават успомнілася, што Гарацыю Нельсана ён палічыў за нябожчыка. Пасля бітвы пад Абукірам разышлася чутка пра яго смерць, але было гэта ўжо даўным-даўно. У сваіх гарачкавых марах ён пераблытаў усё: бітву пад Абукірам, чутку пра смерць і навіну. якая толькі нядаўна абышла ўсе газеты, што Нельсан узняў свой адміральскі сцяг на караблі «V Ictory». Ліхаманка ў целе раптам прапала, але цяпер яго напаўняла непакоем іншая ліхаманка.

Дзе ж затрымліваецца Бройнінг? Нарэшце з’явіўся і ён.

- Знайшоў кватэру, Стэфан? Які нумар дома?

- Ты як дзіця, Людвіг. Верхні Доблінг, дом чатыры. Аб’ява ўсё яшчэ вісела на старым месцы. Гэта тая кватэра, якую ты глядзеў сам. Але прыйдзецца табе, выходзячы з дому, быць вельмі асцярожным, бо інакш звалішся ў Кротэнбах. Гэй! Людвіг, ты мяне, наогул, слухаеш?

- Стэфан, ты не мог бы забегчы да Штэйна і папрасіць яго прысласць мне ў Доблінг раяль? Не хачу рызыкаваць, веравозячы туды свой інструмент, дый наўрад ці варта рабіць гэта, бо дома мяне не будзе толькі ў самыя гарачыя месяцы. Пакуль вы, гер рэферэнт, распрацуеце план вашай наступнай вайны, я ўжо зноў вярнуся з гатовай сімфоніяй. Калі пад’едзе карэта? Бо мне прыйдзецца захапіць з сабою сёе-тое.

- Ты ж ведаеш, што кватэра поўнасцю мэбляваная.

- Яно, вядома, гэтак, але ў маім цяперашнім становішчы я, магчыма, нават сам паеду ў карэце. . .

- Каб адаспацца? Ты зараз жа паедзеш спаць! А я ў Штэйна вазьму напракат раяль і потым патупаю сабе на службу. Да пабачэння!

Вена цяпер была быццам у нейкім іншым свеце, але ўсё-такі ён узяў з сабою некалькі рэчаў, у якіх адчуваў патрэбу. Яны мелі дачыненне да яго старога, добра знаёмага акружэння і, магчыма, будуць пасаваць яму лепш, чым тое чужое, што магло адцягнуць яго ўвагу і перашкодзіць працаваць. Зверху ўніз на яго, як назіральнікі або крытыкі, глядзелі з гравюр Гендэль і Бах, і да іх далучылася яшчэ копія славутай карціны Давіда, якая паказвала клятву Гарацыяў. З ім у падарожжа адправіліся фрыгійскі каўпак і, галоўнае, яго «старэйшыя настаўнікі і сябры з Элады» - Платон, Плутарх і Гамер. Узяў ён з сабою і добры стус нотнай паперы і даволі пёраў, навостраных Цмескалем.

Ну што ты скажаш пра гэты заўсёды вясёлы круглы твар! «Калі ласка, ты толькі паглядзі, Людвіг! Тут пёры з трох гусей, якія геройскі ахвяравалі сваё жыццё дзеля гэтай мэты. Таму, мабыць, ты імі і напішаш сваю трэцюю, сваю гераічную сімфонію».

Чаму толькі ў яго цяпер перад пачаткам работы над новым творам такі асабліва святочны настрой? Вядома, сімфонія мусіць быць грандыёзная, але адно гэта яшчэ не галоўная прычына. Дзіўна, што яго славалюбства сёння кудысьці прапала. Навошта яму сёння Аркольскі мост, па якім пад градам куляўірваўся наперад Банапарт, ды і што яму сам Банапарт, пажыццёвы першы консул, з якім ён хацеў зраўняцца, стаўшы першым консулам у музыцы? Раптам гэтыя думкі сталі нейкімі дробнымі і мізэрнымі. Моніа, сыграла сваю ролю і тая акалічнасць, што цяпер яму было ўжо дзесьці паміж трыццаццю і сарака гадамі, і лёс калі-небудзь павінен жа быў павярнуцца да яго - ці так, ці гэтак. Не, прычына, відаць, і не ў гэтым. . . Герой нёс наперадзе сцяг. Вакол яго свісцелі кулі, але ён цвёрда трымаў сцяг у руках. Ён трошкі павярнуўся, але не назад, яго шпага ў правай руцэ ўпэўнена паказвала дарогу наперад, у новы, лепшы свет. Ёнітолькі хацеў пераканацца, што світа не пакінула яго. Світа - яго салдаты? Ну так, і яго салдаты, але іх твары сталі нейкімі другімі, яны нібы прасвечваліся наскрозь, і таму было відаць, у чым прычына, чаму салдаты кінуліся ў атаку цераз гэты мост. Вось ткачы. . . але іх спіны больш не горбяцца за кроснамі. Глухі стук бёрдаў падобен на гучанне стрэлаў, нітка тчэцца за ніткаю, нітка за ніткаю. Яны ішлі следам, не адставалі, і ткацкі чаўнок пагарды смерцю няспынна слізгаў туды і сюды, ткаў, увесь час ткаў справядлівасць і чалавечнасць! Справядлівасць і для бедных, для ўсіх людзей! А вунь тут сяляне!. . Яны пакінулі свае плугі. Ну што ж, поле няхай пачакае. Але потым прыйдзе дзень. . . для новай зялёнай руні, для важкіх каласоў - і для жанчын з дзецьмі, якім больш не прыйдзецца гнуць спіну на паншчыне, якія, як вольныя людзі, нарэшце атрымаюць уволю яды. Наперад! Бо яно варта гэтага! Наперад за сцягам! Ты ўпаў, браце? А сцяг дзе? Нам трэба далей! А вакол - рабочыя з мануфактур і фабрык, усё расце іх неаглядны паток. . .  І няўжо ўсё гэта ён мусіць. . . перакласці на музыку?

Заходзіла сонца. Неўзабаве настане час, калі можна будзе запаліць першую свечку - малюсенькае сведчанне, што ты напагатове - быццам просьбу, быццам прыманку для таго, што нясе з сабою загадкавая веліч ночы. . .

Сонца пакуль што залаціла верхавіны вінаграднікаў. Паток іскрыўся бліскучымі агеньчыкамі, і якім жа нязначным і нямоглым выглядае ён у параўнанні з пастаўленай задачай. flro неадольна цягне ў сабор, які завецца прыродаю. Калонамі ў ім дрэвы, узвышшы і скалы, а над усім узнімаецца, свабодна плавае купал неба, небывала смелы па архітэктуры, густа пасыпаны зоркамі.

У даліне Кротэнбаха цёмна ад ценю. Сонца ўжо зайшло. Бетховен глядзіць, як бурліць і віхрыцца чорная вада - і ў душы расце неспакой, і ён усё мацней ахоплівае яго. Раптам да яго даходзіць, што бурлівую і бурную ваду бачаць толькі яго вочы, што яе шуму і плёскату ён не чуе. Яму гэта недаступна. Ён выгнанец - а можа, ён чалавек, якога поўная адзінота робіць абраннікам?

Ён не чуў ні плёскату, ні шуму, дый музыкі таксама. Пайшоў назад, у кватэру, сеў за раяль, запаліў свечку і стаў. . . чакаць. Чаго? Узяў два акорды, якімі нібы замацаваў алегра кон брыо, і гэта быццам прарвала заставу, авалодала яго душою, напаўняючы яе амаль дзіцячым захапленнем. Гэта галоўная тэма, а цяпер віяланчэлям пара і змоўкнуць, бо ўжо заявілі аб сабе вострыя сінкапічныя гукі сфарцата ўсяго аркестра. Як тут пераплятаюцца ўсе партыі, нават немілагучныя стогны-акорды над асноваю другога басовага тона! Цяпер чарга духавых інструментаў і кантрабасаў, але фартысіма, услед за трубамі і валторнамі!. . Занадта слаба! Занадта слаба! Мацней у тры разы! Тытаны ж не кідаліся каменьчыкамі, а цэлымі скаламі! Гэтак, безумоўна, у тры разы! Маўчала ноч, якая ўжо даўно - а ён нават не заўважыў гэтага - упрыгожана вышыўкаю з залатых і сярэбраных іскраў. Сёння яго вушы быццам наглуха заляпіла, і нават акорды сфарцата на раялі чуліся толькі як нейкае гудзенне. Ён узяў у рукі інструмент, прыдуманы ім для самога сябе, - палачку з цвёрдага дрэва, адзін канец якой заціскаў між зубоў, а другі засоўваў у раяль, так што гукі дабіраліся да вушэй цераз зубы. Але сёння не памагаў нават і гэты дасціпны інструмент, і таму ён, зазлаваўшы, кінуў яго ў куток.

Што за чортавы незразумелыя рэчы! Перш чым супакоіцца, палачка падскочыла некалькі разоў, але без стуку. Усё рабілася бясшумна.

Ён іграў, свістаў, хрыпеў, крычаў, заносіў на лінаваную паперу ноты, паўтараў напісанае, каб пераканацца, трэба ці не трэба напісанае перарабляць, гаварыў з ноччу, якая не Давала адказу, з зоркамі, якія не звярталі на яго ніякай увагі, а моўчкі, бліскучыя і халодныя, ішлі па прызначаных ім дарогах.  І ўвесь час сярод іх ён прымушаў іграць інструменты аркестра: тымпаны, літаўры! Трубы! Потым габоі і скрыпкі! Спачатку другія скрыпкі, першыя няхай яшчэ пачакаюць! Вось цяпер іх чарга! А скрыпкі няхай пакуль што прытрымліваюцца секунднага акорда! А цяпер зноў гучыць другая тэма! Яе абвяшчае валторна! Няўжо ўсяго адзін гук валторны? Не, болей! Валторна! Валторна! Балючае захапленне скрывіла твар. Ах. . . гэты дысананс, на які дагэтуль яшчэ не адважваўся ніводзін, ніводзін чалавек!

Мазаіка, з якой складаецца тое, што завецца жыццём, страшэнна зблытаная рэч. Няспынна, быццам у калейдаскопе, дзіцячай цацачцы, мяняюцца карціны, толькі без бліскучай пярэстай гармоніі. Быццам твая галава ўвесь час у мурашніку, і ты марна траціш і час і сілу на гэтыя дробязныя перашкоды.

Гераічная сімфонія ў асноўным скончана. Скончана? Колькі ж у мастацтве незакончанага, колькі ж кампрамісаў! Як тут усё проста для Фоглера, яго славутага і вялікага саперніка. Той нядаўна зноў, ужываючы яго выраз, «стварыў, скончыў» новы твор. А ён, Бетховен, яшчэ ніколі не «стварыў», не кажучы ўжо «скончыў», ні аднаго твора! Ён проста сціпла «пісаў» свае рэчы і радаваўся, калі яны нарэшце былі да таго «гатовыя», што ён мог аддаць іх перапісчыкам. З Доблінга, між іншым, ён прывёз яшчэ і санату для фартэпіяна фа мажор. Яна прыйшла яму ў галаву, калі ён гуляў з Рысам, і, на яго думку, выйшла да таго ніштавата, што ён, яшчэ з капелюшом на галаве, падсеў да раяля, пайграў, пабушаваў крыху і запісаў усё для надзейнасці на нотную паперу.

Цяпер ён адчуваў сябе, як выціснутая губка. Падумалася, што не шкодзіла б і адпачыць. Хоць крышку адпачыць. Але дзе ж ты тут адпачнеш? Вакол - дробязі жыцця, якія адразу ж і не дробязі! Кватэра, што знайшоў для яго Рыс на Мёлькербастай, выдатная, высока наверсе, на пятым паверсе. Але ў той жа час ён займае яшчэ тры кватэры - сапраўднае глупства, якое забірае безліч грошай. Ён лічыў, што вінаваты ў гэтым Бройнінг, а той перакладваў усю віну на яго, Бетховена. Спрэчкі, нездаволенасць, сваркі. . . А тут яшчэ гэтая опера! Цяпер ад яго як мага хутчэй патрабавалі напісаць оперу. Другую оперу, бо ранейшы заказ, разам з дырэкцыяй тэатра, паляцеў к чорту. Ну і няхай! Нейкая там неверагодная гісторыя пра Аляксандра Македонскага ў Індыі! Ён, праўда, паспрабаваў зрабіць з яе штосьці невялікае, але нічога разумнага з гэтага не выйшла.

Ну, і ўяўленні ж у гэтых новых людзей, гера дырэктара барона фон Браўна і ўсіх іншых! Ён зноў чуў нейкае папярэджанне, за якім хавалася старая спакуса. Опера. . . успамін дзяцінства,

калі ён горда - і як бездапаможна па сённяшніх мангтабах! - брынкаў на клавесіне, . гэтым даўгаватым інструменціку. Што там за папярэджанне? «Ты ніколі не перасягнеш Гендэля, гэтага майстра араторыі. А хто ў нас майстар оперы? Забыў пра Моцарта?» Але гер дырэктар барон фон Браўн ніякіх парад слухаць не любіў, а гер фон Зонлейтнер, сакратар прыдворнага тэатра, знайшоў і апрацаваў з Трэйчке нейкі там тэкст. Тэкст, напісаны французам па імю Буйі, быў ужо перакладзены на музыку нейкім Гаво і шчасліва ішоў на розных сцэнах. Ну, з гэтым Гаво можна яшчэ падужацца, як і з італьянцам Фердынандам Паэрам, які таксама зрабіў з тэкста оперу. У параўнанні з першым заказам тут, вядома, штосьці ёсць. Па-італьянску тэкст называецца «Леанора». а па-французску «L’amour conjugal», «Сямейнае каханне». Зонлейтнер і Трэйчке далі яму назву «Фідэліо».

«Фідэліо»? Яму лепш падабалася назва «Леанора». Калісьці ў Боне, амаль чалавечы век таму назад, ён паабяцаў маленькай Ляноры «Уверцюру Леаноры». Дзіўная рэч, гэтыя - магчыма, толькі ўяўныя - выпадковасці. . .

З’явіўся Цмескаль; добры стары сібарыт мучыўся навіною, хочучы як мага хутчэй пазбавіцца;ад яе. Пачаў ён вельмі афіцыйна, з расшарквання:

- Гер ван Бетховен, вы, на жаль, пазбягаеце наведваць цэрквы і таму, mon cher, прапусцілі такі ласунак. У саборы святога Стэфана графіня Джульета Гвічардзі вянчалася з графам Галенбергам, але гэта яшчэ не ўсё. Пры цырымоніі выконвалася графска-галенбергская музыка, і яе, не памыляючыся, можна назваць помстаю неба.

- Мяне гэта зусім не цікавіць!

- А я падумаў, што ад рэўнасці і шаленства ты цяпер перарэжаш сабе горла. От жа і яшчэ адно. Лобкавіц, улічыўшы мае заўвагі, падмацаваў ужо свой аркестр, каб выконваць тваю сімфонію. Цяпер ён хоча ведаць, калі можна атрымаць партытуру.

- Яго светласць, мабыць, думае, што варта яму пазваніць, як зараз жа вынесуць «Гераічную сімфонію». І «Гераічную сімфонію» для. . . Лобкавіца?

Ён пайшоў у цемру, якая чакала яго на вуліцы. Джульета? Ах!

Але што магло здарыцца з Жазефінаю, якая даўно ўжо не пісала яму?

«Фідэліо» не даваўся. Бетховен парваў на кавалкі накіды, вызваляючыся ад чагосьці, што яшчэ доўга вяло б яго невядома куды. У сваёй рабоце ён астаўся там, дзе быў учора, калі ў добрым настроі ўзяўся за яе. Перад гэтым з Эдынбурга, з Шатландыі, прыйшоў ліст ад выдаўца, які зацікавіўся яго творамі. Просіць, каб ён напісаў некалькі шатландскіх песень. Нічога так не вымотвае, як марная праца, яна асабліва знясільвае. А дзе ж у «Фідэліо» памылка, што перашкаджае? Няма сэнсу вылічваць гэта, бо ў мастацтве матэматыкаю нічога не даможашся. Ён яшчэ раз узяў тэкст і безнадзейна пагартаў яго.

Каханне, сям’я, вернасць, самаахвярнасць жанчыны, зварушлівая гісторыя. І вельмі хацелася б перакласці яе на музыку - з удзячнасці да жыцця, да рэчаіснасці, да каханай жанчыны. Але пакуль што ўсё астаецца толькі кампазіцыйнай тэорыяй, нагадвае цені на сценах, недасягальную нерэальнасць.

Дзе Цмескаль? Хай бы прыйшоў гэты ласы на кілбасы абжора-граф! Толькі што ад перапісчыкаў прынеслі сімфонію нумар тры, Гераічную, яна ўжо і з выгляду выклікае гордасць і прыемнае адчуванне! Вось дзе ляжыць пачвара, якую ён усё-такі перамог і загнаў у гэтыя два цяжкія манускрыпты. Адзін з іх Цмескаль павінен занесці Лобкавіцу. . . між іншым, гарачая зацікаўленасць князя трохі здзіўляе. Яе нельга больш тлумачыць адной любоўю да музыкі або музыкаманіяю. Князь жа добра ведае, які герой і якія справы праслаўляліся ў сімфоніі, але яму на гэта напляваць. Ёсць грошы, за якія можна - і прыходзілася - купляць сабе ўсё: жанчын, коней і дарагія карціны, - чаму ж не купіць і новую музыку, хоць прысвечана яна таму ці тым, хто можа прынесці ўсяму гэтаму ачмурэламу грамадству пагібель. Ці ён проста не хацеў, каб гэта дасталася другому марнатраўцу, графу Разумоўскаму або банкіру Вюрцу? Гульня багацця выдумляла сабе ўсё новыя забавы. Але няхай Лобкавіц перадасць пошта накшталт платы за карыстанне сімфоніяй, перад тым як яго самога возьмуць пад апеку - бо пра гэта пачалі ўжо гаварыць. А другі манускрыпт зараз жа пойдзе ў далёкую дарогу ў Парыж.

Тытульны ліст яшчэ чысты, але што ж напісаць у прысвячэнні? Белая папера неадольна прыцягвала да сябе, і ён не стрываў, засмяяўся. Няўжо яго, як маленькага хлопчыка цягне на пустым месцы абы-што пісаць ці маляваць? Але тут прычына больш значная, нейкая амаль што святая. Зверху ліста напісаў: «Буанапартэ» - потым, прыжмурыўшы вочы агледзеў напісанае

крытычным вокам. Вось так добра. Літары чытэлыіыя, выразныя. Нічога больш. Толькі прысвячэнне. А можа, што дадаць?. . «Сцяганосцу свабоды»? Не, занадта пампезна, такія гіганцкія рэчы трэба перадаваць проста. Проста, проста - што ж, для мастацтва гэта таксама найлепшы дэвіз. «Брату людзей»? Ці не гучыць гэта крыху расплыўчата і мякка? Трэба пачакаць, пакуль у галаву не прыйдзе патрэбная думка. Але каб ужо нейкім чынам акрэсліць ј праясніць справу, ён унізе на лісце паставіў свой подпіс: «Луіджы ван Бетховен». «Луіджы» - як «Буанапартэ» - па-італьянску, прозвішча галоўнакамандуючага і пераможцы ў Паўночнай Італіі.

Буанапартэ і Бетховен. Для пачатку гэта галоўнае, краевугольныя камяні. Усё іншае - больш або менш другараднае, хоць. . .

І вось абодва вялікія манускрыпты ляжаць на раялі, і ён, трымлючы ў руках гусінае пяро, перабірае ў памяці той доўгі шлях, які яму дагэтуль давялося прайсці. Горкае дзяцінства. Каінава кляймо рудога твару, нязграбнай постаці, слядоў воспы, і другое каінава кляймо. . . усёй яго істоты, з-за чаго шмат хто з яго школьных таварышаў стараўся яшчэ далей трымацца ад яго ўбаку. Бацькава нізкапаклонства перад мансеньёрам, прадпісанае - трэба сказаць праўду! - этыкетам. а ён жа - сын гэтага бацькі, якога, як п’яніцу, узялі пад апеку! Але і без гэтага - як сказаў калісьці курфюрст? - ён адзін з «плебейскага зброду». Ужо ў Боне яго цягнула да вабнага сукна пэўнага новага сцяга, які хацеў і «плебейскаму зброду» даць нешта накшталт права дыхаць і жыць; і ўсё ж яму прыйшлося прайсці яшчэ доўгі, вельмі доўгі тлях, пакуль ён не ўзяў у свае рукі, не ўзняў сцяга, свядома і з гарачым перакананнем, таго сцяга, які трапятаў і тут - ён палажыў руку на партытуру - ад ветру ўласнага дыхання. ад шалёнай буры!

Гейлігенштацкае завяшчанне ляжала, запячатанае, у пісьмовым стале. Тое, што адкрыў яму доктар - усяго толькі карцечны град, але цяпер завяшчанне ляжала там толькі як напамінак і папярэджанне, што нельга дазволіць паўтарыцца вось такім гадзінам слабасці. Жазефіна! Каб толькі яе бесчалавечна не адарвалі ад яго. . . не, і тым не менш усб гэта вылічыць не так проста, як, скажам, што двойчы два чатыры. Сцяг толькі сцішыўся. Але вось зараз у руках героя, які нясе яго дзеля чалавецтва і чалавечнасці, ён хоча заззяць яркімі, заклікальнымі, неадольнымі фарбамі. Не, вылічыць гэта, як двойчы два, нельга. Усё больш складана і ўсё адзначана такой рашучасцю, супраць якой пярэчыць цяжка. Вось Бернадот расказвае яму пра Банапарта, ён вымушаны гэта расказаць, звярнуць яго ўвагу на трохкаляровы сцяг свабоды, роўнасці і братэрства, і вось цяпер сцяг тут, у манускрыпце! Ці ж многа знойдзецца ў яго верных сяброў, якія пойдуць За ім, за сцягам? Ён вельмі ў гэтым сумняваецца. Вядома, ёсць у яго паклоннікі і нават сябры, сапраўдныя сябры. А можа яны толькі з пачуцця сяброўства трываюць гэты капрыз са сцягам, пасмейваюцца з яго, як з дзівацтва мастака?

«Маленькі капрал!» Так з любоўю і пашанаю звалі яго салдаты, нягледзячы на генеральскую форму, на яго высокую годнасць першага консула! Бо ён пры гэтым усё яшчэ аставаўся маленькім капралам, таварышам сярод таварышаў, які ўночы заўсёды - і пад халоднымі зоркамі, і калі сыпаў снег - спаў сярод іх каля бівачных вогнішчаў, захінуўшыся, як і ўсе салдаты, у шынель. А гэта, праўду кая;учы, галоўнае, прастата і чалавечнасць. Ці, можа, зрабіць прысвячэнне ў гэтым сэнсе?. .

У пакой уляцеў Рыс:

- Маэстра. . . з Парыжа прыйшла дэпеша. Банапарт стаў імператарам. Цяпер ён завецца Напалеонам Першым, ён сам надзеў на сябе імператарскую карону. Францыя не рэспубліка больш.

Воспіны на рудым, адразу пашарэлым твары перайшлі ў плямы.

- Фердынанд, вы, мабыць, хочаце расказаць мне дрэнны жарт? Жарт гэты ў вышэйшай ступені кепскі, асабліва тады, калі прыйшлі копіі сімфоніі. Між іншым, вы маглі б яшчэ зверыць з арыгіналам.

Рыс з глыбокаю пашанаю на твары наблізіўся да раяля.

- Значыцца, гэта і ёсць «Гераічная сімфонія», маэстра. . .

Нейчы голас за яго спінаю сказаў:

- Толькі для тытульнай старонкі вам, мой сябра, давядзецца, мабыць, ахвяраваць новы ліст паперы. Яго вялікасць Напалеон Першы, імператар французаў, у вышэйшай ступені няласкава ўспрыме гэты сяброўскі, нязграбна-просты карсіканскі зварот «Буанапартэ».

Цмескаль сеў у крэсла падкрэслена нядбайна.

- Маўчыш, Людвіг? А, дарэчы, жаданне ўсё ведаць штурхае мяне - я табе кажу гэта

сур’ёзна - шукаць адказу на адно пытанне. Я, вядома, нікому не навязваю свайго пункту гледжання, асабліва ў пытаннях палітыкі. Але, скажы мне, які сэнс ва ўсім гэтым? То каралёў і дваранства пасылаюць на гільяціну, каб «яны зірнулі ў акенца». . .

- Незаслужана?

- Не будзем спрачацца аб гэтым. То потым сябе самога робяць каралём, пардон, пакорна прашу прабачэння, імператарам, які, як гаворыцца ў аб’явах, з нагоды цырымоніі ўзвядзення самога сябе на трон, меў ласку адзначыць шэраг саноўнікаў вышэйшымі дваранскімі званнямі. Што тут можна, скажыце, гаварыць пра вашы. . . так званыя правы чалавека? Навошта яно ўсё. . . гэтае каранаванне імператара? Я лічу, што калі ты сапраўдны рэвалюцыянер, якім ён сябе быццам лічыць. . .

Бетховен зароў:

- Значыцца, і як рэвалюцыянер ён ставаўся ўсяго толькі маленькім капралам!

Ён аж затросся ад шаленства, схапіў партытуру. Падскочылі Цмескаль і Рыс.

- Людвіг!

- Маэстра!

Бетховен зарагатаў, хрыпла і раз’юшана.

- Вы думаеце, што з-за гэтага нікчэмнага капрала я знішчу хоць адну ноту мае сімфоніі? Але тытульны ліст, які паганіць яе, я выкіну! - Адарваўшы ліст, ён разарваў яго на шматкі і шпурнуў на падлогу. - Вось дзе яно. . . маё пакорнае прысвячэнне каранаванню імператара! - Узяўшы гусінае пяро, ён абмакнуў яго ў чарніла і, калі супакоілася рука, напісаў на другім манускрыпце вялікімі літарамі: «Гераічная».

Выправадзіўшы з пакоя Цмескаля і Рыса, ён цалкам аддаўся нянавісці. У першым парыве хацеў нават адмовіцца ад заказу на «Фідэліо», бо арыгінал напісаў француз і француз пераклаў яго на музыку. Аднак рэшта розуму ўтрымала ад гэтага, і тады ён сеў за раяль, падняў века. . . Але. . . што ён можа напісаць, калі разбіты яго ілюзіі, яго надзеі?

Паміж векам і клавішамі ўшчэмлена лібрэта «Фідэліо», яго Бетховен узяў у рукі, рассеяна пагартаў. Прайшоў нейкі час, пакуль словы, якія чыталі яго вочы, дайшлі да яго, набылі сэнс. «Божа! Якая тут цемра! О, жахлівая цішыня!» Хто гэта сказаў? Фларэстан. . . От жа і тут, вакол яго, таксама безнадзейная цемра і жахлівая цішыня! Перагортваецца старонка, злачынец Шсара ўскліквае: «Трыумф! Трыумф!» Няверны капрал таксама абвясціў пра. . . свой трыумф з імператарскай каронай.

Зноў Фларэстан? Не, гэта міністр, які амаль з ясахам глядзіць на толькі што выратаванага ім з турмы і ад смерці Фларэстана.

Таго, каго лічылі нябожчыкам?

Высакароднага, што змагаўся за праўду?

А што ён гаварыў перад гэтым да нявольнікаў? Якія цудоўныя, чалавечныя словы. Вось яны. . .

Не трэба больш па-рабску кленчыць,
Мне не ўласціва жорсткасць тыранаў,
Бо брат сваіх братоў шукае,
І калі памагчы ён можа, то памагае ад душы!

Няўжо яго чэрап, яго вушы зноў пранізаў той пякучы ўдар кінжалам? Ён здрыгануўся, сагнуўся, выпрастаў перад сабою рукі, быццам баронячыся ад чагосьці. Але ён усё ж прымусіў сябе засмяяцца. «Стойце! Стойцеі Не трэба адразу з усіх бакоў! У мяне ж няма гусінага пяра, якое б нісала галопам!. . »

Тое, што не давалася дагэтуль, пайшло раптам патокам. Спачатку адзін паток, потым яшчэ адзін. Вось трэці, чацвёрты!. . «Божа! Якая тут цемра! О, жахлівая цішыня!» Так, гэта быў жудасны турэмны змрок, які ён стварыў цяпер, напісаўшы гэтыя некалькі нотаў!

«Трыумф! Трыумфі»

Занадта рана трыумфаваць, Шсара! Ёсць яшчэ людзі, якія «змагаюцца за праўду», а. . . цяпер вось гэта, і хай яно так і будзе:

Бо брат сваіх братоў шукае,
І калі памагчы ён можа, то памагае ад душы!

Браты, падайце рукі адзін аднаму і мне працягніце руку! А я напішу вам рэвалюцыйную

оперу! Абвяшчу чалавечнасць, якая, зрэшты, павінна ўсё-такі перамагчы, абвяшчу справядлівасць і ваша выратаванне, браты! Абвяшчу «Фідэліо», песню вернасці!

## ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ

## НЕЎМІРУЧАЯ КАХАНКА

Жазефіна, жанчына, якую ён аднаго разу назваў сваёю «неўміручаю каханкаю», знаходзілася ў Вене. З сястрою Тэрэзаю, графіняй Брунсвік, яна жыла над мюлераўскай галерэяй каля Чырвонай вежы, у вялікім доме, пакоі якога яны здавалі кватарантам. Апроч таго абедзвюм сестрам прыходзілася яшчэ мець клопат і аб самой галерэі, і аб кабінеце гіпсавых фігур, у якім яны па чарзе мяняліся каля касы.

Графіня Тэрэза Брунсвік і графіня Жазефіна Дэйм каля касы кабінета гіпсавых фігур, які тым часам страціў ужо прывабнасць навізны! Нічога больш, зрэшты, і не трэба было ведаць.

Жудасны, амаль неверагодна безгустоўны фарс жыцця, рэчаіснасці, калі юрлівец Мюлер літаральна за ноч ператвaрыўся ў камергера яго вялікасці аўстрыйскага імператара, у графа Дэйма, нарэшце прыйшоў да свайго бязлітаснага канца.

Гер граф Дэйм! За Жазефіну ён прапанаваў графіні Брунсвік з яе даўгамі сорак тысяч дукатаў.  I вось гэты Шэльма і ашуканец Дэйм мёртвы. Графскі тытул, вядома, быў сапраўдны, як і феадальны сан камергера, але дукаты аказаліся менш каштоўнымі, чым кампазіцыі беднага музыканта Людвіга ван Бетховена. Дарэмна прынесла Жазефіна Ў ахвяру і сваё і яго сэрца, бо вось цяпер яна наследніца дома, які ўвесь у даўгах, і маці чатырох дзяцей.

I вось цяпер ён стаіць напроці яе, і яны глядзяць адзін на аднаго. Не, не, нічога не змянілася за гэты час. Але які Ж хваравіты ў яе выгляд! Ён памкнуўся абняць любую жанчыну, суцешыць і абараніць яе, аднак адолеў сябе, і з гэтага памкнення выйшаў толькі надта фармальны паклон.

- Хочаце браць урокі на піяніна, графіня?

Яна не пайшла на гэты тон. Тут яна зноў была самой сабою.

- Як твае справы, Людвіг? - Ведама, яна мела на ўвазе яго хваробу вушэй, але адразу зразумела нетактоўнасць гэтага пытання і таму перамяніла тэму гаворкі. - Над чым ты цяпер працуеш? Раскажы, калі ласка.

- Над операй.

- Над операй? А пра што яна?

- Баюся, нічога не выйдзе, калі расказваць змест оперы ці п’есы.

- Яно так, Людвіг, але. . . усё ж паспрабуй, калі ласка. Мне гэта важна.

Ён сам добра адчуваў гэта, бо яна заўсёды брала ўсё блізка да сэрца.

- Опера называецца «Фідэліо», бо галоўны яе герой, дакладней, гераіня, верная жонка.

- Верная. . . жонка. Гавары далей, Людвіг, я слухаю.

- Тыран-губернатар Шсара кідае ў турму яе мужа Фларэстана, і Леанора, назваўшыся «Фідэліо», наймаецца памочнікам садоўніка да турэмнага наглядчыка. Дзеянне перенесена ў Іспанію ў ранейшыя часы, хоць такое можа быць усюды яшчэ і сёння. Зразумела, Фідэліо-Леанора выратоўвае любага мужа. Яна закрывае яго ад губернатара, увасаблення смерці. Міністр вызваляе Фларэстана, і той вяртаецца з няволі ў жыццё разам са сваёю Леанорай, якую ніколі не пераставаў кахаць.

Заўважыўшы, што яго словы можна палічыць за намёк, ён дадаў:

- Вернасць і каханне Леаноры - гэта, вядома, крыху тэатральная вернасць, з абсягу фантазіі, адкуль аўтары бяруць свае вобразы.

Але гэта толькі пагоршыла справу. Вельмі ўжо няўклюдна выбіраўся ён з цянётаў, у якіх заблытаўся. Можа, яна зразумее яго нямую просьбу памагчы яму? Ён чуў на сабе яе запытальны позірк.

- Лічыш, што табе гэта ўдалося, Людвіг? Падумаўшы, ён згадзіўся кіўком галавы;

- Сёе-тое ўдалося і. . . нават няблага. Напрыклад, калі Фларэстан пяе: «Божа! Якая тут цемра! О, жахлівая цішыня! Вакол мяне пустыня!» Ці хор палонных. Сцэны ў турме.

- Заўсёды нешта змрочнае.

- І туга.

Позірк яе стаў няўпэўнены, дыханне перарывістае.

- Прабач, Людвіг. Я цябе нават не запрасіла сесці.

- Можа, лепш пачнём урок?

- Ты так хочаш гэтага? Са мною табе прыйдзецца аднак быць вельмі цярплівым. Я за апошнія гады даволі моцна адстала. Што даводзілася іграць? Найбольш дзіцячыя песенькі. «Спі, засні, мой малы прынц» Моцарта, ты яе ведаеш.

Неяк жа трэба пачаць прызнанне. Ён не здагадаўся, паспрабаваў перавесці гаворку на другое:

- Яе прыпісваюць Моцарту, але аўтар яе, кажуць, урач з Гейльброна Аўгуст Вебер, які пісаў музыку, ці берлінскі прыдворны капельмайстар Анзельм Вебер, а можа, і юрыст і музыкант з Мангейма Готфрыд Вебер - ніхто гэтага дакладна не ведае. Але яна такая прыгожая, сапраўды народная песенька, і напісаць яе мог толькі Моцарт. Я б хацеў пачуць яе, каб атрымаць нейкае ўяўленне.

Няўжо ён толькі выпадкова дадаў словы пра ўяўленне ці, можа, ён цяпер ужо больш слухаў вачыма? Напэўна, так яно і ёсць. Яна пачала іграць, і некалькі разоў за гэты час з клямкі на дзвярах саслізгвала чыясьці рука, відаць, яшчэ ледзь-ледзь дацягваючыся да яе. Потым у пакой, дробненька перабіраючы ножкамі, увайшоў маленькі хлопчык.

- Мамачка, ці не пара нам ісці спаць?

- Не, Фрыцэль. Гэта гер ван Бетховен, пра якога я расказвала вам, калі вы паводзілі сябе добра. Падай руку геру ван Бетховену і пакажы яму, як ты робіш паклон.

Бетховен узяў малога на рукі:

- Ну, мас’ё, мы таксама здатныя да музыкі?

Даверлівыя хлопчыкавыя вочкі заблішчалі, і ўсё лёгка адгадвалася па тым, як варушыліся маленькія вусны.

- Я таксама хачу быць, - слова яшчэ цяжка давалася яму, - вільтуозам, як ты.

Маці засмяялася:

- Ах ты, маленькая немузычная малпачка! Бетховен зморшчыў лоб:

- Маленькая немузычная малпачка? Фрыцэль, калісьці і мяне так звалі, і ўсё ж нарэшце апошняе слова за намі, га? Але цяпер табе трэба ісці, Фрыцэль, бо ў тваёй мамы Урок музыкі.

Зачыніўшы за хлопчыкам дзверы, Бетховен засмяяўся:

- Думаю, што мы ўсё ж пачнём адразу з чагосьці цяжэйшага, чым з дзіцячых песенек.

- Добра. Я перад гэтым сказала табе не ўсю праўду, бо я іграла яшчэ нешта і другое. - І яна зайграла першыя такты «Патэтычнай». Ён стаяў побач з ёю і глядзеў, як яна іграе. Яна ведала, што ў яго на душы, што вестка, якую яна паслала яму, дайшла да яго сэрца. І ўсё ж ён спрабаваў абаРаніць сябе дзелавітасцю, але як ён тым часам сачыў за яе пальцамі! А можа, гэта толькі таму, што ён больш не мог так даверыцца сваім вушам, як вачам? Бедненькі, ён не мог бачыць яе губ, зразумець, што яна гаворыць, і таму ціхенька, не баючыся, што ён пачуе, яна магла прашаптаць словы прызнання.

- Людвіг, я заўсёды кахала цябе, толькі цябе! І ўсё ж я здрадзіла табе. Мне брыдка перад табою, Людвіг. Ты тужыў па мне. . . у цямніцы свайго гора і адзіноты, а мяне не было там, каб кінуцца паміж табою і. . . усім астатнім. Як ты цяпер песціў Фрыцэля, хоць ён і дзіця чалавека, з якім я здрадзіла табе. Але калі ты мяне кахаеш, Людвіг, а я ўпэўнена, што ты мяне кахаеш, то, можа, я ўсё-такі яшчэ. . . здолею вывесці цябе са змроку цямніцы?. .

- Стой! Тут трэба сыграць інакш. - Ён нахіліўся, і яго правая рука прабегла па клавішах. - Вось так, га? Чаму нам не спрасціць справы?

Яна падумала сабе: «Так, сапраўды, чаму б нам не спрасціць справы?» І ўзяўшы яго руку, пацалавала яе. . . Жазефіна павярнулася да дзвярэй:

- Табе што-небудзь трэба, Караліна?

У пакой зайшла сястра.

- Хачу толькі павітацца з герам ван Бетховенам. Больш нічога, Жазефіна. Праўда, больш нічога. . .

Час не стаяў на месцы, і вось зноў няма нічога ў руцэ, якую нядаўна цалавала Жазефіна і якую ён цяпер не мог больш працягнуць да яе маленькай ручкі. Ён жа мужчына і, як мужчына, хацеў клапаціцца аб любай жанчыне, працаваць і зарабляць для яе.

З найлепшымі спадзяваннямі ішоў ён на першае публічнае выкананне сваёй «Гераічнай» у Венскім тэатры, зусім не ўяўляючы сабе, што гэтае сёмае красавіка 1805 года стане на календары яго жыцця чорным днём.  І справа тут не толькі ў геры Мейеры, спеваку і зяцю Моцарта, за якім яшчэ можна было прызнаць нейкае права на неадабрэнне, і не ў звычайных зайздросніках-ворагах. Калі зайгралі валторны, уносячы пры гэтым, на яго думку, цудоўна-жудасны дысананс, пачуўся шум і смех, стала неспакойна і на галёрцы. Адтуль хтосьці выгукнуў:

- Заплачу крэйцэр, толькі спыніце гэта! Тут жа заплачу крэйцэр, толькі спыніце гэта зараз жа!

А якія былі рэцэнзіі! Паслухайце, што толькі пісала пасля некалькіх «суцяшальных» слоў «Лейпцыгская агульная музычная газета»: «Дзікая фантазія! Вялікі талент аутара, але згубіўся ў хаосе! Надта многа рэзкіх і вычварных гукаў! Шмат чаго трэба, каб гэтая сімфонія атрымала агульнае адабрэнне!» У Празе трэцюю сімфонію нават палічылі «амаральнаю». Бясспрэчна, гэта крыху збянтэжыла і венскіх сяброў.

Аставалася толькі паціснуць плячыма і. . . працаваць далей. Ён засеў за раяль, літаральна бушаваў на ім: фа мінор? Але навошта, ліха яго бяры, ён зноў выканаў свае накіды санаты «Апасіянаты»? Калісьці, пасля сустрэчы з Жазефінаю, ён стрымгалоў кінуўся да піяніна, каб напісаць песню «Да надзеі», і няўжо ж цяпер з дапамогаю «Апасіянаты» перад вачыма зноў замільгае чорная заслона? Саната страсці. Калі ён услухоўваўся ў самога сябе, аглядаючыся на пройдзенае жыццё, - усё ўяўлялася яму санатай «Апасіянатай».  І барацьба з тым, што ён асуджаны на недачуванне, якое ўсё больш і больш вяло да поўнай глухаты! Нязгода з часам, з яго недасканалымі, несправядлівымі ўстановамі. Менавіта як мастак, як творчая асоба ён лічыў абавязкам, ясным загадам для сябе браць актыўны ўдзел у духоўным развіцці чалавецтва на яго шляху да чалавечнасці. Урокі музыкі шляхетнай чэрні, якая часта толькі з нуды і дзеля моды хацела навучыцца прыстойна брынкаць на піяніна, захапленне, якое выклікала ў дамах у феадалаў яго займальная незвычайная тэхніка ігры - усё гэта для магнатаў толькі забава. А сам твор, яго дух?! Яны гатовы былі заплаціць адзін крэйцэр гатоўкаю, толькі каб іх не трывожылі. Значыцца, трэба супраціўляцца! Упарта змагацца! Санатай «Апасіянатай»!

Вядома, першы штуршок дало ўласнае сэрца. Бо, зрэшты, ён жа чалавек. Пачалося з кахання да Жазефіны, але потым умяшалася іншае, і маўчаць ён больш не можа.

Алегра асаі. Змрочна, бо над бязглузда няправільным размеркаваннем бляску і шчасця на свеце вісяць чорныя сцягі. А цяпер андантэ кон мота. Дольчэ і легата. Надзея і ўцеха, якія патрэбны многім. Вяртанне перарывістымі крокамі басоў. Непахісная ўпэўненасць. Сумненням няма месца, і вось нарэшце ўсё змоўкла! Але маўчанне гэтае ўяўнае! Два дысанансавыя акорды, быццам сыграныя на разладжанай арфе. А далей што?. . Фанфары! Штурм і перамога! Заўсёды перамога! Чорныя сцягі скінуты ўніз!. .

Потым ён пайшоў да Стэфана Бройнінга. Хоць злосць з-за той гісторыі з чатырма кватэрамі ўсё яшчэ не прайшла зусім, трэба ж неяк уладзіць гэтую справу.

- Стэфан, я прыйшоў, каб папрасіць у цябе прабачэння. З гэтымі чатырма кватэрамі твае віны няма, вінавата ва ўсім мая няздольнасць весці гаспадарку. . .

- Людвіг, перастань. . .

- Калі ласка, не перабівай мяне! - З нейкім выклікам Бетховен ссунуў свой тупаверхі цыліндр на патыліцу і замахаў стэкам. - Прызнаюся, я ставіўся да цябе няправільна, паводзіў сябе як грубіян! Ты ведаеш гэта?

Бройнінг ускочыў з месца:

- Ну а як жа, ведаю, ведаю, ведаю, а як жа, а то ты яшчэ, чаго добрага, у прыпадку гневу пачнеш біць фарфор на стале. Аддай стэк, грубіян! Чаму ты не прыйшоў раней?

Падумаўшы, Бетховен сказаў:

- Калі гаварыць шчыра, я, займаючыся featuring рознымі музычнымі справамі, забыў пра гэта.

- Пра раскаянне, нягоднік? - Бройнінг напоўніў два келіхі. - За тваё здароўе, Людвіг, і няхай мой тост будзе табе кампліментам! Ты - самы шалёны чалавек, якога я калі-небудзь бачыў!

- А ты - самы лепшы сябар, Стэфан.

- Баюся, што нам нельга забываць пра Глейхенштэйна і Цмескаля, дый пра некаторых другіх, якія, хоць ты гэтага і не вельмі варты, страцілі ад цябе розум.

Вечарам, крыху пазней, Бетховен папытаўся ў сябра:

- Стэфан, як, па-твойму, будзе ці не будзе палітычная бура?

Бройнінг, круцячы келіх перад сабою, адказаў:

- Я не меў бы права сказаць табе пра гэта, нават калі б што-небудзь ведаў, але калі ты хочаш пачуць маю асабістую думку, а не думку гофкрыгсрата, то скажу табе: відаць-такі будзе.

- А на нашым баку хто будзе?

- Ну, Аўстрыя, Расія і Англія.

- Гэта моцны саюз?

- Сумняваюся. Сухапутныя войскі ў Англіі? Ну, на моры, вядома. Там мы спакойна можам паверыцца на Гарацыю Нельсана, але з Прусіяй усё яшчэ няпэўна і, відаць, так астанецца. Нямецкія плямёны, як заўсёды, не адчуваюць адзінства, зайздросцяць адно аднаму.

Бетховен усё пыхкаў сваёю люлькаю.

- Значыцца, у гэтага здрадніка рэвалюцыі цяжкасцей не будзе. Ён можа спакойна лесціць чалавечай пыхлівасці, аднаго за другім прызначаць маршалаў, князёў і каралёў, якія потым, у сваю чаргу, будуць на руках трымаць яму напагатове паляўнічых сокалаў! Але давай пагаворым пра што-небудзь другое. Стэфан, як цудоўна, што я цяпер магу сядзець у цябе як сябар!

Даўно сабраны ўраджай вінаграду, адшумелі ў жыце косы. Калі гэта было? Няўжо прайшла вечнасць? А як жа пачынаўся гэты год! Вясна ў Хецэндорфе. І Жазефіна выехала за горад, бо вёска была асабліва неабходна яе аслабленаму здароўю. Якія цудоўныя былі іх прагулкі, на якія ён імчаўся часта ў самы апошні момант, пакінуўшы працу над «Фідэліо», каб потым вярнуцца да яе перапоўненым нейкімі новымі таямнічымі сіламі.

І от жа прыйшоў той дзень дзесьці ў сярэдзіне лета. Яна прыслала яму невялічкую запіску: «На некалькі гадзін прыехала Караліна. Як толькі яна паедзе назад у Вену, я зайду на цябе. Жазефіна».

Яна ведала, што ён не надаваў ніякага значэння сустрэчы з сястрою. Ён называў Караліну нагрувашчаннем глупства і дваранскага гонару, у якім толькі тады з’яўлялася нешта накшталт жыцця, калі ёй можна было быць каварнай і з’едлівай. Зваў яе нікчэмнай шпіёнкаю, якая варожа ставілася да сувязі Жазефіны з музыкантам з народа, да гэтага мезальянсу. Тэрэза і Франц Брунсвікі папярэдзілі яго, і ён пры набліжэнні Караліны адразу ж адчуваў нейкую пагрозу. Нават лагодны сонечны дзень здаваўся расколатым дысгармоніяй. Ён уяўляў сабе насмешлівы і бязлітасна вуглаваты твар Караліны, якая ніколі не згодзіцца называцца яго швагеркаю.

Лісце на дрэвах ужо рабілася зялёным золатам, і тут раптам яго аглушыла нейкае дзіва - пярэстае, няўлоўна прывабнае і казачнае, яно стаяла пад акном і махала яму рукою. Ён толькі і мог, не адрываючы вачэй, глядзець на яго, а потым ісці побач і маўчаць. Жазефіна ўсміхнулася, і ён прачытаў на яе вуснах пытанне: «Куды ты мяне вядзеш?» Пазней ён не мог паручыцца, сказаў ён гэта ці не: «Любая, хачу адвесці цябе, маё золатца, у бяспечнае месца, украсці цябе, аге куды ж?» У яго вачах бліснула нешта накшталт страху. Перад чым? Ён вёў яе, і Жазефіна, усміхаючыся, паслухмяна і пакорліва ішла следам да іхняга патаемнага месца, якое яны знайшлі сабе. Быў гэта адхон вінаградніку, западзіна, закрытая невялічкім мурам, дзе іх не мог бачыць ніхто, нават цікаўныя хмаркі, што цягнуліся па небе, бо галіны грэцкага арэха рабілі гэтае месца добраю хованкаю.

- Аб чым ты думаеш, Людвіг? Ён толькі кіўнуў галавою:

- Што ў параўнанні з сукенкаю, якую ты цяпер носіш, Усё тое, што я напісаў, нават «Гераічная»? Ты ведаеш, што я хачу сказаць, любая.

Даўно ўжо прайшоў год афіцыйнай жалобы, але толькі сёння яна ўбралася ў больш светлыя фарбы, якія непакоілі яго, бо яны ўхілілі тую адлегласць, што клаў паміж імі чорны крэп.

- Сукенку прывезла мне сястра. Яна скора выходзіць, замуж.

- І, вядома, за чалавека адпаведнага звання?

- За нейкага графа Тэлекі. Але і граф Тэлекі ніколі не змог бы так прыгожа сказаць мне, як сказаў пра свае творы і маю сукенку ты. Толькі. . . - лежачы на траве побач з ім, яна сваімі вялізнымі цёмнымі вачыма пазірала на лісце грэцкага арэха. - А ты мяне сапраўды кахаеш, Людвіг?

- Пепі!

- Тады забяры мяне ў свой свет. Я чакаю, Людвіг.

- Добра, і можаш быць упэўнена, што хутка трубы ў «Фідэліо» абвесцяць не толькі аб тым, што прыехаў міністр, але нарэшце і аб маёй перамозе і нашым шлюбе!

Яна нечакана і даволі рэзка ўскочыла з месца, быццам штосьці расчаравала яе.

- Хадзем, Людвіг, мне холадна.

- Холадна? - Ён здзіўлена, з нейкім дурнаватым выразам на твары, абмацаў каля сябе траву, якая аж дыхала цяплом. Колькі разоў пасля таго вяртаўся ён у памяці да гэтай карціны, да кожнай дэталі яе слоў і жэстаў. Яна сапраўды чагосьці чакала, і ён гэтага не спраўдзіў - але чаго? Не мог жа ён прывесці яе сюды - ён паглядзеў на бакі - у гэтыя два пакоі ў запушчаным доме гера Пасквалаці каля Мёлькербастай, у хаос, які сімвалічна абрамляў бязладнае няпэўнае жыццё небагатага музыканта. Жазефіна была, што ні кажы, прывыклаю да раскошы, і гэта ж варварства змясціць, скажам, каштоўную рэч з сеўрскага фарфору ў аблезлую кухонную шафу. І ўсё ж той вечар застаўся таямніцаю. Сваю таямнічую ролю сыграла таксама і стракатая сукенка, падарунак нядобрай Караліны. Ніякага больш следу крэпу і змрочных фарбаў, толькі прывабная ўсмешка, і яму прыйшлося пазваць на дапамогу ўсё сваё светлае глыбокае каханне, каб не кінуцца на яе як драпежнік, якім, зрэшты, і ёсць мужчына. . .

На другі дзень Жазефіна сказала, што ёй не падабаецца гэтая прымітыўная кватэра ў Гёцэндорфе. Яна наехала ў Вену, а адтуль у Офен і Мартанвашар. Вядома, у сваіх маёнтках жылі цяпер і Лобкавіц і Фрыс, што тлумачылася ходам ваенных дзеянняў, але ў Жазефіны прычына ў нечым іншым, у чым толькі?

Ужо даўно і сам ён зноў уключыўся ў венскую завядзёнку. Работа і непрыемнасці, часамі прыходзілі сябры, калі і іх не паразвейвалі ваенныя падзеі. І чаканне, чаканне. Але Жазефіны не было. З пятага паверха ён глядзеў на вуліцы, якія здаваліся надзіва ціхімі. Губы яго пагардліва сціскаліся. Апошнім часам прыйшло некалькі трывожных навін, і баязлівыя абывацелі пахаваліся па дамах. Сёння трынаццатага лістапада 1805 года, а падумаць толькі, што было нядаўна, усяго тры тыдні таму назад! Як паводзілі сябе тады венцы! Горад, як арліны клёкат, абляцела слова Трафальгар! Абывацелі набівалі жываты саладовым півам і сасіскамі і, як Гарацыі ў клятве вунь там на карціне, уздымалі ўгору рукі, сцвярджаючы, што справіцца з карсіканцам і яго арміяй зараз будзе як плюнуць. Цяпер гэта драбяза. Спаць зноў можна спакойна - Трафальгар! Нельсан ушчэнт разграміў іспанска-французскі флот, вымеў яго з мора, аднак дарагою цаною, бо на гэты раз ён сам загінуў у бітве. Уласна, нават прыкра думаць, што герою прыйшлося ахвяраваць сабою дзеля прыемнага жыцця нейкіх там нікчэмных абывацеляў.

Але ж усё-такі дзіўна выйшла з жалобным маршам з «Гераічнай». Не, ён не раз ужо бачыў, як пацвярджалася ісціна: у мастацтва толькі тады бываюць геніяльныя прадбачанні, калі яно само прадбачыць! А каму ён, уласна, прызначыў такое дзіўнае прысвячэнне «Гераічнай сімфоніі»: «На ўшанаванне памяці вялікага чалавека»? Нельсану?. .

Перад гэтым ён пагартаў свае дзённікі і накіды да лістоў. Што ў лістах часта пра што гаварылася напышліва - гэта не больш як даніна прывычцы. Але ж калі становішся ў позу нават перад самім сабою? Гэта ўсё роўна, як з карцінамі ў мастакоў. Не падабаецца, калі цябе хваляць не так, як хочацца. Аднаго разу ён напісаў мастаку Аляксандру Мако: «У жыцці ў чалавека ёсць перыяды, калі ён чакае не дачакаецца, каб яны хутчэй прайшлі. . . » Банальныя ісціны! І яшчэ раней у лісце да Вегелера: «Хачу схапіць лёс за пашчу!» Цудоўна - толькі, толькі справа гэтая крыху небяспечная і балючая!

Потым ён узяў запісную кніжку, куды запісаў птушыныя галасы, якіх ўжо даўно не мог больш чуць на волі, хіба за выключэннсм цвёрдага каркання вароны, што часам насілася над галавою. Птушкі былі, уласна, адзінымі музыкантам І, якія ніколі не псавалі тону. Можа, прычына тут у іх невялікім рэпертуары? Ён жа яшчэ і вельмі просты. Вось так проста, так наіўна проста трэба ўмець пісаць музыку! Але тады гэтыя лейпцыгскія і іншыя ёлупні зноў пачнуць гаварыць аб «яго агідзе супраць усякай звычайнай, заведзенай сувязі». І ўсё ж трэба пісаць вось так наіўна проста, яшчэ прасцей, чым усё, што ён напісаў дагэтуль. . .

Ён усё трымаў у руцэ запісную кніжку. Што гэта за маскарад унізе на вуліцах? Цяпер у лістападзе ж не карнавал! Па бруку загрукалі падковы коней. Чуў ён гэта ці яму толькі здалося, што ён чуе? Рэзкі гук сігнальных ражкоў! Ён заціснуў вушы, хоць і так да яго не даходзіла ніводнага гуку. Няўжо яны адважыліся перакруціць «Chant du depart» ці «Марсельезу»? Гэта ж французская кавалерыя! Потым пяхота, а цяпер з грукатам і бразгатаннем ідзе артылерыя! Глядзіце, як маршыруе маленькі барабаншчык, з захапленнем, з радасным тварам б’е ў вялізны

барабан, які апускаецца намнога ніжэй каленяў! Бедненькі маленькі дурнічка-хлопчык, ты ж ідзеш не за тым, што трэба, сцягам!

Абодва генералы наперадзе, калі параўнаць іх з вядомымі яму партрэтамі, маглі быць толькі Мюрат і Лан. Маршал Ёахім Мюрат, швагер Напалеона, якому без бою здалася Вена, са сваімі мамелюкамі. Яшчэ ўсяго толькі чатыры дні таму назад імператрыца пажадала сваім дарагім венцам - якія павінны былі перачакаць усё - сустрэчы ў лепшыя дні, і, як хвост каметы, услед за ёю паляцелі апошнія знатныя паны і банкіры. Народ, які падманвалі заўсёды, застаўся на месцы. . .

Ён, вядома, не чуў, як рыпелі колы брычкі. Ён толькі бачыў, што яны круціліся абыяк, амаль пагардліва павольна. Навошта ім спяшыць, аб чым клапаціцца? Карціна зусім нямая, маўклівая. Гарадская варта, выскачыўшы насустрач, салютавала. Моўчкі? Няўжо не было шуму, калі рукі хапалі і бралі мушкеты на «каравул»? А людзі, што цяпер выбягалі з дамоў, махалі рукамі і штосьці крычалі? Па той пашане, з якою прысядалі жанчыны, па тым, з якім захапленнем махалі капелюшамі «герої» - мужчыны, можна было здагадацца, што яны крычалі: «Няхай жыве імператар! V Ive l’empereur!»

Яшчэ чатыры дні таму назад гэтыя стварэнні, палахлівыя абывацелі, лілі кракадзілавы слёзы з выпадку ад’езду яе высокасці, якая разам з дваром збіралася збегчы, каб схаваць у надзейным месцы свае каштоўнасці, сваё дарагое жыццё, а цяпер што?. . «V Ive l’empereur! Няхай жыве імператар!» Ну як жа, гэтыя божаю ласкай каранаваныя галовы вельмі пасавалі да нікчэмных душачак абывацеляў! Саладовае піва, сасіскі, ідовішча, плёткі і клопат аб уласным высокашаноўным Я! Ён не перабольшваў, калі казаў: «У Вене ніхто нічога не варты, ад імператара да чысцільніка абутку».

Ім авалодала злосць, што прымусіла яго задрыжаць усім целам. Няўжо тут няма нікога, хто б пратэставаў супраць здрады рэвалюцыйнай ідэі? Ён-то пайшоў бы на гэта, тольк І. . . што мог зрабіць ён, музыкант? Як яму прыйшла ў галаву гэтая думка? Ага, яго рука ўсё яшчэ трымала запісную кніжку з птушынымі галасамі, а ў ёй запісаны голас аўсянкі. . . Ці ж ёсць тут якая сувязь - паміж Аркольскім мастом і гэтым відовішчам там унізе?

А як жа, мост ёсць, цераз до мінор!

Ён ірвануўся да раяля. Так, у до мінор гучыць гэта інакш, асабліва, калі б’юць літаўры. Вось так менавіта стукае ў дзверы лёс, і пасля чацвёртай сімфоніі я і ў пятай паспрабую зрабіць так, каб лёс і тут пастукаў да вас у дзверы, ваша вялікасць! Няўжо і гэта таксама яго прадбачанне?

Ці ж не быў гэты маленькі empereur-імператар, які аднак носіць простую форму, тым адзіным чалавекам, ад каго можна было чакаць, што ён прынясе прагрэс і новы парадак у затхлую, укрытую пылам Еўропу?

Трэба ісці ў тэатр на рэпетыцыю «Фідэліо», на яго Трафальгарскую бітву за Жазефіну! Дырэктар тэатра гер фон Браўн гарантаваў яму збор з дзесяці прадстаўленняў, і гэта складае ўжо кругленькую суму, з якою можна будзе пачынаць сямейнае жыццё.

Рэпетыцыя ішла поўным ходам, і скрыпач Клемент, які быў за дырыжора, выціраў з ілба пот.

- Мадмуазель Мільдэр, пачніце, калі ласка, яшчэ раз, і вы, гер Мейер, таксама.

Мільдэр, Леанора-Фідэліо, тупнула нагою.

- Пры ўсім жаданні спяваць гэтай партыі няма сілы, яе трэба перапрацаваць.

Клемент лагодна кіўнуў:

- Я пагавару з герам ван Бетховенам. Але цяпер пачнём, калі ласка! Цудоўна, мадмуазель Мільдэр, выдатна, ну, а цяпер ваша чарга, гер Мейер.

Дырыжору прыйшлося зноў стукам спыніць рэпетыцыю.

- Гер Мейер, на жаль, вы зноў пачалі няправільна.

Мейер зароў:

- Я?! Вінаваты не я, а музыка, якая заўсёды пачынаецца няправільна!

У аркестры засмяяліся. Музыканты, што ігралі на смыковых інструментах, наладзілі сапраўдны кашэчы канцэрт у знак адабрэння, пілікаючы па струнах трысцінай смыкоў, а валтарністы замест туша сыгралі дысананс з «Гераічнай сімфоніі». Мейер паказаў на аркестр:

- Вось паслухайце, што думаюць другія, гер Клемент! Ясна адно, і я заўсёды паўтараў гэта, літаральна пратрубіў усім вушы: мой нябожчык швагер Вольфганг Амадэй Моцарт ніколі

не напісаў бы такой немілагучнай лухты, якая чамусьці павінна называцца музыкаю.

У глядзельнай зале было цёмна, і ніхто не заўважыў Бетховена. Бач ты, Мільдэр! Ёй яшчэ нават і дваццаці няма і да прымадонны куды як далёка, але тут яна, бачыш, спрабуе паводзіць сябе так, як бы ўжо даўно стала ёю. Перад кожным вядомым оперным кампазітарам, скажам, перад герам абатам Фоглерам, яна поўзала б на каленях. Ну, а што дазваляе сабе гэты гер Мейер, Шсара - Моцартаў швагер?

Стэфан фон Бройнінг, палажыўшы руку на Бетховенавы плечы, уладарна паказаў галавою на дзверы. За імі ў фае ўсхвалявана пахаджваў Зонлейтнер.

- Куды ні кінься, усюды пападзеш у брудную смярдзючую твань, гер ван Бетховен. . . - Бройнінг, прыхінуўшыся да гардэробнага стала, паціснуў плячыма. - Вы не забыліся, што зрабілі зайздроснікі з Моцартам?

- Што здарылася? - папытаўся Бетховен. Адказаў Зонлейтнер:

- Тэкст «Фідэліо» - а значыцца, гэта і мяне з Трэйчке датычыць - аддалі на прагляд цэнзуры, несумненна з адпаведнымі заўвагамі.

Бетховен засмяяўся:

- Ах, працавітая венская цэнзура!

Зонлейтнер не жартаваў:

- Тут не да смеху, гер ван Бетховен. Толькі што цэнзура забараніла пастаноўку «Фідэліо», а гэта значыць, што пахне не жартамі. Дакладней - вашу музыку выконваць можна, забаронены толькі наш тэкст, але вы, вядома, разумееце, куды накіраваны ўдар.

Бетховен здзіўлена паківаў галавою:

- Што ж там у тэксце такога нядобрага ці падазронага?

- Губернатар Шсара, парушаючы права і закон, кідае ў турму Фларэстана. Але, бачыце, губернатараў, якія здатны на такія дзеянні, няма. Між іншым, не маглі б вы, гер ван Бетховен, звярнуцца да імператара?

- Да Напалеона? Бясспрэчна, гэта можна, толькі. . . няўжо ў мастака не павінна быць чагосьці накшталт характеру?

Стэфан фон Бройнінг спачувальна ўсміхнуўся:

- Ці ж не гаварыў я вам пра гэта, Зонлейтнер? У майго сябра Людвіга шмат недахопаў, і з іх не самы дрэнны - што ў яго ёсць яшчэ і воля. Давядзецца, мабыць, нам абодвум, ваўкам юрыспрудэнцыі, брацца за работу, і я ўжо нават бачу слабы пробліск святла, да якога нам трэба прабіваць дарогу.

Прайшло два тыдні. Бетховен сядзеў у Ліхноўскіх у музычнай зале на канапе.

- Канец. Знята пасля трох паказаў. Поўны правал. Слухай, Стэфан, - Бройнінг стаяў каля акна, засунуўшы рукі ў кішэні, - табе я магу сказаць гэта. Ведаеш, што я хацеў ажаніцца і разлічваў на грошы ад «Фідэліо»? А я табе, між іншым, ужо падзякаваў за верш, які ты надрукаваў і ўсім раздаваў у тэатры? - Ён выразна прадэкламаваў:

- Вітаем цябе на больш значнай дарозе,
Куды цябе гучна паклікаў дасведчаны голас,
Бо болей, як трэба, табе бракавала рашучасці. . .

Ён засмяяўся.

- Я даволі добра паслізнуўся і пляснуўся носам на гэтай «больш значнай дарозе». Тры вечары! На першым, прынамсі, была процьма французскіх афіцэраў са сваімі венскімі дамамі. На другім паказе тэатр быў напалову пусты, а на трэцім - амаль зусім пусты. Між іншым, што сказалі французы?

- Што яны сказалі? Тое, што можна прачытаць і ў «Элегантным свеце» пра «Фідэліо». Немец не здольны напісаць добрай оперы.

- А. . . Моцарт?

- Калі прытрымлівацца іхняй думкі, то і Моцарт.

- Няпраўда! Я прачытаю табе артыкул з «Шчырага». - Бетховен дастаў з кішэні газету. - Слухай: «Новая опера Бетховена - «Фідэліо, ці сямейнае каханне» - не спадабалася. Ужо пасля першага паказу гледачоў зусім не было. Ды і музыка далёка не апраўдала надзей, і гэтак думаюць як знаўцы, так і аматары. І мелодыя, і характарыстыка вобразаў, нягледзячы на тое,

што ёсць там сёе-тое вытанчанае, усё ж пазбаўлены таго трапнага, шчаслівага, захопленага выяўлення пачуцця, якое так неадольна трымае нас пад уладаю ў творах Моцарта і Керубіні. Музыцы далёка да таго, каб быць цэласным і хоць крышку удалым творам. . . » Ну, і гэтак далей. Бачыш, успамінаюць Моцарта! Значыцца, усё-такі ёсць нямецкі кампазітар, які ўмее пісаць оперы, толькі в ім не так усё проста. Калі б яго оперы ўжо пры жыцці вызначаліся тым самым шчаслівым, трапным і захопленым выяўленнем пачуцця, то наўрад ці пахавалі б яго ў агульнай магіле для бедных; і, калі я правільна паінфармаваны, імператарскі двор забараняў паказваць у тэатры яго «Чарадзейную флейту». Бясспрэчна, мая опера не такая, бо і час цяпер не такі, а гэта, мусіць, яшчэ адно апраўданне, бо людзі, прынамсі, у тым, што датычыцца музыкі, прытрымліваюцца думкі, што жыць трэба па-ранейшаму ў старым свеце. Але ж. . . і пра кампазітара «Чарадзейнай флейты» таксама гаварылі, быццам у яго «чыгунныя вушы». А Керубіні? Ты ж ведаеш, Стэфан, што я цаню Керубіні не толькі як кампазітара, але і як чалавека, і я, - ён стукнуў сябе ў грудзі, - вольны, вольны ад зайздрасці, бо нягледзячы на ўсё, таксама і сябе лічу ў нейкай ступені майстрам. Але немцы не прызнавалі б жывога Керубіні, калі б ён не быў італьянцам. - Ён прыжмурыў вочы. - Вось так, а навошта вы назвалі мяне сюды? На памінкі па «Фідэліо»? На суд? Хто яшчэ будзе?

- Генрых фон Колін, пісьменнік, ты ж высокай думкі пра яго «Карыялана», Трэйчке, твой дырыжор Клемент і Рокель, твой Фларэстан - мы хацелі б параіць табе зрабіць некаторыя змены.

- Вы - мне? Можа, і высокая камісія ўжо сабралася і чакае?

- Думаю, што так. - Бройнінг зазірнуў у суседні пакой. - Я толькі павінен быў падрыхтаваць цябе.

Бетховен ускочыў з месца і сам адчыніў дзверы:

- Ну, тады заходзьце! Заходзьце, пані і панове! Смялей, Колін! Я ж збіраюся напісаць уверцюру да вашага «Карыялана», і таму мне якраз патрэбна ваша парада. Клемент, віншую вас, што вам цяпер не трэба мучыцца з дырыжорскай палачкаю. Рокель, мой бедны Фларэстан, у вас такі твар, быццам вы ўсё яшчэ сядзіце ў турме! - Ён пакланіўся княгіні Ліхноўскай. - Здагадваюся, што мая духоўніца прыйшла, каб правесці мяне ў апошнюю дарогу. Асуджаны ідзе на смерць лягчэй, калі на эшафот яго вядзе такая красуня.

Князь Ліхноўскі не вытрываў нарэшце і пратрубіў сваім фанфарным гол асам:

- Можа, вы ўжо калі-небудзь скончыце, га, Бетховен? Бо я галодны і загадаў кухару, каб яда была гатова праз дзве гадзіны. - Выгляд у яго, калі ён, загадзя дамовіўшыся, сядаў за раяль, быў крыху збянтэжаны. - Між іншым, ведаеце ўжо самую апошнюю навіну? Толькі што французы пакінулі горад, і гэта, відаць, выклікана тым, што саюзныя арміі Аўстрыі і Расіі кіруюцца на Вену.

Бройнінг адмоўна паківаў галавою:

- Не, ваша светласць, у мяне другая інфармацыя. Кажуць, што цар Аляксандр і імператар Франц цяпер са сваімі войскамі ў Маравіі, непадалёку ад Брно, каля Аўстэрліца, і, па-мойму, хутчэй за ўсё Напалеон ідзе ім насустрач.

Колін з’едліва заўважыў:

- На сустрэчу трох імператараў?

- Калі хочаце, завіце так. Але давайце зараз пачнём бітву супраць нашага добрага Людвіга. Можа, ваша светласць адразу ж пакарыстаецца гарматамі?

Ліхноўскі няўпэўнена зірнуў на канапу, куды села яго жонка з Бетховенам.

- Бетховен, няўжо я сапраўды магу паспрабаваць? Марыя Крысціна ўсміхнулася.

- Можаш смела, бо я, - яна палажыла сваю руку на руку Бетховену, - моцна трымаю ворага.

Князю паказалі мясціны ў партытуры, і ён сыграў іх. Часам яго суправаджаў Рокель, і дзе не хапала голасу, браўся за скрыпку Клемент. Яны абмяркоўвалі і адкідвалі варыянты, бралі іх зноў, потым зноў адчувалі сябе няўпэўнена, пакуль не знаходзілі якога-небудзь выйсця, і Бетховен на вуха шапнуў княгіні:

- Мне можна спакойна ісці дадому. Я тут, здаецца, зусім лішні. - Ён задумаўся, і яго твар увачавідкі рабіўся ўсё больш замкнёным. Нарэшце ён падняўся з месца. - Не, так нельга, безумоўна, нельга. Прашу прабачэння, што я наогул умешваюся, і не зразумейце мяне няправільна. Я чалавек, які можа бачыць і ўласныя памылкі і ў гэтых адносінах мае права на проста такі знішчальную самакрытыку. Мне даўно вядома, што ў маёй упартай жанчынкі

«Леаноры» ёсць недахопы, але цяпер яна абломіць аб мяне зубы. Давайце зробім так: выкінем залатую арыю Рока, а потым вось тут, - ён пагартаў партытуру, - гэты тэрцэт, і вось тут яшчэ і гэты дуэт. Ты, Стэфан, любіш пісаць вершы, але зараз я і цябе накірую на «больш значную дарогу». Таму возьмется за лібрэта і з трох актаў зробіш два. Зразумеў?

- Гэта выдатная ідэя, Людвіг.

- Здараецца, што і дурань скажа трапнае слова. Рока атрымае новую арыю, арыю помсты. - Ён стаў побач з Ліхноўскім і пачаў іграць адной рукою. - Прыкладна вось так. Так, і. . . можа, вы зараз мяне пусціце да раяля? Хачу выступіць перад высокай камісіяй яшчэ з чымсьці іншым, але мне патрэбны абедзве рукі.

Няўжо ён толькі насміхаецца? На яго рудым твары не было нават і намёку, які сведчыў бы, што яго энергія шукае выйсця. Выглядаў ён халодным, як лёд, і тым не менш яму нешта не давала спакою.

- Большая частка запісаў да маленькай п’есы ляжыць ужо на маім раялі, а зараз я паспрабую выканаць усё толькі па памяці.

Ён пачаў іграць. «Чуеце гэтае адажыо? Гэта затхласць турмы. А пра што кажа алегра? Каб жа я сам ведаў! Мо пра сон анёла Леаноры, які выратоўвае Фларэстана? Пра. . . Жазефіну, якая мусіць чакаць, якой нельга не чакаць, якая павінна выратавацъ мяне? А ці не скардзіцца зараз Фларэстан а можа, гэта я? Вось так і тут стукае ў дзверы лёс! Права чалавецтва большае, чым права імператара».

Ён іграў і іграў і, скончыўшы, бяссільна апусціў галаву.

Княгіня прашаптала:

- А божачка, што ж гэта такое?

Ён, мабыць, усё-такі зразумеў яе словы.

- Што гэта такое? Оперы ж трэба і новая уверцюра. Ад першай я адразу адмовіўся, а другая не спадабалася мне на паказе. Жыццё не стаіць на месцы, і вы толькі што пачулі уверцюру нумар тры да «Леаноры».

Марыя Крысціна пацалавала яго ўскудлачаныя чорныя валасы.

- Людвіг, гэта, вядома, мала ўзамен лаўровага вянка, які па праву належыць вам за адну гэтую уверцюру. Паглядзіце ж на ўсіх нас. Нават цяжка ўявіць сабе, што можа быць такі шэдэўр!

Бетховен палажыў руку за вуха.

- Што вы сказалі? Лаўровы вянок і шэдэўр? Няблага, калі б я быў італьянцам ці французам! - Ён устаў і пакланіўся. - Ну, ці ж не паслухмяны я? Ці ж не вярнуўся блудны сын мірна, з раскаяннем, сціпла намагаючыся аднавіць страчаную рэпутацыю і выправіцца? Князь, калі ўжо ў вас засмажана цяля, загадайце везці яго сюды. Бо цяпер і ў мяне добры апетыт.

Бройнінгу трэба было ведаць пра такія справы па службе. Сапраўды, вялікая бітва адбылася другога снежня каля Аўстэрліца. Захоплена каля пяцідзесяці сцягоў; больш за сто пяцьдзесят гармат, дваццаць генералаў і трыццаць тысяч афіцэраў і салдат трапілі ў палон. Больш за дваццаць тысяч мерцвякоў глядзелі шклянымі вачыма ў аўстэрліцкае неба. Цар даў дзёру ў Расію. Кайзеру Францу прыйшлося вярнуцца ў Вену, і ён жыў, як кажуць, паднаймальнікам на кватэры ў карсіканца ў палацы Шонбрун. Напалеон назваў бітву пад Аўстэрліцам сваёй. «найлепшай бітвай». Як можна зваць найлепшым тое, што было аплачана дзесяткамі тысяч шкляных вачэй!

Прыйшоў Бройнінг, і Бетховен забурчаў:

- Стэфан, мне патрэбен тэкст, разумеет? Навошта вы робіце з сябе пасмешышча? Вам даўно пара распусціць свой гофкрыгсрат, які толькі і асмельваецца пішчаць за абітымі дзвярыма - ты прынёс тэкст? Вялікі дзякуй, Стэфан! Ну, а цяпер можаш як мага хутчэй выбірацца к чорту.

- Я ж якраз у яго.

- Стой! Хвіліначчку! Здаецца, ты мне прынёс штосьці нядрэннае. Так, сапраўды, гэта выдатна, Стэфан. Ты ўсё яшчэ тут? - Ён часам бываў цяпер нястрымна вясёлы, бо неяк ужо вельмі легка выходзіла ўсё, а гэта што-небудзь ды значыць! Ды яшчэ ж яго хітрошчы. . . Іх, казалі, выкарыстоўваў, між іншым, і Гётэ. Рэцэпт быў просты: ніколі не выпісвайся да канца, нават і тады, калі цябе да гэтага цягне, а пакінь сабе на будучае кавалачак ніткі; і можаш заўтра браць яго ў рукі і цягнуць-страчыць сабе далей.

Аднаго разу ў канцы студзеня заявіўся Ліхноўскі.

- Бетховен, я прыйшоў і па даручэнні жонкі. Бройнінг асказаў нам пра вас, бо вас жа нідзе

нельга ўбачыць, пустэльнік вы гэтакі. Вы сябе зруйнуеце, калі і далей будзеце так марнаваць сябе.  І таму вам цяпер трэба зрабіць перапынак. У маім маёнтку і ў замку Грэц раскватараваны французы. Трэба паглядзець, ці ўсё там у парадку, і вы паедзеце са мною.

- Мне сапраўды трэба адпачыць. Але спачатку неабходна аддаць гэтую гару нотных лістоў Клементу і капіравальшчыкам. Калі вы збіраецеся ехаць у Грэц, ваша светласць?

- Дзён праз чатыры, пяць.

- Тады мне, мабыць, лепш паехаць наперад, бо я ж цяпер вольны ад працы.

- Што, нічога больш не выходзіць?

- Што больш? Я ж скончыў другі варыянт «Фідэліо».

Снег, што падаў вялізнымі камякамі, перайшоў у дождж і люта барабаніў па скураным версе карэты. Вёска ці невялічкі гарадок Грэц была вельмі бедная, і гэта можна было пазнаць, нягледзячы на вячэрні змрок. Мяркуючы па гуках званоў, там было, мабыць, дзве ці тры царквы, але большасць дамоў нізенькія і накрыты саломаю. За вокнамі мільгала цьмянае святло, рытмічна варушыліся нейкія цені, там, відаць, працавалі не разгінаючы спіны ткачы, і вяровачкай, якая рухала іх, як лялькі, было гора. У паветры пахла хмелем, мусіць, ад бровара, які быў, відаць, дзесьці тут паблізу. Брахалі сабакі, спрабуючы схапіць за ногі коней чацверыка, - адзіныя істоты, што мелі характар ці, прынамсі, маглі паказаць яго. Бо людзі, што праходзілі міма ці заходзілі ў дзверы, глыбока і пакорліва схіляліся перад гэтым прывідам, карэтай, хоць у ёй, можа, нікога і не было. Ліхноўскі спытаўся:

- Стаміліся, Бетховен?

- Не. Перад гэтым было крыху, але толькі што мне прыйшло ў галаву некалькі фіярытур для новай сімфоніі.

- Для вашай чацвёртай?

- Не, для пятай. Я люблю адначасна варыць у некалькіх гаршках.

- Зноў нешта гераічнае?

- Ды некалькі варыяцый на тэму, як, свішча аўсянка.

- Дзіўныя думкі прыходзяць вам у галаву, Бетховен! Нарэшце яны спыніліся перад замкам. Прайшлі па калідоры з сагнутых спінаў. Адубелыя рукі дрыжалі, трымаючы ліхтары. Пакорна схіліліся ў паклоне жанчыны. Няўжо і маці, калі была яшчэ камерысткаю, вось так вернападдана схілялася да зямлі? Ён адчуў нешта накшталт пачуцця трыумфу, якое было, аднак, чамусьці з нейкім горкім прысмакам.

Зала была прасторная, як гамарня, у ёй можна было смела паставіць некалькі хатак, у якіх праз жыццё мардаваліся марыянеткі голаду; і бацькі гэтых галодных лялек, іх бацькі і маці, што сваімі руплівымі рукамі маглі і жаць і будаваць, цаглінка за цаглінкаю змуравалі і гэтую залу і замак. З іх гора выціснуты ўсе каштоўныя карціны, абіты панелямі сцены, і схуднелыя людзі, хістаючыся ў такт, па зярнятку ссыпалі той порах, што забіў аленяў, рогі якіх вісяць цяпер сярод карцін.

Падскочыў нейкі чалавек у паляўнічым адзенні:

- Пакорна вітаем вас, ваша светласць. Вітаем вас, найсвятлейшая княгіня. . .

Ліхноўскі спыніў яго халодным, уладарным, нецярплівым рухам, рукі:

- Што скажаце, граф?

Граф? Няўжо?  І тым не менш князь паводзіць сябе з ім, як з камердынерам?

- Госці ў нас, уласна, вельмі прыстойныя, ваша светласць. Нам з раскватараваннем пашанцавала. Палкоўнік і дзесяць афіцэраў. - Граф-камердынер павёў позіркам уверх па ўсходах. - Цяпер яны вячэраюць. - Відаць, наверсе якраз адчынілі дзверы сталовай, бо пачуўся смех і туш на раялі, акорды якога гучалі фальшыва і нядбайна. - Ваша светласць, наша добрае віно. . .

Князь усміхнуўся:

- Ва ўсякім разе пазней сваё майстэрства прадэманструе куды лепшы піяніст. Як вы лічыце, Бетховен?

Людвіг змоўчаў. Потым ён стаяў у сваім пакоі каля адчыненага акна і ўглядаўся ў цемру ночы. Настрой сапсаваўся. Ён убачыў зусім новы твар князя, у Вене заўсёды далікатнага і нават, як здавалася, падобнага на сябра, а тут, у сваіх уладаннях, зусім не такога. Таўстунок - ён ужо даўно стаў напалову лысы - паводзіў сябе цяпер як чалавек вышэйшай расы, і нават мілы твар Крысціны зрабіўся велічным, непрыступным мармурам.

«Прыстойныя госці»? Не, ён больш не пойдзе ў сталовую, ён накормлены агідаю і

злосцю. Запаліўшы люльку, з дарожнай торбы дастаў манускрыпт з нотамі. Гэта «Апасіяната», якая ўсё яшчэ патрабавала дапрацоўкі, і ён хоць яе пашле Жазефіне.

Ці не стукае там нехта ў дзверы? Бетховен падняў галаву. Ён ужо ведаў: гэтае, здаецца, толькі кароткае паглыбленне ў роздум аб тэмах і гармоніях, магло цягнуцца гадзінамі. сапраўды, было ўжо, як на тое паказвалі дагарэлыя свечкі і вунь той гадзіннік, мабыць, далёка за поўнач. Стук відаць-такі паўтарыўся. Увайшоў граф-камердынер, ;і, як ён даведаўся тым часам, быў у маёнтку за аканома. яго паводзінах не было нічога няветлівага, але ветлівай пакоры на ступень менш, чым у адносінах да князя.

Гэтае стварэнне! Бетховена ўзяла злосць. Ён палажыў руку за вушы.

- Што? Паўтарыце і гаварыце, калі ласка, крыху мацей, чалавеча. Часамі я маю звычку быць рассеяным і не ўслухоўваюся ў тое, што мне гавораць.

- Яго светласць чакаюць.

- Чаго?

- Вам жа трэба прадэманстраваць сваё майстэрства іграць на піяніна перад французскімі гасцямі.

- Прадэманстраваць маё майстэрства іграць на піяніна перад?. . Бачыце, я проста забыўся пра гэта, а цяпер ужо надта позна.

- Надта позна?

Бетховен зірнуў на свае рукі, якія вось-вось гатовы былі задрыжаць.

- Сёння ноччу мае пальцы ўжо пайшлі спаць. Перадайце гэта, калі ласка, Ліхноўскаму.

- Яго светласці?

- Пардон, яго светласці. Што я сёння больш не хачу «дэманстраваць сваё майстэрства» на фартэпіяна.

- Я ніколі не здолею сказаць яго светласці гэтых слоў. . . ды тым часам мне загадана. . . неадкладна прывесці вас з сабою.

- Каб я «прадэманстраваў сваё майстэрства» на піяніна?

- Дакладна так, яго светласць і госці чакаюць.

Бетховен з падкрэсленай неахвотаю падняўся з месца і надзеў пінжак, які вісеў на спінцы крэсла.

- У гэтым выпадку нічога не зробіш. Прыйдзецца, мабыць, пайсці самому.

Вядома, не выключана магчымасць, што лёкай-граф памыліўся ў словах, бо ён нічога не ведаў аб адносінах паміж Бетховенам і Ліхноўскім. Ну, гэта трэба высветліць. Бетховен хутка ступаў паперадзе.

У зале ён спачатку падумаў, што ў яго галюцынацыя. Але гэта было неверагодна, і ён паспрабаваў прывесці ў парадак свае думкі. Князь Карл Ліхноўскі, які ў Вене быў да яго такі паблажлівы, выдаваў сябе за сябра, увачавідкі ператварыўся ў рабалепнага суб’екта, што траха не на каленях абслугоўваў аўстэрліцкіх пераможцаў. Ліхноўскага не выбачала нават тое, што ён таксама ўжо добра падпіў. Ён лепятаў:

- Не, mon cher лейтэнант, князь Ліхноўскі лічыць за г-гонар паднесці вам яшчэ адну чарку. - Ён падняў чарку, вітаючы ёю французскіх афіцэраў. - А за што вып’ем? Вы сапраўды лічыце, мас’ё, што вялікаму імператару падабаецца Марыя-Луіза? Дачушка нашага імператара і эрцгерцагіня? Ёй, пр-праўда, толькі чатырнаццаць гадкоў і трэба яшчэ з’есці не аднаго пеўніка. Ведаеце, наеўшыся пеўнічкаў, жанкі робяцца страснымі. - Ён з булькannем засмяяўся. - Гэта цудадзейны сродак, пра які я цяпер вось паведамляю вам, панове; у маёй хатняй аптэчцы я заўсёды трымаю яго, так сказаць, напагатове. Вып’ем за шлюбную ноч вялікага імператара з маленькай Марыяй-Луізай Аўстрыйскай, пасля таго як яна. . . спачатку наесца пеўнікаў. Вось гэта быў бы саюз! Няхай жыве імператар, пераможца ў бітвах і на ложках!- Ён папярхнуўся, бо ў гэты момант заўважыў Бетховена: - А вось. . . і мой піяніст! Палкоўнік, паважаны палкоўнік, вось Людвіг ван Бетховен, якога вы хацелі паслухаць. Бетховен, паімправізуйце ж крыху, і вы, палкоўнік, потым вымушаны будзеце прызнацца, што князь Ліхноўскі падаў вам да стала. . . - ён склаў губы трубачкаю і пацалаваў кончыкі сваіх пальцаў, - музычны далікатэс з Вены.

Дзе гэта нехта аднойчы ўжо вось гэтак, з асалодаю, цалаваў кончыкі пальцаў? А, успомніў - калісьці старызнік на рынку ў Боне, і тады таксама размова ішла пра брудныя рэчы. Бетховен адчуваў сябе зусім спакойна, але гэты дзіўны спакой часта быў прадвеснікам бязмежнага прыступу гневу. Значыцца, трэба цяпер сачыць за сабоюі

- Палкоўніку прыйдзецца адмовіцца ад далікатэсу, бо ў мяне няма намеру іграць.

Рабалепны князь са шклянымі вачыма атрымаў задачу, якая была вышэй яго разумення.

- Чаго ў вас няма? Няма намеру іграць? Але ў мяне ёсць намер паслухаць вашу ігру. Я даў гэтым панам, пану палкоўніку, сваё княжацкае, чуеце, княжацкае слова!

Бетховен трымаў сябе спакойна, але ў ім разгараўся гнеў, пасылаючы свае першыя змрочныя іскры. Ён зняважліва махнуў рукою.

- Князь! Добра, вы князь, але толькі па паходжанні, вначыцца, гэта выпадковасць, а князёў былі ўжо тысячы і будуць яшчэ тысячы. А я, - цяпер яго гнеў усё-такі выбухнуў, - а Людвіг ван Бетховен толькі адзін!

За дзвярыма ў калідоры ён глыбока ўздыхнуў. Усё скончылася добра. Ён нават не бразнуў за сабою дзвярыма, а хто астаўся спакойным, у таго перавага. Вядома, словы яго гучалі крыху пыхліва, але ён не шкадаваў аб гэтым. Падняўшыся наверх, ён зачыніўся ў сваім пакоі. Цяпер ён мог ужо нават усміхацца. Заўтра, калі пройдзе хмель. . .

Што там яшчэ зноў такое? Хтосьці грукаў кулакамі ў дзверы.

- Непаслухмянага піяніста пад арышт! Адчыняйце! Адчыніць? Н І ў якім разе!

- Калі гэты непаслухмяны піяніст неадкладна не адчыніць дзверы, яны будуць узламаны!

П’яныя - людзі ўпартыя і не помняць сябе. Але ці ж сапраўды хацеў гэтага Ліхноўскі? Ён зноў з усяе сілы загрукаў у дзверы, лічачы:

- Адзін, два. . .

Можа, яму хацелася паказаць пераможцам сваю княжацкую ўладу, свой княжацкі бляск?

Такія жорсткія сцэны не былі навіною, але цяпер тут іншы выпадак. Ён больш не хлопчык. Цяпер ён мужчына, хоць і не вельмі вялікага росту, але тым не менш меў такую сілу, што некаторыя дзівіліся. Няхай ідзе яго светласць. Ён ужо адпаведна прыме яго.

Ён узяў у рукі цяжкае крэсла, якім паспрабаваў пагуляць у паветры. Дзверы задрыжалі, і - дзіва! - над высока паднятым крэслам і над разбітымі ўжо дзвярыма паплыло чырвонае полымя. . . Французскія афіцэры адцягнулі Ліхноўскага назад, і на яго рукі лёг нейкі цяжар.

Потым пакой апусцеў, і толькі на завесах асталіся вісець абломкі дзвярэй. . . перад зіхоткай пустэчай.

- Што тут робіцца? - У фантастычнай рамцы стаяла ў начной кашулі Марыя Крысціна, дрыжучы і збялеўшы ад страху.

Бетховен не адказаў. Ён склаў у дарожную торбу свае рэчы і паспяшаўся з замка.

Праліўны дождж хутка прамачыў яго зусім. З Тропаў ён адразу ж падаўся ў Вену і там, яшчэ з дарожнаю торбаю ў руцэ, пайшоў да Біго. Гер Біго дэ Мараге быў бібліятэкарам у Разумоўскага, і зайсці трэба было з-за квартэтаў, заказаных яму графам, якому падабалася, калі яго звалі князем.

Жонка Біго лічылася выдатнаю піяністкаю, і таму што яна цікавілася ўсімі яго фартэпіяннымі кампазіцыямі, Бетховен паказаў ёй кур’ёз - зусім размоклую «Апасіянату». Марыі Біго ўдаўся цуд - сыграць з ліста санату з сапсаванага вадою манускрыпта, а яе муж палічыў змрочна-палымяную, шалёную «Апасіянату» ўсепаглынальным прызнаннем ў каханні да жонкі. Так дайшло да сваркі.

Камарыныя ўкусы! Працаваць! Квартэты фа мажор, мі мінор і до мажор выйшлі, на яго думку, даволі неблагія. Дадзім і ім нумар - опус нумар 59. Опус нумар 60 - гэта Чацвёртая сімфонія. Канцэрт для фартэпіяна з аркестрам соль мажор яшчэ раней стаў опусам нумар 58, значыцца, у яго ўжо ёсць значная колькасць пранумаравапых твораў, і вось цяпер узнікла пытанне, нейкая амаль дзіцячая забава, - на які ж опус у гэтай латарэі выпадзе нумар 61.

Між іншым, існавала столькі загадкавага. Моцнае калаццё раздзірала кішкі, чэрці, здавалася, усё больш заклейвалі вушы. Жазефіна пісала вельмі рэдка і неяк халаднавата.

У шчыліну паміж парогам і дзвярыма хтосьці спрабаваў нешта прасунуць. Давалася яно нялёгка, але відавочная подласць, што дзейнічала за дзвярыма, упарта дамагалася свайго. Цаля за цаляю газета ўсё больш заходзіла ў пакой. Потым нехта шалёна прагрукатаў уніз па ўсходах.

У газеце - а была гэта «Шчыры» - хтосьці падкрэсліў чырвоным алоўкам і ўзяў у рамку адзін з артыкулаў-гаворак пра мастацтва, так званых пісем гера фон Кацэбу. Гера Аўгуста фон Кацэбу, славутага тэатральнага драматурга. Фрыдрых Шылер памёр нядаўна, і ні разу не ажыццявілася яго гарачая мара калі-небудзь дасягнуць у драматургіі таго, чаго дасягнуў там гер фон Кацэбу!

Пра што ж ён тут «гаварыў» цяпер? Бетховен чытаў:

«Вы бачыце, што нашы тэатры запоўнены французскімі навінкамі, у той час як нашы пісьменнікі і кампазітары адпачываюць. Але калі сёй-той з нашых апошніх музычных талентаў, асабліва Бетховен, будзе ісці сваёй дарогай, то яны, мабыць, ніколі не заблішчаць на сцэне. Нядаўна ў Аўгартэне ігралі уверцюру да яго оперы «Фідэліо», якую паказвалі ўсяго некалькі разоў, - бо яна зноў правалілася, выйшла нават нешта накшталт тэатральнага скандалу, - і ўсе шчырыя аматары і сябры музыкі цалкам згодны з тым, што ніколі яшчэ ў гісторыі музыкі не стваралася чагосьці такога бязладнага, крыклівага, сумбурнага, такога, што абурае слых. Адна за адной ідуць самыя рэзкія мадуляцыі ў сапраўды агіднай гармоніі, і некалькі нязначных ідэй, у якіх няма нават знаку ўзвышанага, як, напрыклад, сола на паштовым ражку, - Бетховен не стрымаўся ад рогату, - якое, мабыць, павінна абвяшчаць, што прыехаў губернатар, і яно толькі дапаўняе непрыемнае, аглушальнае ўражанне. І наадварот, насычанае, унутранае жыццё бачым мы ў выдатнай уверцюры Андрэаса Ромберга, якая з’яўляецца поўнай процілегласцю бетховенскай музыцы».

Гэта зноў супакоіла яго: ага, цяпер Ромберг, значыцца, няма ніякіх змен у параўнанні з тым, што было раней. Сёмага красавіка «слухачоў зачаравала» опера Вейгля «Агонь Весты», а восьмага публіка на оперы Паэра «Сарджына» прыйшла ў «неапісальнае захапленне». Дзесятае красавіка вынесла прысуд другому варыянту «Фідэліо», оперу адразу ж зноў знялі з рэпертуару. Цяпер яна ляжыць вунь там у шафе мёртвая і нікому не патрэбная. Няма ніводнага тэатра, які б зацікавіўся ёю. Так, нават Керубіні, паслухаўшы уверцюру нумар тры да «Леаноры», толькі і мог што паматаць галавою.

У пакой уляцеў, шырока адчыніўшы дзверы, Стэфан фон Бройнінг.

- Людвіг! А я хацеў цябе падрыхтаваць і спазніўся.

Бетховен кіўнуў галавою:

- Праўда, я ўжо прачытаў.

- Гэты подлы і неразумны напад. . .

- Які адлюстроўвае думку грамадскасці. . . Бройнінг злосна стукнуў стэкам па падлозе. Бетховенаў твар скрывіўся ў насмешлівай грымасе:

- Стэфан, пашкадуй свой стэк, яго не хопіць, каб перарабіць свет.

Бройнінг матнуў галавою:

- Усё так недарэчна. . .

- Гэтак, а мо і не гэтак. Нейкі сэнс, мабыць, усё-такі ёсць, бо ўпартасць нас гоніць наперад, а гора нас вучыць. Стэфан, у цябе знойдзецца чвэртка гадзіны вольнага часу? Калі знойдзецца, то я табе сыграю нешта, што таксама звязана з горам і народжана ім. Хочаш паслухаць? Я буду іграць тую частку партытуры, якая ўжо мною напісана, і ў той жа час называць аркестравыя партыі, каб у цябе склалася пэўнае ўяўленне аб усім творы.

Ён хуценька сеў за раяль.

- Пачалі! Чатыры разы рэ мажор. . . піяна. . . літаўры. . . а зараз кларнеты і фаготы! Чуеш? Уключаюцца першыя скрыпкі, рэ-дыез мінор, яшчэ раз, яшчэ раз, яшчэ раз. . . не вытрась ваўшы, рэ мажор пераходзіць у рэ-дыез мажор. . . а вось загучалі ўжо і другія скрыпкі. Сумная мелодыя, праўда? Але яна і суцяшае. А можа, ты лічыш яе бязладнаю, немілагучнаю і сумбурнаю? Дык пачакай жа, Стэфан! Хутка даведаешся пра ўсё, пацярпі толькі крыху. Восемдзесят восем тактаў цярпення, Стэфан, бо толькі на восемдзесят дзевятым такце я дазваляю ёй заявіць пра сябе! Зноў сола, але на гэты раз не на «паштовым ражку», а на скрыпцы. Увага! Восемдзесят шосты такт, восемдзесят сёмы, восемдзесят восьмы. . . вось яно, вось цяпер пара! - Ён спяваў, ледзь не роўма роў. - Скрыпка, скрыпка сола! Бо гэта не што іншае, як скрыпічны канцэрт рэ мажор!

Святло пачало калыхацца. Ён загарнуў нотны сшытак, які праглядаў перад гэтым. У ім была уверцюра Мегюля, якая адкрывала сённяшні канцэрт.

Некалькі тыдняў таму назад венцы зноў выходзілі скакаць на вуліцы, але прычына была не ў новай Трафальгарскай марской бітве. Іхнюю радасць на гэты раз выклікалі два словы: Іена і Аўэрштэт. У свой час аўстрыйцам прыйшлося праглынуць свой Аўстэрліц, чаму ж павінна быць лепш прусакам? Разам з французамі супраць немцаў змагаліся нават немцы, войскі Рэйнскага саюза, створанага паўднёванямецкімі і заходненямецкімі князямі пад пратэктаратам карсіканца.

Заняты больш сваімі думкамі, чым гальштукам, ён раптам угледзеў за сабою ў люстэрку каляндар. Сёння дваццаць трэцяе снежня, гэта значыць, ідуць каляды. Роўна трыццаць гадоў

таму назад бацька падарыў яму маленькую скрыпку. Пазней яна пабольшала. А колькі слёз ён папаліў тады! Не інструмент, а д’ябал; ён праклінаў яго і тым не менш заключыў з ім вось цяпер, у скрыпічным канцэрце, мір. Упершыню сёння перад публікай у Венскім тэатры партыю скрыпкі ў ім выконвае Клемент. Трэба спяшацца. Праз паўгадзіны свой таямнічы покліч пачынаюць літаўры.

Ці ж выпадзе яму калі-небудзь вялікі поспех? Ён не мог адарваць ад люстэрка воч. Божа праведны, а ён жа забыў аддаць канцэрт на прагляд свайму брату Карлу! Гэтая думка зноў развесяліла яго. Толькі нядаўна, і зусім выпадкова, ён даведаўся, што Зімрок адказаў на Карлава пісьмо. «Паважаны гер касавы афіцэр! Дагэтуль я лічыў, што Людвіг усё яшчэ сам піша свае рэчы, дый цяпер лічу, што так яно і ёсць». Прыкладна так. . . Смешна, праўда? І гэты скрыпічны канцэрт ён, Людвіг, зноў-такі напісаў сам, адзін.

Клемент дырыжыраваў аркестрам і падняў ужо дырыжорскую палачку, каб пачаць уверцюру Мегюля. І тут увайшоў Бетховен, борздзенька пашыбаваў да свайго звыклага стаячага месца побач з аркестрам. Каб лепей чуць, ён павярнуў яшчэ і галаву. Бо даўно ўжо выспела ў ім рашэнне, і ён яго накрэмзаў на лісце з накідамі да квартэтаў для Разумоўскага: хопіць замоўчваць, што ён не чуе. Вечныя хованкі рабіліся з цягам часу недарэчнымі і нявартымі яго.

Ніхто не пляскаў у далоні, калі ён паявіўся. Бясспрэчна, ён падарваў свой аўтарытэт операй «Фідэліо» і асабліва трэцяй уверцюрай «Леаноры». У зале былі, вядома, і сябры, якія ахвотна паапладзіравалі яму, але гэтыя слабыя, рэдкія апладысменты прагучалі б як насмешка.

За аркестрам каля сцяны стаяў Зейфрыд, яшчэ адзін капельмайстар і добры сябар. Стаяў са складзенымі на грудзях укамі і кіўком галавы прывітаўся з Бетховенам. Гэта значыла: я пастараюся дырыжыраваць так, каб вы былі давольныя.

Пачалася уверцюра Мегюля, і Бетховен паўтараў яе па памяці. Нічога не скажаш, рэч даволі прыгожая. Па-французску элегантная, хоць і крышку павярхоўная. Потым апладысменты сціхлі. Пачалі настройваць інструменты. Клемент пайшоў у пакой для музыкантаў, каб узяць сваю скрыпку, і тут на памост эластычна і энергічна ступіў Зейфрыд. Вярнуўся Клемент, трымаючы злева пад пахаю скрыпку і нядбала павесіўшы смык на мезенец правай рукі. Выбух захаплення вітаў любага капельмайстра, які цяпер зрабіўся любым скрыпачом-віртуозам. І вось ківок галавою Зейфрыду, і той рэзка ўзняў угору рукі. Спынілася апошняе шавяленне ў аркестры. Зараз пачнецца ігра. Асцярожна, калі ласка, дарагі Зейфрыд, калі ласка, асцярожна і таямніча. Вось яно!. . Дырыжорская палачка здрыганулася і лёгенька паехала ўніз. Добра, Зейфрыд, добра!

Бетховен прыціснуў далонь да вушной ракавіны: выдатна гучаць літаўры! Хоць ён нічога і не чуў, бо яны гучалі піяна, але ён бачыў рух дакранання да літаўраў. Габоі, кларнеты, фаготы - пяшчотна, Зейфрыд! І яны зайгралі пяшчотна, як яму хацелася. Гэта можна выразна бачыць па вуснах музыкантаў. Крэшчэнда і фортэ! Яно сапраўды дайшло нават да яго вушэй, неяк раптоўна, - гэты прывід, які ён выклікаў да жыцця і які вось цяпер узнімаўся ўверх. А зараз прэч, назад! Бо цяпер пачнуць шаптаць флейты! Рэ-дыез мажор! Яшчэ раз! Яшчэ раз! Яшчэ раз! Шяна! Бас фортэ! А цяпер другія скрыпкі, піяна! Фортэ, бас! Бас і вас заглушыць, але ў свой час скрыпка сола. . . туці! Фартысіма! А цяпер зноў пяшчотна, мае мілыя! Габоі, кларнеты, фаготы і валторны, толькі, прашу вас, пяшчотна! Праўда, неблагая тэма, га? Сумна, вядома, аж за душу бярэ, але разам з тым прыгожа і радасна, нібы дожджык суцяшэння. . . Твар яго нагадваў бронзу, і рухаліся толькі вочы. Клемент, можаце цяпер не спяшаючыся паднесці скрыпку да падбародка. . . вось так добра! Тэнута і меццафортэ. Крэшчэнда і сфарцата. Яшчэ больш сфарцата! Вы ж цяпер на сабе нясеце Цэзара і яго шчасце, Клемент, хоць гэта і няважна, але - што важна? Важна тое, што я вам не раз казаў: музыка павінна выбіваць іскры з розуму ў мужчыны! - Адны іскры? Яна і суцешыць можа, нават смуткам. Магу пабажыцца, бо я гэта зазнаў на самім сабе! Яна можа супакоіць чалавека, а потым труба зноў пагоніць яго ў бойку. - Кадэнцыя. Пабачым, Клемент, што выйдзе. Клемент, але навошта калышацца гэтулькі плюмажаў і пабрынквае ордэнаў, - я ж бачу гэта па вашых пальцах! Вядома, іграеце вы віртуозна, але ўся справа цяпер толькі ў тым, каб кранала сэрца. Прасцей, яшчэ прасцей! Даю вам добрую параду, Клемент, і мне сорамна, бо і ў маёй музыцы таксама калышацца яшчэ надта многа плюмажаў. Не так проста пісаць зусім проста. Можа. . . ларгета. Цудоўна. Кадэнцыя і ронда. Алегра джакоза. Ты мог бы яшчэ крыху паскорыць тэмп, Зейфрыд. Так, добра, вы ўсе на вышыні, а вось зараз усяму прыйдзе доўгачаканы канец - туці! Дымінуэнда. . . пердэндозі,

пердэндозі. . .

Піянісіма! Заклінаю вас: піянісіма!! Я ўсё яшчэ штосьці чую, а мне цяпер чуць нічога нельга! Клемент, а цяпер яшчэ раз! Ад піянісіма ў чатыры такты да фартысіма! Туці! Акорд! Акорд! Добра!. .

Апладысменты, бясконцыя як сусвет! Амаль істэрычнае захапленне! Пранізлівыя жаночыя галасы:

- Клемент! Клемент!

Няўжо ён усё-такі хоць раз дамогся перамогі? І яму трэба таксама падзякаваць Клементу.

- Брава, Клемент! - Ягонае падзякі заслугоўвае і аркестр з Зейфрыдам. - Брава ўсяму аркестру! Усяму аркестру! Зейфрыд! Зейфрыд!

Раптам той шпурнуў сваю дырыжорскую палачку ў аркестр. Быццам хочучы сказаць: што такое я? што такое мая ігра? Вунь той унізе - усё! Нейкі перапоўнены нянавісцю голас прахрыпеў:

- Такая віртуознасць! Шкада, што Клемент не мог паказаць яе на больш вартым творы.

Яго ахвотна падтрымалі другія:

- Правільна! Чаму толькі гэты бліскучы скрыпач. . .

Зейфрыд, спрабуючы перакрычаць шум, што ёсць сілы зароў:

- Бетховен! Бетховен!

Той махнуў яму рукою і. . . падаўся з залы.

Хтосьці падсеў да яго, успёршыся рукамі на стол, паглядзеў на яго, быццам бачыў перад сабою нейкага паўзуна.

- Сапраўды ёсць толькі адзін Бетховен, як ты, гаворыць, сказаў аднаму князю, калі мне гэта правільна пераказала сямейства Мальфаці. Пры гэтым я маю на ўвазе не самога музыканта, а той дзіўны дом, у якім не так, як трэба, пабудаваны паддашкавы пакой. Яго шукаюць па ўсей Вене, бо, што ні кажы, ёсць там некалькі чалавек, якія цябе не забіць хочуць, а наадварот, хочуць табе паціснуць руку і абняць па-сяброўску. А ён сабе сядзіць адзін у «Лебедзі» каля грубкі, на сваім улюбёным месцы.

- Глейхенштэйн. . . Ігнац! - Бетховен прыжмурыў вочы і, ацэньваючы, агледзеў паважную фігуру маладога барона. - Хацеў бы я ў цябе павучыцца, як завязваць гальштук.

- А што думаеш, гэта не так проста, як пісаць музыку. - Глейхенштэйн пацягнуў носам. - Які тытунь ты, між іншым, курыш? Англійскі? Нягледзячы на кантынентальную блакаду? Так і трэба, няхай жыве імператар! Мы будзем шкодзіць яму ўсюды, дзе толькі можна, і таму дай і мне пакурыць твайго тытуню.

- Ах ты, вытанчаны махляр! Адкуль ты ўзяўся?

- Пра гэта доўга расказваць, раскажу калі-небудзь пазней. Я два гады вандраваў па Аўстрыі, Венгрыі і яшчэ сям-там, але астануся цяпер у Вене!

- Зноў рэферэнтам?

- Бяры на ступеньку вышэй, будзь ласкавы. Сакратаром. Гэта значыць, пакуль што - а ў Вене я з учарашняга дня - я яшчэ прыкамандзіраваны сюды. - Глейхенштэйн паварушыў губамі. - Цэнзура. Гвардыя пошуку, і я адразу штосьці знайшоў, з-за чаго потым шукаў цябе, як іголку ў стозе сена. - Ён дастаў з бумажніка надрукаваны ліст паперы і працягнуў яго Бетховену. - Чарнавы адбітак, рэцэнзія на адзін скрыпічны канцэрт, і гер Мёзер з вышэйшай гофмаршальскай канцылярыі зноў выказвае на старонках «Венскай тэатральнай газеты» пункт погляду элегантнага свету. Выйдзе заўтра, і таму крытыка напісана і набрана так хутка. Захапіў я яе выпадкова і толькі таму, што яшчэ раз зайшоў на службу.

Бетховен чытаў: «Знаўцы прытрымліваюцца адной думкі аб канцэрце Бетховена. Яны прызнаюць, што ёсць у ім сёе-тое, але адзначаюць, што вельмі часта сувязі паміж паасобнымі часткамі нейкія зусім разарваныя і што бясконцыя паўтарэнні некаторых агульных месцаў легка стамляюць. Яны кажуць, што Бетховен мог бы значна лепей выкарыстоўваць свой прызнаны ўсімі вялікі талент і ствараць рэчы, раўнацэнныя яго першым сімфоніям до мажор і рэ мажор, якія назаўсёды паставілі яго ў лік лепшых кампазітараў. . . »

Ён кіўнуў галавою:

- Так, так! Калі б жа гэта сказалі тады, калі я напісаў іх, а вось мае «Гераічнае» нават і не ўспомнілі. І ўсё ж: «у лік лепшых кампазітараў. . . прызнаны ўсімі вялікі талент»! Рэцэнзія незвычайна бліскучая.

Потым ён чытаў далей: «У той жа час існуе аднак небяспека, што калі Бетховен і далей будзе ісці па гэтым шляху, то і яму і публіцы прыйдзецца вельмі кепска. Музыка неўзабавеператворыцца ў нешта такое, што проста ні ў кога не будзе выклікаць здавальнення і што кожны, хто прыйдзе на канцэрт, будзе літаральна аглушаны мноствам бязладных ідэй і гучным вэрхалам некалькіх інструментаў і пакіне яго з адным толькі непрыемным пачуццём стомленасці».

Бетховен апусціў ліст.

- Колькі сілы страціў гэты небарака, колькі намаганняў, каб спачатку крышку паманіць мяне кавалкам перніка, а потым усё ж сцебануць пугаю па твары.

- Няўжо з гэтым нічога нельга зрабіць, Людвіг?

- Можна. Вып’ем адну-другую пляшачку, пакуль не развесялімся, як вясной жаўрукі. Між іншым - хачу я напісаць пастаральную сімфонію. Чаму? Я не чую болей, як журчыць ручаёк, як спяваюць салавей і перапёлка. Можа, удасца, калі пачну пісаць, яшчэ раз выклікаць іх толькі для мяне, можа, яны потым будуць для мяне як жывыя. Чаму ты маўчыш?

Ён раптам убачыў яе перад сабою ў пакоі. Толькі што ён павярнуўся на ўслончыку каля піяніна і цяпер не мог адарваць ад яе вачэй. Не ведаў ён, наяве гэта ці толькі мара. Зірнуў хуценька, сумняваючыся, на нотную паперу на пульце. Там ляжала «Пачуццё радасці, калі знаходзіўся за горадам» - пішучы гэта, ён, ведама, думаў і пра яе, пра тыя дні ў Гецэндорфе, і таму яна, відаць, магла паўстаць перад ім дзякуючы яго фантазіі - яе вочы былі цёмныя і вялікія, можа, занадта вялікія. Ад таемнага гора, якое зрабіла такім худым яе твар?

- Людвіг, чаму ты не прыйшоў учора? Ці ж Глейхенштэйн не сказаў табе нічога? Ён жа павінен быў перадаць, што я чакаю цябе пасля канцэрта. А як жа я. . . зноў. . . чакала цябе. Сабрала для нас святочны стол, запаліла свечкі.

Ён паволі кіўнуў галавою.

- Разумею цяпер, чаму мне Глейхенштэйн нічога не сказаў. Бо ён сапраўдны добры сябар.

Яна ўсміхнулася неяк ненатуральна.

- Глейхенштэйн - добры чалавек, але калі вы, мужчыны, занадта добрыя, то вы тады і дурні. Людвіг, ці ведаеш ты, якая я радая мець магчымасць зваць дурнем цябе, вялікага піяніста-віртуоза і кампазітара?

- Вялікага. . . кампазітара?

- Дурня. На тое, што пішуць аслы-крытыкі, можна й напляваць. Дык вось я тут, каб зрабіць табе на каляды падарунак. - Яе маленькія рукі неспакойна варушыліся ў муфце. - Вядома, непрыемна, калі я гавару пра гэта. Мы з Глейхенштэйнам ехалі ў адной паштовай карэце. Мы - гэта яшчэ мама і Тэрэза. Дзецям трэба адпачынак, і таму ўжо сёння мама і Тэрэза паедуць з імі ў Карлсбад, а адтуль у Тэпліц, можа, нават на цэлы год. Каму-небудзь трэба астацца тут і панаглядаць за галерэяю і пакоямі, і вось я і напрасілася ахвяраю. А ў Тэрэзы мае дзеці будуць гэтак жа добра дагледжаны, як і ў мяне. Ці мо ты думаеш, што я дрэнная маці, Людвіг? - Няўжо ён яе нават не слухае? Няўжо ён не разумее сэнсу навіны, якую яна прынесла яму. . . у падарунак?

Ён запытаўся:

- Дзе ты так доўга была?

Яна аж зазлавала:

- Што гэта, папрок? Ты мяне расчароўваеш, Людвіг. Ён крыху разгубіўся, не ведаючы, што і казаць. Можа, пашукаць дапамогі ў музыцы?

- Ёсць у мяне гатовая саната, якую я табе зараз сыграю. Завецца яна «Апасіяната». Яе ты яшчэ не чула, а я не знаў, куды яе табе паслаць. Дзе ты, зрэшты, знаходзілася?

- Скажу табе праўду, Людвіг. Я вельмі шмат была з табою і вельмі шмат. . . далёка, далёка ад цябе.

Ён неяк адсутна засмяяўся.

- І таму не магла чуць «Апасіянаты»? А можа, яна яшчэ крышку зберагласе ў тваёй памяці? Помніш, я іграў яе калісьці ў «Залатым грыфе» і ты так уважліва слухала? Зараз саната, вядома, больш закончаная.

Ён пачаў іграць. Саната цяпер папраўдзе больш «закончаная». Бо як жа роспачна, самаахвярна змагаўся ён усе гэтыя гады за яе, думаў толькі пра адну яе!

У яе на вачах выступілі слёзы. Яна падышла бліжэй.

- Можна мне сказаць, што я думаю?

- Табе? Усё, што хочаш!

- Саната надта змрочная, надта безнадзейная. Я ўжо тады ў «Залатым грыфе» хацела сказаць табе гэта, а цяпер скажу абавязкова. Я мусіла вярнуцца да цябе, толькі. . . да цябе, Людвіг! Саната, вядома, цудоўная, але ты мне яшчэ не падаў нават і рукі. Ці, можа, ты мяне. . . спачатку пацалуеш?

Ён ласкава і асцярожна абняў яе.

- Мая ты неўміручая каханка. . .

Яна больш не дала яму вымавіць і слова.

- Прыйдзеш сёння вечарам? Я цябе буду чакаць! Запаліць шмат свечак ці. . . толькі. . . адну?

Цяпер ён працаваў упарта і старанна, як абіты жалезам таран, з дапамогаю якога ў старажытнасці разбівалі вароты і муры варожых гарадоў. Яму цяпер таксама трэба разбіць муры, бо ў горадзе яго чакае каханая жанчына, яго шчасце. Аднойчы вечарам, пагладжваючы яго па лбе, яна сказала:

- Якія ж дзіўныя ў цябе бугаркі, дзівак-непаседа! Людвіг, ты сапраўды непаседа, і таму мне хочацца супакойваць цябе.

Супакоіцца ён пакуль што яшчэ не мог. Звярнуўся да тэатральнай дырэкцыі з просьбай прыняць на работу тэатральным кампазітарам. Адмовілі. Ах, каб жа не было гэтага «Фідэліо»! Са скрыпічным канцэртам - таксама няўдача. Можа, канцэрт будзе сустрэты больш прыхільна, калі яго аранжыраваць як фартэпіянны? Але ці не нагадвае ўсё гэта падзёншчыну? Аднак яго чакае такая ўзнагарода! Дзеля яе можна пайсці на ўсё! Пастаральная сімфонія, мара і рэчаіснасць, успамін, сучаснасць, ды і будучыня таксама - няўжо яна адкрые запаветную зямлю, куды ён пойдзе поплеч з Жазефінаю? Іх гасцяванне адно ў аднаго зрабілі яго падазроным. Дзеля яе ён пераехаў спачатку ў Бадэн, а потым у Гейлігенштат, і яны сустракаліся толькі зрэдку, дый то з надыходам цемнаты, як злодзеі, што палохаліся святла.

- Я табе не перашкаджаю, Людвіг? - У пакой увайшоў Франц Брунсвік.

Бетховен засмяяўся.

- Вядома, перашкаджаеш, Франц. Цяпер мне перашкаджаюць усе, бо адной рукой я пішу Пастаральную сімфонію, а другою ўжо ўзяўся за месу до мажор, якую заказаў мне князь Ліхноўскі для выканання ў Эйзенштаце ў дзень анёла свае жонкі. Але што з табою, Франц? Ты - як тут лепш сказаць? - сонны нейкі падкрэслена карэктны ці ўрачысты.

- Праўда, Людвіг. Хачу спытацца ў цябе, як мужчына ў мужчыны, як сябар у сябра: ты, уласна, кахаеш Жазефіну? Кахаеш так, каб узяць яе ў жонкі?

- Франц! Няўжо ты думаеш, што я. . .

- Глупства. Калі ты кахаеш, адразу ж бяры яе ў жонкі.

- Сілы нябесныя, няўжо Жазефіна кахаё. . .

- Жазефіна заўсёды будзе кахаць толькі аднаго мужчыну - цябе. Але ўчора прыехала мама з Тэрэзаю. Тэрэза на нашым баку. Яна хоча бачыць шчасліваю і Жазефіну, і. . . - Брунсвік крыху завагаўся, - магчыма, яшчэ больш цябе. Яна самы лепшы член нашай рэспублікі-суполкі. Разумеет?

- Але што з Жазефінаю?

Брунсвікаў адказ прагучаў рэзка:

- Вось як трэба паставіць пытанне: што з мамаю? Учора, адразу ж пасля прыезду, яна накрычала на Жазефіну, што тая зноў марна страціла год маладосці і прыгажосці. Карацей, мама патрабавала, каб Пепі зноў выйшла замуж. Ды і дзецям, кажа яна, трэба адчуць выхаваўчую бацькаву руку.

Бетховен з саркастычным недаверам паглядзеў на свае рукі.

- Вялікі гонар для мяне, калі дапускаюць, што ў гэтых руках раптам знойдуцца якасці выхаваўцы. Але ж мне прыйдзецца даваць дзецям не толькі ўрокі музыкі. А я сам выхаваны як след?

Франц Брунсвік усміхнуўся.

- За тваё выхаванне ўзялася б Пепі - я жанчын, здаецца, добра ведаю. Але справа занадта сур'ёзная, каб жартаваць. Мама паспрабуе ўздзейнічаць на Жазефіну, толькі не на тваю карысць, Людвіг, і таму. . . я з'явіўся да цябе як сват, хоць пра сватоў ведаю толькі па чутках. Перадаю табе ад Жазефіны, што яна гатова і будзе рашуча дамагацца шлюбу з табою, нават калі з-за

гэтага мама і адштурхне яе ад сябе. Адштурхне да цябе, вось што мяне прасілі перадаць табе; яна ўпэўнена, што здолее вытрываць такое выгнанне.

Бетховен расчуліўся.

- Франц, табе ніколі не трэба было гаварыць мне гэтага, бо цяпер мне яшчэ цяжэй ажаніцца з ёю. Няўжо вы лічыце мяне нягоднікам, Франц? Скажы, што мне далі канцэрты па падпісцы ў Лобкавіца? Я працую і ледзь зарабляю на сябе самога. Бясспрэчна, ёсць дагавор з Клеменці, але калі грошы не прыйдуць своечасова. . .  І ў гэтую галечу прывесці Жазефіну?

- Калі б вы пераехалі ў Мартанвашар. . . Бетховен накінуўся на яго:

- Я! А кім я там буду?! Утрыманцам, нікчэмным гора-мужчынам, якога корміць жонка? Не, я папраўдзе кахаю Жазефіну! Табе не сорамна, Франц?

Брунсвік абняў сябра.

- Значыцца, я перадам Пепі, каб яна яшчэ пачакала цябе. Яна павінна пачакаць. Да пабачэння, Людвіг.

- Стой, Франц! Ці ж не даюць «сватам» падарункаў? Вядома, такі бедны музыкант, як я, можа падараваць толькі ноты, і нават не для віяланчэлі. Дазволь прысвяціць табе хоць фартэпіянную санату?

- Але ж гэта «Апасіяната», якую ты. . . для Пепі. . . Можа, мне ўсё-такі лепш аддаць яе Жазефіне загадзя, замест вясельнага падарунка?

Бетховен засмяяўся.

- Франц! Я тады напішу нешта такое, чаго яшчэ ніколі не чуў свет.

Эйзенштат і меса до мажор. Мур, які ён хацеў разбіць, каб дабрацца да Жазефіны, і тут не паддаўся. Палацавая царква! У залатым бляску фігуры святых і пышнае аздабленне. Знатныя пані і паны. Ледзь прыкметныя хуценькія паклоны ў бок дарахавальніцы і нізкія ўклоны ў глыбокай пашане і прыдворныя прысяданні перад высокімі асобамі. Пах ладану, памады і духоў. Палацавая царква - выконваецца меса до мажор. А пасля паблажлівае пытанне князя ў прысутнасці ўсяе світы: «Што гэта вы тут зноў стварылі, дарагі Бетховен?»

Незадаволенасць душы і неадкладнае вяртанне ў Вену. Ганарар будзе меншы. Убраныя, сумна-голыя палеткі. Рукі - у бінтах. Як усё баліць! Няўжо ад частай ігры, ад паўтарэнняў, калі ён пісаў музыку, у яго сапраўды запаліліся пазногці?  І няўжо тут не паможа ніхто, апроч хірурга?

Вось і Вена. . . Што такое? Жазефіна наехала? Куды і ці надоўга? Глейхенштэйн толькі пацiснуў плячыма.

- А праўда, што ты аддубасіў эрцгерцага, твайго вучня эрцгерцага Рудольфа?

- Ты з глузду з’ехаў, Глейхенштэйн.

- Але пра гэта гавораць.

- Хто? Лісліўцы, якія распускаюць чуткі і адчуваюць сябе пакрыўджанымі. Ну, а цяпер я раскажу табе, як яно было. Я займаюся з прынцам музыкаю, вядома, за грошы, якія мушу зарабляць, але і без гэтага ён мне падабаецца, і прыхільнасць тут узаемная. Ён вельмі таленавіты, ціхі, сціплы малады чалавек і добра ставіцца да мяне, а гэта даражэй за дукаты. Я сказаў гэта самому прынцу, калі ў мяне адбылася сутычка з ліўрэйным ёлупам, обергофцырымоніймайстрам, адразу як толькі я прыйшоў на першы ўрок! Толькі зайшоў я ў Шонбрун, і ён пачаў знаёміць мяне з прыдворным цырыманіялам. Я адразу расчыніў дзверы музычнага пакоя: «Прынц, дазвольце ўнесці яснасць. Здаецца мне, я прыходжу сюды, каб даваць вам урокі.  І пакуль што, здаецца мне, я яшчэ крышку лепш за вас іграю на раялі.  І я ва ўсякім разе не збіраюся, нават і за сотню дукатаў за гадзіну, поўзаць перад вамі на карачках!»

- Ты, скажу табе, калючы вожык, Людвіг.

-  І прынц зразумеў гэта. Ён сказаў: «Не чапайце яго. Такі ўжо ён удаўся, і я ганаруся і шчаслівы, што мой паважаны настаўнік дае мне ўрокі».

- Ну, а як наконт таго, што ты аддубасіў эрцгерцага?

- Скажу. Аднойчы я іграў яму штосьці, па-мойму, з фартэпіяннага канцэрта соль мажор. Прынц стаяў побач са мною і толькі матаў галавою. «Якая тэхніка! Маэстра, не маглі б вы растлумачыць мне, як вы навучыліся так іграць на фартэпіяна?» Мне прыйшла ў галаву думка, можа, крыху грубаватая. «Ахвотна. Сядайце, калі ласка, за фартэпіяна, прынц. Так, а цяпер сыграйце, скажам, гамы квінтавага кола. Пачніце з до мажор». Ён пачаў іграць, а я вельмі лагодна запытаўся, як мне гэта калісьці даводзілася чуць не раз: « І гэта до мажор?»  І потым -

плясь яго па пальцах і засмяяўся. «Вось як я вучыўся; толькі мяне лупцавалі стусінкаю, і не па адных пальцах, а куды папала!» Прынц спалохаўся, расчуліўся, ухапіўся за мае рукі. Але нехта з падлізнікаў, хто гэта бачыў. . . Між іншым, мне вось што прыходзіць у галаву. Ведаеш, што сказаў пра мае здольнасці піяніста гер Плейель, гэтая прызнаная велічыня? «У яго няма школы. Яго ўвогуле нельга назваць піяністам». Вядома, я не накрэмзаў яшчэ, як ён, дваццаці пяці сімфоній і каля сарака струнных квартэтаў і ўсякага стуку-груку, але тым не менш ёсць яшчэ людзі - як пражскі настаўнік музыкі Томашэк, - якія завуць мяне «каралём фартэпіяна», і не толькі з-за аднае тэхнікі.

Значыцца, Жазефіна наехала, не пакінуўшы яму на развітанне нават і слоўца. Вядома, Глейхенштэйнава думка, што Жазефіну пакрыўдзіла яго нязгода неадкладна пажаніцца з ёю, што яна адчула сябе абражанаю ў жаночай годнасці - глупства. Ёй гэта прыйшло б у галаву не раней як праз некалькі месяцаў. Пэўна, перад ад’ездам разыграліся драматычныя сцэны. У Вене ж была графіня Ганна Барбара з яе непахіснаю цвёрдасцю і, магчыма, прыехала яшчэ і графіня Караліна Тэлекі, ад якой заўсёды можна чакаць непрыемнасцей.  І ўсё ж слоўца на развітанне. . . Ну, тады ён пашле яго ёй, бо мужчынскае сэрца павінна быць мацнейшае. Ён прысеў да стала, узяў паперу і з нейкаю злосцю пачаў разглядаць гусіныя пёры. Як жа няўмела трымае ён іх у перавязанай руцэ. . . а словы?. . У арфаграфіі таноў ён адчувае сябе больш упэўнена, а яна, мабыць, больш за ўсё абрадуецца фартэпіяннай санаце, якую можа сыграць сама. Яе танальнасць - мі-бемоль мажор. Гэта вырашана канчаткова! Не - гэта зусім не вырашана канчаткова. Мі-бемоль мажор - танальнасць «Гераічнай»; а мо паміж імі існуюць таемныя сувязі? Адажыо? Няхай так, але - яшчэ штосьці накшталт матыва ражкоў, як у «Гераічнай»? Соль - фа - мі-бемоль! Бывай. - Пад нотамі ён нават напіша гэтае слова.

Як жа храматычна гучаць басы! Вось тут празмерныя, а вось тут паменшаныя гармоніі! Дысанансавыя затрыманні. . .

Танальнасць прапала. Невядома, мі-бемоль мажор яшчэ гэта ці ўжо до мінор? Ціхі, непрыкметны акорд ля-бемоль мажор. Непрыкметны? Так, і цяпер пасля расплыўчатага святла танальнасцей, жальбы, смутку - гэты яркі акорд ля-бемоль мажор! Вось такі ён, боль! Яшчэ прыйдзе дрыготкі неспакой разлукі, але за ёю, быццам трубы ў «Гераічнай», будзе невыказная радасць нашай сустрэчы - адзін на аднаго нагрувашчваюцца акорды тонікі і дамінанты!

Ён зажмурыў вочы. Няўжо ён бачыць яшчэ штосьці, што яго палохае? Паволі адклаў убок пяро, адкінуўся назад, задумаўся, услухоўваючыся ў нешта, і нарэшце аднёс ліст з пачатаю санатай да гары нотаў з накідамі твораў і засунуў яго кудысьці глыбока паміж іншымі лістамі. . .

- Трэба схадзіць, Людвіг. Ты ж не ведаеш, колькі яму асталося яшчэ жыць.

Глейхенштэйн згодна кіўнуў галавою.

- Я той жа думкі, што і Стэфан.

- Калі я пайду з вамі, мне прыйдзецца перажыць не адно ўніжэнне.

Бройнінг зрабіў здзіўлены твар.

- Людвіг, я не ведаў дагэтуль, што ты такі палахлівец. Бетховен павысіў голас:

- Я дакажу вам адваротнае, нягоднікі, і толькі таму пайду з вамі! Вы хоць разумееце гэтую маю адзіную прычыну? - Ён засмяяўся. - Лепш звязацца з тузінам чарцей, чым з двума вось такімі да ўсяго абыякавымі тыпамі. Хадзем жа.

Было гэта 27 сакавіка 1808 года. Праз некалькі дзён Ёзеф Гайдн збіраўся адзначыць сямідзесяцішасцігоддзе. Вітаць старога кампазітара захацела «Таварыства аматарскіх канцэртаў». Ва ўніверсітэцкай зале меліся выканаць адзін з яго шэдэўраў, араторыю «Стварэнне свету», якую ён напісаў роўна дзесяць гадоў таму назад на тэкст італьянца Карпані.

Трое сяброў з’явіліся позна, калі пад’ехала ўжо карэта, да дзверцаў якой прыставілі крэсла. Бетховенавы бровы падазрона заварушыліся, але Бройнінг супакоіў яго жэстам. Перад мноствам людзей, што стоўпіліся вакол карэты, ён не мог крычаць яму на вуха. Апроч таго Людвіг зараз сам убачыць, што здарылася з чалавекам, якога ён, узлаваўшыся, зусім выкрасліў са сваіх думак.

Глейхенштэйн аж сціснуў зубы - так моцна і балюча ўчапіўся яму ў руку Людвіг. Бройнінг толькі выразна кіўнуў у адказ: «Так, так, Людвіг. . . » Амаль бездапаможнаму старому памаглі пакінуць задняе месца, стаць на прыступку карэты, а адтуль сесці ў крэсла, якое прыўзнялі і панеслі ў залу. Хтосьці пабег паперадзе, і як толькі адчыніліся дзверы, зайграл! трубы, загрымелі глухія ўдары літаўраў. Сярод гледачоў пачуліся крыкі: «Гайдн! Гайдн!»

Музыканты аркестра махалі скрыпкамі, габоямі, фаготамі, і Сальеры, самы славуты оперны кампазітар свайго часу, стоячы перад спявачкамі і спевакамі, якія таксама махалі нотамі, схіліўся ў паклоне. Крэсла з юбілярам паставілі на падлогу, па абодва бакі ад яго селі князь Нікалаўс Эстэргазі і княгіня, менавіта той князь, які з фанабэрыстасцю знатнай асобы асмеліўся сказаць яму, Людвігу ван Бетховену: «Ну, што гэта вы тут зноў стварылі, дарагі Бетховен?» Але цяпер гэта не мела значэння. Значыцца, вунь там у крэсле рэшткі Ёзефа Гайдна, якіх, мяркуючы па яго выгляду, хутка будзе яшчэ меней. Маленькі змарнелы кволы чалавек з рудаватым, таксама пабітым воспінамі тварам. Як завастрыўся ў яго нос, а як дрыжаць рукі. Але касу на парыку ён не пераставаў насіць.

Усе праходзяць міма яго, у залежнасці ад рангу, паперадзе дваране. Кожны схіляўся ў паклоне, парык удзячна ківаў ім у адказ, у такт матлялася коска. Потым пайшлі музыканты. Вядома, першы ішоў Гумель, бо ён жа капельмайстар у Эстэргазі і тым самым Гайднаў пераемнік. Гайдн выконваў абавязкі капельмайстра яшчэ пры нябожчыку бацьку князя, пры якім прайшло яго, між іншым, не вельмі лёгкае жыццё. Ён быў адзін з дванаццаці дзяцей беднага вясковага карэтніка, спяваў на клірасе ў Вене, служыў камердынерам настаўніка музыкі, няўдала ажаніўся, а нядаўна памерлі два яго любыя браты. . .

Падышоў гер Эйблер, і Бетховен насцярожыўся. Што там такое? Нават у адносінах да юбіляра гер Эйблер даў адчуць розніцу. . . у рангу, лічачы, мабыць, што пэўная дыстанцыя існуе не толькі паміж дваранствам і музыкантамі, што трэба берагчы, падкрэсліваць гэтую градацыю, як нешта належнае, і сярод музыкантаў. Ён, Эйблер, прыдворны капельмайстар, а Гайдн выбіўся толькі ў капельмайстры князёў Эстэргазі, у прыватныя капельмайстры. Яшчэ больш прыкметна паказаў гэта Гіравец. Гэтыя нулі, у якіх гучаць адны толькі тытулы! Гіравец быў капельмайстрам прыдворнай оперы яго імператарскай і каралеўскай вялікасці, і яго сімфоніі выклікалі ў Вене небывалую сенсацыю. Таму ён, мабыць, і палічыў, што, віншуючы, маё права вяла працягнуць Гайдну ўсяго толькі два ці тры пальцы. Юбіляр сціпла і сардэчна пацiснуў іх.

Бетховен стаяў у цяні парцьеры. Можа, яму наогул не выходзіць адтуль? Яму, без ніякага тытула. . . Сальеры збіраецца ўжо падаць музыкантам знак. І тут Бетховен рэзкім рухам рукі загадаў яму:

- Пачакайце!

І хутчэй да Гайдна, схіліўся ў нізкім паклоне глыбокай павагі, узяў яго рукі і пацалаваў іх.

- Бетховен! І вы тут, Бетховен? Бетховен!

- Тут, мой настаўнік, мой тата, і прабачце мне. . .

- Вялікі магол!

Гайдн прыцягнуў да грудзей Бетховенаву галаву і, моцна трымаючы яго, усё гладзіў па галаве.

Князь Эстэргазі цяпер, відаць, зноў зробіць здзіўлены твар. Але якім жа заспакоеным ён, Бетховен, адчувае сябе, памірыўшыся з Гайднам! І яшчэ мацней задрыжалі ад радасці Гайднавы рукі! А можа, гэта стук? Свядомы? Несвядомы? Ці рэакцыя старога музыканта на радасць, крыху блытаная і летуценная? Але калі гэта здарылася несвядома, а яно, мусіць, папраўдзе так, то гэта яшчэ большы цуд. . .

- Вялікі магол! - Гайдн выбіў пальцамі першую тэму з «Гераічнай сімфоніі», яшчэ раз правёў рукою па чорных, зблытаных, непакорных валасах і адпусціў Бетховенаву галаву. Выпрастаўшыся, Бетховен з ласкавым клопатам зірнуў на юбіляра.

- Вам холадна, тата?

Гайдн, крыху саромеючыся, усміхнуўся, кіўнуў галавою, і ў такт матнулася каса з банцікам.

- Калі ўжо казаць шчыра. . .

Бетховен хуценька зняў з сябе паліто і накрыў ім Гайднавы калені.

- Вось так, гер імператарскі і каралеўскі камерны кампазітар Сальеры, цяпер можаце і пачынаць.

- І ўсё-такі, Людвіг, чалавек ты прыстойны, - Глейхенштэйн чамусьці запыніўся, - раз ты менавіта цяпер цераз графа Трухзес-Вальдбурга атрымаў прапанову пераехаць у Касель да караля Жэрома і прыняць пасаду капельмайстра з высокім акладам.

Бетховен прыжмурыў вочы.

- Вашы шпіёны даведаліся ўжо і пра гэта? Але ты, на жаль, не зусім правільна разумееш якасці майго характару. Скажу табе шчыра: я кульгаю на абедзве нагі. Толькі што пад кулямі мамелюкоў Мюрата за волю Іспаніі загінулі мадрыдскія патрыёты, а што будзе, калі, скажам, перамогуць гэтыя другія патрыёты? Якая ж будзе цана перамогі? Зноў інквізіцыя? Малітвы ў дыме ладану і праца на багатых? Напалеон жа, замест таго каб даваць народам волю, заняты забеспячэннем свае радні еўрапейскімі тронамі. Як падумаю, што трэба ісці да гэтага «вясёлага караля», дык і не ведаю, што рабіць. Забяры свой дуэт, які я прывёз з летняга адпачынку ў Гейлігенштаце, дзе я так і не адпачыў як след. Помніш, ты прасіў мяне аб якой-небудзь рэчы для твае любае віяланчэлі, а ў мяне сабралася некалькі гадзін, калі ў галаву нічога больш разумнага не лезла.

Глейхенштэйн прачытаў прысвячэнне: « Inter lacr Imas et luctus» - сярод слёз І болю. Падумалася: вядома, І тут не абышлося без Жазефіны. . .

Бетховен кпіў:

- Думаеш, навошта я напісаў гэта? Каб бліснуць латынню! Але цяпер мне трэба сесці за праграму акадэміі, якая можа адбыцца ўжо ў лістападзе. Я ўвяду ў дзеянне ўсю цяжкую артылерыю, якая ў мяне ёсць. Тры рэчы ўпершыню! Пятую, шостую сімфоніі і чацвёрты фартэпіянны канцэрт соль мажор. Трэба ж калі-небудзь зрабіць пралом да поспеху.

Акадэмія адбылася толькі ў канцы снежня, і музыканты, занятыя ў ёй, расказвалі сапраўдныя дзівы пра скандалы, што ўзнікалі на кожнай рэпетыцыі з «глухаватым вар’ятам», які хацеў і дырыжыраваць і іграць на піяніна і якога нічога не магло здаволіць. Ён дайшоў да таго, што пачаў аддаваць загады старым аркестравым ваўкам і ўвесь час сіліўся «ўвагнаць ім свой дух». З другога боку нельга адмаўляць, што музыка ў яго разуменні, напрыклад, у сімфоніі са «стукам лёсу» патрабавала часамі нават ад іх, самых знаных наёмнікаў музыкі, аддаць апошнія сілы і майстэрства. Ну проста нейкі цуд, і цікава, што выйдзе з гэтага ў дзень акадэміі, прызначанай на 22 снежня 1808 года ў Венскім тэатры.

Аднак першае, што кінулася ў той дзень у вочы, была вельмі халодная тэатральная зала, якая зеўрала пустатою. Дырэктар тэатра, барон фон Браўн, загадаў не паліць, бо баяўся, што збор не пакрые нават кошту дроў. Бетховен, гледзячы на невялічкую купку людзей, падлічваў у думках нямногія гульдэны, якія мусілі стаць яго асноўным заработкам на наступны год - і асноваю для шлюбу з Жазефінаю. Прыйдзецца пачакаць яшчэ.

Прыйшлі толькі самыя непахісныя «бетховенцы», набралася людзей купка, занадта малая для залы. І ўсё ж пачнём! Ён падняўся на дырыжорскі намост. Кароткі, лёгенькі паклон. Увага! Пачалі! Маю пятую сімфонію. . . Літаўры. . .

Гэтыя паганцы! Гэтыя д’яблы-музыканты! На рэпетыцыях яны ўпарціліся так моцна, што ён выходзіў з сябе. Клемент з Зейфрыдам літаральна вымушаны былі зачыняць яго ў артыстычным пакоі, бо ён грозіў задушыць сяго-таго з гэтых нягоднікаў. А як цяпер іграюць на сваіх інструментах літаўршчыкі! Проста любата! А як хораша падыгрываюць яму астатнія! Вось другая частка. Яму нават не прыйшлося ўмольваць іх жэстамі. Ці ж не ўцеху і міласць выструменьваюць яны са сваіх інструментаў беднаму няўдачніку? Вось апошняя частка. Фінал.

Ён толькі акругліў губы, каб бязгучна вымавіць «дзякую ўсім», як музыканты разам ускочылі са сваіх месцаў і закрычалі:

- Бетховен! Бетховен!

Яму насустрач цягнуліся рукі, - яго твар перасмыкнуўся. Нарэшце такі і вас захапіла гэтая бязладная рэзкая блытаная музыка вар’ята Бетховена?! Падайце ж мне рукі, каб я падзякаваў вам. . .

Спявачка арыі «О здраднік» папалася няўдалая, дый у glor Ia месы до мажор выявіліся слабыя месцы. Аднак гэтае непрыемнае ўражанне мы паспрабуем зараз выправіць. Ён аддаў дырыжорскую палачку Клементу і пайшоў за кулісы, каб добра размяць пальцы. Вярнуўшыся, ён, здавалася, цікавіўся толькі двума падсвечнікамі са свечкамі, якія стаялі з бакоў на піяніна. Яго шырокі рот скрывіўся ў нейкай дзіўнай усмешцы. Бо цяпер ён, «кароль фартэпіяна», будзе выконваць свой чацвёрты канцэрт для фартэпіяна.

Гатова, Клемент? Добра. Алегра мадэрата і дольчэ, дольчэ! Так, гэтымі квадратнымі рукамі і тоўстымі пальцамі ён мог непаўторна ласкава іграць на піяніна. Павярнуў галаву ўбок, наблізіў да клавішаў вуха. У гэты момант ён здаваўся ўвасабленнем захопленасці ігрою, асабліва калі пры гэтым у яго летуценна заплюшчаны вочы.

Але калі б ведаў слухач, што за фартэпіяна сядзіць глухі піяніст, гэта перашкаджала б слухаць, і таму прыйдзецца звярнуцца да маленькага падману.

Фартэпіянны канцэрт, нават на яго мерцы, даволі прыгожая рэч. Клемент дырыжыраваў выдатна, дый аркестр вельмі добра суправаджаў саліста. Пэўная цяжкасць толькі ў тым, што ён вымушаны болей «чуць» пальцамі, бо ацэньваць моц гуку вушамі яму цяпер амаль немагчыма. Андантэ кон мота! Нязграбна, як гіганты, зайгралі-затупалі другія інструменты. Так, добра, семпрэ стаката. Ну як вы, адтупацелі? Тады ён пачне кантылену піянісіма, піянісіма і мольта, мольта кантабіле. Ніжэй, яшчэ ніжэй галаву, гэта значыць, вуха на клавішах.

Калі ён пісаў гэтую музыку, то думаў пра Арфея, пра цені і жахі пекла, якія ён адолеў сваёю цудадзейнаю музыкаю, каб забраць сваю Еўрыдыку, і Арфеем. . . быў ён сам. А вось наплываюць ужо цені, і сярод іх - Жазефіна, і яму трэба вярнуць яе з пекла балючай падманлівай разлукі. Ён іграў, маліў яе прыйсці. Але што гэта з Жазефінаю? - А вось і ронда. Півачэ! Півачэ! Няўжо гэта півачэ, Клемент? Перад прэста-стрэта будзе яшчэ кадэнцыя, і там я добра змяшаю музыку Арфея з крокамі гігантаў, піянісіма і фартысіма, кантабіле і семпрэ стаката. Піянісіма - бліскучыя кропелькі - а цяпер сфарцата: трыумфальны покліч.

Што там смешнага? Разышоўшыся, ён не заўважыў, як "кінуў з раяля падсвечнікі. Свечкі гарэлі на падлозе, і падць іх падскочылі двое пеўчых. Нездаволеным жэстам Бетховен загадаў ім трымаць падсвечнікі, стаяць з бакоў ад яго к ганаровыя факельшчыкі. А каб зменшыць непрыемнае ражанне, ён паўторыць кадонцыю яшчэ раз, перасягне яе ройчы ў выдумцы і тэхніцы выканання.

Не, як усё-такі ўмее іграць гэты чалавек! Адзін з хлопчыкаў, як зачараваны, ступіў бліжэй. Сфарцата - яшчэ раз рыумфальны покліч. А хлопчык ляжыць на падлозе, гледачы апладзіруюць і смяюцца.

У другой частцы канцэрта, пасля выканання шостай сімфоніі, князь Лобкавіц папытаўся ў свайго берлінскага госця ера Рэйхарта, які разам з ім сядзеў у ложы:

- Ну, як яно, на вашу думку, гер капельмайстар?

Ведаючы, што Бетховен - штосьці накшталт княжацкага пратэжэ, той ветліва адказаў:

- Так званая пастараль зацягнулася да таго, што пра яе выкананне ў нас у Берліне, дый у Каселі таксама, нават і думаць не прыходзіцца, бо яна зойме часу больш, чым увесь прыдворны канцэрт. Тое ж самае можна сказаць  І пра сімфонію до мінор. У пастаралі, ваша светласць, ведама, можна знайсці некалькі яркіх карцін, нават бліскучых думак і фігур. А пра сімфонію до мінор паўтару, што я ўжо меў ласку адзначыць вышэй: гэта вялікая, добра распрацаваная сімфонія, толькі, на жаль, занадта, занадта доўгая. А фартэпіянны канцэрт? У ім столькі месцаў, тэхнічна цяжкіх для выканання, якія ён яшчэ і сыграў у самым высокім тэмпе. А яго адажыо? Гэты чалавек проста спявае на раялі. Шкада, што здарылася гэтая непрыемнасць са святлом і з хлопчыкам. Неяк недарэчна і прыкра.

Лобкавіц падняўся з месца.

- Пойдзем?

Рэйхарт таксама ўстаў.

- Хадзем. Тут невыносна холадна, дый цяжка, ваша светласць. - Ён зірнуў у змрок залы. - Там застаўся ўсяго. . . адзін слухач. Хто б гэта мог быць?

Лобкавіц перагнуўся цераз бар'ер.

- Гэта рускі граф. Дайце ўспомніць, як яго завуць. Успомніў. Вігоўскі.

- Калі ён вытрывае да канца, то тады геру ван Бетховену прыйдзецца схіляцца ў паклоне ўсяго перад адным слухачом. Ваша светласць, калі б гэта здарылася са мною, я больш не напісаў бы ніводнае ноты.

У навагоднюю ноч, калі нараджаўся 1809 год, ён пачаў запісваць на паперу новы фартэпіянны канцэрт мі-бемоль мажор. Нельга ж з-за няўдалай акадэміі вечна аставацца ў стане летаргіі. Хопіць і васьмі дзён! Пацукі ўсё больш і больш раз'ядалі слых. А што было ў целе: кішкі ці пякучыя змеі?  І зрок таксама слабеў усё больш і больш. Прыкметы старасці? Калі няма яшчэ і сарака гадоў? Але аслеп жа Бах ад перапісвання мноства нот. Няўжо існаваў разбойнік, яшчэ бязлітаснейшы да здароўя, чым мастацтва? Усё гэта яму вядома, аднак ці варта звяртаць на яго ўвагу? Да таго ж у грудзях сядзіць балючы кавалачак свінца, цісне ўсё мацней - Жэром або Вена? Пакуль што ён ніяк не мог прыняць рашэння. Успамінаў Жазефіну, думаў: «Вядома, каб

ён быў прыдворным капельмайстрам, то мог бы адразу ажаніцца, але гэты двор! «Заўтра весялімся зноў!» Няўжо падманутыя рэвалюцыянеры гінулі за тое, каб малодшы брат Напалеона, кароль Вестфаліі, кожны дзень зноў мог «весяліцца»? Бадай што, нават дзеля каханай жанчыны нельга здраджваць сваім перакананням. Але чаго чакаць ад Вены? Ад кайзера Франца? Таго акружалі старыя парыкі, а такія блюзнерскія словы як «воля» і «чалавечнасць» забаранялася гаварыць шэптам нават у бакавых пакоях яго замкаў. Як лепш адказаць на ўсе нявырашаныя пытанні пра жыццё, хваробу, няўдачы і быццё? Тым, што. . . . безумоўна! Трэба, каб у «Гераічнай» з'явілася сястрычка!

Бурная, святочная імправізацыя сола на фартэпіяна! Вось калі ўвесь аркестр абвесціць гордую, непахісную тэму, цалкам прасякнутую радасцю перамогі! А другая якая тэма? Марш! Няспынны марш! Ражкі, ну але, ражкі спяваюць песню пра вечную рэвалюцыю дзеля добрай справы, якая калі-небудзь ды пераможа.  І таму пра яе перамогу можна аб'явіць ужо цяпер. . . »

Справа хутка рухалася наперад. Першая частка, па сваіх памерах нават большая за першую частку «Гераічнай», скончана, асталося зрабіць невялічкія папраўкі, і ён можа пачаць пісаць мелодыю адажыо ун пока моса - струнныя інструменты пад сурдынку! - і ўцяшальнае сі мажор, прыгажосць якога глыбока хвалявала нават яго самога.  І ўсё аздоблена будзе шэрагам трыёляў на піяніне.

Цяжка, ах, як яму цяжка, але нічога не зробіш. Час ішоў, ужо палова лютага, і ўрокі ў эрцгерцага Рудольфа адкладаць больш нельга. Прынц чалавек добры, нічога не скажаш, але шлях да Шонбруна здаваўся Бетховену такім цяжкім, ыццам яму трэба пракопваць сабе дарогу ў нейкай гары. Ён ужо напісаў з паўтузіны лістоў, у якіх прасіў прабачэння і апраўдваўся самымі неверагоднымі прычынамі. Сёння прынц зноў чакаў яго. Бетховен уздыхнуў. Ён «вольны» музыкант, прынамсі, ён зваў сябе так, але калі ж ён папраўдзе стане вольным і яго не будзе гнясці гэты цяжар - дукаты, што прыходзіцца зарабляць на пражытак?

На вуліцы яго адразу ахутала белая віхура. Калі ўвайшоў у палацавы парк, падумалася, што рашэнне, толькі што прынятае ім, вымушае яго бачыць усё гэта, мабыць, апошні раз: і гэтыя два пышныя фантаны з неакрэсленымі ад завірухі абрысамі, і гэты замак, што нагадвае нейкую хімеру не толькі з-за мігцення сняжынак - у ім налічваецца 1441 пакой і зала і 139 кухняў! Усё для аднае, хоць і імператарскае сям'і!

У доўгім калідоры ўгледзеў Марыю Луізу, дачку імператара, пра якую хадзілі дзівосныя чуткі. Гаварылі, што Напалеон збіраўся развесціся, а потым?. . Марыі Антуанеце, таксама дачцэ аўстрыйскага імператара, дваюраднай бабулі гэтай маладой дзяўчыны, прыйшлося ўзысці на гільяціну пасля таго, як французскі народ прызнаў яе вінаватай. На патоках яе крыві выплыў і сам карсіканец. Але цяпер, стаўшы імператарам французаў, ён, кім пагарджалі і каго баяліся, захацеў узяць жонку з Габсбургаў. . . навошта? Што гэта: самазадаволенасць ці. . . здзелка?

Калі зайшоў Бетховен, прынц загарнуў кнігу, якую чытаў перад гэтым.

- Але ж вы вельмі рэдка заходзіце да нас, маэстра. Няўжо вінаваты вучань? Абяцаю, што выпраўлюся.

- Ваша імператарская высокасць. . .

Навошта фармальнасці, калі мы адны? Расказвайце! Пачалі ўжо працаваць над фартэпіянным канцэртам?

- Першая частка закончана. Я з радасцю сыграю вам што-небудзь.

Бетховен падышоў да раяля, сеў, утаропіўся ў клавішы, падумаў крыху і паматаў галавою.

- Без аркестра не тое ўражанне. - Ён зноў устаў. - Вядома, прычына, прынц, не ў гэтым, калі гаварыць шчыра. Я прыйшоў развітацца. Паеду прыдворным капельмайстрам да караля Жэрома.

- Значыцца, усё ж такі едзеце. Вы ўжо напісалі, што згодны?

- Яшчэ не, але. . . што мне астаецца рабіць? - Усхвалявана ён стаў хадзіць узад і ўперад. - Я больш не магу ўтрымацца ў Вене, прынц. Надакучылі несвоечасовыя разлікі з выдаўцамі, падачкі, якія я зарабляю ўрокамі і нават канцэртамі. Гэта як камень на сэрцы. Мастаку не патрэбна раскоша, але трэба ж урэшце калі-небудзь мець нейкі сталы даход, хоць бы і. . . на аднаго мяне. Прынц, я не толькі настаўнік музыкі, не толькі піяніст-віртуоз і кампазітар, я ж яшчэ і чалавек.

Крыху меланхалічныя прынцавы вочы задуменна спыніліся на ім.

- Я ведаю ўсё, маэстра.

- Не скажу, што я ў захапленні ад сваіх планаў на будучае, але прыходзіцца шукаць уцехі ў дэвізе майго будучага гаспадара і караля: «Заўтра будзем весяліцца зноў!»

Праз колькі гадзін у дзверы Бетховенавай кватэры настойліва пастукалі, і побач з канторкаю, за якою штосьці пісаў Бетховен, стаў малады эрцгерцаг Рудольф.

- Не турбуйцеся, калі ласка, маэстра, пішыце сабе. Мабыць, хочаце паведаміць геру Жэрому, што можаце паехаць да яго? - Калі ён абтрасаў з паліто снег, некалькі сняжынак упала на літары, і чарніла расплылося. - О, цяпер жа вам нельга адпраўляць такі ліст! Можна прыбраць з крэсла бутэльку і сесці? - Вочы маладога прынца заблішчалі. - Дайце мне дагаварыць, а потым можаце сабе ісці на мяне з крэслам, як на Ліхноўскага. Цяпер і мы накладваем на вас хатні арышт, розніца толькі ў тым, што ён распаўсюджваецца не на гэты пакой або на якое-небудзь памяшканне ў Шонбруне ці ў Бургу, а на тэрыторыю Аўстрыі. Можаце сабе ездзіць на гастролі, нават і да яго вялікасці караля Жэрома, але жыць наш Людвіг ван Бетховен, якога мы усе ж не хочам аддаць нікому, астанецца ў Аўстрыі, куды вы, гер арыштант, заўсёды павінны варочацца. Пад «намі» я разумею пэўны кансорцыум, да якога апроч мяне належаць яшчэ князі Лобкавіц і Кінскі. Яны адразу ж далі згоду, і я рады не толькі за вас, а і за Лобкавіца таксама, бо ўпершыню гэты марнатравец будзе разумна выдаткоўваць грошы, якія звычайна ён выкідвае на вецер. Разам з маім сціплым укладам гэта, што ні кажы, складзе чатыры тысячы гульдэнаў на год.

- Нічагусенькі не разумею. Прынц уздыхнуў.

- Мая застарэлая памылка - выказваць думкі складана або блытана. А мне ж некалі прыйдзецца стаяць на кафедры ў касцёле і гаварыць казанні! Паспрабую растлумачыць па-новаму, маэстра: ад нас на год вы будзеце атрымліваць чатыры тысячы гульдэнаў, калі згодзіцеся астацца ў Аўстрыі, у любым горадзе. Скажу вам шчыра, што мне больш будзе даспадобы, калі вы выбераце Вену ці пазней горад, дзе я буду архібіскупам. Пачакайце, я яшчэ не скончыў! І грошы гэтыя вы будзеце атрымліваць не за свае кампазіцыі, не за ўрокі музыкі і не за акадэміі, а толькі за сваю прысутнасць, маэстра, і да самай смерці. З герам Банапартам і яго хеўраю мы проста дазволім сабе невялічкі жарт, і нічога болей.

Бетховен усхвалявана выціснуў з сябе:

- Прабачце, ваша імператарская высокасць, што я вось так асмельваюся дакрануцца да вашых рук. Калі я цяпер гавару «імператарская высокасць», то прыдворны этыкет тут ні пры чым. Вы з сапраўды імператарскай высокасцю перайначылі маё жыццё.

- Калі б я мог, то памог бы здзейсніць і яшчэ адно ваша жаданне. Я б з радасцю прызначыў вас імператарскім і каралеўскім прыдворным капельмайстрам, але для гэтага я надта маленькі чалавек. Ну, тытул вам калі-небудзь, можа, яшчэ і нададуць. А цяпер вам, мабыць, трэба сесці і напісаць пісьмо, але не геру Жэрому. Я пакуль пачакаю тут, каб узяць вас потым з сабою ў Шонбрун. Туды прыйдуць таксама Лобкавіц і Кінскі і - што не меней важна - адвакат, якога я запрасіў, каб юрыдычна аформіць нашу дамоўленасць. Дазвольце мне пакуль сесці да фартэпіяна? - І прынц адразу ж пачаў іграць. Бетховен рэзкім энергічным почыркам нешта пісаў. - Маэстра, перадайце прывітанне. Калі б я ўжо быў архібіскуп, то палічыў бы за шчасце абвянчаць вас.

Бетховен раптам рэзка павярнуўся.

- Што там такое, чорт на яго?. . Прабачце, прынц.

Той усміхнуўся.

- Няўжо музыка, якую я ствараю, такая дрэнная?

- Вы. . . ствараеце музыку?

- Марш! Ведаеце, абвешчана аб наборы багемскага ландвера. Як паведамілі ў Вену, уздым неверагодны, а марша, якой-небудзь танцавальнай мелодыі, неабходнай ландверу, ‘ калі ён выступіць супраць карсіканца, пакуль што няма. . .

Дзве тысячы гульдэнаў, першую долю, ён атрымаў адразу. А якія ў «дэкрэце» знойдзены для яго ганаровыя словы! Раптам перад ім развінулася неба і адкрыўся від. . . чаго? Ён усё яшчэ адчуваў нейкую перасцярогу, толькі перад чым? Няўжо ён незадаволены самім сабою? Бо ён, змагар за гуманнасць, рэвалюцыянер, згадзіўся пайсці ў залежнасць ад князёў? Але недасканалы свет вымушае да кампрамісаў; праўда, прынц Рудольф чалавек неблагі. Апроч таго яму цяпер

трэба думаць пра другое. Каб жа толькі пошта не ішла так марудна! Ён напісаў яшчэ ў Бон, у парафію святога Рэмігія, бо для пэўнай цырымоніі патрэбна пасведчанне аб хрышчэнні. Атрымаўшы гэты невялічкі, але важны дакумент, ён зможа паехаць на гастролі ў Англію, якая змагалася за сваю свабоду, у Іспанію, дзе зноў і зноў выбухала супраціўленне супраць карсіканца. Аднак яму нельга надта доўга марудзіць з паездкаю, з-за слыху, які ўсё больш і больш слабеў. Магчыма, яму яшчэ не позна выступаць з фартэпіяннымі канцэртамі, а па дарозе ў Іспанію ён заверне ў Швейцарыю, дзе з сястрою была Жазефіна, спрабуючы падабраць у Песталоці патрэбны метад выхавання сваіх дзяцей.

Гуллівым крокам увайшоў барон фон Цмескаль, левай, правай, левай, правай, адбіваючы такт бамбукавым стэкам, быццам тамбурмажор, і нешта выкрыкваючы.

- Гер граф, вы, мабыць, сёння раніцаю ўжо пабывалі ў «Лебедзі»? Ці здарылася што-небудзь?

- Шмат чаго! Пакуль ваша правасхадзіцельства марнавалі час на фартэпіяна ці над непапулярнымі кампазіцыямі, цірольцы на чале з карчмаром Андрэасам Гоферам падняліся супраць французаў і іх саюзнікаў баварцаў і выгналі іх з краіны. А эрцгерцаг Карл увайшоў у Баварыю і стаў раздаваць лістоўкі: «Народы Германіі! Прабіў час вызвалення! Абвяшчае яго вам Аўстрыя!» Вядома, эрцгерцаг Карл нараздае баварцам і яшчэ чаго-небудзь другога, калі сэнс лістовак да іх не дойдзе. А вы яго разумееце, ваша правасхадзіцельства?

Цмескаль з пафасам прадэкламаваў:

Абраны сэрцам і крывёю
Я ратаваць цябе, радзіма.
І час прабіў! Ты вольна, вольна!
Парвём твае мы ланцугі!

Ён весела растлумачыў:

- Гэта нядаўна напісаў Фрыдрых Шлегель. Багемскі ландвер вучыцца маршыраваць, і не толькі багемскі ландвер!

- А імператар Франц?

- Народны герой цяпер - эрцгерцаг Карл. - І ён, адбіваючы такт, заспяваў далей.

Бетховен скрывіў твар.

- Фальшыва спяваеце. Узялі до мажор, а марш напісаны ў фа мажор. Апошняе месца абжора-граф перайначваеце так, што нават цяжка пазнаць музыку.

- Я перайначваю? Дарагі мой Бетховен, дазвольце вам сказаць, што я ўвабраў гэты марш з матчыным малаком. Калі я больш не хацеў ссаць, мама ціхенька напявала мне некалькі яго тактаў, што адразу наганяла апетыт, я зноў накідваўся на «ворага». Вось чаму я добра ведаю кожны яго гук.

- Гэтага марша? А хто яго кампазітар?

- Адкуль я ведаю? Гэта стары марш, а такія маршы ўзнікаюць неяк самі сабою, без кампазітараў. Можаце папытацца ў кожнага венца. Яго цяпер спяваюць і насвістваюць усе. Хто кампазітар? Зусім невядомы. Даўно прапаў.

Бетховен усміхнуўся.

- Для кампазітара гэта, мабыць, найлепшая пахвала, якую толькі можна прыдумаць. Марш напісаны чатыры тыдні таму назад, і адразу ўсім здаецца, што ён існуе ўвесь час, што ён даўно і добра ўсім вядомы, што кожны яго ведае або гаворыць, што ведаў яго заўсёды. А я, кампазітар, ужо забыты.

- Кажаш, што напісаў яго ты?

- Не толькі кажу, а я папраўдзе напісаў. Напісаў зусім нядаўна, калі ў мяне быў эрцгерцаг Рудольф. І выйшла гэта зусім забаўна. Будучы гер архібіскуп неяк дзіўна давёў да мяне, што яму трэба. Ён сеў за раяль і з усяе сілы лупіў па ім, сцвяржаючы, што хоча напісаць марш для багемскага ландвера. Ну, я ўзяў і зразу ж надрапаў сёе-тое. Калі мы ехалі ў Шонбрун, каб падпісаць дагавор, гэты марш, прысвечаны прынцу Антону, быў ужо ў прынцавых руках.

Пошта з важным дакументам, які яму патрэбен для падарожжа, усё не прыходзіла, а ўжо амаль палова мая. Калі ж аднаго разу ўвечары Бетховен зноў паспяшаўся ў кантору, каб папытацца яшчэ раз, паштмайстар з вялікім здзіўленнем паглядзеў на яго, быццам ён прыляцеў з

другой планеты.

- Нават мышцы нельга вышмыгнуць з горада; дай бог каб і катам не ўдалося знайсці да нас дарогу. Мы акружаны з усіх бакоў.

Паволі вяртаўся ён на кватэру, якую наймаў на Вальфігл. гасэ. Вуліцы былі бязлюдныя, быццам падмеценыя, а калі і сустракаліся прахожыя або знаёмыя, то яны спяшаліся хутчэй папасці дадому. З’ехалі ўсе: і прынц Рудольф разам з імператарскаю сям’ёю, і Кінскі, і Лобкавіц, карацей, усе, хто прыходзіў яму ў галаву. Але не, у Вене аставаўся яшчэ Стэфан фон Бройнінг, якому цяпер усё было роўна, бо пасля кароткага шлюбу памерла яго ўлюбёная жонка.

Што гэта, музыка? Гучыць яго марш! Зноў маршыруе ландвер, ідзе заменьваць кагосьці ці капаць акопы. Эрцгерцаг Максіміліян рыхтаваўся абараняць горад ад войск Лана і Бертрана. З сваім зусім малым для гэтага войскам шаснаццаццю тысячамі салдат лінейных войскаў і ландвера, тысячаю чалавек студэнтаў і грамадзянскай міліцыі? Пад ружжо паставілі нават мастакоў і музыкантаў, якія, можа, і ўмелі карыстацца пэндзлікам і трамбонам, але не мушкетам. І тым не менш нейкая надзея існавала. Калі б Вена пратрымалася толькі дзесяць дзён, мог бы падаспець з галоўным войскам эрцгерцаг Карл, народны герой. Няўжо праўда, што «парыковы імператар» зайздросціў свайму брату?

Дома Бетховен падышоў да акна і ад нечаканасці аж замаргаў вачыма. Не, памылкі не было, французы ўжо тут. Бо вунь там бясспрэчна французы, як і аўстрыйскія салдаты, яны раптам заварушыліся накшталт пчол ці кратоў. У горадзе былі пабудаваны туры і барыкады, і каля іх цяпер французы разбурылі будынак. Навошта? Блішчалі мундзіры, паблісквалі кіркі, і ў святле сонца паднімаўся ўгору пыл. Сцямнела, а там унізе пры паходнях не пераставалі працаваць. Нечага і думаць пра сон. Пісаць музыку? Дастаў пачатак развітальнай санаты і адзначыў на ёй дзень, калі ад’ехаў эрцгерцаг Рудольф з імператарскай сям’ёю. Саната будзе складацца з трох частак: з развітання, разлукі і вяртання.

Няўжо страляюць? Не, самае большае, што ён мог рабіць сёння ўночы - гэта працаваць над падручнікам музыкі, які паабяцаў напісаць прынцу. Матэрыял ён браў у Фукса, Кірнбергера, Цюрка і Філіпа Эмануэля Баха і з усіх тых вучоных кніжак, якімі раней мучылі яго самога. Шмат чаго ўстарэла, і прыходзілася перапрацоўваць.

Неяк рэзка ўспыхнула першае святло новага дня. Не, гэта ж. . .  І тут загуло і загрымела, затрашчала і пасыпалася, закалаціўся дом. Хістаючыся, ён дабраўся да акна і ўбачыў чырванаватую ўспышку з распаленых жэрлаў гаўбіц, якія стралялі цераз пралом.

Хтосьці рыўком адчыніў дзверы і закрычаў:

- Хутчэй у падвал! Мы на лініі агню, і гранаты могуць заляцець да вас у акно!

Што рабіць з нотамі, манускрыптамі? Ахапіла паніка. А тут новы залп: гул, грукат, пападанне і трэск! Што будзе з нотамі, іх жа нельга ўзяць з сабою ў падвал, бо на гэта няма часу? Але нейкі нутраны голас гаварыў яму, што трэба выратаваць яшчэ нешта, больш каштоўнае.

Дом здрыгануўся, і дождж асколкаў з разбітага аконнага шкла сыпнуў у пакой. На лесвічнай пляцоўцы прыйшлося спыніцца, каб сарыентавацца. З аднаго боку ад сябе ўбачыў цень, які пакідала на сцяне левая рука са свечкаю, а што ў яго ў правай? Прыгледзеўся здзіўлена. Падушка.  І трыццаць гадоў таму назад, калі гарэў бонскі замак, людзі таксама бралі з дому самыя неверагодныя, нічога не вартыя рэчы.

У падвалах пахла затхласцю, было поўным-поўна будаўнічага пылу. На скрынках і кучах дроў моўчкі сядзелі людзі, сагнуўшыся, пакорныя лёсу. Дзеткі, апранутыя збольшага, паклалі свае галоўкі ў матчыны прыполы, і іх маленькія цельцы ўздрыгвалі. Супакойваючы, мацяркі гладзілі іх па валасах, хоць у саміх твары таксама перакошаны былі страхам.

Як жа паніка, страх за частачку жыцця затуманьваюць чалавеку галаву! Яму прыйшоў на памяць верш, што мучыў яго яшчэ ў Боне. Усе ранейшыя спробы перакласці верш на музыку канчаліся няўдачай, а вось цяпер ён зноў круціцца ў галаве, у той час як барабанныя ўдары залпаў грымяць у горадзе і людзі курчацца каля муроў на вуліцы ў ранішнім святле, якое нарэшце прыйшло ў горад. «Радасць, полымя нябёсаў!. . »

Чаму гэта менавіта цяпер прыйшло яму на памяць?. . Можа, ён звар’яцеў?

«Тры творы (Фідэліо, Хрыстос на Аліўкавай гары, меса до мажор) ужо адпраўлены, і мне, уласна, хацелася б, каб ганарар за гэтыя тры творы вы пераявлі мне раней, чым яны дойдуць да Лейпцыга. А калі б вы загадалі яшчэ выплаціць яго тут, то гэта было б самае лепшае,

бо ў нас тут з грашыма гора, - ён падкрэсліў гэта тоўстай лініяй, - грошай нам патрэбна ўдвая больш, чым звычайна - праклятая вайна. . . »

Усё стала надта няпэўным. Дый наогул ці дойдуць да Лейпцыга, да музычнага выдавецтва Брэйткопф і Гертэль гэтыя тры творы і пісьмо? Ну, а што, калі ў гэтыя часы нельга ні друкаваць, ні гравіраваць? «Грошай нам патрэбна ўдвая больш, чым звычайна. . . » Праклятая вайна магла б ісці хутчэй, чым напісанне гэтага аднаго сказа. Цяпер грошай трэба ўжо ўтрая больш, чым звычайна, а ці ж відаць канец вайне?

Заваяванай Вене прыйшлося выплаціць дзесяць мільёнаў гульдэнаў, потым яшчэ два мільёны франкаў, даставіць семдзесят тысяч локцяў палатна і дзвесце тысяч локцяў сукна. На сорак тысяч чалавек трэба было як з-пад зямлі дастаць пасцельных прылад, коням спатрэбілася семдзесят тысяч гарнцаў аўса, дый смага, асабліва ў паноў афіцэраў, была вялікая, на дзесяць тысяч вёдзер віна! Пасля таго як выціснулі апошнюю саломінку і сянінку, на кожны дом наклалі прымусовую пазыку, і ў яе аплаце мусілі ўдзельнічаць, вядома, і кватаранты. Вайна навучыла злачынным фокусам і не адных толькі пераможцаў. Ганьба гэтым нягоднікам з уласнага народа, якія аказаліся яшчэ больш подлыя, жорсткія і бессаромныя, чым самі ворагі! Свае спекулявалі хлебам, над якім сёй-той, - хто збываў яго за неймаверную цану, - меў звычку нават хрысціцца. Раптам знікла апошняя манета, не толькі залатая і сярэбраная, але і ўсякая медная. Што б гэта значыла? Няўжо папяровыя грошы будуць каштаваць яшчэ меней, чым медны крэйцэр?

Якое цудоўнае слова - Асперн! Там добра паскублі арлоў карсіканца, упершыню разбітага эрцгерцагам Карлам: не паспелі арлы і вокам маргнуць, як іх пер’е - салдатаў, асколкаў арміі, - занесла на дунайскі востраў Лобаў. Толькі вада аддзяляла тых, што трапілі ў пастку, французскіх пацукоў ад знішчэння. Але чаму імператар Франц не даў загаду перайсці ў наступ? Дзіўна. Няўжо Цмескаль мае рацыю, гаворачы, што ён нават забараніў нападаць? Чаму? Зайздросціць брату? Ці паслухаўся парады парыкоў з свайго акружэння? Ужо капітуляцыя Вены 13 мая 1809 года адбылася з незвычайнай паспешнасцю.

Настаў ліпень, і зноў на венскіх вуліцах смяяліся французскія афіцэры, прагульваліся самаўпэўнена, ганарыста і насмешліва, усім сваім выглядам паказваючы, што пачынаць нешта ўжо позна. Што пачынаць? Новы Ваграм, жахлівы Ваграм і тым самым усё іншае! Бо 6 ліпеня там пацярпеў паражэнне эрцгерцаг Карл, у якога былі звязаны рукі. Ды што там пацярпеў паражэнне? Аўстрыйцы былі проста знішчаны. Перамір’е ў Знаіме азначала развітанне з усімі надзеямі. Напалеон зноў уехаў у Шонбрун, на гэты раз гаспадаром Еўропы. Але больш за ўсё не давалася розуму жахлівая легенда, пра якую сцвярджалі, што ў ёй ёсць праўда: пасля бітвы пад Ваграмам імператар Франц, які ўжо 6 жніўаЯ 1806 года злажыў з сябе тытул імператара, паціраў рукі. «Ці ж не гаварыў я, што ўсё так скончыцца? Цяпер усе мы спакойна можам вярнуцца дадому».

У сярэдзіне жніўня, у Бетховенавай кухні, запоўненай клубамі дыму, як прывід, раптам вырас дырэктар тэатра Гартль.

- Бетховен, вы, мабыць, інсцэніруеце кухню вядзьмарак з «Макбета»? Што гэта там смярдзіць?

Бетховен, калупаючыся ў патэльні, адказаў з абурэннем:

- Гартль, вы не гурман, а невук. Я смажу далікатэс, конскую пячонку, з каня, які здох у французаў. У Цмескаля, гэтага гарэзы, які ўсюды пралезе, ёсць сувязі нават у скуралупні. Між іншым, не скажаце, колькі трэба смажыць пячонку з каніны? Гадзіну? Дзве? Я смажу ўжо з паўгадзіны, але яна ўсё больш цвярдзее. Што прымусіла вас выбрацца ў дарогу? Толькі сімпатыя да мяне?

- Мілы, дарагі Людвіг ван Бетховен. . .

Той толькі адмахнуўся.

- Я ведаю песню, якая пачынаецца з гэтай ліслівай кантылены. Ну, кажыце, дзе мне іграць бясплатна ці дзе дырыжыраваць? Ці што ад мяне там патрэбна? Чаму вы ніколі не звяртаецеся да багацеяў?

- Вы ж ведаеце: хутчэй вярблюд пралезе ў іголчына вушка. . .

- Чаму вы не цытуеце далей? Не гаворыце пра неба, якім суцешваюць бедных, бо на зямлі гэтага неба ў іх няма? Ну, кажыце, што там такое?

- Мова пра акадэмію, прызначаную на другое верасня.

- Акадэмію? Цяпер?. .

- Я хачу стварыць фонд для бедных артыстаў, удоў, сірот і інвалідаў нашага Венскага тэатра. Бетховен, цяпер тут шмат французаў з грашыма. . .

- . . . якія яны нарабавалі! Меркаванне слушнае.

- Можа, нават і ў самога імператара ўдасца дамагчыся літасцівай згоды прысутнічаць на канцэрце. . . у ложы?. .

Бетховенавы вочы звузіліся, зрабіліся шэрымі, халоднымі і злымі.

- Думка неблагая, Гартль. А як наконт праграмы?

- Усё ў вашай волі.

- Праўда? Тады няхай прэлюдыяй будзе уверцюра да «Карыялана», Колінавай драмы пра здрадніка. А ў заключэнне возьмем пятую сімфонію, вельмі павучальную. А галоўнай часткай, P Iece de res Istance, няхай будзе «Гераічная». Што ж, я згодзен.

- Вялікі дзякуй, Бетховен. Я ведаў, што вы заўсёды гатовы памагчы бедным.

Маркіз дэ Трэмон перадаў яго вялікасці запрашэнне, але ўвечары перад канцэртам імператару прыйшлося паехаць у Парыж. Французы пайшлі ў тэатр «Бург», у якім французская трупа давала п’есы і оперы, і нічога незвычайнага ў гэтым не было. Толькі па гэтай логіцы і немцам трэба было б наведваць нямецкія п’есы, нямецкія оперы і канцэрты, але ўсё было іначай. Немцы ахвотней ішлі ў Гофбург да французаў.

Гэтая чэрнь, нікчэмная ва ўсіх адносінах, як і сама эпоха!  І вось яму прыйшлося дырыжыраваць на сваёй акадэміі перад амаль пустою залаю. Праз некалькі дзён ён стаяў перад кніжнаю крамаю і глядзеў на вітрыну. Пракляты венскі зброд! Ніводнай нямецкай кніжкі ў акне. Ці ж не было Гётэ? Ці ж не жылі Шылер, Лесінг, Імануіл Кант?

Яму захацелася пагартаць газеты, і ён зазірнуў у кавярню. Паны французскія афіцэры, ведама, курылі добры англійскі тытунь, які простаму смертнаму забаронены. Закон выдалі - выконваюць яго няхай іншыя.  І тут усё французскае. На кожнай газетнай шанцы красуецца напалеонаўскі арол, французскія афіцэры важна прагульваюцца паміж сталамі, і ўвесь час толькі і чуецца: «L’empereur! L’empereur!» Толькі потым, ужо зрабіўшы гэта, Бетховен усведаміў, што ён махае кулаком і крычыць на нейкага афіцэра: «L’empereur! L’empereur! Калі б я столькі разумеў у стратэгіі, як у кантрапункце, я вашаму імператару задаў бы задачку! Не мінуць бы яму паражэння!»

Французы, усхвалявана перабіваючы адзін аднаго, загудзелі як рой.

- Што ён сказаў?

- Зняважыў імператара?

Адзін з афіцэраў пачаў іх супакойваць:

- Гэта ж Бетховен, звар’яцелы музыкант! -  І падняў келіх з шампанскім. - Прапаную тост за перамогу вашага. . . кантрапункта над гарматамі нашага імператара, гаспадара Еўропы!

Усе зарагаталі, а Бетховен, шалеючы ад гневу, зароў:

- Прымаю выклік! Што такое - гаспадар Еўропы?! Гаспадар. . . свету - гэта значна больш! -  І кінуўся на вуліцу.

Час гэты празвалі «смяротным мірам», але смяротны ён быў, відаць, толькі для дабра, а ўсё злое і агіднае, наадварот, лезла з кожнае шчыліны.

На што ён разлічваў, складаючы планы са сваім вучнем, прынцам эрцгерцагам Рудольфам? Выканаць у Шонбруне сёмую і восьмую сімфоніі, над якімі працаваў адначасова? Нічога з гэтага не выйшла. Адно інтрыгі і гучныя словы! Імператар Франц прадаў Напалеону сваю дачку Марыю Луізу, здрадзіў ён і цірольцам на чале з героем, карчмаром Андрэасам Гоферам! Прускі кароль пакінуў на волю лёсу Шыля і яго афіцэраў.

Бетховенаў слых слабеў усё больш і больш. Бывала, ён лепшаў, разгараючыся, як агонь, а потым полымя слыху меншала, рабілася слабейшым, чым дагэтуль. Ну добра, тут змяніць нічога нельга, але чорт залез, варушыўся і ў жываце. Не памаглі прываркі з адвару кары ваўчаягады, а колькі разоў яму за вушы і на жывот клалі п’явак. Каб потым сказаць: « І п’яўкі больш не памагаюць, гер ван Бетховен. Нічога не зробіш. Бо вораг у вас - сам барэй!»

Паны дактары замест слова «барэй» маглі б сказаць і «паўночны вецер», але, ужываючы замежныя словы, за лячэнне можна патрабаваць большыя грошы. Гер Мальфаці, што лячыў яго пасля смерці доктара Шміда, і так браў добрый ганарары.

Не адставалі ад яго і другія п’яўкі, стварэнні яшчэ больш агідныя, чым медыцынскія п’яўкі. Для «Агульнай музычнай газеты» ў Лейпцыгу і яе венскіх карэспандэнтаў усё засталося

па-ранейшаму, быццам і не было «Пастаральнай» сімфоніі. А тут яшчэ гэтая гісторыя з музыкаю да «Эгманта»! Венскаму тэатру для паказу дзвюх п’ес - Гётэвага «Эгманта» і Шылеравага «Вільгельма Тэля» - патрэбна была музыка: уверцюры, антракты і песні. Ён, Бетховен, папрасіў даць яму «Тэля», але, вядома, не атрымаў, бо адначасна з ім на гэты твор прэтэндаваў і такі вялікі кампазітар, як гер Гіравец, - магчыма, толькі ад злосці ці ад зайздрасці, а можа, і па тых матывах, па якіх камеркампазітар і прыдворны капельмайстар Сальеры выдаў у свой час распараджэнне: хто з музыкантаў хоць раз сыграе для Бетховена, будзе неадкладна звольнены з аркестра гера Сальеры!

Лепей будзе, калі ён на ўсё дасць адказ у музыцы да «Эгманта», а яе выкананне мелася адбыцца ўжо ў чэрвені. Прыйшлося ўкладвацца ў адпаведны тэрмін. Уверцюра, праўда, напісана, але ў антрактах яшчэ сяго-таго не хапала, ды і песенька Клерхен «У радасці, у горы», на яго думку, яшчэ не вельмі простая.

Увайшла дзяўчынка, якая сяды-тады прыносіла яму пошту.

- Можа, ты нясеш мне нешта добрае? - Яна прынесла два пісьмы, і ён пачаў разглядаць іх. - Глядзі ты, адно з Фрэйбурга ў Брэйсгаў - ад добрага сябрука, а другое з Кобленца. Дзякуй.

Дзяўчынка не пайшла, асталася стаяць на месцы, трымаючы ў роце касу.

- Бедненькая, ты так прагаладалася? Аж сваю касу з’есці хочаш? - Бетховен засмяяўся. Ён любіў дзяцей, бо ў іх не было яшчэ фальшу. Першае пісьмо адкрыў сцізорыкам. Але вочы дзяўчынкі, як зачараваныя, глядзелі толькі ў адно месца: на пярэстую фарфоравую банбаньерку на шафе. - Хочацца цукерак? Га? - У яго для дзяцей заўсёды было штосьці прызапашана, але дзеці, відаць, смела ішлі да яго не толькі з-за цукерак.

Шындлер, які практыкаваў у Кобленцы, нарэшце прыслаў доўгачаканае пасведчанне. Прачытаўшы яго, Бетховен здзіўлена паматаў галавою. Няўжо яго хрысцілі 17 снежня 1770 года? Вось гэта дык нечаканасць! Значыцца, калісьці бацька, выдаючы яго за «вундэркінда», паменшыў яму век на два гады. А ён сам лічыў сябе на два гады старэйшым. Ён, мабыць, проста пераблытаў свой дзень нараджэння з днём нараджэння старэйшага брацiка Людвіга Марыі, памершага ўжо на шосты дзень пасля нараджэння. Здзіўляцца тут не прыходзілася, бо метрыкі даўно прапалі і ён не ведаў куды.

А што піша Глейхенштэйн, гэтая верная душа? Няўжо ён так і не збіраецца вярнуцца сюды з Фрэйбурга, ці дзе ён там бадзяецца? Яго пісьмо Бетховен прачытаў двойчы, а потым паволі апусціў руку з пісьмом. Вось дзе, значыцца, адказ на пытанне. У сваім апошнім пісьме Глейхенштэйну Бетховен пісаў: «. . . гонар мой ужо скарыўся, Ігнац. . . ты, мабыць, не ўсё мне пішаш. . . ты, пэўна, утойваеш ад мяне нешта. . . хочаш злітовацца нада мною, а прыносіш мне больш гора, чым калі б я ведаў усё да канца. . . »

Не, шчасця яму не дадзена. А можа, яно будзе толькі ў свеце, які ён мусіць ствараць сабе з самога сябе і дабірацца да якога ён зможа толькі праз нагрувашчанне перашкод, праз паўглухату, дзіклівасць, адзіноту, нянавісць і п’яўкі. Вось чаму ён ходзіць у тумане і гадамі шукае ў ім Жазефіну - графіню Жазефіну Брунсвік, удаву графіню Дэйм, а цяпер у новым шлюбе баранесу фон Штакельберг. Вядома, бедны музыкант меней варты, чым барон фон Штакельберг, хоць той, пісаў Глейхенштэйн, самы звычайны ханжа. Але нічога не зробіш: дваранства ёсць дваранства, а як ты стаў дваранінам, потым не мела ніякага значэння. Возьмем, напрыклад, графа Фрыза - у таго бацькі былі латочнікі. А граф Разумоўскі, рускі пасланнік? Імператрыца Кацярына I I, якую неадольна цягнула да мужчын, узяла да сябе ў ложак у прамежку паміж Салтыковым, Панятоўскім, Пацёмкіным, Арловым і іншымі гвардзейцамі яшчэ і двух братоў Разумоўскіх. І яны так выдатна паказалі сябе, што яе вялікасць палічыла іх вартымі дваранства. Але дваранства ёсць дваранства!

Ён ускочыў на ногі і хацеў парваць «Развітальную» санату, як зрабіў калісьці з тытульным лістом «Гераічнай» сімфоніі. Не! Гэта дзяцінства. Саната гатовая, хоць брала злосць, што завецца яна па-французску «Les ad Ieux». Бо ўжо ўвайшло ў прывычку поўзаць перад усім французскім. Ён прысвяціў яе эрцгерцагу Рудольфу. У санаце ён так стараўся паказаць радасць сустрэчы, і вось гэты боль сядзіць цяпер у ім занадта глыбока, каб парваць яго на кавалкі. Што ж застаецца яму рабіць? У яго цяпер няма нічога, акрамя музыкі і чалавечнасці. Чалавечнасці? Ці ж не здраджваў і ён калі-нікалі яе сцягу? Ах, ён таксама ўсяго толькі звычайны чалавек. . .

Трэба ўмець плакаць, каб глыбокі боль не авалодаў душою. Слёзы - адзіны сродак

супраць гора. Але цяпер ён знайшоў слёзы, якія былі несапраўдныя і таму не расслаблялі, як адчай.

Чаго яму раптам прыйшла ў галаву гэтая мелодыя? Ён напісаў музыку да Гётэвага «Эгманта», і на памяць, калі ён толькі правільна ўспомніў, усплылі яго словы:

Душа чалавека
Падобна на ваду:
З неба прыходзіць,
На неба ўздымаецца,
І зноў уніз
На зямлю ёй трэба.
Вечная змена. . .

Ён запаліў адну свечку і так паставіў вакол яе кніжкі, што слабае святло падала толькі на нотны ліст, на якім ён збіраўся цяпер пісаць. Бо гэта датычыла толькі яго аднаго.

Алегра мадэрата. . . Соль мажор. . . значыцца, не поўны змрок, зараз чуваць гук сі, трэль на сі мажор - быццам самаадрачэнне, якое ўзмахвае нейкім покрывам, спрабуе суцешыць. М І. . . рэ. . . с І. . ? Добра, а якому інструменту даручыць гэтую партыю? Піяніна? Не, яно занадта. . . зямное. Бядома, вядома, толькі скрыпцы.

Яго дзевятая, Крэйцэрава, саната была яшчэ зусім не тая. Чацверыком, шасцерыком - з конскіх храп ляцела пена. А ў гэтай што ёсць? Як жа збяднеў ён за гэты час, а каб напісаць яе, спатрэбілася намаганняў больш, чым на ўсю Крэйцэраву, яшчэ болей, чым на выклік лёсу - ці не таму, што гэта было самаадрачэнне? Сапраўднаю развітальнаю санатаю стала толькі гэтая.

«S Impl Ice» напісаў ён на нотах, у якіх гучала толькі адна просьба: мая неўміручая каханка. Не, я не абвінавачваю. Наадварот: усяго табе добрага і вялікі дзякуй!

Адажыо яшчэ больш змрочнае, прыйшлося ўвесці скерца; для трыо, можа, падыдзе танец? Але гора не танцуе, і ўсё ж ён святкаваў вяселле разам з горам, з самаадрачэннем. Пока алегрэта! Цяпер нават з'явілася ўпэўненасць, надзея, але на што? Усё як вада, якая падае з неба і потым падымаецца на неба.

Дагарэла і гэтая свечка, але запальваць новую няма патрэбы. Пачынала днець. У галаву раптам учаўплася нейкая абсурдная думка: пахаванне ішло к канцу, на толькі што накіданым грудку папраўлялі кветкі, і ваенны аркестр збіраўся якраз варочацца ў казарму. У гэтакі момант людзі звычайна стараюцца быць бадзёрымі, на ўсю волю даюць развявацца сцягам жыццярадаснасці! Не, вось гэтае месца яму не падабаецца. Лепш, мабыць, яшчэ раз паўтарыць самаадрачэнне, яшчэ раз сказаць: «Я кахаў цябе, і я заўсёды буду кахаць цябе!» - Пока адажыо. Зноў насталі будні, зноў круціліся калёсікі машыны. Прэста. . .

Карл Чэрны, тым часам ужо юнак, убачыў манускрыпт, на ніжніх нотах якога яшчэ прасыхаў пясок.

- Маэстра, што гэта такое?

Бетховен ускіпеў:

- Марш да раяля! - Загарнуўшы ноты, ён пачаў бегаць узад і ўперад і пакрысе супакоіўся. - Скажы мне нарэшце. . . бо мне ўсё цяжэй зразумець, чаму ты ніяк не асмелішся падняцца на канцэртныя падмосткі, каб паказаць публіцы, на што ты здатны. І тут мне прыходзіць у галаву, што на днях у лейпцыгскім «Гевандхаўзе» будуць выконваць мой фартэпіянны канцэрт мі-бемоль мажор. Можа, ужо і выканалі. А што рабіць, калі яго захочуць паслухаць і венцы? Хто б тут яго сыграў?

Карл зразумеў: маэстра, з-за глухаты, болей не адважваўся выступаць як піяніст на канцэрце.

- Можа, гер Гумель, маэстра?

- Фартэпіянны папа? Не, ён сядзіць у сваім Ватыкане і не заўважае, што да Рыма тым часам ужо знойдзены новыя шляхі. Вёльфль? Вёльфль іграе ў стылі Моцарта, а пры ўсёй маёй павазе да Моцарта мне ўсё ж хацелася б пакінуць у сваіх творах сёе-тое з майго, хоць і невялічкага, розуму. Можа, ты ведаеш яшчэ каго-небудзь?

«Сапраўднае дзіця! Вядома, ён спадзяваўся, што могуць успомніць і пра яго, і вось з гора амаль страціў розум. Ну якое ў гэтага хлапца ўяўленне аб горы! Ён нават не заўважыў, што выбар з самага пачатку выпаў на яго. . . »

Бетховен адшукаў ноты фартэпіяннага канцэрта, пагартаў іх.

- Вядома ж, і па тэхніцы выканання канцэрт даволі цяжкі. Хто ж?. . Хто ж?. . - Ён палажыў лісты на пульт перад Карлам. - Ну вось што: сыграеш яго ты.

- Я, маэстра? Але ж, мабыць, не на канцэрце?

- Вось іменна на канцэрце, калі з гэтага што-небудзь выйдзе. Спадзяюся, што ты хоць крышку навучыўся ў мяне, ці, можа, я дарэмна марнаваў з табою час? Пачынай!

Карл! Чэрны ўзяў першы акорд так, што, здавалася, ён учапіўся за ноты кіпцюрамі, а тыя не хацелі выпускаць таго, што ў іх папала. Бетховен засмяяўся.

- Пастой, хлопец, навошта спяшацца! Канцэрта ў цябе ўсё роўна ніхто не адбярэ, таму сядзь на месца як належыць. Усё павінна чакаць цябе. Помні: першая частка - гераічная песня, песня пра перамогу вечнай рэвалюцыі, аб справядлівасці, дабраце і прыгажосці.  І мы, мастакі, менавіта мастакі, павінны заўсёды абвяшчаць гэта. А што датычыць астатняга, то па кампазіцыйнай пабудове канцэрт зноў-такі крышку рэвалюцыйны. Падумай толькі: ты пачынаеш з імправізацыі, праўда, утаймаванай маімі нотамі. Бо я супраць, каб гора-піяністы выдумлялі імправізацыі ці кадэнцыі да майго фартэпіяннага канцэрта. Яшчэ раз спачатку. Добра, добра але хай яно гучыць і шуміць яшчэ больш святочна. Фантанамі, вадаспадамі! Няхай яго пырскі ўзлятаюць угору па ўсплесках ад кароткіх удараў аркестра! Вельмі добра, Карл! Вось так, а зараз да цябе з гераічнаю тэмаю падступае аркестр!

Убег задыханы фон Цмескаль.

- У лейпцыгскім «Гевандхаўзе». . . Ёган Шнейдэр выканаў фартэпіянны канцэрт мі-бемоль мажор!

- Хто такі Ёган Шнейдэр?

- Нават «Агульная музычная газета» вымушана прызнаць, - тут Цмескаль выцягнуў з кішэні газету і прачытаў: - «Гэты канцэрт прывёў шматлікіх слухачоў у такое захапленне, што яны проста не маглі задаволіцца звычайным выказаннем удзячнасці і радасці». - Цмескаль сам паціснуў сабе руку. - Вось і поспех! Віншую! Віншую! Усё дзякуючы маім гусіным пёрам, якія я калісьці асабліва тонка завастрыў геру кампазітару. Калі ж мы пачуем гэты пераможны канцэрт у нас у Вене?

- Калі? Некалькі разоў я ўжо прапаноўваў яго, але дарэмна. Тым не менні, Карл, няхай усё ідзе так, як мы дамовіліся. Гер Ёган Шнейдэр супраць. . . майго любага - а яно дурнічка, сапраўды так - вучня Карла. Чэрны.

Цмескаль памахаў перад сабою газетаю.

- Пазней я прынясу яе зноў. А цяпер мне трэба бегчы. Куды? На вуліцу, да Фрыза, да Разумоўскага, да Лобкавіца, каб з дапамогаю газеты пераканаць іх у тым, што мае гусіныя пёры самыя лепшыя. - Ён грукнуў дзвярыма, але адразу ж адчыніў іх зноў, прасунуўшы ў пакой свой круглы твар. - Няшчасце рэдка прыходзіць адно. Паштмайстар перадае, што для гера ван Бетховена з Англіі прыйшоў вялізны карабель з грашыма.

- Ад Колар-Клеменці? Дзвесце фунтаў, якіх я так доўга чакаў і амаль страціў надзею атрымаць іх? Тады ў гэты час безграшоўя, падзення курсу на біржы я сапраўдны набоб. - Бетховен матнуў галавою. - Здаецца, шчасце раптам пачало само шукаць мяне. Можа, у гэтым выпадку трэба чакаць новага ўдару лёсу?

Ён аддаў у тэатр музыку да «Эгманта», ды і сёмая сімфонія амаль гатовая. Працівілася яшчэ толькі восьмая, і не дзіва! Цяпер к адкрыццю новага тэатра трэба напісаць «венгерскім вусам» у Пешце музыку на пошлы тэкст гера фон Кацэбу пад назваю «Руіны Афінаў». Ужо тое, што ён згадзіўся ўзяць гэты заказ, не сведчыла аб цвёрдасці яго характеру, але ж характар не заўсёды можна паказваць. Сябры, дзякуючы якім ён атрымаў гэты заказ, зычылі яму дабра, а гер фон Кацэбу не толькі бессаромны вынаходца «сола на паштовым ражку» ў рэцэнзіі на трэцюю уверцюру да «Леаноры», а як драматург карыстаўся нават большым поспехам, чым Гётэ і Шылер разам узятыя.

І вось цяпер ён, Бетховен, працуе над музыкаю да Гётэвага верша «Міньён - Ты знаеш край?» Ён памяняў парадак акордаў і не ўтрымаўся, каб крышку не паімправізаваць.

Раптам жаночыя рукі леглі яму на вочы. Рукі былі халодныя і разам з тым гаючыя, суцешліва радасныя - усё гэта рабіла іх таямнічымі. . . Няўжо Жазефіна? Не, яе блізкасць не такая.

Ён узяўся за яе рукі, узяўся моцна, а потым, адвёўшы іх убок, павярнуўся тварам да жанчыны.

- Хто. . . вы такая?

На яго глядзелі вялікія, можа, занадта вялікія бліскучыя карыя вочы. Адкуль у іх такая блізкасць? Ён не ведаў маладой дзяўчыны, што, як дома, зняла тым часам капялюш і кінула яго на раяль, а потым страсянула доўгімі локанамі, прыводзячы іх у парадак. У яе чысты прыгожы твар, меланхалічны, як у нявіннай, заўсёды жаданай дзяўчыны, амаль зіцяці, хоць ёй, вядома, даўно ўжо за дваццаць. Захутаная белую палярыну, яна нагадвала нейкую трывожна-прывабную сірэну.

- Хто я такая? Угадайце, гер ван Бетховен. Але вы нізавошта не ўгадаеце. Я - Беціна Брэнтана.

Брэнтана? Добрае імя, назваўшы якое, у яго можна дамагчыся ўсяго. Калісьці ў доме нябожчыка гофрата Біркенштока, які належаў цяпер Брэнтана, ён правёў не адну прыемную гадзіну.

- Ага, фройляйн Беціна Брэнтана з Франкфурта! У госці да нас у Вену? Гэта добра.

- Не гаварыце так афіцыйна. Сябры завуць мяне «Боціне», а Гётэ, мой лепшы сябар, заве мяне «дзіцятка». Можаце і вы так гаварыць.

На дзіцятка яна, бясспрэчна, падобна, а можа, яна, як артыстка, толькі хоча паказаць сябе ў гэтай ролі? ІДто ні кажы, а жаданне яе крыху незвычайнае для маладой жанчыны.

- Як жыве-маецца Антонія, ваша братавая? А ваш мілы брат Франц? Я даўно ўжо не быў у Брэнтана, усё што-небудзь замінала. Скажыце, купіў ужо эрцгерцаг Рудольф калекцыі? Я забыўся папытацца ў яго пра гэта. А дом Біркенштокаў-Брэнтана ўсё яшчэ астаецца музеем эстампаў, этрускіх лямпаў, карт зніклых дзяржаў і раскошных жоўтых адзенняў кітайскіх мандарынаў?

- Усё на сваім месцы.

- Ну, а Макса, мая найлепшая сяброўчка, што робіць?

- Стаіць каля акна і чакае вас, гер ван Бетховен. Між іншым, калі я сказала, што сёння прывяду вас з сабою, Франц і Антонія палічылі, што я зусім з глузду з’ехала. Яны мяне папярэдзілі: трымай з ім вуха востра, ён цяпер вельмі небяспечны пустэльнік, горшы, чым калі-небудзь раней. Але ўсё-такі я вас потым вазьму з сабою.

Беціна ўсё лётала па пакоі.

- О, што гэта ў вас? Перакладаеце на музыку верш Гётэ, і якраз той, што так падабаецца мне? Сыграйце яго мне, гер ван Бетховен.

Ён і агледзецца не паспеў, як яна ўжо ўзяла яго рукі і палажыла іх на клавішы. Ён засмяяўся, але гэтая таямнічая жаноцкасць, якой яму так доўга не хапала, зрабіла яго безабаронным і паслухмяным. Калі ён не памыляўся, Беціна заручана з наэтам Ахімам фон Арнімам. А цяпер яна перад ім, бясконца адзінокім, як нсшта рамантычнае, жаночае, цу. доўнае.

Калі ён скончыў, яна сказала:

- Я слухала вас і плакала, гер ван Бетховен. Абавязкова пашлю вашу кампазіцыю Гётэ. Ён таксама будзе плакаць. - Яна выказвала свае пачуцці, відаць, крыху перабольшана, і да таго ж слёз на яе вачах ён не заўважыў, ды і прычыны для гэтага зусім не было.

- Я пералажыў на музыку яшчэ адзін яго верш.

- Я пашлю яму абодва, але зараз нам трэба ісці. Брэнтана наладжваюць з нагоды майго прыезду вялікі вечар. - Яна заўважыла яго нерашучасць. - Ці, можа, вы хочаце расчараваць маленькую Максу?

- Не, не. - Усё, што бянтэжыла яго, мабыць, усё-такі выклікана жаночай абаяльнасцю, якая кожны раз па-свойму пералівалася колерамі вясёлкі.

- Але я не найду з вамі, гер ван Бетховен, калі на вас будзе гэты стары паношаны сурдут! - Ён буркнуў штосьці, не згаджаючыся, і пайшоў пераапранацца.

Нарэшце яны выйшлі на вуліцу. Бетховен раптам спыніўся.

- Стойце! Па гэтай вуліцы ісці нельга. Бо тут мы выйдзем да сабора святога Стэфана, а там мяне падпільноўвае патэр Вейс. Чалавек ён нядрэнны, але ўбіў сабе ў галаву, што мусіць закапаць мне ў вушы цудадзейны эліксір, які, вядома, таксама не паможа. - Яны павярнулі на другую вуліцу, і зноў Бетховен спыніўся ў нерашучасці. - Прыйдзецца нам зрабіць яшчэ больш круг.

- Яшчэ адзін патэр падпільноўвае вас?

- Не, на гэты раз не гэта. - Цяпер яны ішлі б міма Чырвонай вежы, каля дома з галерэяй

Мюлера. А ў Вене зараз былі і Жазефіна і Штакельберг, і ён мог бы сустрэцца з ёю. Беціна засмяялася.

- Нялёгка ісці з вамі, калі большая частка горада закрыта для вас па нейкіх таямнічых прычынах. Цяпер, мабыць, з-за пакінутай вамі нявесты? Не моршчыце так ілба. У Вене плёткі перадаюцца хутка. Ці не ў гэтай мясцовасці жыве Тэрэза Мальфаці?

- Глупства! Тэрэзе Мальфаці семнаццаць, а мне - сорак. Я для яе занадта стары, а для мяне яна - так, гусачка, хоць мне яна, прызнацца, і падабаецца, калі толькі не перабярэ пуншу.

Калі яны падыходзілі да дома Брэнтана, Беціна раптам учапілася за яго рукаў.

- Чуеце? - Сказала і адразу ж зразумела, што не падумала пра яго глухату. Цяпер трэба неяк выкручвацца. - Вы так паглыбіліся ў свае думкі, а яна тым часам перастала іграць. Іграла жанчына, адна з гасцей. Імя яе я не запомніла, бо ў апошні час пазнаёмілася са столькімі новымі людзьмі. Калі я ішла да вас, яна ўжо села за санату, каб потым бліснуць перад маэстра.

Вокны ў гэты чароўны майскі дзень шырока адчынены. Ён з недаверам зірнуў наверх і, відаць, вырашаў, ісці яму цяпер ці вярнуцца назад.  І тут з дзвярэй насустрач яму вылецела штосьці пярэстае з дзівоснымі косамі.

- Дзядзечка Бетховен!

- Макса! Я не забыў табе прынесці цукерак.

Маленькая зграбная дзяўчынка матнула галавою.

- Мне хопіць аднаго цябе, дзядзечка Бетховен! Хадзем, там усе ўжо чакаюць.

Каля гласіса паміж Карлавай царквою і гасцініцай «Месячнае святло» была фабрыка фартэпіянаў Штэйна. Бетховену падабаўся востры пах дрэва, з якога рабілі раялі. А можа, так пахла марылка, якую бралі для палітуры? Ён раней часта апрабоўваў новыя інструменты, але цяпер хуценька прайшоў міма выставачнай залы да шкляных дзвярэй, за якімі рухаліся цені. Мабыць, з яго боку было гэта несправядліва і дробязна, але гіпсавыя маскі ў выставачнай зале выклікалі ў яго глухое нездавальненне. Аднойчы геру Штэйну - а можа, зяцю Штрэйхеру з яго канцэртным салонам? - у галаву прыйшла дзіўная ідэя надаць выставачнай зале большую прывабнасць. Яму здалося, што ўздзеянне ад гіпсавых масак будзе мацнейшае, чым ад малюнкаў ці нават карцін, і, запрасіўшы скульптараў, ён распарадзіўся зняць маскі з некаторых жывых музычных славутасцяў, каб павесіць маскі на сценах гандлёвай залы над раялямі, як зрабіў гэта гер Штрэйхер у сваім канцэртным салоне. Там можна было ўбачыць Сальеры, Майзедэра, абата Фоглера, а нядаўна прафесар Клейн атрымаў заказ зняць маску і з Гіраўца, які, відаць, заслужыў гэта, напісаўшы музыку да «Вільгельма Тэля».

А паслухаць толькі, што пішуць у рэцэнзіях! У чэрвені паказвалі абедзве драмы - і «Тэля» і «Эгманта». Пра музыку гера Гіраўца карэспандэнт лейпцыгскай «Агульнай музычнай газеты», прынамсі, яшчэ паведаміў: «Напісана характэрна і з разуменнем». Вядома, гэта не абы-што, але ўсё-такі больш, чым сказана пра музыку да «Эгманта». Бо пра яе і словам не спамянулі. На гэты раз выбралі новы варыянт: не аблаялі, не разбілі ўшчэнт, а проста замоўчалі.

Між іншым з герам Штэйнам адбылася яшчэ адна размова.

- Гер Штэйн, нядаўна адзін чалавек высока ацаніў і мяне і маю пятую сімфонію. Ён у захапленні напісаў, што мяне трэба паставіць побач з Гайднам і Моцартам. Завуць яго Э. Т. А. Гофман.

- Барані божа, гер ван Бетховен! Гэтага імя нельга называць уголас! Гэта ж звар'яцелы камергерыхтсрат з Берліна, прывідны Гофман! У маёй дачкі Нанеты, фраў Штрэйхер, была адна яго кніжка. Дык я забраў яе і хуценька кінуў у грубку.

Бетховен падняўся на трэці паверх да дзвярэй з меднаю ніыльдачкаю, на якой было выгравіравана імя Ё. Н. Мельцэль. Дзверы былі адчынены, і яму нават не прыйшлося цягнуць за ручку званка, над якім прымацаваны быў лялечны дамок. Калі б ён пацягнуў за ручку, то акно дамка адчынілася б, у ім паказаўся б пеўнік, пеўнік схіліўся б у паклоне, растапырыўшы крылы, і пракукарэкаў бы, вітаючы госця і паведамляючы пра яго гаспадару. У гэтай кватэры мелася шмат механічных дзіваў, і госцю ўвесь час патрэбна было быць напагатове, каб яго не застаў знянацку вясёлы ці нават грубаваты жарт. Скажам, крэсла, якое магло крычаць як рэзанае, калі на яго хто-небудзь садзіўся.

Бетховен ужо ведаў дарогу ў доўгім паўзмрочным калідоры. Да таго ж, яго там чакалі. Кароценькі заняты чалавечак у шэрым рабочым халаце падняў на хвілінку вочы.

- Сядайце, гер ван Бетховен. Не бойцеся, крэсла не стрэліць. Я зараз буду вам да паслуг,

мне толькі яшчэ трэба. . . - Ёган Непамук Мельцэль быў знаёмы Бетховену ўжо па Шонбруну, дзе займаў пасаду прыдворнага механіка. Эрцгерцаг Рудольф заўсёды загадваў звацць яго, калі не ладзілася што-небудзь з раялем, і вось Мельцэль адкрыў тут у доме Штэйна майстэрню. Гэта быў дзіўны свет, такі ж дзіўны, як і сам гер Мельцэль, які цяпер усунуў галаву ў вялікую, падобную на шафу скрыню і рухаў там нейкія трубы і мяхі. На варштатах валяліся барабаны, флейты і кларнеты, а да ног мармуровай статуі прыхілены медныя талеркі.

- Мой слыхавы ражок гатовы, гер Мельцэль?

- Хутка будзе. Сёння я падрыхтаваў вам іншы сюрпрыз. - З шуфляды ён дастаў ролік з шыпамі. - Спружынка заведзена, і калі я зараз перастаўлю рычаг, то, уласна, павінна. . . Ведаеце, мой бацька быў арганны майстар у Рэгенсбургу, і ўжо хлопчыкам я раіў пабудаваць калі-небудзь такія арганы, як вунь гэтыя. Бацька раззлаваўся, бо ён вельмі высока цаніў майстраванне арганаў, хоць яно і давала яму малы заработан. Ён зрабіў так, што і я навучыўся рабіць арганы і крышку іграць на піяніна.

- Ну, вы неблагі настаўнік музыкі, гер Мельцэль.

- Магчыма, але зароблены такім чынам хлеб надта горкі.

Бетховен засмяяўся.

- Каму вы гэта кажаце!

- Але сэрца маё належыць механіцы. Калі мне ўдасца гэтая рэч, то яна дасць больш грошай, чым усе вашыя сімфоніі. Прабачце, але ж вы ведаеце, што я маю на ўвазе. Ну, а тут што павінна выйсці? Гэты апарат будзе дзьмуць у трубу, біць у барабан і ў літаўры. Калі б вы напісалі для мяне якую-небудзь рэч, але сапраўдную, з імпэтам і з шумам? Не смейцеся, калі ласка, гер ван Бетховен! Людзей і іхнія жаданні я ведаю лепш за вас- Мельцэль, зірнуўшы ў скрыню, уздыхнуў. - Мабыць, недзе яшчэ ёсць тэхнічная памылка. Але зараз я перш за ўсё пакажу маленькае прыстасаванне, якое вы пажадалі мець. Некалькі месяцаў таму назад вы ж скардзіліся, што выканаўцы вашых рэчаў так часта няправільна бяруць тэмп.

- Скардзіўся. Не шкодзіла б задаць ім гэты тэмп, але як? Можна, зразумела, над адною часткаю напісаць «адажыо састэнута», але адзін сыграе гэта як андантэ, а другі як ларга.

- Ну, тады, можа, карысці дасць вось гэты маленькі інструмент? Мадэль, ведама, трэба яшчэ ўдасканаліць. - Мельцэль паставіў перад Бетховенам скрыначку, што формаю нагадвала піраміду. Пасярэдзіне была шкала, а на ёй наступныя назвы: ларга, адажыо, алегра, прэста, а злева і справа накрэслены рыскі і лічбы. Над шкалою стрэлка з рухомым грузам.

- - А што гэта павінна азначаць, гер Мельцэль? Той пацiснуў плячыма.

- Не ведаю яшчэ, як назваць яго. Гэта метраном.  І зараз я завяду яго. - Заскрыпела спружына. - Што вы хацелі б пачуць, гер ван Бетховен? Чатыры чвэрці такта? Тады прыйдзецца пацягнуць вось тут збоку гэты рычажок і паставіць яго на неабходную лічбу: два, тры, чатыры ці шэсць, у нашым выпадку, значыцца, чатыры. А цяпер хацеў бы яшчэ спытацца, які выбраць тэмп. Назавіце яго.

- Павольнае адажыо.

- Цудоўна. . . маленькі груз на шпяні перасунем, скажам, на сто дванаццаць, і тады. . . - Стрэлка пачала вагацца, і адначасна з гэтым пачуўся рытмічны шум з перазвонам. - У сярэдзіне скрыначкі малаточак стукае ў сярэбраны званочак, у чатыры чвэрці такта. Можа, цяпер загадаеце сярэднехуткае прэста ў тры чвэрці такта? Хвілінку, калі ласка. Рычажок справа перасунем на тры і груз прыкладна на дзвесце. Але гэта ўжо будзе амаль што прэстысіма.

- Выдатна, Мельцэль! Пазней на ноты можна нанесці толькі лічбы з гэтага метранома, каб музыканты ведалі, які тэмп меў на ўвазе кампазітар. Дазвольце апрабаваць машынку? - Бетховен пачаў спрытна варушыць рукамі. - Я безнадзейны няўмека, але, думаю, што ў мяне што-небудзь ды выйдзе. - Бакавую галоўку з лічбамі ён зусім засунуў унутр.

- Цяпер званочак адключаны, гер ван Бетховен.

Бетховен паставіў на алегрэта, і апарат зацікаў. Прыцiснуўшы вуха да метранома, ён заплюшчыў вочы. - Так. . . алегрэта скерцанда. . . вось так павінен ісці час, калі ён змрочны і цяжкі. . . але ён праходзіць так толькі. . . ну, а калі ўзяць фаготы, ражкі, габоі і кларнеты? Гер Мельцэль, вы мне калі-небудзь аддасце гэты метраном, як. . . музу? Ідэя абсурдная, але мне прыйшло ў галаву штосьці, што можа спатрэбіцца ў восьмай сімфоніі.

Рэзкі прыкры дысананс уварваўся з трэскам у яго жыццё. 15 сакавіка 1811 года ўвайшоў у сілу так званы «фінансавы патэнт». Славуты патэнт! Адным росчыркам пяра зліквідаваны ўсе

грашовыя клопаты. Толькі пры гэтым абрэзалі і яго ганаровую пенсію: замест 4000 гульдэнаў ён будзе атрымліваць цяпер 800. Абакралі сярод белага дня, але злачынствы, запатэнтаваныя дзяржаваю, называюцца законамі. Ганаровая пенсія! Ён наогул і так атрымлівае палову сумы, і вось цяпер у яго прыгожай мары, гэтай птушачкі, зноў аскублі пер’е! А ці шмат ён атрымлівае ад выдаўцоў? І ад урокаў музыкі? А тут трэба яшчэ лезці ў кішэню па грошы для брата Карла, у якога тым часам мелася жонка і дзіця, бр і гер фінансавы ад’ютант - так напышліва гучаў цяпер яго тытул - пачаў атрымліваць палавіннае жалаванне. Яму агідна і жонка, і ўсё гэтае кола людзей, але ж нельга дапусціць, каб галадаў маленькі Карл! А ў Ёгана, наадварот, у Лінцы была ўласная аптэка. Ён ніколі не хапаў зорак з неба, але ў пэўных аперацыях з французскімі медыкаментамі паказаў сябе вельмі здольным чалавекам. Дзякуй богу, што хоць эрцгерцаг Рудольф не адмаўляўся выплачваць поўнасцю сваю частку ганаровай пенсіі, але з Кінскім і Лобкавіцам у гэтых адносінах пэўнасці не было. А потым яшчэ клопаты са слыхам і дактарамі! Яны пасылалі яго на воды ў Тэпліц, і ён там кожны дзень піў калодзежную ваду, даваў закапваць яе ў вушы і выдаткаваў пры гэтым рэшту свайго скарбу, атрыманага ад Клеменці. А вынік які?

- Ну, як адлачывалася ў Тэпліцы, гер ван Бетховен?

- Дарагі Мельцэль, адпачынак не пашкодзіў, і налета мне зноў трэба ехаць туды. Гэтыя дактары і іх лячэнне конскімі дозамі! Толькі наглытаешся дасхочу вады, а ўжо настае час абліваацца вадою. З Тэпліца яны хочуць пагнаць мяне ў Карлсбад, а адтуль невядома куды.

- Але выгляд у вас нядрэнны. Дазвольце цяпер паказаць вам штосьці?

- Што тут такое, дарагі Мельцэль? Канторка ў навамодным стылі імперыі імператара французаў?

Маленькі, рухавы, заўсёды энергічны гер Мельцэль растлумачыў, паказаўшы рукою на мэблю, якая стаяла ў майстэрні.

- Гэта ваш калега, родны брат Апалона, і я перакананы, што ў акіяне музыкі мне ўдалося адкрыць другую Амерыку, і яшчэ болей - я сам яе стварыў. - Ён засмяяўся. - Не бойцеся, гер ван Бетховен! Можаце смела падысці яшчэ бліжэй. Мой музычны гамункул не ўзарвецца. - І Мельцэль націснуў на рычаг збоку канторкі. У сярэдзіне шафы нешта затрашчала і заварушылася.

Бетховен прылажыў правае вуха да шафы, і твар яго крывіўся ў грымасе.

- Мельцэль, і вы называеце гэта музычным калегам?

- Гэта толькі дзіцячыя хваробы, ад якіх я паспрабую яго вылечыць. Пазней ён павінен, ведама, працаваць бязгучна. Калі ласка, усяго толькі яшчэ хвілінку цярплівасці. Во, чуеце!. .

Бетховен адскочыў назад.

- Божа літасцівы! - З шафы грымнуў рэзкі трубны голас, і ўся яна закалацілася ў нейкай д’ябальскай радасці, мабыць, ад таго, што можа рабіць такі неверагодны шум.

- Гэта ж яшчэ больше жахліва, чым у свой час гарматны абстрэл! Мельцэль, зараз жа адключыце чортаў інструмент!

Мельцэлю прыйшлося крычаць з усяе сілы, каб яго пачуў Бетховен:

- Я не умею яшчэ рабіць гэтага! Бо тут патрэбна адпаведнае прыстасаванне! - І ён пачаў з захапленнем падцягваць: - Тэтэрэ - трарэ - трарэ! Сапраўдны арыгінальны французскі клерон, сігнальны ражок, і іграе ён кавалерыйскі марш з усімі яго сігналамі! Гер ван Бетховен, вы сведка гістарычнай з’явы. Бачыце першага аўтаматычнага трубача на свеце, і я яго вам дэманструю першаму, - Мельцэль схіліўся ў паклоне, - у знак павагі да вас. Учора толькі мне ўдалося шчасліва злучыць сігнальную трубу з мяхамі.

Нарэшце труба перастала раўці. Яшчэ крыху пагрукатала ў шафе, а потым увесь гэты гвалт скончыўся. Бетховен упаў на крэсла.

- Вам трэба пасекчы яго на кавалкі.

- Майго механічнага трубача? Але, спадзяюся, вы бачыце, якія тут адкрываюцца магчымасці? У ім прыйшласць, я кажу гэта сур’ёзна. Вось з гэтай рэччу мы пераступілі парог новага часу. Мой механічны трубач ажыццявіць рэвалюцыю. Так, так, і клерон падаваў яе сігналы. Прыгожанькія, але толькі брынклівыя тонкагалосыя куранты аджылі свой век, а тое, што стаіць вунь там і, вядома, павінна быць яшчэ ўдасканалена, з’яўляецца роданачальнікам новага пакалення, вялікім прабацькам, ад якога возьмуць пачатак усе наступныя механічныя інструменты на свеце. З гэтага механічнага трубача выйдзе і мой «пангарманікон» - так я назаву гэты велічэзны апарат даўжынёю ў дзесяць ці дванаццаць і вышынёю ў восем ці дзесяць футаў.

У чэраве ў яго я змяшчу цэлы аркестр. Між іншым, не думайце так зняважліва пра мой пангарманікон, гер ван Бетховен, лепш выкарыстайце гэтую сенсацыю дзеля сваіх інтарэсаў - а пангарманікон стане сенсацыяй, паверце мне. Як толькі я яго зраблю, я буду мець ласку звярнуцца да вас з просьбаю напісаць для мяне якую-небудзь кампазіцыю.

- Мельцэль, механічны трубач, мабыць, нешта перавярнуў у вашай галаве.

Калі крыху пазней Бетховен ішоў па калідоры да выхаду, з выставачнай залы раяляў і піяніна выпадкова выйшаў гер Штэйн. Падняўшы ўгору рукі, ён паспрабаваў прыдаць свайму жывому дабрадушнаму твару выраз, у якім змяшаліся і лагодны папрок і захапленне.

- А вось і гер ван Бетховен! Вас жа чакае гер прафесар Клейн, якому я даўно даў заказ зрабіць вашу маску, гер ван Бетховен. Мая калекцыя без яе не будзе поўная. Павесім маску вунь там над раялем. - Гер Штэйн, не чакаючы адказу, пайшоў паперадзе ў пакой. - Што вы скажаце, між ішным, пра гэты раяль? Клавішы ў яго незвычайна чуйныя, да іх трэба толькі лёгенька дакранацца пальцамі.

Стоячы, Бетховен сыграў пасаж.

- Цудоўны раяль.

- Праўда? У ім значна палепшаны ходавы механізм. Нават яго імператарская высокасць эрцгерцаг Рудольф не мог схаваць свайго захаплення. - Вось, значыцца, дзе сабака закапаны, разам з ласкаю! - А вы ж ведаеце, гер ван Бетховен, як нашаму брату цяжка. . . дый асталася белая пляміна на сцяне - гэта ж пляміна ганьбы. Будзем спадзявацца, што ў бліжэйшы час у вас знойдзецца гадзінка вольнага часу для прафесара Клейна. Што я хацеў яшчэ сказаць? Ага, успомніў: мой зяць Штрэйхер таксама хоча выставіць вашу маску ў сваім музычным салоне, а можа, нават і ваш бюст. Вы, здаецца, толькі што былі ў гера Мельцэля? Што вы скажаце пра яго механічныя музычныя інструменты? Яны ж ніколі не стануць канкурэнтамі ні піяніна, ні скрыпкам, ні габоям, ні чаму-небудзь іншаму.

Бетховен пацiснуў плячыма.

- Я б не стаў тут чаго-небудзь прадказваць. У механічных інструментаў ёсць адна бясспрэчная перавага - імі. . . лягчэй навучыцца карыстацца.

- Скажыце мне шчыра, Карл, але толькі шчыра. Як вам падабаецца фартэпіянны канцэрт мі-бемоль мажор?

- Гэтак жа хораша, як і «Гераічная», як пятая сімфонія, як трэцяя уверцюра да «Леаноры» ці Крэйцарава саната, гер фон Цмескаль.

- Так яно так, але. . . з гэтымі творамі звязаны жахлівыя ўспаміны. Бетховен поўнасцю мае рацыю, калі гаворыць пра пракляты венскі «зброд». Пасля поспеху ў Лейпцыгу спатрэбілася два гады, каб. . .

Карл Чэрны цераз кулісы паглядаў на сцэну.

- Хацелася б ведаць, якая ідзе ўжо сцэнка?

- Здаецца, трэцяя. Я зусім заблытаўся. Спачатку выйшлі аркадскія пастушкі па карціне Пусена, потым была жанравая сцэнка ў стылі ракако па Трою, а вось зараз - сцэнка па Рафаэлю.

Карл Чэрны, зашпіліўшы сурдут, паправіў гальштук.

- Пара і мне рыхтавацца да выхаду.

З ціхім шаргаценнем закрылася заслона. На нейкі момант усталявалася цішыня. Цмескаль шапнуў:

- - Публіка ў захапленні ад Жывых сцэнак! Ну і густ! Я наогул пытаюся ў сябе: правільна я зрабіў, дамовіўшыся забаўляць канцэртам таварыства знатных дам? І гэтых людзей у Вене яшчэ адносяць да найлепшых знаўцаў мастацтва! Паслухайце толькі, як яны апладзіруюць! Пасля канцэрта мі-бемоль мажор у праграме варыяцыі на тэму марша з «Аліны» Майзедэра. Хто іх выконвае?

- Фройляйн Зэсі і гер Зібоні.

- Патрэбна смеласць, каб пасля фартэпіяннага канцэрта Бетховена брынкаць яшчэ ў чатыры рукі - бачце, яны ўжо настройваюць інструменты! Пара, Карл, і. . . на гэты раз нам што б там ні было трэба парадаваць яго добраю навіною.

З Карлам Чэрны адбылася дзіўная перамена. Узышоўшы на сцэну, ён вельмі сціпла і прыветліва пакланіўся і. . . адразу ж зрабіў нешта незвычайнае. Аберуч, з усяе сілы выбіў на раялі акорд мі-бемоль - коратка, з выклікам, быццам падаў сігнал: а вось і я, пасол майго маэстра Людвіга ван Бетховена. Прыйшоў з яго фартэпіянным канцэртам! Але спачатку няхай прагучыць

фанфарны выклік, а ён за гэты час хуценька ўявіць сабе і абдумае ўсё, як належыць. Карціны выстройваліся адна следам за другою, але праходзіць яны павінны, мусіць такі, усё ж адначасна. . .

Раніцаю ён зірнуў на каляндар. 12 лютага 1812 года. Надвор’е ў гэты дзень - хмурнае, і маэстра, напэўна, сядзіць цяпер за раялем і іграе. Апошнім часам ён іграў цэлымі гадзінамі, і не толькі, каб удасканальваць тэхніку, а каб, іграючы, адчуваць упэўненасць і абысціся без кантролго слыху. Роспачная спроба, але маэстра і слухаць нічога не хоча. Цяпер ён дома, сядзіць, усунуўшы галаву ў гэты пукаты каўпак, пабудаваны яму герам Мельцэлем над раялем замест гукаўлоўніка, гукаўзмацняльніка. Вядома, і гукаўлоўнік не памагаў. Трагічна ўсё, супраць усякае логікі! Але ў яго, відаць, усё не ў ладах з логікаю. Князь Лобкавіц за марнатраўства ўзяты пад апеку, і таму выплата яго долі ганаровай пенсіі спынілася, а Кінскі за ўвесь час толькі аднойчы ўспомніў пра яго некалькімі дукатамі міласцінай. Аставаўся адзін толькі эрцгерцаг Рудольф, які выплачваў сваю долю поўнасцю, і ён купіў бы і раяль, каб толькі ведаў пра акалічнасці, звязаныя з. . . маскаю. Але тая, мабыць, ляжыць сярод хламу ў гера Штэйна, незадаволенага маэстра. Ну, можа, цяпер яму, Карлу Чэрны, удасца дабіцца, каб маску паставілі на месца, якое даўно належыць ёй па праву!

Гер Зейфрыд ужо чакае з паднятаю дырыжорскаю палачкаю. Адразу ж, як узняўся першы фантан гукаў, Чэрны ўпэўніўся, што яго намер здзейсніцца. Новы фантан пераліваўся яшчэ больш пераканаўча. Зноў забурліла вада. Вось так! «Кардынал. . . » дзіўна гучыць цытата з «Дон Карласа», але дарэчы!. . Гер Зейфрыд, я сваё зрабіў, цяпер рабіце вы сваю справу!. . Дырыжорская палачка Зейфрыда здрыганулася, паехала ўніз, і аркестр абвясціў гордую, гераічную тэму. Цяпер другая тэма - мі-бемоль мінор! Прыходзілася сачыць за сабою, каб не падпяваць уголас пераможнай песні. Адзначаны пункцірам рытм басоў. . . а зараз вось зварот да соль-бемоль мажор! Бліскуча! Як толькі чалавечая галава дадумалася да такога! Ражкі. . . самыя звычайныя таны і ўсё-такі трыумф!. . Перамога! А цяпер прамяніцца весялосцю храматычны пасаж. Гер Зейфрыд, мы вядзём размову: вы з дырыжорскаю палачкаю і аркестрам, а я з піяніна. А. . . ці знойдзецца чалавечае сэрца, якое не здрыганецца пры гэтых варыяцыях?

Між іншым, іграе ён усё-такі добра; маэстра сам цяпер засведчыў гэта. Таму што. . . вочы маскі адкрыліся і паглядзелі на яго амаль са здзіўленнем. Абсурдна, але ён. . . іграў для маскі, што вісела над раялем, як белая здань у пустаце. Якія ж упартыя і разам з тым пакутныя ў яго рысы твару - акрамя няўдач у маэстра бясспрэчна ёсць таемнае гора, пра якое ён не гаварыў ніколі.

Ціхенька гучаць смыковыя інструменты - добра, сыграйце ж яму пад сурдзінку хвалюючую песню, напісаную ім, а я. . . я абаўю яе трыёлямі. А цяпер фанфары! Але раптам парвалася. . . звязаная з ім нітка жэмчугу. . . Нітка жэмчугу? Не, гэта нітка, нябачная нітка да слухачоў. Што здарылася? Таго мноства людзей унізе больш няма, я іх не магу ўтрымаць. . . Гер Зейфрыд, нітку мы зноў звяжам. А цяпер ронда. Алегра! А зараз гэта датычыцца ўсіх нас, усіх! Вас, гер Зейфрыд, аркестра і мяне, яго любімага вучня. Цяпер я дакажу, што варты гэтага ганаровага тытула.

У антракце перад другою часткаю праграмы, якая была прысвечана вясёлай музе, Карл Чэрны браў у гардэробе паліто. Хтосьці ляпнуў яго па плячы.

- Вы ігралі цудоўна, Чэрны. Шкада толькі. . . - Гаварыў новы драматург прыдворнага тэатра, яго равеснік Тэадор Кернер. Побач з ім стаяла яго нявеста Антонія Адамсбергер, мілая асоба, якая ў Гётэвым «Эгманце» іграла ролю Клерхен і спявала маэстравы песні. - Ад усяе душы мне шкада вас, Чэрны. Бо ж і Зейфрыд з аркестрам перасягнулі самiх сябе. Але. . . што ні кажы, а правал, і на гэты раз не адважыліся апладзіраваць нават самыя заўзятыя бетховенцы. Хто. . . яму пра гэта скажа?

- Да яго пайшоў гер фон Цмескаль.

- Непрыемнае даручэнне, і я яму не зайздрошчу. Што і казаць, гэта не назавеш віною, гэта хутчэй нейкае асабліва трагічнае супадзенне, што хаос, які пышна завецца фартэпіянным канцэртам мі-бемоль мажор, якраз трапіў паміж сапраўднымі шэдэўрамі. Перад ім выконваліся «Жывыя сцэнкі», і яны зрабілі сапраўды выдатнае ўражанне, апасля іх майстэрства трылераў у чатыры рукі паказалі фройляйн Зэсі і гер Зібоні. Праўда, Тоні?

Тая, забаўляючыся каралямі, адказала:

- У Бетховена ж заўсёды такія незразумелыя думкі. Узяць хоць бы музыку да «Эгманта» і

песенькі Клерхен, якія я выконвала. У песеньцы «У радасці, у горы» я паспрабавала ў адным месцы сёе-тое паправіць, бо вельмі ўжо простаю здалася мне мелодыя. Ён забараніў: « І не падумайце дадаць які-небудзь mortant!» Чуеце: замест mordent (**Мордэнт - музычнае ўпрыгожанне.** ) ён сказаў mortant. Мне было сорамна за яго, гер Чэрны.

Калі да яго кватэры на апошнім паверсе асталося некалькі ступенек, яна пачула шум, пра паходжанне якога як жанчына здагадалася адразу. Нехта мачаў анучаю ў вядро з вадою, выкручваў яе, а потым зноў браўся мыць падлогу. Падняўшыся на апошнюю лесвічную пляцоўку, яна ўбачыла праз шырока адчыненыя дзверы раяль, другія музычныя інструменты, канторку і цэлыя горы нот, якія для Людвігавых абставін упарадкаваны былі нeяк надзіва хораша.

- Добры вечар. - Прыбіральшчыца, якая на каленях мыла падлогу, прыўзняла галаву.

- Добры вечар.

- Можна мне пабачыць гера ван Бетховена?

- Не, яго няма дома, ён паехаў учора вечарам, дакладней, ноччу.

Спазнілася! Яна ж збіралася прыйсці яшчэ ўчора ўвечары - ах, заўсёды гэтая нерашучасць, гэтыя хістанні, самы горкі недахоп яе характеру.

- А куды ён паехаў?

- А вам гэта навошта?

У голасе ў прыбіральшчыцы гучаў недавер. Вядома, ён - з яго падазронасцю - пакінуў ёй адпаведныя парады. А ў госці твар схаваны пад вуалем. Для чэрвеньскага вечара з яго нясцерпнаю духатою гэта дзіўна. Яна прыўзняла вуаль.

- Нічога асабліва важнага тут няма. Гер ван Бетховен - добры стары сябар нашай сям’і і быў бы мне вельмі рады. Я збіралася запрасіць яго ў госці. - Навошта яна сказала гэта? Няўжо ўсё заўсёды павінна быць маною?

Прыбіральшчыца паднялася на ногі.

- Я палажу яму на раяль паперку, каб ён, вярнуўшыся дадому, знайшоў яе. Але гэта будзе не раней як праз некалькі тыдняў.

- Так доўга мы не затрымаемся ў Вене. Прыйдзецца, мабыць, напісаць яму і засведчыць тым самым нашу глыбокую павагу.

Цяпер прыбіральшчыца памякчэла. Прывітанне ў пісьме не прынясе ж яму непрыемнасцей.

- Можаце напісаць яму ў Тэпліц. Дактары зноў параілі яму падлячыцца. Адрас ляжыць вунь там на раялі. Але ў мяне мокрыя рукі. Можа, вы самі зірняце? Адрасоў там два. Першы - кватэры ў Празе. Там ён спыніцца, мабыць, дзянькі на два-тры, каб правесці кароткія перагаворы, а потым адразу ж паедзе далей у Тэпліц.

- Ага, і таму нам, мусіць, лепш напісаць у Тэпліц. Ах, ён зноў збіраецца жыць у сваёй старой гасцініцы. Ну, а што ў Празе? І гэтая гасцініца мне вядома. Вялікі вам дзякуй.

Прыбіральшчыца прысела ў глыбокім паклоне, бо перад ёю была знатная дама. Дама ўсміхалася ласкава, але на яе твары адлюстроўваўся глыбокі смутак. Гора прыходзіла не толькі да бедных людзей, але ў багатых яно выглядала, бадай што, больш прыгожа.

Дождж ніяк не хацеў спыняцца. Ён пачаўся ўжо пры ад’ездзе з Вены, не пераставаў у дарозе, і вось і ў Празе зноў ідзе дождж. Зусім прамоклы плашч зрабіўся цяжкі, як жалеза. Вокны адчынены. У бляску ліхтароў блішчалі і ўздрыгвалі нейкія ніці. Ён заўсёды быў рады бачыць зачараваны завулак алхімікаў, а вось зараз толькі спехам прабег па ім. Чарнакніжнікі ў завулку алхімікаў - размешвалі і памешвалі, рабілі вопыты і ўсё ж не знайшлі філасофскага каменя, таго Залатога Льва, якім можна рабіць так патрэбнае яму золата, хоць чалавек ён і не прагны.

Добры прынц, эрцгерцаг Рудольф! Без яго ён не зрабіў бы гэтага падарожжа, хоць і яно зноў, бясспрэчна, не паможа. Тэпліц - занадта многа там людзей, якія хацелі лячыць адну хваробу - па імю нуда. Яму, мабыць, зноў прыйдзецца блукаць усюды, як «самотнаму дзікуну», ці, паўтараючы чыесьці словы, «спрытнаю рыбкаю пялёскацца» сярод гэтых людзей. Тут у Празе ён вёў перагаворы з адным чалавекам, а той потым паспрабуе вымаліць у князя Кінскага некалькі гульдэнаў «ганаровай пенсіі». Гэты князь - ашуканец! Але, як кажуць, гора ламала не толькі жалеза, а і мараль! Мараль? Як гэта ён сказаў аднойчы? «Сіла ёсць мараль людзей, якія хочуць праславіцца перад другімі людзьмі, і гэтая мараль - і мая мараль!» Слухаючы пра такую

мараль, сіла толькі і магла што круціць галавою.

Ён не мог спакойна стаяць на месцы. У такім прымітыўным нумары, які прыйшлося ўзяць з-за меркаванняў ашчаднасці, ён адчуваў сябе як у бруднай клетцы. Якое затхлае паветра! Міска для мыцця надбіта, а ў збанку няма носіка. Шкло маленькага люстэрка ў плямінах, а на сцяне над убогім ложкам, над безгустоўным, скрыўленым у рамцы папяровым абразом нейкія падазроныя плямы. Ну што ж, і гэтая ноч не бясконцая. Ён загадаў неахайнаму слузе разбудзіць сябе ў чатыры гадзіны, а праз гадзіну ён ужо будзе сядзець у паштовай карэце. Да раніцы можна пачакаць і на гэтым крываногім крэсле каля акна. Адно добра, што ніхто не ведаў пра яго кватэру. Што ён бачыць, няўжо адчыняюцца дзверы? Гэта ўжо непрыемна. Ніколі не чуеш стуку у дзверы, хіба толькі, калі той, хто ўваходзіць, адразу пачынае грукаць у дзверы кулаком. Хто ж там такі? Не, гэтага не можа быць!

Спрабуючы выціснуць з сябе усмешку, яна сказала:

- Гэта я, сапраўды я. Добры вечар, Людвіг. Так, гэта я, сапраўды я - толькі што прыехала з Вены ў паштовай карэце. - Яна зрабіла паўзу. - Няўжо ў цябе няма нічога сказаць мне ці, можа. . . - яе твар перасмыкнуўся ў балючай усмешцы, - твой слых пагоршаў зноў? А я ўсе гэтыя гады зусім забылася пра цябе. Прабач, Людвіг, калі ласка. Ведаю, што гэта нядобра, і вось я прыйшла сказаць табе гэта. Я не знаходжу і не знайду сабе спакою, пакуль не скажу ўсяго, хоць кожнаму чалавеку, і асабліва жанчыне, прызнавацца ў гэтым вельмі цяжка.

Яна гаварыла і гаварыла, мабыць, баючыся, што ён пакажа ёй на дзверы, і яна не паспее выказаць, што ў яе на душы.

- Нялёгка ўжо было адважыцца паехаць сюды. . . паехаць следам за табою, паехаць вось так жанчыне за мужчынам. Але зайшоўшы на тваю венскую кватэру, я даведалася ад прыбіральшчыцы, дзе ты тут спыніўся. У Тэпліц мне ехаць не хацелася, там кожны ведае ўсё пра кожнага.

Гаварыла яна без сувязі, але цяпер гэта было ўсё роўна.

- Людвіг, не сварыся на прыбіральшчыцу, што яна дала мне твой адрас. Яна невінаватая, вінаватая толькі я адна, вінаватая ва ўсім. А калі я пакідала тваю кватэру, у галаву мне прыйшла думка: паштовая карэта ж ад’язджае сёння ноччу. Тэрэза адразу згадзілася ўзяць на сябе клопаты пра дзяцей - ты ж яе ведаеш. Прыйшлося толькі паабяцаць ёй не рабіць табе новага гора. Я цяпер хачу расказаць пра ўсё і перапрасіць цябе. Але для мяне ў цябе, відаць, няма больш ніводнага слова, і я цябе разумею. Прабач, што я прыйшла яшчэ раз. Цяпер. . . я зноў найду.

У няўцешным адчаі яна павярнулася да дзвярэй, і гэта вывела яго з стану здранцвення. Яна вось-вось гатова была ўпасці на падлогу, і ён у апошні момант ледзьве паспеў падтрымаць яе.

- Жазефіна!

- Ты сапраўды яшчэ не забыў маё імя, Людвіг?

У яго вачах адбіліся жах і злосць.

- Што з табою здарылася? Што яны зрабілі з табою, што яны асмеліліся зрабіць з табою?

- Які ты клапатлівы, Людвіг. Ты нейкі незразумелы чалавек. Але слова кахання, якое сказаў ты мне аднойчы. . . прабач, Людвіг, у мяне больш няма на яго права, няма ніякага права. . .

Няўжо ў яго словах гучала літасць?

- Ты, мая неўміручая каханка. . . - Яна абвяла ў яго на руках. Куды ж пакласці непрытомную? Але перш трэба зняць палярыну і хустку. Калі ён дакрануўся да яе валасоў, бо кончыкі хусткі заблыталіся ў грабянцы - а ён жа быў у гэтых рэчах такі недасведчаны! - яна зноў апрытомнела.

- Людвіг, можна мне яшчэ на хвілінку сесці вунь у тое крэсла? Усяго толькі на хвіліначку, калі ласка, бо я. . . - Яна агледзелася, і ў яе цёмных вачах адлюстравалася недаверлівае здзіўленне. - Як тут. . . прыгожа. . . і я ўсё гэта. . . страціла. - Яна заўважыла, што ён глядзіць у дзверы. - Я зараз пайду, Людвіг, зараз, зараз. . .

- Навошта ж разумець гэта так няправільна, Жазефіна?

- Няправільна? Я ўсё разумею правільна. Я сама бачу, што страціла ўсё.

- Не трэба пра гэта. Усё-такі хто-небудзь можа зайсці сюды, і калі тут у мяне, у гэты час і ў гэтых абставінах убачаць. . . баранесу фон Штакельберг. . .

- Баранесу фон Штакельберг? - Гэтая раптоўна ўзнікшая на яе спакутаваным твары

усмешка - як нясмелы сонечны прамень, што ўсё мацней выбліскваў і даходзіў да яго з глыбіні навек страчанага мінулага. - Ты, вядома, будзеш сварыцца на мяне, Людвіг. Але я нічога дрэннага не думала, не хацела я і дакучаць табе. Усё ад мае гарэзлівасці, якая аднак мне больш не пасуе. Ці ж толькі ад аднае гарэзлівасці? - Яна задумалася, але так і не магла знайсці адказу. - І я ніколі не падумала б, што калі-небудзь яшчэ змагу быць такою гарэзліваю. Не, ніколі не паверыла б. Бо яшчэ па дарозе сюды я ўвесь час адчувала сябе баранесаю фон Штакельберг. Але тут у гасцініцы, калі я спыталася пра цябе і пачула ў адказ, што ты ў сваім пакоі, і калі слуга спытаўся ў мяне, хто я такая - а я ўжо была на ўсходках, - я павярнулася да яго і адказала: «Я мадам Жазефіна ван Бетховен!» Можа, я гэтым моцна пакрыўдзіла цябе? Тады прабач.

Яна кінулася перад ім на калені, палажыла на іх галаву. Цела яе задрыжала.

- Вось месца, якое я заслужыла. Хутка, вельмі хутка. . . мадам ван Бетховен зноў знікне з твайго жыцця. Толькі, прашу цябе, выслухай мяне, калі ласка, Людвіг, будзь жа велікадушны. Я не магу зноў узваліць на сябе гэтага цяжару і несці яго далей. З чаго пачаць? Я ж ведаю, што мая споведзь павінна быць хуткая і кароткая. Значыцца, так: я - знатная графіня фон Брунсвік, кахала цябе, кахала шчыра, Людвіг, можаш паверыць мне! Ты, увогуле, ва ўсім можаш верыць мне, хоць пазней і здарылася тое жахлівае. Мяне тады прадалі, і тут я не вінаватая. Праўда, не вінаватая? Мабыць, мне ўсё-такі трэба было супраціўляцца мацней, дзеля цябе, Людвіг. Толькі пазней я больш не была не вінаватая. Калі памёр Дэйм, то спачатку вінаваты быў ты.

- Я? Я ж усяго толькі бедны музыкант, які не мог ажаніцца з табою.

Пакутуючы, яна паматала галавою.

- Ты не разумееш мяне, Людвіг, бо ты вельмі моцна кахаў і паважаў мяне. У гэтым твая віна, але табе не трэба папракаць сябе. Потым вінаватаю стала я. На злосць табе. Вось як яно было, і больш я табе нічога не магу сказаць, бо нават такая жанчына, як я, вінаватая па вушы, не ўсё можа сказаць, хоць ты і не глядзіш мне ў вочы. Можа, былі ў мяне і добрыя намеры - маім дзецям патрэбен быў выхавальнік, а ён выхоўваў дзяцей у школе Песталоцці. Божачка, калі я цяпер кажу вось гэта, то якія хісткія ў мяне аргументы! Я адчуваю, што ты не верыш у іх, дый сама я больш не веру. Не, не, я не хачу поўнасцю апраўдваць сябе: мне тады, скажу табе шчыра, здавалася, што баранеса фон Штакельберг усё-такі больш значыць, чым нейкая мадам ван Бетховен.  І таму я выйшла замуж за Штакельберга, але той, як і Дэйм, аказаўся шарлатанам. Мабыць, гэта і ёсць мне кара! Не, Штакельберг быў яшчэ больш агідны. Ён увесь час маліўся і ў той жа час руйнаваў не толькі мяне, але і Франца.

- Я чуў пра гэта.

- Адзінае, што асталося ў мяне на ўспамін пра гера барона фон Штакельберга, дык гэта двое дзяцей.

- Я і пра гэта ведаю, Жазефіна.

- Але ж я маці і люблю іх. Штакельберга я ўсё-такі прагнала нарэшце з дому, і нават Тэрэза прасіла мяне аставацца да канца цвёрдаю. Паміж намі ўсё скончана - толькі ён не дае мне разводу, і таму я прыйшла да цябе. Прыйшла, бо не магла не прыйсці. Мне патрэбна твая дапамога. Я толькі хачу расказаць табе пра ўсё і папрасіць прабачэння за ўсё і за тое, што ўсе гэтыя гады я не клапацілася аб тваім слыху, за тое, што мяне не было разам з табою, калі я табе была патрэбна. - Яна падняла галаву. - Людвіг, ці ж не дзіва рабіць што-небудзь розумам апошні раз? Дазволь мне яшчэ раз агледзецца ў гэтым пакоі. З дзяцінства, з дзявоцтва я больш не была дома, а вось. . . у цябе. . . я пабыла дома. Дзякуй, Людвіг, і. . . пацалуй мяне на развітанне, апошні раз.

- На развітанне?

Яна не адрывала ад яго вачэй, і з глыбіні яе душы, здаецца, ірваўся крык:

- Не!. .

Яна паспрабавала адвярнуцца.

- Людвіг, трэба развітацца, большага я не варта. . . Ён ссунуў бровы.

- Ты нейкая дзіўная жонка, Жазефіна, мадам Жазефіна ван Бетховен. Можа, ты шкадуеш пра сваю колішнюю гарэзлівасць?

Яна абняла яго за шыю.

- Пацалуй мяне, пацалуй жа. . . толькі. . . не гавары далей!

Ён прачнуўся. Здалося яму, што яго нехта заве? Збоку, дзе было акно, пачуўся смех.

- Добрай раніцы, Нептун.

Жазефіна ўбачыла на яго твары неўразуменне і дадала:

- Бо твая калматая галава падымаецца над падушкамі, як Нептун над хвалямі.

Яна падышла да яго.

- Я не магла спаць ад шчасця, Людвіг. Узяла і села да акна, стала слухаць, як шчабечуць, прачнуўшыся, птушкі.

Ён кіўнуў галавою.

- Раней я таксама слухаў з ахвотаю.

Чаму яна не падумала пра гэта? Нахіліўшыся над ім, яна пацалавала яго ў валасы.

- Пара ўставаць. Мужу цяпер трэба пакінуць ложак.

Ён толькі буркнуў:

- Шкада, вельмі шкада! Але ў Тэпліцы мяне чакае гер фон Гётэ - з-за музыкі да «Эгманта». Гэта вельмі важна. А надвор’е якое?

- Ясна, як. . . не, цяпер вось набліжаецца нейкая цёмная хмарка. Яе, мабыць, прыслала наша развітанне. Вядома, вядома, прапускаць табе нічога нельга. Я ўжо зноў набралася мужнасці. Бачыш, як я ўсміхаюся? А ў вас які настрой, мой дарагі муж? Адны хмаркі? Няўжо раніцаю гер ван Бетховен заўсёды буркатлівы? Але табе папраўдзе трэба ўставаць, Людвіг. Я тым часам паклапачуся пра снеданне.

Голячыся, ён задуменна і незадаволена разглядаў сябе ў люстэрку. Вядома, у Тэпліцы ён сустрэнецца з герам фон Гётэ, але сустрэнецца толькі праз некалькі дзён. Што рабіць з месцам у паштовай карэце? Нехта, хто спытаецца, прыйшоўшы незадоўга да адпраўлення карэты, ці не адмовіўся які-небудзь падарожны ад свайго месца, будзе рады. Выглядала ўсё так, быццам ён уцякае ад Жазефіны, а ў адносінах да яе гэта чорная няўдзячнасць. У полымі ўзаемнага пачуцця яна стала ягонаю не толькі як каханка, яна хацела быць яму і жонкаю, з усімі яе абавязкамі. . . нават, калі яе за гэта зняславяць, выштурхнуць з яе кола, а можа, як пралюбадзейку, і з сям’і, бо ёй нельга ж разысціся з мужам і быць свабоднаю. А ён? Усё так пераблыталася, стала такое пакутнае. Можа, ад’езд у Тэпліц, адлегласць, што ляжа паміж імі, праясняць становішча?

Праз нейкі момант яна прынесла паснедаць.

- Я збегала яшчэ ў краму і купіла свежых булачак. - Паставіўшы паднос на стол, яна гаварыла далей: - Слуга, між іншым, учыніў мне сапраўдны допыт: а мадам ван Бетховен таксама ад’язджае? Я сказала, што не еду. Я хачу яшчэ крыху пажыць у гэтым пакоі, пакуль не паеду на сустрэчу з табою ў Карлсбад.

- У. . . гэтым пакоі?

- Няўжо ты не разумееш, Людвіг? Ён ласкава і нясмела пацалаваў яе.

- Якая ты прыгожая, Жазефіна.

- Я прыгожая? Вельмі міла, Людвіг, што ты гэта кажаш, але я, нягледзячы на мае ўсяго трыццаць тры гады, адчуваю сябе нейкаю вялаю. Няўжо я, праўда, яшчэ прыгожая? Тады прыгажосць мне вярнулі толькі маё каханне да цябе і тваё каханне да мяне. - Яна ўздыхнула. - Ах, а гадзіннік ідзе, Людвіг! На пяшчоты нам цяпер няма часу. Паштовая карэта чакаць не стане. Не, з-за мяне табе не трэба нічога прапускаць, Людвіг. Не пярэч! Хочаш, каб мы пасварыліся ў першы шлюбны дзень?

Ён падумаў і адказаў:

- А ці нельга нам абаім уцячы ў Англію або яшчэ куды-небудзь?

- Што ты збіраешся рабіць у Англіі? А што будзе з тваёю музыкаю тут? Адмовіцца ад усяго ў Вене? Людвіг ван Бетховен у Англіі? Ну, скажу, думкі прыходзяць табе! Еш цяпер, ды хутчэй!

Потым ён хмурна ішоў побач з ёю да паштовай карэты, а там ужо паштальён шукаў вачыма адсутнага падарожніка. Ён падняўся ў карэту, і яна зачыніла за ім дзверцы.

- Можаце ехаць, швагер! Не, пастой, ты, здаецца, яшчэ нешта забыў, Людвіг? Які ты рассеяны! Табе ж яшчэ трэба ўзяць мой карлсбадскі адрас, бо інакш ты доўга мяне будзеш шукаць.

- Я зараз запішу. - Ён дастаў запісную кніжку. - Але дзе ж мой аловак?

Яна з рыдыкюля падала яму свой, назвала адрас.

- Ну, вось і ўсё, швагер! Да пабачэння, Людвіг, і. . . - яна ўсміхнулася, хоць у вачах блішчалі слёзы, - і беражы ж мой аловак, ліхадзей ты гэтакі.

Паштальён, едучы па вуліцах, падаваў вясёлы сігнал, але чаму гэта другія пасажыры

насмешліва паглядалі на Бетховена? Ну але, ён усё яшчэ махаў рукою, хоць паштовая станцыя з Жазефінаю даўно ўжо знікла з вачэй. Няўжо з вачэй знікла ўсё?

Чым далей ад'язджаў ён ад Прагі, ад п'янючай прывабнасці яе цела і яе істоты - раздзяліць адно ад другога было нельга, - ад яе пакоры і ласкавага клопату, тым хутчэй усё варочалася, набывала яшчэ большую выразнасць. Ва ўсім адкрываўся нейкі новы сэнс. Але ж нельга дазволіць, каб сэнс гэты быў іншы! Навошта ў яго тады сіла волі, сіла даволі незвычайная?! Якое імя яму далі аднойчы? «Увасобленая сіла!» І вось гэтая неадольная сіла ўзяла па сябе нават няшчасце яго глухаты, яго няўдачы. Ён быў страшыдла, а калісьці так называлі яго другую сімфонію, а ён тым часам стварыў, даў жыццё яшчэ большым страшыдлам, і сіла яго расла ў кожным і з кожным страшыдлам. Так, ён ужо «ўчапіўся лёсу ў пашчу», з усяе сілы, і гэтую сваю сілу, самую вялікую сілу, ён скарыстае і тут. З гэтага пункту гледжання яго рэчам не патрэбны ніякі іншы сэнс, і ўсё ж гэты іншы сэнс існаваў. Каханне, толькі каханне магло прынесці больш шчасця ў жыцці, і вось нарэшце, нарэшце валодае ён каханнем жанчыны, каханай жанчыны! Што ён думаў калісьці - хоць тое «каханне» да Джульеты ні ў якім разе нельга параўноўваць з каханнем да Жазефіны: што асталося б на высакароднае, добрае, калі б мне вось так прыйшлося выдаткоўваць жыццёвыя сілы ў жыцці, у неспакойным жыцці? А ў чым таямніца яго жыццёвай сілы? Аднастайнасць будняў, і яшчэ адзінота, але ён не дазваляў ні няўдачам, ні глухаце, ні другім сваім хваробам, клопату і бядзе заходзіць у сферы, дзе струменілася высакароднае і добрае!

Што з таго, што Жазефіна была з другімі мужчынамі? Ну, дык і ён не жыў як святы. І ўсё ж. . . шасцёра дзяцей. . . Усё ж сёе-тое вельмі ўжо заблытана. Ці не позна сёння? Трэба неадкладна напісаць Жазефіне. Яна ўжо напісала яму і па тым, што напісала, - скінула адразу пасля яго ад'езду з Прагі. . . маску смеласці і ўпэўненасці. Яна ў адчаі, і яго абавязак суцешыць яе. Прыехаўшы ў Карлсбад, яна павінна знайсці там яго пісьмо. Але што і як напісаць? Перад сабою ён бачыў гушчар, які яму трэба. . . адолець словамі. Якімі ж словамі?. .

Але напісаць трэба. Перад ім ляжаць некалькі аркушаў паперы. І ён пачаў пісаць:

«6 ліпеня, раніцаю.

Мой анёл, маё ўсё, маё я - сёння толькі некалькі слоў, і якраз тваім жа алоўкам - толькі да заўтра адрас мой вядомы дакладна. Якая ж марная трата часу ў падобных рэчах! Чаму гэты глыбокі смутак там, дзе пануе неабходнасць? Ці ж наша каханне можа існаваць цаною ахвяр, калі адмаўляцца ад яго паўнаты? Ці ж можаш ты перайначыць гэтае становішча, калі ты не цалкам мая, а я не цалкам твой? О божачка, паглядзі на цудоўную прыроду і супакой сваю душу на тым, што павінна быць. Каханне патрабуе ўсяго, і зусім справядліва: каб я быў з табою, а ты - са мною. Толькі ты легка забываеш, што я павінен жыць дзеля мяне і дзеля цябе. Калі б мы былі назаўсёды злучаны, то ты не ўспрымала б гэтага болю, як і я. - Маё падарожжа было жахлівае, я прыехаў сюды толькі ўчора раніцаю ў чатыры гадзіны, бо не хапіла коней, а пошта выбрала другую дарогу, але якая ж. . . »

Ужо другі аркуш спісаны яго парывістым почыркам, разабраць які часам не мог і ён сам, і тое, што ён раіць ёй глядзець на цудоўную прыроду, таксама толькі слабая ўцеха. . .

«. . . жахлівая дарога. На апошняй станцыі мяне перасцераглі не ехаць уначы цераз лес, але гэта толькі раздражніла мяне, і я памыліўся, карэта не магла не паламацца на гэтай дарозе, на жахлівайляснoй дарозе. Калі б не такія паштальёны, то я, напэўна, засеў бы па дарозе. Эстэргазі ў карэце, запрэжанай васьмю конямі, на другой, звычайнай дарозе меў такі ж лёс, як і я з чатырма - аднак я зноў зазнаў нямала прыемнага, - як заўсёды, калі я што-небудзь шчасліва адольваю. Цяпер хутчэй ад вонкавага да нутранога. Мы, мабыць, хутка ўбачымся. . . »

Чаму ён напісаў «мабыць» і паставіў пад знак запытання цвёрда абгаворaную сустрэчу?

«. . . і сёння я не магу сказаць табе сваіх заўваг аб маім жыцці апошнімі днямі, - але калі б нашы сэрцы былі заўсёды цесна злучаны адно з адным, я, бадай што, і не рабіў ніякіх заўваг. Грудзі перапоўнены словамі да цябе, ах - ёсць моманты, калі і я адчуваю, што мова тут нічога не дасць, - развесяліся, застанься маім верным, адзіным скарбам, усім для мяне, як і я для цябе. Астатняе няхай даруе нам бог - што нам трэба, што павінна быць.

Твой верны Людвіг».

Чатыры аркушы! Ён разглядаў іх з насцярогаю. Недасканалыя па стылю і пэўна з арфаграфічнымі памылкамі, хоць дзякуючы стараннай вучобе ў гэтых адносінах ён дасягнуў поспехаў. Але справа не ў гэтым. Пісьмо здалося яму занадта пустым! І. . . «застанься маім

верным, адзіным скарбам», гэта гучыць быццам. . . Увечары ён узяў новы ліст паперы і напісаў:

«Увечар, у панядзелак 6 ліпеня.

Як ты пакутуеш, самая мая дарагая істота - толькі цяпер я даведаўся, што лісты трэба аддаваць на пошту раніцаю. Панядзелак, чацвер - вось тыя адзіныя дні, калі пошта адсюль пасылаецца ў К. - Ты пакутуеш - ах, усгоды, дзе я знаходжуся, са мною ты, са мною і з табою гавару я, уяўляю, што магу жыць з табою. Якое жыццё!!! Дзіва!!! Без цябе - усюды ідзе за мною людская дабрата, якой я зусім не імкнуўся заслужыць і якой не заслужыў. . . »

Можа, лепш напісаць: «ідзе за мною адна толькі, да таго ж яшчэ дакучлівая прыхільнасць людзей»? Ён пісаў далей:

«Мне баліць ад уніжэння чалавека перад чалавекам.  І калі я разглядаю сябе ў сувязі з сусветам, што такое я і што такое той, каго завуць самым вялікім. . . і ўсё ж, зноў-такі, у гэтым боскі пачатак чалавека. Я плачу пры думцы, што ты, мабыць, атрымаеш першую вестачку ад мяне толькі ў суботу. Я кахаю цябе - як і ты мяне, толькі яшчэ больш моцна. Толькі не хавайся ад мяне. . . »

Гэта быў ранейшы кашмар, што зноў прыйдзецца шукаць яе ў густых туманах тыдняў, месяцаў і гадоў. . .

«. . . Добрай ночы. . . я, як кожны, хто прымае ванны, павінен ісці спаць. А божачка! Так блізка і так далёка! Ці ж гэта не сапраўдны нябесны палац - нашае каханне, і такі ж моцны, як і само неба».

Гаворка, адна гаворка, пра «самага вялікага» і пра «сусвет».  І гаворка крыху пяшчотная, лепет, дый толькі. Усё не вельмі пераканаўча, і таму наступнаю раніцаю ён зноў сеў пісаць. . .

«Добрай раніцы, 7 ліпеня.

Яшчэ ляжаў я ў ложку, а ў галаве поўна думак пра цябе, маю неўміручую каханку, часам радасных, а часам зноў сумных. Зноў і зноў пытаюся я ў лёсу, ці чуе ён нашыя просьбы. Я магу жыць толькі цалкам з табою, бо інакш мне жыцця няма. Я нават вырашыў да таго часу блукаць на чужыне, пакуль не з’явіцца магчымасць паляцець у твае абдымкі і быць там, як на сваёй радзіме, лашчыць маю душу, апавітую табою, у царстве духаў. Так, на жаль, гэта павінна быць, ты авалодаеш сабою, тым больш што ты ведаеш пра маю вернасць табе. Ніколі другая не завалодае маім сэрцам, ніколі, ніколі! А божачка, навошта ж трэба расставацца, калі так кахаеш адзін аднаго?  І ўсё ж жыццё маё ў В. поўнае клопату - як і цяпер. Тваё каханне робіць мяне адначасова самым шчаслівым і самым няшчасным чалавекам на свеце. У мае гады мне патрэбна цяпер пэўная аднастайнасць і спакой у жыцці - ці ж можа гэта быць пры нашых адносінах? - Анёлак, толькі што я даведаўся, што пошту адпраўляюць кожны дзень - і таму мне трэба канчаць пісьмо, каб ты магла атрымаць яго зараз жа. Не хвалюйся, бо толькі спакойнае разглядванне ўласнага існавання дазволіць нам дасягнуць нашай мэты - сумеснага жыцця. Не хвалюйся. . . кахай мяне. . . сёння. . . учора. Якая туга і якія слёзы па табе. . . табе. . . маё жыццё. . . маё ўсё! Бывай! Кахай мяне далей. . . ніколі не рабі памылковых вывадаў пра самае вернае сэрца

твайго закаханага Л.

Навекі твой, навекі мая, навекі належым адно аднаму».

Звузіліся вочы. Фразы? Не, плакала сэрца, і. . . паміж сапраўдным і зноў-такі занадта сентыментальным адажыо - удар кінжалам, развітанне назаўсёды! - Не, ён не можа вось так адаслаць гэтыя 10 аркушаў. Трэба выказаць гэта інакш.  І будзе лепш, больш смела і мужна, калі ён выкажа ўсё непасрэдна ёй. А можа, усё-такі напісаць пісьмо, лепшае, чым тое, што ён напісаў?. . Ніколі не прыходзілася пісаць нічога такога. . . цяжкага. Аркушы паперы ён схаваў у таемнай шуфлядцы канторкі - навошта? Ён і сам не ведаў гэтага. . .

- Гэтак рана выйшлі на праменад, мадэмуазель Зебальд? Адразу пасля дзесяці гадзін? Можа, у вас прызначана спатканне з каханкам? А я так спадзяваўся, што ім змагу стаць я. . .

- Гер ван Бетховен!

Ён схіліўся з падкрэсленаю ветлівасцю і гаварыў далей:

- . . . якога вы, варта толькі вам захацець, заўсёды маглі б трымаць у сваім сэрцы.

Дзяўчына ўзлавалася.

- Гер ван Бетховен, не пішыце мне больш запісак з такімі вершамі. Маме гэта не спадабалася.

Ён зарагатаў.

- Добрая мама! Прызнаюся, што запіскі могуць прывесці да ненаразуменняў, і вам проста трэба было спаслацца на. . . маю хваробу.

Бетховен пазнаёміўся з маладою спявачкаю з Берліна яшчэ летась і цяпер іграў ролю падкрэслена галантнага паклонніка і рыцара, ролю, якую яму навязвала занадта вялікая розніца ва ўзросце. Ён не адмаўляў, што яму падабалася блізкасць маладой дзяўчыны, бо маладосць, як кветкі, упрыгожвала яе. Чаму ж і яму не выказаць захаплення маладосцю і прыгажосцю?

Амалія Зебальд нясмела, але ўважліва, быццам правяраючы, паглядзела на яго.

- Няўжо лячэнне зусім не памагае?

Па прывычцы ён трымаў руку за вухам, спрабуючы па губах адгадаць сэнс яе слоў.

- Лячэнне бясспрэчна адмысловае, але ў мяне ўся праблема ў тым, што паны дактары ніяк не могуць знайсці грэчаскіх ці лацінскіх назваў маім хваробам, і таму вылечыць мяне практычна нельга. Каго вы тут шукаеце? Можа, я вам замінаю?

Яна збянтэжылася.

- Не. Скажу вам шчыра: сюды мяне прывяла цікаўнасць. Хачу пабачыць высокіх асоб - імператара Франца з жонкаю і Марыю Луізу, французскую імператрыцу, якім даводзіцца вельмі рана выпраўляцца ў дарогу, каб ім не дакучалі чужыя позіркі. . .

- Ах, і Марыя Луіза таксама тут?

- Яна прыехала заўчора.

- Ну пэўна ж, муж са сваімі арміямі выбраўся ў паход у Расію. Яна проста памірае ад тугі, астаўшыся без свайго архангела Гаўрыіла, на якога моліцца. А немаўля, кароль рымскі, таксама тут? Ну, дзіця тут ні пры чым. Граф Галенберг, муж графіні Джульеты Гвічардзі, нанісаў да яго хрышчэння нейкую там музыку.

- Прыехаў і канцлер граф Метэрніх і яшчэ шмат хто з дыпламатаў.

- Няўжо? Тады «высокія асобы», мусіць, і тут у Тэпліцы таксама »будуць «купацца» ў палітыцы, але гэтыя людзі мяне не цікавяць. Іх наогул магло б і не быць, і чалавецтва не вельмі шмат страціла б. Хоць з іх ліку я, мабыць, выключыў бы майго вучня эрцгерцага Рудольфа, калі яго можна яшчэ так зваць. Вы не хочаце прайсціся са мною да. . . Гётэ? Па-мойму, у яго з'явілася жаданне пазнаёміцца з такім кур'ёзам, як я - «з мядзведзь мядзведзем і дзікуном». Мяне ж усе лічаць нейкім нагрувашчаннем ненармальнасцей. - Скажыце, Амалія, калі вы ходзіце на вашу штодзённую прагулку? Можа, прыйдзеце ў дзве гадзіны сюды на праменад?

Амалія Зебальд з насмешліваю пакораю прысела ў паклоне.

- Добра, мой тыран. Мне вельмі карціць паслухаць што-небудзь пра Гётэ.

Нехта, відаць, камердынер, прыдзірліва агледзеў яго і, мусіць, так і не прыйшоў да вываду, да якой катэгорыі аднесці гэтага дзіўнага індывіда. Зблытаныя валасы, шырокі пляскаты нос, чырвоны, пабіты воспінамі твар з калючымі неспакойнымі вочкамі. Але да яго правасхадзіцельства прыходзіць такое мноства людзей.

- Вам прызначана сустрэча?

- Гер фон Гётэ ведае, што я прыйду.

Можа, гэта пастаўшчык, які нешта хацеў прапанаваць? Або антыквар? А можа, што верагодней, гэта артыст, які шукае месца? Мімы, асабліва дрэнныя мімы, часам паводзяць сябе вось гэтак шалёна-зухавата.

- Як ваша імя? Я далажу пра вас.

Бетховен сеў у плеценае крэсла, паглядзеў на дзверы, што зачыніліся за камердынерам. Няхай бы яны зараз зноў адчыніліся і гер фон Гётэ. . . Але жаданне не здзейснілася. Бамбукавым стэкам ён пастукаў па штанах, і шлейкі на іх нацягнуліся. Потым адкінуўся назад і падставіў твар сонцу. Прыемнае пачуццё, але разам з тым адчувалася нейкая стомленасць. Ён маргнуў і заплюшчыў вочы. Быццам аднекуль здалёк дайшла да яго музыка, уверцюра да «Эгманта». Чамусьці ўспомнілася напісанае раней пісьмо, успомнілася, як ён піша першыя яго словы: «Вена, 12 красавіка 1811 года». Але зараз хутка канец ліпеня 1812 года. «Ваша правасхадзіцельства! Беціна Брэнтана запэўніла мяне, што я знайду ў вас ласкавы, нават сардэчны прыём. Але ці ж магу я разлічваць на такі прыём, я, каторы толькі з найвялікшаю пашанаю, з невыказанаю, глыбокаю ўдзячнасцю за вашыя цудоўныя творы асмельваецца наблізіцца да вас? Хутка вы атрымаеце музыку да «Эгманта». І гэтак далей. «Вялікі паклоннік вашага правасхадзіцельства Людвіг ван Бетховен». Вялікі паклоннік? Вядома, гэта так. Але ж гэта і адна з тых формул ветлівасці, якімі людзі абменьваюцца ў пісьмах. Не, Гётэ гэта не

датычыцца: адказваючы, ён напісаў толькі «глыбокапаважаны гер» і дадаў некалькі прыгожых слоўцаў у стылі яго правасхадзіцельства. А яму, Бетховену, двойчы прыйшлося перапісваць сваё пісьмо, бо Цмескаль усё яшчэ знаходзіў у ім арфаграфічныя памылкі. Непрыемная работа, але, зрэшты, нельга ж так пісаць чалавеку, якога паклоннікі аб'явілі ўжо каралём паэтаў. . .

Можа, ён крышку і задрамаў, але раптам сон як рукою зняло. На сярэдзіне пакоя ён убачыў. . . статую. Крышку бронзавы твар чалавека, якому, што ні кажы, а ўжо шэсцьдзесят тры гады, прыгладжаны высакароднаю мудрасцю, непарушнаю гармоніяй, ён, як чысты, бліскучы акорд і. . . яшчэ штосьці, што адразу і не вызначыць. Бездакорны белы гальштук - Бетховен пацягнуўся да свайго, вядома, нядбайна скамечанага. Блакітны пінжак без ніводнай пылінкі, а чаго варты адзін даэст прыгожаю рукою! Куды б схаваць свае няўклюды-пальцы?

- Можа, вы сядзеце сюды, гер ван Бетховен?

Асілак? Не, зусім не, і ўсё ж ніколі яшчэ ён не здаваўся сабе такім маленькім і ніколі яшчэ яго не аддзяляла ад чалавека такое глыбокае бяздонне, на другім баку якога знаходзіўся гэты Апалон. . . У яго перахапіла дыханне. Так, гэты Апалон зрабіў ласку спусціцца да людзей і тым не менш аставаўся недасяжным на сваім Алімпе. А ён хто такі ў параўнанні з ім? Бетховен сеў, і Апалон прысеў побач.

- Мне не хацелася б адбіраць шмат часу ў вашага правасхадзіцельства. Хачу толькі папытацца ў вашага правасхадзіцельства, ці атрымалі вы нарэшце ад Брэйткопфа і Гертэля ноты да «Эгманта»?

Чалавек з Алімпа нешта адказаў, і ён гаварыў ні павольна, ні хутка, ні занадта ціха, ні занадта моцна. Што ён казаў, без цяжкасці можна было зразумець па губах.

- На жаль, нот я ўсё яшчэ не атрымаў, хоць ужо даўно мне карціць паслухаць вашу музыку ў выкананні нашай веймарскай тэатральнай капэлы. Я ўпэўнены, што яна прынясе мне асалоду.

Не зашмат і не замала. Кожнае слова глыбока ўзважана і. . . стварала гармонію. Не было для гэтага аніякай прычыны, але Бетховен раптам палажыў руку на вуха і нездаволена прахрыпеў:

- Магу я папрасіць вас гаварыць крыху гучней? Бо я, ваша правасхадзіцельства, даволі глухі.

Гётэ схаваў сваю збянтэжанасць гэтым, відавочна, недарэчным выразным афронтам. Яго вочы, вялікія, як сонца, сталі яшчэ большымі, і ён, відаць, са шчыраю спагадаю сказаў:

- Мне гаварылі пра гэта, гер ван Бетховен. Але на выгляд вы такі сабраны, здаровы. . .

- Выгляд маніць, ваша правасхадзіцельства. Я даволі чарвівы - я паўглухі, а гэта часам дакучае, і не толькі, калі размаўляеш, але і наогул. Асабліва музыканту. Вядома, прывыкаеш і да гэтага, як да воспін і чырвонага твару. Паглядзіце на мае пальцы. Яны кароткія, нейкія пляскатыя, а гэта перашкаджае мне іграць на маім любімым інструменце, на фартэпіяна. - Ён сам не разумеў сябе, але таемная сіла прымушала яго паказваць гэтай апалонавай дасканаласці і гармоніі ўсе знакі свае брыдкасці і сваіх недахопаў. У той жа час нейкая віхура, халодны шум якой ён у шалёным захапленні адчуў зноў, занесла яго на. . . другі бок бяздоння, адкуль ён з выклікам пазіраў на свайго візаві. У галаву прыйшлі словы Ахіла пры сустрэчы з Гектарам: «Глядзі сабе колькі ўлезе!»

У думках паўтарыў гэтыя словы, у якіх цяпер загучала раптам новае. Але не ціканне метранома гера Мельцэля, а такт, з якім молаты білі па кавадле. І вось - з свае майстэрні, выйшаў другі бог, кульгавы, непрыгожы, выціраючы рукі аб чорны ад сажы скураны фартух. Гэта ж Гефест! Бог, непрывычны да сонца, скасавурыў вочы на Алімп: бо яго горан і майстэрня, дзе каваў ён іскрысты бляск начных зорак, знаходзіліся пад Этнаю; а яна з грымучага свайго жарала ў зіхоткім Апалонавым святле вывешвала чорныя сцягі, часам нават выкідвала вялізныя абломкі скалаў, якія яму, богу, былі толькі як пагаслыя ці сатлелыя іскры, што разлятаюцца з яго кавадла! Ён, Апалонаў брат, таксама мастак, хоць па сваёй прыродзе і не такі. А другі брат, маці якога, Земеле, Зеўс ператварыў у попел? Эваё, эваё! Менады і дэманы скакалі наўкол калясніцы Дыяніса, запрэжанай пантэрамі! Ці ж не выціскаў ён, Бетховен, у восьмай сімфоніі пад ціканне апарата гера Мельцэля віно для людзей, хоць яго сэрца на часткі рвалі пантэры гора? Эваё, эваё - даспехі Ахіла, выкаваныя Гефестам! Што ж, глядзі сабе колькі ўлезе!

У ім узнікла пачуццё раскаяння, бо падумалася, што і ён адзін з гэтых дужых; і таму неяк вінавата ён папытаўся:

- Гер фон Гётэ, можа, вам будзе прыемна, калі я што-небудзь сыграю? Мае сябры кажуць, што на фартэпіяна я сёе-тое умею. Аднак мае непрыяцелі. . .

Бездакорна прыгожая рука Гётэ асцярожна дакранулася да яго грубаватай рукі.

- У каго з нас няма непрыяцеляў, да таго ж яны заўсёды ў большасці. . . - Апалон давольна засмяяўся. - Некаторыя ацэнкі мае асобы я ўсё яшчэ трымаю ў галаве, як вестуноў шчасця. Вам не надакучыць, гер ван Бетховен, калі я раскажу цяпер што-небудзь пра гэта?

Ён сказаў «з нас».

- Ну што вы, ваша правасхадзіцельства. . .

- У мяне не манія, але я ахвотна расказваю пра гэта. Фрыдрых Якобі, прэзідэнт Мюнхенскай акадэміі, пазнаёміўшыся з маімі творчымі спробамі, ужо ў васьмідзесятым годзе назваў мяне самазадаволеным, агідным і нікчэмным фарсуяом і на векі вечныя павярнуўся да мяне спінаю, як, на яго думку, і ўсе прыстойныя людзі нашай нацыі.  І калі вы сёння прыйшлі сюды, так сказаць, з-за нейкай прыхільнасці да мяне, то прыйшлі вы не да прыстойнага чалавека.

Бетховен у захапленні прахрыпеў:

- Як-небудзь стрываю. А я тады ўжо паспеў праваліцца на першым публічным канцэрце.

- Слухайце далей. Я папрасіў Ёгана Генрыха Фоса прагледзець майго «Райнеке Ліса», і ён сказаў потым, што вымушаны быў падкрэсліваць кожны мой гекзаметр. Клопштак - ну так, гер ван Бетховен, усё-такі гэта імёны, якія штосьці значаць! - рэзка выступіў супраць маёй «Іфігеніі», а гер Іфланд назваў яе банальнаю рэччу. Вы знаёмы з «Іфігеніяй»?

- На жаль, не, ваша правасхадзіцельства.

Гётэ паглядзеў на Бетховена, і ў яго позірку не было неадабрэння.

- Адказваеце вы коратка, але праўдзіва, і таму і мне цяпер лягчэй прызнацца, што і я не вельмі добра ведаю вашу музыку. - Абодва засмяяліся. - Між іншым, сёння раніцаю мне выпадкова нагадалі, што сказаў гер фон Шпаўн пра майго «Фауста»: «Кожны, хто хоць крышку напрактыкаваўся ў механіцы вершаскладання, убачыць, што гер фон Гётэ вельмі дрэнны рыфмаплёт. На працягу апошніх стагоддзяў не было нічога, што можна параўнаць з гэтым пралогам - у сэнсе саманадзейнага ўбоства».  І яшчэ: «Бедны Фауст гаворыць нейкую зусім незразумелую тарабаршчыну самымі дрэннымі рыфмамі, якія наогул калі-небудзь рабіліся вучнямі ў пятым класе гімназіі. Калі б я пісаў такія дрэнныя вершы, то мой дамашні настаўнік адлупцаваў бы мяне як след па адным месцы. Хворы, трызнячы ў гарачцы, балбоча далёка не такую лухту, як Гётэў Фаўст».

-  І гэта кажуць пра вашага цудоўнага «Фауста»! Мне хочацца напісаць да яго музыку, такую музыку. . . - Трэба было спачатку знайсці. . . прыдатнае слова: - Можа, і мой настаўнік таксама адлупцуе мяне як след па адным месцы за гэтую музыку. Не, мой настаўнік не зробіць гэтага. Ён даўно ўжо ў магіле, і каб ушанаваць яго, я назаву вам, ваша правасхадзіцельства, яго імя: Крысціян Готліб Нефе.

- Гер ван Бетховен, называючы гэтае імя, вы ушаноўваеце і мяне, ды і самога сябе таксама.

- Ну што вы? Але гаварыць гэтак пра вашага «Фауста»! Абавязкова вазьмуся за музыку да «Фаўста»! Праўда, працы тут будзе хоць адбаўляй. Але сёе-тое павінна выйсці. Як я Ўдзячны Беціне Брэнтана, - ён паправіўся, - фраў фон Арнім, што яна тады дала мне «Фауста».

Але што ён бачыць? Гётэвы вочы быццам выструменьваюць нейкую няўцешнасць, і ён адразу ж пераводзіць размову на другую тэму.

- Я ўжо пісаў вам, з якою прыемнасцю я паслухаў бы, як вы іграеце, гер ван Бетховен.

Той ускочыў з месца.

- Можа, сёння ўвечары? У мяне нядрэнны для Тэпліца раяль.

- Хай будзе сёння ўвечары. Вам падыдзе ў восем гадзін?

Варочаючыся, Бетховен задумаўся. Што яму сыграць? Вялікаму чалавеку трэба іграць нешта вялікае. Лепш за ўсё імправізацыю, фантазію з дымоў-сцягоў, што вырываліся з Этны, прэлюдыю да «Фауста», - з абломкаў скалаў, якія ён выкідваў. Якімі непрыступнымі зрабіліся яго вочы, калі прагучала імя Беціны! Значыцца, чуткі ўсё-такі не маняць, што Гётэ і яго жонка Крысціяна раз і назаўсёды забаранілі Арнімам бываць у сябе, Беціне і яе мужу, з-за неўтаймаванага - як тут лепш сказаць? - ну, жадання разносіць плёткі. Як зычліва прыняў яго гэты вялікі чалавек, з якою спагадаю і якім даверам. Пачуццё нейкага шалёнага шчасця

перапоўніла яго.

Дзіўна, як рэзка мог мяняцца настрой. Сонца выпраменьвала цяпло, і ўсё ж яго святло здалося яму надта халодным. Ён усёю душою прагнуў суцяшэння ў адзіноце.

Ну, пэўна ж, у механіцы, сваёй спецыяльнасці, гер Мельцэль дамогся пэўных поспехаў. Але ў спецыяльнасці прываблiваць людзей, выцягваць з іх кішэняў грошы, ён быў проста віртуозам. У страшэнна халодную зіму 1812- 1813 гадоў, здаецца, насуперак развазе, ён адкрыў выстаўку ў зале, якая нават не ацяплялася. Знаёмыя казалі яму:

- Гер Мельцэль, вось чаго мы ад усяго сэрца зычым у Расіі Напалеону. . .

Маленькі рухавы чалавек у адказ усміхаўся:

- Не хвалюйцеся! Я сваіх гасцей ужо сагрэю. За ўваход - адзін гульдэн.

- Вам, гер ван Бетховен, за ўваход плаціць не трэба. Прыйдзіце, калі ласка, сёння вечарам без чвэрткі дзесяць. У мяне тады апошні паказ. Пасля яго мы зойдзем у майстэрню, і там я пакажу вам нешта яшчэ.

Прасторная зала аж чарнела ад людзей. Такога збору ён, Бетховен, не меў яшчэ ніколі. Людзі разглядалі мармуровыя статуі, бронзавыя статуэткі, карціны, igралі на электрастатычнай машыне, ведаючы, што ўсё гэта толькі аправа, і чакалі. Нарэшце час, відаць, прыйшоў. Гер Мельцэль падаў сваім памочнікам знак, па якім патушылі большасць свечак. Сам ён сеў да раяля перад ужо вядомаю Бетховену скрыняю, механічным трубачом. Адзін з памочнікаў падняў заслону, і позірку прысутных адкрылася дыярама памерамі з маленькую сцэну, пластычная карціна нажару Масквы летась з 15 па 20 верасня. Асобныя празрыстыя кулісы асвятляла хісткае полымя свечак, і гэта стварала яшчэ большую ілюзію праўдападобнасці. Неба складалася з неверагодных дымных ніцей, якія выгіналіся, знізу былі вострыя, а ўгору разыходзіліся змрочнымі клубамі дыму. Увесь небасхіл палаў агнём, за выключэннем адной чорнай, нейкай пагрозлівай мясціны, якая зеўрала, як уваход да пекла.

Перад гэтым уваходам, як здані, падымаліся крамлёўскія вежы, некранутыя агнём, маўклівыя, глухія, як каменне, і тым не менш яны як бы гаварылі: «Ідзіце ў гэтую праваліну за мною! Я - сфінкс сярод краін свету! Заходзьце, заходзьце, хоць мне калі-нікалі і прыходзіцца плакаць, але смяяцца, зрэшты, буду я, толькі я!. . »

Наведнікі не маглі адарваць воч ад карціны. Падзеі, адлюстраваныя на ёй, былі ім добра вядомы. Карсіканец пераможна ўварваўся ў Расію, але 7 верасня 1812 года каля Барадзіно старое баявое шчасце пачало яму здраджваць. Хоць яму і ўдалося перайсці на другі бераг Масквы, але незлічоныя мерцвякі вялікай арміі ўслалі яе берагі, а стомленыя, параненыя салдаты пайшлі далей да Масквы, да аазіса, які абяцаў ім спакой, адпачынак, папраўку здароўя, зімнія кватэры, а можа, і пераможны канец вайны. Потым сярод ночы ўзышло агністае сонца. Пайшлі чуткі, што Маскву загадаў запаліць сам фельдмаршал князь Міхаіл Кутузаў. А тут мароз, якога не помнілі нават жыхары Расіі.

Французскія салдаты, адзетыя ў рызманы, ледзь перастаўлялі ногі, літаральна паўзлі дадому, але казакі не давалі ім спакою. Пасля жахлівай пераправы цераз Бярэзіну ў Напалеона з 600 000 чалавек 552 000 або загінулі, або былі ўзяты ў палон, а сам імператар потайкі ўцёк у Парыж.

У нутры механічнага трубача загрукала, і вось ён зноў зайграў французскі кавалерыйскі марш. Пачаў іграць на раялі і гер Мельцэль. Але раптам. . . што гэта такое? Гукі клерона пачалі цішэць - яны то зусім прападалі, то пераходзілі ў нейкі піск. Потым у апараце нешта загрукала, і, пстрыкнуўшы, ён змоўк зусім.

Гер Мельцэль схіліўся ў паклоне.

- Шаноўная публіка! Пані і панове! Вымушаны папрасіць у вас прабачэння за гэтае непаразуменне. У механічнага трубача штосьці не ў парадку. Прашу вінаваціць не мяне, а толькі няспраўнасць механічнага трубача, машыны, у якой няма розуму.

Яго зразумелі. Хоць бы мускул варухнуўся ў каго-небудзь на твары. Спатрэбілася невялічкае ўмяшанне, і механічнаму трубачу, які толькі што ганарыста выводзіў кавалерыйскі марш, стала цяжка дыхаць. Дыхаць, мабыць, і ў будучым лягчэй не стане, бо ў Таўрогене прускі генерал Йорк заключыў з рускімі канвенцыю. А Аўстрыя?. . Хто ж мог разгадаць гульню гера Метэрніха? Прынамсі, не выключатіа магчымасць, што ў зале было некалькі яго шпіёнаў. Трэба быць асцярожным. Натоўп моўчкі пакінуў выстаўку.

На нежывыя вокны фартэпіяннай фабрыкі Штэйна падала слабае святло месяца. Мельцэль адамкнуў дзверы.

- Стойце, гер ван Бетховен. Спачатку трэба запаліць ліхтар, і таму я прайду наперад.

Наверсе ў майстэрні ён паставіў ліхтар на стол.

- Няўжо я нягоднік? Я ж, як вам вядома, і сам патрыёт. Але няўжо гэта павінна перашкаджаць мне атрымліваць грошы, выкарыстоўваючы нянавісць да карсіканца?

З-пад паліто ён дастаў скураны кашалёк і, развязаўшы яго, высыпаў на стол грошы.

- Можна мне хуценька палічыць выручку?

І ён пачаў складваць грошы слупкамі, якіх рабілася ўсё больш, і Бетховен не мог схаваць здзіўлення:

- Няўжо ім канца няма?

Мельцэль лёгенька паляпаў пальцамі па сярэбраных слупках.

- Я іх усе складаю радамі па дзесяць штук. Атрымліваецца добры батальён салдат. Галоўнае - у ідэі. Бачце, пластычная карціна з пажарам Масквы ідэя нядрэнная, але ўсё-такі важней, мабыць, думка перабіць у патрэбны момант гучанне гэтага гордага французскага кавалерыйскага марша.

Ён спыніў позірк на грашах.

- Шэсцьсот за дзень, калі адкінуць усе выдаткі.

Бетховен паматаў галавою.

- Мне здаецца, што я безнадзейны дурань. Мельцэль адкінуўся назад.

- Як кампазітар - не, гер ван Бетховен. Вы ведаеце, што я любую вашу ноту цаню вышэй за ўсё, што пішуць тут у Вене ўсе другія так званыя паны кампазітары. Але аднаго мастацтва, аднаго генія мала. Усё гэта трэба яшчэ прыстасаваць да гандлю. Вось у мяне і з’явілася смелая ідэя, а. . . вас мучыць гора. Трэба ж князю Кінскаму зваліцца з каня і зламаць шыю! Скажыце па сакрэту - нас слухае толькі гэты ліхтар: як у вас з грашыма?

Бетховен не адказаў, і Мельцэль кіўнуў галавою.

- Я так сабе і думаў. Вам памогуць пяцьсот гульдэнаў?

Ён пачаў зграбаць грошы ў скураны кашалёк.

- Але кашалёк, калі ласка, мне вярніце.

- Мельцэль! Як я магу. . .

- Механічны трубач заўтра зноў чаго-небудзь ды насыпле мне ў кашалёк. Між іншым, вечар у «Вярблюдзе» прайшоў весела. Хоць з майго падарожжа ў Англію нічога не выйтла, але мы, прынамсі, слаўна адзначылі мой «ад’езд». І ваш многагалосы канон, які вы зымправізавалі за сталом, - цудоўны; высокі голас гучаў па майму музычнаму хранометру. Ён разам з тым і тэма алегрэта з вашай Восьмая сімфоніі; тэма гэтая, напэўна, паходзіць ад майго хранометра, а той у сваю чаргу ўзнік дзякуючы вашым ідэям, і тут трэба мець на ўвазе яшчэ наступнае: нізкі голас на тэкст: «Дарагі Мельцэль, бывайце, чараўнік часу, вялікі метраном». Гер ван Бетховен, на маю думку, вы знайшлі выдатнае імя майму апарату: «Метраном».

- Зараз я пакажу вам пангарманікон, лепшага сына свайго маленькага бацькі, імя якога «механічны трубач».

Ён асвятліў вялізную скрыню памерамі, мабыць, каля дзесяці футаў у даўжыню і дванаццаць футаў у вышыню. Нават у шырышо была яна незвычайна вялікая: сем ці восем футаў.

Скрыню ўпрыгожвалі белыя і залатыя арабескі.

- Гэта і ёсць мой пангарманікон. Іграць на ім я магу толькі ўначы, калі ў доме няма нікога больш. У ім некалькі труб, барабанаў, флейт, кларнетаў, габояў, талерак, трохвугольнікаў і сяготаго іншага. На жаль, я яшчэ не дадумаўся, як там уладкаваць струнныя інструменты. Рашэнне пакуль што не прыходзіць мне ў галаву. Ну, а цяпер у вага! Прыйдзецца вытрываць невялічкае землетрасенне, гер ван Бетховен, але дом моцны і не абрушыцца.

Калі пангарманікон адгрукатаў, адбарабаніў, адгудзеў і адбушаваў да канца, Бетховен доўга не мог апамятацца ад смеху.

- І ўсё-такі вы нягоднік, Мельцэль! Гайдн перавернецца ў труне. Падумаць толькі: узяць яго ваенны марш!

- Але ён мне не вельмі падабаецца. У мяне ёсць яшчэ адзін валік з уверцюрай да «Лодаіска» Керубіні, але і ён. . . Тут трэба другая, больш магутная музыка. Вы не згадзіліся б

напісаць што-небудзь для майго пангарманікона?

- Вы сур’ёзна?

І зноў пачаліся схваткі.

Шырока расплюшчаныя Жазефініны вочы зрабіліся ад болю нейкімі ліхаманкавымі, як у вар’ята, спыніліся на сястры.

- Якая цяпер гадзіна?

- Хутка дзесяць, Пепі. - Тэрэза выцерла ёй пот з ілба, але Жазефіна адштурхнула яе руку.

- Якое сёння чысло? Мне хочацца ведаць, калі нарадзілася яго дзіця, калі будзе ягоны дзень нараджэння!

- Сёння восьмага красавіка тысяча восемсот трынаццатага года.

Новы прыступ болю авалодаў ёю.

- Божачка, пакарай мяне. . . за мае грахі. . . і гэта цягнецца ўжо ўвесь дзень, цэлы дзень! Ніводнае дзіця не прычыняла мне гэтулькі болю. . . і ўсё ж гэта, мабыць, толькі частачка болю, які яму прычыніла я! Але як я рада дзіцятку! Як мне хочацца яго! Тэрэза, завяжы мне рот, каб я не называла, не выгуквала яго імя - і ідзі цяпер, Тэрэза, калі ласка, ідзі, я хачу астацца адна з Мар’яй. З ёй я магу гаварыць і крычаць колькі ўлезе і што хачу. Бо яна разумев толькі па-венгерску. Мар’я!

Старая венгерка падышла бліжэй, і ўсмешка на яе маршчыністым твары мусіла выказваць упэўненасць. Яна бабіла ў графіні Дэйм, а цяпер яе пазвалі да баранесы фон Штакельберг.

Калі гадзіннік прабіў дзесяць гадзін, Мар’я адчыніла дзверы ў суседні пакой, дзе чакала Тэрэза, і сказала па-венгерску:

- Дзяўчынка, найміласцівейшая графіня.

Тэрэза цухенька падалася да сестрынога ложка.

- Ну, вось і на гэты раз усё абышлося, Пепі. Жазефіна расплюшчыла вочы, і на яе губах, што з лёгкім хрыпам усё яшчэ выдыхалі паветра, з’явілася сумная ўсмешка, праз якую праглядвала мужнасць.

- Не, цяпер. . . усё толькі пачынаецца, каханенькая.

- Вельмі дужае дзіця, Пепі.

- Яго дзіця павінна быць дужым! - Жазефіна не магла адарваць ад яго воч. - Бо яно - дзіця ганьбы, хоць я і не лічу сябе грэшніцаю.

- Я буду вельмі любіць яго, Пепі.

- Ты ж любіш усіх маіх дзяцей, Тэрэза, але гэтае ты павінна палюбіць асабліва моцна, усім сваім сэрцам.

Сястрыны вочы напоўніліся слязамі.

- Вядома, Пепі.

Жазефіна ласкава пагладзіла лобік дачкі.

- Зірні, у яе яго валасы, хоць гэта хутчэй яшчэ пушок, га? Ах, як хочацца верыць, што дзіцятка будзе шчаслівае ј без бацькі, з адною толькі баранесаю фон Штакельберг. Але затое ў яго будзе дзве сапраўдныя мацеры.

- Пепі, можа, Штакельберг усё ж захоча развесціся?

- На развод ён не пойдзе. Я напісала яму пра ўсё даволі ясна, зразумела, не аддаючы сябе ў яго рукі, але ж ён лічыць можа; а калі б ён і распачаў справу аб разводзе. . . І ў Празе, ды і ў Карлсбадзе я, па-мойму, добра зразумела: Людвіг кахае мяне, але тым не менш паміж намі - прорва, мае дзеці ад другіх мужчын. А яны адбяруць так патрэбны яму для музыкі спакой.

Тэрэза расчулена сціснула сястрыну руку.

- Пепі, слухай, што я хачу параіць вам. Выхаванне дзяцей Дэйма і Штакельберга я вазьму на сябе.

- Нават калі б я і згадзілася, Тэрэза. . . але тады б я была дрэнная маці, дый. . не ў адных дзецях справа. Занадта ўжо часта я здраджвала яму. А ён быў такі верны, такі высакародны, і я хачу цяпер аддзякаваць яму тым жа. Я ніколі не патрывожу яго, і ён ніколі не даведаецца, што ў яго ёсць дачка, бо інакш. . .

- Калі ўявіць, што жыве ён толькі некалькі крокаў адсюль. . . Не думаеш ты, што паводзіш з ім сябе занадта жорстка?

- Яшчэ больш жорстка да сябе самой, Тэрэза. - Жазефіна ўсміхнулася. - А ты ведаеш, між іншым, як я назаву яго дачку? Міньёнай. Помніш партрэт пані ў старэнькім карункавым

каптурыку ў галерэі фамільных партрэтаў у Мартанвашары? Гэта, тым часам, напамінак. . . пра пасмачку валасоў, якую ён так любіў, Тэрэза. Наш продак Міньёна заўсёды лічылася гордасцю Брунсвікаў, а яна - паводле падання - таксама ж усяго толькі дзіця ганьбы.

Тэрэза кіўнула.

- Незаконная дачка караля.

Жазефіна прыцягнула да сябе маленькі скрутачак.

- Як і ты, мая маленькая Міньёна.

Бетховен увайшоў, трымаючы ў левай выцягнутай руцэ цыліндр, а ў правай - стэк, якім адбіваў такт. Пакланіўся.

- Прабачце, ваша імператарская высокасць. Я ведаю, што нарушаю прыдворны этыкет, але сёння ў мяне не ўсё на месцы.

Эрцгерцаг Рудольф устаў.

- І ў мяне тое ж самае, маэстра. Прыходзіцца вось вывучаць пандэкты, царкоўнае права. Шкада рабіць гэта ў такі цудоўны летні дзень, нават калі б і не было перамогі пры Віторыі. - Прынц пагладзіў свой вузкі, сёння нейкі змучаны твар. - Скажыце, праўда, што народ скача на вуліцах? Зразумейце мяне правільна. Вядома ж, і я рады перамозе Велінгтона пры Віторыі, рады за іспанцаў, якія пасля столькіх гадоў гераічнай барацьбы супраць французскіх войск заслужыл! гэтае Віторыі - я нават рады за ўсіх нас і спадзяюся, што Віторыя (Перамога (ісп. )) - nomen est omen (Імя аб чымсьці ўжо гаворыць (лац. )) - пасля Масквы наступны крок да нашай вялікай перамогі, але - хай даруе мне бог!

Бетховен асцярожна палажыў цыліндр і стэк.

- Прабачце, прынц. Я не падумаў пра гэта.

- І правільна зрабілі, маэстра. І я таксама скакаў бы - хоць гэта мне і не да твару, як будучаму архібіскупу, - калі. . . ну але, калі б Марыя Луіза не была яго жонкаю. Палітыка - брудная рэч, калі пры гэтым прадаюцца цэлыя народы.

Памаўчаўшы нейкі момант, Бетховен папытаўся:

- Можа, сёння не будзем рабіць урока?

- Чаму не будзем? - Рудольф паспрабаваў усміхнуцца. - Але спачатку, маэстра, урок дам вам я. Імператрыца аб вас дрэннай думкі - за пісьмо, якое вы летась у жніўні ў Тэпліцы напісалі нейкай фраў фон Арнім.

Бетховен здзіўлена падняў бровы.

- Фраў фон Арнім? Але я даўно ўжо не перапісваюся з ёю.

Рудольф кіўнуў галавою.

- Прызнацца, так я і думаў, але ўсё ж прачытаю вам corpus del Ict I (Рэчавы доказ (лац. )). Значыцца, вышэйназваная дама наслала «копію» вашага пісьма князю Пюклер-Мускаў, а той копію гэтай «копіі» сюды. Вось паслухайце: «Каралі і князі могуць, мабыць, рабіць прафесараў, але вялікіх людзей, геніяў, што ўздымаюцца над натоўпам, яны рабіць не могуць, і ім гэта, відаць, ніколі не ўдасца. Таму трэба трымаць іх у павазе да сябе. . . »

Бетховен паматаў галавою.

- З апошнім сказам я не зусім згодзен, але што напісана ўпачатку, то яно сапраўды адпавядае маім перакананням. І зусім можа быць, што я калі-небудзь гаварыў такое Беціне Брэнтана, якая цяпер завецца фраў фон Арнім. Але напісаць гэта? Ніколі!

- Паслухайце далей: «Калі сыходзяцца разам два такія чалавекі, як я і Гётэ, то і ўладныя людзі павінны заўважыць, што можа лічыцца вялікім у такіх, як мы. Учора, вяртаючыся дадому, мы сустрэлі ўсю імператарскую сям’ю. . . »

- У Тэпліцы? Я там з ёю ніколі не сустракаўся.

Рудольф засмяяўся.

- Бо вы стараліся не трапляцца ёй па дарозе! Бетховен паспрабаваў апраўдацца.

- Што было, то было. Вы ж ведаеце, прынц, прыдворнае паветра. . . Кожны раз, калі я іду сюды, мне перад гэтым прыходзіцца літаральна праглынуць клубок шэрсці. Але варта мне толькі папасці сюды, да вас, як я пачынаю адчуваць сябе вельмі добра.

Прынцавы вочы засвяціліся.

- Вельмі рады чуць гэта, але. . . цяпер я ўсё ж вымушаны папрасіць вас і ў мяне прытрымлівацца правіл прыдворнага этыкету і не перабіваць ўвесь час, калі я чытаю. А далей, значыцца, вось што напісана: «Здалёк ўбачылі яе набліжэнне - гэта значыць, імператарскае

сям’і, і Гётэ адышоў ад мяне ўбок, каб стаць на абочыну дарогі. Што я яму ні гаварыў, але прымусіць яго крануцца з месца ніяк не мог. Тады я ніяжэй насунуў на галаву цыліндр, зашпіліў сурдут і, склаўшы на грудзях рукі, пайшоў пасярод гэтага натоўпу. Князі і падлізнікі стаялі шпалерамі, а эрцгерцаг Рудольф зняў капялюш. . . »

- Але ж вас нават і не было ў Тэпліцы!

- Праўда, не было. Але слухайце далей: «Высокія Панове мяне ведаюць. К майму вялікаму задавальненню, я ўбачыў, як уся працэсія прадэфіліравала міма Гётэ. Зняўшы капялюш, ён застыў у глыбокім паклоне на абочыне дарогі. Потым я яму даў добрага дыхту. Я не спусціў яму нічога і ўспомніў усе яго грахі».

Бетховен абурыўся.

- Я нястрыманы, праўда, і часам мне не хочацца прытрымлівацца якіх-небудзь правілаў. Навошта? Я ж калі-нікалі ўсё-такі стаўлю сябе крышку вышэй усяго гэтага зброду. Аднойчы ў кампаніі я назваў аднаго графа і адну графіню «свіннямі» і да сённяшняга дня не папрасіў у іх прабачэння, бо было б гэта маною. Я і ў князя Ліхноўскага не папрасіў прабачэння.

- Але ж пасля Тэпліца вы зноў паехалі да яго ў Грэц, дзе калісьці хацелі разбіць яму чэрап.

- Праўду кажаце. Бо князь Ліхноўскі сам папрасіў у мяне прабачэння. Прынц, вы былі і застаецеся адзіным чалавекам, які не перастае выплачваць мне сваю долю пасля гэтага выдатнага фінансавага патэнта. Вы сардэчна прымаеце мяне тут, калі я прыходжу да вас. . .

Прынц уздыхнуў.

- Праўда, калі вы прыходзіце, маэстра.

- Вы робіце захады, каб тут у Шонбруне выконваліся мае Сёмая і Восьмая сімфоніі! Калі б я так рэзка абыніоўся ў Тэпліцы з імператарскаю сям’ёю, то з майго боку было б гэта не толькі глупства, а і няўдзячнасць - да вас! А я сябе магу ўнікнуць усім, толькі не гэтым! Гётэ? Прызнаюся, што нашы з Гётэ адносіны не сталі блізкімі, хоць ён і спагадліва паставіўся да мяне, да мае глухаты. Толькі. . . гэтае халоднае прыдворнае паветра. І тым не менш, чаму гэтай жанчыне Беціне прыйшло ў галаву прыпісваць мне такое пісьмо? - Раптам ён ляпнуў сабе па лбе, і ў яго ўсмешцы прагучала віртуозная кадэнцыя. - Гэтая маленькая злосная змяючка з мінаю сібілы! Мне здаецца, што я знаю адказ на пытанне! Гётэ і яго жонка Крысціяна летась вясною забаранілі Арнімам прыходзіць да іх. Каб не было плётак. І Беціна адпомсціла за гэта! Летась Арнімы нават не ездзілі ў Тэпліц, але ці ж цяжка даведацца, калі там на водах бывае імператарская сям’я. Гэтая вядзьмарка!

Засмяяўся і Рудольф.

- Ад тэпліцкай хеўры можна ўсяго чакаць! Але я рады, маэстра, што з самага пачатку быў на вашым баку. І не падумайце толькі напісаць гнеўнае пісьмо гэтай даме. Я пагавару з імператрыцай, і будзе лепш, калі мы ўсё забудзем. Ёсць лацінская прыказка: «Semper al Iqu Id haeret - што-небудзь, ды астанецца», а ў вас пры двары хапае ворагаў.

- Зайздроснікі! Падлізнікі!

- Вядома, толькі бывае, што падлізнікі мацней за эрцгерцагаў. Не забывайце, што нават мне не далі на ваш канцэрт універсітэцкай залы. І наогул невядома, будзе тут, у Шонбруне, канцэрт ці ўсё закончыцца рэпетыцыямі Сёмай і Восьмай сімфоній. Калі б, прынамсі, ведаць, з якога боку грызуць пацукі. . .

Гер Ёган Непамук Мельцэль, як заўсёды, утрапёна працаваў. Стукаў малатком, літаваў, пілаваў, і здавалася, што ўсё ён робіць адначасова. Цяпер ён, уключыўшы галасы ражкоў, варажыў над мяхамі. А потым ударылі літаўры. Убачыўшы Бетховена, ён выйшаў з-за пангарманікона.

- Працуе! Бачыце, у мяне дрыжаць рукі і ад радасці, і ад таго, што хочацца хутчэй скончыць. Я якраз заняты ў сваёй бітве пры Віторыі, а тут і вы прыйшлі. - Разумныя, рухавыя Мельцэлевы вочы насцярожыліся. - Усё прапала, гер ван Бетховен?

- Хай іх чэрці возьмуць! Мельцэль, я магу сказаць гэта адкрыта.

- Чаго-небудзь іншага ад вас я - не чакаю, бо я ўсё-такі ваш сябра і верны паклоннік вашае музыкі. І вы ведаеце, што гэта не проста кампліменты. Ну, што здарылася на гэты раз?

Бетховен горка засмяяўся.

- Бачыце, і я таксама рыхтаваўся да свае бітвы пры Віторыі. Абгаварылі ўсё з эрцгерцагам. Збіраліся ўжо перад імператарскім дваром у Шонбруне сыграць Сёмую і Восьмую

сімфоніі, і тут нейкія пацукі перагрызлі нам нітку.

Мельцэль зрабіў выгляд, што ўважліва разглядае рукі.

- Я маю магчымасць і хачу цяпер прапанаваць вам другую бітву пры Віторыі. Паабяцайце не ламаць мне нічога ў майстэрні, калі я адкрыю вам свой план. Вы ж ішлі па венскіх вуліцах, бачылі захапленне ад весткі пра перамогу, і так, мабыць, яно было і ў Мюнхене, і ў Берліне, і ў Англіі, і ў Мадрыдзе, і дзе хочаце. Усюды паднімаецца народ. Людзі ахвяруюць грошы на жалеза, на гарматы, на ружжы. Я хацеў бы падтрымаць гэты патрыятызм. Ат, усё роўна скажу! Не завіце мяне, калі ласка, цынікам, гер ван Бетховен, але. . . адной любоўю да свайго народа, аднымі ідэямі пражыць нельга. Чаго вы толькі не ахвяравалі венцам, а ўдзячнасць дзе, дзе прызнанне?

Бетховен сціснуў кулакі.

- Вы цалкам маеце рацыю, Мельцэль! Для графскіх і княжацкіх нягоднікаў астаешся - мала каго выключаючы! - усяго толькі музыкантам-камердынерам! Завуць цябе, калі трэба весяліць публіку, і выкідаюць, калі няма больш патрэбы ў музычнай раскошы. Цяпер я вяду працэс з наследнікамі Кінскага і з тымі, хто запраўляе конкурснаю маёмасцю Лобкавіца! Я быў аслом, калі даў асляпіць сябе паказным бляскам!

Мельцэль, здавалася, паглыбіўся ў вывучэнне пангарманікона.

- Маёй машыне патрэбна цяпер батальная музыка. У мяне ў галаве ўжо і назва круціцца: «Перамога Велінгтона ў бітве пры Віторыі». Вось так прыкладна павінна яна звацца.

- Няўжо вы чакаеце, што гэтую музыку напішу я? Мельцэль здзіўлена падняў бровы.

- Ці ж я хоць слова сказаў пра гэта? Толькі ў галаву мне прыходзяць розныя думкі. Ад батальнае музыкі чэрпалі грошы Франсуа Дэвьен і Нейбаўэр.  І Качвара таксама. Хоць ён ад гэтага з радасці ўзяў ды павесіўся сабе жартам у Лондане, але залатую крынічку гэтым упікаць нельга. Гер Штэйбельт, напісаўшы дзве сухапутныя бітвы, не стаў бяднейшы, і пра Каўэра гэтага таксама нельга сказаць. Яго марская бітва са смерцю Нельсана пульнула яму ў кішэні цэлыя бартавыя залпы залатых гранат. Вядома, ваш жалобны марш з «Гераічнай» апісвае смерць героя хоць і не так прыбыткова, але. . . больш дастойна.

Бетховен спахмурнеў. Колькі ж міль ён ужо прабег у жыцці, а чаго дабіўся? Вядома, за ўрокі музыкі ён браў добрыя грошы і ўжо не раз патрабаваў высокіх ганарараў і ад выдаўцоў. Ну, няхай ён не ўмее весці гаспадаркі, але і грошай на вецер не выкідае. А ці ж забяспечвалі гэтыя ганарары яму хоць калі-небудзь спакойнае існаванне? Не, даходы яго на гэта занадта нерэгулярныя, і таму ён увесь час зноў і зноў трапляў у фінансавы цэйтнот, але ў той жа час тайком ахвяраваў грошы - ну пэўна ж, як быццам яно само сабою разумелася - бедным, хворым і сіротам. Ён заўсёды ва ўсім быў верны, і ад гэтага разбілася вернасць яго «неўміручай каханкі», Жазефіны, якую ён усё яшчэ кахаў. Цяпер асталося толькі адно: берагчы вернасць мастацтву, музыцы.

- Мельцэль, прымаю вашу прапанову. Рэштка розуму падказвае мне, што ваш д’ябальскі апарат зацікавіць людзей, а калі яшчэ я, Людвіг ван Бетховен, напішу для яго бум-бум і бім-бім. . . - то поспех будзе гарантаваны. Грошы пасыплюцца як з мяшка, а слава паскача галопам. Толькі прашу вас поўнасцю даверыцца мне. Батальная музыка Людвіга ван Бетховена - мы з ёю атрымаем перамогу ў любой бітве!

Бетховен узяўся за працу з нейкім злосным гумарам і амаль шалёнаю апантанасцю, але пангарманікон, вораг усякага музычнага слыху, нягледзячы на свае ў вышэйшай ступені вялікія памеры, быў занадта ўжо непадрыхтаваны для музыкі.  І ўсё ж ужо можна дамагчыся, каб ён стукаў і званіў, ствараючы барабанны бой і трубныя сігналы. Трубы трубілі ў мі-бемоль; што ж, няхай англічане трубяць у М І-бемоль! Французам ён, мабыць, дасць трубныя сігналы до. З англійскіх трубных сігналаў можна вывесці мелодыю «Rule, Br Itann Ia, rule the waves!» (Кіруй, Брытанія, кіруй на морах (англ. )) на жаль, толькі самую прымітыўную. Прыходзіцца ўлічваць. . . характар вялікага карліка, гэтай механічнай дзіцячай цацкі. З французскіх трубных сігналаў до можна зрабіць вясёлы, насмешлівы стары марш пра Мальбрука, англійскага палкаводца, - а ўласна, якая ў французаў была прычына насміхацца з яго? Але ж насміхаліся, і ён сам спяваў гэтую мелодыю ў дзяцінстве, бо была яна такая вясёлая: «Marlborough s’en va-t-en guerre! M Ironton! M Ironton! M Ironta Ine. . . » (**Мальбрук у паход сабраўся. Ля-ля-ля, ля-ля-ля, ля-ля-ля!** *(франц. )*)

Але хіхіканне французаў цяпер як рукою зніме! Бо ўжо набліжаюцца англійскія гарматы, трашчаць ружжы! Як жа выкажа гэта добры Мельцэль? Гэта яго клопат. Вядома, французы будуць энергічна абараняцца. Адстрэльвацца. Але нічога не паможа. Англійская страляніна мацнейшая, ну, а чым скончыць?. . Ёсць неблагая ідэя, якую ён узяў у музычнага заікі-трубача. Пад канец і тут у французаў не хопіць паветра. З поля бітвы яны пацягнуцца як пабітыя сабакі, жаласна скуголячы свайго «Мальбрука», а ім услед зарагочуць пераможныя трубы мі-бемоль Велінгтона!

Пісаць гэта сапраўды легка, як легка для вучня малодшага музычнага класа рашаць простую кампазіцыйную задачу. Яно і не такое ўжо лёгкае. Хоць, праўда, гэты спосаб пісаць музыку мае перавагу: працуй сабе рукою і галавою, не змагайся за тое, каб музыка выходзіла з глыбіняў недаследаванага, каб яна часамі бушавала, часамі толькі падала кроплямі, выклікаючы ў людзей адчужанасць або зайздрасць, насмешку або нянавісць. Тавар тут - самага таннага гатунку, аддаваць яго можна па даўжыні валікаў. Бо гер Мельцэль вядзе падлікі толькі па даўжыні валікаў. Вось і цяпер ён кажа:

- Гэта першая частка? Выдатна, гер ван Бетховен! Якраз на даўжыню валіка.

І ўсё! А ён, Людвіг ван Бетховен, канчае тым часам другі валік.

- Што вам яшчэ трэба, Мельцэль? І наогул. . . што з вамі?

- Гер ван Бетховен, падрыхтаваўшы ваш першы валік, я так зацікавіўся ім, што адразу ж яго пракруціў. Толькі што перад абедам. Вы і ўявіць сабе не можаце! Збегся ўвесь дом, і гер Штэйн, і малады піяніст гер Машэлес, які якраз знаходзіўся на фартэпіяннай фабрыцы. Пабачылі б вы гэтыя твары, гэтую ўсхваляванасць! І ў Машэлеса, і ў гера Штэйна. Гэты нават ускрыкнуў: «Маска! Дзе Бетховенава маска? Трэба зараз жа выставіць яе ў зале! Хто напісаў такую музыку, вышэй за ўсіх кампазітараў. Трэба і зяцю паведаміць, каб ён паставіў маску ў мастацкім салоне!» Гер Штэйн ледзь не паслаў к зяцю свайго майстра, але потым адмяніў свой загад: «Не, пастой! Маску трэба перш аднесці да прафесара Клейна, і няхай ён прыладзіць ёй на галаве лаўровы вянок! Пасля таго што мы толькі што пачулі, гэтай масцы ўжо пры жыцці належыць лаўровы вянок».

Праз нейкі момант Бетховен папытаўся:

- Што гэта - жарт, Мельцэль? Не, паступова я пачынаю разумець, што гэты дрэнны жарт зусім не жарт. Вось, можаце ўзяць добрую частку другога лаўровага валіка.

- Я хацеў бы абмеркаваць з вамі яшчэ штосьці, але бярэ страх, бо вы, як. . . бомба, пра якую ніколі не ведаеш, калі яна выбухне. Я хацеў бы параіць вам яшчэ нешта, што пераканала б вас, што мае намеры добрыя. Мае выдаткі, вядома, акупяцца, ну, а вы ж згадзіліся паслухмяна ісці за мною. Бачыце, поспех ужо першага вашага валіка разбурыў мае планы. Можа, вы пераробіце «Перамогу Велінгтона ў бітве пры Віторыі» ў сімфонію, каб яе мог іграць аркестр?

- І назваць яе Дзевятай сімфоніяй?

- Я параіў бы пакінуць назву «Перамога Велінгтона ў бітве пры Віторыі». Гучыць яно больш інтрыгуюча. Я падумваю ўжо пра шэраг вялікіх канцэртаў. . . ва ўніверсітэцкай зале. Бетховен зарагатаў.

- Туды мне дарога закрыта, нягледзячы нават на намаганні эрцгерцага Рудольфа.

- Гер ван Бетховен, я зусім не збіраюся гаварыць непашаноўна пра яго імператарскую высокасць. Але мне універсітэцкую залу дадуць.

- А вы падумалі пра маіх зайздроснікаў і праціўнікаў?

- Падумаў, і іх не пашкодзіла б як-небудзь залучыць да «Бітвы пры Віторыі», скажам, на ролю гармат ці фанфараў.

- Вы звар’яцелі, Мельцэль.

- Я добра валодаю рэгістрамі чалавечае душы, асабліва, калі мова пра яе нязведаныя глыбіні. Я намерваюся спачатку выступіць з шэрагам вялікіх акадэмій тут у Вене, а калі чуткі пра гэта дойдуць да другіх мясцін краіны, то я з пангарманіконам паеду па гарадах: у Мюнхен, у Берлін. Ну дык як, апрацуеце для аркестра «Бітву пры Віторыі»? А сімфонію для вялікага аркестра напішаце?

Бетховенавы вочы злосна заблішчалі.

- Тады вам прыйдзецца сёе-тое заплаціць, толькі не гульдэнамі. Падайце мне яшчэ раз ноты першага валіка. Ага, у ім увесь час гарматныя стрэлы перадаюцца з дапамогаю літаўраў. У аркестравых партыях лепш павялічыць памеры літаўраў, а ружэйную пальбу можна перадаць з

дапамогаю дзіцячых бразготак. Можна сабраць асобную капэлу з літаўраў, барабанаў, дзіцячых бразготак, ударнікаў. . .

- А дырыжыраваць гэтым асобным аркестрам паставіць гера Сальеры, які ў свой час пагражаў бестэрмінова звольніць кожнага з сваіх музыкантаў, які асмеліўся б іграць разам з вамі!

- Вы чытаеце. . . мае думкі, Мельцэль.

- Ну, ну, не так ужо гэта цяжка. Добра, дамовіліся, няхай ён дырыжыруе, толькі. . . мне трэба яшчэ крыху часу, каб для ўсяго гэтага падабраць адпаведны момант.

Восьмага снежня мелася адбыцца першая акадэмія. Ва ўніверсітэцкай зале. 12 снежня там жа пойдзе і другая акадэмія. Прыйшлося прызначыць яе так хутка, бо білеты на канцэрт расхапалі адразу ж. Мельцэль здаволена ўсміхаўся.

- Валік пракручваецца дакладна і бездакорна. Вы, мабыць, думалі, што гер Сальеры адмовіцца ад удзелу? А я ж яму даў толькі літаўры і бразготкі. На барабаны пасадзіў герау Гумеля і Мейербера. Удзельнічаюць усе, у каго ёсць імя, і ў бітву яны кінуцца ўсе: і Шупанцыг, і Белоні, і браты фон Блументаль, і Драганеці, і Багнер, і Майзедэр, і Машэлес, і Шлезінгер, і Зебоні, і Зіна, і Вейс, і Шпор. Больш за сотню выдатных музыкантаў, гер ван Бетховен! І адмовіцца ім было не зусім зручна. Бо я папрасіў іх сыграць, абгрунтаваўшы гэта тым, што канцэрт даецца як дабрачыннасць для інвалідаў бітвы пры Ханаў. Праўда, я зрабіў невялічкую памылку, але мае віны тут няма. Адкуль мне ведаць, што пасля бітвы пры Ханаў будзе Лейпцыгская бітва? Іначай першыя дзве акадэміі я арганізаваў бы дзеля ахвяр Лейпцыгскай бітвы народаў. Пасля гэтага пойдуць канцэрты на вашу карысць, гер ван Бетховен.

- Вы ведзяце агідную гульню.

- А з вамі хіба не вялі агіднае гульні, гер ван Бетховен? А Напалеон з намі? А імператар Франц з цірольцамі? А пароль Прусіі з афіцэрамі Шыля? Вы яшчэ не раз успомніце, што я вам кажу цяпер: Напалеона скінулі, мы вызвалены, а нашы вызваліцелі, на чале з канцлерам Метэрніхам, хутка сыграюць з намі сваю агідную гульню. Не, маё сумленне спакойнае. Я даўно ўжо не спаў так моцна.

І вось настаў вечар 8 снежня 1813 года. Бетховен неспакойна хадзіў узад і ўперад у маленькай аўдыторыі, якая служыла музыкантам замест пакоя для адпачынку. Чакаць яму тут быў загад Мельцэля, а Мельцэль разлічыў усё.

Бетховен абмацаў вушы. У іх і сёння паторгвала і шумела. І тым не менш ён зможа дырыжыраваць гэтай пародыяй на музыку. Музыку? Гэта ж злоўжыванне тым, што прынята называць музыкаю, гэта здрада мастацтву. З’явіўся Мельцэль.

- Пара і вам на сцэну, гер ван Бетховен. Публіку больш не ўтрымаць, яна бурліць, калышацца, як хвалі, узрушаная незразумелаю ёй прысутнасцю трох аркестраў. Гер Сальеры стаіць каля гармат, гатовы адкрыць агонь, а ў гера капельмайстра Гумеля нервы нацяты, як струны. Сёння ў яго няма часу кпіць, скажам, з вашай месы до мажор, як тады ў Эйзенштаце. Дазвольце папрасіць вас на сцэну. Там няма толькі кампазітара і галоўнага дырыжора, гера Людвіга ван Бетховена.

Той кінуў на Мельцэля злосны позірк.

- Мне сапраўды абрыдла быць вашаю марыянеткаю.

- Што, пачнём цяпер сварыцца? Нам гэта ні к чаму, дый вы. . . на жаль, ніколі поўнасцю маёй марыянеткаю не былі; адзін дроцік вы такі абарвалі. Мяне яшчэ крыху турбуе ваша Сёмая сімфонія. У якасці уверцюры мой пангарманікон адразу пачне іграць маршы Дусека і Плейеля, а потым на чарзе ваша баявая музыка.

- Няхай людзі пачуюць, што я магу пісаць і прыстойную музыку.

Бетховен ішоў на аркестравую сцэну і дырыжорскія падмосткі хуценька, бадзёрымі крокамі. Музыканцік, што з’ехаў з глузду, з якога смяяліся па венскіх вуліцах. Але на гэты раз, відаць, было нешта надзвычайнае, бо разам сабралася столькі лепшых віртуозаў і прызнаных музыкантаў, каб іграць нават на самых нязначных пультах і месцах у аркестрах. У трох аркестрах! Ды яшчэ стаіць пангарманікон, вялізная дзівосная скрыня, пра якую ходзіць столькі чутак.

Бетховен адразу ж узяў дырыжорскую палачку і пастукаў ёю. На воплескі, якімі вітаў яго сёй-той з сяброў, ён не звярнуў увагі, а толькі кінуў позірк на галерэі. Ну але, музыканты сядзяць наверсе напагатове - ружжо да нагі. Гэтак, мусіць, можна сказаць пра баявую музыку,

якая хутка загучыць.

Сёмая сімфонія ля мажор таксама нагадвае баявую музыку, але не такую прымітыўную. Маршавы крок рытму, парыў душы, трыумфальныя гукі і тут вывелі яго да новых берагоў. Што ён хацеў паказаць? Вяселле? Імшу? Танец? Не! У «Сімфоніі 13 мая 1812 года» - гэтыя словы ён Нап Ісаў на тытульнай старонцы - ён патрыятычна прадказаў вызваленне народаў ад напалеонаўскага ярма, калі вызваленне здавалася яшчэ безнадзейным. Ужо ў 1806 годзе пасля Аўстэрліца ён зрабіў накіды тэмы ля мінор да алегрэта на мелодыю ўкраінскай народнай песні.

Пачаў дырыжыраваць. З хуткасцю маланкі перайшоў ад ля мажор да до! Ці не азначае гэта павароту, змены і ў душы, а не толькі ў танальнасці? Цяпер гучыць анапестычная тэма! Ён не бачыў, што сёй-той з публікі пачаў хіхікаць, бо ён уяўляў сабою нізенькага, смешнага чараўніка, які, схіляючыся, то ціха заклінаў, то гучна спрабаваў стаць упартым веліканам. Ён дырыжыраваў і адбіваў такт. Алегра кон брыо! Удары туці! «Людзі, адчуваеце маё агнявое дыханне? Мельцэль! Дай мне магчымасць праявіць сябе, перад тым як уключыш сваю шумлівую скрыню! Спачатку трэба прачнуцца». Але не - без пераходу пачалі іграць марш Дусека!

Мельцэль дагнаў Бетховена ў паўцёмным калідоры.

- Астаньцеся ў зале, гер ван Бетховен, і як толькі пракруцяцца валікі з маршамі, пачнём «Бітву пры Віторыі»! Не пакінем ім часу на роздум!

Бетховенавы вочы варожа заблішчалі.

- Вы паводзіце сябе вераломна, Мельцэль, уключыўшы пангарманікон ледзь не з заключнымі акордамі сімфоніі! Хацелі адабраць у мяне апладысменты?

- Я хацеў адабраць у вас апладысменты? Вераломна? У вас. . . апладысменты? Апладысменты адрасаваны былі пангарманікону, а не вам. Я хацеў вас выратаваць, і я вас выратаваў. Бетховен, я бадзяўся па зале, сачыў за выразам твару людзей, чуў іх спантанныя выказванні - і вось калі я наблізіўся да абата Штадлера, вашага славутага музычнага калегі, ён шэптам, грымаснічаючы, коратка кінуў словы ацэнкі вашае сімфоніі: «Адно глупства!», і я бачыў, як шавяліліся губы на радах, як гэта перадавалася ўсё далей і далей.  І вось гэтае вераломства гера абата Штадлера я забіў, забарабаніў з дапамогаю пангарманікона. Але вы потым, калі захочаце, можаце парахавацца і са мною, і перш за ўсё з герам абатам Штадлерам, і з публікаю. Толькі «Бітву пры Віторыі» трэба сыграць так, як я вам раіў. Хадзем! Мая. . . гармата вось-вось выплюне вашу першую частку, і мне трэба паставіць новы валік.

Насустрач ім ляцелі воплескі, якія Бетховен адчуваў фізічна, як удары, што градам сыпаліся па твары і рабілі яго ад болю і сораму яшчэ цямнейшым. Так моцна яго не кусалі нават воспіны! Зайздрасці не было, што гэтыя воплескі прызначаліся Мельцэлю з яго жахліваю машынаю, але як гэта бессаромна і супраць усякага розуму! Калісьці вось тут ва ўніверсітэцкай зале не ўшаноўвалі так нават "Ёзефа Гайдна, калі дзякавалі яму за працу ўсяго жыцця, за «Стварэнне свету».

Канчаўся і другі валік, і ўсхваляваны Мельцэль тайком падаваў Бетховену знакі: «На дырыжорскія падмосткі! Можаце ўжо спакойна камандаваць «Смірна»! Трымайце напагатове аркестры на галерэях справа і злева! Час, час цяпер, гер ван Бетховен, не чакайце! Пачалі».

На галерэі з правага боку ў воплескі рэзка ўмяшаліся трубныя гукі, і воплескі зноў сціхлі. Трубы мі-бемоль мажор! Англічане! Няхай мацней б’юць барабаны, гер Гумель, бо падыходзяць англічане! Няхай барабаны б’юць няспынна - «не надта хутка», як я сабе адзначыў у партытуры. «Rule, Br Itann Ia!* Так, менавіта так - спачатку простая меладычная музыка, а потым іграе ўвесь аркестр! Вось цяпер няхай далучацца трубы «до» верхняга левага аркестра, зайграюць з выклікам, радасна і спружынячы - «Marlborough s’en va-t-en guerre! M Ironton! M Ironton! M Ironta Ine!. . » Гер Сальеры! Гарматы гатовы к залпу? Агонь! Смыкі скрыпак аркестра паехалі сюды і туды, уверх і ўніз. Вось гэта бітва! Гер Сальеры, дазвольце ласкава папрасіць вас! Дайце ўсё, на што здатны гарматы! Чорт на яго, чаму гэта Мейербер не круціць энергічней бразготкамі! Ружэйная страляніна! Добра, бітва дасягнула найвышэйшага напружання! Фартысіма, англічане пераходзяць у наступ! Давайце ўсё, на што здатны інструменты, нават калі парвуцца струны і лопнуць трубы!!

Злосна і пагрозліва ён паглядзеў на «англічан». У першым радзе сядзіць эрцгерцаг Рудольф. Няўжо ён. . . сумны? З-за гэтага монстра? Прынамсі, музыка Кары «God save the k Ing!» гучыць тут меладычна стрымана. Французы адыходзяць. Яны разгромлены,  І вось другая

частка загучала ў рэ мажор, як і яго. . . канцэрт для скрыпкі з аркестрам рэ мажор. Цяпер можна абвясціць сімфонію перамогі. Фанфары! Флейты-пікала разам з талеркамі і вялікімі барабанамі. Алегра кон брыо - як і ў Сёмай сімфоніі. Адантэ грацыёза - ласкава, ласкава. Але гэтага мала. Кароткі позірк назад - на загадкавым твары ляжаў сум. Ён адчуў сорам, як адчуваюць стомленасць і вяласць, з якімі нічога нельга рабіць. І ўсё ж трэба вытрываць да канца. Але перш чарга трыумфальнай мелодыі, вянца гэтай баявой сімфоніі! Халтурны вянок. . . халтурнае музыкі! Апошняе алегра - і нарэшце выратавальна гучыць апошні акорд.

Апладысментаў не было, значыцца. . . людзі ўсё-такі лепшыя, чым ён думаў. Ён адчуваў глыбокую ўдзячнасць, што яны не прынялі гэтае музыкі, і гэта вярнула яму частачку веры ў людзей. Ён павярнуўся і схіліўся ў паклоне, каб. . . падзякаваць за маўчайне.

Але тут. . . каменная маса зарухалася, нагадваючы акіян, які бушаваў і хваляваўся. Крыкі, поўныя захаплення:

- Бетховен! Бетховен! Бетховен!

Яго адарвалі ад дырыжорскіх падмосткаў і паднялі на плечы. Першай яго рэакцыяй было паспрабаваць вызваліцца. Нічога не выйшла, і ён здаўся, падумаўшы: «Гэта ж тое, аб чым я ніколі не асмельваўся нават і марыць. . . »

Пазней у «пакоі для музыкантаў» Мельцэль спытаўся:

- Ну што, падмануў я вас сваімі абяцаннямі? Бетховен, стомлены, усё яшчэ нейкі збянтэжаны, аглядаў сябе з ног да галавы.

- Мой сурдут зусім скамечаны.

Мельцэль засмяяўся.

- Слава таго, мабыць, варта.

- За гэты опус з гарматамі і дзіцячымі бразготкамі?

- Ва ўсякім разе вы цяпер праславіліся, і ўсё будзе іначай. На небасхіле музыкі ўзышло новае сонца! - і нават Сёмая сімфонія трапіла ў промні гэтае славы. Пад уражаннем «Бітвы» адзін рэцэнзент сказаў пра яе, што яна «вяршыня новай інструментальнай музыкі» і што ён так і напіша ў сваёй рэцэнзіі. Між іншым, пакуль не забыў: першая акадэмія на вашу карысць прызначана на другое лютага, а наступную, таксама на вашу карысць, можна даць таксама ў лютым. Потым я са сваім пангарманіконам паеду ў Мюнхен. З адной вашай баявой музыкай. Яна такая славутая, што гарантуе мне поўны збор.

У пакой прасунуў твар скрыпач Людвіг Шпор.

- Віншую, гер ван Бетховен. Усё, як трук у тэатры: з небыцця раптам узнік найславуцейшы кампазітар Еўропы!

- Чые гэта словы, Шпор?

- Усіх. Між іншым, перад канцэртам вас доўга не было нідзе відаць. Вы хварэлі, гер ван Бетховен?

- Адкуль вы гэта ўзялі? Ну але, захварэлі мае боты, і я іх аддаў шаўцу, а ў мяне толькі адна пара. . .

Шпор недаверліва ўсміхнуўся.

«Венская газета» пісала: «Бурнымі воплескамі, якія часам даходзілі да экстаза, узнагародзілі слухачы энергічную кампазіцыю Бетховена, якою дырыжыраваў ён сам. У ёй узялі ўдзел лепшыя музыканты імперскай сталіцы, аб’яднаныя любоўю да мастацтва і да справы бацькаўшчыны і прыйшоўшыя на гэтае свята мастацтва і патрыятычнай дабрачыннасці».

І «лейпцыгскія ёлупні» таксама не маглі не надзівіцца на майстэрства кампазіцыі, з якім для перадачы, ружэйнага агню выкарыстоўваліся дзіцячыя бразготкі, а для перадачы стрэлаў гармат - літаўры. І таму што «Бітва пры Віторыі» была прысвечана баявым, ваенным падзеям, Бетховена сталі зваць «генералісімусам сярод генералаў музыкі». Усе пачалі іграць Бетховенаву музыку.

Аркестр медыкаў выконваў уверцюру да «Эгманта», пра якую дагэтуль усе маўчалі. Германісты - уверцюру да «Карыялана», а юрысты таксама лічылі за гонар іграць музыку Бетховена ва ўніверсітэцкай зале. Калі арганізоўваўся дзе-небудзь канцэрт для бедных артыстаў, то ў праграму ўключалі аднаго Бетховена, у першую чаргу яго «бессмяротны» твор «Перамога Велінгтона ў бітве пры Віторыі». А тут яшчэ Мельцэлю прыйшла ў галаву ўдалая ідэя з партрэтамі: ён параіў выдавецтву «Артарыя» выдаць партрэт Бетховена. І вось яны красуюцца на ўсіх вітрынах. Ужо і на вуліцу выйсці амаль немагчыма. Усюды людзі штурхаюць адзін

аднаго ў бок: «Вунь ідзе Бетховен!» Прыйшлося падрыхтаваць сем апрацовак батальнай музыкі, гэта значыцца, перакласці іх на замежныя мовы, і адну з іх нават для турэцкай палкавой музыкі. Вядома, гэта вялікі гонар, але ўсё-такі яно крыху і расчароўвала. Часам у марах ён спадзяваўся, што другія народы і без «перакладаў» зразумеюць, скажам, і яго «Гераічную», і яго Пятую сімфонію, і яго скрыпічны канцэрт. . .

Прыйшоў Мельцэль, схіліўся над грубкаю, грэючы рукі.

- Гер ван Бетховен, раю вам публічна падзякаваць удзельнікам першых акадэмій. Я асмеліўся ўзяць з сабою амаль гатовы праект падзякі ў газетах. Тым часам узніклі і новыя праблемы. Напрыклад, якую ўзяць нам залу на наступныя акадэміі?

- Нам не даюць больш універсітэцкае залы?

- Глупства. Бетховену дадуць цяпер любую, але універсітэцкая зала занадта малая. Астаецца, і нічога тут не зробіш, адна Вялікая зала рэдута. Яна можа прыняць пяць-шэсць тысяч чалавек. Яна падыдзе. Але ж паслухайце, на якіх умовах! Траціну збору бярэ для тэатра граф Пальфі, дырэктар, якому належыць зала, а пятую частку трэба аддаць. . . на турмы.

Бетховен аж ускіпеў.

- А я яшчэ думаў выканаць калі-небудзь Восьмую сімфонію. Кажаце, адну пятую на Метэрніхавы турмы?. . Ці ж можна сумясціць гэта з годнасцю свабоднага музыканта?

Мельцэль паціснуў плячыма.

- Метэрніх хоча разбудаваць турмы, а яго шпіёны памогуць іх запоўніць. Прашу вас, гер ван Бетховен, быць вельмі асцярожным з палітычнымі выказваннямі, каб і вы туды. . . Між іншым, мой пангарманікон у дарозе ў Мюнхен. У Вену разлічваю вярнуцца ў чэрвені ці ў ліпені.

- Вы думаеце, што кангрэс усё-такі будзе?

- Абавязкова будзе. Бо першыя кватар’еры ўжо прыехалі.

14 сакавіка 1814 , года ў Парыж на чале саюзных армій увайшоў цар усяе Русі Аляксандр I. Праз месяц у Фантэнбло адрокся ад трона Напалеон, і яго саслалі на востраў Эльба. Што іграць венскім тэатрам, вартае гэтых падзей? У буры пачуццяў толькі адно не выклікала ніякіх сумненняў: імя Бетховена гарантавала поўны збор і тым самым грошы, грошы.

Трое святочна адзетых паноў, падняўшыся па ўсходках у доме нумар 94 на Мёлькербастай, нясмела пастукалі ў дзверы з шыльдачкаю, на якой было напісана: «Бетховен». З сярэдзіны адгукнуўся жаночы голас.

- Заходзьце. . .

Увайшоўшы, трое пачціва схіліліся ў паклоне перад дамаю ў жалобным адзенні, якая сядзела ў крэсле. Бетховен, спінаю да пакоя, стаяў каля акна і разглядаў пенкавую люльку. Ён пстрыкаў сярэбраным векам, раз за разам адчыняючы і зачыняючы яе, і потым папытаўся:

- Калі гэта здарылася?

Княгіня Ліхноўская адказала:

- Па-мойму, дванаццатага красавіка; Карл памёр пятнаццатага. Ён сказаў мне: «Марыя Крысціна, вось мая цудоўная пенкавая люлька, яна часта прыносіла мне ўцеху. Калі я памру, занясі яе Людвігу, як напамінак пра мяне, як вестачку, якую ён пэўна ж зразумее». Ён быў падрыхтаваны да свайго скону, і калі ў думках прызначаў вам гэты малюсенькі падарунак, ён быў прасветлены мудрасцю, якая ўсміхалася нібы з таго свету.

- Я разумею, што ён хацеў сказаць, хоць не так усё і проста. Прынамсі, я рады, што мы зноў памірыліся. Уласна, калі ўспомніць мінулае і адкінуць неістотнае, то Карл заўсёды быў добры сябар.

- Ён заўсёды быў верны і адданы сябар і вам і вашай музыцы. Між іншым, робячы гэты маленькі падарунак, ён дадаў яшчэ: «Няхай цяпер ён пускае тытунёвы дым над італьянскімі інструментамі».

Бетховен павярнуўся тварам да пакоя, каб асцярожна палажыць каштоўную пенкавую люльку на раяль, і тут заўважыў гасцей. Рэзка спытаўся:

- Што вам трэба? Здаецца. . . я ведаю, хто вы такія.

За ўсіх загаварыў адзін:

- Мы трое спевакоў. . .

Княгіня Ліхноўская звярнулася да іх:

- Гаварыце гучней.

- . . . мы трое спевакоў, гер вам Бетховен. Маё прозвішча Заль, а гэта мае калегі Фогель і

Вейнмюлер.

- З Венскага тэатра.  І вы. . .

- На нашым бенефісе мы хочам выканаць вашага «Фідэліо».

Бетховен усё добра зразумеў, але тым не менш здзіўлена палажыў руку за вуха.

- Майго. . . што вы там сказалі?. .

- Вашага цудоўнага «Фідэліо», маэстра, вашу вызваленчую оперу. Граф Пальфі даў згоду.

- Ага, і калі гэты бенефіс?

- У канцы мая. Што перадаць дырэктару?

- Што я нязгодны. - Ён бесцырымонна адвярнуўся, і яго рукі за спінаю пачалі дрыжаць.

Княгіня Ліхноўская ціхенька папрасіла:

- Ідзіце цяпер. Пазней я закіну за вас слоўца.

- Вялікі дзякуй, ваша светласць.

Праз нейкі момант Бетховен рэзка павярнуўся.

- Пайшлі гэтыя малайцы? Добра. Чулі вы іх? Раптам мой «Фідэліо» зрабіўся і «цудоўным» і «вызваленчаю операю». Я нават не ведаю, ці зберaглася ў мяне партытура. Прайшло ж цэлых. . . дзесяць гадоў, а пры маіх вечных пераездах. . . - Ён адамкнуў канторку і выцягнуў адтуль стус нот. - Яна папраўдзе яшчэ зберaглася, хоць і пажаўцела і. . . - Ён засмяяўся. - Толькі паглядзіце! Яе абгрызлі мышы. Хоць мышы за гэты час пацікавіліся «Фідэліо». - Потым ён пачаў гартаць ноты. - Зірніце, няўжо хор палонных не гучыць даволі прыстойна? Хто ж яшчэ апроч мяне можа напісаць такое? -  І хрыплым голасам зацягнуў: - «Гаварыце ціха, будзьце асцярожны! Нас падслухоўваюць і вушамі і вачыма!» Няўжо опера стала лепшаю, таму што я ў гэтай балаганнай музыцы «Бітвы пры Віторыі» выкарыстаў дзіцячыя бразготкі, а гарматныя стрэлы перадаў з дапамогаю літаўраў? Не, не, - ён пастукаў па аркушах, і з іх пасыпаўся пыл, - гэтая опера двойчы праваліліся, і няхай яна ляжыць сабе пахаваная.  І уверцюра таксама! Яна ж у гэтай праклятай оперы трэцяя.  І чаго толькі тады не гаварылі пра яе!

-  І тым не менш вам цяпер трэба выбавіць «Фідэліо» з магілы. Тое адзінаццатае красавіка зрабіла вас змрочным. Яно папраўдзе было для вас жахлівым. Твар яго перасмыкнуўся.

- Агідным. Гэты зброд у «Рымскім імператары»! Толькі мы пачалі вялікае трыо сі-бемоль мажор, як я раптам наогул перастаў што-небудзь чуць. Тут і скончылася мая кар’ера камернага музыканта. Усё знікла, як дым. Карл правільна сказаў пра дым. «Фідэліо», мабыць, не варты нічога, акрамя воблачка тытунёвага дыму, якое можна пусціць яму ўслед.

Яна зірнула на яго.

- Але што, на вашу думку, сказаў бы Карл пра «Фідэліо»?

Ён уздыхнуў.

- О, жанчыны! Мне прыйдзецца тады сёе-тое перарабіць. Калі чаго-небудзь не бачыш дзесяць гадоў, то, бясспрэчна, знойдзеш і недасканаласці і шурпатасці. Але ў адным я буду цвёрды: уверцюра нумар тры да «Леаноры» болей выконвацца не будзе! Вы разумееце прычыну, дарагая?

Марыя Крысціна задумалася.

- Бо ёй, мусіць, вельмі ўжо добра папала. Ён падняў бараду.

- У гэтым ваша праўда!

Колькі непрыемнасцей ад гэтай уверцюры да «Фідэліо»! На 22 мая прызначана генеральная рэпетыцыя, а 21-га апоўдні ў «Рымскім імператары», дзе Бетховен сядзеў за смажанаю курацінаю, з’явіўся лібрэтыст Трэйчке. Цяпер Бетховен мог дазволіць сабе курацiну кожны дзень. Ён нават набыў восем банкаўскіх акцый.

Трэйчке запытальна паглядзеў на Бетховена, а той, нядбайна ўзяўшы меню, перавярнуў яго, разлінаваў адварот і пачаў наносіць ноты з такім выглядам, быццам хацеў сказаць: «Вам, відаць, і гэтага хопіць». Пабачыўшы, што Бетховену не да яго, Трэйчке пайшоў.

Бетховену прыйшлося ўзяць уверцюру да «Руін Афінаў», гэтай хвалебнай п’есы гера фон Кацэбу, твора другараднага ці нават трэцяраднага. Але хто гэта заўважыць? Ён дамогся трыумфу з «Віторыяй», і слава. . . гэтае бітвы забівала цяпер сваім бляскам усё! Для паказу 26 мая ён за адну ноч напісаў новую уверцюру. З такім жа поспехам ён мог узяць і сваю «конскую музыку».

Ён назваў яе так таму, што гэты марш быў напісаны па просьбе Рудольфа для школы верхавой язды. «Няхай цяпер яго імператарская высокасць праверыць уздзеянне мае музыкі на конях!» Прыкладна так пісаў ён тады з пасмешкаю.

Зрэшты, бенефіс «Фідэліо» прызначаны быў дзеля яго самога. Праз некалькі дзён ён паехаў з поўнаю кішэняю грошай у Бадэн. У яго было такое адчуванне, што яму там трэба нешта знайсці. Толькі што, што? Да таго ж яго ўвесь час турбавалі. Адна за другою прыходзілі трывожныя навіны: што на Вену, як саранча, накінуліся авангарды палітычных місій кангрэса, што ў верасні прыбудуць і самі манархі-пераможцы. Што геру ван Бетховену нельга забываць пра магчымасць святочнага паказу «Фідэліо». Што, зразумела. нельга будзе абысціся без акадэміі з выкананнем «Перамогі Велінгтона ў бітве пры Віторыі».

А раз святочны паказ «Фідэліо» прызначаны толькі на 26 верасня, то ехаць цяпер у Вену патрэбы не было. Ужо сцямнела, і таму шмат якія вітрыны і дамы асветлены пастаяннай ілюмінацыяй. Чаго гэта людзі тоўпяцца перад вітрынамі, асабліва перад вітрынамі кнігарняў? Ён стаў на дыбачкі, каб над галовамі людзей пабачыць, што там. У святле свечак убачыў партрэты манархаў: імператара Франца з імператрыцаю, імператара Расіі Аляксандра з жонкаю, караля Прусіі - усіх з лаўровымі вянкамі пераможцаў. Выстаўлены быў нават партрэт Бернадота, толькі што абранага кандыдатам на шведскі каралеўскі трон. А наперадзе стаяў яго партрэт, і над ім на белай паперцы надпіс: «Людвіг ван Бетховен, кампазітар «Бітвы пры Віторыі». Імператары і каралі ўласна абрамлялі яго партрэт! Некалькі чалавек пазналі яго, знялі капелюшы. Вось калі яму спатрэбіўся б Мельцэль, але той з Мюнхена не вярнуўся дадому, а паехаў пасля неверагоднага поспеху пангарманікона і «Бітвы пры Віторыі» далей у Англію. Цікава, ці прыйдуць на святочны паказ «Фідэліо» імператарскія і каралеўскія «калегі па вітрыне»? На бенефісе ў ліпені з аўстрыйскай імператарскай сям’і мала хто быў, хоць ён і паслаў цераз эрцгерцага пісьмовае запрашэнне. На памяць усплылі словы з пісьма: «Было б цудоўна, калі б ваша імператарская высокасць паспрабавалі пераканаць і другіх імператарскіх высокасцей прыйсці на паказ мае оперы. А я асабіста пастараюся, каб не былі парушаны правілы прыстойнасці». Запрасіць яшчэ раз? Не, няхай усё ідзе так, як ёсць.

На паказе яго оперы ў лонгах сядзелі імператары і каралі, і ён схіліўся перад імі ў ветлівым паклоне, але ўсё ж як генералісімус. Потым узяўся за дырыжорскую палачку, каб паказаць, што дырыжыруе ён сам, хоць напраўду дык за яго рабіў гэта капельмайстар Умлаўф. . .

Яму трэба было пабыць аднаму, нікога не хацелася бачыць. Барабанны бой, што выбівалі на паказе яго нервы, адгучаў і змоўк. Добрая, багатая яда дала стомленасць. Кельнер Фрыц прыбраў посуд, паправіў на стале келіх і пляшку з віном і прынёс Бетховену доўгую люльку і скрыначку з тытунём, якія ўвесь час былі напагатове тут у «Рымскім імператары». І вось люлька набіта тытунём, можна з асалодаю выцягнуць пад сталом ногі і пусціць слуп дыму, паглыбіцца ва ўспамін пра вялікасцей, што пляскалі яму ў ладкі, і. . . пра мышэй, што абгрызлі партытуру «Фідэліо».

- Слухаю вас?. .

Суб’ект, што раптам вырас каля Бетховенавага стала, быў на выгляд чалавек дабрадушны, нягледзячы на маршчыністы твар з кручкаватым носам. Але ён бясспрэчна збіраўся пакпіць з яго, з Бетховена. Ён нават і руку прылажыў да вуха.

- Што?. .

Бетховен сказаў яшчэ больш рэзка:

- Што вам ад мяне трэба?

Вушная ракавіна незнаёмца наблізілася яшчэ болей.

- Дазвольце "сесці? Афіцыянт, падайце сюды мае віно. Гер ван Бетховен, мяне завуць Алоіс Вейсенбах. Хочаце ведаць маё званне? Я - прафесар, доктар, але нашто нам гэтыя тытулы? - Ён прысеў. - Вы высокае думкі пра дактароў?

Бетховен збянтэжана адказаў:

- Не. . .

Вейсенбах даланёю пляснуў па стале.

- Вось і сустрэліся дзве аднолькавыя душы! Бо і я таксама невысокай. Я з Зальцбурга.

- А. . . хірург?

- Хірург. Але цяпер я тут у Вене. Прыехаў з маім валадаром на кангрэс. Ведаеце, мы, хірургі, яшчэ людзі прыстойныя. Мы чэсна разрэзваем пацыенту жывот ці адпілоўваем яму нагу.

Можа, калі-небудзь і вам спатрэбіцца дапамога? Дык я тады памагу вам бясплатна, з аднае толькі павагі да вас. Але што я вам хацеў сказаць? Ага, успомніў. Іншыя калегі. . . я не ведаю, заўважылі вы ўжо, што я крыху недачуваю? Іншыя калегі чаго толькі са мною не выраблялі! Ставілі дыягназы, што я недачуваю і што змяніць нічога нельга. Я і сам гэта ведаю. Невукі! Няўмекі! Але вы ўмееце многае, гер ван Бетховен! Гэты «Фідэліо», - Вейсенбах выцягнуў аберуч Вушныя ракавіны, - я вось та-ак стану на паказе каля аркестравага бар’ера! - Ён павярнуўся і прасачыў Бетховенаў позірк. Размова двух тугіх на вуха развесяліла гасцей за суседнім столікам. - Гер ван Бетховен, людзі цікавяць мяне толькі тады, калі ляжаць пад маім скальпелем. А між іншым - няхай сабе слухаюць. Ваша музыка глыбока ўзрушыла мяне. Але не зразумейце мяне так, што я падлашчваюся да вас, толькі - можа, вы зможаце даць спосаб вось гэтаму? - Ён палажыў перад Бетховенам манускрыпт.

- Што гэта такое, гер Вейсенбах?

- Кантата, напісаная да Венскага кангрэсу. Я нават не сказаў бы, што ў гэтым творы ёсць паэзія. Больш правільна назваць яе наборам вершаваных радкоў, якому патрэбен кампазітар. Назваў я яе даволі гучна: «Слаўнае вокамгненне». І назва, мабыць, - самае лепшае, што там ёсць. Аднак у маёй паэтычнай піле не хапае некалькіх зубоў; іначай сказаць можна так: мой Пегас кульгае. А можа, у час аперацыі яму аднялі нагу?

Бетховен доўга смяяўся.

- Бясспрэчна адно: нас абодвух сапраўды звяло «слаўнае вокамгненне»!

За ноч яны такі добра пасябравалі і дамовіліся сустрэцца наступнаю раніцаю на Бетховенавай кватэры. Зайшоўшы раніцаю к Бетховену, хірург спыніўся каля дзвярэй і сціснуў правую руку ў кулак, з якога высунуў вялікі палец.

- Так або так?

Ён падняў угору вялікі палец, а потым апусціў яго ўніз. Быў гэта знак, якім імператар Нерон або дараваў гладыятарам на арэне жыццё, або выракаў ім смерць. Скасавурыўшыся на Вейсенбаха, Бетховен падышоў да раяля і аберуч сыграў актавы ля мажор, падпяваючы сабе пры гэтым ці хутчэй крычучы:

- Еўропа ўратавана! - І, павярнуўшыся, дадаў: - Вось пачатак першага хору, Вейсенбах. Я напішу музыку да вашага «Слаўнага вокамгнення», якое ў паэтычных адносінах - страшэнная халтура.

У Вейсенбаха аж заззяў твар.

- Ці ж не гаварыў я вам гэта з самага пачатку, Бетховен? Музы там і не начавалі.

- Сёе-тое з святочнай праграмы Венскага кангрэсу мне вядома: баляванні за баляваннямі, паляванні за паляваннямі, каруселі, парады за парадамі, каб пусціць народу ў вочы бліскучы пыл. - Ён пагартаў кантату. - Кампазіцыйна тут шэсць нумароў для мяшанага хору, сола і аркестра, - тут жа ўсё, чаго твая душа жадае: геній, празорца, Вена, якая больш не называе сябе горадам, а гаворыць: «Еўропа - гэта я!» Для заключнага хору, апафеозу, можна надрукаваць тэкст і раздаць яго слухачам, каб і яны спявалі разам з артыстамі.

- Выдатная ідэя, Бетховен.

Той у адказ буркнуў:

- Занадта многа пахвальбы князям, але хто ж можа плыць проці цячэння?

І ён пачаў дэкламаваць:

Жаночы гурт бліжэй падаўся,
На хор князёў глядзець сабраўся. . .

І пасля невялічкай паўзы павёў далей:

Галоўнае, я бачу, адбылося,
І ў сведкі клічу я адважны мой народ:
Краіна, адарваная ад свету,
Пасля вызвалення вяртаецца ў наш род.

Потым з насмешкаю ў голасе дадаў:

- А рыфмуецца вельмі і вельмі кепска. Прызнайцеся, Вейсенбах, што муза не здагадалася

зайсці ў ваш «агарод». А паслухайце вось гэта! Калі я правільна ўгадваю, то гаворка ідзе, мабыць, пра божае вока:

Гэтае вока - суд чалавечы,
Які сюды паклікаў тых,
Хто не дазволіў, каб Еўропу
Стаптаў бот чужынцаў злых.

- Вейсенбах, вы піяніст?

Хірург палажыў руку за вуха.

- Што? Я нават і да раяля не ведаю як падысці!

- Вось бачыце? А ў мяне гэтак жа з вершамі.  І тым не менш мы абодва смела возьмемся за работу, падправім і прыгладзім ваш тэкст.

Калі аднае яшчэ незвычайна прыгожае раніцы, быццам гуляючы, кружыліся і падалі на зямлю першыя рэдкія сняжынкі, на сценах і вітрынах з’явіліся аб’явы, вакол якіх адразу ж стоўпіліся цікаўныя:

«29 лістапада 1814 года, у аўторак, у Вялікай зале рэдута, па вышэйшай волі адбудзецца музычная акадэмія на карысць гера Людвіга ван Бетховена. Усе музычныя творы напісаны Л. ван Бетховенам. Вось яны: Па-першае - новая вялікая сімфонія. Па-другое - новая кантата д-ра Алоіса Вейсенбаха «Слаўнае вокамгненне». Па-трэцяе - вялікая поўнагалосная інструментальная кампазіцыя, напісаная з нагоды перамогі Велінгтона ў бітве пры Віторыі. Першая частка: Бітва. Другая частка: Сімфонія перамогі. . . »

І далей:

«Кошт уваходных білетаў у партэры - 3 гульдэны, на галерэі - 5 гульдэнаў. Пачнецца акадэмія апоўдні роўна ў 12 гадзін. Тэкст кантаты можна купіць у касе за 12 крэйцэраў».

У дзень канцэрта Бетховен апранаўся вельмі старанна. Добрая клапатуха Нанета Штрэйхер, жонка фабрыканта раяляў, у музычным салоне якога цяпер красаваўся зроблены прафесарам Францам Клейнам па заказу Штрэйхера Бетховенаў бюст, пачысціла шчоткаю і выпрасавала яго сіні сурдут, палажыла на спінку крэсла новае паліто. Але чагосьці яшчэ не хапала, чаго забываць было нельга. Не хапала акуляраў. Ужо даўно ён, дырыжыруючы, не мог больш, нават і для выгляду, давярацца сваім вушам, і таму заставалася толькі ўважліва сачыць за ўсім вачыма. Значыцца, трэба ўзяць з сабою акуляры, але якія з двух? Простыя акуляры не вельмі пасуюць да генералісімуса, палкаводца ў бітве пры Віторыі. А можа, усё-такі ўзяць манокль? Зрэшты, славутасць можа й дазволіць сабе навамоднае дзівацтва. Закінуўшы за шыю шаўковую стужку, ён паднёс да правага вока манокль. У люстэрку нічога неспрыяльнага для сябе не заўважыў.

Прадалі шэсць тысяч білетаў - такая ў людзей цяпер цяга да яго музыкі. Тут толькі да яго дайшло, што ён усё яшчэ пазірае на сябе ў люстэрка і што яго твар, яго вока перакрыўлены да непазнавальнасці маноклем. Але Сёмая сімфонія, якую спачатку будзе дырыжыраваць ён сам, не перакрыўлена, хоць смела можна сцвярджаць, што з яго батальнай музыкі і «Слаўнага вокамгнення» нічога слаўнага не выйшла. Нават калі «Слаўнае вокамгненне» цяпер пад апекаю венскага магістрата. Сёння ён ахвотней пачаў бы канцэрт з Восьмай сімфоніі, але хоць ён і пераможца пры Віторыі, публіка на акадэміі 27 лютага выказала неадабрэнно.

Пара ісці. Апрануў паліто, надзеў цыліндр, узяў бамбукавы стэк. . . У Вялікую залу рэдута ўсё яшчэ патокам ішлі людзі, і яны віталі яго з глыбокаю пашанаю. Ён дзякаваў, ветліва і кораткаківаў галавою, усім сваім выглядам паказваючы, што ў яго няма часу.

- У нас усё гатова, Умлаўф?

Той усміхнуўся па-сяброўску.

- Так точна, гер генерал, наш Напалеон у музыцы. . . Бетховен уз’еўся.

- Чорт на вас, Умлаўф! Але. . . выбачце. Я разгневаўся. Можаце, зрэшты, і сам уявіць сабе гэта. Вушы. . .

- Не трывожцеся. Я зраблю выгляд, што іграю на раялі, і буду напагатове.

Вялізная зала рэдута задрыжала ад апладысментаў, калі з’явіўся Бетховен. Ён хуценька перайшоў сцэну і падняўся на дырыжорскія падмосткі, пакланіўся публіцы. У ложах зіхацелі футры, нават гарнастаевыя, а брыльянты ззялі не толькі на княжацкіх зорках.

Ён падняў дырыжорскую палачку, пастукаў ёю. Увага! Але нешта ўсё-такі бянтэжыла яго. Пачалі! Не, не слых. Сёння ён чуў лепш, як звычайна, і аркестр таксама іграў выдатна. Умлаўф, добрая душа, падбадзёрыў яго кіўком галавы, усім сваім выглядам паказваючы, што расчараваны: «Я ж вам сёння зусім не патрэбен, гер ван Бетховен. . . »

- Дольчэ. . . дольчэ! Спачатку толькі габоямі, кларнетамі і фаготамі - мілагучна і павольна, мяняючы танальнасць ад ля мажор да до мажор, з мары-жалобы. . . Гэты Умлаўф са сваёю заўсёды ўпэўненаю мінаю! Ён жадаў яму, Бетховену, дабра, і ўсё ж. . . Трэба цяпер пакланіцца - і направа, і налева, і асабліва наверх. Далей! Ці гатовы салісты і хор? Перастаньце развявацца, белыя крылы лібрэта!

Пачалі! Хор спявае: «Еўропа ўратавана!» І яшчэ раз: «Еўропа ўратавана! Здзіўлена глядзяць сівыя стагоддзі». . . І зноў спявае хор. «У арэоле славы старых багоў ідзе з усходу на вясёлцы міру велічная асоба. . . » Гэта прызначана імператару ўсяе Русі, а потым дайшла чарга і да іншых валадароў. . .

«Гасудар з берагоў Шпрэе, дзяржава якога нарадзілася, калі страчана была ўся зямля. . . » Потым гімн у гонар імператара Франца, а далей пара выйсці на сцэну і Віене. Калі ласка, фраў Мільднер! «Бачу - вось дзе самае важнае. . . »

Фартысіма!. . «Свет! Якое слаўнае вокамгненне!» Гер Вільд, ці не пазычыце вы свайго голасу генію? Калі ласка. . . « І гэтыя старыя часы нарэшце зноў прыйдуць на зямлю. . . »

Старыя часы? Навошта тады была французская рэвалюцыя? «Віндабона, шчасце, радасць! Свет! Якое слаўнае вокамгненне!»

Публіка шалела ад захаплення, а з галерэі - з рукі яе вялікасці рускай імператрыцы - уніз паляцеў букет чырвоных ружаў. Умлаўф падскокваў амаль гэтак жа, як калісьці той злы насмешнік і вораг у «Гераічнай». Бетховен усміхнуўся.

- Ведаю, ведаю, але давайце далей! Французы і англічане гатовы? А прылада, што ставарае эфект грому, таксама гатова?

- Гер ван Бетховен, вам трэба зрабіць перадышку. . . Неверагодная моц вашых твораў проста заб’е публіку!

Бетховен мацней прыціснуў манокль.

- Глупства. . . Увага і. . . пачалі!

А вось здалёку з доўгіх калідораў. . . пачалі падыходзіць і англічане з французамі Сігналілі. . . трубы мі-бемоль, ім адказвалі трубы до! «Rule, Br Itann Ia, rule the waves!» К Іру І І, Брытанія, кіруй на морах - а потым з запалам і выклікам загучала: «Marlborough s’en va-t-en guerre!» Мальбрук у паход сабраўся. Ля-ля-ля, ля-ля-ля, ля-ля-ля! Усё бліжэй і бліжэй. Праўда, выдатны эфект? А тут яшчэ загрымела прылада, якую даставілі з тэатра, каб узмацніць гучанне літаўраў, барабанаў і бразготак! Ад яго патрабавалі грандыёзнай акадэміі!

І з ложаў зноў кідалі кветкі імператрыцы, каралевы і княгіні. . .

Графу Андрэю Кірылавічу Разумоўскаму, рускаму пасланніку ў Вене пасля таго, як імператар Аляксандр уступіў у Парыж, быў нададзены княжацкі тытул. І адразу ж на яго венскі палац, як пчаліны рой, наляцелі будаўнікі, закіпела работа ва ўнутраных пакоях, дый знадворку пачалі прыбудоўваць нешта накшталт новых вялізных сотаў. З Італіі навезлі мармуровых пліт і статуй скульптара Кановы ў вялізных скрынях, каб аддаць Канове спецыяльную залу. А дзеля чаго прызначана прыбудова? Бясспрэчна, Разумоўскі ведаў пра кангрэс з першакрыніц і таму хацеў мець манументальнае памяшканне, каб як мае быць прыняць сваіх гасудара і гасударыню. Па чутках, якія хадзілі, мелася выйсці казачная зала невыказнага хараства. Яе адкрыццё прызначана на 30 снежня як завяршэнне гэтага слаўнага 1814 года, як пачатак новага, яшчэ больш выдатнага часу. І ўсё дзякуючы прысутнасці на банкеце імператарскіх вялікасцей Расіі і другіх каранаваных. Запрошана было семсот выбраных асоб.

У гэты дзень вечарам неўзабаве пасля васьмі гадзін Бетховен хутка шыбаваў па вуліцы да палаца. Вялікі наплыў санак напэўна ўжо прайшоў. Дымныя агні на пілонах кідалі чырванаватыя водбліскі на вытаптаны снег, і яму сустрэўся толькі адзін вазок, з якога ўжо выйшлі пасажыры. Звон бомаў над конскімі спінамі нагадваў звон чыстага бліскучага срэбра, на гуньках матляліся махры і кутасы. Праз адчынены партал у вестыбюлі відаць былі шпалеры лёкаяў. Яны нерухома застылі ў золатам расшытых ліўрэях, утвараючы дарожку да высокай худой асобы ў форме дыпламата і з княжацкаю зоркаю на грудзях. Асобаю гэтаю быў Разумоўскі, і ён, мабыць, не мог вырашыць, чакаць далей ці не чакаць яму, гаспадару дома, запозненых гасцей.

З паўзмроку парку на дарожку, кульгаючы, ступіла нейкая асоба, пакорна трымаючы перад сабою старую шапку. Заварушыліся і другія цені, падышлі бліжэй. Святло пілона выхапіла з цемры паношаныя уніформы, мыліцы і невялічкія сляды-пячаткі, якія борздзенька пакідалі на снезе дзеравяныя абрубкі. Усюды толькі ўбогія - інваліды вялікае вайны.

Але раптам іх як ветрам здзьмула назад у цемру - у партале паказаўся Разумоўскі.

- Бетховен! Нарэшце такі прыйшлі і вы! Вас чакаюць не дачакаюцца.

Бетховен аддаў паліто, капялюш і стэк лёкаю і абыякава заўважыў:

- Дарагі князь, я крыху заіграўся і, хочучы паскорыць завяршэнне аднае фартэпіяннае санаты, страціў адчуванне часу.

- Бетховену не трэба прасіць прабачэння. Яно яму заўсёды гарантавана.

Разумоўскі схіліўся, выказваючы пашану, і ўсміхнуўся.

- А вось і абвінавачаны, ваша вялікасць.

Высокі статны пан падняў на Бетховена бліскучыя вочы:

- Хоць я і цар усяе Русі, але перад вамі я - просьбіт.

- Што? - Бетховен дакрануўся рукою да вушное ракавіны, і Разумоўскі паспяшыў памагчы:

- Ваша вялікасць, рух маіх губ геру ван Бетховену больш знаёмы, і таму я паспрабую пабыць у ролі перакладчыка. Гер ван Бетховен, маё сціплае свята можа набыць бляск толькі дзякуючы мастацтву. Перад намі выступіць балет прыдворнага тэатра, і яго вялікасць выказалі яшчэ жаданне. . .

Цар перабіў яго:

- Просьбу, Разумоўскі!

Бетховен кіўнуў.

- Гэта я зразумеў, нягледзячы на маю глухату, ваша вялікасць. Слухаю вас.

- Можа, вы нам сыграеце, гер ван Бетховен?

- Ахвотна, але што? Разумоўскі зноў паварушыў губамі.

- Будзеце акампаніраваць. Спачатку «Адэлаіду», з якою яго вялікасць пазнаёміўся праз мяне і якая ўжо стала ўлюбёным творам яго вялікасці.

- Гэтае маленькае юнацкае дзівацтва? А што яшчэ? Разумоўскі адказаў:

- Яго вялікасць жадаюць паслухаць канон «Мне так цудоўна» з «Фідэліо». У тым жа выкананні, што і першы раз. Вядома, я запрасіў і Умлаўфа, але яго вялікасці сказалі: а што, калі з’явіцца сам маэстра?

Імператар Аляксандр узяў Бетховена пад руку.

- Ну, а цяпер давайце пойдзем, бо мне хочацца пакрасавацца і прайсціся побач з пераможцам пры Віторыі. Цар гаксама можа мець гонар.

Пазней Бетховен сядзеў за адным з шматлікіх сталоў побач з эрцгерцагам Рудольфам. Які бляск у зале - зіхатлівае мора тысяч свечак, агеньчыкаў, што адлюстроўваліся на мармуры сцен. Аздоба столі, карціны і скульптуры, зіхценне вячэрніх сукенак, уніформаў, залатых эпалетаў, аксельбантаў, брыльянтавых дыядэмаў і ордэнскіх зорак. . .

На сцэну выйшаў Умлаўф і схіліўся ў нізкім паклоне. Калі ён сеў за раяль, на чале з прымадоннаю ўпырхнулі балерыны прыдворнага тэатра. Белая пена цюлю і карункаў, у кожным руху - рытм, музыка, хоць Бетховен іх толькі бачыў. Як іграе Умлаўф - па ім відаць, што ён напружвае ўсе сілы. Добры бедачына. А ён, Бетховен, хто? Каралі дагаджаюць яму - іначай гэтага не назавеш - князі, фельдмаршалы і дыпламаты тоўпяцца, каб паціснуць яму руку. Сёння - вяршыня яго жыцця, мэта, якая ўсё-такі апраўдвала нярэдкае гора на яго жыццёвым шляху. На шляху, які калісьці пачаўся з «спаніёля», «адзначанага», «Каіна». . .

Як чароўна, як пакорна, нібы сільфіда на скананні, схіляецца прымадонна, а яе таварышкі, балерыны, сумуючы, знерухомелі з застылымі ўсмешкамі за ёю. . .

Тым часам, мусіць, яго чарга. Устаўшы, ён адчуў, што ўсо позіркі скіраваны на яго. Бо цяпер будзе мець ласку выступаць ён, Бетховен. Хоць і нарадзіўся ён ва ўбогім паддашкавым пакойчыку з малюсенькім падслепаватым акенцам. Ён адбарабаніў на раялі некалькі пасажаў, якія аж струменіліся пад яго пальцамі, сводчылі, што слова ўзяў «кароль фартэпіяна». Бетховен варухнуў галавою ў бок кулісы, бакавой заслоны з цяжкае парчы. «Гер Вільд на месцы?» Спявак Вільд быў напагатове. Яшчэ невялічкі прэлюд, калі ласка. Ну, а цяпер пачалі! «Ідзе самотны сябар твой па вясновым садзе. . . » Даволі прыгожая песенька - і яшчэ гэтыя паўзы. Раней іх

звалі «Мангеймскімі ўздыханнямі» і на іх была вялікая мода. Як прыгожа: «Салаўі спяваюць». Прыгожа, праўда, прыгожа, улічваючы яго тагачасныя ўмовы. . . аднак у пастаралі салаўі спяваюць лепей, і на гэта ёсць свае прычыны. Калі ён пісаў «Адэлаіду», то мог яшчэ з натуры запісваць салаўіныя спевы, а ў пастаралі наадварот яны ўжо з успамінаў пераносіліся ў сферу мастацтва. У алегра мольта, гэтак жа?. . «Калісьці, о цуды! о цуды! на магіле маёй зацвітуць. . . »

Прыйдзецца прытрымлівацца гэтага тэмпу, Вільд. Увага - «кветкі на попеле сэрца майго. . . ». Ну, а цяпер і мы. . . «Адэлаіда! Адэлаіда!»

Гер Вільд, воплескі прызначаны вам; мой, Бетховенаў, клад зусім нязначны.

Цудоўна. І адразу ж канон з «Фідэліо». Абедзве спявачкі жо застылі ў прыдворным прысяданні, спевакі нізка схіліліся ў паклоне. Значыцца, яшчэ раз невялічкі імправізаваны прэлюд, а потым чарга спяваць Марцэліне. «Мне так цудоўна, сціскаецца сэрца ў мяне. . . » І гэтак далей. Леанора спявае: «Якая ж вялікая небяспека, які ж слабы свет надзеі!»

Ці адзін толькі тэкст насцярожыў яго? Ён раптам зразумеў, што наогул. . . нічога не чуе. Як гэта небяспечна, якая слабая надзея на тое, што ён паспяхова давядзе да канца гэты па-майстэрску сплецены канон. Варта памыліцца хоць у адной мелодыі, і ўзнікне страшэнная блытаніна. Чаму не пачынае спяваць Рока? Чаму спявачкі і спевакі збянтэжана пазіраюць на яго і на сябе? Няўжо ён?. . Тады гэта - і яшчэ з такім тэкстам! - асаблівая пошласць рэчаіснасці, жыцця! Раптам у яго з’явілася адчуванне, што нехта гладзіць яго па вушах - раз пагладзіў мякка, а другі раз - няўмольна, надта ўжо велічна няўмольна і не спяшаючыся, і ад гэтага расчыніліся зачыненыя вароты, прынамсі, на маленькую шчыліну, якая ўсё яшчэ існавала. Ён жа дырыжыраваў зусім іншае месца! Прыйшлося ўсё пачынаць спачатку, і на гэты раз яны давялі канон да канца.

Спявачкі прыселі ў прыдворным прысяданні, спевакі паказалі сагнутыя спіны, ды і Бетховен схіліўся таксама нізка-нізка, і не таму, што апладзіравалі імператары і каралі, а таму што ён развітваўся. Жыццё не раз папярэджвала яго, і менавіта сёння, у дзень свайго трыумфу, ён не захацеў прыслухацца да голасу, які раіў яму не давярацца болей сваім ненадзейным падманлівым вушам. Зусім ясна, што яму, «каралю фартэпіяна», трэба назаўсёды і поўнасцю развітацца з выступленнямі перад публікай на любой сцэне. І не толькі як камернаму музыканту: гэта адбылося раней.

Не сціхалі воплескі - але яму не мог памагчы ніводзін імператар і ніводзін кароль.

Пад раніцу, калі стома прывяла яго ў свінцовае падзямелле нябыту, нехта натрое яго за плечы.

- Гер ван Бетховен! - Ён расплюшчыў вочы. Каля ложка стану гер фон Пасквалаці, у доме якога на Мёлькербастай ён жыў. - Гер ван Бетховен, учора, - я не памылюся, калі скажу «сёння», - вы былі на вялікім банкеце ў палацы Разумоўскага. Палац гарыць! Агонь пайшоў з вялікае банкетнае залы - і цяпер бушуе ўнутры палаца. І нічога нельга ўратаваць. Ад усяе раскошы, зрэшты, мабыць, астанецца толькі агідная кучка попелу, руіны і страшэнная гара даўгоў.

- Даўгоў?

Пасквалаці засмяяўся.

- Увесь палац Разумоўскага і ўвогуле ўся раскоша нагадвалі пацёмкінскія вёскі, фасад, які праглынуў казачныя сумы.

Бетховен прабурчаў:

- Ну, маёмасць, якая пайшла і ідзе прахам, ён зноў набудзе дома з дапамогаю падаткаў і прыгонных.

Калі гер Пасквалаці пайшоў, Бетховен устаў, апрануў шлафрок і падышоў да акна. У гэтыя доўгія ночы года світанне напамінала аб сабе пакутліва позна, і таму языкі полымя аблізвалі неба, якое, здавалася, было захутана ў непраглядную цемру. Дзіўна. Выпадковасць? Пры пастаянных пошуках матэрыялаў, вобразаў, якія маглі б даць яго музыцы нешта накшталт тэмы ці хоць бы кірунак, у якім магла жыць яго фантазія, ён пагартаў біблію і ў кнізе прарока Данііла натрапіў на адну гісторыю. Разгорнутая кніга ляжала на канторцы. Ён падышоў з ёю да акна, каб у дрыготкім чырвоным святле прачытаць: «Валтасар цар зрабіў аднойчы вялікае частаванне для тысячы сваіх вяльможаў і перад вачыма тысячы піў віно. Выпіўшы віна, Валтасар загадаў прынесці залатыя і сярэбраныя пасудзіны, якія Навухаданосар, яго бацька, вынес з іерусалімскага храма, каб з іх пілі цар з вяльможамі яго, з жонкамі яго і наложніцамі яго. . . І пілі яны, і хвалілі яны бажкоў залатых і сярэбраных, медных, жалезных, драўляных і

каменных. Якраз у гэты час выйшлі пальцы рукі чалавечай і пісалі. . . »

Лічбу можна параўнаць з колькасцю ўдзельнікаў банкета: тысяча вяльмож! Але там ёсць і нешта іншае. Нешта болшае? Ён паступова зразумеў сэнс. Усё нагадвала рахунак, у якім ён падрахаваў прыход і расход. Ён нават прэтэндаваў на тое, каб стаць адным з самых знатных сярод гэтых вяльможаў. Можа, ён ім і быў, толькі яму здалося, што лічбы, якімі ён нібыта карыстаўся, робячы складанне і вылічэнне, спачатку патрабавалі пэўнага парадку і тлумачэыня. Цар не палічыў неабходным даць яму хоць адзін дукат за тры скрыпічныя санаты, якія шмат гадоў таму назад Бетховен прысвяціў яму як - для таго часу безнадзейную - пробу. Царыца, прынамсі, за паланез дала дзвесце. Гэта дробязь, калі падумаць аб тым захапленні і той пашане, якімі ён, кампазітар, акружаны цяпер. Раней ён прысвячаў свае творы князям і валадарам, бо як мастак адчуваў патрэбу ў мецэнатах, і тады прыходзілася стукацца ў дзверы, упрыгожаныя гербамі, нават калі існавала небяспека, што табе іх не адчыяць. Але ж цяпер? У сваё шчасце ён ужо ўнёс папраўкі. Але што яшчэ зблытвала рахунак, складзены ім дзеля самога сябе? Тое, як князь Метэрніх падаў яму вялую руку. Крыху з насмешкаю? Чаму менавіта ён успомніў пра канцлера? Ён выразна бачыў гэтую сцэну, бо якраз з пілона выбілася полымя, якое бязлітасна асвяціла ўсё: і хуценькія сляды-пячаткі салдатаў, апранутых у лахманы, вымушаных бегчы назад у цемру, у няпэўную безнадзейную цемру, куды беднасць зноў была загнана Метэрніхам. Яго усмешка. . . І раптам загадка перастала існаваць. Рашэнне тут простае: «Гэтак, гэтак, Бетховен, кожны чалавек мае сваю пакупную цану!» Як выразна ўзнікла гэта ў полымі пілона! Пілона? Угору з пілона ўздымаўся не проста маленькі агеньчык. Шугала вялізнае полымя, што выкідвалася пажарам палаца. Толькі хіба. . . аднаго палаца? А можа, там было штосьці болшае? Можа, там быў сцяг? Гэтыя языкі полымя разлазіліся цяпер кудысьці ў бакі, быццам ім трэба было шукаць і дабівацца нейкага выйсця.

## ЧАСТКА ЧАЦВЁРТАЯ
## ТЫТАН

Бетховен паказаў на крэсла.

- Сядайце, калі ласка. Яшчэ ніхто з маіх слуг не мог пахваліцца такімі выдатнымі характарыстыкамі, як вы. Шкада толькі, што ў бліжэйшы час я не збіраюся ў Зальцбург, іначай я наведаў бы сям’ю, названую ў рэкамендацыйным пісьме, і паведаміў бы ёй, што вы цяпер у мяне.

- Калі яна яшчэ жыве там!

- Разумею вас. Вы служылі ў гэтых гаспадароў даволі даўно. Сядайце ж. - Слуга сціпла прысеў на краёчак крэсла. Бетховен гаварыў далей: - Асабліва мяне ўражвае, калі я чытаю запэўненні з ранейшых месцаў вашае работы, што вам можна давяраць і як чалавеку і што вы ўмееце трымаць язык за зубамі. Бачыце, гэта пункт, якому я надаю асаблівае значэнне. Апошнія гады - ну але, хутка будзе ўжо тры гады! - я пражыў у адзіноце і бадай што нічога не пісаў. Гэта здаецца незвычайным, і не ўсе нават вераць. Сёй-той з ахвотаю зазірнуў бы ў падзорную трубу да мяне на кватэру, але кватэра такая, што не дазваляе гэтага зрабіць. Прынамсі, вы першы, хто можа скласці ўяўленне аб таямніцы гэтых чатырох сцен, і. . . - ён пацісвуў плячыма, - чаму б мне не расказаць вам пра ўсё? Хочацца ж калі-небудзь і выгаварыцца.

Слуга з павагаю засведчыў сваю гатовасць слухаць.

- Між іншым, - сказаў Бетховен, падыходзячы да раяля, - я якраз засеў за чацвёртую частку свае санаты. Першыя тры часткі я напісаў яшчэ вясною. Хачу назваць сенату «Вялікаю санатаю для малаточкавага піяніна». Па-першае, саната ў мяне наогул самая вялікая, а па-другое. . . хоць цяпер, праўда, кожнае піяніна малаточкавае, але ў санаце мне хацелася падкрэсліць. . . менавіта малаточкавы стук, прынамсі, у асноўных яе партыях. - І ён пачаў іграць. - Сі-бемоль мажор! Фартысіма! Стук малаточка! Генеральная паўза! Трэба зазірнуць у сваю душу і задумацца. Тройчы я пачынаў усё спачатку. Але цяпер я мяняць нічога не буду. Цяпер і пазней. . . - Ён быў рады, што ў яго голасе загучаў гэты звонкі недвухсэнсавы баявы кліч, які абвяшчаў, што прыйшоў канец бясплённым, поўным усялякага клопату гадам. Ён зноў знайшоў сябе, ён зноў гатовы да бойкі. Сыходная тэрцыя! Як пальчатка, якую ён зішў кідае ім, бо ён не пакідае змагацца.

Гэты суб’ект, гэты ўяўны слуга, які сядзіць ззаду ў яго і чакае яго, Бетховенавай споведзі,

- калі ласка, вось яго «споведзь». . . ударамі малаточка! Цмескаль мог нават і не перадаваць яму папярэджання. Гэты слуга адразу ж здаўся яму празмерна саладжавым. А яго рэкамендацыйнае пісьмо? Напэўна, падроблена. Значыцца, праўда: начальнік паліцыі граф Зедльніцкі падаслаў нягодніка шпіёніць. На вуліцах, у гасцініцах і ў кавярнях - усюды сноўдаюцца шпіёны начальніка паліцыі і гера Метэрніха. А чаго яны шукаюць? Рэвалюцыянераў, рэспублікайцаў, «дзяржаўных злачынцаў». А з гэтага пункту гледжання і ён, мабыць, таксама рэвалюцыянер і дзяржаўны злачынец, бо яго падазраюць у тым, што ён стаіць за чалавечнасць, за мір, за ўсё добрае, прыгожае і вышэйшае, нават за набожнасць. Яму абавязкова трэба напісаць M Issa solemn Is, Урачыстую месу! Яна ў гэтыя часы прытворства проста неабходна, каб абвясціць сапраўдную набожнасць.

Яшчэ раз гучыць галоўная тэма, гераічны покліч. І быццам перасцярожліва стукаюць басы! Сам сабе ён усміхнуўся, уявіўшы шпікаў твар, які неўзабаве зробіцца здзіўленым. Цікава, што сказалі б цяпер многія наконт вяртання Напалеона. Напалеона, ільва, адправілі ў ссылку, каб пасля Венкага кангрэсу, як і раней, зноў маглі гаспадарыць тыя ж самый ваўкі і яшчэ больш агідны зброд, гэтыя гады, што наняліся да ваўкоў выконваць ролю загоншчыкаў на паляванні на людзей. Скерца ён адыграў прэста, з маланкаваю хуткасцю адбарабаніў пасаж фа мажор, які з самага глыбокага баса ўзняўся да найвышэйшага дысканта і раптам абарваўся, нагадваючы трыумфальныя гукі. . .

Тут яму прыйшла ў галаву адна думка. Хопіць прытварацца і строіць камедыю. Ён устаў.

- Вы зразумелі?

- Што, асмелюся спытацца?

- Музыку. Ну як, апошні пасаж вясёлы?

Слуга кіўнуў галавою.

- Вельмі вясёлы.

- Я рады. Пайшлі!

Мужчына падазрона спытаўся:

- Куды загадваеце ісці?

- У калідор. Там я дам вам урок кантрапункта, які зразумеюць і такія адкіды чалавецтва, як вы. Перадавайце мае найлепшыя пажаданні, але, на жаль, я не люблю шпіёнаў. - Ён засмяяўся. - Безнадзейна супрацiўляцца мне.

Ён, як палатняную ляльку, падняў яго за каўнер і павёў да верхняй ступенькі ўсходкаў.

- А вось вам і кантрапункт - добры выспятак! А цяпер маланкавы пасаж уніз! Прэстысіма!

Ён не чуў грукату, з якім шпік пляснуўся ўнізе, і, смеючыся, вярнуўся ў пакой.

Не, непрыемнасцей з-за гэтага выкідвання яму баяцца не трэба. Бо ананімнасць шпікаў патрабавала, каб усё аставалася ў сакрэце.

Якія брудныя часы! Хутчэй адчыніць акно, няхай увойдзе свежае паветра! Дзіўна, але гэты кароткі фарс вярнуў яму жаданне працаваць. Што б узяць, вартае быць заключнаю часткаю вялікае санаты для малаточкавага піяніна? Дзіўна, што ён ужо знайшоў і адказ: музыку Ёгана Себасцьяна Баха! Нешта такое, што б сведчыла: сяму-таму ў гэтага волата я ўсё-такі навучыўся - і не толькі дзякуючы майму старому настаўніку Нефе! Гэта будзе музыка Баха, але. . . новага Баха: Людвіга ван Бетховена. З законамі музыкі Баха ён злучыць законы. . . свае музыкі, пасланняў уласнае музыкі.

Але цяпер яму трэба спяшацца! Яго выклікалі ў суд, а туды пазніцца нельга. Дзе ж позва? Вось яна - на 11 снежня 1818 года, на сёння. А на які час? На чатыры гадзіны дня. Гер Бернард, якога ён з-за свае глухаты папрасіў быць перакладчыкам, і так, мабыць, ужо даўно чакае не дачакаецца яго.

Як непрыемна і прыкра, калі цябе адрываюць ад работы, а сыры і халодны снег плешча ў твар і яшчэ больш узмацняе адчуванне, быццам ісці прыходзіцца насустрач чамусьці ненавіснаму і варожаму.

Fuga a tre voc I? Фуга ў тры галасы? У ёй можна паказаць добрую бітву. Тым часам ён, Бетховен, ужо зусім вярнуўся на зямлю з сваіх мараў. Цяпер трэба думаць перш за ўсё пра бітву на судзе, якая чакае яго сёння, - бітву за свайго падапечнага, пляменніка Карла, сына нябожчыка брата Карла, гэтага дванаццацігадовага хлопчыка з бледным тварам і жывымі вачыма. Пасля незразуметага і ганебнага здарэння, калі пляменнік збег ад яго і вярнуўся да свае мацеры, фраў

Ёганы ван Бетховен, тая зноў падала ў суд, патрабуючы перагляду справы аб апецы над сынам на сваю карысць. Але

Бетховен ніколі не пойдзе на гэта. Падумаць толькі: аддаць хлопчыка Ёгане, «начной каралеве»! Начной. . . можна сказаць і горшае слова. І таму дзіця трэба ратаваць з гэтага бруду. Дый ці быў Карл наогул братаў сын? Ёгана ж увесь час мела невялічкія пабочныя даходы, аказваючы паслугі другім мужчынам. Зразумела, нябожчык адмаўляў гэта, бо яму, мабыць, было няёмка, але ж калі ўспомніць, што было тады, сем гадоў назад?. . Падаваў жа брат у суд на сваю жонку, што яна бадзялася і крала. І суд прыгаварыў тады «начную каралеву» на месяц хатняга арышту. Адно ўжо тое, што на смяротным ложы Карл так настойліва прасіў яго, Людвіга, узяць апеку над малым Карлам, гаварыла пра ўсё. Аднак у апошнія дні перад смерцю брат зноў змяніў сваё завяшчанне, крыху ўступіўшы Ёгане, якая літаральна выціснула з яго на гэта згоду. Але як бы там ні было, трэба ратаваць нявіннае дзіця. Дый ці ж можна было папусціцца, каб потым дакараць сябе, што чагосьці не зрабіў, штосьці занядбаў? Карл жыў перад гэтым у добрым пансіёне Джанатазіо, у прыстойных людзей, з якімі Бетховен сам меў сяброўскія зносіны. У Модлінгу хлопчыка можна было аддаць на выхаванне пастару Фроліху, але паверка на высокашаноўнага гера пастара пахіснулася, калі Бетховен даведаўся, што прападобнасць схіляе хлопчыкаў да таго, каб спатоліць свае ненатуральныя слабасці, а потым лупцуе іх аднаго за адным, убіваючы стусінкаю рэлігію і дзяржаўную мудрасць. Карлу, мабыць, не хапае цеплыні бацькоўскага дома, падумаў тады Бетховен і завёў уласную гаспадарку з аканомкаю. А потым забраў хлопчыка ад Джанатазіо дадому, каб даць яму адчуць бацькоўскі клопат. І ўсё ж некалькі дзён таму назад Карл зноў збег да свае мацеры! Прыйшлося патурбаваць паліцыю, і вось Карл зноў у Джанатазіо.

Бернард, вядома, ужо прыйшоў, і іхнюю справу, мабыць, абвясцілі да разгляду, бо як толькі ён паявіўся, гер Гачэвар, юрысконсульт Ёганы, што сама, дзякуй богу, не прыйшла на суд, адразу ж падаўся ў судовую залу. Дый Бернард даў знак паспяшацца.

Што з Бернардам? Не ў гуморы ён ці чымсьці занепакоены? І папытацца, на жаль, нельга. І вось ужо і Бетховен з пашанаю схіліўся перад трыма суддзямі ва ўрачыстых мантыях і парыках. Той, што пасярэдзіне, мабыць, выклікаў цяпер бакі, бо і Гачэвар і Бернард схіліліся ў знак згоды.

- У якасці прадстаўніка фраў Ёганы ван Бетховен гер Гачэвар. . . Далей прысутнічае капельмайстар і кампазітар Людвіг ван Бетховен. А вы хто?

- Завуць мяне Ёзеф Карл Бернард. Я - рэдактар «Венекай газеты». Прыйшоў сюды памагчы геру ван Бетховену, калі ў яго аб чымсьці запытаюцца. Мы з ім сябры, і ён чытае. . . словы па маіх губах.

- Дазваляем. А цяпер да справы. Першы папрасіў слова гер Гачэвар. Вы, здаецца, сваяк фраў Ёганы ван Бетховен?

Гер Гачэвар паціснуў плячыма.

- Ці ж можна гэта назваць сваяцтвам? Мая маці і маці фраў Ёганы ван Бетховен - зводныя сёстры.

- Ага, вось як. Калі ласка, гер Гачэвар.

- Высокі зямельны суд. Высокі дваранскі суд. . . Суддзя перабіў яго:

- Навошта вы падкрэсліваеце гэта? Мае гэта дачыненне да заявы? Гаварыце, калі ласка.

- Усе дэталі справы аб падапечным Карле ван Бетховене я запісаў падрабязна, з усімі заўвагамі, якія, на маю думку, неабходны, каб быць сапраўды аб’ектыўнымі. Пазней я перадам гэты дакумент з маімі заўвагамі высокаму суду. А зараз паспрабую нагадаць толькі самае неабходнае. Наколькі мне вядома, братоў ван Бетховенаў трое. Не адмаўляючы іх выдатных якасцей, трэба сказаць, што ўсе трое ў сваіх паводзінах экецэнтрычныя і нябожчык Карл ван Бетховен не выключэнне. Гэтыя праўдзівыя шчырыя словы ні ў якім разе не шкодзяць гонару паноў ван Бетховенаў, але бясспрэчна даказваюць, што яны, ва ўладзе свайго тэмпераменту, не заўсёды падыходзяць да справы з неабходным спакоем і ўпадаюць часамі ў крайнасць. Паны браты Людвіг і Карл ван Бетховены былі адзін аднаму хутчэй ворагамі, чым сябрамі, і таму не будзе перабольшаннем сцвярджаць, што гер Карл ван Бетховен толькі тады быў у добрых адносінах да свайго брата, гера Людвіга ван Бетховена, калі меў патрэбу ў грошах. Праўда, высокі суд, і ў гэтай сувязі так і цягне сцвярджаць, што хлопчык Карл ван Бетховен у адносінах паміж братамі быў нечым накшталт тавару.

Бернард падняў руку, але старшыня суда знакам паказаў яму не перашкаджаць. Гачэвар гаварыў далей:

- Паводле дадаткаў «в» і «г» да заявы фраў ван Бетховен выходзіць, што геру Людвігу ван Бетховену ўдалося дабіцца выключнай апекі над хлопчыкам, так што нават і высокі суд вышэйшай інстанцыі па апецы згадзіўся адмовіць мацеры ўплываць на выхаванне дзіцяці. Гэта жорсткі ўдар для мацеры, хоць, з другога боку, нельга аспрэчыць, што гер Людвіг ван Бетховен ставіцца да хлопчыка велікадушна. Але з улікам яго экецэнтрычных паводзін, да якіх далучаецца і фізічны недахоп, хлопчыка або зусім не выхоўваюць, або толькі песцяць, пра што сведчаць паперы гера пастара Фроліха з Модлінга.

На гэтым месцы Бернард схіліўся ў паклоне перад суддзямі:

- Высокі суд, дакументальна таксама пацверджана, што просьбіт, гер Людвіг ван Бетховен, нязгодны з меркаваннем гера пастара.

Суддзя кіўнуў галавою.

- Нам гэта вядома. Гаварыце, гер Гачэвар. Той схіліўся яшчэ ніжэй.

- Дый акрамя таго трэба яшчэ дадаць, што як у фізічных, так і ў маральных адносінах выхаванне хлопчыка вымушае жадаць лепшага. Часта насоўкаю ў доме служыць ліст прамакальнай паперы. Гер Людвіг ван Бетховен - чалавек нежанаты, і пра бялізну і догляд за сабою ў доме, мабыць, думаюць мала. Аб рэлігіі хлопчык атрымлівае скажоныя ўяўленні і закон божы паважае вельмі мала. Выказвае дзёрзкія думкі аб волі і незалежнасці і можа ў хуткім часе стаць небяспечным грамадзянінам для дзяржавы.  І таму мы просім вас, высокі суд, каб гер Людвіг ван Бетховен цалкам адмовіўся ад апекі ці, прынамсі, згадзіўся - хоць пры яго дзівацтвах на гэта надзеі мала, - каб або хлопчыкавай мацеры, або каму-небудзь больш дасведчанаму было дазволена ўзяць сталы саўдзел у выхаванні.

Гачэвар, пацёршы свой кручкаваты нос, аддаў прашэнне і адышоў убок, пасля чаго старшыня суда звярнуўся да супрацьлеглага боку:

- Гер Бернард, запытайце ў просьбіта Людвіга ван Бетховена, як яго падапечны Карл збег з дому.

Губы Бернарда паварушыліся, і Бетховен адказаў:

- Не ведаю. Ва ўсякім разе ён пабег да свае мацеры.

- Якія прычыны былі на гэта ў хлопчыка?

- Магчыма, страх перад пакараннем. Бо перад гэтым ён непрыстойнымі словамі аблаяў слуг і ўкраў у мяне грошы, на якія накупляў сабе ласункаў. Цяпер хлопчык зноў у Джанатазіо. У Карла вялікія здольнасці да вучобы, і я хачу падрыхтаваць яго адпаведным чынам. Зараз яму дае ўрокі настаўнік музыкі. А да музыкі ён вельмі здатны. Я наняў яму яшчэ аднаго настаўніка, каб той вучыў хлопчыка французскай мове і маляванню. Такім чынам, Карл заўсёды пад добрым наглядам, і ўсё ж мне хочацца аддаць яго ў інтэрнат пры манастырскай школе, можа, у Молькераўскі ці Тэрэзіянскі.

Суддзя адкінуўся назад.

- Але ў Тэрэзіянскі інтэрнат бяруць толькі дваранскіх дзяцей.  І. . . каб канчаткова вырашыць пытанне, скажыце, гер ван Бетховен: вы дваранін?

Бетховен палажыў руку за вуха.

- Я не зусім добра зразумеў, Бернард.

На рэдактаравым ілбе з’явіліся змрочныя маршчыны.

- Высокі суд хоча ведаць, ці дваранін вы.

- Навошта? Ах вось яно што: мяне ж завуць «ван» Бетховен. Значыцца, з-за гэтага? «Ван» - галандскае слова, якое не мае дачынення да дваранскага тытула.

Голас суддзі-двараніна раптам загучаў так рэзка, што Бетховен мог зразумець яго і без перакладу.

- Значыцца, вы не дваранін, гер. . . Бетховен.

Выраз Бетховенавых вачэй неяк раптоўна змяніўся. Ён рэзка, пагардліва кінуў:

- Чаму ж не, гер суддзя? Я дваранін, - менавіта вось тут, - ён паказаў на лоб, - і тут! - ён паказаў на сэрца. Суддзя паглядзеў на членаў суда злева і справа ад сябе, і абодва кіўнулі галавою. Пасля гэтага ён загарнуў паперы.

- Пасяджэнне закрываецца. Пратакол надзвычайнага вышэйшага суда просьбітам будзе дасланы. - Каб устаць, адсунулі крэслы. Гер Гачэвар пакінуў залу з незразумелаю ўсмешкаю на

твары.

- Што здарылася, Бернард?

- Хітрыкі ананіма, гер ван Бетховен. Праз пэўныя каналы я ўжо даведаўся пра гэта.

- Гачэвар? А што ўсё гэта значыць?

- Калі надзвычайны вышэйшы суд разглядае толькі справы дваран, то што тады застаецца рабіць нам?

- Бернард! Няўжо звяртацца ў магістрат? У суд для ўсякага зброду? Не, не, Бернард, зрабіць гэтак са мною. . . Думаю, што яны наўрад ці асмеляцца пайсці на гэта. Вы звар'яцелі?

Дваранін! Ці ж не адна з самых абуральных недарэчнасцей гэтага гнілога старога свету, што дваранінам рабіла толькі прыстаўка «фон» перад прозвішчам ці яшчэ які больш высокі тытул? Ён карыстаўся другімі катэгорыямі, каб адрозніваць рангі, і ў яго вачах людзям толькі тады надавалася дваранства, толькі тады ён лічыў іх вартымі павагі, калі яны па сваіх духоўных або маральных якасцях адпавядалі гэтай годнасці і заслугоўвалі сяброўства. Князь Кінскі, у якога яму прыходзілася літаральна вымольваць кожны гульдэн «ганаровай пенсіі», быў у яго вачах нягоднік, і не толькі таму, што князь рабіў яму гэтыя матэрыяльныя цяжкасці. Ён і па характару сваім дробязны, і недваранін Бетховен часта гаварыў усім пра гэта; а высакародная княгіня, яго жонка, хіба таксама не заслугоўвала яна такое ацэнкі? Адным словам: багаты высакародны зброд з прагнымі кіпцюрамі. Але разам з тым быў і эрцгерцаг Рудольф, якога хоць і прыходзілася называць «ваша імператарская высокасць», але паміж імі не існавала і самае тонкае сцяны, і эрцгерцаг, на яго думку, з поўным правам заслугоўваў імя добрага чалавека. А ці быў дваранінам Стэфан фон Бройнінг? Глейхенштэйн? Цмескаль? Пра гэта ён амаль не думаў, ведаў толькі, што ў іх прысутнасці ён адчуваў сябе добра. Каго лічыць высакародным, а каго не - залежыць ад чалавека, ад таго, на што ён паказваў ужо высакародным суддзям: ад галавы і ад сэрца. Але суддзі, тры прадстаўнікі дваранскага зброду, толькі іранічна ўхмыльнуліся! Няўжо яны асмеляцца пайсці на гэта з ім? Зрэшты ж, ён ганаровы грамадзянін Вены, хоць і не за музычную дзейнасць, а за тое, што дырыжыраваў сваёй «Бітвай пры Віторыі» на карысць бедных у шпіталі святога Маркса.  І ўсё ж: ці ж гэта не высакародна, калі ён, не ашчасліўлены багаццем, хоць і атрымліваючы тры тысячы шэсцьсот папяровых гульдэнаў ганаровай пенсіі, што ў канвенцыйнай манеце адпавядае адной тысячы трэмстам шасцідзесяці фларынам, маючы, праўда, яшчэ восем купленых пасля паказу «Бітвы» банкаўскіх акцый, - якіх, вядома, забываць нельга, - калі ён, тым не менш бедны ў параўнанні з графам Фрызам, іграе на карысць бедных і яшчэ знаходзіць магчымасць раздаваць свае грошы бедным? Наданне рангу ганаровага грамадзяніна, здавалася, нейкім чынам сведчыла пра яго «дваранства», і вось табе на: ён усё роўна не дваранін! Гэты феадальны зброд выштурхнуў яго, паставіў перад ім бар'ер. Але, можа, у ім шукае выйсця толькі абражаная пыхлівасць? Не, наадварот - раптам ён адчуў сябе бязмерна гордым, што ўсяго толькі сын музыканта і камерысткі і тым не менш - Людвіг ван Бетховен!

Allegro r Isoluto! Fuga a tre voc I, con - так, con alcune l Icenze - крыху вольна! Бо ў гэтай фузе ў законы Бахавага кантрапункта проста неабходна ўвесці некаторыя вольнасці. Пасля смерці Баха прайшло амаль семдзесят гадоў, і сёе-тое за гэты час змянілася. Час, праўда, не прынёс і не абвясціў чалавечае свабоды для невысакародных. Хутчэй наадварот. Рэакцыя, назваўшы сябе рэстаўрацыяй, выдумала пасткі і ганебныя ўніжэнні для людзей, якія зноў сталі лічыцца бруднымі, бо хацелі, вымушаны былі жыць з працы сваіх рук ці свае галавы.

Як жа цудоўна стасуецца адна музычная партыя да другое! Хто, акрамя яго, вось так валодае майстэрствам кампазіцыі, каб адначасна весці гэтыя тры партыі?  І ўсё ж адна вольнасць тут была: ён жа сцяганосец свабоды, чалавечнасці і міру, гэтых самых высакародных, свяшчэнных каштоўнасцей, якія павінны існаваць не толькі для дваранства.  І няхай яны шпіёняць, уніжаюць яго, падазраюць, што ён дзяржаўны злачынец!

A tre voc I! Гэтыя тры партыі ён, рэвалюцыянер з народа, увесь час будзе спрабаваць зрабіць чымсьці непадзельным, прымусіць загучаць іх з дапамогаю ўсіх магчымасцей кантрапункта: і звужэння, і павелічэння, і павароту, - па законах музыкі, па маральным закону ў сваіх грудзях, па закону зорнага неба!

Вечарам, але не так позна, каб яго падапечны Карл ужо спаў, Бетховен выправіўся ў дарогу да Джанатазіо. Сустрэла яго Фані, дачка гаспадара, якая адразу пазнала, што Бетховен сёння нічога не чуе.

На аркушы паперы яна напісала:

- Гер Бернард ужо быў тут.

Ён кіўнуў галавою. Фані задрыжала ад абурэшш, і яе рука аж трымцела на паперы.

- Ну, што такое ў параўнанні з вамі мы? Але ж мы, Джантазіо дэль Рыо, дваране!

Ён усміхнуўся ёй.

- Вы, Фані, высакародная. . . сваёю прыгажосцю.

Яна прывяла Карла, і Бетховен ласкава абняў зграбную фігуру хлопчыка. Штосьці другое хавалася яшчэ ў гэтым руху, і яно і кранула і засмуціла дзяўчыну. Здавалася, гэты адзінокі, часта нястрыманы чалавек, у якога тым не менш было бяскрыўднае дзіцячае сэрца, шукаў у хлопчыку сваю апошнюю надзею. У гэтым хлопчыку!

- Ну, як у нас справы, Карл?

- Дзякую, добра, гер дзядзька.

Ён, Бетховен, вядома, мог зразумець адказ па губах.

- Карл, я ж прасіў цябе зваць мяне «татам».

Хлопчыкавы губы паварушыліся:

- Мой мілы тата!

І потым абняў Бетховена за шыю.

- Мой мілы сын!

У Фаніных вачах адбіўся смутак. Яна зычыла Бетховену, якога таемна кахала, самага вялікага шчасця, але хлопчык не быў варты яго любові. Карл проста камедыянт, слізкі спрактыкаваны лгун ужо ў свае дванаццаць гадоў, сапраўдны сын свае манеры. А ці ўдасца змянідь гэтую атрыманую ў спадчыну якасць?

Бетховен, трымаючы свайго падапечнага перад сабою, запытаўся:

- Што ж нам цяпер рабіць з табою, Карл, мой сын? Спадзяюся, ты верыш, што я зычу табе дабра?

Гэты чалавек з дзіцячым сэрцам, вядома, не заўважаў, што хлопчыкавы жэсты і паводзіны занадта ўжо салодкія, толькі з выгляду нявінна-шчырыя.

- Ты павінен стаць альбо мастаком, альбо вучоным, бо толькі яны ў душы вольныя людзі. А ў цябе ёсць усе магчымасці для гэтага, Карл. Падабаецца табе тут, у Джанатазіо?

- Вельмі. - Але яшчэ не больш за гадзіну таму назад адзін з вучняў інтэрната расказаў ёй, Фані, што «новенькі» паспрабаваў падбухторваць іх супраць Джанатазіо, выказваючы самыя гнюсныя падазрэнні.

- Лепш за ўсё я б адправіў цябе куды-небудзь з Вены. - Толькі яна, жанчына, убачыла кароткую ўспышку ў Карлавым позірку, які адразу ж стаў зноў выказваць радасную пакору і ахвочую гатовасць. - Я сам буду цяжка пакутаваць ад разлукі, але табе патрэбен спакой - каб ты развіваўся і мог дасягнуць свае высокае мэты. Нельга ўвесь час ірваць цябе сюды-туды. І мне тады не прыйдзецца папракаць тваю маці, а тваёй мацеры - мяне. Мы абое будзем цярпець страту, хлопчык, дзеля твайго шчасця. У Ландсгуце жыве прафесар Зайлер, выдатны вучоны і педагог, у якога вельмі вядомы інтэрнат. Ён, вядома, вельмі дарагі, але я, твой бацька, пастараюся знайсці грошы. Твае школьный таварышы будуць сынамі з лепшых сямей.

Карл употайкі пазяхнуў, бо яму надакучылі гэтыя разважанні, але ў сваёй заклапочанасці Бетховен адразу ж зразумеў гэта іначай.

- Ты стаміўся? Тады ідзі спаць. Але ты згодзен адправіцца да прафесара Зайлера?. .

- Я згодзен з усім, што ты скажаш, дарагі тата.

Гер Джанатазіо ўжо нейкі час быў у пакоі. Сеўшы насупраць Бетховена, ён напісаў:

- А што, калі яны, папраўдзе, перададуць справу ў магістрат?

Бетховен зморшчыў лоб.

- Тады я буду змагацца далей усімі сродкамі. І калі спатрэбіцца, то гэтак жа, як раней рыцары-разбойнікі або грабежнікі, якія разбоем здабывалі сваім нашчадкам дваранскія тытулы.

Джанатазіо напісаў:

- Я не хачу ўмешвацца, але. . .

Бетховен адштурхнуў паперу.

- Я ведаю, што вы невысокая думкі пра Карла! - Яго твар пацямнеў ад злосці, але раптам ён зноў зрабіўся выключна ветлівы. - Між іншым, каб вы потым не здзівіліся. . . Прашу яшчэ раз прабачыць, што дагэтуль нічога не сказаў вам. Ведаеце, гер Джанатазіо, за ўсімі гэтымі непрыемнасцямі. . . Днямі я забяру ў вас Карла. Хачу аддаць яго ў інстытут Блехлінгера. Усяго

добрага.

Фані ўсхліпнула.

- Няўжо ён верыць у Карла ці толькі хоча дамагчыся свайго? А можа, у сваёй адзіноце ён спадзяецца знайсці сабе ў Карлу ўцеху? Гэты хлопчык прынясе яму яшчэ нямала гора. . .

Позняй восенню 1821 года некалькі наведнікаў сядзела ў садовым рэстаране. Абслугоўваў іх, сваіх пастаянных гасцей, сам гаспадар, гер Шлейфер. Ён толькі што прынёс ім віна.

- Можа, паны зойдуць у залу?

Віно наліваў Блазіус Гефель, прафесар Акадэміі мастацтваў. Некалькі гадоў таму назад ён зрабіў Бетховенаву гравюру па карціне Летрона.

- Вы не разумееце, што такое рамантыка, Шлейфер. Тым часам, гэта апошняя пляшка, як сёння, мабыць, апошні прыгожы цёплы вечар у гэтым годзе. Эйснер, вас, здаецца, пытацца не трэба: наліць вам яшчэ шкалік ці не? Вы калі-небудзь хоць раз адмаўляліся? Гер камісар паліцыі, свечка чадзіць, а вы ж у Вінер Нейштаце адказваеце за асвятленне.

Камісар з асалодаю выцягнуў ногі.

- Я не на службе.

На дарожцы зарыпеў гравій. Падышоў паліцэйскі, аддаў чэсць.

- Прабачце, гер камісар, я. . .

- Што здарылася, Францмейер?

- Прыйшоў да вас па інструкцыі, гер камісар. Я затрымаў аднаго ў вышэйшай ступені падазронага суб’екта, нейкага непаслухмянага бадзягу. Прыйшлося затрымаць яго.

Паліцэйскі дастаў блакнот.

- Здарылася гэта ў шэсць гадзін вечара. Каля варот Унгертор арыштант вельмі настырна заглядваў у вокны, і жыхары пазвалі мяне на дапамогу. Я неадкладна затрымаў бадзягу. Ніякіх дакументаў у яго, гер камісар, не было. Толькі ў парваным пінжаку знайшлі старую газету. І вось цяпер ён сцвярджае, што з’яўляецца тым чалавекам, пра якога піша газета. Нейкім там. . . Бетховенам.

- Кім? Што гэта за газета?

- «Венская газета мод», гер камісар, і ў ёй адзін артыкул падкрэслены чырвоным алоўкам.

Камісар, разгарнуўшы пажаўцелую скамечаную газету, прачытаў голасна:

- «У апошні час гер Клебер з Брэслаў скончыў пісаць алеем партрэт нашага славутага і вялікага маэстра Людвіга ван Бетховена. Гэтаму выдатнаму мастаку не толькі ўдалося дакладна схапіць і намаляваць абрысы, але правільна і шчасліва адлюстраваць і вышэйшае падабенства, духоўную фізіяномію геніяльнага чалавека». - Ён строга зірнуў на паліцэйскага. - І затрыманы бадзяга, значыцца, сцвярджае, што ён і ёсць гэты Бетховен?

- Так точна, гер камісар. Больш за гадзіну ён барабаніў кулакамі ў дзверы камеры і роўма роў: «Я - Бетховен!»

Гефель зарагатаў:

- Найдабрэйшы Бетховен часам папраўдзе паводзіць сябе як вар’ят. Гэта відаць ужо з таго, што ён гатовы добра адлупцаваць кожнага, хто асмеліцца ўспомніць пра «Бітву пры Віторыі». Але на такое дзівацтва, каб хадзіць, пераапрануўшыся ў бадзягу, ён, здаецца мне, усё-такі няздатны.

Камісар вярнуў газету паліцэйскаму.

- Запішыце ў пратакол, Францмейер. Заўтра раніцаю ў восем гадзін я займуся гэтым «герам ван Бетховенам».

Ён зноў прыўзняўся на нарах. Серп месячыка стаяў ужо нізка, яго яшчэ можна было бачыць з нараў праз закратаваныя вокны. Пасадзілі як бадзягу за краты, бо ў яго выгляд бадзягі, а хто вінаваты?

- Ты, Жазефіна? - З таго часу, як ён аглух зусім, ён меў звычку часта размаўляць з самім сабою, бо тады ён мог адразу ж адказаць, і непатрэбны быў гэты размоўны сшытак, без якога ён не мог абысціся, размаўляючы з другімі людзьмі. Ён прыслухаўся, прыняўшы позу, да якое прызвычаіўся апошнім часам: схіліў галаву набок, падазрона прыслухоўваючыся. - Вядома, гэта не папрок, але як жа ты магла памерці? Твой дзень смерці, тое трыццаць першае сакавіка, канчаткова даканала мяне. А дзеля каго яшчэ мне трэба апранацца франтам? Ты мяне не бачыш, а музыка мая, якую я пішу і якой я болей не чую, таксама не бачыць мяне. Апроч таго, зірнуўшы

на мяне, музыка спужаецца гэтак жа, як і ты, каго я калісьці назваў сваёю неўміручаю каханкаю. Бо на мне пакінула яшчэ сляды і жаўтуха. Мабыць, сваё слова сказала печань, як і ў Напалеона, які нядаўна памёр на востраве Святой Алены - ці быў атручаны там, як ходзяць чуткі? А мае валасы тым часам афарбаваліся ў колер сталі. Якое далікатнае глупства называць гэта вось так! Бо сталёвы колер з’яўляецца тады, калі чалавек пачынае сівець - хоць сівець яму ў пяцьдзесят адзін год яшчэ ранавата. Але ўсе кажуць, што дзесьці пасля пяцідзесяці жыццёвы метраном пачынае цікаць прэста. Між іншым, я выразна чую гэта, і. . . няўжо я змарнаваў апошнія гады? Я ж болей пісаў судовыя паперы, чым ноты, але часам хочацца-такі дамагчыся свайго, хоць ты і не шляхетнага паходжання, - і я свайго дамогся. Хлопчык належыць мне! Канечне, спраўдзіліся не ўсе намаганні. Карл не папаў у Ландсгут да прафесара Зайлера, бо яму не далі пашпарта. А сёння мяне, як бадзягу, кінулі за краты, бо я, паглыблены ў работу над М Issa solemn Is і Дзевятай сімфоніяй, забыў апрануць фрак, выходзячы на вуліцу! З-за сімфоніі ўсё ці з-за Месы? У мяне ў галаве яшчэ блукае і нешта іншае - фартэпіянная саната, якой я даў нумар опус сто адзінаццаць. Але мне ніяк не прыходзіць на думку тэма, якая была б такою магутнаю - бо ўжо тата Гайдн зваў мяне «вялікі магол», - якая была б такою магутнаю, каб перасягнуць самога сябе. Не прыходзіць у галаву тэма? Але ж я яе ведаю! Я нават ужо запісаў яе калісьці ў агульных рысах, у той год, калі напісаў Гейлігенштацкае завяшчэнне! Было такое. Але не абавязкова, каб яно зрабіла валасы шэрымі, як сталь! Толькі тады я запісаў тэму ў фа-дыез мінор, а цяпер, вядома, трэба пісаць яе ў до мінор. - Ён, адбіваючы такт, забарабаніў пальцамі па ўслончыку. - Маэстоза! Фортэ! Леваю рукою мі-бемоль, актава, потым гэтак жа до-дыез! Фартэпіяна не галоўнае. І ў турме я магу рабіць такія ж рухі, як і на маім дарагім раялі, які прыслаў мне з Лондана адзін мой паклоннік. Я ўсё роўна нічога не чую. Але тут няма святла, каб запісаць тое, што прыйшло мне ў галаву. - Ён не пераставаў «іграць». - Нешта выйдзе. А можа, зрабіць яе толькі з дзвюх частак? Але патрэбна святло, патрэбна святло! Гэтыя нягоднікі ўзялі і зачынілі мяне ў цёмнай каморцы. Прыйдзецца раскалаціць дзверы!

Праз пакутліва доўгі час дзверы адчыніліся. Перад Бетховенам выраслі камісар і паліцэйскі. Камісар адразу зароў:

- Што ты сабе дазваляеш, арыштант?! Калі ты гэтак і далей будзеш прыкідвацца, то я загадаю звязаць цябе!

Бетховен прылажыў руку да галавы за вухам.

- Што?. . Я глухі! Мне патрэбна святло. А ты зараз жа пазаві сюды Герцага. Не рабі такога дурнога твару, камісар! Ты ж сваіх жыхароў, мабыць, яшчэ ведаеш, у тым ліку і дырыжора Герцага. Герцаг павінен апазнаць мяне! Я - Людвіг ван Бетховен, ганаровы грамадзянін Вены, на што мне, між іншым, напляваць, як і на дваранства. Зразумеў?

Камісар падняў ліхтар і асвятліў «бадзягу». Якія ў яго ўладарныя вочы! Ён завагаўся.

- Добра, я давяду гэта да ведама гера дырыжора Герцага, але глядзі. . .

Бетховен па губах зразумеў, што ён казаў.

- Бяжы, і галопам! Стойце, вы! Пакіньце мне ліхтар! І яшчэ дайце аловак і паперу, каб я мог запісаць кампазіцыю.

- Грасман, прынясіце арыштанту паперу і аловак і аставайцеся з ліхтаром каля яго ў камеры, пакуль я не вярнуся. Але будзьце асцярожны!

Праз добрай паўгадзіны камісар вярнуўся.

- Усё ў парадку, Грасман?

- Так точна, гер камісар. Але няўжо тое, што крэмзае гэты бадзяга, - ноты? Я ж ноты ведаю, бо мая дачка іграе на фартэпіяна.

Нарэшце ў арыштанцкую камеру ўвайшоў дырыжор Герцаг.

- Вы што, звар’яцелі? Гер ван Бетховен! Той адмахнуўся.

- Добра, што вы прыйшлі. Прабачце, што патрывожыў ваш начны спакой, але я не ведаў больш нікога, хто жыве паблізу. Можаце крышку пачакаць? Мне тут сёе-тое прыйшло ў галаву, а ў старасці галава як сіта.

Бетховен, запісваючы, мармытаў услых:

- Allegro con br Io ed appass Ionato! А цяпер фартысіма! Соль- ля- сі- до- мі-бемоль! І яшчэ адно с І І над ім фермата. Яшчэ раз тое самае - без ферматы. Ля-бемоль, і назад актаву. . .

У камеры дырыжор шаптаўся з паліцэйскімі.

- Я не хацеў бы апынуцца ў вашай шкуры. Гэта па-праўдзе гер ван Бетховен.

Той нарэшце ўстаў.

- Цяпер і мы ўсё, што трэба было, як кажуць, арыштавалі. Толькі. . . куды мне цяпер ісці? Я ж жыву ў Бадэне. Сёння раніцаю я, як быў, збег ад раяля пагуляць і, паглыбіўшыся ў думкі, вандраваў сабе ўсё далей і далей. Каторая цяпер гадзіна, Герцаг?

Той адказаў, выразна варушачы губамі:

- Даўно ўжо мінула поўнач. - І звярнуўшыся да паліцэйскіх, сказаў: - Я забяру гера ван Бетховена з сабою дадому. Давядзіце гэта да ведама бургамістра і паклапаціцеся, каб заўтра раніцаю да майго дома пад’ехала магістрацкая карэта адвезці гера ван Бетховена ў Бадэн.

Камісар і паліцэйскі яшчэ доўга пазіралі ўслед Бетховену і дырыжору.

- Грасман!

Паліцэйскі ўздрыгнуў.

- Слухаю, гер камісар.

- Вы сцвярджалі, што нешта разумееце ў нотах? Вы бессаромны невук!

- Так точна, гер камісар.

- І няхай заўтра да мяне зойдзе Францмейер.

У Бадэне, хоць ён І недалёка ад Вены, будні тым не менш адышлі кудысьці далёка. Толькі ў гарадской кватэры, куды ён прыехаў на магістрацкай карэце, - адзінае кампенсаванне за арышт - яго зноў сустрэла старое ўбоства з затхлым пахам, што прасмуродзіў усе пакоі. Адразу ж пачаўся розны клопат. Карэнным чынам нарэшце трэба ўпарадкаваць хатні побыт. Яму патрэбна хатняя работніца, лепш за ўсё кухарка, бо з цягам часу харчавацца ў заезных дамах за агульным сталом проста апрацівела. І тут паўсталі пытанні, на якія магла адказаць толькі жанчына. Яны перад ім ужо ўзнікалі аднаго разу, пяць ці шэсць гадоў таму назад, і ён іх потым, вядома, забыў. І вось цяпер прыйдзецца яшчэ раз патурбаваць добрую Нанету Штрэйхер.

Перавярнуўшы ліст нотнай паперы, ён пачаў запісваць з левага боку асобныя пытанні, улічваючы, што кухарцы прыйдзецца карыстацца паслугамі служанкі:

«Што даваць есці двум слугам на абед і на вячэру? Колькі і якой якасці?

Як часта даваць ім смажаніну?

Павінна тое, што прызначана слугам, быць такім жа, як і яда гаспадара, ці слугі будуць гатаваць сабе асобна, гэта значыць, іншыя стравы, чым гаспадару?

Колькі фунтаў мяса неабходна на тры асобы?»

А хутка іх будзе чацвёра. Нічога не зробіш: прыйдзецца забіраць Карла з інтэрната пад свой нагляд. Якіх толькі недахопаў не знаходзілі ў хлопчыка людзі! Настаўнікі ў гімназіі толькі і рабілі, што прыдзіраліся да яго вучэння і да характару.

І ён не пераставаў запісваць бязглуздыя пытанні: «Колькі трэба ў дзень грошай на хлеб для аканомкі і служанкі?

Як звычайна мыюць бялізну?

Ці атрымліваюць яшчэ што-небудзь аканомка і служанка? Колькі віна і піва?»

А можа, сумесную гаспадарку магла б весці Ёгана? Але не. Пры яе паводзінах гэта немагчыма. І менавіта гэтага брыдкага гера Гачэвара насылала яна сваім прадстаўніком на судовыя пасяджэнні. Што там пра яго нагаварыў нягоднік? Быццам ён «дае Карлу крывыя ўяўленні аб рэлігіі, і таму беднае дзіця хутка зусім сапсуецца і стане небяспечным грамадзянінам для дзяржавы, ерэтыком, бязверным, атэістам» - няўжо ён, Бетховен, атэіст? З яго «Урачыстаю месай»?

Ён раптам застыў на месцы. Ну бясспрэчна трамбоны! Рэч да таго ясная, што цераз яе, уласна, нельга не спатыкнуцца. Зразумела, трамбоны, калі ён хоча напомніць пра Страшны суд! Няхай ва ўсім аркестры гучыць страх і жах! Хор будзе спяваць жудаснае слова « Iud Icare» - вяршыць суд! А судовы прыгавор будзе абвешчаны ў соль-бемоль мажор! І яшчэ потым басам дысанансавае фа-бемоль мажор!

Прыкладна так: « Iu-d I-ca-re v Ivos, v Ivos, v Ivos» - Вяршыць суд над жывымі, - а што рабіць з. . . мёртвымі? Генеральная паўза. . . і тады піяна, піяна: «- et- mor-tu-os!» - Тройчы, чатыры разы, сапрана, сярэднімі галасамі, басамі і аркестрам. І перапляценне: «et- mor-tu-os!»

Ён іркануўся да раяля, выбіваў акорды, запісваў і адначасова роўма роў:

- Соль-бемоль - сі-бемоль - ! Сфарцата - а зараз фартысіма! Соль-бемоль - сі-бемоль - ! Шалёная блытаніна! Цяпер рэ-бемоль - фа-бемоль і соль-бемоль мажор!

У пакой уляцеў гаспадар дома, з пагрозаю трымаючы ў руках нейкую паперку.

- Вы ў гэтым доме больш не жывяце! Ад вашае музыкі са страху плачуць дзеці!

Бетховен не мог так хутка вярнуцца на зямлю з таго свету. Ён усё яшчэ трымаў у руках вагу, і з яе падалі ў пекла целы, адно за другім. «Але цяпер я паклічу іх, і слова маё будзе мацней за пекла і змрок: Credo! Я веру! Credo. . . і ў фа мажор!» Ён малаціў па раялі. «Credo. . . credo. . . »

Толькі паступова ён зноў пачаў успрымаць рэчаіснасць.

- Што?. .

Гаспадар адчуваў сябе ніякавата і напісаў на паперцы:

- Мабыць, гэта. . . меса? Мне не хацелася б адрываць вас ад гэтае святое працы, але. . . каб жа толькі гучаў адзін ваш голас, каб жа толькі былі адны спевы! Але ваша ігра. . . вы б’яце па клавішах няправільна.

Бетховен пацiснуў плячыма.

- Мне тады здаецца, што я ўсё-такі нешта пачую, але я. . . не чую нічога. Каб жа мне ведаць сродак памагчы вам. Ага. Толькі што мне сёе-тое прыйшло ў галаву: «нямое піяніна». Вы мне паможаце? - Ён прынёс кусачкі. - Я ў рамястве падрыхтаваны слаба. Будзьце ласкавы і адкусіце струны раяля. Мне патрэбны толькі клавішы. Глядзіце, каб струны не паляцелі вам у твар. Вялікі дзякуй за вашы турботы, а я тым часам прагуляюся. . .

Ён не чуў сваіх гулкіх крокаў, якія гучалі аж у царкоўных скляпеннях і трывожылі цішыню, што хавалася там у паўзмроку. Хісталася чырвонае святло нязгаснае лампады. Галоўны алтар сёння быў зачынены рашоткаю. Павярнуўшыся, ён скасавурыўся на хоры з арганамі. Калі ён не памыляецца, то апошні раз ён там, здаецца, іграў на арганах, калі. . . заручаўся з ёю. А цяпер усё было дзесьці ў недаступнай далечыні, якая літаральна гняла яго безуцешнасцю велічнага цяжару. Чаму ён прыйшоў у царкву менавіта цяпер? З-за струн, якія дома вырывалі з яго раяля? Ці яго раптам пазвала яна?

Як глухія, адзінокія людзі ён гучна пытаўся і адказваў на пытанні, не звяртаючы ўвагі на тое, што побач з ім кленчылі яшчэ і другія людзі: дама з нізка апушчаным вуалем і маленькая дзяўчынка, у шэра-блакітных вачах якое застылі страх і спачуванне.

- Цётачка. . . ах!

- Ціха, дзіцятка. Ён сам сябе не чуе, ён глухі. Гэта гер Людвіг ван Бетховен, пра якога я табе столькі расказвала.

Шэра-блакітныя вочкі неяк незразумела пацямнелі і зрабіліся вялікімі.

- За каго ж ён можа маліцца?

- Дзіцятка, складзі зноў ручкі. Памаліся яшчэ раз за тваю мілую мамачку.

У бабінцы Бетховен адчуў, што нехта дакрануўся да яго рукі, і павярнуўся.

- Графіня! Мы даўно не бачыліся. - Тэрэза Брунсвік кіўнула галавою. Ён збянтэжана апусціў галаву. Што казаць, калі сустракаешся праз столькі гадоў? - Тады я між іншым. . . таксама быў у пахавальнай працэсіі.

- Здаецца, я бачыла вас, хоць вы і стаялі збоку. Чыталіся словы з яе губ легка, бо ўсё яму так добра знаёма і было як вяртанне дахаты, хоць і суправаджаецца яно сумнымі ўспамінамі. І таму ён без горычы сказаў:

- Я ж заўсёды стаяў збоку.

- Не - не заўсёды, гер ван Бетховен.

Навошта развярэджваць старыя раны? Ён схіліўся да дзяўчынкі і працягнуў ёй руку.

- А гэта хто такі?

Дзяўчынка прысела ў рэверансе і назвала сваё імя. Бетховен высунуў наперад вуха.

- Я не зразумеў. - Гэтая маленькая трашчотка! Крыху надзьмутыя губы рухаліся занадта хутка, і прыйшлося даставаць з кішэні размоўны сшытак. - Напішы, як цябе завуць. Вось табе аловак. - Ён засмяяўся. - Але ты, мабыць, яшчэ і пісаць не ўмееш. Прабач.

Тэрэза запратэставала з пяшчотным абурэннем.

- Ну што вы, гер ван Бетховен! Яна ўжо даўно навучылася пісаць.

Дзяўчынка, упэўнена напісаўшы штосьці, з ветлівым рэверансам аддала назад сшытак. Ён чытаў словы, напісаныя нязграбным почыркам.

- Значыцца, цябе завуць Міньёнай? Кемлівае дзіця, дужанькае і здаровенькае.

- Яна самая дужая і здаровая з усіх нас. Ён ласкава пагладзіў яе па шчацэ.

- І колер твару ў цябе амаль такі самы, як у мяне. Твой толькі яшчэ болей прыгожы,

Міньёна. Шкада, што я такі глухі, а то я ахвотна сыграў бы што-небудзь табе і тваёй цётцы. Як. . . у мінулыя часы, графіня. Ці, можа, ты не любіш музыкі, Міньёна?

Дзіця, амаль з абурэннем у голасе, запярэчыла.

- Наадварот. . .

- Яна нават спрабуе ўжо іграць лёгкую санату. . . Людвіга ван Бетховена.

- Ах ты мая бедненькая казюрка! Яны толькі мучаць цябе гэтым.

Чаму гэта графіня раптам так занепакоілася? Няўжо на яе вачах слёзы?

- Гер ван Бетховен. . . патэр Вейс зараз у рызніцы; мы з ім сёння гаварылі пра вас.

Бетховен, зразумеўшы, стомлена кіўнуў галавою.

- Ён жа верыць у сваю мікстуру, як у евангелле.

- І тым не менш вам не шкодзіла б паспрабаваць яшчэ раз.

Міньёна раптам усхвалявана залапатала штосьці. Здаецца, яна пра нешта пыталася ў свае цёткі, і тая адказала ёй:

- Калі табе гэта ўдасца, дзіцятка.

Дзяўчынка ўзяла Бетховенаву руку. Якая цупкая хватка яе маленькіх пальчыкаў! Ён зірнуў на Тэрэзу.

- Чаго яна хоча?

- Міньёне цяпер хочацца зрабіць нешта добрае. А яна заўсёды дабіваецца таго, што ўбівае ў сваю маленькую галаву. Зараз яна адвядзе вас да патэра Вейса.

Ён засмяяўся.

- Нічога не зробіш. Прыйдзецца даць арыштаваць сябе. Як. . . Навошта так спяшацца, маленькая чарцянятка! Я і сам ужо іду.

Фраў фон Эртман пацалавала яго ў лоб.

- Маэстра, я шчаслівая, што зноў бачу вас.

- Дарагая Даратэя-Цэцылія! Эртман! Сябар! Генерал Эртман працягнуў яму абедзве рукі.

- Бетховен! Павінен вам прызнацца, што ўжо колькі гадоў мае вочы не бачылі такога прыемнага відовішча! - Абняўшы жонку за плечы, гаварыў: - Спачатку мы, вядома, з’ездзілі на могілкі. За сынаваю магілаю глядзяць выдатна’, але калі мова ідзе пра магілку ўласнага дзіцяці, мацеры гэтага мала. Яна пасадзіла свежых кветак, пагаварыла з нябожчыкам, а потым мы адразу ж паехалі да вас, Бетховен.

Бетховен марна спрабаваў нешта пачуць.

- Эртман, я не зразумеў ніводнага слова. - Ён хацеў бы пажартаваць, але жарт выйшаў нейкі вымучаны: - Паехаўшы ў Мілан, вы забралі і мой апошні слых. - Ён усміхнуўся, быццам яму трэба было прасіць прабачэння, пачаў папраўляць крэслы. - Сядайце ж. Рады, шчыра рады. Вас рэдка можна бачыць. Колькі ж гадоў ніхто з вас не быў у мяне? Шэсць, сем? Яшчэ болей? Мая саната для фартэпіяна ля мажор, опус сто адзін, надрукавана яшчэ ў тысяча восемсот шаснаццатым годзе. Як жа бяжыць час! Але добра, што ён бяжыць, мая бедная Даратэя-Цэцылія, праўда? І што ўжо значыць у параўнанні з вашаю стратаю мая невялічкая глухата?

Баранеса адняла рукі ад залітага слязьмі твару і паспрабавала ўсміхнуцца.

- Цяпер я, прынамсі, хоць магу плакаць, маэстра.

- Вы і без гэтага навучыліся б плакаць, але тады гэта было маё блюзнерства і пыха! Я помню яшчэ, як да мяне прыйшоў ваш муж: «Бетховен, вы ж ведаеце, у нас памёр хлопчык, і Даратэя быццам акамянела. Яна не можа нават плакаць». - Бетховен цяжка дыхаў, быццам толькі цяпер да яго дайшло, на што бязмежна вялікае ён тады адважыўся. - А вы помніце яшчэ, Эртман, што я вам адказаў: «Пашліце яе да мяне». І калі потым яна сядзела перада мною, мяне ахапіў нейкі халодны страх. Нялёгкая была задача: дабіцца, каб заплакала маці, чыё сэрца акамянела! Калі я садзіўся за раяль, мае пальцы дрыжалі, а гэтага са мною яшчэ ніколі не здаралася. Ну, я і сыграў, але мае заслугі ў тым, што яна заплакала, няма.

Баранеса Эртман пагладзіла яго па руцэ.

- Ах вы добры, вялікі чалавек! Я вам так абавязана! Ён збянтэжана загудзеў:

- А я вам не, га? Вы, мабыць, забылі, чаму я назваў вас «маёю Даратэяю-Цэцыліяй», апякункаю маіх фартэпіянных санат? Бо ніхто болей так выдатна не іграў іх, і ніхто так правільна не разумеў свабоды такта. Я маю на ўвазе не халодны такт, а сэнс, дух. Тут усё ўжо даўно выродзілася ў акадэмізм. Людзі, і мастакі таксама, навучыліся - і даволі бегла! - брынкаць ноты. Каб не было вас, у Вене ўжо тады ніхто б не іграў маіх санат. Усё было б, як цяпер. Даўно

ўжо ў нас чуваць адны фартэпіянныя санаты такіх майстроў, як гер прыдворны капельмайстар і камерны кампазітар Тайбер, а я - толькі не пазбаўце мяне, калі ласка, з-за гэтага вашага сяброўства! - я апусціўся да становішча «плебейскага блазна».

Эртман падышоў да раяля.

- Даратэя, паглядзі толькі на гэты каштоўны англійскі раяль з інкруставанымі прозвішчамі віртуозаў!

Бетховен засмяяўся.

- Генерал, яно так і павінна быць у мяне, генералісімуса, які даў «Бітву пры Віторыі». Між іншым, мяне, як пераможцу, прызначылі ганаровым членам Лайбахскага філарманічнага таварыства і Штырыйскага музычнага аб’яднання.  І вось цяпер мяне цікавіць, якую славу і які гонар прынясуць мне дзве вялізныя рэчы, над якімі я б’юся ўжо не адзін год. Можа, сыграць вам частку адной з іх - Дзевятай сімфоніі? Я, праўда, не іграю больш перад слухачамі, але ваш прыезд зблытаў усе мае прынцыпы, і перад сваёю Даратэяй-Цэцыліяй я яшчэ раз хачу пабыць «каралём фартэпіяна», як мяне калісьці хутчэй за ўсё памылкова назваў адзін чалавечак. Хоць я нічога і не чую, але мне здаецца, што ноты я бяру ўсё яшчэ як належыць. Хачу сыграць вам нешта вясёлае, бо ваш прыезд прынёс мне столькі радасці. Можа, сыграць энергічнае мольта вівачэ і згусціць яго да рытмо дзі трэ батутэ? Даратэя-Цэцылія, вы не забылі яшчэ з нашых урокаў тэорыі, што гэта такое?  І, вядома, вам трэба ўсё ўяўляць за цэлы аркестр. Я вам памагу, буду называць інструменты.

Ён ударыў па клавішах.

- Драўляныя інструменты. А цяпер літаўры. . . - Раптам ён рыўком павярнуўся да іх, і відаць было, што ён адчуваў сябе ніякавата. - Прабачце! Я зусім забыў: у раяля ж няма больш струн. Прыйшлося іх вырваць, бо гэта не давала спакою ўсяму дому.

Калі яны ішлі ўніз па ўсходках, Даратэя-Цэцылія не стрымалася і расплакалася, і генерал ласкава абняў жонку.

- Ах, як гэта жахліва, мілая! Увесь час толькі стук і шоргат малаточкаў. На ніводным полі бітвы я не сустракаўся яшчэ з такою жудаснаю рэччу.

Нарэшце яна падняла галаву.

- Ці ж існуе, уласна, бог? Я ў сябе пра гэта спыталася першы раз тады, калі памёр наш хлопчык, і вось цяпер я пытаюся зноў. Няўжо можа існаваць бог, калі ён дапускае вось такое? Але. . . ты бачыў, які ў яго пры гэтым быў шчаслівы твар?

Бетховен астудзіў вочы, і кожны раз, узнаўляючы кампрэс, ён кідаў позірк на гадзіннік. Чатырнаццаць мінут! Доктар прапісаў не меней трыццаці мінут, але ці ж можна бавіць гэтульки часу? Трэба не пераставаць пісаць месу. Ён выцер вочы і паглядзеў на сябе ў люстэрка. Не, памылкі тут няма. Няўжо жаўтуха зноў загоніць яго на тыдні ў ложак? А раматус і гэты боль у кішках! Вучоныя паны звалі гэта «запаленнем брушной поласці», і іх дыягназ даваў палёгку толькі ягонаму кашальку. Далей! Нельга марнаваць часу на вывучэнне капрызаў уласнага, занадта высока ацэненага паўжывога арганізма! Колькі ўжо ён страціў, займаючыся сваім слыхам! Цяпер на гэтым ён канчаткова паставіў крыж. Канец!  І ціха!. .

Дзе ж яго апошнія нататкі? Ён выцягнуў з кішэні меню, рахункі афіцыянтаў, абрыўкі газет. Усё спісана нотамі. Вось што такое меса і Дзевятая сімфонія! Яшчэ ніколі творы не праследавалі яго так бязлітасна, як гэтыя дзве эрыніі, што калі-нікалі выглядалі анёламі з надчалавечымі галасамі. Анёламі? Няўжо гэта мае нейкую сувязь з яго нататкамі? Прызнаць гэта цвёрда ён не мог. Няўжо можа быць так, што цяпер, незадоўга да завяршэння, работа над месаю далей не зрушыцца з месца? Яму ж і грошы трэба. Грошы! Якое агіднае слова, але ён мусіць заплаціць інстытуту Блехлінгера за Карлава выхаванне. Вядома, у яго яшчэ ёсць банкаўскія акцыі, зберажэнні з яго «слаўных» часоў, але няхай яны будуць хлопчыку. Ён нават адмовіўся, каб спраўдзіць сваю мару - набыць у Модлінгу невялічкі дамок, пазбавіцца ад вечных сварак з гаспадарамі. Грошы! Чаго яго так цягне сёння да анёлаў? Яму ж да зарэзу патрэбны грошы!

На стале перад ім газета, якая амаль цалкам прысвечана падзеі дня: «Зельміру», апошняй оперы Джаакіна Рас Ін І, заказанай Венаю і ўпершыню пастаўленай у Вене. Публіка на паказе аж шалела ад захаплення. Прысутнічаў сам маэстра, малады яшчэ, гадоў пад трыццаць, чалавек, жыццёвы шлях якога ўжо на працягу шэрагу гадоў усыпаны дукатамі самых разнастайных краін. Але Расіні, зрэшты, на нешта здатны, а сапраўднаму майстру зайздросціць нельга. Бо ў

вялікім лесе мастацтва трапляліся і неблагія пеўчыя птушкі, і ён не захацеў бы памяняцца з Расіні месцамі, як не захацеў бы напэўна і той з ім. Таму не было ніякай прычыны злавацца на Рас Ін І, можа, гэтага хутчэй заслугоўвалі венцы, якія разам з рэцэнзентамі пачалі паводзіць сябе так, быццам «Зельмір», быццам адзін толькі Расіні і з’яўляецца нечым непераcягнутым у музыцы!

Яго меса таксама неблагая рэч, дый Дзевятую сімфонію можна лічыць блізкаю да такое музыкі.

Анёл? Сапрана? А тон які? Высокае ля-бемоль! Вось дзе ключ!

Ён націснуў клавішу ля-бемоль, і. . . рука яго чамусьці рэзка пайшла назад.

Гэтая мілая чартоўка Міньёна! Гэтае маленькае наравістае дзяўчо, зусім не такое, як астатнія Жазефініны дзеці! Аднаго разу ён заўважыў, што ў яго раяля зноў ёсць струны, і добры спакойны чараўнік-доктар, хоць ён і не быў ніякім цудадзеем, растлумачыў яму, што тут у чым: «Маленькая Міньёна фон Штакельберг пажадала, каб у вашага раяля зноў былі струны. Вы іх павінны чуць, калі да вас вернецца слых. Міньёна ахвяравала ўсё, што было ў яе скарбонцы. Няўжо яно не паможа!» Гэты невялічкі эпізод і быў тым высокім ля-бемоль, які сапрана пяшчотным дзіцячым голасам выводзіў анёл.

Канец кастрычніка 1822 года. Бетховен не мог супакоіцца:

- Як завуць гэтую гуску?

Яго памочнік і сакратар Шындлер, які памагаў яму ў розных справах, зароў на вуха:

- Вільгельміна Шродэр. Кажуць, яна заручана з артыстам Дэўрыентам.

Бетховен аж здрыгануўся ад агіды. Зноў гэты пусты Шындлер з яго дыханнем, якое дайшло яму да носа. Вядома, чалавек ён патрэбны, Бетховен зваў яго сваім «Вагнерам», як звалі той смешны персанаж з Гётавага «Фауста», але. . .

- Амурныя прыгоды мадэмуазель Шродэр мяне не цікавяць. Кажуць, збіраюцца паказаць «Фідэліо»? Як у гэтыя часы аўстрыйскай імператрыцы прыйшла ў галаву бязглуздая думка завяршыць святкаванне сваіх імянін операй менавіта нямецкага кампазітара?

Шындлер, паправіўшы акуляры, пачаў тлумачыць:

- Іх вялікасць у захапленні ад мадэмуазель - новай зоркі «Бургтэатра». . .

- Семнаццацігадовай зоркі! Дзіцячай зоркі!

- . . . і ўсеміласціва пажадалі прапанаваць сваёй ўлюбёнцы мадмуазель Шродэр выступіць на бенефісным паказе на сваіх імянінах у лістападзе.  І тады Шродэр выбрала «Фідэліо».

- Вось як глыбока я ўжо апусціўся, калі майго «Фідэліо» зводзяць да нейкай дзіцячай цацкі!

Шындлер не згадзіўся:

- Па афармленні і па ўсім паказ павінен атрымацца незвычайна бліскучым.

- Праўда? Выдатна. Дырыжыраваць буду я. Чаму б і не? Глухі дырыжыруе, а маладзенькая гуска спявае. Раскажыце пра гэта Умлаўфу. Што я буду дырыжыраваць.  І камедыя выйдзе як мае быць!

Пераканаць яго было нельга. На першых рэпетыцыях ён яшчэ дазволіў дырыжыраваць Умлаўфу, але на генеральнай рэпетыцыі, у сярэдзіне дня, на дырыжорскіх падмостках стаяў ён сам. Дні ў лістападзе выдаліся халодныя і туманный, ён адчуваў сябе кепска, яго калаціла ліхаманка, і таму ён не зняў не толькі паліта, але і з галавы свайго шэрага капелюша з шырокімі палямі. «Калі ласка, уверцюру». Ён не чуў ніводнага гуку, але бачыў, як пачыналі іграць паасобныя інструменты, і ведаў кожную ноту.

Уверцюра прайшла спакойна. Паднялася заслона. Двор дзяржаўнае турмы. Усё, як патрэбна па лібрэта, але з-за імянін яе вялікасці дэкарацыі выкананы з асаблівраю стараннасцю і майстэрствам. На заднім плане галоўныя вароты і, акружаная валамі, высокая сцяна, над якою ўздымаюцца некалькі зялёных верхавін дрэў, як прывітанне безнадзейнасці з волі. Хатка брамніка і Марцэліна, якая прасуе бялізну. Жакіна сочыць за ёю праз акно ўлюбёнымі вачыма. Арыя Жакіна. Гер Раўшэр, бясспрэчна, праспявае яе як мае быць. «Цяпер, маё золатка, мы адны, і можам пагаварыць спакойна. . . »

Як жа пераканаўча задзірліва адкрывае Марцэліна свой роцік, прасуючы бялізну! Ну вядома ж, яна ў тэатры правераная артыстка, фройляйн Дэмер. «Нічога ж важнага не будзе, і таму мне нельга перапыняць работы. . . » Жакіна: «Адно толькі слоўца, ты ўпартая, ты. . . » Спявай, фройляйн Дэмер! «Ну, кажы ж, я слухаю цябе».  І Рока ўжо на сцэне. Усё ідзе выдатна.

Зараз выйдзе і Фідэліо-Леанора.

А вось і яна - зусім такая, як патрабаваў сцэнарый.

Цёмная куртачка, чырвоная Камізэлька, цемНыя Штаны і кароткія боты. Шырокі пояс з чорнае скуры, медная спражка, валасы пад сеткаю. . . Зграбная асоба, яно так, гэтае маладое, няспелае і ганарыстае семнаццацігадовае дзяўчо, якое асмелілася. . . Твару яшчэ не было відно, ён навернуты ўбок. На спіне ў яе кашолка з ядою, а на руках ланцугі, якія яна толькі што ўзяла ў кузні. Кідае іх каля хаткі брамніка і, вызваліўшыся ад цяжару, уздыхае глыбока і з палёгкаю, паказваючы свой стомлены твар!

Яго сэрца забілася шалёна і глуха: «Гэта ж Жазефіна. . . » Пачаўся рэчытатыў, дыялог, які вялі чатыры чалавекі, і гэта дало яму час на роздум, дазволіла крыху прыйсці ў сябе. Дзяўчына падобна на Жазефіну дваццаць гадоў таму назад. Пэўна, на Жазефіну. Але не, гэта не яна. Хоць тут на сцэне ён пабачыць ідэальную, верную жонку.  І голас яе, мусіць, таксама адпавядае вонкаваму выгляду і таму, як яна іграе. Хоць ён і не мог чуць яе голасу, але неяк таямйіча здолеў па губах разумець гармонію ці дысгармонію яго. Другія ігралі выдатна, яна яшчэ лепей. Але чаго так палохаецца дзяўчына? Бясспрэчна, яна чагосьці баіцца. Чаго толькі? Можа, яго? Ну, пэўна ж, яго! Яна не адводзіць ад яго позірку. Яму трэба зараз жа падаць ёй вестку, супакоіць яе. Ён усміхнуўся, паказаўшы ва ўсмешцы зубы, што нагадваюць зубы драпежніка: «Нарэшце, нарэшце я знайшоў цябе, увасабленне маіх мараў, маю Леанору!» Ці ж зразумела яна яго? Здаецца, зразумела, бо яна сціпла ўсміхнулася ў адказ і нават здолела, іграючы, непрыкметна для другіх, падзякаваць яму лёгенька рэверансам. Страху ў яе вачах больш не было, яна. . . выпрасталася. Уражанне было такое, быццам толькі цяпер яна збіраецца пачаць іграць па-сапраўднаму.

К чорту! Трэба выпрастацца і яму, узяць сябе ў рукі! Адно ўтаропіцца ў яе вачыма - не выйсце. Квартэт, канон, і пачалі іграць! Марцэліна ўжо варушыць губамі:

Мне так цудоўна,
Аж сэрца б’ецца;
Бачу, ён мяне кахае,
З ім буду шчаслівa я.

З гэтым канонам ён калісьці праваліўся перад іх вялікасцямі. Але сёння шчасце, як бура, навалілася на яго. . . Таму што тут сапраўды яго Леанора!

Ён кіўнуў, патрабуючы: пачынайце ж, Рока, гер Цэльтнер! Але штосьці, здаецца, зноў не ў парадку. Вершы, якія ён помніў і гаварыў па памяці, не адпавядалі рухам губ. Жакіна, якому была чарга выступаць, наогул не пачынаў. Музыканты ў аркестры паклалі інструменты, і Леанора, яго Леанора, паслала яму позірк, поўны смутку. Гэтае праклятае месца ў каноне!

Шындлер пацягнуў яго за руку, падаў размоўны сшытак. Бетховен прачытаў:

- Не трэба іграць! Далейшае дома!

Бетховен адным махам апынуўся ў партэры.

- Ну, тады хадзем!

У кватэры ён кінуўся на канапу і закрыў твар рукамі. Так ён ляжаў не адну гадзіну. На плошчы перад тэатрам натоўп спяваў у гонар імператрыцы і імператара гімн, напісаны Гайднам, а Умлаўф, мабыць, дырыжыраваў ужо яго уверцюру. Потым на сцэну выходзіла Вільгельміна Шродэр і кідала ланцугі, стуку якіх ён болей не чуў. Яна спявала, і ён выразна чуў тыя словы, вымаўляючы якія яна зноў глядзела на яго з глыбокім смуткам. «О невымоўны боль!. . » Яго Леанора, якая ненаўмысна збянтэжыла яго, штурхнула на самае дно ўсіх пеклаў! Не, яго Леанора невінаватая. Ва ўсім вінавата яго глухата.

Дзесяцігадовы Герхарт фон Бройнінг, сын з другога шлюбу Бетховенавага сябра, гофкрыгсрата фон Бройнінга, кленчыў на крэсле і ззяючымі вачыма пазіраў на гера Шлемера, згорбленага, старэнькага чалавека, які вывучаў партытуру M Issa solenm Is. Гэта было першае знаёмства з тэкстам, і капіроўшчык рабіў яго ў прысутнасці кампазітара, каб атрымаць адказ на магчымыя пытанні.

- Вы можаце прачытаць гэта, гер Шлемер?

Капіроўшчык з жахам зірнуў наверх акуляраў.

- Тут можна толькі гадаць. Бо ўсё гэта намнога цяжэй, чым клінапіс старажытнага Усходу, расшыфраваны герам Гротэфендам.

Герхарт засмяяўся, і Бетховен адкрыта залюбаваўся імі.

- Што вы там такое дрэннае гаворыце пра мяне, шэльмы?

Герхарт падскочыў да яго, абняў рукою за шыю і крыкнуў на вуха:

- Мы дзівімся з твайго нотнага пісьма, дзядзечка Людвіг. Якая адзнака была ў цябе ў школе па пісьму?

- Заўсёды «выдатна».

- Тады за кожную горшую адзнаку ты неадкладна павінен плаціць мне цукерку штрафу. - Герхарт адразу ж прынёс каробку. - Кажы, што ў цябе было папраўдзе?

- Ну, добра, было добра. . . Памяць - рэч ненадзейная, яна і падмануць можа.

- Памяць цябе падводзіць яшчэ болей, дзядзечка Людвіг! - і Герхарт стаў лічыць, - адзін, два, тры, чатыры, пяць. . . Прынамсі, столькі цукерак я магу патрабаваць ад цябе. Шлемер буркнуў:

- Па мне дык можаш спакойна ўзяць яшчэ пяць. Бетховен заўважыў шавяленне губ.

- Шлемер, не псуйце мне майго «гузічка».

«Гузічак» была адна з мянушак, з тых ласкальных імён, якімі Бетховен ахрысціў хлопчыка. Абняўшы яго, ён дадаў:

- Слухай мяне добра, Арыэль. Ляці цяпер стралою да гера фон Цмескаля. Аднясі яму вунь тую пляшку на падаконніку. Няхай ён вып’е яе і хуценька ачуньвае. Перадай яму гэты загад і не бадзяйся доўга па вуліцах, бо іначай твае тата і мама абвінавацяць у гэтым мяне.

Хлопчык падышоў да акна і выглянуў на вуліцу.

- Гер Шлемер, едзе «шэвалье»! - Ён павярнуўся ў пакой. - Дзядзечка Людвіг, пад’язджае твой брат Ёган.

«Шэвалье» зняважліва называў памешчыка Ёгана ван Бетховена Бройнінг. Карыкатура на памешчыка імчалася цяпер уніз па вуліцы, па Котгасэ з яе невялічкім адхонам. Сёй-той з прахожых спыніўся і, ківаючы галавою, пазіраў услед старамоднаму фаэтону, які пампезна быў запрэжаны чацверыком і ўвесь час гразіў разваліцца, гойдаючыся ў зношаных рамянях. На заднім нізкім сядзенні са скрыжаванымі на грудзях рукамі сядзела двое абшытых галунамі слуг, якія рабілі такое ўражанне, быццам апрануліся лёкаямі знатных асоб на час карнавалу. А сам фурман брычкі, сам гаспадар выглядаў яшчэ болей дзіўна. Ён зняў паліто, бо было цёпла, а можа, яму, калі ўязджаў у Вену, хацелася паказацца ў сваім найлепшым адзенні, па якім відаць было, што даставалі яго з затхлае шафы толькі ў самых рэдкіх выпадках. Блакітны фрак з надта крыклівымі латуннымі гузікамі, бясспрэчна, змайстраваў лепшы вясковы кравец, але і самы найздатнейшы штукар не змог бы справіцца з гэтаю няўклюднаю фігураю. Белая камізэлька выхвальна красавалася над бабаўнянымі штанамі, на чорным фоне якіх рассыпаны белыя крапінкі, а на руках у фурмана былі вязаныя пальчаткі з надта доўгімі пальцамі, якія зза гэтага паперагіналіся і матляліся. Ёган амаль на галаву быў вышэйшы за Людвіга, адно яго плячо тарчала наперад, а з-за таго, што рот яго крывіўся, здавалася, быццам ён увесь час іранічна ўсміхаецца. З гадамі гратэскавыя рысы ў ім усё большалі.

- Ёган! Якая нечаканасць! Як ты даехаў? Атрымаў мой ліст?

Ёган падкрэслена паволі сцягнуў з рук вязаныя пальчаткі.

- Мы пра гэта яшчэ пагаворым.

Шлемер якраз збіраўся палажыцъ манускрыпт у партфель.

- І ўсё ж, я думаю, да гэтага месца капіраваць ужо можна.

Ёган ван Бетховен запытаўся:

- Што гэта за музычны твор?

- Меса, гер ван Бетховен. Ёган паглядзеў на брата.

- Што?

- Мая M Issa solemn Is.

- Калі я не зусім яшчэ забыў латынь з аптэкарскіх часоў, то «solemn Is» перакладаецца як «урачысты»?

Цяпер з Ёганавага твару знікла нават іранічная ўсмешка, і Шлемер хутчэй пакінуў пакой. І «Арыэль», «гузічак», шмыгнуў у дзверы, як мышка, знайшоўшы выйсце з пасткі.

Браты асталіся адны, і гутарка з дапамогаю размоўнага сшытка стала яшчэ больш

адкрытая.

- І вось на гэтую «M Issa solemn Is» - хай нават яна І будзе такою музычнаю ўдачаю, як твая ваенная музыка, - я павінен пазычыць табе тысячу гульдэнаў?

- У мяне цяпер туга з грашыма, Ёган.

- Калі ў цябе не было туга з грашыма? І якраз меса з такім гучным загалоўкам - значыцца, зноў фанабэрыя і голад? Гэтыя твае загалоўкі! Гераічная сімфонія не прынесла табе і тысячы крэйцэраў. Над чым ты цяпер яшчэ працуеш?

- Над Дзевятаю сімфоніяй.

Ёган падняў вочы да нізкай столі і, уздыхнуўшы, напісаў:

- З васьмю сімфоніямі ў цябе нічога не выйшла, але табе конча трэба пісаць і Дзевятую! На маім партманеце! Але грошы, мой мілы Людвіг, даюцца мне нялёгка. У цябе што-небудзь ёсць пад заклад?

Бетховен адчуваў, што ён вось-вось узарвецца, але гэта ў яго становішчы было б недарэчным учынкам. Раней ён падтрымліваў Карла і Ёгана. Нават аптэка ў Лінцы часткова набыта за Людвігавы грошы. І вось цяпер, замест падзякі?. .

- Я ведаю, што ты намякаеш на акцыі, Ёган. Яны прызначаны Карлу, але адну з іх я ахвотна дам табе пад заклад. Пазней я яе выкуплю. Грошы ў цябе з сабою?

Ён хацеў, каб гэта гучала абыякава і холадна, але хапатлівасць пытання выдавала яго, так што Ёган і далей мог уніжаць яго.

- А калі б іх у мяне не было? Імя Ёгана ван Бетховена, памешчыка на хутары Васэргоф каля вёскі Гнейксендорф паблізу ад Крэмса карыстаецца даверам ва ўсіх венскіх банкаўскіх дамах. Та-ак, а чаму табе, тым часам, і не ўзяць грошай пад вэксаль?

Гер Шлемер яшчэ больш зморшчыўся.

- Я прынёс фінал месы. Перапіска трохі затрымалася. - Ён сутаргава хапаў паветра. - Мая хвароба. У мяне такое прадчуванне, што гэта. . . мая апошняя копія.

Бетховен уважліва сачыў за яго губамі, каб не прапусціць ніводнага слова. Потым засмяяўся.

- Гультай заўсёды знойдзе адгаворку. Я ведаю кожную дэталь такіх адгаворак, бо і сам з пароды людзей, якім вечна не хапае часу. А наконт гэтае месы. . . вы яе, між іншым, перапісалі вельмі прыгожа!. . то тут справы зусім дрэнь: яе трэба было скончыць у канцы сакавіка тысяча восемсот дваццатага года, калі надаваўся сан архібіскупа эрцгерцагу Рудольфу. Я разлічваў, што спраўлюся з работаю за два гады, а цяпер вось пачатак сакавіка дваццаць трэцяга. Значыцца, на ўсё мне спатрэбілася пяць гадоў. Васемнаццатага сакавіка, напярэдадні гадавіны, хачу нарэшце перадаць месу архібіскупу. - Ён запытаўся заклапочана: - Вы папраўдзе такі хворы, дарагі Шлемер?

- Я вельмі стомлены. . .

- Нам з гэтым лічыцца не прыходзіцца, бо абодвум суджана бегаць рыссю і памерці на рабоце.

У пакой увайшоў Чэрны.

- Добрай раніцы, маэстра! Добрай раніцы, гер Шлемер! Маэстра, мой вучань, хлапчо, якое я хацеў паказаць вам, чакае ўжо болей за гадзіну.

- А, гэты вундэркінд. Чэрны, ты ж ведаеш, што я вельмі скептычна стаўлюся да вундэркіндаў.

- Ведаю. Але і вы ведаеце маю мару аб дынастыі піяністаў. Я - ваш вучань, а хлопчык - мой вучань. І мне важна пачуць ад вас: зможа ён прадоўжыць дынастыю. . . Бетховена ці не.

- Чаму ж вы адразу не прывялі гэтага хлапца з сабою? Чэрны азірнуўся. Ён не хацеў спасылацца на расстроены раяль.

- Гэта сюрпрыз, маэстра, але калі з яго нічога не выйдзе, то вінаваты ў гэтым буду толькі я адзін.

Калі яны падняліся на сцэну ў Малой зале рэдутаў, Чэрны растлумачыў:

- Нам патрэбны два аднолькава настроеныя раялі, маэстра, бо на адным з іх я буду аркестрам.

- Аркестрам? Які ж канцэрт вы хочаце. . .

Чэрны згадзіўся б і недачуць гэтага пытання. Маленькі, незвычайна прыгожы хлопчык са збялелым, як палатно, тварам схіліўся ў глыбокім пашаноўным паклоне.

Бетховен зірнуў на яго з раптоўнаю прыхільнасцю.

- Баішся? Мяне можаш не баяцца. Не, пастой: можаш баяцца. Я таксама баяўся, калі іграў калісьці на арганах перад маім настаўнікам Крысціянам Готлібам Нефе. А твой настаўнік, што ты сабе думаеш, колькі ён нацярпеўся страху? Не, дзякую, крэсла непатрэбна, Чэрны. Я буду стаяць побач з хлопчыкам. Што ты яму толькі што сказаў? Хлопчык яшчэ больш спалохаўся. Прызнавайся, Чэрны!

- Ну добра. Я сказаў, што чалавек побач з табою адзін варты болей, чым тысячы чалавек, калі б яны былі ў зале. І яшчэ я сказаў: не памыляйся, ён чуе. . . і вачыма.

- Чэрны, ты штосьці яшчэ недагаворваеш. Што?. .

- Я яшчэ сказаў: іграй, быццам на карту пастаўлена тваё жыццё! Бо ты іграеш перад Людвігам ван Бетховенам.

Бетховен паматаў галавою.

- Чэрны, ты, па-мойму, вельмі дзіўны настаўнік. Чэрны нервова спытаўся:

- Гатова?

Хлопчык, сціснуўшы зубы, кіўнуў галавою.

- Тады пачынаю лічыць: адзін, два. . . увага!

Чэрны зайграў, потым адняў рукі ад клавішаў - аркестру трэба было толькі раз дакрануцца да клавішаў. Але ў адказ на гэтае дакрананне забіў фантан, які пальчыкамі выкідваў угору хлопчык. Яшчэ адзін удар аркестра. І пырскі завіравала, нанесла яшчэ вышэй.

Бетховен паглядаў на Чэрны спагадліва, але ў яго позірку хавалася нейкае неадабрэнне. «Сама па сабе ідэя ў вас неблагая - узяць мой фартэпіянны канцэрт мі-бемоль мажор, але ж ці давядзе хлопчык да канца гэтую партыю з незвычайна вялікімі тэхнічнымі цяжкасцямі?» Бетховен літаральна вывучаў маленькія, хуткія, як маланка, рукі і пальцы спачатку на дыскантавых, а потым на басавых клавішах, нізка схіляючыся над пальцамі і клавішамі, услухоўваючыся. Не, ніводнага тону ён не чуў, нават і тады, калі хлопчык, як цяпер, іграў фартысіма, але ўсё-такі. . . зноў іграе аркестр, а потым яшчэ раз сола.

Бетховен, ссунуўшы бровы, прабурчаў:

- Паслухай, хлопча. . . не, не, іграй сабе далей, не бянтэжся. Адно я табе толькі скажу: не падабаецца мне гэты аркестр. Іграе ён вельмі невыразна, і тут ты павінен пагадзіцца са мною. Зараз ты будзеш іграць не перада мною, а за мяне. Маю партыю! Разумееш? Трэба хоць раз паспрабаваць падбадзёрыць аркестр. Паскорыць тэмп! Вось так. Можна нават яшчэ крышачку хутчэй.

Пасля першай часткі Бетховен папытаўся:

- А як цябе завуць?

Хлопчыкавы вочы заблішчалі:

- Франц Ліст.

- Добра, Франц Ліст. . . а колькі табе гадоў?

- Адзінаццаць гадоў, маэстра. Бетховен усміхнуўся.

- Ага. . . Франц Ліст, адзінаццаць гадоў. Тады, калі ласка, наступную частку.

Трыццаць першае пісьмо! Пісаць іх - толькі марнаваць час, а яму трэба працаваць над Дзевятаю сімфоніяй і над «Песняю да радасці». Але, мон?а, яго старая слава папраўдзе чаго-небудзь яшчэ варта? Прынамсі, парада, якую ён цяпер выконвае, зычлівая. Даў яе, атрымліваючы Месу, знатны і верны Бетховенаў сябра, колішні яго вучань эрцгерцаг і архібіскуп Рудольф, з якім можна было гаварыць пра ўсё.

- Прапануйце яе па падпісцы.

- Каму, ваша імператарская высокасць?

- Ну, кожнаму, хто мае карону - залатую ці разумную, але карону, багатую на дукаты. Значыцца і Гётэ, і Керубіні. . .

- А за якую цану? Калі ўлічыць кошт капіравання гэтае вялізнае рэчы. . .

- І ўсё ж болей за пяцьдзесят дукатаў. . .

Бетховен кіўнуў галавою.

- Разумею. За бартавы залп фрэгата, які шле смерць другому караблю, за залпы некалькіх батарэй, якія разбураюць дамы, ірвуць на кавалкі чалавечыя целы і кватэры, пабудаваныя з такімі намаганнямі, ахвотна плацяць тысячу і болей дукатаў. Але за пасланне міру - тут рэч не

столькі пра мяне, як пра прынцып! - за пасланне міру, якое ідзе ад сэрца і павінна ісці да сэрцаў, якое бадзёрыць і суцяшае людзей, чакаць ганарару ў пяцьдзесят дукатаў занадта ўжо смела.

- Так ужо пабудаваны свет, маэстра.

- Ваша княжацка-біскупская міласць, а што думае. . . пра гэты свет царква?

- Царква? Царства яе не ў гэтым свеце.

Архібіскуп, сам царкоўны князь, прынамсі, хоць не пакрыўдзіўся на Бетховена за бунтарскае пытанне. Цяпер вось прыходзілася перапісваць пісьмы, тэкст якіх прыдумаў Шындлер, каб разаслаць іх у двары каралёў, у дамы князёў, да багатых графаў і баронаў. Іх трэба было пісаць асабіста, - у гэтых пісьмах, просьбах. . . міласціны, нельга дапускаць арфаграфічных памылак.

Трыццаць другое пісьмо. Адно і тое ж у адным і тым жа падлізлівым тоне! Прыходзіцца вось так прапаноўваць добры твор, пакуль што найлепшы яго твор, як робіць са сваім таварам вулічны гандляр, прадаючы яго выпадковым прахожым! Каму адрасавана гэтае пісьмо? Шведскай Акадэміі мастацтваў, якая хоць і абрала Бетховена сваім ганаровым членам, але не за музыку з просьбаю аб міры, а, мабыць, за тую халтуру з машынамі, якія маглі імітаваць грымотныя гарматныя залпы.

Раптам ён заплюшчыў вочы і ўскочыў з месца. Машынаімітатар грымотаў? Не, гэта грымотны арганны пункт літаўраў з асноўным тонам рэ! Так, так і так - 38 тактаў, цяпер квінтавы матыў уступу, але ўжо фартысіма! Цудоўна. Гераічная тэма, удалая знаходка для Дзевятай, зноў гучыць ва ўсёй сваёй велічы у рэ мінор!

Каторы час? Сілм нябесныя! Ён памчаўся на кухню, каб напісаць ахмістрыні, што ёй трэба купіць. Там і застаў яго крыху пазней Франц Грыльпарцэр, які са свайго месца работы ў дзяржаўным архіве зайшоў да Бетховена, каб пацікавіцца лёсам лібрэта свае «Мелузіны». Бетховен не адразу заўважыў яго і не пераставаў гнеўна крэмзаць каракулі на вялікай грыфельнай дошцы. Грыльпарцэру здалося, што ён бачыць перад сабою аднаго з герояў Шэкспіра: звар’яцелага караля Ліра. . . Ніводзін артыст не зрабіў бы для гэтай ролі лепшае маскі. Тарчаць сівыя, зблытаныя валасы. Лоб, быццам высечаны з каменнае глыбы чэрап. Шырокі нос прыдае твару нешта львападобнае. Якія магутныя сківіцы! Воспіны і чырвоная скура на твары, маленькія, быццам налітыя злосцю, вочкі гарацъ гатовасцю да бойкі, нейкім амаль несамавітым недаверам. Невялікая фігура, і тым не менш было ў ім штосьці ад цыклопа. . . Сапраўдны звар’яцелы Лір, які толькі што вярнуўся ў сваё прыстанішча з пустэчы, над якою бушавала бура, у гэтае ўбогае прыстанішча ў доме нумар 60 на Котгасэ са змрочным, сумным калідорам. Раяль у пакоі, укрыты тоўстым слоем пылу. Усюды валяецца разбіты фарфор.

Грыльпарцэр бачыў Бетховена на адной з вялікіх акадэмій у зале рэдутаў, і вось цяпер тут такое. . . падзенне! Малады пісьменнік невыразна адчуваў нейкі страх, але гэты страх. . . меў дачыненне да ўласнае асобы. Хоць яму самому толькі трошкі болей за трыццаць гадоў, але няўдач і ўдараў лёсу, нягледзячы на еўранейскі поспех свайго «Сафо», ён 408 перанёс хоць адбаўляй. Гэты Бетховен-Лір здаўся яму жахліваю перасцярогаю.

Бетховенаў голас, які з-за глухаты заўсёды гучаў неяк прымушана-напружана, дружалюбна прахрыпеў:

- Гер Франц Грыльпарцэр, мой колішні сябручок з Гейлігенштата! Заўсёды, калі я бачу вас, я не магу не думаць пра гэта. Між іншым, тое, што я цяпер раззлаваны, да вас не мае ніякага дачынення. Прычына - ахмістрыня, гэтая «фраў Шнапс»! Гэты фрэгат, які заўсёды дзелавіта і хутка плыве пад парусамі! Памяці ў яе няма, яна больш не чуе ні паху ні смаку і таму корміць мой бедны страўнік пасечанымі скуранымі падэшвамі, у якіх яшчэ пааставаліся цвікі. Ну і жыццё! Але давайце, мілы Грыльпарцэр, пойдзем адсюль проста ў музычны пакой. Сядайце. Чарапкі змяціце з крэсла. Фраў Шнапс v гэты пакой заходзіць не дазваляецца, бо хто гарантуе мне, што яна не прыме новай сімфоніі ці яшчэ чаго за чарапкі? Вы прыйшлі з-за вашага лібрэта, з-за вашай «Мелузіны»? Але, на жаль, я вымушаны. . . Я з радасцю напісаў бы новую оперу, асабліва цяпер, калі мой «Фідэліо» з Карлам Марыяй фон Веберам і Шродэр дабіўся ў Дрэздэне, можна лічыць, сапраўднага поспеху. Гэта прыдае мужнасці. Але, мой мілы гер Грыльпарцэр, чалавек маладзейшым не робіцца. Вось тое, - ён паказаў рукою на стос нотных лістоў, - неўзабаве, мабыць, усё-такі будзе гатова; але адразу ўзяць і засесці за новую нялёгкую работу?. . Ваш тэкст вельмі цудоўны, гэта не падлізванне, але як пісьменнік, як мастак вы маеце права

пачуць праўду: мне гэты тэкст не па душы. У вас казачная опера. Мілыя феі і добрыя цуды прыносяць збавенне. - Ён раптам насцярожыўся. - Што вам перашкаджае, гер Грыльпарцэр? - Госць паказаў на адчыненае акно, праз якое ў пакой урываўся аглушальны шум. Бетховен устаў і паглядзеў у вузкую вулічку. - Так, я нічога не чую. - Насупраць у двары ліцейні каваль-асілак біў молатам па вялізным царкоўным звоне. Ён хацеў выправіць у звоне нейкую ваду, і відно было, як у страшэнным намаганні на яго руках хадзілі мускулы. Бетховен зачыніў акно. - Феі і цуды? Як вам тут растлумачыць? - Усмешка яго прасіла прабачэння. - Калі ласка, не зразумейце мяне няправільна. Вельмі прыемна, калі можаш верыць у феяў і ў цуды. Але што я магу зрабіць з сабою? Я думаю, як вунь той каваль.

Няўжо лістапад? Тады пара варочацца ў горад. Рэчы ён паслаў раней, а сам пайшоў пешкі. Нарэшце ён зноў на Котгасэ, з непрыемнасцю глядзіць знізу на вокны свае кватэры. Цямнела, і выгляд убогага нізенькага дамка, заціснутага вышэйшымі будынкамі, усё больш быў яму нялюбы. Акно на кухні цёмнае, значыцца, пры гэтай сустрэчы з домам яму хоць не пападзе на вочы «фраў Шнапс». Але Шындлер, не вельмі пажаданы Шындлер тут. А можа, ён ставіцца да Шындлера несправядліва? Што цяпер у яго на душы? Страх? А можа, і што іншае?

Шэсць гадоў ужо, як ён працуе над сімфоніяй, і першых яе частак можна не мяняць. Але апошняя ніяк не выходзіць. Мабыць, дзесьці ёсць памылка. Толькі дзе, дзе? Ён наставіў каўнер пальто, быццам збіраўся ісці праз вадаспад гора і нягод, перасек вуліцу, паклыпаў па каменных прыступках, увайшоў у дом. Паветра ў калідоры было затхлае.

- Добры вечар, Шындлер.

Па губах прачытаў адказ:

- Добры вечар, маэстра.

Закалыхалася святло. Рэчы ўжо прыйшлі, і на раялі ляжаў акуратна складзены стос спісанай нотнай паперы.

- Я даў вам так многа клопату сваімі рэчамі, Шындлер.

У Шындлеравых вачах за акулярамі, што бліснулі ў святле свечак, з’явілася ўдзячная, хоць і здзіўленая ўсмешка. Потым ён папытаўся:

- Будзеце вячэраць, маэстра? Запаліць грубку?

- Не, дзякую. Вы не ўзлуецеся, калі я папрашу вас цяпер пакінуць мяне аднаго? Спакойнай ночы. І яшчэ раз вялікі дзякуй.

Бетховен паглядзеў яму ўслед. Вядома, Шындлер хацеў яму дабра. Ці ж вінаваты ён, Шындлер, што мае выгляд нейкага ценю? Ёсць людзі, якія ўжо нарадягаюцца старымі.

Бетховен, не зняўшы паліта, у фетравым капелюшы, падышоў да раяля, стаў браць з яго пачак за пачкам манускрыпты, адкладваць убок. Першыя тры часткі неблагія. Нават пры беглым праглядзе ў ім зноў загараўся той агонь, з дапамогаю якога яны створаны. Толькі апошняя. . . З маладых год, з дзяцінства, яшчэ ў Боне ён працаваў над гэтым творам Шылера, увесь час сёе-тое перайначваючы. Яго старыя запісныя кніжкі маглі расказаць пра гэта цэлыя гісторыі. Пра уверцюру, а потым пра нешта накшталт араторыі. Глупства. І тым не менш у ім жыла думка: скласці з паасобных частак оды цэлае. Толькі. . . як? Ужо пасівелі і валасы, а твор ніяк не выходзіў. Ці не таму, што як вянец, у апошнюю частку аркестравай сімфоніі ён хацеў уключыць і хор? Якая выдатная ідэя! Дзе ж дагэтуль бачылі такое? Фантазія опус 80, напісаная ў 1808 годзе, з хорам на верш Куфнера паказалася яму несуадноснай з гэтым творам. Лепш пачаць новую работу, араторыю «Перамога крыжа». Загаловак у яе, праўда, двухсэнсавы. Бо крыж існуе ўжо дзве тысячы гадоў і ўсё ж ніколі яшчэ не дабіўся перамогі. Ім злоўжывалі дзеля падману, нядобрых спраў і нават войнаў. А ён, Бетховен, хацеў цяпер памагчы крыжу, прапаведуючы чалавечнасць.

І ўсё ж ён зноў падсунуў да сябе адкінуты перад гэтым пачак нотаў. Гэтае месца. . . пятнаццаці тактам не хапае рашучай тэрцыі, і таму выходзіць нешта накшталт чаднага паўзмроку. Тэма рэ мінор. . . дрыготкія, пустыя квінтавыя секстолы другіх скрыпак і віяланчэляў. . . потым даўжэзныя пустыя квінты ражкоў. . . алегра ма нон тропа, ун пока маэстоза. Так, ражкі мі, ля, тэнута, басовыя мі, ля, паспешны, пусты безнадзейны шэпт. Піянісіма. Ці ж ёсць для паказу безвыходнасці што-небудзь музычна больш выразнае, чым гэтыя пустыя квінты з усёю таямніцаю іх змроку? Што, калі ў апошняй частцы ў песні. . . А далей як? Там вырастала каменная сцяна. Да песні трэба, мабыць, яшчэ дадаць рэчытатыў.

Але як, як?

Цяжкі неспакой ганяў яго ўзад і ўперад па клетцы пакоя. Падагнаў да акна. Вуліца цяпер амаль зусім цёмная, на ёй відаць толькі нейкія няпэўныя цені, як злавесныя пустыя квінты. . . Але, раптам ірвануўшыся, струмень агню асляпіў яго. Адліўшчык званоў насупраць выбіў затычку, і ў форму лінуўся вадкі метал. Ён спяшаўся адліць звон, які неўзабаве загрыміць з царкоўнае вежы і сваім звонам будзе суправаджаць людзей да самае смерці. Ну, звон мог бы выклікаць і больш радасныя гукі - скажам, вясельныя. Больш радасныя. . . А як спявае звон? Барытонам? А што, калі ўвесці словы: «О сябры, не трэба гэтых гукаў! Возьмем гукі больш прыемныя і вясёлыя!» А што, калі ён гэтыя нямногія словы выкарыстае як рэчытатыў?. . Шылер яму, мабыць, прабачыць. А далей як?. .

Ён пробаваў, намацваў і раптам не стрымаўся, што ёсць моцы зароў. На вочы, што зноў сталі вялізнымі і чорнымі, пабеглі слёзы замілавання:

Радасць, полымя нябёсаў!
Райскі дух зышоў да нас!
Ап’янёныя табою,
Мы ідзём у храм да вас.

Ён ціхенька засмяяўся. Аставалася запоўніць толькі адну квінту. Не, яшчэ прасцей зрабіць нельга.

Гер Штрэйхер зірнуў праз вітрыннае шкло музычнага салона на вуліцу.

- Lupus  In fabula! Гаворыш пра воўка, а ён тут як тут. Да Штрэйхера падышоў граф Ліхноўскі.

- Праўду кажаце, ён гуляе сабе як ні ў чым не бывала, з асалодаю. Вядома, скінуўшы з плячэй неймаверны цяжар і месы, і дзевятай сімфоніі, можна дазволіць сабе гэта. Прынамсі, я ад душы зычу яму гэтага.

- Аз якою цікаўнасцю разглядае ён у манокль вітрыны. Нават апошнія венскія дамскія моды. Я махну яму рукою, каб ён падышоў сюды.

Ліхноўскі запярэчыў:

- Не трэба, дарагі Штрэйхер. Я хачу пагаварыць з вамі пра нешта, што датычыцца яго, Бетховена. Гэта ж ганьба, што воляю лёсу яго меса і сімфонія ўпершыню будуць выконвацца ў Берліне, а не ў Вене, яго другім родным горадзе.

- З нашага пункту гледжання, з пункту гледжання яго апошніх сяброў гэта нязмыўная ганьба. Але як усё можна перайначыць, гер граф?

- Я параіў бы напісаць прашэнне і перадаць яго яму.

- А хто падпіша прашэнне? Мы ўдвох? Гэтага ж, мабыць, мала. Бо Вена дала яму нямала гора.

- Вы вялікі скептык, гер Штрэйхер. У горадзе з насельніцтвам за дзвесце тысяч чалавек знойдзецца ж, прынамсі, некалькі сотняў, якія згодзяцца падпісаць прашэнне. Да гэтае справы мы можам залучыць яшчэ і Чэрны з Шупанцыгам.

Штрэйхер паціснуў плячыма.

-  І ўсё-такі я настроены скептычпа, гер граф. Я проста буду рады, калі. . .

- Мы можам разлічваць на Артарыя, Дыябелі, гера фон Цмескаля, доктара Зонлейтнера. Графа Пальфі я, як графа, таксама вазьму на сябе, а. . .

- Я магу ўспомніць яшчэ аднаго чалавека. Гер граф, вы ведаеце Франца Шуберта? Ён адразу падпішацца, калі ў яго на гэта хопіць смеласці. Ён жа ўлюбёны ў нашага сябра.

Ліхноўскі, здавалася, нешта абдумваў.

- Шуберт? Шуберт? Ці не той гэта, што некалькі гадоў таму назад быў настаўнікам музыкі ў Эстэргазі?  І я недзе чуў, што ён піша песні.

- Ён піша не толькі песні, гер граф, а і. . .

- Ну добра, дарагі Штрэйхер, але перш нам трэба падумаць пра імёны славутасцяў.

Ліхноўскі дастаў з кішэні нейкую паперу.

- Я ўжо накідаў частку прашэння. Праўда, я ёю не зусім задаволены, бо трэба, каб руку адначасова вялі і ўмеласць і такт. Вы, як яго шчыры сябар і паклоннік, думаю, згодны са мною, але. . . - Ён пачаў чытаць уголас: - «Не пазбаўляйце грамадства асалоды, не адмаўляйце нам - у нашым і без таго абмежаваным імкненні да вялікага і ідэальнага - знаёміцца з апошнімі

шэдэўрамі вашых рук. Мы ведаем, што ў вялікай царкоўнай кампазіцыі вы ўвекавечылі пачуцці душы, прасякнутай і асветленай сілаю веры і незямным бляскам. Мы ведаем, што ў вянку вашых выдатных сімфоній, узроўню якіх яшчэ не дасягнуў ніхто, заззяла новая кветка. Спраўдзіце нарэшце спадзяванні ўсіх! Ужо гадам!, з часоў, калі адгрымеў гром перамогі пры Віторыі, чакаем і спадзяёмся мы, што зноў пабачым, як з свае багатае скарбонкі вы пачняце раздаваць сваім блізкім новыя падарункі. Няхай яшчэ пабольшае прыемнае ўражанне ад вашых апошніх твораў. Абрадуйце нас магчымасцю першымі пазнаёміцца з імі цераз вас асабіста!» Ну як, гер Штрэйхер?

- Наш сябар Бетховен цалкам заслужыў моцныя словы прашэння, гер граф. Вы зусім правільна нагадалі пра гром перамогі пры Віторыі. Але ж ці ўдасца простаму смертнаму месаю або сімфоніяй яшчэ раз узабрацца на вяршыню, над якою да вечнасці зорак узняўся гром перамогі пры Віторыі?

Ліхноўскі падняў руку:

- Не малюйце на сцяне д’ябла. Я і сам яго баюся.

Памятная запіска, якую яму прынеслі, была датавана: Вена, люты 1824 год. На ёй трыццаць подпісаў, частку якіх удалося сабраць толькі з вялікаю цяжкасцю. Каб перадаць прашэнне, падабралі дзвюх «бяскрыўдных» асоб. На тое, каб атрымаць згоду, на роздум Бетховену хацелі пакінуць як мага меней часу. Іначай ён разгадаў бы, што гэтая так званая дэманстрацыя пачуццяў венцамі, галоўным чынам сябрамі, была нязначная, калі не сказаць мізэрная. Надзея была толькі на тое, што яго, магчыма, збянтэжаць дыфірамбы памятнае запіскі.

Бетховен, прачытаўшы запіску, сказаў:

- Не, не. Перш мне трэба спакойна прачытаць гэтую паперу. Свой адказ я перадам вам пазней.

Астаўшыся адзін, ён патрымаў у руцэ даволі важкае пісьмо, перачытаў яго і ўсміхнуўся. Гэта ж справа рук Ліхноўскага! «Выказваем мы тут перш за ўсё пажаданні айчынных аматараў музыкі, бо хоць імя Бетховена, яго творы і належаць усяму чалавецтву і кожнай краіне, дзе прыхільна ставяцца да мастацтва, Аўстрыя тым не менш першая мае права назваць яго сваім. Яшчэ добра помняць яе жыхары - трыццаць жыхароў Аўстрыі, якія паставілі тут свой подпіс! - што вялікага і бессмяротнага на векі вечныя стварылі на ўлонні роднае краіны Моцарт і Гайдн. Ганарацца і радуюцца яны, што свяшчэнная трыяда, у якой як увасабленне вышэйшага ў чароўным царстве тонаўззяюць і іх і ваша імёны, вырасла на ўлонні роднае зямлі. З часоў, калі адгрымеў гром перамогі пры Віторыі, чакаем і спадзяёмся мы, што зноў пабачым, як з свае багатае скарбонкі вы пачняце раздаваць сваім блізкім новыя. . . »

Усмешка аж пякла болем: і вы тое ж самае! У вашых вушах гучыць толькі гром перамогі пры Віторыі, і вы нічога, нічога болей не спамянулі! Ніводнага квартэта, ніводнага фартэпіяннага канцэрта і канцэрта для скрыпкі. Н І «Фідэліо», ні «Гераічнай». . .

«Ці ж трэба казаць вам, якім глыбокім жалем ужо даўно напаўняе нас ваша адзінота? Ці ж трэба гаварыць вам, што ўсе позіркі з надзеяй скіраваны на вас, што ўсе са смуткам бачаць: чалавек, якога ў сваёй галіне трэба паставіць сярод жывых вышэй за ўсіх, моўчкі глядзіць, як чужаземнае мастацтва распаўсюджваецца на нямецкай зямлі, займаючы ганаровае месца нямецкай музы. А нямецкія творы падабаюцца толькі тады, калі пераймаюць чужыя мелодыі. . . »

Мой дарагі Ліхноўскі, я маўчаў, бо ці ж можна зλавіць вясёлку, аб чым я калісьці марыў? Нямецкаму народу шмат чаго дадзена, але і на шмат чым ляжыць праклядце! Мой адказ?. . Ён адчуваў у сабе сакратаўскае папярэджанне, нейкае таямнічае пачуццё, якое хоць і не гаворыць ніколі чалавеку дакладна, што яму рабіць, але настойліва не раіць яму ісці на тое, што можа прынесці яму шкоду або стаць небяспечным. Але разам з тым у Бетховена расла і ўпартасць: я прымушу іх! Яны павінны і тут зразумець, што я хачу сказаць сваімі M Issa solemn Is і Дзевятаю сімфоніяю!

У пакой увайшоў Шындлер. Бетховен падсунуў яму пісьмо. Шындлер пісьмо ведаў і вымушаны быў цяпер прыкідвацца. Распасцёршы рукі, ён падаўся да Бетховена.

- Маэстра, прыміце мае віншаванні!

Той хоць і адгадаў камедыю, але ўключыўся ў гульню:

- Няпраўда, прыемна? Шындлер, мы зараз пойдзем да графа Ліхноўскага, і вы можаце заглянуць да яго наверх. Паведаміце яму мой адказ: я згодзен.

Сакратаўскае папярэджанне, якога ён не паслухаўся! Узарвалася скрынка Пандоры, і з яе выпаўзла гадаўё вялікіх і малых агідных непрыемнасцей. Нехта аддаў у газету прашэнне, яго надрукавалі.  І адразу ж сталі гаварыць: вядома, ён напісаў яго сам! Ён сябе ўзносіць да нябёсаў, гэты стары нямоглы педант, як назваў Бетховена малады пісьменнік Баўэрнфельд. Аднак Бетховену нічога не памагае. Што адмерла, тое больш не вырасце. Яго час і час музыкі канчаткова прайшоў. Ён ужо мёртвы і толькі не ведае яшчэ, што даўно ляжаць пад зямлёю.

Потым праблема з залаю для акадэміі, вечная зневажальная беганіна. Падумалася: ці не сам ён вінаваты ў гэтым хаосе? Доўгія гады пражыў ён адзін на адзін, не толькі з сваёю глухатою, але і з сваімі марамі, у барацьбе з мастацтвам, з дэманамі, якія былі супраць яго творчасці, у забытасці. Яго спачатку збянтэжыла і асляпіла святло агульнага інтарэсу, а падазронасць зрабіла яго несправядлівым і да ўсяго варожым. Часта ён няправільна разумеў сяброўства, хацеў разбурыць тое, што здавалася яму надакучлівым, . Гэтак, гэтак - і тым не менш ён не вытрываў і, раззлаваўшыся, напісаў запіскі, ад якіх пазней яму самому было смешна: «Графу Морыцу Ліхноўскаму. Да фальшу я стаўлюся з пагардаю. Больш не прыходзьце да мяне. Акадэміі не будзе. Бетховен».

«Геру Шупанцыгу. Да мяне больш не прыходзь. Я не даю акадэміі. Бетховен».

«Шындлеру. Прашу болей да мяне не прыходзіць, пакуль я не паклічу вас. Акадэміі не будзе. Б-н».

Прайшлі тыдні, пакуль усё разблыталася, але адразу ўсё зноў пачало паўтарацца - новы прыступ, новая хваля нянавісці ахапілі яго, бо каб унемажлівіць канцэрт, яму не хацелі даваць ні аркестрантаў, ні хору. Але гэта была барацьба, абсяг, у якім ён, дзякуючы свайму стораму вопыту, адчуваў сябе як рыба ў вадзе. Выбар прафесійных музыкантаў быў занадта малы, і таму прыйшлося задаволіцца апошнімі больш-менш здатнымі венскімі аматарамі, у тым ліку і харыстамі. Нарэшце можна было расклейваць афішы:

«Вялікая музычная акадэмія гера Л. ван Бетховена адбудзецца заўтра, 7 мая 1824 года, у імператарска-каралеўскім прыдворным тэатры побач з Кернтнертор. Выкананы будуць самыя апошнія музычныя творы гера Людвіга ван Бетховена. Па-першае, вялікая уверцюра. Па-другое, тры вялікія гімны для сола і хору. Па-трэцяе, вялікая сімфонія з сола і хорам у фінале на словы песні Шылера «Да радасці». Салісты - мадэмуазель Зонтаг і мадэмуазель Унгер, геры Гайцінгер і Зейпельт. Дырыжыруе аркестрам гер Шупанцыг, агульнае кіраванне - гера капельмайстара Умлаўфа. Музычнае таварыства мела ласку ўзяць на сябе клопат, каб узмацніць хор і аркестр. У кіраванні ўсім вечарам асабіста возьме ўдзел гер Людвіг ван Бетховен. Плата за ўваход як звычайна».

Даходзілі чуткі пра скандалы за кулісамі. У апошнюю хвіліну прайшла навіна: цэнзура, духоўная інстанцыя, забараніла тры гімны! Забаронена якраз тое нямногае, што асталося яшчэ для канцэрта ад M Issa solemn Is: тры часткі - Божа, Веру, Ягня. Забаранілі іграць на канцэрце часткі месы!. . Бетховен вымушаны быў абараняцца і напісаў:

«У вышэйшую царкоўную інстанцыю! Геру цэнзару Зарторыўсу! Ваша высакароддзе!

Пачуўшы, што выкананне некалькіх царкоўных музычных твораў увечары на акадэміі ў Венскім тэатры можа сустрэць перашкоду з боку імператарска-каралеўскай цэнзуры, вымушаны сказаць вам, што даць акадэмію мяне папрасілі, ужо зроблены копіі, а яны каштавалі мне нямала грошай, што асталося занадта мала часу, каб падрыхтаваць замест іх новыя творы. Між іншым выконвацца павінны толькі тры творы царкоўнай музыкі, якія завуцца гімнамі. Таму я прашу ваша высакароддзе тэрмінова заняцца гэтаю справаю, бо, калі бярэшся за падобныя рэчы, і так прыходзіцца пераадольваць не адну перашкоду. Калі ж дазволу на гэта не выйдзе, то магу запэўніць вас, што акадэмія сарвецца і ўсе выдаткі на копіі пойдуць на вецер. Спадзяюся, што вы, ваша высакароддзе, яшчэ памятаеце мяне.

З павагаю ваш верны Бетховен».

Але што, калі гер Зарторыўс яго не помніць? Усё-такі са слаўных дзён Венскага кангрэсу прайшло дзесяць гадоў. Мабыць, будзе лепей, каб цераз графа Ліхноўскага як-небудзь намякнуць геру Зарторыўсу аб зацікаўленасці ў справе эрцгерцага і архібіскупа Рудольфа.

У пакой уляцеў Шындлер і, нягледзячы на паспешнасць, загаварыў павольна, падкрэсліваючы словы, каб пазбегнуць надакучлівага выкарыстання размоўнага сшытка:

- Маэстра, а ці не напісаць нам на афішах яшчэ «член каралеўскіх акадэмій у Стакгольме і Амстэрдаме»?

Шупанцыг, які выпадкова быў тут, адціснуў яго ўбок.

- Глупства! Я буду іграць квартэты Бетховена, нават калі з мяне пачнуць смяяцца! На канцэрце я павяду за сабою аркестр, і зусім не з-за пераможнага грому «Бітвы пры Віторыі». Ну што такое каралеўскія акадэміі ў Стакгольме і Амстэрдаме? Мне простае імя Бетховен значыць куды болей. Ён для мяне прэзідэнт усіх акадэмій свету!

Бетховен, мабыць, усё-такі зразумеў галоўнае і збянтэжана зірнуў на Шупанцыга, які звычайна не вылучаўся схільнасцю да сентыментальнага выказвання сваіх пачуццяў.

- Фальстаф?!

Той у адказ буркнуў:

- Дэбаты па гэтым пытанні скончаны.

- Хвалюешся перад выхадам на сцэну, дзядзечка Людвіг?

Ці ж мог ведаць мілы хлопчык, «гузічак». што залежыць ад таго, які будзе збор за сённяшні канцэрт? Не толькі вучоба Карла, які выбраў для вывучэння філасофію і вытрымаў школьныя іспыты. Акцыі, праўда, схаваны ў таемнай шуфлядцы ў шафе, і тую, што залажыў, ён зноў выкупіў у Ёгана, але гэта невялічкае багацце павінна астацца пляменніку, яго падапечнаму.

- Чаму ты гэтак крытычна разглядаеш мяне, гузічак? Герхарт фон Бройнінг паварушыў губамі, так што словы можна было зразумець:

- Дзядзечка Людвіг, сёння ў цябе выгляд высакароднага чалавека. Бездакорны нават гальштук. Але ты спакойна можаш даць мне яшчэ пару цукерак, каб у мяне было болей сілы апладзіраваць.

Потым задаволены Герхарт павёў дзядзечку Людвіга на канцэрт слухаць тры «гімны» з M Issa solemn Is і Дзевятай сімфоніі.

Было яшчэ відно, бо, дзякуючы позняму агністаму сонцу, святло не затухала. Яно нагадвала імклівы Гальфстрым, і ў ім цяпер з’явіліся Бетховенавы сябры: Вольфмайер, Зейфрыд, фраў фон Эрдзёдзі, усе Джанатазіо. Над іх галовамі Бетховен прывітаўся з некалькімі дамамі і панамі, «дылетантамі» з узмоцненага хору і аркестра, якія напярэдадні на генеральнай рэпетыцыі з захапленнем аддаваліся ігры і якіх, як толькі скончылася ігра, Бетховен па чарзе абнімаў каля дзвярэй - кожнага з гэтых «дылетантаў», як іх, «аматараў», пагардліва звалі многія музыканты, што часта прадавалі толькі свае прафесійныя навыкі. Вядома, абысціся без тэхнікі нельга, а тэхніка вымагае працы, вельмі вялікае працы, за якую «дылетантам» аднак не было ніякае платы апроч радасці ад уласнага музіцыравання. Узяць хоць бы гэтага гера Эпінгера, купца, і тым не менш выдатнага скрыпача.

Бетховен павярнуўся да Фані Джанатазіо дэль Рыо:

- Вы ўвесь час маўчыце, але я, здаецца, усё-такі разумею вас правільна. Вашы добрыя пажаданні павінны памагчы мне. Якая ж вы прыгожая, Фані! Вы зусім, як гэты найяснейшы вясновы дзень.  І ведаеце, што я адкажу на вашы пажаданні? Няхай знойдзецца чалавек, які зробіць вас шчасліваю і сам будзе ашчасліўлены вамі!

Чаму Фані вырвала ў яго руку, чаму яна пабегла прэч? Няўжо ён убачыў на яе вачах слёзы? Дзіўна, што такое пажаданне магло засмуціць ці нават абразіць і пакрыўдзіць маладую дзяўчыну. Можа, у яе няшчаснае каханне, і яго словы развярэдзілі больку? Ён не здагадваўся, як блізка да праўды яго словы. Фані Джанатазіо, маладая красуня, сапраўдны скарб, кахала яго і нават цяпер была гатова безаглядна звязаць свой лёс з лёсам глухога сівага чалавека.

Тут Бетховен убачыў крытыя насілкі, з якіх высунулася нечая рука.

- Абжора-граф! - Бетховен падышоў да насілак, і там разыгралася нешта накшталт трагікамедыі ці пантамімы. - Штосьці з нагамі, абжора-граф?

Пагардліва махнуўшы рукою, той адказаў:

- Перасталі мяне насіць ногі. Адмовіліся служыць, і я, сказаць праўду, адпусціў іх дахаты. Але, - Цмескаль паказаў на вушы, - але затое мой слых стаў больш востры. Няхай гер Людвіг ван Бетховен прыме гэта пад увагу і сцеражэцца! Я крытык прыдзірлівы і няўмольны, да таго ж сабраўся цяпер пракантраляваць, што стварыў маімі гусінымі пёрамі, лепшымі гусінымі пёрамі ў Вене, ды што там у Вене - у Еўропе, мой сябар Бетховен, якім я ганаруся! Бо ці ж ёсць яшчэ на свеце такі кампазітар, як ты?  І прычына ўсяго адна: мае шэдэўры, мае гусіныя пёры.

Шмат якія ложы былі пустыя, у тым ліку і імператарская. А чаго ж ён хацеў? Эрцгерцаг Рудольф цяпер у Ольмюцы, а больш каго чакаць? Прыходзілася шукаць сабе суцяшэння ў тым, што такое мела месца і з другімі. На прэм’еры «Чароўнай флейты» імператарская ложа таксама

ззяла пустатою. Дый ці варта яму сваімі трыма гімнамі з M Issa solemn Is і Дзевятай, у якой абвешчана самае цудоўнае, магічнае слова міру: радасць! - патрабаваць чагосьці лепшага? Усё жыццё ён марыў пра тое, каб гэтымі магутнымі заклінаннямі перамагчы вайну, Напалеона і кожнага схільнага да заваяванняў дыктатара і такім чынам з пасланнем да братэрскай волі чалавечай стаць гаспадаром свету. І справа тут не ў ганарыстасці.

Цяпер яму трэба глядзець добра, бо ўнізе, перад дырыжорскімі падмосткамі, на якіх ён стаяў як марыянетка, якраз аддаваліся апошнія загады. Іх ён, вядома, зразумець не мог. Але яму, марыянетцы, нічога нельга ні прапускаць, ні пакідаць без увагі. А публіка ўсё яшчэ не можа супакоіцца, і гэта выглядае даволі нязвычна, бо ён не чуў грому воплескаў, якія бясспрэчна прызначаліся яму, упартаму чалавеку, што вытрымаў змаганне з цэнзураю і гэтым самым з ненавісным Метэрніхам.

Пра што там яшчэ гаварылі ў аркестры музыканты? Шупанцыг, седзячы за пярэднім пультам першых скрыпак, нешта абмяркоўваў з Умлаўфам, і той нарэшце адступіў назад, стаў перад дырыжорскімі падмосткамі, нябачны для публікі. Можна пачынаць камедыю.

Умлаўф паглядзеў назад і наверх, быццам пытаючыся: «Гатова, гер ван Бетховен?» - «Калі ласка». Умлаўф падняў рукі, крыху развёўшы іх убок. І Бетховен таксама падняў рукі, крыху развёўшы іх убок. Вочы музыкантаў - хор яшчэ сядзеў на сваіх месцах, бо ён не ўдзельнічаў ва уверцюры «Асвячэнне дома» застылі на Умлаўфе.

- Гер ван Бетховен, увага! Пачалі!

Гучала уверцюра. Усё-такі нядрэнны чалавек Умлаўф. Ён, і дырыжыруючы, яшчэ знаходзіў час паглядзець наверх на Бетховена, весела прыжмурыўшы вока. «Усё ідзе выдатна, гер ван Бетховен, павінна ісці выдатна. Бо гэты маленькі фарс мы развучвалі ўжо раней». Бетховен усміхнуўся ў адказ. «Яно так, гэтую камедыю мы рэпеціравалі раней. Але тады яна была другою. Бо калісьці вы ўмешваліся толькі тады, калі ў гэтым была пільная патрэба. Але сёння я наогул не чую нічога, нават і грому літаўраў, і сігналу ражкоў!»

Значыцца, вось яна якая, гэтая уверцюра. Праўда, ёй далёка да уверцюры «Леанора І І І», якая ў свой час выклікала неадабрэнне найзнакаміцейшых «знаўцаў», - як і да уверцюры да «Эгманта». Ці ж яе тады не замоўчвалі? Пра ўсё цяпер і не ўспомніш. Дапраўды. Але галоўнае пачынаецца цяпер. Ён шапнуў уніз:

- Умлаўф, паўтараю: я нічога не маю супраць Расіні, але прапанову салістаў перайначыць сёе-тое ў стылі Расіні адхіляю. Ну і што з таго, што салісты прывыклі да Расіні? Няхай прывыкаюць цяпер да мае Месы. Расіні таксама наўрад ці дазволіў бы, каб яго оперы спявалі ў стылі Бетховена. Зразумела, Умлаўф? І ты мне таксама адказваеш за гэта, Фальстаф!

Шупанцыг супакоіў яго, адабральна махнуўшы смыком. Людвіг пільна сачыў за музыкантамі, і яму хопіць няпэўнага дрыжання і бляску ў позірку, каб зразумець усё. Вядома, салісты спявалі ў стылі Расіні. Яны рабілі гэтак і на рэпетыцыях наверсе ў ягонай кватэры, аднак, спяваючы, яны адварочваліся ўбок.

«Устаньце!» Рукамі Умлаўф падаў хору і салістам знак, які скапіраваў потым Бетховен. Спявачкі і спевакі з шумам падняліся са сваіх крэслаў, каб стаць на сцэне за аркестрам у кола. Бетховен па-сяброўску папрасіў іх кіўком галавы: «Вы ж ведаеце, што музыка мая ідзе ад сэрца. . . і няхай яна зноў знойдзе сабе дарогу да сэрцаў!» Нотныя лісты ў руках у салістаў і харыстаў нерухома застылі. Бетховен ва ўсмешцы паказаў зубы: «Умлаўф, я чакаю!» - і зараз жа зразумеў, што драпежная нецярплівасць не адпавядае яго ўрачыстаму настрою. А можа, і адпавядае? Ён міргнуў, і міргание, як след маланкі, яшчэ раз асвяціла ўсе дэталі яго жыцця, усю краіну, якую ён паспеў абысці дагэтуль. Яго падазравалі ў тым, што ён атэіст, за ім шпіёнілі, як калісьці за Сакратам, якога празвалі блюзнерам. За паўтысячы гадоў да нараджэння Хрыста Сакрату прыйшлося выпіць кубак з атрутаю, бо ён не прызнаваў выдумапых бажкоў і тое, што адчуваў у сабе як бажаство, ставіў вышэй за самога Зеўса Фідыя, гэтае дзіва свету з слановае косці і золата. І яму - гаворачы без дакору - былі занадта цесныя і вартыя ганьбы тыя дамы, дзе перакручвалася і прадавалася чалавечнае. Высакароднае, якому ён служыў, не было таварам - і не было яно легендаю, як бы прыгожа яна ні выглядала. Яно недасягальна высакароднае, недасягальна вялізнае - але якія ж слабыя і гэтыя словы!

Асаі састэнута - вельмі стрымана, з пашанаю. Потым трубы і літаўры! Слухайце маю споведзь - яна пачынаецца з першых літараў майго твора, хоць я іх і не магу чытаць вушамі. Басы і кларнеты! Габоі і флейты! Хор! Прашу, спавядайцеся! «Божа!. . » Гэтак, і яшчэ раз,

фартысіма - а цяпер тройчы фа - фа-фа-фа - спавядайцеся, спавядайцеся! «Божа!. . » Вочы яго здзіўлена, запытальна расшырыліся. Гэты ўскрык я і сам мог бы пачуць, як цень ад дыму! Але цяпер «мі» зноў схавана ад мяне, за бязлітаснаю сцяною, ды нічога. Піянісіма! Не пытайцеся пра мяне, калі ласка, не пытайцеся. Піянісіма. Уласна, а разумееце вы, чаму я хачу навучыць вас? Я хачу навучыць вас сапраўднай пакоры. Хачу паспрабаваць музыкаю зрабіць вас пакорлівымі і добрымі, звярнуцца да таго добрага, што ёсць у вас. Тое, што я напісаў, ідзе ад сэрца, і няхай яно ідзе да вашых сэрцаў. І вы адчуеце, што і ў іх ёсць высакароднае, пачуццё дабраты, якая таксама патрабуе дабраты, чалавечнасці, якая адклікаецца толькі на чалавечнасць - да ўсіх, нават да самых бедных людзей!

Часам мы памыляемся, спатыкаемся - і тады прыходзіцца прасіць прабачэння. «Злітуйся! Ele- I-son!» І я прашу злітавацца нада мною, і не толькі таму, што я рабіў памылкі. Я прашу як літасці: дазвольце ж мне хоць трошкі, але папраўдзе і цераз інструменты, цераз галасы, а не толькі цераз ноты пачуць трошкі болей ад Урачыстае месы, якую я напісаў на ўшанаванне высакароднага, што праходзіць цераз сэрцы і робіць нас добрымі, на ўшанаванне міласэрнасці, дзеля высакароднага, дзеля чалавечнасці - за пяць гадоў працы. А над сімфоніяй, якая абвяшчае самае высакароднае - радасць, радасць усім людзям, я працаваў шэсць з паловаю гадоў. . .

Адно маўчанне? У вушах адно маўчанне? Тады я дам адказ. Умлаўф, мы цяпер іграем «Веру»! Трамбоны. . . фартысіма! Ён нахіліў галаву ўбок. Няўжо яны раптам пачалі іграць. . . зусім бязгучна? Ну, гэта не павінна перашкаджаць. Бас хору: «Веру! Веру!» Тэнар: «Веру! Веру!» І зноў бас хору: «. . . у аднаго бога, у аднаго. . . » Так, веру і я, бо мяне вяла надзейная рука, нягледзячы на ўсё, бо мне дазволілі напісаць гэта, хоць мае вушы і. . .

У партэры сядзіць Цмескаль фон Даманавец. Ён сядзіць у крэсле побач з гофратам фон Бройнінгам. Твар яго крывіцца, але тут жа слёзы замілавання цякуць па даўно ўжо не сібарыцкім, а спаласаваным маршчынамі хваравітым твары.

Ён шэпча:

- Бройнінг, усё. . . мае гусіныя пёры. Бедны Людвіг, ён пэўна ўсяго гэтага зусім, зусім не чуе!

Калі хор стаў нарэшце ўсё больш настойліва паўтараць «Pacem - Pacem - Pacem», «мір - мір - мір», Бетховен закрыў рукамі твар, бо яго пранізала святло, якое памагло яму знайсці ўсё гэта, у тым ліку і грозны ваенны марш, які здалёку загадна заяўляў аб сабе літаўрамі, віяланчэлямі, альтамі, а пазней і скрыпкамі з трубамі, але тым не менш быў пераможаны мірам для людзей. Адкуль і чаму гэтулькі супярэчнасцей? Але ўсе яны растварыліся ў выкрыку: «Dona nob Is pacem - Дай нам мір!» Але хто ж возьме, хто, акрамя саміх людзей, дасць яго?

Сярод слухачоў пайшоў шум. Значыцца, стары Бетховен дырыжыраваў толькі для выгляду, бо і без яго дырыжыравання «гімн» гучаў далей.

Пасля перапынку слугі ў ліўрэях пачалі званіць, запрашаючы публіку вярнуцца на свае месцы. На сцэне зноў з’явіліся хор і музыканты. Гер ван Бетховен выглядаў вельмі ўсхвалявана. Няўжо мелася адбыцца нешта асаблівае? Ён стаяў на дырыжорскіх падмостках, перагортваў лісты тоўстае партытуры і, мабыць, даваў яшчэ ўказанні.

- Умлаўф, вось тут піянісіма! Цемра няхай толькі крыху апусціцца на нас, але панаваць ёй нельга! І скрыпкі няхай гучаць прыглушана, Фальстаф! Сачыце за унісонам, ды і за ражкамі. . .

Але ці ж варта ў апошні момант разжоўваць гэтыя падрабязнасці? Цяпер галоўны лозунг: «Вайна вайне цераз радасць!» Яшчэ ніводзін палкаводзец не даваў такой гіганцкай бітвы на такім мізэрным полі бою, у гэтым не такім ужо і вялікім тэатры, перад усяго толькі некалькімі сотнямі людзей. Замест таго каб рабіць гэта перад усім чалавецтвам. І ўсё-такі. Толькі наступ!. . Стой, яшчэ адно!

- Умлаўф, вы добры капельмайстар, але цяпер дырыжыраваць буду. . . я сам.

Пачалі! Піянісіма. Бетховен згорбіўся. Алегра ма нон тропа, ун пока маэстоза - спачатку крыху ўрачыста. Пазней, у свой час. . . А цяпер месца з унісонам, і. . . іграйце ж, д’яблы! Дзе трубы, дзе літаўры?! Ён змагаўся шалёна, роспачна, тупаў нагою, працягваў рукі, быццам хацеў вырваць у музыкантаў інструменты, каб іграць на іх самому. Ён мусіць змагацца за перамогу і перамагчы, перамагчы дзеля радасці, вяршыні міру!

Музыканты быццам прыраслі да зямлі, боязна пазіралі на яго знізу ўверх. Умлаўф заклінаў іх знакамі: «Сачыце толькі за мною, не бярыце яго пад увагу, ён жа на зусім іншым месцы!» Жахлівая была карціна: гэты нізенькі, але падобны на цыклопа чалавечак па

падмостках, са зблытанымі сівымі, амаль ужо белымі валасамі, гэты вулкан са снегам на вяршыні, які выкідваў глыбы, хоць цяпер, мабыць, трэба было іграць піянісіма, які ўмольваў, каб сыгралі піянісіма, літаральна кленчыў, а ў гэты час літаўры грымелі фартысіма і ўздрыгвала медзь фанфараў і труб! Трэба ж музыканту быць глухім, менавіта музыканту! Барты спагады чалавек! Толькі што ён звяртаўся да чалавечага сэрца, і яно яму адказала. Трэба суцешыць гэтага беднага чалавека.

І таму пасля другой часткі ўспыхнулі моцныя апладысменты, якіх ён аднак не чуў. Чуваць былі крыкі, але ён нічога не чуў. Спявачцы мадэмуазель Унгер прыйшлося падысці і звярнуць яго ўвагу на публіку. Бетховен убачыў чалавечы натоўп, які ўздымаўся, як хвалі. Ён рассеяна і хуценька схіліўся ў паклоне, каб пазбыцца гэтага, і ўжо перагарнуў наступную старонку.

- Далей! Трэцюю частку!

Ад разгубленасці і хвалявання ён паскорыў тэмп і таму скончыў, калі музыканты яшчэ ігралі. Апошняя частка. Хор, уставайце! Салісты! Пачалі. . . прэста!! Хутка будзе тое месца, на якім яму ў галаву прыйшла ідэя з рэчытатывам барытонавага сола. . . калі пры адліванні звона вылятала затычка, і ён зноў выразна бачыў, як напроці ў каваля на другім баку вуліцы свяціўся ў цемры агеньчык расплаўленага металу.

Дзе ж барытонавы рэчытатыў? Нарэшце! Спявак варушыць губамі: «О сябры, не гэтыя гукі! Давайце заспяваем нешта больш прыемнае і радаснае!» Пойдзем у наступ! На праклятую вайну! «Радасць!» А хор?. . «Радасць!» Вось гэтак. А цяпер можна пачынаць песню аб радасці - яго песню радасці.

Радасць, полымя нябёсаў!<br>Райскі дух сышоў на нас. . .

Які шум! Каб жа ён мог хоць чуць яго. . .

Пасля канцэрта Бетховен адчуваў сябе зусім змучаным. Дадому яго правёў Гольц, малады вучань, якому прыйшлося пераконваць Бетховена, што ён пераехаў з Котгасэ на Унгаргасэ. Увесь час Бетховен гаварыў пра майстэрню па адліўцы званоў, якая павінна быць проці яго кватэры і якую ён хацеў знайсці. На Унгаргасэ ён прысланіўся да дзвярэй, каб дачакацца Шындлера, які меўся прынесці з тэатра касавую справаздачу. Нарэшце з'явіўся Шындлер, але ішоў ён неяк цяжка і нерашуча.

- Ну, касавая справаздача якая, Шындлер? Той, матнуўшы галавою, буркнуў:

- Яшчэ не гатова.

Гольц скаранька развітаўся.

Зайшоўшы ў кватэру, запалілі ў падсвечніках свечкі. Зарыпелі, завішчалі спружыны, калі друзлы змарнелы чалавек у крыху ссунутым на карак цыліндры, са стэкам у руках садзіўся на канапу. Шындлер хацеў адцягнуць яго ўвагу.

- Можа, вып'яце келіх віна, маэстра?

На Бетховенавым рудым твары, сплямаваным шэрымі воспінамі, празначылася агіда.

- Маэстра, ужо сам прыём у тэатры. . .

- Калі ласка, напішыце, Шындлер.

Той, напісаўшы, перадаў Бетховену размоўны сшытак.

- Ужо сам прыём у тэатры быў лепшы за імператарскі.

- Гэтак, гэтак, чатыры ці пяць выбухаў апладысментаў, а па прыдворнаму этыкету тры дапускаюцца толькі для імператарскае сям'і. Гэта вынік забароны цэнзураю. Але з імператарскае сям'і не з'явіўся ніхто.

Шындлер напісаў:

- Другая частка сімфоніі адзін раз перапынялася воплескамі, і яе прыйшлося паўтараць! Уся публіка пад уладаю, ашаломлена велічынёю і моцаю вашых твораў.

Бетховен усміхнуўся з горыччу.

- Не гаварыце такіх пошласцей, Шындлер! Велічынёю і моцаю маіх твораў? Майго артыстычнага майстэрства! Публіка, пэўна ж, заўважыла, што я глухі, бо аркестр іграў і без мяне, а маё дырыжыраванне не супадала з ігрою. Усё адна толькі спагада, а што да публікі. . . Велічыня публікі будзе відаць у касавай справаздачы. Не спрабуйце ўвесці мяне ў зман, бо

касавая справаздача ляжыць у вас вунь там у кішэні.

Шындлер задумаўся, не ведаючы, што і казаць, а потым напісаў:

- Маэстра, вы не можаце не бачыць, што топчаце нагамі сваю выгаду, калі надалей астаяцеся ў гэтых сценах, у Вене. Такая акадэмія ў Парыжы або ў Лондане, бясспрэчна, прынесла б ад дванаццаці да пятнаццаці тысяч гульдэнаў.

- А тут колькі выйшла?

Нічога не памагала. З нагруднае кішэні Шындлер дастаў касавую справаздачу.

- Калі ласка: валавы збор - 2200 гульдэнаў, адлічваем ад іх 1780 за найманне тэатра і за аркестр. Астаецца 420 гульдэнаў. Яшчэ роўна сто гульдэнаў пойдуць жанчынам у гардэроб і на другую драбязу. Вам, такім чынам, астаецца прыкладна трыста гульдэнаў звычайнаю манетаю.

Трыста гульдэнаў. . . Творчы чалавек піша, вядома, не дзеля грошай. Але ж толькі трыста гульдэнаў? Пяць гадоў працы над «Урачыстаю месаю», шэсць з паловаю над «Дзевятаю сімфоніяй», і ўсё за трыста гульдэнаў, якімі нават нельга аплаціць выдаткаў за копіі партый для аркестра і хору. . . Божа, злітуйся! Дай нам мір! Веру - веру! Радасць, полымя нябёсаў! Радасць!. .

- Маэстра! Маэстра!

Бетховен, страціўшы прытомнасць, як сноп паваліўся на падлогу.

Рэцэнзія «Венскай агульнай музычнай газеты» часткова была поўная захаплення, часткова нагадвала воблачка, у якім кожны мог знайсці што хацеў. Бетховенавы праціўнікі знаходзілі там расплывістыя месцы, якія можна было зразумець і ў непажаданым для Бетховена сэнсе. Акрамя таго існавала яшчэ і «Лейпцыгская агульная музычная газета», нешта накшталт «Надзвычайнай вышэйшай інстанцыі па справах музыкі». А яна дала адмоўную, знішчальную крытыку-прысуд.

Другую акадэмію, якая была спланавана загадзя, Бетховен назваў вар’яцтвам і тым не менш даў на яе згоду. Ён быў перакананы, што апладысменты на першым канцэрце прызначаліся толькі глухому, трагікамічнаму кампазітару і дырыжору, і спадзяваўся яшчэ, што яму ўдасца выйграць бітву з вайною перад пяццю тысячамі людзей, гэта значыцца, у Вялікай зале рэдута.  І сябры, нават Чэрны з Цмескалем, вагаліся ў сваіх поглядах і настроях. Ці можна назваць шчаслівым вырашэннем апошнюю частку сімфоніі з хорам? Можа, і праўда - а пра гэта гаварылі ўсё часцей і часцей, - што ўсё большая мудрагелістасць яго кампазіцый звязана са стратай слыху?

Два тыдні пазней віселі новыя афішы:

«Вялікая музычная акадэмія гера Людвіга ван Бетховена, у якой возьмуць удзел спевакі паны Давід, Даніцэці і спявачка мадам Дарданелі, адбудзецца апоўдні ў нядзелю дваццаць трэцяга мая 1824 года ў імператарска-каралеўскай Вялікай зале рэдута. Будуць выкананы самыя апошнія музычныя творы гера Людвіга ван Бетховена. Па-першае: вялікая уверцюра. Па-другое: новы тэрцэт гера Людвіга ван Бетховена ў выкананні мадам Дарданелі, паноў Даніцэці і Батычэлі. Па-трэцяе: вялікі гімн у выкананні мадмуазелей Зонтаг і Унгер, паноў Вайцынгера, Зейпельта і ўсяго хору. Па-чацвёртае: арыя D I tant I palp It I ў выкананні гера Давіда. Па-пятае: вялікая сімфонія. . . »

Улетку ён зноў пераехаў у Бадэн; настрой у яго быў нядрэнны. Бо, мусіць такі, існуе мяжа, за якою няўдачы можна разглядаць толькі як нешта камічнае. Восемсот гульдэнаў дэфіцыту за акадэмію, на гэты раз нават дэфіцыту! Але затое ў вянку яго сімфоній - карыстаючыся зваротам з таго прашэння - расквітнела зусім новая кветка! Яго Другую сімфонію празвалі «пачвараю», «Гераічную» палічылі амаральнаю, і «Дзевятай» таксама ўжо знайшлі адпаведную назву: «праславутая сімфонія». Хоць бы гэтая ацэнка «праславутай» не дайшла да Майнца, бо там выдавецтва «Сыны Б. Шота» прапанавала за яе шэсцьсот гульдэнаў, у чатыры разы болей, чым узяў з яго кравец Гёр, нягоднік, за сціплую кватэру ў Пенцынгу. «Урачыстая меса» дала грошай болей, і ён мог дазволіць сабе шэсць разоў ветліва пастукаць у дзверы гера Гёра. Але і тут усё адны тэорыі, бо руку на яго грошах трымаў брат Ёган, пазычальнік.

Чалавек, які з пашанаю схіліўся перад ім у нізкім паклоне, моўчкі падаў пісьмо. Распячатаўшы яго, Бетховен прачытаў:

«Вена, 29 верасня 1824 г.

Глыбокашаноўны Бетховен!

Мая жонка передала мне сёння ваша ласкавае, вельмі прыемнае мне пісьмо, якое вы мелі ласку паслаць яшчэ з Бадэна. Добра разумею вашы словы прабачэння, што вы рэдка бываеце дома. І было б няправільна, калі б вы не падмацоўваліся да сёлетняй зімы гэтулькі часу, колькі яго ў вас ёсць.

Гэтае пісьмо вам перадасць гер Штумпф, цудоўны немец, які ўжо 34 гады жыве ў Лондане і толькі на кароткі час ездзіць адпачываць на бацькаўшчыну. Прычына, па якой ён паехаў у Бадэн, - пабачыць вас, дарагі Бетховен, чалавека, якім ганарыцца Германія».

Бетховенаў твар перасмыкнуўся. Добры Андрэас Штрэйхер! Ён быў ініцыятарам арганізацыі абанементных канцэртаў з твораў Бетховена і выдання яго еўрапейскага збору твораў. Дзе гэта ў Еўропе? У Германіі? Якімі ж сляпымі да рэчаіснасці былі добразычлівыя людзі! А абанементныя канцэрты? Арганізатары абаніравалі б дэфіцыт. Дый са зборам твораў не лепей. Шот ветліва пашкадаваў, што дадаткова не можа прыняць да выдання нават пары квартэтаў. . .

Чалавек, якім ганарылася Германія! Дарагі Штрэйхер, ім не быў ні Бах ні Моцарт, якога пахавалі як паршывага сабаку. А з Бахаваю ўдавою што? Колькі гадоў яна тулілася ў багадзельні і памерла там у галечы!

Ён чытаў далей:

«Прыміце яго па-сяброўску добразычліва, як і належыць рабіць святому, да якога здалёк прыходзіць набожны падарожнік.

Сёння я гаварыў з Чэрны. Ён ахвотна возьмецца перакладаць сімфонію на дзве і чатыры рукі і просіць вас толькі паслаць яму партытуру. З Месаю гэта зробіць гер Лахнер.

Няхай вам бог дае здароўя, каб вас мог хутка пабачыць

ваш А. Штрэйхер».

Бетховен палажыў пісьмо на стол. Ён бачыў, з якою бояззю чакаў адказу гер Штумпф, на выгляд, мабыць, на некалькі гадоў старэйшы за яго самога. У пісьме Штрэйхер напісаў яму праўду. Значыцца, перад ім стаіць амаль нерэальная істота, сапраўдны паклоннік яго мастацтва, якіх было ўсяго некалькі чалавек. І гер Штумпф прыехаў з Лондана, з горада, у якім думкамі ён сам бываў ужо не раз, лічачы яго сваім прытулкам або сховішчам. Ён працягнуў яму абедзве рукі.

- Са шчаслівым прыездам! - Потым. . . чым бы сустрэць такога рэдкага і мілага госця? Вядома, маленькаю пляшачкаю! Дастаў яе і два келіхі. - За здароўе, гер Штумпф!

Той гаварыў паволі, падкрэсліваючы кожнае слова - так параіў яму гер Штрэйхер.

- За здароўе самага вялікага кампазітара сучаснасці.

- Што вы сказалі? - Бетховен папярхнуўся і прылажыў да вуха руку. Ён па губах зразумеў сэнс, але неверагоднае хочацца пачуць яшчэ раз, і ён чакаў. У яго вачах свяцілася дзіцячая радасць. - Што вы сказалі?

- За здароўе самага вялікага кампазітара сучаснасці.

- Дзякуй, дзякуй, мой даражэнькі. Давайце лепей уладкуемся тут як найдабрэй. Сядайце, гер Штумпф, сядайце, а я яшчэ. . . - Ён прынёс паперу і алоўкі. - Без гэтага нам не абысціся. Вы, бясспрэчна, захочаце сяго-таго папытацца, і гэта вы павінны напісаць мне. Штрэйхер, відаць, расказаў вам, што і як. Калі ласка, не глядзіце на бакі. Гэта. . . мая мэбля, з якою я пераязджаю з месца на месца, але пахваліцца ёю нельга.

Штумпф напісаў:

- Я глыбока ўзрушаны, што знаходжуся сярод мэблі, якая была з вамі, калі ствараліся гэтыя гіганцкія музычныя творы.

Бетховен адчуў сябе няёмка.

- Даражэнькі, даражэнькі, вы ж прыйшлі з другой планеты! «Гіганцкія творы і самы вялікі кампазітар сучаснасці»! Як вы можаце меркаваць па маёй кватэры, я тут сціплы, у вышэйшай ступені сціплы, нязначны чалавечак, і цяпер, мабыць, зноў забыты. Бо хто ў Вене выконвае мае сімфоніі, калі не лічыць той няўдалай спробы з «Дзевятаю» яшчэ ў маі? Каму патрэбен мой «Фідэліо»? Між іншым, а ці ведаеце вы, што я таксама пісаў і нават напісаў вялікае мноства фартэпіянных санат?

- Хто ж не ведае вашых фартэпіянных санат, гэтых шэдэўраў. . .

- Тут у Вене іх забылі канчаткова. Вы таксама музыкант?

Штумпф напісаў:

- У мяне майстэрня. Я раблю арфы, я сам з Рулы ў Цюрынгскім лесе.

Бетховен, нахіліўшы галаву з сівымі, заўсёды зблытаны-мі валасамі, нецярпліва сачыў, як узнікаюць словы.

- У вас майстэрня па вырабу арфаў? І завуць вас Штумпф? А ці не сваяк вы Штумпфам з Бона? Яны былі, а можа, і цяпер яшчэ прыдворныя музыканты. А адзін з Штумпфаў у мае хлапечыя гады нават быў першым вялікім аматарам маіх кампазіцый. Ён, мусіць, ужо даўно памёр.

Рука гера Штумпфа дрыжала, выводзячы:

- І вось цяпер да вас зноў з глыбокаю пашанаю прыйшоў адзін з Штумпфаў і проста не знаходзіць слоў падзякі, што геній так цёпла прымае яго.

- Геній? Асцярожна! Гэтым словам часта злоўжываюць, а так званыя «геніі» большаю часткаю - прынамсі, для мяне - гэта гора-музыканты. - Раптам Бетховену прыйшла ў галаву новая думка. - Але вам нельга параўноўваць сябе з маім бонскім сябрам Штумпфам. Ён хоць і быў калісьці скрыпачом прыдворнае капэлы, але яму заўсёды не хапала «правільнай аплікатуры», як тады гаварылі. А цяпер вось так гавораць пра мяне. Ну, а потым Штумпфа зваліла хвароба, і калі ён крыху ачомаўся, то быў часткова паралізаваны, дый з галавою ў яго стала не ўсё ў парадку. І ўсё ж ён мне падабаўся, быў заўсёды маім верным добрым сябрам.

Падумаўшы крыху, Штумпф напісаў:

- Можна задаць вам некалькі пытанняў? Каго вы лі-чыце самым вялікім кампазітарам усіх часоў?

- Гендэля. Перад ім я засёды гатовы стаць на калені.

- А Моцарта?

- Гэта геній сонца. У мяне з ім няма такое блізкасці, як з Гендэлем, калі ўжо з майго боку не надта фанабэрыста гаварыць так.

- А што вы думаеце пра Ёгана Себасцьяна Баха?

- Я заўсёды ставіўся да яго з пашанаю. Яму трэба звацца не Бах (Ручаёк (ням. )), а «Мора»! Але хто яшчэ ведае яго сёння?

- Пра яго зноў калі-небудзь успомняць.

- Дай божа. Хацеў бы я як след пазнаёміцца з творамі гэтага гіганта, але ж усё неяк бракуе часу.

- Вы, сам недасягальны аўтарытэт у музыцы, гэтак высока ставіце Гендэля?

- У параўнанні з ім я нішто.

- У вас шмат яго твораў?

Бетховен абвёў вачыма небагатую абстаноўку пакоя, як бы шукаючы адказу.

Адкуль яны ў мяне, беднага чалавека? Ну, партытура яго «Свята Аляксандра» і «Месіі», прынамсі, раз пабывалі ў маіх руках. Помніцца яшчэ, што я бачыў і іграў некалькі фартэпіянных сюіт і фуг. Пра што вы цяпер думаеце? - Позірк Штумпфа быў задумлівы: ён у гэты час даваў сабе абяцанне прыслаць Бетховену ў падарунак выданне твораў Гендэля. Бетховен гаварыў далей: - Гендэль! А хто падняў яго на месца, якое яму належыць? Англічане! Вось гэта народ! - Штумпф пацісну́ў плячыма, і не таму, што выказваў пагарду да нацыі, сярод якой гасцяваў амаль увесь свой век, а каб паказаць, што і там, як і ўсюды, ёсць свае «венцы». Але Бетховен не хацеў з гэтым лічыцца. - Я, мабыць, зрабіў бы лепш, паехаўшы ў Англію. Цяпер мне ехаць надта позна, і ўсё-такі Англія! Бачыце, гер Томас Бродвуд з лонданскай фірмы Джон Бродвуд прыслаў мне вось гэты дарагі раяль. Нядаўна я на ім напісаў ронда соль мажор, якому нехта даў дзіўнаватую назву, бо і сам твор дзіўнаваты: «Гнеў на стра-чаны грош, які выліўся ў капрычыо». Ведаеце, гер Штумпф, усё жыццё - не што іншае, як гнеў на страчаны грош. Яго з адчаем шукаюць ва ўсіх шуфлядках, нават запаўзаюць над ложкі і шафы. І калі не знаходзяць яго - шалеюць, а потым смяюцца з сябе.

- Гер ван Бетховен, можа, для паўнаты ласкавага прыёму вы сыграеце мне свой твор?

Бетховен хітра прыжмурыў вочы.

- Ахвотна. Я толькі баюся, што гэта не дасць вам аса-лоды. - Ён падаўся ў суседні пакой. Века раяля было пад-нята. У дысканце не хапала струн, другія былі нарваны і скруціліся, як бліскучыя змеі. Ён нацягнуў пару струн, а потым адпусціў іх, - Усё зза «Дзевятай сімфоніі», зза хору «Да радасці». Уласна, гэта адзіны радасны сюрпрыз, які даравала мне «Радасць».

У пакой увайшоў чалавек у баваўняных пальчатках з даўжэзнымі пальцамі, у вопратцы,

якая не вельмі пасавала да нязграбнай фігуры з іранічнаю ўсмешкаю на губах.

- Гер Штумпф, дазвольце пазнаёміць вас. Мой брат Ёган, гаспадар маёнтка ў Гнейксендорфе. Прынамсі, адзіны чалавек з нашае сям'і, які нечага дамогся ў жыцці. Ёган, гэта гер Штумпф з Лондана, фабрыкант арфаў.

Маленькі жарт зрабіў Ёганаву міну яшчэ больш агіднаю, і Бетховен занепакоіўся.

- Гер Штумпф, дазвольце папрасіць вас зайсці да мяне калінебудзь другім разам. Ён праводзіў госця да дзвярэй і, развітваючыся, шапнуў яму: Гаворка цяпер будзе не такая прыемная, як з вамі. Гер Штумпф, трэба каб вы прыйшлі да мяне яшчэ раз, або, у голасе пачулася сяброўская пагроза, я прыеду да вас у Лондан. А калі мне не ўдасца папасці туды вітайце Лондан і ўсіх. . .

І вось радасць! На сёмуху 1825 года на музычным свяце ў Годэсбергу выконвалася яго сімфонія радасці. Арганізаваў усё, прапанаваў выканаць яе Фердынанд Рыс, якога выклікалі з Лондана. Бетховен падзякаваў яму, бо ён, Бетховен, мусіць вось так «выкарасквацца з гора з дапамогаю сваіх твораў». Непрыемна, што сімфонію скасавалі да непазнавальнасці. І тым не менш пасля гэтага яшчэ казалі, што музыка вельмі цяжкая. Вельмі цяжкая? Але ён і так увесь час спрашчаў яе, адпаведна свайму дэвізу: «Прасцей! Яшчэ прасцей!» Бо іначай існавала толькі адна магчымасць. . . Ён глухі, і яго свет не трывожылі ніякія падманлівыя шумы. Няўжо ён толькі цяпер чуў музыку, якая. . . і была сапраўднаю музыкаю?

Калі ён напісаў квартэт мібемоль, а музыканты над кіраўніцтвам Шупанцыга выканалі яго, то квартэт праваліўся. Тады Шупанцыга замяніў Бём, а за другі пульт сеў Карл Гольц, Бетховенаў малады вучань. Апладысменты былі цяпер мацнейшыя. Тры квартэты заказаў князь Галіцын з Пецярбурга. Ну, ён пашле яму пяць. А можа, тым часам напісаць яшчэ і уверцюру, грандыёзная тэма якой прыйшла яму ў галаву, мабыць, дзякуючы размове з Штумпфам: B A C H ? Хвароба выдумала цяпер новы варыянт ён пачаў харкаць крывёю, вымусіла яго на нейкі час адкласці задуманае. Стан яго, праўда, палепшаў, хоць гэтаму і нельга было надта верыць, але тым не менш павольнай частцы квартэта ля мінор ён даў асобы загаловак: «Свяшчэнная песняпадзяка богу, каб ачуняць».

Квартэт быў выкананы ўвосень 1825 года перад сябрамі, і Бетховен запрасіў іх у пратэрскую гасцініцу «Да Бетховена». Праўду кажучы, гасцініца звалася «Да дзікуна», але гэта ў прынцыпе тое ж самае, толькі. . . дзікун паводзіў сябе значна мякчэй.

Першы публічны паказ меўся адбыцца пазней у гасцініцы «Да чырвонага вожыка». Бетховен сярод слухачоў быў адзіным чалавекам, які толькі глядзеў. Ігралі, здаецца, добра, можна сказаць, выдатна, і ўсё ж Бетховен раптам. . . дастаў сваю запісную кніжку і штосьці старанна пачаў натаваць. Няхай сабе іграюць! А яму прыйшла ў галаву ідэя! Для квартэта сібемоль мажор! Дакладней для апошняй часткі, для фугі!

Зноў увайшоў Карл Гольц, нешта насвістваючы. 'Апошнім часам ён усё болей рабіўся як бы членам сям'і, выклікаючы рэўнасць у Шындлера. Як сцвярджаў Гольц, на службе рабіць яму няма чаго. Бетховену ён напісаў:

«Я выбраў прафесію высокага дзяржаўнага чыноўніка, гэта значыцца, што цяпер я яшчэ сяджу пад самаю нізкаю ступенькаю лесвіцы славы, якая вядзе да касавага афіцэра. Я касавы салдат. Зарабляю ўсяго 700 гульдэнаў у год і таму працую на матку дзяржаву, якая так дрэнна корміць мяне, таксама самае большае адну гадзіну ў дзень. Калі я не рыхтуюся да квартэта Шупанцыга, то мне, каб падбадзёрыць дух, патрэбен цікавы занятак, а ў нашага шаноўнага маэстра Бетховена цікавей, як у любым тэатры».

Бетховену Гольц падабаўся, і таму, зморшчыўшы лоб, ён уважліва прачытаў доўгае красамоўства вучня і сказаў:

Я, ведаю, неблагі рэстаранчык, і ў ім ёсць добрае віно.

Гольц схіліўся ў паклоне:

- Пашана да вас забараняе мне пярэчыць нават у гэтым другарадным, хоць і не нязначным. пытанні.

- Гольц, я хачу даверыць вам тайну. Вы можаце маўчаць?

- За семсот гульдэнаў я ўжо даў адпаведную прысягу.

- Кіньце фокуснічаць. Я хачу паказаць вам, дзе схаваны акцыі, якія пасля мае смерці

астануцца пляменніку Карлу.

Гольц буркнуў:

- Гэтаму бадзягу, які не вытрымаў экзаменаў за семестр! Якому цяпер хочацца стаць гандляром і наведваць ну а як жа іначай? самую лепшую гандлёвую школу ў Вене. Даваць грошы на гэтага бадзягу, значыцца, выкідваць іх на вецер. Але прамармытаў гэта Гольц, адвярнуўшы твар убок.

Пазней трэба было занесці пісьмо Гаслінгеру, які жыў на Патэрностэргасэ, і нарэшце Бетховен мог працаваць далей над сваёю фугаю. Над фугаю, яно так, але што рабіць з уверцюраю? У ёй жа можна паказаць вобразы тэм.

Ён пачаў крэмзаць ноты. Піянісіма ўжо ёсць, ёсць і контртэма, магутная па гучанні. А цяпер альт з галоўнаю тэмаю. А ці вытрываюць інструменты?. . А які яму клопат да таго, вытрываюць яны ці не вытрываюць? Першая скрыпка фа, фа! Альт фа, фа, фа, а вось сфарцата. Чатырохгалосную падвойную фугу можна лічыць гатоваю.

Надакучлівага смуроду стала нельга цярпець. На стале перад ім талерка, відаць, абед, яечкі ў гарчычнай падліве.  І яечкі, ведама, пратухлыя. Гэтая старая карга, «фраў Шнапс», гэты «імклівы фрэгат пад парусамі» з фігурным упрыгажэннем на носе, якое заўсёды перакошана з’едліваю ўсмешкаю! Яна больш не чуе ні паху, ні смаку. Колькі ўжо папамучылі яго бабы, і гэтая служанка таксама! Варта толькі ўспомніць, што было! Яны кралі як сарокі, і яму аднаго разу нават прыйшлося паставіць перад дзвярыма кладоўкі ложак, каб, як Цэрберу, вартаваць свае прыпасы.

Ён убачыў, што ў пакой зайшоў Гольц, але не звярнуў на гэта ўвагі. Адчыніўшы акно, ён пачаў шпурляць на вуліцу яечка за яечкам. Павярнуўшыся тварам да кухні, закрычаў:

- Я вас цяпер праганяю. Забараняю заходзіць на маю кватэру. Доктар кажа, што мне патрэбна дыета, а вы мяне труціце!

На парозе паказалася «фраў Шнапс». Бетховен усё бушаваў:

- Вы - старая ведзьма! Вы мне не верыце! Вось тут, я толькі што напісаў пра гэта брату. - Знайшоўшы патрэбнае месца, ён паказаў на яго дрыготкім пальцам і ўголас прачытаў: - «Я больш не магу цярпець гэтай старой ведзьмы, якую дзвесце гадоў таму назад пэўна спалілі б на агні!» А цяпер прэч адсюль! Вярнуўшыся дадому, я больш не хачу бачыць вас тут! - Ён узяў капялюш. - Гольц, мы пойдзем у гасцініцу. Што з вамі? - Гольц стаяў з боку ад акна і да чагосьці прыслухоўваўся. З вуліцы далятала шалёная лаянка. Можа, пайшлі па паліцыю? Унізе стала спакайней, і тады Гольц кіўнуў галавою: можна ісці.

Бетховен уздыхнуў.

-  І вось гэта - фуга сі-бемоль, адзін з маіх лепшых твораў! Прынамсі, у цябе ёсць мілая нявеста, і ты хутка ажэ-нішся. Што такое мужчына без жанчыны? Калека, ён. . . няма слоў, каб выказаць, што ён такое.

Яму ўжо не раз прыходзіла ў галаву думка, што няблага б жыць у доме чорных іспанцаў, і таму ён абрадаваўся і рас-хваляваўся, калі аднаго разу ў пакой віхрам уляцеў Гольц. Крысы яго сурдута развяваліся. Не знімаючы капелюша, ён напісаў:

- Я па службовых справах быў у доме чорных іспанцаў. . . Можаце пераязджаць на кватэру. . . аднак там трэба будзе зрабіць вялікі рамонт.

Бетховен адказаў:

- Я згодзен. Вы не зробіце мне ласкі, дарагі Гольц? Збе-гайце яшчэ раз туды і найміце мне кватэру.

Гольц перавёў дыханне і напісаў:

«У мяне з душы зваліўся славуты сізіфаў камень. Кватэру я ўжо наняў на ваша імя, бо свае лапы на яе паспрабаваў палажыць яшчэ адзін зацікаўлены канкурэнт. Усё вырашалася мінутамі, але ж у судовага выканаўцы ёсць вопыт, як брацца за такую справу».

Бетховен засмяяўся.

- Колькі кватэр мне яшчэ прыйдзецца памяняць? Дрэнная спадчына асталася мне ад бацькі. А сапраўдны спакой прыйдзе да мяне толькі на апошняй кватэры. Але давайце зараз пойдзем паглядзім. Калі я магу туды пераехаць?

- Можаце выбіраць любы дзень з дваццаць дзевятага верасня па дванаццатае кастрычніка.

- Вы выдатна зрабілі і, відаць, будзеце ўсё-такі яшчэ лепшым судовым выканаўцам, чым скрыпачом.

Дом чорных іспанцаў знаходзіўся каля Альзерфорштэц-кага гласіса, куды такім чынам адразу ж можна ісці гуляць. Незвычайнай назве дом абавязаны быў будаўнікам, іспанскім манахам-бенедыктынцам у чорным адзенні. Будынак гэты быў даволі вялікі, выцягнуты ў даўжыню. З аднаго боку да яго прымыкала царква. Манахі даўно памерлі, і царква слу-жыла цяпер складам мукі, збожжа і бакалейных тавараў. Фасадам будынак выходзіў на поўдзень. Бетховен падышоў да акна гэтае кватэры на трэцім паверсе, куды ён збіраўся пераехаць. Быў поўдзень, і ён паглядзеў у той бок, дзе было сонца. Яму адкрыўся від, які літаральна вабіў, прыводзіўу захапленне: вялікая вольная плошча перад домам, гласіс, дрэвы якога ўбраліся ў чырвань, далей цэнтр горада з бас-тыёнамі і вежамі, злева напроці - Леапольдштат, дрэвы Пратэра і Брыгітэнаў, імператарскія стайні, прыгарад Марыягільфе і ўсё астатняе. Толькі з правага боку вольная плошча канчалася такім жа, як і ў яго, доўгім «Чырвоным домам». І адтуль з акна раптам нехта замахаў рукою. Гольц звярнуў на гэта ўвагу Бетховена, і той паднёс да блізарукіх вачэй двайны ларнет.

- Гэта ж гузічак! Цяпер я ўспомніў: у «Чырвоным доме» жывуць Бройнінгі.

І тут цераз плошчу як віхор пранёсся Арыэль. Неўзабаве ён ужо стаяў побач з Бетховенам.

- Што ты тут робіш, дзядзечка Людвіг? Той незадаволена зірнуў на хлопчыка.

- Ты нават не папытаўся, можна табе ўвайсці ці не. Гэта ж мая кватэра.

Герхарт учапіўся за яго руку і пацягнуў за сабою.

- Бачыш, вунь тата! Ён таксама ўбачыў, што ты тут. Гофкрыгсрат фон Бройнінг стаяў каля акна, стройны; высакарослы. Пазалочаныя абшлагі яго уніформы блішчалі. Ён усміхнуўся і махнуў рукою:

- Зараз жа прыходзь да нас, Людвіг.

- Тата ў парадным адзенні, гузічак? Што за свята сёння?

Герхарт пагардліва махнуў рукою і павярнуўся, каб Бетховен прачытаў яго адказ па губах.

- Адкуль я ведаю? Сёння дзень нараджэння або смерці нейкага даўняга аўстрыйскага імператара. ‘ Але цяпер тата ў парадным адзенні з-за цябе, дзядзечка Людвіг. Ну, хадзем жа! У нас сёння рыба!

Бетховен уздыхнуў:

- Ах ты, маленькі нягоднік! Цяпер ты ловіш мяне, маленькага чарвячка, на кручок маёю ўлюбёнаю страваю.  І я не магу ўстаяць. - Ён павярнуўся да Гольца. - Прабачце мне! Умяшаліся вышэйшыя сілы: рыба! Будзьце ласкавы і запішыце, што тут трэба зрабіць рамеснікам. Я ў гэтым нічагусенькі не разбіраюся.

Гофрат ужо чакаў каля дзвярэй дома і загаварыў з ім паволі, ківаючы галавою, бо сябар вельмі добра пазнаў, што гавораць яго губы:

- Ах ты, стары дурань! Нарэшце такі знайшоў к нам дарогу?

Бетховен кіўнуў:

- Мабыць, я папраўдзе быў дурань! Давай яшчэ раз за-будзем усё.

Паміж імі з-за Карла існавала пэўная адчужанасць і напружанасць. Бетховен разлічваў, што Бройнінг будзе адным з апекуноў, але той адмовіўся.

- Ты перабіраешся ў дом чорных іспанцаў, Людвіг? Пад бок да нас? Гэта самая лепшая думка, якая прыйшла табе ў галаву за апошнія гады.

Бройнінг павярнуўся назад. Прыйшла жонка.

- Паглядзі на гэтага блуднага сына. Ты яшчэ збіраешся падаваць яму руку, Канстанцыя?

- Абедзве рукі!

Давялосяяшчэ трохі папоркацца, але кватэра ўсё-такі была нарэшце прыведзена ў належны стан. Яна складалася з трох пакояў і кухні. Заходзячы ў кватэру, госць адразу бачыў напісаны алеем партрэт дзядулі Бетховена, курфюрставага прыдворнага капельмейстэра Людвіга ван Бетховена, які ўнук загадаў прыслаць сабе. Толькі тут, на светлым ганаровым месцы ён зрабіўся тым, чым быў калісьці. Партрэт зноў ажыў, зім можна было размаўляць, як у дзяцінстве. У спальні вісеў яго ўласны партрэт, напісаны Мелерам, і там жа вялікімі стусамі ляжалі ноты. У трэцім пакоі стаялі раялі: адзін - падарунак Бродвуда, другі – пазычаны ў Графа, а паміжвокнамі – кніжная паліца. Як гаспадар ён з гонарам паказваў аднойчы Стэфану фон Бройнінгу сваё жыллё. Гофкрыгсрат, агледзеўшыся ў пакоі, сказаў:

- Я не ведаю чаму, але нешта мне нагадвае вашу бонскую кватэру.

Пэўна ж, бонскую. Калі я расстаўляў усё гэта, я думаў пра Бон. Няма ў мяне толькі прыгожай дзядулевай мэблі. Беднае маё жытло! Стэфан, можа, твая жонка ласкава згодзіцца панаглядаць за маёю гаспадаркаю?

- Чаму ж не.

- І мы зноў будзем хадзіць адзін да аднаго, як у Боне. Твой швагер Франц Вегелер і твая сястра Леанора нядаўна прыслалі мне пісьмо. Ведаеш, у мяне такое адчуванне, што кола майго жыцця як бы завяршаецца, бо зноў варочаюцца маладосць, дзяцінства.

Бройнінг прыжмурыў вочы. Штосьці ў выглядзе сябра непакоіла яго. Ён павысіў голас:

- Кола, гаворыш, завяршаецца? А як жа з тваёю дзесятаю сімфоніяю?

- Трэба пісаць, але, ведаеш. . . сёе-тое ў жыцці паўтараецца. Ты ж, мабыць, помніш яшчэ, што крычалі мне ўслед бонскія хлапчукі? «Спаніёль» крычалі яны і «рабы». А нядаўна, калі я выйшаў з дому, яны намалявалі на тратуары мой партрэт. Яны ведаюць: я не чую, што яны крычаць мне ўслед. І таму сталі цяпер каляроваю крэйдаю маляваць, смяяцца з мяне, як дзеці, сваімі малюнкамі. Пад капелюшом намалявалі мой руды твар, а на ім нават сляды воспін. Ну, гэта дзеці, і я не крыўджуся на іх. . .

- Але Герхарт крыўдзіцца.

- Так, Арыэль з-за мяне б’ецца з імі, але. . . у Боне я быў яшчэ ніхто, а тут я зноў ніхто.

- Над чым ты цяпер працуеш, Людвіг?

- Над квартэтамі для Галіцына і над вялікаю фугаю - усё яшчэ, усё яшчэ. Між іншым, Галіцын таксама, мабыць, адзін з гэтых княжацкіх нягоднікаў, і, каб раскусіць яго, патрэбен быў пэўны час. Ён перш арганізаваў у Пецярбургу выкананне «Урачыстай месы», а потым напісаў: «Ваш геній, відаць, з’явіўся на стагоддзі раней, і сёння, мусіць, няма ніводнага слухача, які падрыхтаваны настолькі, каб атрымаць ад прыгажосці вашае музыкі поўную асалоду. Але нашчадкі з глыбокаю пашанаю схіляцца перад вамі і ўшануюць вашу памяць лепей, чым на гэта здольны сучаснікі».

- Добра, і таму?. .

- Ніякага таму, бо прароцтва княжацкага нягодніка мае на мэце другое. Мёд, якім ён падсалоджвае свае словы, менавіта танней, чым грошы, якія ён мог бы даць мне хоць за адзін з пасланых яму квартэтаў. Я пераканапы, што ён мне за іх не заплаціць ні капейкі.

- І чаму ж ты тады не перастанеш пісаць для Галіцына?

- Я пішу не для Галіцына, хай бы ён быў і самім імператарам! Між іншым, ты ведаеш, што думае пра мае квартэты Шындлер, усётакі адзін з маіх самых верных прыхільнікаў? Цытую: «Значнае месца адводзіцца рэфлексіі, і яна амаль цалкам валодае мастаком, які дагэтуль заўсёды тварыў галавою. Пазней арыфметыка прыкметна ўзяла ўладу над маэстрам, дый меркантыльныя меркаванні моцна трымаюць яго душу». - Бетховен скрывіў твар. - Меркантыльныя меркаванні - грашыма, заробленымі квартэтамі ў кафэ, хоць і ў самым фешэнебельным кафэ Пратэра, дзе мая матэматыка-музыка ўвесь час можа змешвацца з пахам шакаладу, тортаў, кавы і ванілі. Венцы маюць рацыю, калі, насміхаючыся, гавораць: «Бетховен і яго так званыя канцэрты, якія ён дае цяпер толькі ў арэхавай шкарлупіне».

Няўжо тым часам прайшла вясна? Па календары канчаецца нават ліпень 1826 года. Бетховену нельга марудзіць, трэба хоць цяпер, прынамсі, на некалькі тыдняў, паехаць у свой любы Бадэп.

Фраў Канстанцыя загадала падаць вячэру. Яшчэ раз надавал! рыбу. Бетховен круціў у руцэ ножку келіха і казаў:

- Гэты ёлупень з «Лейпцыгскай агульнай музычнай газеты» зрабіў усё, на што меў сілы. Першую, трэцюю і пятую часткі квартэта назваў «змрочнымі і містычнымі», «часам вычварнымі, рэзкімі і капрызнымі», а пра другую і чацвёртую часткі дадумаўся сказаць, што яны «дураслівыя і гарэзлівыя». - Засмяяўшыся, ён паказаў усё яшчэ здаровыя свае зубы. - «Які прысуд!» гаворыцца ў «Гамлеце». Які прысуд, фраў Канстанцыя! Я дураслівы ці капрызны?

Бройнінг ляпнуў сябра рукою па плячы:

- Перастань расказваць дрэнныя жарты, Людвіг. Мая дарагая Канстанцыя траха не ўпусціла на падлогу талеркі з мейсенскага фарфору.

Бетховен задумліва кіўнуў галавою.

- Вядома, людзі пісаць павінны, гэта іхні хлеб, і ім трэба разумець музыку, мастацтва

лепей, чым нам, хто яе толькі робіць. Іначай не былі б яны добрымі спецыялістамі. Апошнюю частку, маю фугу яны назвалі такою ж «незразумелаю, як кітайская мова».

- Але рэцэнзент табе знайшоў і добрыя словы.

- Пэўна. «Можа, прыйдзе яшчэ час, калі тое, што на першы погляд здаецца змрочным і блытаным, пазнаецца потым у ясных і прыемных формах?» Ведаеш, Стэфан, гэта нагадвае мне казані папоў, якія суцяшаюць небам, хоць адтуль яшчэ ніхто не прыносіў ніякіх вестак.

Бройнінг кіўнуў галавою.

- Людвіг, твая фуга. . . павінен сказаць табе, як сябар. . .

- Згодзен з табою, Стэфан. Толькі вінавата не фуга. Я вельмі многа хацеў ад інструментаў і. . .

Маленькая Марыя пранізліва закрычала, і фраў Канстанцыя ўздрыгнула. Потым пачала сварыцца на Герхарта:

- Які ты дурны! Увесь час адно наўме: пазлаваць і напалохаць сястрычку!

«Гузічак» прычапіў да тонкай ніткі лялечную мышку і працягнуў яе па дыване. Бетховен падміргнуў, быццам сустрэўся з чымсьці, чаго не разумеў да канца. Потым вочы яго расшырыліся, заблішчалі, і ён доўга смяяўся.

- Марыя! Гузічак! Ідзіце да мяне. - Ён абняў Герхарта праваю, а Марыю леваю рукою. - Удалы атрымаўся жарт, гузічак, але зразумей і ты мяне правільна, Марыя. Ты вельмі спалохалася, мілая? Я вам нешта дам, кожнаму па гульдэну ў вашы скарбонкі. - І дастаў з кішэні грошы. - Марыя, вось табе грошы за тое, што ты спалохалася, а табе, Арыэль, за. . . ну, каб ты мог карміць мышку. Дзеткі, ведаеце, што здарылася са мною, калі вы давалі свой «наказ»? Я ж зусім глухі. Але твой спалоханы крык, мілая, я ўсё-такі пачуў. І гэтым вы прынеслі мне вялікую радасць. Але твой крык, Марыя, быў для майго слыху, як кажуць, апошнім сонечным промнем, і цяпер зноў настала ноч.

Кухарка прынесла міску з накрыўкаю. Бройнінг палажыў на яе руку.

- Якая там рыба? Адгадай, Людвіг!

Той прынюхаўся да тонкага струменьчыка пары, што прабівалася наверх з-пад накрыўкі.

- Што ж там такое можа быць? Некалькі лядашчых верхаводак? Ці. . . мо нават карпаў?

- Людвіг, я здзіўлены. Калі ты пісаў свае сімфоніі - ці што ты там яшчэ крэмзаў, - то ты заўсёды імкнуўся аж да зорак на небе.

- Каб вас чорт узяў, няўжо ёсць рыба лепшая за?. .

- А што ты скажаш пра дунайскага ласося?

- Навошта ты так крычыш, Стэфан? Гэтае слова я разумею, нават калі б яго толькі прапішчала гузічкава мышка.

У пакой зноў зазірнула кухарка, і яе твар. . .

- Што-небудзь здарылася?

- Здаецца, здарылася, гер гофрат.

Стэфан фон Бройнінг устаў і як мага больш непрыкметна выйшаў за дзверы. Тым часам Герхарт жартаўліва спрачаўся з Бетховенам за лепшыя кавалкі. Вярнуўшыся, Бройнінг стаў за спінаю ў сябра. Бездапаможна правёўшы рукою па лбе, ён галавою паказаў на Бетховена.

- Божа мой, Канстанцыя! І вы, дзеці, зрабіце так, каб ён нічога не заўважыў. Здарылася нешта дрэннае, з Карлам. . . - Бройнінг застагнаў, пачаў пісаць штосьці на паперы, і Канстанцыя чытала, што ён пісаў: «Людвіг, у калідоры чакае Гольц. . . Табе зараз жа трэба ісці да братавай. Там Карл. Не палохайся. Карл жывы, але ён паспрабаваў пакончыць з сабою. Пісталет. . . » - Ён абняў сябра і падсунуў яму паперку. Бетховен прачытаў. Твар яго пашарэў.

- Ён памрэ?

Бройнінг паціснуў плячыма.

- Пра гэта Гольц нічога не сказаў. Бетховен устаў.

- Вялікі дзякуй, фраў Канстанцыя. І вам, дзеткі, таксама. - Прыгладзіўшы рукою валасы, ён выйшаў з пакоя.

Канстанцыя званком пазвала служанку, каб тая прыбрала са стала.

- Ешце на кухні. Не дурэйце надта, чуеце? - Калі дарослыя асталіся адны, фраў Канстанцыя папыталася: - Як жа гэта ўсё здарылася?

- Мяркуючы па тым, што ведаў Гольц, было яно так: некалькі дзён таму назад Карл купіў дубальтовы пісталет і паехаў з ім да руін замка Раўэнштэйн у Гелененталь каля Бадэна. Першы

стрэл прайшоў міма, другім ён трапіў сабе ў скронь, але, відаць, толькі ў косць. Нейкі селянін знайшоў і адвёз Карла па яго просьбе да мацеры. Прычынаю ўсяго Карл называе «палон» у Людвіга. Ён аж выходзіў з сябе, крычаў: « І не думайце нават дазволіць «старому вар'яту» прыйсці да мяне!» «Старому вар'яту»! Колькі непрыемнасцей нарабіў нашаму Людвігу гэты няўдзячны чалавек! Перш бясконцая чарада агідных працэсаў за апякунства над гэтым у вышэйшай ступені пустым тыпам, які нідзе не зрабіў нічога добрага. Усяго пару дзён таму назад Людвіг расказваў мне, што Карл некалькі начэй зноў не прыходзіў дадому. Ён пэўна бадзяўся недзе ў Пратэры, у шынках з більярдам, або бавіў час з абыякімі жанчынамі, вядома, за Людвігавы грошы. Але мярзотнік, на жаль, мае рацыю, калі пыхліва сцвярджае, што ў любы момант можа абвесці «старога вар'ята» вакол пальца.

Фраў Канстанцыя, скубучы за кончык абруса, сказала:

- Стэфан, ты ведаеш, які з яго выхавальнік. Успомні толькі пра гэтыя жахлівыя сцэны ўжо тут у доме чорных іспанцаў. Часам Людвіг жорсткі, надта нястрыманы, а потым раскайваецца.

- Гэта праўда. Між іншым. . . Карл жа праўша, а страляў у сваю левую скронь? Можа, гэтае «самагубства» проста камедыя?

- Ад Карла ўсяго можна чакаць.

- А прычына якая? «Палон» у Людвіга? Не можа быць, каб паніч не ведаў, што і ў сваёй новай школе ён не вытрымае іспытаў.

Фраў Канстанцыя паматала галавою.

- Мне здаецца - хочаш назаві гэта жаночым інстынктам, - што і гэта не сапраўдная прычына. Не стане з-за гэтага Карл рабіць сабе драпіну на скуры. Нават і ў камедыях ёсць жа нейкае больш або менш важкае абгрунтаванне.

- Ну, тады мы даведаемся пра яго адЛюдвіга.

У мацеры Карла ўжо не было. Яго тым часам забралі. Па аўстрыйскіх законах спроба самагубства каралася. Бліжэйшаму ўрачу, доктару Дэглю, прыйшлося зрабіць адпаведнае паведамленне, з'явіліся паліцэйскія з насілкамі і даставілі Карла ў закратаванае аддзяленне Агульнай бальніцы.

Кулю ўжо вынялі. Бетховен чакаў, не зводзячы вачэй са змрочнага турэмнага калідора, які быў адгароджаны железнымі прутамі і з-за дымнае газоўкі выглядаў яшчэ больш паныла. Рашоткі яму сёння не адчынілі. Удалося толькі папытацца ў санітара, ці не пагражае гэта жыццю. Але ў цемнаце ён не мог па губах зразумець адказу, прыйшлося ўмяшацца ў размову Гольцу, і Бетховен бачыў толькі, як ён гаварыў, а санітар здзекліва смяяўся.

На вуліцы Гольц праз размоўны сшытак перадаў сэнс размовы.

- Маэстра, можаце прыйсці заўтра ў другой палове дня. Ніякай пагрозы жыццю няма і не было. Аднак Карл, мабыць. . . - Гольц вагаўся, ці гаварыць далей. Ужо і ў бальніцы да Карла чулася пэўная антыпатыя.

- Няўжо ён стрэліў халастым?

- Карл? Не, ён страляў і не халастым, і не так, каб забіць сябе. Ён ведаў, куды цэліць.

- Што вы хочаце сказаць?

Каб не ўсё гаварыць, Гольцу прыйшлося пакарыстацца сшыткам:

- Карлу прыйдзецца, мабыць, пэўны час пабыць у турме і падумаць пра свой учынак.

Бетховен згодна кіўнуў галавою, здзівіўшы гэтым Гольца.

- Учынак - можна так і назваць гэта - не спатрэбіўся б, калі б у яго было болей мужнасці.

- Болей мужнасці? Навошта, маэстра?

Бетховен прамаўчаў, бо, расхваляваўшыся, і так ужо сказаў зампога. Толькі праз нейкі час ён пацікавіўся яшчэ:

- Можна мне будзе заўтра пагаварыць з галоўным ураном?

- Можна. Сёння яго толькі выпадкова не было ў бальніцы. Можа, мне перагаварыць з паліцыяй? Усё-такі я нешта накшталт афіцыйнай асобы.

- З вашагу боку, дарагі Гольц, было б гэта вельмі ласкава. Я ведаю, вы не любіце Карла. Зрабіце гэта дзеля мяне.

- Толькі дзеля вас!

Назаўтра Бетховен прыйшоў пасля абеду, калі Карл яшчэ спаў: і таму ён, дзядзька-апякун, сеў на лавачку каля ложка, каб дачакацца, калі той прачнецца. Вялікая палата з закратаванымі вокнамі была напоўнена агіднымі, едкімі, здушлівымі пахамі і выпарэннямі.

Вочы дваццаці ці болей арыштантаў, аблудных шыбенікаў, са сваіх ложкаў і ад сталоў, на якіх бруднымі картамі вялася гульня, сачылі за наведнікам, які, ідучы сюды, быццам наўмысна з выклікам апрануў свой лепшы парадны фрак. Апошні раз ёп насіў яго на акадэміі, на якой выконваліся «гімны» з «Урачыстае месы» і сімфоніі радасці. . . Усё кудысьці прапала, а можа, і перайшло ў сваю процілегласць, напамінаючы бясконцы таямнічы іспыт. Нават з Іова знялі праказу, і вярблюдаў атрымаў ён у сем разоў болей. Але да чаго дакранаўся ён сам, тое рабілася і аставалася пракажоным. Вось з гэтага маладога чалавека, яго Карла, ён таксама хацеў зрабіць нешта накшталт яркае сімфоніі. Піяніст-віртуоз! Прыйшлося пераканацца ў абсурднасці сваіх намераў, і спраўдзіліся самыя песімістычныя прароцтвы Джанатазіо наконт Карлавых «навуковых здольнасцей». Карл быў здольны толькі. . . да легкадумства. Як жа памагчы пазбавіцца гэтага? Усяго пераспрабаваў ён, і прымусу таксама, але прымус разбіўся сам па сабе. І на ім самім таксама паламалася бацькава стусінка. А потым зачараваў яго. . . некалькімі добрымі словамі Крысціян Готліб Нефе, нізенькі гарбаценькі чалавечак, яго шаноўны настаўнік, і ён, як старанны крот, лічыў за лепшае капацца днямі і начамі ў клавішах арганаў. Няўжо таямніца ў пастаяннай роўнай дабраце? Але ў каго ёсць такая суразмернасць дабраты, унутранай гармоніі?

Хворы ляжаў бледны, аслаблены стратаю крыві. На падушках, на адзенні відны былі паробленыя блакітнаю фарбаю нейкія турэмныя ўзоры. Адзін з Бетховенаў у турме. . . А Карл быў Бетховенавай пароды - і не толькі па прозвішчы! У Карла, бясспрэчна, братавыя рысы, хоць і з дамешкам чагосьці чужога, да якога ён часам адчуваў нянавісць, мабыцн, таму, што яно было ад мацеры, братавай Іаганы, «начной каралевы». Карлаў лоб перавязаны, аднак відаць, што ён высокі, толькі з бакоў як бы крыху пляскаты. А што, зрэшты, чужое? Ці не пачыналася яно з валасоў, якія тлуста блішчалі памадаю і былі як бы ўкрыты лакам? З завітых валасоў, што ляжалі над павязкаю? З высунутай і адвіслай ніжняй губы, што ўжо ў такога маладога чалавека як бы выназвала цЫнізм і пагарду да жыцця? Маленькія чорныя вусы на верхняй губе! Усё чысценька паголена і напамаджана, быццам у гэты час не было нічога болей важнага, чым гэты недарэчны форс. А ён сам усю ноч і першую палову дня не знаходзіў сабе спакою, сноўдаўся па кватэры, мучыўся розным бясконцым клопатам і нават дакорамі сумлення, шукаў адказу на незразумелыя пытанні. . .  І тут ён убачыў вялікія, цёмныя вочы, што адчужана паблісквалі і неспакойна і трывожна блукалі па пакоі. . .

Толькі цяпер да Бетховена дайшло, што пляменнік, яго падапечны, глядзіць на яго. Даўно ўжо? Трэба апамятацца, вярнуцца з думак на зямлю. Тут ляжыць Карл, якога ён хацеў любіць і які цяпер, як ніколі раней, меў патрэбу ў дапамозе. Ён без дакору паглядзеў на хлопца, дастаў з кішэні размоўны сшытак і аловак, паклаў і тое і другое на коўдру і прысунуўся бліжэй, бо ў прысутнасці злачынцаў у палаце гаварыць можна было толькі шэптам.

- Карл, скажы мне, навошта ты зрабіў гэта? - Замест адказу той моўчкі, замкнёна паматаў галавою. - З-за іспытаў у школе? А можа, з-за даўгоў? Паслухай, я пытаюся не дзеля таго, каб мучыць цябе. Таму табе няма патрэбы гразіцца, што сарвеш сваю павязку, як толькі да твайго ложка падыдзе «пракляты стары вар’ят». Я кажу табе гэта цяпер без папрокаў і насмешкі. Хутчэй толькі папраўляйся.

- Каб папасці ў турму?

- Не, Карл, у турму ты не пападзеш. Даю слова, але. . . тут не месца абмяркоўваць падрабязнасці.  І ўсё ж - прынамсі, я так думаю - табе можна ачуньваць і хутчэй. Не толькі таму, што ты ведаеш, што я ведаю. . . усё.

Карлавы губы задрыжалі, і Бетховен усміхнуўся.

- Уся бяда ў тваіх даўгах перада мною. Ведаеш, тады мне ўсё не прысылалі ганарару. Праўду я кажу, Карл? Скажы мне праўду, і пазыковае абавязацельства лічы што разарвана. Ці. . . калі табе цяжка гаварыць пра гэта, то лічы, што яно ўжо разарвана цяпер.

Карл учапіўся за Бетховенаву руку.

- Тата, мой мілы тата. . .

- Хлопча, давай падумаем, што нам рабіць далей.

- Мне трэба пакінуць Вену.

Бетховен пацiснуў плячыма.

- Гэта будзе разумна. Хочаш паехаць за мяжу? У Лондан? Бо ў мяне там. . .

Карл напісаў:

«Але яшчэ больш мне хочацца стаць кадэтам, а пазней афіцэрам. Толькі кошт экіпіроўкі. . . »

Прыйшоў санітар, даў званком сігнал, што сустрэча скончылася. Карл затрымаў дзядзьку за рукаў, і, перш чым аддаць размоўны сшытак, яшчэ раз паказаў на месца, дзе было напісана: «Толькі кошт экіпіроўкі. . . »

- Карл, пра гэта можна было б і пазней. . . але калі ты хочаш ведаць цяпер. . . - Ён ніапнуў: - У мяне ёсць восем акцый. Яны і так астануцца табе. Але калі ты захочаш, то адну акцыю можна будзе прадаць.

Адзін з арыштантаў зірнуў услед Бетховену.

- Твой стары вельмі ўжо спяшаўся. А спачатку, каб не разбудзіць цябе, ён амаль цэлую гадзіну праседзеў каля твайго ложка цішэй вады, ніжэй травы. . .

Карл засмяяўся.

- Гэта мой далёкі сваяк, і ў яго ў галаве не ўсё ў поўным парадку.

На плошчы перад домам чорных іспанцаў гулялі хлопчыкі. Калі падышоў стары, гэтае пудзіла гарохавае з вечна высунутымі наперад грудзямі, з расхрыстаным крыссем сурдута, зблытанымі сівымі валасамі, што выбіваліся з-пад фетравага капелюша, - яны, скачучы, акружылі яго.

- Рыжы вар’ят!  І пляменнік у яго застрэліўся!

Ён нічога не чуў, але ўсё ж было непрыемна, і ён паспяшаўся прашмыгнуць у дом. Праз некалькі хвілін увайшоў маленькі Герхарт фон Бройнінг, выціраючы з чырвонага шрама на шчацэ кроў.

- Што з табою, гузічак?

Той гарэзна матнуў галавою і павярнуў губы так, каб Бетховен зразумеў, што ён гаворыць:

-  І тата ўжо дома. Хадзем да нас.

- Пазней.

Ці варта яшчэ раз трываць карканне гэтых варон унізе? Яму і так хапае другіх непрыемнасцей. Падышоўшы да акна, глыбока ўздыхнуў. Якое чыстае паветра! А там, у закратаванай бальнічнай палаце, задушлівыя цяжкія выпарэнні. Твары і постаці, што нагадваюць агідныя карнавальныя маскі, і самае блытанае. . . Чаго ні растлумачыць, ні зразумець.

Герхарт вярнуўся ў Чырвоны дом адзін. Фраў Канстанцыя здзівілася:

- Чаму ён не хоча ісці цяпер? Мы ж зычым яму толькі дабра. Нельга ж цяпер яму аставацца аднаму.

Бройнінг паматаў галавою.

- Ён чакае цемнаты. Ужо ў Боне ён баяўся святла, а сёння перад гэтым, відаць, пабываў там. - Гофрат усміхнуўся сыну. - Ты ім добра даў, Герхарт.

Хлопчык незадаволена сціснуў зубы.

- Добра. Малайчына. Значыцца, я потым зайду па дзядзьку Людвіга.

Бетховен корпаўся ў гардэробе, дзе, відаць, нешта хаваў ці зачыняў, як адчуў, што ў пакоі дрогнула масніца.

- Ты быў?. . - Адпаведны рух Бройнінгавай галавы закончыў пытанне.

Бетховен рэзка павярнуўся.

- Калі ласка, не прымушай мяне гаварыць. Ты мой лепшы сябар, і мне не хочацца цябе падманваць.

Узрушаны Бройнінг абняў яго за плечы.

- Людвіг, я і так не даў бы табе веры, калі б ты ўсё растлумачыў іпахондрыяй у Карла, менавіта ў Карла. - Гаварыў ён паволі, каб Бетховен мог чытаць словы па яго губах, як у кнізе. - Апроч таго, ты дрэнны лгун, і я, стары судовец, павінен сказаць табе гэта. Ты маніш яшчэ горш, чым, на думку лейпцыгскіх «ёлупняў», пішаш музыку. Давай лепей не будзем чапаць матываў Карлавага ўчынку. Што яшчэ новага?

- Стэфан, ты ж калісьці быў маладым афіцэрам. Колькі каштуе экіпіроўка кадэта?

- Прыкладна пяцьсот-шэсцьсот гульдэнаў. Чаго гэта цябе цікавіць?

Бетховенаў твар азмрочыўся.

- Бо Карл. . . У цябе там ёсць сувязі?

- Вядома, ёсць, але ці ж магу я прыкласці сваю руку. . .

- Стэфан, памажы мне, і, можа, ты паможаш і хлопчыку.

- Людвіг, ты верыш, што Карл зробіць ваенную кар’еру? Тады мне толькі шкада цябе. Уяві сабе Карла кадэтам! Чаго толькі не прыходзіць хлапцу ў галаву!

Бетховен стомлена ўздыхнуў.

- Праўда, цяпер ён, відаць, марыць толькі аб залатых афіцэрскіх эпалетах. Я. . . цяпер таксама больш не веру ў Карла, але я мушу і ўсё ж хачу верыць! Стэфан, напішы мне, калі ласка, прозвішча гэтага чалавека.

Бройнінг пацiснуў плячыма. Потым напісаў: «Фельдмаршал-лейтэнант фон Штутэргейм, полк якога стаіць у Іглаў. Штутэргейм таксама твой вялікі паклоннік».

- Няўжо? Тады гэта ўдалае супадзенне. Стэфан, не рабі такога змрочнага твару. Я павінен з Карлам паспрабаваць яшчэ раз, апошні раз.

- Людвіг, з гэтым - прабач мне! - шалапутам ты будзеш спрабаваць не апошні раз. Яшчэ ёсць жаданні?

- Ёсць, Стэфан. Я гаварыў з галоўным урачом, а Гольц з паліцыяй. Карл або трапіць у турму за спробу самагубства, або трэба выбраць яму асобага апекуна, чалавека, чыё імя і тытул карыстаюцца аўтарытэтам. Чаго, на жаль, у мяне няма.

Бройнінг ссунуў бровы і накрэмзаў:

« І табе пажадана, каб гэты апякун меў імя Стэфан, гэтак?»

- Гэтак, Стэфан. У мяне ж няма другога сябра.

Ён зноў пачаў харкаць крывёю, і цяпер ніяк не мог пазбавіцца абсурднае думкі, што кроў ідзе з раны, якая нанесена яму Карлавым учынкам. І тут жа перад ім узнікалі і ішлі за ім пакутлівыя карціны: палата ў бальніцы з злачынным збродам, дзе ўсё яшчэ ляжаў Карл, рана якога гнаілася. Ах, гэты несумленны Карл! Ён і ў турэмным адзенні марыў толькі аб уніформе з залатымі эпалетамі! Проста дзіва, што яшчэ можна было працаваць з гэтакім цяжарам на сэрцы, і працаваць не так ужо дрэнна. Праца над квартэтамі до-дыез і фа мажор таксама не стаяла на месцы. Квартэт фа мажор можна прысвяціць фельдмаршал-лейтэнанту фон Штутэргейму, з удзячнасці за тое, што ён згадзіўся ўзяць Карла ў кадэты. Потым Стэфан падаў яму ідэю наконт Дзевятай сімфоніі. Ён, як і Людвіг, сам адчуваў тое глухое незадавальненне, якое назбірвалася ў Бетховена супраць венцаў і супраць імператарскага дома.

- Людвіг, нельга ж, зрэшты, прысвячаць усё эрцгерцагу і архібіскупу Рудольфу. Але калі ўжо прысвячэнні вялікіх твораў заведзена рабіць высокапастаўленым асобам і ў цябе папраўдзе існуе толькі адна магчымасць «выбрацца з гора з дапамогаю твораў», то прысвяці сімфонію каралю Прусіі. Пазней прызнацца, што ў маёй парадзе ёсць крыху нядобрага, бо ўжо з Сілезскіх войнаў прусакі і аўстрыйцы не асабліва сімпатызуюць адзін аднаму, але табе хочацца, каб тваю сімфонію выконвалі і ў Берліне. Калі ж бы ты раней зрабіў гэта! Вядома, тут памылка, якую калісьці зрабілі мы ўсе. А калі кароль Прусіі прыме твой падарунак з прысвячэннем, то можа здарыцца і так, што ты раззлуеш нашых паноў і выведзеш іх з раўнавагі.

- А ці не давядзецца мне на старасці куды-небудзь пераязджаць адсюль?

Бройнінг напісаў:

«Пераязджаць? Вярнуцца дадому! Бон цяпер належыць Прусіі! А калі табе яшчэ дадуць ордэн! У іх ёсць там адзін прыгожы, «Pour le mer Ite», «За заслугі».

- Навошта мне ордэн?

Карлава выздараўленне зацягвалася. Толькі ў канцы верасня да Бройнінга з’явіўся паліцэйскі і адсалютаваў:

- Дазвольце далажыць: перадаю арыштанта Карла ван Бетховена папячэнню яго апекуна, гера гофкрыгсрата фон Бройнінга. Прашу гера гофрата падпісаць вось гэты квіток.

Калі паліцэйскі пайшоў, Бройнінг паказаў рукою на крэсла.

- Сядайце, Карл. Ну, як шрам?

Карлава левая скронь была яшчэ залеплена пластырам.

- Пачынае зацягвацца, гер гофрат. Спадзяюся, што праз два-тры тыдні нічога не будзе відаць, і я тады змагу адправіцца да гера фельдмаршал-лейтэнанта фон Штутэргейма, перад якім за мяне гер гофрат меў ласку. . .

Бройнінг перабіў яго:

- А пакуль што вы паедзеце да дзядзькі Ёгана ў Гнейксендорф?

- Па запрашэнні дзядзькі Ёгана. Будзе выканана, гер гофрат.

Карл сядзеў на краёчку крэсла, прамы, як палка, і гэтая робленая пакорнасць не спадабалася Бройнінгу. Ці, можа, справа ў франтаватым адзенні і фізіяноміі хлапца?

- Карл, дазвольце даць вам параду. Калі загоіцца ваш шрам, згаліце вусікі, перад тым як з’явіцца да гера фельдмаршал-лейтэнанта фон Штутэргейма. І хачу сказаць вам яшчэ некалькі слоў дзеля вашае карысці. Спадзяюся, што перыяд, не вельмі радасны ў вашым маладым жыцці, цяпер скончыўся, мінуў назаўсёды. Прашу пры гэтым думаць не толькі пра сябе, хоць ад вашых бездакорных паводзін больш за ўсё карысці будзе вам, а і пра вашага дзядзьку, здароўе якога мне не вельмі падабаецца. Стрэл, здаецца, мацней зачапіў яго, чым вас, і таму з гэтага часу вы павінны толькі радаваць яго і адплаціць гэтым за ягоную любоў да вас.

Карл старанна заківаў галавою, надта ўжо старанна.

- Я гатовы, гер гофрат, бо ведаю, што прынёс дзядзьку сваім неабдуманым учынкам.

- Карл, прашу вас: не страляйце болей у яго. Ну, а цяпер другое пытанне: вы папраўдзе хочаце стаць салдатам? Магчыма, вы няправільна ўяўляеце сабе салдацкае жыццё і бачыце сябе ўжо афіцэрам, бліскучым героем, які зачароўвае дзявочыя сэрцы.

- Гэта не прычына, гер гофрат!

- Дазвольце мне сказаць яшчэ крыху болей, Карл. Быць салдатам дый афіцэрам - значыцца несці цяжкую, суровую службу.

Карл ускочыў з месца,

- Гер гофрат, у бальніцы, за кратамі, у мяне было досыць часу падумаць пра сябе. Гэтым стрэлам ды і ўсім астатнім ува мне нешта забіта, а нешта другое ажыло. Я не хачу сказаць, што я выправіўся. Але так будзе. Я паспрабую даказаць гэта, і мне тут павінна памагчы дысцыпліна! Я яшчэ баюся сябе самога. Праўда, і таму ў мяне ёсць яшчэ адна просьба: няхай гер гофрат ласкава перадасць геру фельдмаршал-лейтэнанту фон Штутэргейму, каб ён асабліва строга глядзеў за мною.

- Гэтага, мабыць, не спатрэбіцца. Перш за ўсё вы самі павінны паводзіць сябе строга. Загляньце да мяне, калі вернецеся з Гнейксендорфа. Вось гэтак, а цяпер ідзіце ў дом чорных іспанцаў, дзе вас чакаюць з нецярпеннем і радасцю.

Калі ў пакой зайшла фраў Канстанцыя, яна ўбачыла, што муж з-за гардзіны сочыць за плошчаю.

- За кім ты шпіёніш, Стэфан?

- За маім падапечным. Я не веру, што ён адолее дарогу адсюль да дома чорных іспанцаў. Можа, ён раптам завітае ў бліжэйшы шынок з більярдам? Між іншым, Людвіг моцна засмучаны, што мы сёння ўвечары не вячэраем у яго і не святкуем разам з ім.

- Стэфан, ты, мабыць, не станет думаць, што я кісейная паненка, але мне ў твайго сябра Людвіга - буду называць рэчы сваімі словамі - занадта агідна. Там проста кусок не лезе ў горла. Пасля вячэры мы на нейкі час маглі б зайсці да яго. Але. . . скажу табе вось што: Карла я яшчэ магу стрываць, але гэтага літасцівага гера землеўладальніка, гэтага нязноснага, надзьмутага дурня. . .

- Дый ці правільна робіць Людвіг, што едзе з ім у Гнейксендорф? Бо там жа ёсць яшчэ і літасцівая фраў землеўладальніца і прыёмная дачка.

- А Людвіг у сваіх пісьмах не вельмі пахвальна гаварыў пра гэтых дам, і яны, зразумела, усё ведаюць добра. У мяне на душы неяк трывожна - дай бог, каб я бачыў толькі прывіды!

Коні ледзьве вытрывалі дарогу. У Крэмсе не гарэла ніводнага агеньчыка. За горадам звярнулі ўбок і ехалі яшчэ адну, апошнюю гадзіну. Потым зноў выраслі цені дамоў, сілуэты якіх ужо самі па сабе сведчылі аб беднасці. Гэта быў Гнейксендорф. І неяк адразу паўстаў хутар Васэргоф. Бетховен аднойчы ўжо быў у брата і нечакана пачаў, як тлумач, расказваць Карлу:

- Гнейксендорф - самае ўбогае гняздо ва ўсёй Аўстрыі. Калі б мне тут прыйшлося памерці, я не хацеў бы, каб мяне пахавалі на Гнейксендорфскіх могілках. Але Васэргоф, хутар дзядзькі Ёгана, даволі прыгожы. Пейзаж, праўда, не ў маім гусце, бо мясцовасць тут роўная, як абрус. Але побач Дунай, а вада - гэта жыццё. Сам гаспадарскі дом амаль пампезны, а калі падняцца на вежу, Карл, то можна бачыць далёка-далёка, аж да гор Штырыі. - Ён уладкаваўся на заднім месцы брычкі. - Мабыць, мне трэба было ўсё-такі ўзяць цяплейшую вопратку. Апошнія дні было так цёпла, і нічога дзіўнага, што і памыліцца можна. Лета не можа цягнуцца вечна. Пазней прызнацца, што ў мяне ад холаду зуб на зуб не пападае, я дрыжу прэстысіма ў такце ала

брэве. А яшчэ мне хочацца легчы ў мяккі, цёплы ложак. - Што з табою, Ёган? Чым бліжэй мы пад’язджаем да Васэргофа, тым болей ты сціскаешся, ты, уладар тысячы астравоў. Няўжо ты асмеліўся паведаміць дадому, што мы прыязджаем сёння ўначы? Навошта ты нас наогул запрасіў? Але я не хачу быць несправядлівым да цябе. Часам сэрца твае папраўдзе братавае, я кажу табе гэта сур’ёзна, толькі. . . як зразумеюць твае пачуцці «дамы»?

Двор, у які яны заехалі, быў акружаны змрочнымі змярцвелымі ценямі: самога гаспадарскага дома, свірнаў і другіх гаспадарчых будынкаў. Злезлі з брычкі. Ёган адвязаў ліхтар, што вісеў на брычцы, і асвяціў ім яшллё. Людвіг прабурчаў:

- Не турбуйся дарэмна, Ёган.  І з ліхтаром ты не знойдзеш ніводнага асветленага акна.

З’явіўся парабак, спрасонку пачухаў грудзі і ўзяўся распрагаць коней. У сенцах Ёган падаў брату і пляменніку знак.

- Пачакайце! Ціха! Не размаўляйце! - Іранічная ўсмешка вакол кончыкаў рота стала цяпер нейкаю спалоханаю. - Яны спяць! Ціха! Ідзіце за мною! Толькі ціха! - Яны падняліся па ўсходках наверх, Ёган адчыніў адну з дзвярэй і прашаптаў: - Вось твой пакой, Карл. -  І сам зайшоў у пакой. Хутка там успыхнуў маленькі, запалены ад ліхтара агеньчык.  І вось на дыбачках ён ідзе далей. - Пайшлі, Людвіг. - Адчыніў другія дзверы, зноў запаліў святло, і не паспела яно загарэцца як след, а Ёган шапнуў ужо, варухнуўшы губамі, «добрай ночы» і знік.

Бетховен агледзеўся ў пакоі. Ну і ўбогі ж пакойчык! Голы стол, на якім не было нават талеркі з кавалкам хлеба. Няпаленая грубка. Умывальнік, шчарбаты збан на валу. . .

Бязмежная злосць апанавала ім. Чаму толькі ён не застаўся пры сваім катэгарычным «не», як тады, калі Ёган запрашаў яго першы раз? Потым «не» перайшло ў «згодзен», бо ён заўсёды хацеў прыносіць людзям радасць, хоць часам і самому было над чым паламаць галаву. Абсурд, праўда? Але што ёсць, тое і ёсць. Дый. . . сяброўскіх пачуццяў да Ёгана ён, сказаць папраўдзе, меў нямнога, і ўсё ж часам у зласлівага, асцярожнага брата шавяліліся сваяцкія пачуцці, як тады ў Вене, калі ён настойліва запрашаў Людвіга да сябе ў госці. Але гэта было ў Вене! А тут Васэргоф паблізу ад Гнейксендорфа, тут усім распараджаліся абедзве жанчыны, а тыя братавыя пачуцці асталіся ў Вене. У сябе, у Гнейксендорфе, Ёган нават здольны вырачыся яго. Распрануўшыся, Бетховен запоўз пад коўдру. Які ж жорсткі і халодны быў ложак! Вось так прывячаў яго адзіны родны брат. . .

Каб жа не Карл. . . Раніцаю, як толькі пачало шарэць, Карл ужо сядзеў на краі ложка, паціраў рукі ад задаволенасці, што папалі яны ў такі «разбойніцкі прытон», і выдумваў самыя смешныя кпіны, ад якіх Бетховена браў смех. Бетховен яшчэ ніколі не бачыў Карла такім шчырым і вясёлым. Хлопец увачавідкі перамяніўся, і гэта рабіла Бетховена шчаслівым.

Снеданне ўнізе прайшло ў халоднай атмасферы, але сонечны ранак абяцаў цудоўны дзень. Бетховен быў рады, што ён глухі, бо гэта пазбаўляла яго неабходнасці слухаць гаворку братавай. Праўда, па яе губах ён чытаў, што яна гаварыла праз свае гнілыя зубы, але Карл яго не выдаў. Даволі хутка са стала зніклі нямногія скрылікі каўбасы. Ёган падняўся і буркнуў, што яму пара ісці ў поле, а за ім хутка выправіліся гуляць і Людвіг з Карлам.

Пайшлі яны да Дуная, за якім на сонцы зіхацеў кляштар «Готвай». Калі яны добра адышліся ад дома, Карл папытаўся:

- Ты галодны? -  І выцягнуў з кішэні кавалак вяндліны з хлебам. - Я паспеў падлізацца да цёткі і стрыечнае сястры - да гэтых баб! - і растлумачыў ім, што ў іхняй кладоўцы завяліся пацукі і куніцы. - Карл раптам занепакоіўся, таму што дзядзька сеў на ўзгорачак, каб паснедаць каля Дуная. - Ты не прастудзішся?

- Не, Карл, я жалезны. Учора ўночы я адчуваў сябе нядобра, але цяпер зноў такі свежы, што хачу пісаць - і напішу! - музыку. Новы фінал квартэта сі-бемоль мажор - замест «кітайскай фугі». Але зрабі мне ласку і пагавары з дзядзькам Ёганам, з цё’ткаю і стрыечнаю сястрою таксама. Растлумач ім, што, каб працаваць, мне патрэбен спакой і таму за сталом мне хочацца быць аднаму. Гэтыя твары праганяюць усякую гармонію. Самае прыемнае мне - зачыніцца наверсе ў пакоі. Абслуга, вядома, пойдзе на мой кошт. Растлумач ім, што я схільны да меланхоліі, да вар’яцтва. . .

- Што ты наогул страшыдла.

- Але, але, якраз тое, што яны балбаталі пра мяне на снеданні.

Ужо на абед яму сабралі стол у яго пакоі. Прынёс яду Ёган, і Людвіг падняў накрыўку міскі.

- Ёган, ніхто яшчэ не зваў мяне абжорам, але ж я і не верабейка. Я з радасцю даплачу за яду.

Брат пачаў штосьці пісаць. Навошта ён піша? Ага, вось яно што: гэта ён хоча скласці дагавор аб плаце за яду.

- Мая жонка не хоча браць платы. Гэтыя чатырнаццаць дзён і яда і кватэра будуць бясплатныя.

Людвіг адкінуўся назад.

- Чатырнаццаць дзён? Ты ж запрасіў мяне на некалькі тыдняў, колькі мне пажадана будзе астацца.

Ёган у адказ напісаў:

«Вярнуўшыся дадому, я знайшоў новае патрабаванне заплаціць падатак. Мы бедныя сельскія гаспадары. Ураджаі дрэнныя, а падаткі ўсё растуць!»

Людвіг палажыў сабе на талерку кавалачак мяса.

- Сядай, дарагі Ёган. Бо нішто так не памагае мне засвойваць яду, як тое, што я бачу перад сабою цябе, чалавека пад пятою ў жонкі.

Увечары прыйшоў хлопчык, на выгляд гадоў пятнаццаць. У яго быў дабрадушны дурнаваты твар і адтапыраныя вушы. Заікаючыся, ён сказаў:

- Я ваш слуга.

- Напішы мне, што ты хочаш. Я глухі.

- Я не ўмею пісаць.

Хлопчык пачаў папраўляць раскіданы ложак.

- Ага, вось яно што, я пачынаю здагадвацца, хто ты такі. Як цябе завуць? Гавары імя паволі.

- Міхаэль Крэн.

Гаварыў хлопчык неяк дзіўна, як бы спяваў.

- Ты што, спяваеш з пералівамі?

Хлопчык кіўнуў галавою.

- Разумею, ты хочаш паказаць мне, на што здатны. Гэта добра, і тады мы з табою яшчэ і музыканты. Падыдзі ж сюды, Міхаэль! - Ён паказаў на нотную паперу. - Бачыш, гэтыя пункты - таксама музыка, і ты ўвесь час можаш сабе спяваць з пералівамі, пакуль я тут буду ставіць крымзолі.

Бетховен цалкам адасобіўся ад другіх, жыў толькі ў сваім пакоі і за музыкаю забываў усё, і час таксама.

Калі недамаганне вымушала яго аставацца ў ложку, побач з ім заўсёды быў Міхаэль Крэн. Але адкуль наогул узялася гэтая дзіўная хвароба, капрызам якое ён не хацеў паддавацца, бо яны перашкаджалі пісаць музыку? Як толькі ён сябе адчуваў лепей, дык зноў працаваў або бегаў дзесьці на дварэ, па замёрзлых дарогах. Музыка! Музыка! Ён спатыкаўся, размахваў рукамі, дырыжыраваў, нешта гарлапаніў. Аднаго разу з-за гэтага два валы так перапудзіліся, што панесліся як раз’юшаныя. Сяляне маталі галавою.

- Хто гэты звар’яцелы стары? Няўжо праўда, што ён брат літасцівага гера землеўладальніка? І ў такой добрай сям’і. . .

Ён надта паспешна палічыў, што квартэт фа мажор гатовы. Прыйшлося яшчэ раз разбіраць яго на часткі. Але фінал да квартэта сі-бемоль мажор скончаны, і ён хрыпла выкрыкваў яго дрэвам, з голых галінак якіх на яго сыпаўся снег. Папраўдзе. . . Ужо глыбокая зіма, канец лістапада. . .

Што ж у яго з жыватом? Ён распухаў усё болей, і яго прыйшлося перабінтаваць. А Карл папраўдзе даўно ўжо сышоўся з цёткаю і стрыечнаю сястрою. Вось толькі што рабіць з Дыябелі, які захацеў мець квартэт для флейты. . . Дзевятая сімфонія метранамізавана, тое ж самае можна зрабіць і з Месай.

На сваім стале Бетховен знайшоў пісьмо ад Ёгана. «Мой дарагі брат! Не магу не хвалявацца аб тым, што будзе з Карлам. Ён зусім адвыкае ад якой-небудзь работы, а чым далей па-пустому будзе бавіць ён тут свой час, тым цяжэй яму будзе потым зноў за што брацца. Перад ад’ездам Бройнінг даў Карлу на адпачынак толькі чатырнаццаць дзён, а мінула ўжо два месяцы. . . - Ёган меў рацыю, але чым выкліканы гэты нечаканы клопат пра Карла? Нават Бройнінга ўпомніў. - Па Карлавых паводзінах я бачу, што ён ахвотна застаўся б з намі, але тады

будзе загублена яго будучыня. Таму я лічу, што да наступнага панядзелка. . . »

- Міхаэль, перадай літасціваму гаспадару, што я хачу пагаварыць з ім.

З’явіўся Ёган, і Лгодвіг паказаў на пісьмо:

- Не будзем гуляць у жмуркі. Тут ясна ўсё напісана.

- Я думаю толькі пра Карла.

- Ведаю. Мы зараз жа паедзем. Пачынай пакаваць, Міхаэль. Я табе памагу, але скажы спачатку аб гэтым майму пляменніку. Ёган, загадай запрэгчы вазок.

Той не скрануўся з месца, прыўзняўшы як звычайна плячо і іранічна ўсміхаючыся.

- Я яго табе сёння даць не магу. Ён патрэбен маёй жонцы.

- Значыцца, прыйдзецца пачакаць да заўтра?

- Я не магу абяцаць вазок і на заўтра.

- А на калі ж? Адвязі мяне толькі да Крэмса, а там ужо паштовая дарога. Каб давезці нас туды і вярнуцца дадому, спатрэбіцца не болей дзвюх гадзін.

- Мая жонка адпраўляецца ў дарогу.

- У бліжэйшыя дзве гадзіны?. . Раптам Ёган напісаў:

- «Навошта наогул гэтае спяшанне з ад’ездам? Я, вядома, рады за Карла, але цяпер магу даць у тваё распараджэнне толькі калёсы з-пад малака, загружаныя некалькімі бочкамі з маслам. Між іншым, іх якраз запрагаюць. Праўда, едуць яны не ў Крэмс, і па дарозе табе прыйдзецца пашукаць. . . »

- Значыцца, мне ты знайшоў толькі адкрытыя калёсы з-пад малака?

Бетховен ступіў да акна, размаляванага яркімі марознымі ўзорамі. Саскробшы снег з шкла, ён убачыў, што на вуліцы круцяцца сняжынкі.

- Ёган, я не збіраюся расчульваць тваё сэрца, бо ў цябе гэтыя справы вырашае жонка. Але ж ты ведаеш, што я хворы. Сёння ўначы я амаль не спаў з-за колікаў у жываце і дрыжыкаў. А ты не даеш мне вазка да Крэмса. Ты ведаеш таксама, што я, калі мы ад’язджалі з Вены, не ўзяў з сабою зімовай вопраткі. - Ён аж сагнуўся ад болю, трымаючыся за жывот, і зуб не пападаў на зуб. - Ёган, калі ты думаеш, што я прыкідваюся, то памыляешся. Маленькі прыпадак перад гэтым, - яго зноў скаланула, - быў папраўдзе. Ды і баліць вельмі моцна. Раней такога не было, і гэта пра нешта гаворыць. Можа, гэта мая апошняя паездка, прынамсі, апошняя перад. . . самаю апошняю, а ты, мой адзіны брат, хочаш адправіць мяне на адкрытых калёсах з-пад малака.

Праз нейкі момант ён папытаўся:

- Здаецца, я заплаціў за ўсё?

Ёган падняў угору сем пальцаў і паказаў на дровы каля грубкі.

- Праўда ж! Трэба ж заплаціць за дровы. Прабач. Я не хацеў цябе падманваць. Ёган махнуў рукою.

- Зрэшты, нявартa плаціць за дровы. Я гэта вазьму на сябе.

Людвіг зразумеў.

- Не, Ёган. Твая жонка табе гэтага ніколі не даруе. Калі пад’ехалі калёсы, бязлітасна дзьмуў вецер, наганяў усё новыя белыя хмаркі. Фурман у сваім канаўсе быў падобны на нейкі цьмяны цень, коні фыркалі і ўздрыгвалі, як бы не хочучы, каб іх у непагадзь кудысьці гналі. Карлу далі коўдру, і ён захутаўся ў яе сам, а Бетховен скурчыўся на калёсах, дарэмна шукаючы, як схавацца ад холаду, калючага снегу і куслівай буры за бочкамі з маслам і бітонамі з малаком. Змрок наваліўся рана. Фурман, даехаўшы да свае мэты, хуценька павярнуўся і паехаў назад. Маленькі пакойчык для гасцей у вясковай гасцініцы не апальваўся. Праз шыбы гудзеў вецер.

Гаспадар занепакоіўся. «Не дай бог хворы памрэ ў маім доме! А гэты чалавек смяротна хворы!»

- Не, гер, пошта тут не ходзіць. Хочаце, каб я на ноч гледзячы даў вам вазок? Заўтра раніцаю магу даць, калі гер заплаціць. Але ў мяне толькі драбіны.

Гофрат фон Бройнінг стаяў у Чырвоным доме каля акна і набіваў сабе люльку, якую потым з асалодаю закурыў. Мароз у гэтым годзе прыціснуў неспадзеўна рана і адразу вельмі моцна, а металічная жаўцізна сонца на захадзе прадвяшчала, што халадэча яшчэ памацнее. Нечыя драбіны паволі праехалі па плошчы, і Бройнінг глядзеў на след, які выціснулі ў снезе колы. Раптам ён ускрыкнуў:

- Канстанцыя! Паглядзі толькі, якія нягоднікі! Бачыш скрутак на драбінах у саломе? Гэта ж Людвіг! Вось як яны вязуць яго назад! Я пабягу, Канстанцыя, і ты, калі ласка, таксама хутчэй

ідзі!

Але іх апярэдзіў гузічак, які памчаўся так, што аж валасы развяваліся. Калі Бетховена нарэшце паднялі з саломы на драбінах, ён не мог стаяць на нагах, яны падгіналіся ў каленях. Бройнінг хутка заплаціў фурману. Нялёгка было падняць на трэці паверх цяжкага мужчыну, але нарэшце яго пасадзілі наверсе ў старое высокае скураное крэсла. А яны, цяжка дыхаючы, стаялі вакол. Ён сядзеў з заплюшчанымі вачыма, перарывіста, са свістам дыхаў, і яго твар, і без таго чырвоны, ад ліхаманкі гарэў яшчэ ярчэй.

Фраў Канстанцыя шэптам папыталася:

- Кепскія справы?

Бройнінг кіўнуў:

- Баюся, што. . .

Бетховенаў позірк праясніўся.

- Я ў вас? Гэта цудоўна. . . і не пакідайце мяне. Заўтра я наеду ў Лондан. Цяпер я ўсё вырашыў канчаткова. Гэтыя калёсы над малако, гэтыя драбіны, - іх паслаў д’ябал!

Канстанцыя распарадзілася:

- Не стойце проста так, мужчыны! Стэфан, палажы Людвіга ў ложак, а вы, Карл, памажыце яму. Герхарт, прынясі дроў і пакладзі іх мне тут каля грубкі, і перад плітою на кухні таксама. Халадэча тут страшэнная.  І зараз жа бяжы па доктара.

- Хто ў дзядзькі Людвіга доктар?

- Апошнім часам быў доктар Браўнгофер, але ён жыве, на жаль, далёка.

Герхарт, вярнуўшыся, выглядаў збянтэжана, і бацька папытаўся:

- Ты не прывёў з сабою доктара?

- Ён сказаў, што ў такі холад ён гэтак далёка не пойдзе, ды і пацыентаў у яго вельмі многа. Ён не хоча ісці.

Бройнінг уздыхнуў:

- Бо Людвіг насміхаўся над усімі сваімі дактарамі. Паспрабуй схадзіць па доктара Штаўдэнгеймера.

На гэты раз, вярнуўшыся, Герхарт сказаў:

- Ён прыйдзе, але пакуль што не ведае дакладна калі. Канстанцыя ўздыхнула:

- Баюся, што ў яго цяжкае запаленне лёгкіх. А жывот як распух. Можа, у яго яшчэ і запаленне брушыны?

- Мама, можна мне да дзядзькі Людвіга?

- Толькі ціхенька, каб не разбудзіць яго, адчыні дзверы.

Хворы не спаў. Герхарт загаварыў паволі, каб той па губах лёгка чытаў кожнае яго слова.

- Усё ў парадку, дзядзечка Людвіг. Хутка прыйдзе доктар.

Бетховен занепакоіўся.

- Доктар? Не трэба доктара, бо заўтра я еду ў Лондан. Да філарманічнага таварыства, а як жа! Там Рыс і Машэлес, і я таксама зайду да гера Штумпфа. Ты не хочаш паехаць са мною, Арыэль? Нас прымуць лепей не трэба. Бо Лондан не Вена. . . Зайдзем мы і да гера Бродвуда, які падараваў мне раяль. Дабірацца да Лондана нам, гузічак, прыйдзецца цераз вялікую ваду, цераз мора, на сапраўдным парусным караблі. Ужо на пароме можна заехаць далёка, гэта табе падцвердзіць мой дзядуля, але па моры - яшчэ далей, яшчэ далей! Між іншым, аднаго разу - а я тады быў у тваіх гадах - я іграў на арганах, уяўляючы сабе мора, і пра гэта табе таксама раскажа мой дзядуля, бо ён тады слухаў мяне. Ты мне не верыш? Папытайся ў яго партрэта. Але пытайся ветліва. Бо пытаешся ты ў прыдворнага капельмайстра Людвіга ван Бетховена. Я так высока не падняўся.

Ён заснуў, і настала ноч. Каля яго ложка паперэменна сядзелі Бройнінг з жонкаю. Пачало ўжо шарэць на раніцу, а доктар усё не ішоў і не ішоў.

За сцюжаю настала адліга з туманам, за ёю прыціснуў яшчэ мацнейшы мароз. Распаўсюдзілася энідэмія інфлуэнцы, і дактары толькі ўпраўляліся бегаць ад аднаго ложка хворага да другога. Нават гофрату фон Бройнінгу не ўдалося знайсці доктара, і цяпер вось пайшоў па яго Карл. Але доктар усё не ішоў. Не вярнуўся назад і Карл. Чаму - выяснілася пазней. Карл ішоў міма більярднай, зайшоў туды, каб зрабіць хуценька пару ўдараў кіем і перакананацца, ці не развучыўся ён яшчэ як трэба абыходзіцца з кіем і шарам з слановае косці. Але партыя выйшла вельмі ўжо цікавая, і таму шукаць доктара ён даручыў маркёру.

Апавясцілі Карла Гольца, у яго меліся сувязі з Цывільным шпіталем. І вось адтуль з'явіўся - а тым часам прайшло тры дні - прафесар доктар Ваўрух, вельмі рухавы чалавечак, які ўвесь час нервова прыціскаў да носа пенснэ і размаўляў рукамі і пальцамі. Ён загадзя напісаў на паперы, што яму гаварыць, і разгарнуў перад Бетховенам прынесены плакат: «Я - прафесар Ваўрух. Вы можаце лічыць сябе ўратаваным, бо трапілі ў мае рукі. Са мною да вас прыйшла таксама чыстая музыка. Я іграю на віяланчэлі і кантрабасе, а цяпер хачу паглядзець, што з маім калегам па мастацтву».

У гарачкавых Бетховенавых вачах бліснулі антыпатыя і недавер. Ваўрух паслухаў сэрца.

- Выдатна. Цяпер яно вельмі ўжо legg Iero, але мы давядзём да allegro. - Ён выстукаў лёгкія і пры гэтым незадаволена паглядзеў на Бройнінга. Але калі на яго зірнуў Бетховен, ён зараз жа зноў заззяў усім тварам. Падышоўшы да свае доктарскае торбачкі, дастаў адтуль нейкі парашок, высыпаў яго ў шклянку з вадою і, размяўшы, падаў хвораму. Калі той скрывіў твар, ён засмяяўся: - Горка, праўда?- Потым напісаў: - Наш пацыент цяпер трошкі паспіць. Нічога небяспечнага. Я хутка зноў забягу.

Бройнінг праводзіў Ваўруха ў калідор.

- Гер гофрат, у яго цяжкае запаленне лёгкіх.

- Ёсць небяспека для жыцця, гер прафесар? Ваўрух адказаў жартам:

- Наша беднае жыццё ўвесь час трапляе ў небяспеку. Ужо пры нараджэнні можна задыхнуцца. Чым болей жывеш, тым бліжэй да смерці. Калі цяпер я буду спускацца па ўсходках, то магу паслізнуцца і зламаць шыю. Але цяпер стары засне, і я спадзяюся ўратаваць яго.

- А распухлы жывот?

Жэст рукою, мабыць, сведчыў аб тым, што ўсё толькі дробязь.

Калі Бройнінг вярнуўся ў пакой да хворага, Бетховен курчыўся ад болю.

- Гэта ж пудзіла гарохавае! Калі ласка, папрасіце да мяне Мальфаці!

Бройнінг ужо гаварыў з Мальфаці, які лічыўся лепшым доктарам у Вене, але здарылася, відаць, штосьці такое, што напоўніла сэрца Мальфаці непрымірымаю злосцю на Бетховена. Не кожнаму падабаліся Людвігавы вострыя словы. Але і сам Людвіг у гэтых рэчах быў надзвычай адчувальны.

- Я схаджу да яго.

У суседнім пакоі ішла бурная сварка паміж Шындлерам і Карлам. Шындлер паказаў на стол, на маленькую пасылачку.

- Як яна сюды папала?

- Праз гера саветніка місіі фон Вернгарда.

- Гэта наўрад ці так. Гофрат фон Вернгард быў тут, але маэстра пасля бяссоннае ночы спаў. Мне яго не хацелася будзіць, і я не ўзяў пакуначка і пісьма. Я хацеў, каб маэстра сам распісаўся за іх, і таму сказаў гофрату, што паведамлю яму, калі хвораму стане лепей. Няхай тады, папрасіў я, гофрат не палічыць за цяжкасць зайсці сюды яшчэ раз. Але штосьці я не номню, каб быў я ў прускай місіі і даваў якія-небудзь другія распараджэнні.

- Тады менавіта я быў у прускай місіі.

- Так я і думаў, але, дазвольце спытацца, з якою мэтаю? Карл узлаваўся.

- Каб забраць вось гэта! Я лічу, што вы, гер Шындлер, занадта ўжо ўмешваецеся ў справы нашае сям'і, быццам пляменнік майго дзядзькі вы, а не я! Я як мага хутчэй хацеў абрадаваць дзядзьку Людвіга. А пісьмо караля Прусіі, яго падарунак, якім ён дзякуе за прысвечаную яму сімфонію, бо я ведаю змест пісьма і пакуначка, магчыма, памогуць яму хутчэй і поўнасцю акрыяць.

Калі вечарам прафесар Ваўрух наведаў хворага, твар яго стаў змрочны, а калі ён прыйшоў раніцаю, то ўжо не даваў хвораму ніякай надзеі. Ён лічыў, што хворы пражыве самае большае яшчэ паўдня.

Бройнінг заўважыў, што пасля таго як пайшоў доктар, апрануў паліто і Карл.

- Вы хочаце пайсці цяпер. . . цяпер, Карл?

- Хачу схадзіць да мілорда.

Мілорд была мянушка, якую свайму сябру Шупанцыгу-Фальстафу даў Бетховен.

- Можа, ён. . .

Згорбіўшыўся, Карл пачаў спускацца ўніз па ўсходках.

На другі дзень, падскокваючы, на кухню да маці прыбег Герхарт.

- Мама, дзядзечка Людвіг вельмі ўзлаваўся на цябе, што ты морыш яго голадам. Яму хочацца супу і мяса. Суп ты прыправі лісточкам з ягонага лаўровага вянка.

- З якога лаўровага вянка?

- Я расказаў яму, што ўсе вы паверылі, што ён памрэ, і тады ён сказаў, што вы яму на пахаванне закажаце, мабыць, хоць сякі-такі лаўровы вянок.

- Герхарт! Ты яму расказаў. . .

- Чаму й не? Мы страшэнна смяяліся з прафесара Ваўруха. Дзядзечка Людвіг шле табе вялікае прывітанне. Ён прасіў перадаць, што не збіраецца яшчэ адмаўляцца ад тваe добрае кухні, а абедзве чортавы павозкі, калёсы пад малако і драбіны, так растрэслі яго страўнік, што ў яго цяпер воўчы апетыт.

Фраў Канстанцыя абрадавалася.

- Я зараз жа занясу яму мясного булёну.

Калі яна прыйшла ў дом чорных іспанцаў, там якраз быў прафесар Ваўрух. Ён адно матаў кучараваю галавою.

- Мы думалі, што ён памрэ, але ў яго проста быў крызіс: ён добра выспаўся і паправіўся. Не, якога толькі клопату не прыносяць дактарам вось такія невукі! І таму ў адносінах да гера ван Бетховена я болей прагнозаў рабіць не буду. І ўсё ж. . . ці не гаварыў я, што выратую яго? Зноў я прыйду толькі заўтра.

Бетховен якраз сёрбаў суп, калі ў пакой уляцеў Бройнінг.

- Людвіг!. .

Той кінуў на яго пагардлівы позірк.

- Гузічак і твая жонка, якой ты зусім не варты, у апошні момант выратавалі мне жыццё. А ты ўжо збіраўся пахаваць мяне, га?

Бройнінг засмяяўся.

- З вялікаю радасцю. Тады адным упартым, які вечна злаваў мяне, стала б меней. Але, на жаль, ты ачуняеш, Людвіг.

- Можаш быць упэўнены.

- А як жа, Людвіг, і я таксама ўпэўнены, бо ў тваім голасё і на твары зноў паказалася штосьці задзірлівае.

Бройнінг з радасцю глядзеў, як еў сябар. Людвігава рука паспакайнела, стала больш цвёрдая.

- Людвіг, ты папраўдзе страшыдла. Пара цяпер карміць і тваю душу.

Бетховен не ўсё па губах зразумеў поўнасцю.

- Што пара?

- Карл, дай, калі ласка, пісьмо і пакуначак.

Карл чамусьці задумаўся.

- А, вось што. А я іх за ўсім гэтым траха не забыў. Ён дастаў пісьмо і пакуначак, паклаў на коўдру. Бройнінг усміхнуўся.

- Сюрпрыз. Надзень на нос акуляры і паглядзі сам. Пачакай, я распячатаю пісьмо. Карл, распакуй, калі ласка, пакуначак.

Бетховен узяў у рукі пісьмо.

- Стэфан, гэты герб. . . здаецца мне, каралеўскі?- І пачаў чытаць:

«Кампазітару Людвігу ван Бетховену.

Ведаючы прызнаную якасць вашых кампазіцый, я быў вельмі прыемна абрадаваны, атрымаўшы ваш новы твор. Дзякую за падарунак.

У знак шчырай пашаны пасылаю вам у адказ брыльянтавы пярсцёнак.

Берлін, 25 лістапада 1826 года Фрыдрых Вільгельм».

Бетховен пакруціў у руках пісьмо.

- Крыху па-канцылярску холадна, праўда? Можна сказаць, звычайны зварот, калі прыхільна і разам з тым не вельмі зацікаўлена звяртаюцца да падданага, як бы робячы яму ласку. Значыцца, не высокі ордэн, як прадракаў ты, мой мілы Стэфан, а толькі брыльянтавы пярсцёнак. У каралёў брыльянтавыя пярсцёнкі, мусіць, заўсёды напагатове для падарункаў, бо брыльянт - найменш каштоўны камень, які можа дараваць кароль. Брыльянтавы пярсцёнак атрымлівае паляўнічы наглядчык, калі зробіць так, што кароль упалюе добрага аленя. Калі ж ён упалюе двух добрых аленяў, то могуць даць і ордэн.

Ён разгарнуў абгортачную паперу, дастаў пакуначак і адчыніў футарал.

- Зірні, Стэфан, ці лепей вы, фраў Канстанцыя. Я слаба разбіраюся ў каштоўнасцях. Няўжо гэта брыльянтавы пярсцёнак?

Бліснуў каменьчык, і гофрат паматаў галавою.

- Па-мойму, не. Ці ёсць і чырвоныя брыльянты, Канстанцыя?

Яна дастала з футарала пярсцёнак, і Бетховен з напружаннем сачыў за яе губамі.

- Не, гэта не брыльянт.  І сказаць шныра - падарунак не такі ўжо і каралеўскі. Проста даволі прыгожы рубінавы пярсцёнак.

- Рубінавы? Значыцца, паляўнічы наглядчык атрымлівае брыльянт, а я, прысвяціўшы сваю сімфонію радасці. . . - Ён шпурнуў футарал і пярсцёнак з ложка. - Карл, паперу, пяро і чарніла! Мы напішам прускаму пасланніку - не, самому каралю Прусіі і вернем яму яго каралеўскі падарунак з пакорнаю падзякаю!

Карлавы вочы малілі ў фраў Канстанцыі дапамогі. Яна кіўнула яму галавою і паспрабавала супакоіць Бетховена.

- Супакойцеся! Ну, супакойцеся!- Яна палажыла яму руку на лоб, і ён пакарыўся яе дабраце.

Нейкі момант таму назад у пакой зайшоў Шындлер, якога ніхто не заўважыў. Ён папытаўся:

- Фраў прыдворная саветніца, брыльянт намнога даражэй за рубін?

- Гэта шмат ад чаго залежыць, гер Шындлер. Думаю, што разы ў тры-чатыры.

- Так, так. - Карл аблізаў губы. - Можа, нешта было пераблытана?

Шындлер скрывіў рот.

- Гер ван Бетховен, думаю, што блытаніна поўнасцю выключана. Калі кароль Прусіі піша «брыльянтавы пярсцёнак», то там і. . . быў брыльянтавы пярсцёнак.

Карл спалохана прылажыў руку да рота.

- Няўжо Гольц?. .

Шындлераў голас небяспечна пацішэў.

- Вы ведаеце, Карл, што я не асабліва люблю гера Гольца, і яго цяпер тут, на жаль, няма. А то я затрымаў бы яго, калі ён хуценька запіхваў у грубку абгортачную паперу футарала, на якой таксама відаць каралеўская пячатка.

- Няўжо гэта нехта зрабіў? Можа, і я? Тады яно мела месца толькі па рассеянасці, у адчуванні радасці. . .

Шындлер грукнуў за сабою дзвярыма.

Вось дык пацыент! Якая неадольная воля не наддавацца хваробе! Што за натура, з якою нічога нельга зрабіць! Гэты Бетховен - сапраўдны асілак! Двухбаковае запаленне лёгкіх, а ўжо праз пару дзён доктар дазволіў яму кожны дзень праводзіць крыху часу не ў ложку. Але аднойчы Ваўрух сустрэў Бетховена, калі той вяртаўся з прагулкі.

- Вы што, звар’яцелі?

- Чаму? Што я пахадзіў па гласісу? Мне вельмі падабаецца пакідаць сляды на свежым снезе. Я тады адчуваю сябе першаадкрывальнікам, які ступае па цаліне. Я наогул аматар цаліны.

- Мае паслугі, відаць, болей не патрэбны?

- Ну што вы, мой мілы, паважаны прафесар! Прызнаюся шчыра, што ўвогуле я невысокае думкі аб дактарах; але дактары, якім я ўцёр нос, радуюць мае вочы. Я заўсёды сардэчна сустрэну вас. Можа, заўтра загляніце да мяне на кубак кавы? На кожны кубак, вядома, пойдзе па шэсцьдзесят зярнятак. Мой рэцэпт.  І потым вы пераканаецеся, якія добрыя і настраёвыя лекі раблю я ва ўласнай кухоннай аптэцы.

Але назаўтра ў Цывільным шпіталі да Ваўруха адразу ж пасля званка на абед падышла сястра.

- Гер прафесар, там за дзвярыма хлопчык, нейкі Герхарт фон Бройнінг. Ён вельмі ўсхваляваны і хоча пагаварыць з вамі.

Па бледным Герхартавым твары цяклі слёзы.

- Гер прафесар, дзядзечка Людвіг. . . калі ласка, хадзем. Ён памірае.

Прафесар Ваўрух схіліўся над ложкам. Твар і цела хворага зрабіліся жоўтыя, як айва, а ногі распухлі і сталі як слупы.

Ваўрух разгублена паківаў галавою:

- Здарылася штосьці незвычайнае, што за ноч, за некалькі гадзін прывяло яго ў такі стан?
Бройнінг уздыхнуў:
- Я не ведаю. . . Ён сказаў мне, што ўсю ноч яго ванітавала. А нядаўна жыхары ўнізе пад ім пачулі, што нешта цяжкае грымнула на падлогу. Яны пабеглі наверх, палажылі яго на ложак і паведамілі пра ўсё нам.
- Хто ў яго быў?
- Не ведаю. Мы думалі, што Карл. . .
- Пляменнік? Дзе ён?
- Але, дзе ён?. . Яго ложак яшчэ непачапаны.
- Значыцца, ніхто добра не ведае. . .
Бройнінг штосьці знайшоў.
- Канстанцыя - што гэта тут?- Ён паказаў на невялічкі столік збоку.
- Трыста гульдэнаў і квіток ад прыдворнага ювеліра на праданы рубінавы пярсцёнак.
Герхарт пралез наперад.
- Ад прыдворнага ювеліра? Дзядзечка Людвіг учора ўвечары яшчэ раз кудысьці выходзіў.
Прафесар Ваўрух капнуў некалькі капель у шклянку з вадою.
- Выпіце!
Бетховен паматаў галавою.
- Мне больш нічога не паможа.
Канстанцыя папрасіла:
- Дайце шклянку мне, гер прафесар.
Прысеўшы на краёчак ложка, яна паднесла шклянку да яго губ.
- Трэба выпіць, мой сябар, не пярэчце! Вам трэба заснуць.
- Горка, як палын, але. . . каб толькі ўсе рукі былі такія чыстыя! Каб толькі. . . усе рукі былі. . . такія чыстыя. . . вы, анёл. . .
Ён заплюшчыў вочы. Няўжо ён ужо заснуў? Лекі ж не маглі так скора даць рады. Ваўрух здзівіўся.
- Неспадзяваны паварот хваробы.
Бройнінг ціха папытаўся:
- Няўжо зноў запаленне лёгкіх?
- Не, гер гофрат. На гэты раз брушная вадзянка, і я лічу, што яна. . . І печань. Паглядзіце толькі, які ў яго жоўты колер скуры, толькі. . . Сімптомы чыста фізічныя, і тым не менш здаецца. . . Усё так загадкава.
Шындлер выразна паглядзеў на фраў Канстанцыю. Яна разгублена кіўнула яму ў адказ.
Хвароба разгаралася як полымя. Немач - ці, можа, гэта папраўдзе было нейкае таямнічае гора?- зваліла яго як падсечанае дрэва. Але злосна-калючы гумар трымаўся ў ім з нязменнаю сілаю.
Зайшоў Шупанцыг, і Бетховен прыкінуўся, быццам ад знясілення болей не пазнае яго. Вяла прашаптаў:
- Як. . . ваша. . . імя?
Шупанцыг усхвалявана адказаў, артыкулюючы словы:
- Я Шупанцыг. Бетховен доўга думаў.
- Шупанцыг. . . Шупанцыг. . . Успамінаю. Не першага гатунку скрыпач у Разумоўскага, які ўвесь час правальваўся з квартэтамі. . .
Шупанцыг аднак заўважыў у яго вачах бляск.
- Гэта праўда, бо іх пісаў нейкі там Людвіг ван Бетховен.
Абодва засмяяліся, а потым Бетховен папрасіў:
- Дай мне размоўны сшытак. Варта было ўбачыць цябе, як захацелася пісаць музыку. Я якраз ламаў галаву над адною цяжкаю праблемаю, і вось прыйшло рашэнне.
Крэмзаючы ноты, ён напісаў:
- Цяжка прынятае рашэнне. Ці трэба яно? Так, трэба! Адзін твой пампезны цень навёў мяне на гэтую думку. Во ён такі агромністы, а ў яе, у «фраў Шнапс», у «імкліва плывучага пад парусамі фрэгата» ценю няма. Добра, што яе з маёю дапамогаю не спалілі як вядзьмарку, бо мне было б цяпер яе шкада. Мая цяперашняя служанка крадзе вельмі ўжо бессаромна, і будзе лепей, калі я зноў вазьму старую вядзьмарку.

Шупанцыг падумаў сабе: «Небарака! Мяркуючы па тым, што пачуў гер фон Бройнінг ад доктара, твая печань паменшала і «цяжка прынятае рашэнне», мабыць, трэба тлумачыць усё-такі іначай. Які ты змарнелы на выгляд, Людвіг, вялікі ты мой бядак. . . »

Пасля Шупанцыга з’явіўся Герхарт, зняў рукавіцы і падзьмуў на рукі.

- Я прынёс пісьмо. З Парыжа. Ад нейкага графа дэ Фельтра.

- А чаму ты яго не аддаеш мне, лодар?

- Дзядзечка Людвіг, калі ты будзеш сварыцца на мяне, я не пайду на пошту па вялікі пакет, што прыйшоў на тваё імя. Вось такі вялікі!- Яго рукі апісалі вялізнае кола. - Там нават два пакеты, ад нейкага гера Штумпфа з Лондана. Хто гэта такі?

- Фабрыкант арфаў, мой сябар. Спадзяюся, што ён, прынамсі, не шле мне цяпер свае арфы. Сходзі, сходзі па пакеты. Вельмі цікава, што ў іх.

Калі Герхарт пайшоў, Бетховен прачытаў пісьмо. Яно абрадавала яго, хоць разам з тым крыху і засмуціла. Пісьмо было ад збіральніка аўтографаў, які хацеў «une l Igne de votre mus Ic ecr Ite et s Ignee de votre ma In». Яго аўтограф ён будзе лічыць у сваёй калекцыі першым. Парадавала, што нехта напісаў яму з Парыжа, але, мусіць, гэты граф дэ Фельтр пісаў гэтакія рэчы кожнаму, ад каго яму штосьці хацелася атрымаць. . . Усяго «адзін радок музыкі з подпісам»? Ён мог бы паслаць цэлыя манускрыпты, партытуры, якія гарамі нагрувашчаны ў суседнім пакоі. Апусціў пісьмо, і яно паляцела на дыванок каля ложка. Праз нейкі час нешта ўспудзіла яго з дрымоты. Гузічак сапраўды ледзьве ўнёс у пакой два цяжкія пакункі.

Герхарт якраз развязваў вяровачкі, як прыйшлі дактары і адаслалі хлопчыка з пакоя. Прафесар Ваўрух прывёў з сабою малодшага калегу і напісаў на паперцы:

- Гэта доктар Зейберт, хірург Агульнай бальніцы. Хутка вы атрымаеце палёгку.

Доктар Зейберт пацвердзіў гэта ласкаваю ўсмешкаю, якая павінна была прыдаць пацыенту ўпэўненасці. Ён адразу ўзяўся за падрыхтоўку, пачысціў шчоткаю рукі і папытаўся цераз плячо:

- Пад анастэзіяй, гер Ваўрух?

Той запісаў пытанне:

- Можа, пад наркозам, з дапамогаю кораня мандрагоры?

- Не, не хачу.

Доктар Зейберт падышоў да ложка, зноў усміхнуўся, паматаў галавою і паказаў на сябе. Усё гэта разам, мабыць, азначала: «я на вашым месцы таксама не стаў бы рабіць гэтага. Не варта». - І ён адразу ўзяў скальпель, трымаючы ў левай руцэ канюлю. І тут прафесар Ваўрух прыўзняў з ложка коўдру, намазаў распухлы жывот хвораму востра пахучаю эсенцыяй. Зейберт прамармытаў паміж сціснутымі губам!:

- Адцягніце на момант яго ўвагу, гер Ваўрух. - Прафесар стаў пасля гэтага жэстыкуліраваць, як крыўляка, звяртаючыся да Бетховена. Той раптам здрыгануўся, нечакана застагнаў ад болю. Але зараз жа над ім схіліўся ласкавы твар Зейберта: - Усё скончана.

На жываце быў зроблены парэз, у які ўвялі канюлю, і з яе ўдарыў каламутны струмень.

Бетховен сачыў за кожнаю фазаю гэтае працэдуры, за тым, як доктар яшчэ крыху глыбей запіхаў канюлю.

- Доктар, вы як Майсей. Той стукнуў аб камень, і з яго пацякла вада.

Зейберт хуценька зірнуў на яго.

- Ваўрух, няўжо ў вашага пацыента няма нерваў?

- Мне і самому так здаецца. Але вада ўсё цячэ і цячэ! Герхарту дазволілі зайсці зноў толькі праз гадзіну, і прафесар Ваўрух палажыў яму на плячо руку.

- Хлопча, твой дзядзечка Людвіг нічога болей не хоча есці? Перадай маме ад мяне найлепшыя прывітанні, і няхай яна прыгатуе яму міндалевага малака. Нічога болей яму не давайце.

Калі дактары пайшлі, Герхарт сеў на краёчак ложка і спачувальна папытаўся:

- Яны вельмі цябе мучылі?

- Ат, і гаварыць не варта, гузічак. Калі б мне ў жыцці не прыйшлося перанесці столькі цяжкасцей. . . Можаш цяпер распакаваць пакункі.

Герхарт зрабіў як загадана і быў расчараваны.

- Адны кніжкі. Адны ноты. Сорак тамоў, і ўсё адны ноты.

- Дай мне адну кніжку. Гузічак! Дурнічка ты, гэта ж цудоўнае Арнольдава выданне

твораў Гендэля! Добры Штумпф! Я ўзяў і расказаў яму, калі ён быў у мяне, што я, чалавек бедны, не магу дазволіць сабе раскошы мець Гендэля, і ўжо. . . - Ён аж знясілеў ад радасці і стомленасці. - Я пазней. . . пагляджу ўсё і нарадуюся. . .

Калі ён заплюшчыў вочы, да яго, як слабы цень, падскочыла нешта, ён адчуў дотык маршчыністае рукі, пагладзіў яе.

- Старая вядзьмарка! Ах ты, стары дракон! Ну, і я таксама не лепшы. . .

Новы 1827 год быў адзначаны святочным звонам. Герхарту гэтае ночы дазволілі не лажыцца спаць. У доме чорных іспанцаў на кватэры дзядзькі Людвіга ён убачыў прамень святла і хуценька падаўся туды. Асцярожна адчыніў дзверы да спальні. Хворы сядзеў на ложку, трымаючы перад сабою адзін з тамоў Гендэля, чытаў і адбіваў такт. Калі ён заўважыў хлопчыка, то цень яго рукі ў святле нерухома застыў на сцяне. Усё было падобна на заклінанне чараўніка.

- Герхарт, вось што я табе скажу: Гендэль недаступны майму розуму майстар, у якога я яшчэ шмат, шмат чаму мог бы навучыцца, і тым не менш. . . - У яго вачах заскакалі хітрыкі. - І тым не менш мне хочацца напісаць сваю араторыю «Савул і Давід», паспрабаваць стаць на ўзровень з ім. І я напішу яе, можа, яшчэ раней, чым дзесятую сімфонію, і праслаўлю ў ёй нас абодвух. - Ён засмяяўся. - Бо я Савул, а ты, гузічак, - Давід.

Герхард заззяў.

- З Новым годам, гер Савул.

- Што? Няўжо ўжо Новы год? Я не чуў званоў. А сігнальныя стрэлы былі ўжо? Ну, тады і табе ўсяго добрага ў новым годзе, Арыэль. У школе толькі добрых адзнак. . .

- Ах, школа. . . - Хлопчык абняў Бетховена за шыю. - А табе здароўя, дзядзечка Людвіг. Гэта болей важна!

- Дзякуй, дзякуй. А як з татам?

- Крыху лепей.

- Што гавораць дактары?

- Ты ж ведаеш, што звычайна гавораць дактары. . . Бетховен зноў засмяяўся.

- Гузічак, ты ўсё, што я гавару, паўтараеш як папугай.

- Я яшчэ і голуб - бо я пырхаю дзеля цябе, як пырхаў голуб і дзеля Ноя. І вось цяпер я табе таксама нешта прынёс. Каляндар. Штосьці новае: каляндар адрыўны. Можаш кожны дзень адрываць па лісточку. - Вялікім пальцам ён пагартаў па лісточках - Паглядзі, колькі тут дзён, і ў адзін з іх ты зусім ачуняеш. Выберы сабе гэты дзень, дзядзечка Людвіг. Можа, у студзені?

- Ранавата яшчэ, гузічак.

- Тады ў лютым? А што, калі мне пабыць аракулам? - Ён адгарнуў лісток. - А я ўжо трапіў у красавік. Не, так доўга табе хварэць нельга, дзядзечка Людвіг.

Бетховен сам узяў каляндар.

- Чорнае і чырвонае. Больш за ўсё чорнага, і гэта, уласна, непакоіць, калі падумаеш, што сярод многіх дзён, якія так падобны адзін да аднаго і адрозніваюцца толькі чыслом, якія на першы позірк да ўсяго абыякавыя, можа надарыцца і такі дзень, калі. . . Вельмі разумна зроблена, што мы, людзі, нічога пра гэта не ведаем. Давай цяпер перастанем гаварыць пра чорную магію.

У пачатку студзеня Карл сабраўся ехаць у свой полк у Іглаў, і Бетховен перад ад’ездам папрасіў Шындлера:

- Прашу вас не крыўдаваць на мяне. Можа, вы трошкі пагуляеце?

Шындлер усё зразумеў. Калі праз дзве гадзіны ён вярнуўся назад, Карла ўжо не было. Маэстра канчаў пісьмо, якое потым падаў Герхарту:

- Гузічак, занясі яго да бацькі. Няхай ён прачытае і, самае лепшае, зараз жа дасць адказ.

І вось Бройнінг чытае гэтае пісьмо:

«Яго высакароддзю геру фон Баху, доктару права, які пражывае ў Вольцайле.

Вена, у сераду, 3-га студзеня 1827 года Геру доктару Баху. Паважаны сябар!

Гэтым перад сваёю смерцю я прызначаю Карла ван Бетховена, майго дарагога пляменніка, адзіным спадкаемцам усяе мае маёмасці, і перш за ўсё сямі банкаўскіх акцый і ўсяе мае гатоўкі.

Калі законы дазваляюць тут розныя тлумачэнні, то паспрабуйце іх як лепей выкарыстаць на маю карысць. Прызначаю вас яго апекуном і прашу вас замяніць сумесна з гофратам Бройнінгам яго падапечнаму бацьку. Няхай вас беражэ бог. Вялікі вам дзякуй за любоў і

сяброўства, якія вы выказвалі да мяне.

Людвіг ван Бетховен». Бройнінг зноў лёг у ложак. Са свежа адпрасаванаю бялізнаю ў пакой увайшла фраў Канстанцыя і пачала раскладваць яе ў шафе па палічках.

- Чым ты цяпер так заняты, Стэфан?

- Мяне непакоіць Людвіг. Ён, вядома, нічога не будзе мець процi, калі я і табе скажу пра гэта. Ён напісаў завяшчанне і прызначыў. . . Карла сваім адзіным наследнікам.

- Упартая галава. . . Але, можа, усё гэта ад сораму? А можа, тут адчай або нешта накшталт шораў, якія ён надзявае, каб не бачыць відавочных фактаў?

- Ты папраўдзе лічыш, што Людвіг іх ведае?

- Ведае. Ведае і гісторыю з рубінавым пярсцёнкам і Карлам. Бясспрэчна. Мне нават не было патрэбы ў Шындлеравых паслугах. . .

Бройнінг уздыхнуў.

- І нягледзячы на гэта, такое вось завяшчанне, аб якім цяпер мне трэба выказаць сваю думку. Я тут не згодзен з ім, і калі нават я выкажуся як мага больш асцярожна і няясна, то гэта ўсё-такі будзе няўдзячны і нялёгкі абавязак. Але што ты зробіш. Будзь ласкава і падай мне ў ложак пісьмовыя прылады.

- Вось што я табе скажу: за завяшчанне я не стала б вельмі непакоіцца. Параю табе другое: хутчэй папраўляйся і яшчэ раз пагавары з доктарам Мальфаці. Ваўрух мне не вельмі падабаецца. І Штаўдэнгеймер таксама. Ці, можа, мне асмеліцца пайсці ў логава льва, да самога Мальфаці? Папрасіць яго прыйсці да Людвіга? Але перш напішы Людвігу.

Падумаўшы, Стэфан напісаў: «Дарагі сябар!

Я надта яшчэ слабы, каб напісаць табе многа, але лічу, што наступныя колькі слоў павінен сказаць табе ад шчырага сэрца.

Ты перадаў мне цераз Герхарта, каб я прачытаў пісьмо да гера д-ра Баха. Я паслухаўся і цяпер вось вяртаю яго з наступнаю заўвагаю. Што ты зрабіў Карла наследнікам на той, спадзяюся, яшчэ далёкі выпадак, калі мы ўсе пакінем гэты свет, цалкам адпавядае твайму складу думак, усяму таму, што ты дагэтуль зрабіў дзеля яго. Але Карл пакуль што паводзіў сябе вельмі легкадумна і ніхто не ведае, як пакажа ён сябе далей. Я болей схільны думаць, што ў яго ўласных інтарэсах, дзеля яго надзейнага будучага ты абмяжуеш яму права распараджацца тваімі грашыма. Або няхай ён атрымлівае іх на працягу ўсяго жыцця, або, прынамсі, на працягу некалькіх гадоў, пасля дасягнення ім паўналецця - 24 гадоў. . . »

Можна напісаць яшчэ шмат чаго - трэба зрабіць так, каб неяк пазбавіць Карла магчымасці рабіць даўгі. Але, зрэшты, Бройнінг дапісаў:

«Абдымаю цябе. Твой верны Стэфан».

У доме чорных іспанцаў Бетховен, прачытаўшы адказ сябра, надоўга задумаўся. . .

- Гузічак! Дай мне пячатку і сургуч і запалі святло, а потым будзь ласкавы занесці вось гэтае пісьмо доктару Баху.

- Я фраў фон Бройнінг.

Д-р Мальфаці ўскочыў з месца, схіліўся ў паклоне і паказаў на крэсла.

- Сядайце, калі ласка, літасцівая пані. Чым магу служыць вам? Баюся, што маё пытанне ўжо з самага пачатку лішняе. . .

- Мова мая пра гера ван Бетховена.

На тонка акрэсленым вузкім доктаравым твары з’явілася нешта накшталт ветліва-камічнага адчаю.

- Літасцівая пані, справа. . . безнадзейная, і мне шкада, што я вымушаны сказаць гэта такой пані, як вы. Магу толькі паўтарыць, што заявіў я ўжо вашаму мужу, геру гофрату, калі ён прыходзіў і ўгаворваў мяне: «Гер ван Бетховен сцвярджае сам сабе, што ён майстар гармоніі. І яму тады, мабыць, трэба зразумець, што і я з маімі калегамі мусім жыць. . . у гармоніі. Там Ваўрух, Зейберт, а цяпер і Штаўдэнгеймер. Я ўмешвацца не магу».

Фраў Канстанцыя ўсміхнулася.

- Гер доктар Мальфаці, ад майго мужа я ведаю ваты словы пра гармонію. Гэта дасціпна і пераканаўча, але - прашу мне прабачыць - усяго толькі адгаворка.

Доктар уздыхнуў.

- Згодзен, што гэта адгаворка. Толькі. . . чаму гер ван Бетховен настойвае, каб прыйшоў іменна я? Не таму, што ў Вене я цяпер - ну, скажам так - модны доктар?

Фраў фон Бройнінг, усміхаючыся, запярэчыла.

- Гер доктар Мальфаці, я не хачу гаварыць вам кампліментаў, каб так няўклюдна схіліць вас змяніць свой пункт гледжання. Вы болей чым венскі модны доктар - вы тут самые славуты, самы лепшы доктар. Але і гэта не самае галоўнае для гера ван Бетховена. Як мне гэта выказаць? Ён жа складаны, цяжкі чалавек. . .

- Гэта, бадай, можна сказаць і не знаёмячыся з ім блізка.

- Але цяпер стан яго здароўя цяжкі. Праз паўгадзіны збярэцца кансіліум, каб вырашыць, што рабіць з герам ван Бетховенам.

- Калегі Ваўрух, Штаўдэнгеймер і Зейберт?

- Яны, але. . . да вас, гер доктар Мальфаці, ён адчувае давер.

- Няўжо? Здаецца, я чалавек не дробязны, але ў свой час. . . чаму мне хоць раз не назваць прычыну мае незадаволенасці? Калісьці яго давер да мяне быў такі вялікі, што ён назваў мяне поўным невукам і патрабаваў, каб я неадкладна выбіраўся к чорту і ніколі больш не паказваўся.

Фраў Канстанцыя засмяялася.

- Тыпова Бетховен! Гер доктар Мальфаці, у вас як у доктара ёсць і вытрымка і самавалоданне. Яны вам спатрэбяцца цяпер у значна большай ступені, каб успрыняць заяву, якую я перадаю вам ад імя гера ван Бетховена. Ён просіць у вас прабачэння за свае колішнія паводзіны і згодзен асабіста папрасіць у вас прабачэння. Я дала яму добры наганяй, і ён раскаяўся, прызнаў сваю памылку і гатовы на ўсё.

Мальфаці адказаў толькі праз нейкі момант:

- Гэта мяжуе ўжо з фантастыкаю, літасцівая пані. Перамагчы Бетховена.

- Ну дык як. . . вы прыйдзеце?

- А што мне астаецца рабіць? Дый апроч таго простая цікавасць гоніць мяне пабачыць і пачуць уласнымі вачыма і вушамі цуд такое змены складу думак. - Ён устаў. - Я толькі скажу пра гэта асістэнтам і сестрам. Мая карэта стаіць напагатове.

Мальфаці спалохаўся, убачыўшы, як асунуўся яго колішні пацыент, але не паказаў выгляду. Падышоўшы да ложка, ён паволі, выразна паварушыў губамі ў сяброўскім прывітанні:

- Ну, што ў нас тут за выдумкі?

Бетховен вітаў Мальфаці ўдзячным позіркам.

- Доктар, перад вамі стары асёл. Цёмныя вочы Мальфаці ўсміхнуліся.

- На жаль, я не разбіраюся ў заалогіі. А што яшчэ?. .

З суседняга пакоя зайшлі прафесары Ваўрух і Штаўдэнгеймер, а таксама д-р Зейберт. Да іх далучылася нязграбная фігура Ёгана ван Бетховена, які адрэкамендаваўся:

- Я. . . землеўладальнік Ёган ван Бетховен. Атрымаўшы вестку, што. . .

Мальфаці крыху прыўзняў бровы.

- Ага, вы, значыцца, землеўладальнік? Але зараз мне трэба агледзець пацыента і атрымаць адказ на некалькі пытанняў.

Ён прысеў на краёчак ложка.

- Як сэрца?

Ваўрух адказаў:

- Добра.

- Гэта абнадзейвае. Я толькі хачу мець уяўленне аб агульнай карціне.

- Зразумела, калега.

Мальфаці выслухаў сэрца.

- Бетховен, сэрца ў вас, як у вялізнага звера, не меней слана.

Хворы засмяяўся і дакрануўся да рукі Мальфаці.

- Хвіліначку, дарагі сябар. Хацеў бы паслухаць вашы лёгкія - панове, памажыце мне пасадзіць пацыента роўна, а потым крыху нахіліце яго наперад. - Ён пастукаў па грудзях. - Тут жа нейкія сляды?

- Ад запалення лёгкіх.

- Што, у яго было і запаленне лёгкіх, Ваўрух?

- Нават двухбаковае.

- Ну, яно ўжо амаль зусім прайшло. Можаце зноў палажыць яго.

Прафесар Штаўдэнгеймер падышоў да ўзгалоўя, і хворы не мог бачыць шавялення яго губ.

- Самае галоўнае - печань. Яна небяспечна сціснулася. Мальфаці асцярожна памацаў. На яго твары не здрыгануўся ніводзін мускул.

- Што вы прадпісалі, калега Ваўрух?

- Міндалевае малако.

- Аз лекаў што?

- Вунь тыя кроплі і парашок. - Ён паказаў на тумбачку.

Мальфаці ўзяў пляшачку і потым зноў асцярожна паставіў яе на месца.

- Я хачу яшчэ раз паглядзець, што з жыватом. Калега Зейберт, дастаньце вашы прылады. Нам цяпер прыйдзецца рабіць другую пункцыю. . .

- Толькі што на кансіліуме і мы вырашылі зрабіць гэта.

- Значыцца, нашы тэрапеўтычныя погляды супадаюць. Кончыўшы рабіць пункцыю, Мальфаці пажартаваў:

- Я прапішу вам ахалоджаны пунш, марожанае, крэм і яшчэ фрукты з пуншам. Але будзьце асцярожны, дружа! Усё вельмі смачна, і вам захочацца болей! Не наешце сабе толькі del Ir Ium tremens, белай гарачкі! Літасцівая пані, давайце яму не болей шклянкі ў дзень, прашу вас.

Ёган ван Бетховен перабіў:

- А можа, тут варта падумаць аб D Ig Ital Is?

- Навошта? D Ig Ital Is карыстаюцца пры хваробе сэрца, а з сэрцам у вашага брата ўсё ў парадку.

- Я быў аптэкарам, гер доктар. Мальфаці зморшчыў лоб.

- Ну і што з таго?

- У D Ig Ital Is разнастайныя якасці і ўздзеянне. Мальфаці адвярнуў галаву ўбок, каб хворы нізашто не зразумеў па губах, што ён кажа.

- Пры такім вялікім сцісканні печані, пры такой брушной вадзянцы? Справа вельмі сур’ёзная. . .

Ёган упарта стаяў на сваім.

- Адзін землеўладальнік з дапамогаю D Ig Ital Is нават вылечыўся ад раматусу.

- Ну, з гэтым я, бадай, пагадзіцца магу, толькі. . . прашу ўлічыць вось што. - Мальфаці падняўся з месца. - D Ig Ital Is сваімі таемнымі сіламі ўздзейнічае толькі на землеўладальнікаў, а не на кампазітараў.

- Гузічак, гэта адзін з самых цудоўных лістоў, якія я калі-небудзь атрымліваў. Толькі твае мама і тата такія добрый да мяне, як твой дзядзька Франц Вегелер і цётка Элеанора. Ну і, зразумела, ты. Але пра гэта нават і гаварыць не варта.

- Што яны там пішуць?

- Запрашаюць у госці. Дзядзька Франц раіць паехаць далячыцца ў Карлсбад, куды ён заедзе па мяне. Потым мы паедзем да Вегелераў у Кобленц, а адтуль у Бон. Цётка Элеанора прытрымліваецца аднак крыху іншае думкі. Слухай, як хораша яна піша: «Навошта спачатку ехаць лячыцца ваннамі? Прыязджайце да нас і паглядзіце спачатку, што можа зрабіць айчыннае паветра». Ах, паветра айчыны! Бон сёння здаецца мне залатым горадам.

Гузічак старанна і даволі доўга крэмзаў нешта на паперы і потым аддаў яе Бетховену.

- Ведаеш, я паеду з табою ў падарожжа! Ты прападзеш без мяне. Табе патрэбен чалавек, які можа быць карысны то ў адным, то ў другім месцы. З нашага падарожжа ў Лондан нічога не выйшла, і вось цяпер мне хочацца, прынамсі, пазнаёміцца з Бонам. Мама лічыць, што гэта ўжо нейкая манія. Што ёсць пабачыць у Боне?

Бетховен падняў на лоб акуляры.

- Што, пытаешся? Ну хоць бы дом з папоўскім капелюшом. . .

- Наш стары дом. . .

- . . . а ў садзе мы, хлопчыкі, часта стралялі з лука ў мішэнь Жылі мы на Рэйнгасэ ў пекара, і я не раз стаяў у яго за прылаўкам і прадаваў булачкі. Яшчэ ёсць там цэрквы, v якіх я іграў на арганах, ёсць замак, у якім я быу прыдворным музыкантам. А ты ведаеш, што я, як прыдворны музыкант, насіў пазалочаную шпагу?

Герхарт ускочыў з месца.

- Мне трэба зноў бегчы ў школу! Хто толькі выдумаў гэтую школу! А пра пазалочаную шпагу ты мне раскажаш калі-небудзь многа-многа. - І ён куляю вылецеў з пакоя.

Праз нейкі момант зайшоў Шындлер і паказаў галавою на дзверы.

- Ён там.

- Скажыце яму, няхай зойдзе. А самі тым часам паклапаціцеся пра ахалоджаны пунш.

Памочнік выйшаў. Увайшоў малады, нізенькі, непрыкметны на выгляд чалавек, схіліўся ў глыбокім пакорным паклоне, спыніўся каля дзвярэй, збянтэжана папраўляючы акуляры.

- Падыдзіце бліжэй! І сядайце! Не, не гэтак афіцыйна і далёка. Вось сюды да мяне на краёчак ложка! Мне тут не цесна. Мае ногі і так ужо як губкі, яны нічога не чуюць. Вунь там вазьміце сшытак і аловак, каб запісваць пытанні. Мой памочнік сказаў, што вы ў захапленні ад мяне. Мне нават цяжка ўявіць гэта! Зірніце як след на мяне, як я тут ляжу і што тут ляжыць. Я гэта ведаю, і мне не трэба люстэрка. Калі ласка, захапляйцеся і цешцеся з мяне! - Ён прыжмурыў вочы. - Усё яшчэ баіцеся? Ну, давайце тады пазнаемімся адзін з адным. Гэта не проста ветлівыя фразы, якімі мы абменьваемся паміж сабою. Мне не да гэтага. - Наведнік не зводзіў з яго вачэй, і Бетховен буркнуў: - Калісьці мяне звалі «каралём фартэпіяна», на жаль, адны толькі невукі. Сёння я лічу сябе - вы мяне разумееце, праўда ж? - я лічу сябе яшчэ хіба толькі каралём аркестра, сімфоніі, хоць гора-спецыялісты, а не нейкія там нязначныя асобы, і не згодны з гэтым! А вы хто такі? Калі вам важна ведаць маю думку, то я назваў бы вас «каралём песні». Гэтакая класіфікацыя, скажу шчыра, крыху абмяжоўвае, але, думаю, што няблага быць і каралём песні! Сядзіце, сядзіце, малады чалавек! Тут нас ніхто не чуе, і таму можна хоць раз не баяцца і выказаць свой асабісты погляд. Адкуль вы родам і колькі вам гадоў? Напішыце свой адказ.

- Ліхтэнталь паблізу Вены, дваццаць дзевяць гадоў.

- У вас быў настаўнік? Усё адно як і не было? Хто?

Прачытаў адказ:

- Ружычка і Сальеры.

- Папраўдзе - тады вучэнне не было такое доўгае, і гэтыя пустазвоны не нарабілі вам шкоды. Вы ведаеце, як я натрапіў на вас? Гэта нават і не мая асабістая заслуга. Я тыднямі ляжу вось тут як прыкаваны і, вядома, нуджуся. Мне падаравалі раскошнае выданне Гендэля, сорак тамоў, а цяпер Гендэля я ўжо ведаю на памяць. І вось аднойчы Шындлер прынёс мне вашы песні, якія вы мелі ласку пазычыць яму для мяне. Кажаце, што напісалі ўжо пяцьсот песень? Гэтага не ведае ніхто ні ў Вене, ні дзе-небудзь яшчэ! А якія песні- «Лясны цар» і «Вандроўнік»! Праўда, шкада, што я не магу зайздросціць! Я пазнаёміўся і з музыкаю да вашае «Разамунды», і з некаторымі вашымі інструменталышмі кампазіцыямі.

Увайшоў Шындлер з ахалоджаным пуншам, паставіў яго на тумбачку. Пасля таго як ён пакінуў пакой, Бетховен шапнуў госцю:

- Зрабіце мне прыемнае, калі ласка, і паласуйцеся ахалоджаным пуншам. На думку доктара Мальфаці, ён мне ўсё роўна як эліксір жыцця, і спачатку яно мне так і здалося. Але я пераеў. Не саромейцеся, ешце, рэч не толькі смачная, але разам з тым і вельмі пажыўная яда, а вы - прашу мне прабачыць, я не хачу гаварыць вам непрыемнае - на выгляд трошкі галодны, праўда?

Бетховен глядзеў, як яго наведнік прагна падносіў лыжку да рота.

- Між іншым, некаторым вашым інструментальным кампазіцыям чагосьці яшчэ не хапае, я сказаў бы, «апошняга глянцу». Тлумачыцца гэта дэталькамі тэхнікі, а іх жа можна вывучыць. І набыць гэта вы павінны, вядома, не ў Сальеры. А гэта зноў-такі пахвала вам. Гаворка ідзе аб правільным кантрапункце, аб нейкай драбязе, але без яе не абыдзешся, як шавец не можа абысціся без скуры, а кравец - без нітак. Я магу вам даць пасля, як папраўлюся, некалькі ўрокаў? Вядома, не за грошы. . . - Ён з асалодаю адкінуўся назад і захіхікаў: - Так, так, вось ён які, ахалоджаны пунш! Ён дае сябе знаць вельмі хутка. І, бачыце, «кароль песні» ўжо вые. Але цяпер мяне ўсё-такі бярэ стома. Прыйдзіце да мяне другім разам. Я думаю, што ўрокі мы пачнём тыдні праз чатыры. Калі я. . . не выберуся ў падарожжа. . .

Няўжо прайшлі ўсяго толькі тыдні? Час хваробы здаўся яму тысячаю блытаных, пакутліва пераплеценых гадоў. Каля ложка стаяў Мальфаці і пісаў:

«Паспрабуем нешта новае. Купанне ў настоі сена, хоць сена на гэта ваш брат Ёган даць адмовіўся. Ён прыхільнік D Ig Ital Is. Ну, замест старога сена я вазьму лепей свежых бярозавых галінак. Бярозы ў гэтыя першыя цёплыя веснавыя дні пусцілі добрыя парасткі. Я ўсё яшчэ перакананы, што ваш арганізм атручаны лекамі, якія вам давалі раней. Цэлых семдзесят пяць пляшачак! - і мне хочацца, каб усе яны выйшлі з вас потам. Вы не проці?»

На кухні санітары грэлі ваду. Паставілі ванну, і на не наклалі бярозавых галінак. Пацыента паднялі з ложка і пасадзілі над параю на дошку; потым яго цела захуталі ў прасціну. Д-р Мальфаці сачыў за часам. Нарэшце ён прасунуў пад прасціну руку.

- Вы ж нават не пацееце!

Раптам Бетховен паваліўся. Мальфаці загадаў зноў палажыць яго ў ложак.

- Дзіўна! Адбылося якраз не тое, што трэба. Відаць, яго цела ўвабрала ў сябе, вадзяныя выпарэнні.

Прачнуўшыся праз некалькі гадзін, Бетховен неспакойна пазваў:

- Дарагі Шындлер. . .

Зайшоў Бройнінг.

- І я таксама тут, Людвіг.

- Гэта добра, Стэфан. Дарагі Шындлер, мне неадкладна трэба прадыктаваць ліст. Геру Штумпфу ў Лондан. Я яшчэ не падзякаваў яму за збор твораў Гендэля. Можна мне. . . пачаць? Якое сёння чысло?

- Восьмага лютага дваццаць сёмага года.

- Хацеў бы ведаць, колькі часу асталося мне жыць і ў які дзень яно будзе? Калі ласка, пішыце, Шындлер, і будзьце цярплівы, таму што справа пойдзе вельмі марудна.

«Высокашаноўны сябар!

Якую вялікую прыемнасць далі мне прысланыя вамі творы Гендэля. Вы іх мне нават падаравалі, зрабіўшы папраўдзе каралеўскі падарунак! Маё пяро не можа. . . апісаць гэта! На жаль, ужо з трэцяга снежня і да сённяшняга дня я прыкаваны да ложка брушною вадзянкаю. Можаце ўявіць сабе, у які стан гэта прыводзіць мяне! Звычайна я жыву толькі. . . плёнам працы майго розуму, за гэта набываю ўсё для сябе і Карла. На працягу двух з паловаю месяцаў я, на жаль, не меў сілы напісаць хоць адну ноту. Майго даходу хопіць толькі, каб. . . заплаціць за паўгода кватэрную плату. Потым у мяне астанецца яшчэ некалькі сотняў гульдэнаў у венскай валюце! Уявіце сабе гэта, уявіце і тое, што цяпер яшчэ нельга нават пэўна сказаць, калі скончыцца мая хвароба і ў мяне нарэшце будзе магчымасць паплыць адразу на ўсіх парусах. . . на Пегасе па небе! Доктар, хірург - за ўсё трэба плаціць.

Я даволі добра помню, што некалькі гадоў назад філарманічнае таварыства хацела даць на маю карысць канцэрт. Палічыў бы цяпер за шчасце, калі б такая мара нарэшце здзейснілася. Можа, я быў бы выратаваны ад немінучай галечы. Я напішу пра гэта і геру Смарту. І калі вы, дарагі сябар, што-небудзь можаце зрабіць, то прашу вас аб адным: аб’яднацца ў гэтай справе з герам Смартам. Я напішу і Машэлесу, і калі аб’яднаюцца ўсе мае добрыя сябры, то, думаю, з гэтае справы што-небудзь ды выйдзе. Яшчэ раз напамінаю вашаму зычліваму сэрцу маё толькі што абрысаванае становішча, зычу вам усяго добрага і застаюся з найлепшымі пажаданнямі.

З глыбокаю павагаю ваш. . . » Бройнінг падышоў да Бетховенавага ложка.

- Людвіг, такога ліста адсылаць нельга. У цябе ж яшчэ ёсць сем акцый.

- Праўда, ёсць, мае трафеі з «Бітвы пры Віторыі». Але хай хоць яны астануцца мне.

- Твой ліст, Людвіг, аднак нагадвае выпрошванне міласціны жабраком. А ў чалавека павінна быць. . . пачуццё сораму.

Бетховен заплюшчыў вочы.

- Значыцца, вось як - я, я павінен мець пачуццё сораму, але ў адносінах да мяне венцы, чалавецтва, якое складаецца з людзей, наўрад ці калі выказвалі нешта накшталт пачуцця сораму. А чаго толькі я не пісаў, не кідаў ім?! Фартэпіянныя канцэрты, скрыпічны канцэрт, сімфоніі, квартэты, санаты. . . - Усё мацней яго ахоплівала хваляванне, ён аж хрыпеў ад слабасці. - А там часам пападалася сёе-тое і даволі прыгожае, ты ж сам гаворыш пра гэта! А ці жыў я калі ў раскошы або ці марнаваў грошы? Самае болшае - на падарожжы на воды, якія мне. . . ты ж ведаеш гісторыю з маёю глухатою! Праўда, галадаць я не галадаў. Але паглядзі на маю кватэру. Нават і ты, чалавек выхаваны, назавеш яе небагатаю. Ці ж я піў або гуляў у карты? Заві мяне непрактычным, процілегласцю генія ў гаспадаранні, але ў астатнім. . . Стэфан, я заўсёды быў чалавекам бедным, хоць і музіцыраваў у князёў і графаў. . . можа, ты назавеш мяне як бы прыдворным блазнам, які іграў музыку? Я даваў урокі музыкі няздольным вучням, а гэта самае пакутлівае, што бывае ў жыцці мастака. А ў прамежках я ўвесь час працаваў, працаваў, навошта? Каб цяпер, на старасці гадоў, не мог нават заплаціць дактарам? Стэфан. . . падымі руку, у знак клятвы, ты ж ведаеш, дзе схаваны акцыі. Шындлер гэтага не ведае, і гэта - барані божа! - ні ў

якім разе не знак недаверу, дарагі Шындлер! Стэфан, вось што: паклятся, што нікому не скажаш пра акцыі, ніводнага слова! Вядома, калі дактары?. . Але на маё пахаванне не трэба траціць ніводнага крэйцэра, нават калі мяне закапаюць, як Моцарта, сярод бедных. Ты паклянешся цяпер?

Бройнінгавы губы задрыжалі.

- Ці ж я калі-небудзь быў няверным сябрам? Я клянуся.

Вясны затрымаць было нельга, нельга было і сцвярджаць, што яе няма, нават калі супраць гэтага былі б усе рэцэнзенты, спецыялісты-разумнікі і зайздроснікі; і ў яркім сонечным святле яна даносіла ў пакой хворага гукі фанфараў. Бетховен сядзеў каля акна ў старым скураным спальным крэсле, захутаны ў коўдры, паглыблены ў роздум.

Вясна! Ці не напісаў ён аднаго разу нешта для фартэпіяна і скрыпкі, чаму сябры далі назву «Вясенняя саната»? Ён цьмяна ўспамінаў абставіны, калі яму пашанцавала стварыць гэтую вясеннюю першую частку. Звязана яно было з Жазефінаю, сонечнаю іскаркаю ў ягоным жыцці. Яна прамільгнула - як адна з тых пылінак, што блішчаць цяпер золатам на сонцы і зноў патухаюць, як і ўсё пасля надта кароткага падарожжа па краіне спадзяванняў і імкненняў. Ён глядзеў на шырокую плошчу перад домам чорных іспанцаў, чакаў і ўсвядоміў гэта толькі праз нейкі момант. Не, праўда, болей не пад’язджала, як у мінулыя часы, ніводнай брычкі. Ніхто не прыходзіў, ніхто - усё прайшло, патухла. Франц Брунсвік ажаніўся на мяшчанцы, якая зачаравала яго ігрою на фартэпіяна. Добра, Франц. А што з Тэрэзаю Брунсвік? Ён і ад яе ўжо даўно нічога не чуў. Усміхнуўся. Што яна калісьці паслала і напісала яму - здаецца, карціну? «Арол глядзеў на сонца». Арол?! Тут на сонцы грэўся стары абскубаны арол, хоць ён і дрыжаў ад холаду і слабасці.

Што там за брычка паварочвае на плошчу? Прыехаў д-р Мальфаці.

Доктар сеў напроці Бетховена.

- Як у нас справы?

Яны даўно прывыклі адзін да аднаго, да мовы губ.

- У вас даволі стомлены выгляд, доктар.

- Вельмі многа работы, дый свайго ўсякага клопату хапае.

- І мне гэта вядома, прынамсі, з мінулага: б’ешся-б’ешся над чым-небудзь, а яно ніяк не выходзіць; ты ж усё роўна імкнешся дабіцца свайго. На жаль, чалавек не ўсемагутны, і тым не менш не павінен з-за гэтага скарыцца перад лёсам. Я ведаю, што цяжка і вам, і добра магу ўявіць сабе гэта, бо ў нас абодвух ёсць сёе-тое агульнае. Па пачуццях і прызванні я музыкант, як вы па пачуццях і прызванні - доктар.

Мальфаці стомлена махнуў рукою.

- Якраз тады, калі мне хочацца паказаць які-небудзь шэдэўр, я бачу, што няздольны зрабіць гэтага.

- Пара навучыцца задавольвацца тым, што ёсць, мой мілы сябар.

- Бетховен, вы завяце мяне сваім мілым сябрам?

- А я, Мальфаці, і ёсць ваш удзячны сябар. Яшчэ раз гавару вам: суцешцеся. Пара навучыцца задавольвацца тым, што ёсць. - Ён доўга глядзеў услед Мальфаці. Ці зразумеў той яго? Мальфаці ўсё яшчэ не хацеў здавацца. А мог ён пайсці на гэта? Але ж усё безнадзейна. . .

З суседняга пакоя высунулася Шындлерава галава, і Бетховен папытаўся:

- Вы знайшлі-такі? І мне цікава, хочацца ж пабачыць, што вы там выкапалі з кучы нотаў.

З тоўстым пачкам нотаў увайшоў Шындлер:

- Можна мне ўзяць іх?

- Бярыце ўсё. А што там? Падайце мне акуляры.

Бетховен доўга прыладжваў іх на носе.

- Квартэт до-дыез мінор, а яшчэ што? Шындлер!

- Можа, гэта вельмі нясціпла?

Бетховен засмяяўся.

- Ну і памочнікі ў мяне падабраліся, вы і Гольц! Гольц не ведае, што робіць, бо закаханы, а вы на памяць аба мне шукаеце партытуру Дзевятай сімфоніі, у якой «благая рэпутацыя»! Стойце, мне ў галаву прыйшла адна думка. У гера фон Бройнінга ляжыць яшчэ партытура «Фідэліо». Схадзіце хутчэй па яе, Шындлер. Добраму Стэфану таксама хочацца штосьці мець на памяць пра мяне.

- Маэстра!

- Ну, добра, Шындлер. Я ж памру не цяпер, а, вядома, праз многа гадоў! Але не магу я пакінуць гофрату старыя, напісаныя ад рукі партытуры. Не, яму трэба пашукаць чаго-небудзь больш каштоўнага. Толькі. . . што ў мяне ёсць?

Гэты раз укол вельмі балеў, бо запалілася тканка жывата, а потым, калі ў суседнім пакоі паны праводзілі свой чарговы кансіліум, зноў цякла вада. Што там толькі было гэтак старанна абмяркоўваць? Яны ўсё гаварылі, а з канюлі, што пакінута была ў ранцы, цякла вада, лілася з ложка на дыванок і расцякалася далей па падлозе. Нарэшце паны пайшлі, а перад гэтым яны хуценька і аднадушна яшчэ раз прадэманстравалі яму маску, тую, што легка адгадваецца, маску ўпэўненасці, і яму прыйшла ў галаву цытата, што ўрэзалася ў памяць яшчэ ў Боне, з падручніка для пачаткоўцаў, і ён, убачыўшы Шындлера, сказаў: «Plaud Ite, am Ic I, comed Ia f In Ita est! - Апладзіруйце, сябры, камедыя скончана. »

Шындлер задумаўся. Камедыя скончана? Не, маэстра, мабыць, меў на ўвазе толькі тое, як урачыста разышліся дактары. Ён жа не мог ведаць, што яны перасталі змагацца за яго.

Пасля абеду, размахваючы пісьмом, прыйшоў Герхарт.

- Думаю, што ты абрадуешся, дзядзечка Людвіг. Зноў нешта прыйшло з Лондана ад нейкага гера Машэлеса.

Надзеўшы акуляры, Бетховен паспрабаваў чытаць.

- Прачытайце вы, Шындлер. Мае вочы трошкі затуманіліся.

- Гер Шындлер пайшоў ужо, але на кухні мама. - Фраў Канстанцыя якраз несла паднос. Яна прагледзела напісанае, а Бетховен тым часам палахліва сачыў за яе мімікаю.

- Герхарт, перакладзі яму губамі, бо ў цябе гэта выходзіць лепей. Спачатку скажы самае галоўнае: што Лонданскае філарманічнае таварыства пасылае яму сто фунтаў. На філіял Ротшыльдаўскага банка. Там іх у любы момант можна забраць або часткамі, або ўсе.

- Арыэль! Цяпер табе трэба быць сапраўдным Арыэлем, гузічак! Хочаш зрабіць мне ласку? Філіял банка яшчэ адчынены?

- Я збегаю, дзядзечка Людвіг. Каторы цяпер час? Ну, часу ў мяне яшчэ шмат - цэлых дзесяць мінут.

- Да цэнтра горада? Гузічак, папытайся таксама, ці праўда, што я магу забраць усю суму ў тысячу гульдэнаў. Бо я менавіта баюся, што грошы, як і ўсё ў маім жыцці, зноў знікнуць. . .

- All r Ight, S Ir. Калі мне іх дадуць, я адразу ж вазьму іх з сабою. Ты маеш рацыю, дзядзечка Людвіг: што ў кішэні. . . - І толькі яго і бачылі.

Бетховен дыхаў цяжка.

- Фраў Канстанцыя, пастаўце, калі ласка, гадзіннік так, каб я мог сачыць за стрэлкаю. І, прашу вас: не лічыце мяне сквапным. Проста парадавала сяброўская спагада. Якое сёння чысло?

- Васемнаццатага сакавіка.

- Васемнаццатага сакавіка?! Лісток календара выкідаць не будзем, бо гэта шчаслівы дзень.

Прайшло ўжо дваццаць пяць мінут. Нарэшце паказаўся гузічак, і па яго губах і выразу твару Бетховен зразумеў, што ён выводзіць нейкую меланхалічную мелодыю.

- Ад мяне гэта не залежала, дзядзечка Людвіг. Тата паўзе, як чарапаха. Я яго сустрэў па дарозе і ўзяў з сабою. Яму, геру гофрату, грошы, вядома, аддалі. Усю тысячу гульдэнаў. Мне не далі.

У пакой уляцеў запыханы Стэфан Бройнінг.

- Нясе цябе, Герхарт, як ветрам! Ну і навучыўся ты бегаць! А вось і твой скарб, Людвіг. - Ён кінуў на ложак пачак грошай.

- Забяры іх, Стэфан. Я хачу ўстаць і працаваць. Я штосьці павінен напісаць для філарманічнага таварыства, дзесятую сімфонію або нешта падобнае. Ты мяне зразумееш, Стэфан! Венцы не зразумелі, але англічане, бачыш, зразумелі! За іхнюю тысячу гульдэнаў я хачу выказаць ім сваю ўдзячнасць ста тысячамі гульдэнаў і фунтаў у музыцы.

Раптам з’явіўся доктар Мальфаці.

- Справы ў нашага пацыента, здаецца, ідуць лепей? Бетховен паспрабаваў падняцца.

- Ад радасці, доктар! Ад вялікае радасці! А зараз. . . я ўстану і буду працаваць, з радасці і дзеля радасці.

Ён зноў апусціўся на ложак. Мальфаці ўсміхнуўся яму:

- Пачакайце. Я дам вам папіць крыху лекаў, і вам стане лепей. - З нейкае пляшачкі ён выліў у шклянку з вадою некалькі кропляў і даў Бетховену выпіць. - Вось так, а цяпер пачакаем толькі дзеяння.

Калі ў Бетховена пацяжэлі павекі, Мальфаці жэстам паказаў гофрату, каб той ішоў за ім у суседні пакой.

- Цяпер ён засне. Канец ужо відаць. Вядома, я не магу назваць дакладна дзень і час. А потым я баюся, што з сваім сэрцам, сэрцам-цыклопам, ён доўга будзе змагацца са смерцю. І ўсё ж лічу мэтазгодным падумаць пра сабораванне. Можа, вы, гер гофрат, яго лепшы сябар, скажаце яму пра гэта?

Бройнінг здрыгануўся.

- Я? Не, немагчыма, я гэтага не магу зрабіць.

- Я чакаў такога адказу, і сам таксама не змог бы. Прыйдзецца, мабыць, даручыць гэта Ваўруху.

Бройнінг сутаргава ўчапіўся за спінку крэсла.

- Божачка, а ён жа сёння толькі што перажыў такую радасць. Ён цяпер адчувае, яму, прынамсі, здаецца, што ў яго ўлілася новая жыццёвая сіла! Ці можа. . .

Мальфаці ўзняў бровы.

- Вы, пэўна, помніце, што сказаў гер фон Гётэ: «Ніхто яшчэ не памёр, не даўшы згоды на сваю смерць». Здаецца, ён гэтак сказаў, але гэтыя прыгожыя і ў пэўным сэнсе глыбакадумныя словы можна прымаць, на жаль, толькі cum grano sa Ils, гэта значыць, не зусім даслоўна. Смерць у кожнага, хто трапляе ў яе рукі, не пытаецца згоды.

- Гер доктар Мальфаці. . .

- Разумею. Вы спадзяецеся, што я памыляюся.

Доктар доўга і лагодна глядзеў на Бройнінга.

- Вы ведаеце, што гер ван Бетховен аднойчы прагнаў мяне з хаты, назваўшы «няшчасным невукам» і «шарлатанам»? Гер гофрат, паверце, я быў бы шчаслівы, калі б са мною цяпер папраўдзе здарылася такое.

Прайшло некалькі дзён. Пачуўшы, што Бетховен паварушыўся, Бройнінг пайшоў да яго ў пакой, трымаючы кардонку, на якой вялікімі літарамі было напісана: «A la bonne heure, Людвіг! Вось гэта мне падабаецца! Спіш, як мядзьведзь! Праспаў цэлыя суткі і яшчэ болей! Як ты сябе адчуваеш? »

Бройнінг спалохаўся. Нават яму, неспецыялісту, кінулася ў вочы, што сябар дзіўна змяніўся. На жаўтавата-чырвоным твары выступала нейкая мудрасць, якая не спяшалася адразу ставіць пытанні і адказваць на іх, а вагалася, паводзіла сябе неяк стрымана. Вочы запалі, толькі цяпер гэтыя таямнічыя вялізныя цёмныя вочы, здавалася, былі ахутаны павуцінаю. Сківіцы выпіраліся, як масты самаадрачэння, а бугаркі на лбе сталі маленькімі ўзгоркамі, ад чаго рэзка вызначаліся высокія і нізкія мясціны. Сівыя зблытаныя валасы на падушцы нагадвалі параскіданыя каменьчыкі, голас гучаў невыразна і слаба і тым не менш неяк асабліва пранізліва.

- Стэфан, прабач, што я раблю вам гэтульки клопату. У мяне ў роце зусім перасохла.

- У нас ёсць цяпер процi гэтага добры сродак. - Бройнінг паказаў на некалькі пляшак, што стаялі на стале каля ложка. - Першая партыя віна, якое ты заказаў у Майнцы ў Шота. Гэтыя пляшкі прыйшлі вельмі хутка.

- Надта позна. - Тут хворы заўважыў Мальфаці, і яму захацелася крыху парадаваць яго. - Бо мяне тым часам цягне да другога. Мне цяпер хочацца ахалоджанага пуншу.

Падаў голас Герхарт.

- Можа, збегаць у кандытарскую і прынесці шклянку, дзядзечка Людвіг?

Глыбокая мудрасць задумалася. «Чаму не парадаваць доктара яшчэ болей?»

- Усяго адну шклянку?

Мальфаці згадзіўся:

- Прынясі дзве, калі яму так хочацца.

Бройнінг зразумеў, што азначала адмена строгіх прадпісанняў, і запярэчыў, бо ўсё яшчэ не хацеў губляць надзеі:

- Гер доктар. . .

Мальфаці, павярнуўшыся да хворага спінаю, сказаў:

- Fades h Ippocrat Ica. Маска Гіпакрата. Беспамылкова, гер гофрат.

- Тата, што гэта такое «fac Ies»?

- Ціха, не варушы губамі! Доктар пагладзіў яго па валасах.

- Ідзі, хлопча. І глядзі не разлі ахаладжанага пуншу. Асцярожненька нясі. Спяшацца не трэба.

Бетховен неспакойна кідаўся на ложку.

- Я чакаю. . . калі застукаюць конскія капыты і паедзе экіпаж. Але яго я не пачую. . . - Ён павярнуў галаву ўбок, і ў яго вачах відны былі здзіўленне і нерашучасць, як бы ён у штосьці не мог паверыць. Бо яго раптам абкружылі вобразы і, як клубы пары, напаўнялі пакой, раствараліся ў ім, а потым узнікалі зноў. Ён папраўдзе чуў зноў, гэтак жа добра, як у дзяцінстве, а можа, нават і лепей, бо сёння, з вышыні свайго веку - ён паспрабаваў зразумець гэты феномен - ён чуў тое, што было аж у дзяцінстве. . . Гэтае хрумстанне, калі маленькая Лянора грызла сухія пернікі. . . яе зубы блішчалі, яна жавала і гаварыла, крыху зморшчыўшы носік: «Сімфоніі мне зусім не падабаюцца. Лепш за ўсё імпануюць мне уверцюры. . . Ну, а калі ты аднойчы станеш такім славутым, як гер Мансіньі, Людвіг?» - Гэты горкі смак у роце. . . Прынамсі, яго месца ў гісторыі музыкі ніхто, мабыць, аспрэчваць не будзе. Усё зрабілася нясцерпным. . .  І галовы фігур таксама змяніліся. . . сталі нагадваць птушыныя дзюбы; птушкі пішчалі, шыпелі, выгукваючы свае няўдачы. Аднак. . . граф Вігоўскі паводзіў сябе стрымана, бо ён добра ставіўся да яго, да Бетховена. Чаму ён увесь час згінаецца ў паклонах, хоць ужо тры ці чатыры гады як ён нябожчык? Гэтак, гэтак доўга. . . А вось і тэатральная зала, дзе ўпершыню ім, Бетховенам, выконваліся Пятая і Шостая сімфоніі, дзе ігралі яго фартэпіянны канцэрт соль мажор. Зала пустая, разяўленая бяззубая пашча. . . усе слухачы збеглі ад музыкі, і зрэшты ў паклоне сагнуўся адзін толькі граф Вігоўскі, нябожчык, сагнуўся вельмі прыстойна.  І як потым ён сам прыстойна згінаўся, дзякуючы за апладысменты адзінаму, апошняму наведніку, які застаўся на музычнай акадэміі. . . Яны абменьваліся кампліментамі, прыстойна, вельмі прыстойна, і яшчэ адно напаўняла яго весялосцю. «Фердынанд, я ледзь не даў вам аплявухі, бо вы збіраліся навесці крытыку на сігнальныя гукі ў «Гераічнай», назваўшы іх недарэчнымі!» Гераічная! Сальеры і другія - некаторых імёнаў ён болей не мог успомніць - апладзіравалі з асалодаю, бо чалавек на галерэі падскокваў і ўвесь час крычаў: «Тут жа заплачу крэйцэр, толькі спыніце гэтую амаральную сімфонію!»  І добра, што наперад ступіў дзядуля: «Людвіг, нам пара ехаць на пароме». Рэйн зіхацеў, але гэта было зноў нешта другое, а не Рэйн. Бо рэчка была вузкая-вузкая, як лязо нажа, і даўжыня яе адначасна як бы падзяляла кантыненты. На адным баку побач з цёткаю стаяла дзяўчынка, махала на развітанне хусцінкаю, а на тым баку чакаў. . . Добра, зараз! Паром вось-вось адыходзіць. Паромшчык ужо падае знак. . . Толькі. . . рэчка такая страшэнна шырокая, і тым не менш цераз яе перакінуты мост! А які мост! Высока ўздымаецца ён угору, па ім ірвуцца наперад людзі! Людзі. . . Папраўдзе, нейкі нязвычны мост, на ім нават хмары дзеляцца папалам. Што ў параўнанні з ім нейкі смеху варты драўляны Аркольскі масток, такі ж невялікі, як маленькі капрал, якому гэта можна прабачыць, хоць ён надзеў сам на сябе імператарскую карону. Гэта яго. . . драўляны Аркольскі масток! Але я. . . я дазволіў свайму чорнаму дразду падаць голас толькі на восемдзесят дзевятым такце! Вось гэта ўлада! Варта маім брывам варухнуцца - і чорны дрозд пачынае спяваць у фартэпіянным канцэрце сола на скрыпцы!  І для людзей, што бягуць па мосце! А паток унізе, які гэта паток!. .

Ён падкідваў сваю чорную ваду, з якое курэў дымок, аж да самага мастка! Трэба было памагаць, адольваць ваду агнём. Метал для звана з шыпеннем і шумам струменіў у форму, а. . . чаго там кленчаць людзі? «Dona nob Is pacem! M Ір. . . мір. . . дайце нам нарэшце мір!» - Малітва без дзеяння?. .  І. . . мір будзе толькі на тым свеце, у. . . нябесным царстве? Уставайце, уставайце! Вунь там ужо відаць і запаветная зямля без войнаў! Без гэтых праклятых войнаў! Уставайце і мчыцеся далей! Пакіньце старое! Развітайцеся, заспявайце «Chant du depart»: «La v Icto Ire en chantant nous ouvre la bar-r Iere - et du nord au m Id I la trompette guerr Iere». - Вас скасіла праклятая вайна, што дымком уздымаецца ўгору з чорнае вады? Тады я прывяду ў дзеянне маю лепшую гармату. За мной! Бачыце, як яны збіраюцца ў дарогу, як усё заварушылася! Мольта вівачэ - з усіх бакоў рух! Я ўбачыў і паказаў гэта ў сваёй Дзевятай, і няхай так і будзе! Сяляне, рабочыя, працоўныя, добрыя людзі. . . усе яны ідуць, і цяпер. . . цяпер ад вашых крокаў дрыжыць мост?. . Але ён вытрымае вас! Наперад! Бяжыце, бяжыце бяжыце, браце, ваша дарога. . . Радасна, як герой насустрач перамозе. . . Бясконца фа, фа, фа!

Як адгукаюцца громам вашы святыя крокі, вось гэтак!. . За мной. . . Абдыміцеся,

мільёны. . . Пацалунак усяму свету!
Мая Дзевятая!
Ён паваліўся на спіну і захрыпеў.
Мальфаці паслухаў грудзі, стомлена падняўся.
- Гэта агонія. Ён памірае. Але сэрца ў яго неўміручае. . .
Прайшлі ноч і дзень, і яны ўчатырох мяняліся каля ложка: Бройнінг, Шындлер, Гольц і гер Анзельм Гютэнбрэнер, які прыехаў з Граца наведаць свайго сябра Франца Шуберта. Шындлер, сустрэўшыся з Шубертам, расказаў яму пра ўсё, а той сказаў маладому Гютэнбрэнеру, які адразу ж згадзіўся замяніць Шуберта, вельмі ўражанага навіною, што Бетховен памірае. На кожнага прыйшлося такім чынам па шэсць гадзін, і рукам тады амаль не было ніякай работы, але прыходзілася затое вытрымліваць жахлівае хрыпенне непрытомнага.
У першую ноч Бройнінг паспрабаваў чытаць у суседнім пакоі, але літары блыталіся. . . Нарэшце пачало днець, і прыйшоў Шындлер.
- Ну, як яно тут, гер гофрат?
- Нічога не перамянілася.
- А не Гольцава цяпер чарга?
- Гольц прыйдзе ў дванаццаць гадзін, а ў шэсць увечары - гер Гютэнбрэнер.
- Я тым часам таксама пару разоў зазірну сюды, і, можа, нам нават удасца пасядзець каля яго хоць удвух, бо. . .
Шындлер прыслухаўся да таго, што даносілася з суседняга пакоя.
- Разумею, гер гофрат, бо аднаму боязна.
- Мне брыдка, бо ён жа мой лепшы сябар.
- Але смерць аддаляе, гер гофрат.
- Да таго ж ён памірае. . . як волат. . .
- Такім, як і быў у жыцці.
Увечары іх сабралася ўтрох, і яны непакоіліся, што чацвёрты, Гютэнбрэнер, пазніўся да пачатку свае змены.
- Дзе толькі прападае гер Гютэнбрэнер? Незразумела. . . Бройнінг у гэты час гартаў каляндар, як бы шукаючы ў ім адказу на пытанне.
- Сёння дваццаць пятае сакавіка. Калі. . . Шындлер паціснуў плячыма.
- Калі спыніцца яго сэрца, гер гофрат, яго. . . неўміручае сэрца.
А з суседняга пакоя даносіліся хрыпы і стогны. . . Бройнінг стаяў каля акна і глядзеў на плошчу.
- Вунь едзе брычка. Як ён апошнім часам чакаў брычак, а яны ўсё не ехалі. Хіба толькі брычкі дактароў. Але гэтая?. . Слухайце, Шындлер: скажаце, грошай няма, вы нічога не ведаеце пра грошы, прысланыя з Англіі. Бо там унізе ў закрытай брычцы, якой яны не далі Людвігу, едуць гер землеўладальнік Ёган ван Бетховен і фраў землеўладальніца.
З грукатам зачыніліся дзверцы. У пакой самаўпэўнена ўвайшоў Ёган. На яго твары, поўным уласнае годнасці, намалявана было хваляванне - як і належыць у такім выпадку. І ўсё ж выглядаў ён як звычайна: плячо тарчала наперад, твар перакрыўлёны іранічнаю ўсмешкаю. На дварэ было ўжо цёпла, і ён насіў баваўняныя рукавіцы з надта доўгімі пальцамі. Спыніўся каля ложка.
- Праўда, ён памірае. Калі б гэты звышразумны доктар Мальфаці ўсё-такі паслухаўся мяне і прапісаў яму D Ig Ital Is!
Нарэшце ён адвярнуўся.
- Дазвольце папрасіць ключы. Бройнінг не зразумеў.
- Якія ключы?
- Ад яго шафаў. Я хачу ўзяць на збераженне акцыі. Дзе яны?
- Акцыі? Я нічога не ведаю пра іх.
- А вы, гер Шындлер?
Той таксама прыкінуўся здзіўленым:
- Якія акцыі?. .
- Можа, вы ведаеце, гер Гольц?. .
Той падняў руку, бо ў гэты час Бетховен, як бы задыхаючыся, захрыпеў.
- Гер гофрат, памажыце мне, калі ласка. Давайце паспрабуем. . . асцярожна. . . прыўзняць

яго.

Фраў ван Бетховен зарагатала.

- Нават забыліся адказаць, дзе паперы і ключы. - Яна працягнула руку да тумбачкі. - Ключы тут. Ёган, не дай сябе падмануць ні за нюх табакі. Яны добра ведаюць, дзе акцыі, але цяпер мы іх пашукаем самі.

Адчыніўшы шафу, яна перакапала ўсе паліцы, аблазіла кішэні гарнітураў і потым кінула іх на падлогу.

- Акцыі павінны быць тут. Або гэтыя важныя паны кудысьці іх ужо запраторылі. Яны жылі з ім за яго кошт. Паглядзі толькі на віно, Ёган! Мы, бедныя землеўладальнікі, ніколі не можам дазволіць сабе такога.

У голасе ў Бройнінга, калі ён адказваў ёй, гучалі абурэнне і холад, бо гэтая жанчына яго абразіць не магла.

- Мой сябар неяк сказаў, што сваю маёмасць ён хоча пакінуць пляменніку Карлу.

Фраў ван Бетховен пранізліва засмяялася:

- Сваю маёмасць!! Зваць гэта маёмасцю! Сем нейкіх там акцый на тысячы гульдэнаў звычайнаю манетаю! Гэты. . . з мазгамі, што мяне. . .  І болей грошай у доме, мабыць, няма?

- Не, але. . . не думаеце вы, што сцэна, якую вы тут. . . агідная. . .

- Агідная, гер гофрат? Прынамсі, я не бачу тут большай агіды, чым у той камедыі, якую вы разыгрываеце каля смяротнай пасцелі. Ты чуў, Ёган? У доме ніводнага гелера! Я і чакала такога адказу. Цяпер ты бачыш, Ёган, чаму нас апавясцілі так паслужліва і клапатліва? Ты яго брат, і таму нам прыйдзецца заплаціць за пахаванне і за магілу! Але як пасцелеш, гер гофрат, так і ляжаш. . . таксама і на тым свеце. - Яна падабрала спадніцы, быццам не хочучы да нічога дакранацца. - Зараз жа хадзем адсюль, Ёган!

Яны прайшлі міма двух мужчын, якія ўжо нейкі момант чакалі ў суседнім пакоі, у змроку, што ўсё болей гусцеў. Увайшоў Гютэнбрэнер і горка ўсміхнуўся.

- А Людвіг так хацеў пабачыць яго яшчэ раз і вось пабачыў. Францль, ідзі ты да яго.

Шуберт падышоў да Бетховенавага ложка. Ён, мусіць, хацеў стаць на калені, але перад смерцю вялікага чалавека, якога ён шанаваў як майстра вышэй усіх майстроў, гэта здалося яму, мабыць, надта тэатральным. На развітанне яму захацелася толькі нясмела пагладзіць Бетховена па руцэ.

Гютэнбрэнер падбадзёрыў яго:

- Можаш спакойна зрабіць гэта, Францль. Ён болей нічога не адчувае.

Шуберт павярнуўся да сябра:

- Усё роўна гэта патрывожыла б яго, дый ніякага права ў мяне на такую вольнасць няма.

Раптам - было яно як нейкі выбух неразумнага, а з другога боку і жудасна разумна - Шуберт ірвануўся да адзежы, што ў беспарадку валялася на падлозе. Асцярожна падняў яе, дзелавіта прывёў у належны выгляд і павесіў у шафу. Потым заспяшаўся з пакоя, пабег па лесвіцы ўніз.

Назаўтра пад вечар Бройнінг папрасіў жонку:

- Ідзі сабе дадому. Ты ж ні яму, ні нам карысці не дасі.  І моцна трымай Герхарта. Людвіг дрэнна выглядае, таму я і не пусціў цябе да яго.

Фраў Канстанцыя, баязліва зірнуўшы на дзверы, за якімі чуцён быў хрып, папыталася:

- Як ты лічыш, Стэфан, колькі яшчэ?. .

- Мальфаці кажа, што, можа, праз пару гадзін, а можа, яно працягнецца яшчэ і ўсю ноч. . .

- Цягнецца і так ужо два з паловаю дні! Хто тут ёсць, Стэфан?

- Шындлер, Гютэнбрэнер і я. Падыдзе яшчэ Гольц. Трэба ж, каб яго менавіта цяпер выклікалі па нейкай патрэбе на службу. Чаму ты матаеш галавою?

- Калі падумаю, што вы, як кажуць, яго апошнія салдаты. . . А раней перад ім, бывала, схіляліся ў паклоне, яго ў захапленні віталі нават імператары і каралі. . .

- Пасля яго «Бітвы пры Віторыі» і кантаты «Слаўнае вокамгненне». . .

- Дзе ж цяпер тое слаўнае вокамгненне, калі мастакі пісалі яго партрэты, а замежныя акадэміі выбіралі яго ў свае ганаровыя члены! Мабыць, самы горкі лёс, што выпадае мастаку, - калі яго слава сыходзіць у магілу раней за яго.

- Толькі. . . ён гэтага болей не адчувае. Гютэнбрэнер зноў выцер з ілба непрытомнага пот.

- Гер гофрат, мяне непакоіць і Шуберт. Ён нейкі дзіўны. Раз за разам ён неяк загадкава

намякаў на Верынгскія могілкі і магілу, а потым сарваўся з месца і пабег. Без паліто. З яго слабымі лёгкімі і ў такое надвор’е. . .

У пакоі ўсё больш цямнела.

- Што робіцца на вуліцы! Да абеду задуха, а цяпер ідзе снег, вельмі холадна. . . Але ж паслухайце!. . - Дзесьці далёка пачуўся гром. - Веснавая навальніца.

Яны здрыгануліся, калі раптам на дзвярах моцна зазваніў званок. Бройнінг, зморшчыўшы лоб, папытаўся:

- Гер Гютэнбрэнер, можа, прыйшоў ваш сябар?

- Франц Шуберт? Той ніколі не асмеліўся б. . .

Чужыя, нейкія варожыя крокі затупалі ў калідоры - з паліто, відаць, абтрэсвалі снег, і нарэшце ў пакой увайшоў малады чалавек, нейкі момант нерухома стаяў на месцы - спалохана, а можа, з пашанаю? - і, не зважаючы на прысутных, падаўся да ложка. Нізка схіліўся перад Бетховенам і потым мілагучна, хоць жэст рукі з самага пачатку не дапускаў ніякага пярэчання, сказаў на нямецкай мове, па акцэнту якой легка можна было ўгадаць у ім італьянца:

- Сеньёры, давайце пойдзем у суседні пакой! Мне не хочацца гаварыць тут, хоць маэстра і непрытомны і. . . наогул глухі. . .

Як толькі за імі зачыніліся дзверы, незнаемы з лёгкім паклонам адрэкамендаваўся Бройнінгу як старэйшаму:

- Людавіка Крамаліні.

- Тэнар, выканаўца гераічных роляў у італьянскай оперы?

- Тут гэта не мае ніякага значэння. Я толькі хачу папрасіць вас адказаць на адно пытанне. Там. . . памірае маэстра Людавіка ван Бетховен. . . на маю думку, найславуцейшы венскі нямецкі кампазітар, хоць ягоных твораў я чуў мала. Праўда, што яго хочуць пахаваць у агульнай магіле?! Мы, італьянцы, гэтага не дапусцім.

Шындлер няўцямна папытаўся:

- У агульнай магіле?. .

- У агульнай магіле. На могілкі хадзіў нейкі сеньёр Шуберт. Там ён даведаўся, што агульная магіла гатова і чакае. У трупярні ўжо ёсць чатыры нябожчыкі. Не хапае толькі маэстра Бетховена і. . . яшчэ аднаго беднага чалавека. Сеньёр Шуберт з сеньёрам камерным спеваком Фоглем наведалі мяне і сеньёра Барбайю. Здаецца, венцы, немцы пахавалі ўжо ў агульнай магіле Вольфганга Амадэя Моцарта?

Бройнінг сканфужана кіўнуў:

- Праўду кажаце. . . Крамаліні рэзка перабіў яго:

- Вы ведаеце сеньёра Барбайю? Гэта самы славуты оперны дырэктар і імпрэсарыо ў Еўропе.  І вось ён сам -  І я ўпаўнаважаны паведаміць вам аб гэтым! - возьмецца за пахаванне маэстра Бетховена. Возьмемся мы ўсе, мы, італьянцы! Няхай венцы забылі свайго маэстра і не знайшлі для яго нічога лепшага, апроч агульнай магілы. Але мы - мы, італьянцы, будзем спяваць над яго труною, нам будзе вялікі гонар несці на плячах труну з гэтым. . . забытым чалавекам, несці не ў агульную магілу!

Бройнінг праводзіў вачыма Крамаліні, які цвёрдым кронам выходзіў з пакоя.

- Шындлер, хадзем хутчэй!

Яны памчаліся да могілак. Дома астаўся адзін Гютэнбрэнер.

Агульная магіла? Што б гэта значыла? Гютэнбрэнер зірнуў у акно. Там унізе яны шпарка прастуюць у снежнай віхуры. . .

Каго ён яшчэ бачыць? Франца Шуберта? Пэўна ж, яго. Гер Крамаліні, гэты малады, але ўжо вядомы оперны спявак, хуценька перайшоў на другі бок вуліцы, уцякаючы ад непагоды. Ён наставіў каўнер паліто. Там сапраўды Шуберт, толькі ён не можа наставіць каўнер паліто. Бо паліто ў яго няма. Як ён кашляў. . . Няўжо гэта маланка?. . Ну але, маланка, за якою загрымеў гром, усё мацней заяўляючы аб сабе сваім буркатаннем. А потым зноў круціўся снег, гэты хаос няпэўнага, у якім можна было вандраваць у думках, шукаючы чагосьці і нічога не знаходзячы.

Агульная магіла для Бетховена?. . Не, Шуберту гэта не магло прыйсці ў галаву. А як ён кашляў! Гэты рахманы, сціплы чалавек, яго сябар Шуберт. . . Ён галадаў, кашляў і пісаў музыку - увесь час.  І таксама без ніякай надзеі. Ён чакаў, нічога не патрабуючы. Ён ужо прымірыўся з лёсам, што на яго рэдка хто, за выключэннем некалькіх сяброў, звяртае ўвагу, і ўсё ж. . . нават скарыўшыся, Францль аднойчы напісаў яму як бунтар, прыкладна гэтак: «Ведаеш, Анзельм,

дзяржава павінна такіх, як я, утрымліваць, уласна, дзеля сваіх інтарэсаў!» Мастакі - яны ўсе дзівакі, а можа, і геніі, што цалкам ахвяруюць сабою дзеля чалавецтва, хоць чалавецтва і не хоча прымаць іхняе ахвяры. Наадварот, гэтыя людзі яшчэ. . . і надакучаюць чалавецтву. Каму ўжо хочацца слухаць Шубертавы песні? Варта захацець паслухаць іх, як адразу натыкаешся на адмову і нават на варожасць. Чаму? Невядома. А цяпер вось агульная магіла для бедных, у якой павінен быць пахаваны Бетховен?

Бліснула маланка, як зарніца высвеціла ў ліхаманкавых думках нешта незвычайнае. Што? Ну, пэўна ж! Усё гэта зроблена, вядома, «літасціваю фраў землеўладальніцаю», але ж ці змянілася штосьці ад гэтага - з боку дзяржавы, з боку чалавецтва? Справаю гэтае агульнае магілы для бедных зацікавілася мноства людзей, не толькі адны службовыя інстанцыі. Італьянцам, прадстаўнікам чужое нацыі, прыйшло ў галаву налажыць рыцарскае вета, і калі цяпер нейкі імпрэсарыо Барбайя возьме ў свае рукі Бетховенава пахаванне, то гэта нагадае венцам, што жыў нейкі там Бетховен, які. . . нават страшна падумаць!. . які яшчэ жывы!

Гютэнбрэнер хуценька павярнуўся кругом. Ці жывы яшчэ Бетховен наогул?. . Жывы. Чутно яго паспакайнелае дыханне. Ён, Анзельм Гютэнбрэнер, таксама лічыць сябе гарачым Бетховенавым прыхільнікам, ён улюбёны ў яго музыку, ало ўсё-такі не разумев свайго сябра Францля, які яшчэ зусім нядаўна праз слёзы гневу сказаў: «Анзельм, няўжо ніхто з вас не разумев, хто, хто такі Бетховен? Узяць хоць бы адзін дысананс з «Гераічнай», гэты просты гук сігнальнага ражка!  І гэты дысананс божышча - як ён назваў гэта - пэратварыла ў яркую, пераможную гармонію, у нешта светлае, але калі б яно не зрабіла гэтага? Тады б ён стаў тытанам, каб. . . »

Успыхнула сярніста-яркая маланка, за ёю адразу ж грымнуў адрывісты, як бы дзесьці ляснулі па жалезе, гром, і Гютэнбрэнеру падумалася: «Вось гэта і ёсць дысананс з «Гераічнай», толькі за ім цяпер не будзе яркага святла аблягчэння. . . - Ён правёў рукою па лбе, быццам хацеў прагнаць прывід. - Ты маеш рацыю! Ён сапраўды хоча выступіць проці навальніцы, гэтага вешчуна, і дабіцца гармоніі!»

Бетховен расплюшчыў вочы. Сціснуў у кулакі рукі і прыўзняўся на ложку. На яго твары адлюстроўвалася - як тут сказаць? - змрочная рашучасць, якая не збіралася прытрымлівацца ніякіх межаў. Потым кулак упаў на ложак, і павекі задрыжалі, асталіся напаўрасплюшчана. . .

Вецер моцна шугануў па вокнах, завыў у карнізах. Імкліва насунулася навальнічная хмарка, расплылася і тут жа з’явілася зноў.  І была яна падобна на бязлітасна велічны твар, які ўвесь час то адкрывалі, то закрывалі нейкія вуалі. . . Праўда, стала ж святлей! Гарызонт аздобіўся чырванаватым суцэшлівым сонечным святлом, зусім так, быццам усё - тварэнне гэтае рукі, сціснутай у кулак. Адны. . . напаўрасплюшчаныя павекі?. .

- Гер ван Бетховен!. .

Вокны былі шырока расчынены, і гарэзлівы веснавы вецер ляпаў зашчапкамі ў прабоях. Доктар Вагнер дыктаваў свайму памочніку, студэнту-медыку:

- Печань паменшала напалову. - Ён пакруціў яе ў руцэ. - Яна цвёрдая, як скура, зеленавата-сіняга колеру. Уся яе бугрыстая паверхня і нутро ўсыпаны вузельчыкамі памерамі са струк. Сасуды вузкія, патоўшчаныя і абяскроўленыя. - Ён павярнуўся да Ваўруха. - Ваш дыягназ, гер прафесар, быў, як бачыце, правільны. Што вас яшчэ цікавіць?

- Калега Мальфаці папрасіў, каб вы вынялі органы слыху, еўстахіеву трубу. Ён жа раней лячыў яго і ад хваробы вушэй.

Пазней прыйшоў малады мастак Дангаўзер, якому гофрат фон Бройнінг даручыў зняць пасмяротную маску сябра. А ў сябе дома Франц Грыльпарцэр, чыноўнік архіва і паэт, пісаў надмагільную прамову, якую павінен быў прачытаць артыст Аншуц каля ўваходу на могілкі, бо на саміх могілках трывожыць прамовамі спакой нябожчыкаў было нельга.

Настаў вечар, мігцела святло. Грыльпарцэр склаў разам вялікі і ўказальны пальцы, як бы хочучы далікатна і дакладна падабраць і асэнсаваць словы. Рот яго скрывіўся: і каля магілы нельга нават сказаць слова! Дазваляецца толькі ціхая ўсхваляванасць! Цяпер гэтыя крывадушнікі сведчаць павагу і звышласкавую паслужлівасць, а ў жыцці?. . А ў нашым жыцці?. . Гэтыя запляснелыя крывадушнікі!!

А яму, Грыльпарцэру, ужо трыццаць шэсць гадоў, і ён адну за другою, як у прорву, кідае свае драмы.

Чаму ў прорву? Якія ж яны крывадушнікі! З яго першага твора «Прамаці» кпілі, яго

передражнівалі, парадзіравалі, і ўсё ж і гэты твор можна было лічыць вялікім поспехам. Потым ён напісаў «Сафо», і яго слава каметаю ўзышла на еўрапейскім небасхіле. Восем гадоў таму назад ён выправіўся ў гэтае злашчаснае падарожжа ў Італію. Злашчаснае падарожжа ў Італію? Якія крывадушныя светары! Ваўкі ў авечай шкуры! Маленькі, зачараваны, проста такі задушаны вялікасцю гэтага будаўнічага сведкі антычнасці, стаяў ён у Рыме перад C Ircus max Imus, Калізеем, над якім узвышаўся велічэзны крыж, і гэты крыж, танны, надта запознены трыумф над часамі язычніцтва, пакрыўдзіў яго мастацкае сумленне. І так узнік верш «Руіны Кампа Вачына», у якім ён заклікаў хрысціянства прыбраць крыж і ўшанаваць гэтым адначасна антычнасць і «святы знак», якому і без таго падпарадкаваны свет. Толькі і ўсяго. Нават цэнзура не выказала ніякіх сумненняў, але тым не менш гэтага было дастаткова. Яго пачалі цкаваць з-за «варожых хрысціянству поглядаў», цкаваць бязлітасна, бо хрысціянства не ведае ніякае літасці!

Значыцца, за Бетховенам стаяць цяпер італьянцы, і нават яшчэ Барбайя! Той успудзіў венцаў з іх схованак. Яны збегліся, беглі так, што аж ляцелі іскры, і ён, Франц Грыльпарцэр, чалавек з «дзёрзкімі паводзінамі», са «скрыўленаю» будоваю розуму, сапсаванаю душою і «варожымі хрысціянству поглядамі», ён, пастаўлены па-за законам нямецкі пісьменнік, возьме ўдзел у гэтым паляванні. Ён убачыў, як цень на сцяне нанёс удар кулаком па запляснелых шпалерах. Сеўшы за стол, ён напісаў:

«Стоячы тут каля магілы нябожчыка, мы як бы паказваем сабою ўсю нацыю. . . »

Слова, як выклік, але мяняць ён нічога не будзе! Хто тут ёсць з яго сяброў? Шуберт, Гаслінгер, Штрэйхер, ён сам і яшчэ чатыры-пяць чалавек. І задача ў іх цяпер - паказваць сабою перад нябожчыкам усю нацыю!

«. . . увесь нямецкі народ, які смуткуе аб смерці такой шаноўнай усімі. . . »

Яны забылі толькі, як калісьці ўшаноўвалі яго!

«. . . шаноўнай усімі паловы таго, што асталося нам ад зніклага бляску айчыннага мастацтва, свету ідэй бацькаўшчыны. І хоць жыве яшчэ - і няхай жыве ён доўга! - герой песень, які гаворыць на нямецкай мове. . . »

Грыльпарцэр усміхнуўся. Яны будуць штурхаць адзін аднаго і пытацца: каго ён мае на ўвазе? Няхай жа ён, у каго было гэтак мала радасці, хоць раз парадуецца!

«. . . але апошні майстар музычнай песні, яркі выразнік музычнага мастацтва, наступнік і прадаўжальнік неўміручае славы Гендэля і Баха, Гайдна і Моцарта. . . »

Я ўсё вам кіну ў ваша запляснелае сытае сумленне!

«. . . больш не з намі, і мы стаім і плачам каля парваных струн адгучаўшае музыкі.

Адгучаўшае музыкі! Дазвольце мне назваць яго гэтак! Бо ён быў мастак, і чаго ён дамогся, дык толькі дзякуючы мастацтву. Жыццёвыя калючкі глыбока паранілі яго, і як той, што пацярпеў караблекрушэнне на моры, імкнецца да берага, гэтак і ён уцякаў у твае абдымкі, о ты цудоўная сястра добрага і сапраўднага, суцяшальніца ў горы, - ты, мастацтва, якое ідзе зверху. Ён цвёрда трымаўся за цябе, і нават калі ўваход, праз які ты ўвайшла да яго і гаварыла з ім, быў зачынены, калі ён з-за сваіх глухіх вушэй перастаў бачыць тыя ці іншыя дэталі, ён усё яшчэ ў сэрцы насіў твой вобраз, які і пасля смерці аставаўся ў яго душы. Ён быў мастак, і хто зойме цяпер яго месца?

Як бегемот перасякае моры. . . »

А вы наогул ведаеце, што такое бегемот? Столькі ж мала, як і хто такі Бетховен, гэты бегемот, вялізны і магутны, як той міфічны звер апакаліпсіса!

«Як бегемот перасякае моры, так і ён сігнуў праз межы свайго мастацтва. Ад буркавання галубоў да перакатаў грому, ад мудрагелістага перапляцення наравістых мастацкіх сродкаў да таго жыватворчага пункта, дзе фантазія пераходзіць у бязладнае свавольства ваяўнічых стыхій, усё перамераў ён, усё зразумеў. Той, хто прыйдзе пасля яго, не будзе доўжыць яго працу, яму прыйдзецца пачынаць нанава, бо яго папярэднік проста перастаў існаваць там, дзе перастае існаваць мастацтва.

Адэлаіда і Леанора! Свята герояў Віторыі і песня-пакора прычасця! Трох- і чатырохгалосыя вы дзеці. . . »

Што значнага напісаў яшчэ Бетховен? Ну пэўна ж, і «праславутую» сімфонію - тым не менш і менавіта пагэтаму значную!

«. . . буйная сімфонія: «Радасць, полымя нябёсаў», лебядзіная песня! Муза песні і ігры на струнных інструментах: станьце каля яго магілы і абсыпце яе лаўрамі!

Ён быў мастак, але разам з тым і чалавек, чалавек у вышэйшым сэнсе слова».

Ён усё пісаў і пісаў.

Калі потым ён паказаў накід прамовы Аншуцу, той папытаўся:

- Франц, ці не надта гучныя словы?

Грыльпарцэр кіўнуў:

- Праўда, Генрых, але я пісьменнік. Гаварыць жа прамову будзеш ты!

Бетховен? Бетховен?. . Ну як жа, як жа не помніць яго, нават калі і не маеш дачынення да музыкі. Ім мог быць толькі гэты стары дзівак, што бегаў па вуліцах. І вось цяпер каля яго труны збіраюцца спяваць італьянцы. Сярод іх нават праслаўлены малады спявак Людавіка Крамаліні, якога такім чынам можна паслухаць бясплатна? І італьянскія спевакі прыдворнай оперы панясуць труну на сваіх плячах, па загаду ўсемагутнага сеньёра Барбані, што па горадзе ездзіць толькі чацверыком! У газетах напісана, калі гэта мае быць: 29 сакавіка, у другой палове дня, у тры гадзіны, перш у доме чорных іспанцаў, дзе 26 сакавіка, таксама ў другой палове дня, ён памёр. Ало гэта меней цікава, трэба толькі прыйсці своечасова, каб забяспечыць сабе добрае месца.

Калі пад напорам натоўпу затрашчалі ўваходныя дзверы, Бройнінг крыкнуў Шындлеру:

- Я пабягу ў казарму Альзер па салдат!

Труна папраўдзе стаяла на дварэ дома чорных іспанцаў на катафалку. Людзі выцягвалі шыі.

- Ён што, быў у народным апалчэнні? На саване ж фарбы другога гарадскога палка.

- А гэта што? Карона?

- Карона горада. Кажуць, ён быў ганаровым грамадзянінам Вены. Праўда. За яго дабрачынныя акадэміі. Цяпер вось панеслі яго ордэны.

- Гэта толькі ўпрыгожаны вянком крыж і на ім біблія. Але глядзіце!. . Глядзіце!. . Гэта ж Крамаліні!

- Які прыгожы малады чалавек! Які голас! Я слухаў яго ў «Севільскім цырульніку». Дзіва, скажу вам. Глядзіце, цяпер ён падыходзіць бліжэй!

З паўкруга таварышаў наперад ступіў Крамаліні. Ён, здавалася, быў іхнім прадстаўніком каля нябожчыка. На яго твары адлюстроўвалася ўрачыстая сур’ёзнасць, якая, аднак, змякчалася нейкаю нясмелаю ўсмешкаю. Ён напружыўся, загаварыў па-нямецку. Італьянскі акцэнт выклікаў нейкае замілаванне:

- Мы тут, маэстра Людавіка ван Бетховен!

Ён схіліўся перад труною і адразу ж лёгкім кронам вярнуўся ў паўкруг таварышаў.

Спевакі двух італьянскіх квартэтаў пачалі спяваць, і нехта, зняўшы акуляры, каб выцерці з блізарукіх вачэй слёзы радасці, шапнуў:

- Чуеце, гер гофрат? Яны спяваюць па-нямецку, на яго ўшанаванне! Гэта ж песня «Хутка прыходзіць смерць чалавека» з «Вільгельма Тэля»!

- Ваша песня, гер Шуберт?

- Не, гера Бернгарда Вебера, выдатнага кампазітара-песенніка і каралеўскага капельмайстра.

Потым загучала «М Iserere», і італьянскія спевакі наблізіліся да труны. Падставіўшы пад яе плечы, яны чакалі каманды, якую даў Крамаліні:

- З богам! - Труну паднялі. - Avant I!

- Гер гофрат - італьянцы папраўдзе панеслі яго!

- Бачу, гэта адначасна і сумна і цудоўна! Але зараз, гер Шуберт, вы павінны запаліць сваю паходню. Хадзем! Трэба глядзець, каб цікаўны натоўп не аднёс нас убок!

Барбайя быў бязлітасны. Толькі цяпер, калі труна стаяла на катафалку, венскія капельмайстры і музыканты атрымалі дазвол дакрануцца да кончыка савана, толькі патрымацца за яго - а наводдаль з запаленымі паходнямі кругам выстраіліся сябры нябожчыка: Шупанцыг, Гаслінгер, Чэрны, Шуберт і. . .

- Генрых, ты ўсё яшчэ сумняваешся, гаварыць маю прамову ці не?

Аншуц доўга глядзеў на Грыльпарцэра.

- Не, Франц.

Грыльпарцэр махнуў паходняю.

- Наперад, Шуберт! Які цяпер наш дэвіз? Мы былі б рады, каб і пасля нашае смерці

гучала гэтае «Avant I».

Духавая музыка зайграла жалобны марш з Бетховенавай фартэпіяннай санаты ля-бемоль мажор, і чацвёра коней катафалка пад напорам людзей сталі дубка. Бройнінг закрычаў:

- Салдаты!

Але кардоны прарвалі. . .

Ацэншчык Антон Грэфер, дабрадушны чалавек з адвіслымі шчокамі, спрабаваў супакоіць Бройнінга.

- Гер гофрат, вы несправядлівы да мяне. Я ж там быў не адзін такі ацэншчык; а дзеля працэнтаў, што дастаюцца нам на аўкцыёне, мы б з ахвотаю паднялі ацэначны кошт рэчаў. Але прадаць іх за такую цану няма ніякай надзеі. Рэчы - скажам гэтак - са спадчыны гэтага стваральніка музыкі сведчаць, што іх уладальнік жыў небагата. Рэчы большаю часткаю не першай маладосці. Вас з імі звязваюць успаміны, а пакупнікоў што?

Бройнінг далоняю стукнуў па адным з ацэначных спісаў, копіі якіх ляжалі ўсюды, каб з імі маглі знаёміцца зацікаўленыя асобы.

- Я гэта лічу подласцю!

У яго самога было такое пачуццё, што ягоныя папрокі і абвінавачванні беспрычынныя, ды яшчэ і нелагічныя, выкліканы толькі змрочнаю, безвыходнаю, роспачнаю злосцю. Гэтая распрадажа з вывескаю на дзвярах дома чорных іспанцаў, з гэтымі людзьмі, што бесцырымонна хадзілі па кватэры, абменьваліся кплівымі заўвагамі і абмацвалі ўсё, здавалася яму яшчэ больш пакутліваю, чым сама смерць сябра.

- Подласцю, гер гофрат?

- Ну добра, наконт мэблі і бялізны я яшчэ магу пагадзіцца, але наконт музычных інструментаў. . .

- Гэта яшчэ па ацэнцы славутых спецыялістаў. Калі ласка, паглядзіце толькі на гэты раяль. . . - Грэфер зірнуў у спіс, - Бродвуда з Лондана, зроблены з чырвонага дрэва. Ён ацэнены ў сто гульдэнаў, а тут, папраўдзе, калі што каштуе, то толькі чырвонае дрэва. Струны парваныя, дый трэба абнаўляць фільцы і многія малаточкі.

- А струнныя інструменты? - Успамін пра «славутых спецыялістаў» нагадаў Бройнінгу яшчэ штосьці: - І вы завяце «славутымі спецыялістамі» тых, хто рабіў ацэнку? Я, як гофкрыгсрат, не спецыяліст па струнных інструментах, але што значыць вось гэтае глупства? Пытаецеся што? «Віяланчэль патэра Цварнеры - сорак гульдэнаў». Патэр Цварнеры! Чалавека звалі Гварнеры, і ён наогул не патэр. Далей: «Віёла Вінцэнца Рэшнера - дзесяць гульдэнаў». Спецыялісты, якія нават не ведаюць імя Руджэры? «Скрыпка Ёзефа Цварнеры - шаснаццаць гульдэнаў», і нарэшце «Скрыпка Нікалаўса Амаці» - прынамсі, хоць прозвішча напісана правільна - «дванаццаць гульдэнаў». Усяго, значыцца, семдзесят восем гульдэнаў і нават яшчэ меней, чым - вунь тая «скрыня з чырвонага дрэва без струн і фільцаў», а гэта ж каштоўнейшы квартэт, які аднойчы падараваў яму князь Ліхноўскі.

- Яго светласць добрай памяці князь Ліхноўскі? Бройнінг горка засмяяўся. Не мела сэнсу спрабаваць штосьці растлумачыць. Рыцарскія высакародныя паводзіны італьянцаў на кароткі час вырвалі сябра з забыцця і зрабілі, прынамсі, яго пахаванне з’яваю, якая звярнула на сябе ўвагу. Але не паспелі звянуць кветкі вянкоў, як Людвіг і яго жыццё зноў былі забыты. Грэфер паціснуў плячыма.

- Інструменты тады, мабыць, вельмі ўжо заніжаны ў цане. Нябожчык жа на адваротным баку кожнага інструмента нейкім вострым прадметам надрапаў на лаку вялікую літару «Б», а на двух нават наляпіў сваю пячатку.

Бройнінгаў твар адлюстроўваў пустату і няўцешнасць. Мы гаворым, не разумеючы адзін аднаго, падумалася яму. Пераліваем з пустога ў парожняе, кожны ў сваю пасудзіну, і чуваць толькі, як падае вада. Ці ж можа гэты ацэншчык зразумець што-небудзь пра майго сябра Людвіга? Ці ж я сам поўнасцю зразумеў яго? Не, у ім і сёння яшчэ астаецца нешта таямнічае. . .

- Гер гофрат, мне зараз трэба пачынаць аўкцыён. І Грэфер пачаў:

- Сёння на гэтым аўкцыёне будуць прадавацца толькі адзенне і бялізна, ды яшчэ мэбля з трох пакояў і кухні. Пачнём з кухні, якую, бадай, лепей прапанаваць цалкам. - Ён стаў чытаць з ацэначнага спіса: - Чатырнаццаць штук фарфоравых талерак. . .

Нейкая жанчына сярдзіта перабіла:

- Але частка з іх шчарбатыя.

Аўкцыяніст няўхвальна паматаў галавою, аднак яго вочы весела падміргвалі.

- Калі мы дасягнём такога ўзросту, як гэтыя талеркі, то і мы будзем шчарбатыя. - Пачуўся смех. Такімі хітрыкамі карысталіся, калі трэба было дасціпным словам зацікавіць людзей. Аднак перапрашальны позірк на Бройнінга гаварыў: «Я вымушаны карыстацца такімі хітрыкамі, гер гофрат». - Далей прадаюцца: сёе-тое з фаянсавага посуду, бляшаны кубак, некалькі шклянак і пляшак. Чатыры латунныя падсвечнікі, латунная ступка, медны чыгунок пад бялізну, розны жалезны посуд. . . - А ацэначны кошт усяго гэтага цуду - дзесяць гульдэнаў.

Нейкі мужчына буркнуў:

- А калёсы, на якіх прыйдзецца везці гэтае барахло? Яны таксама абыдуцца яшчэ ў пяць гульдэнаў. Таму я даю пяць гульдэнаў.

- Вы маеце ласку жартаваць, пане! Прынамсі, можа, дадасце хоць яшчэ адзін гульдэн? Нашаю добраю звычайнаю манетаю, якая і без таго нічога не варта?

- Пяць гульдэнаў!

- Гер, у вас каменнае сэрца, але я яго зраблю мякчэйшым, прымусіўшы вас пачырванець ад сораму. Значыцца, пяць гульдэнаў першы раз, пяць гульдэнаў другі раз і - пяць гульдэнаў трэці раз!

Стукнуў малаток аўкцыяніста.

- Пане, можаце карыстацца дабром. Гэтая кунсткамера да вашых паслуг, а мы зараз пяройдзем да пакояў. І адразу знойдзем нешта паводле ацэначнага спіса, бо спіса нам трэба пільнавацца. «Два люстэркі, два аконныя тэнты, два куфэркі». Хто колькі дасць?

- Паводле кошту, два гульдэны.

- Прабачце, але на люстэрках пазалочаныя рамкі.

- Пакуль што не. Спачатку мне іх за крэйцэр прыйдзецца пафарбаваць бронзаю.

Прыйшла фраў Канстанцыя. Шапнула:

- Хадзем дадому, Стэфан. Навошта ты тут мучышся?

Апошні раз стукнуў малаток аўкцыяніста.

- А тое, што на чарзе цяпер, пані і Панове, мае, бадай, гістарычную каштоўнасць. Што там напісана ў ацэначным спісе? «Скураное крэсла, старая канапа, падарожны чамадан, два аконныя тэнты - чатыры гульдэны».

- Канстанцыя - гэта ж канапа, на якой ён двойчы ляжаў, прыгнечаны горам. Першы раз пасля выканання «Фідэліо», калі, дырыжыруючы, ён не чуў болей нічога, а другі раз, калі атрымаў касавы збор за Дзевятую сімфонію з песняю «Да радасці». Ён тады страціў прытомнасць і ўпаў як падкошаны.

Адзін з пакупнікоў ускрыкнуў:

- Я згодзен даць ацэначны кошт. Чатыры гульдэны. Герхарт пацягнуў маці за кончык адзежы.

- Мама, ты не пазычыш мне пяць гульдэнаў? Прашу цябе, міленькая, лепшая мамачка, пяць гульдэнаў!

Калі маці кіўнула галавою, высокі сярдзіты хлапечы голас з выклікам абвясціў:

- Даю пяць гульдэнаў! Нехта сказаў:

- Шэсць гульдэнаў! Шкадую, малады чалавек, але я люблю жывёл і дадам да справы яшчэ адзін гульдэн за моль, якая ёсць у канапе.

Бройнінг схапіўся за грудзі і захістаўся.

Яны асцярожна павялі яго цераз плошчу ў кватэру, дзе ён, цяжка дыхаючы, сеў на канапу.

- Лажыся, Стэфан, я прынясу табе кроплі. Ён моцна ўчапіўся за жончыну руку.

- Не, аставайся тут, мілая, - яны мне болей не патрэбны. Але ты мела рацыю, я пераацаніў свае сілы, і калі потым канапа. . .

Герхартаў жэст выказваў самую глыбокую пагарду.

- Тата, дзядзечка Людвіг толькі пасмяяўся б з гэтага. Маці падала дзецям знак. Яны яго зразумелі і пайшлі з пакоя. Далейшая размова на гэтую цяжкую для бацькі тэму мела ў сабе небяспеку. Стэфана фон Бройнінга ахапіла пачуццё нейкае безвыходнае пустэчы. Ён прамармытаў:

Гэтак сонцы несупынна
Кружацца высока,

Смела, браце, крочце ўперад,
Як герой на поле бітвы.

У сваёй нецярплівасці Людвіг замяніў «крочце» на «бяжыце», бо яго гарачае сэрца само ляцела, як сонца. Ён паўтарыў:

- Кружацца высока. . . - устаў з месца і падышоў да акна, знайшоў сярод яркіх зялёных дрэваў гласіса вяршыні дрэў Верынгскіх могілак. Пацёр лоб. - Можа, маленькі непрыкметны музыкант Франц Шуберт зразумеў значэнне Бетховена, а гер Грыльпарцэр гэта выказаў? Але як можна выказаць гэта ў надмагільнай прамове? «Неўміручы» - ці ж хопіць гэтага слова? Адзін з Людвігавых паклоннікаў аднойчы назваў яго нават «каралём музыкі». Усяго толькі каралём сярод каралёў? Не - ён болей, болей! А як яны яго праследавалі і мучылі! Вядома, ён быў бунтар, але ён заўсёды бунтаваў толькі дзеля дабра, якое памагала людзям, дзеля радасці, якую ён хацеў прынесці людзям, бо яна павінна быць даступна ўсім! Яго праціўнікі? Яго зброяю была музыка - якая ішла з гора - аб міры, аб радасці. Толькі цяпер да мяне даходзіць, кім ён быў і кім ён будзе.

Да яго падышла фраў Канстанцыя.

- Стэфан!

Ён абняў яе і зноў паглядзеў на тыя дрэвы, якія і над магілаю Бетховена сваёю зялёнаю свежасцю сведчылі, што ішла вясна. Потым ён сказаў, хоць гэта і было лішняе, бо закон аб зіме і вясне з яго жалезнаю логікаю ўключаў у сябе і гэтыя словы аб вясне чалавецтва і перамозе міру над вайною:

- Ён, як кампазітар, будзе гаспадаром свету, і ніхто, ніхто не зможа затрымаць трыумфу чалавечнасці, за які ён змагаўся. . .